бібліятэка Свабоды
XXI стагодзьдзе

Альгерд
Бахарэвіч



# каляндар бахарэвіча

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 31 | 30 | 29 | 28 | | | |
| 27 | 26 | 25 | 24 | 23 | 22 | 21 |
| 20 | 19 | 18 | 17 | 16 | 15 | 14 |
| 13 | 12 | 11 | 10 | 9 | 8 | 7 |
| 6 | 5 | 4 | 3 | 2 | 1 | 0 |

радыё свабода

**Альгерд Бахарэвіч. Каляндар Бахарэвіча.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2014. 464 с.: іл.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*

Рэдактар *Сяргей Шупа*
Мастак *Генадзь Мацур*
Ілюстрацыі *DeLez*

«Каляндар Бахарэвіча» — 366 эсэ пра падзеі, асобы і факты гісторыі, якія варта ведаць, каб адчуць сябе часткай чалавецтва. Рэкамэндуецца для любога ўзросту, пажыцьцёвых зьняволеньняў і палётаў на Марс.


FOL

ISBN 978-0-929849-64-5

# Беражыце пальцы

Пасьля сканчэньня часу на зямлі душы чытачоў, як вядома, трапляюць на экзамэн па беларускай літаратуры ў чысьцец. Прагульваў урокі белліту — глыні кіпучай смалы, пісала ў Фэйсбуку на роднай мове — калі ласка, амброзія-марозія. Але нацыя хранічных троечнікаў думае праскочыць на шармака. Ну-ну.

Канечне, ня зьверы там працуюць, і надзея ёсьць. Вы нават трымаеце яе ў руках.

*Calendarium* па-лацінску азначае даўгавую кнігу — трэба ўносіць працэнты за пазыку.

Альгерд Бахарэвіч уносіць працэнты за ўсіх, каму вырываюць зуб з анэстэзіяй, бо піша пра яе вынаходніка (хто забыўся — Горас Уэлс, чый партрэт мусіць вісець ва ўсіх стаматалягічных кабінэтах сьвету). Хоць ніхто з сотні расстраляных ня вернецца з праклятай менскай ночы на 30 кастрычніка 1937-га, ад яго нэкралёгу па Савецкім Саюзе адтае вечная мерзлата ГУЛАГу; ён згадвае фантаста Айзэка Азімава не за тое, што зямляк і аўтар бэстсэлераў, а за тое, што той ведаў дзе кнопка, якая ўключае ў чалавеку чалавека.

Матэрыял, зь якога зроблены гэты каляндар, называецца вечная памяць. Нарэзаную на 366 порцый, яе падаюць з адмыслова прыгатаванымі ілюстрацыямі. Таямнічая DeLez, чый бязьлітасны пэндзаль працуе на адваротным баку дабра і часу,ператварае нават непісьменных грэшнікаў у экзарцыстаў, і так яны ўваходзяць у выратавальнае кола, вузкае, як зьмяя, і мудрае, як яе бойфрэнд.

Юльянскі калэндар стварыў Гай Юлі Цэзар, грыгарыянскі — Папа рымскі Грыгор 13, ісламскі — прарок Мухамад, старажытнагрэцкі — Салон. Нават па гамбургскім рахунку аўтар у неблагой кампаніі. Кітайскі каляндар вынайшлі, напэўна, кітайцы, але каму канкрэтна належыць копірайт, маўчаць ня толькі мэдычныя энцыкляпэдыі, якія любіць пісаць Бахарэвіч. Будзем лічыць, што народ.

Гэты каляндар — таксама народны, у тым сэнсе, што яго можна вешаць, як люстраны шар у дыскатэках і рэстаранах — там гуляе з агнём Нэрон, апрануты як зорка беларускай эстрады, там адкрываецца першая грамадзкая прыбіральня ў Эўропе (хоць у Лёндане, але гэта пра Менск — «У горадзе, які прэтэндуе на тое, каб звацца адной з эўрапейскіх сталіцаў, мусіць быць мала паліцэйскіх і шмат грамадзкіх прыбіральняў»), там імпэратар адмаўляецца ад статусу бога, і ня важна, што ён японскі — важна, што адмаўляецца.

Багі, зь веданьнем справы паведамляе аўтар, любяць гуляць у словы. Калі гэты люстраны шар бразнуць аб падлогу, ён выбухне і разьляціцца на 172 366 цацак (столькі ў ім словаў) — гуляйцеся, толькі беражыце пальцы. Яны патрэбныя, каб трымаць і гартаць каляндар і, магчыма, стварыць сваю асабістую даўгавую кнігу — кожны мае права на вечнасьць.

І калі на апошнім экзамэне на чалавечнасьць анёлы спытаюць, а ці ведаеце вы?.. — вы будзеце ведаць.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

# Твая Фудзіяма

*1 студзеня 1946 Хірохіта адракаецца ад свайго боскага статусу*

Цяжка быць богам, з гэтым не паспрачаешся — але перастаць быць богам, мусіць, яшчэ цяжэй. Звольніцца, так бы мовіць, на ўласнае жаданьне. 1 студзеня 1946 году Хірохіта, імпэратар Сёва, генэралісімус японскіх войскаў і нашчадак багіні сонца Аматэрасу, афіцыйна адрокся свайго боскага статусу і зрабіўся звычайным чалавекам, нічым не адрозным ад якога-небудзь дробнага эўрапейскага манарха нядаўніх часоў, кшталту заганнага Зогу ці тулягі Томіслава II. Адбылося гэтае ганебнае адрачэньне пад ціскам амэрыканскіх акупацыйных уладаў, якім нязручна было мець справу з богам, хай сабе нізенькім і ў акулярах — ці мала якія штукі ён мог бы выкінуць, не ў пару прыгадаўшы сваё паходжаньне.

Цяжка сказаць, ці верыў сам імпэратар у боскую прыроду сваёй улады. Ён усё ж быў чалавек адукаваны, з пачаткам свайго кіраваньня абвясьціў курс на асьвету, каб сонца зазірнула нарэшце і ў японскае аконца; ён наведваў Эўропу, да таго ж захапляўся ў вольны час марской біялёгіяй — і ўсе гэтыя мілыя пярэстыя стварэньні, якія нястомна жаруць адно аднаго ў акіянскіх глыбінях, не маглі ня выклікаць у ім думкі пра тое, што можа ён насамрэч і ня бог, а проста такі сабе грамадзянін Хірохіта. Сытуацыя склалася даволі дзіўная: згодна з рэлігіяй, усе японцы так ці іначай паходзяць ад багоў, а іхны імпэратар цяпер дык нібыта і не… Інцярэ-э-эсна палучаецца, як любяць казаць начальнікі беларускіх РУУС.



І тут на дапамогу манарху прыйшла вялікая і магутная родная мова, спасьцігнуць лёгіку якой да канца ня здольныя ні эўрапейцы, ні амэрыканцы, ні япаніст Рыгор Чхарцішвілі. Хітрун Хірохіта ўмудрыўся так скласьці рэскрыпт аб сваім адрачэньні, што акупацыйныя ўлады, звыклыя да кульгавых і простых, як двойчы два, літарак, чорным па белым, успрынялі ягоную заяву як афіцыйны дакумэнт. У вачах жа сваіх падданых імпэратар напісаў хутчэй верш — прыгожы і складаны твор, які можна інтэрпрэтаваць па-усялякаму і знаходзіць у гэтым адмысловую асалоду, але ў якім няма ніякіх прамых указаньняў на тое, што, маўляў, ня бог я вам болей і адстаньце ад мяне са сваімі бабулінымі казкамі народаў Усходу.

Дарэчы, пра бабуліны казкі. Каб перастаць быць богам, неабавязкова мець тытул японскага імпэратара. У тым узросьце, калі кожны з нас сам сабе дыктатар, калі мы авалодваем мовай настолькі, што яна робіцца сваёй, нашае першае адрачэньне ўжо лунае на даляглядзе. Да пары ты жывеш у шчасьлівым няведаньні — самы прыгожы, самы разумны, самы каштоўны, такі сабе тоўсты і пекны, як толькі што выпечаны піражок, маміна радасьць, маміна шчасьце, татавы надзея і гордасьць. Усе табе кланяюцца, усе на цябе моляцца, ты — сэнс усяго і галоўная першапрычына, увесь сьвет твой: і гэтая машынка, і гэтая лялька, і нават вунь той мядзьведзь, і вунь тая Фудзіяма ў акне. А потым бац: побач зьяўляецца нехта, які так непрыемна крычыць пра тое, што пара ўжо табе адракацца, як яго там клічуць? Ага, вось як: маміна радасьць, маміна шчасьце, татавы надзея і гордасьць. І цалкам можа высьветліцца, што ты, самы прыгожы, самы разумны, самы каштоўны, тоўсты і пекны, як піражок, насамрэч — нікому не патрэбны вырадак, прызначэньне якога цьмянае, будучыня сумнеўная, думкі нікому не цікавыя, а за жыцьцё якога ніхто ня дасьць ламанага шэлега. Карацей, такі, як усе.

І ўсё, што ў цябе застанецца — гэта твая мова. Ты ж і так ведаеш, што ты бог. А яны там хай сабе думаюць, што хочуць.

# Тры законы беларускай робатэхнікі

*2 студзеня 1920 у Гомельскай губэрні нарадзіўся Айзэк Азімаў*

Беларусаў заўсёды цягнула да космасу. Мо таму, што іхная краіна ня мае гэткіх гор, ускараскаўшыся на якія, да космасу можна дакрануцца і нават баязьліва пагладзіць ягоную чорную поўсьць; а можа, таму, што кожны з нас насамрэч іншаплянэтнік, пасланы сюды з мэтай нешта давесьці — толькі вось што менавіта, мы неяк забыліся. Бывае. Абрыдлая і нясьмешная клясычная показка пра цьвік пад беларускай дупай толькі пацьвярджае нашае падазронае адрозьненьне ад большасьці зямлянаў, у тым ліку фізіялягічнае. Ужо Скарына на знакамітай гравюры выглядае, як капітан зоркалёту пасьля астэроіднай атакі; касьмічная далеч усё жыцьцё хвалявала Язэпа Драздовіча; а вось беларусаў Клімука і Кавалёнка да космасу цягнула-цягнула і ўрэшце ўцягнула. Беларусамі былі Дарт Вэйдэр і Аліса Селязьнёва.



Нават Хрыстос у беларускай літаратуры не прыходзіць і не прыяжджае, а менавіта прызямляецца, як нейкі прышэлец з Альдэбарану. На адной з самых прыгожых карцін Шагала каханьне паказанае як перамога над гравітацыяй. А беларус Барыс Кіт зрабіўся сусьветна вядомым спэцыялістам па ракетным паліве і наогул у касманаўтыцы. Нават самое слова «космас» мы прысабечылі, зладзіўшы яго айчынную вэрсію: ні ў воднай мове гэтае слова ня пішуць праз «а» ў другім складзе. А мы вось пішам, усім на злосьць — і нічога, камэты пакуль абмінаюць і аддаваць трантарыянам наш трактарны ніхто не зьбіраецца.

Калі ўжо тут згаданы Шагал, героі якога шчасьліва лунаюць недзе пад самай стратасфэрай і якім шмат хто ганарыцца як беларускім жывапісцам (і якога зусім нядаўна некаторыя заслужаныя беларускія мастакі і акадэмікі не саромеючыся цкавалі «паводле нацыянальнай прыкметы»), то вось нам яшчэ адна нагода для нацыянальна-касьмічнай гордасьці. Акурат 2 студзеня дзевяноста тры гады таму нарадзіўся, бадай, самы знакаміты ў сьвеце беларускі пісьменьнік — калі браць у разьлік толькі краіну паходжаньня. Як кажуць энцыкляпэдыі, Айзэк Азімаў зьявіўся на сьвет у Пятровічах Клімавіцкага павету Гомельскай губэрні БССР. І што з таго, што празь некалькі гадоў малая радзіма Азімава, заблудзіўшыся ў адміністрацыйна-тэрытарыяльных падзелах, нечакана апынулася ў Смаленскай вобласьці РСФСР — усё адно гэта этнічныя беларускія землі, і калі-небудзь мы дацягнемся да іх сваімі белымі крыламі. Карацей, забраны край, які дагэтуль марыць пра вызваленьне, спажываючы нашыя кісламалочныя вырабы.

Калі Іцык Азімаў і чуў у маленстве беларускую мову, дык наўрад ці яе запомніў, бо маленства гэта было зусім маленькае, а да таго ж мама і тата гаварылі на ідыш, адной з чатырох дзяржаўных моваў БССР. Яны чыталі сыну перад сном Шолам-Алэйхема — і ў канцы стагодзьдзя Азімаў памрэ ў тым самым горадзе, што й першы пісьменьнік у ягоным жыцьці. У

Нью-Ёрку. Так, ні другога Ізі Харыка, ні яшчэ аднаго Мойшэ Кульбака з Ісаака ня выйшла — калі Азімаву было тры гады, сям'я эмігравала ў Амэрыку, далёкую і прыцягальную, як космас (праўда, космас усё ж крышку бліжэйшы).

Дагэтуль — варта прыгадаць «Аголенае сонца», як у роце зьяўляецца смак кукурузных палачак з майго дзяцінства, а вочы мружацца ад таго таршэра, пад якім Азімаў чытаўся адзіна магчымым спосабам: не адкладваць кнігу, пакуль не давядаешся, што ў канцы. Фантастыку я, праўда, даўно ўжо не бяру ў рукі — чытаю іншага Азімава, ягоную «Падарожную кнігу па Бібліі», напрыклад. Ён любіў пісаць падарожныя кнігі... («Айзэк цяпер на нябёсах», — сказаў пасьля сьмерці Азімава Курт Вонэгут і доўга лічыў гэта сваім любімым жартам.)

Беларусам, нягледзячы на іхную цягу да космасу, рэдка ўдаецца выдаць які-небудзь такі закон, якім бы кіраваўся ўвесь сьвет. Мы больш спэцыялізуемся на выкананьні, на пакоры, на паслухмянасьці... Азімаў вывеў ажно тры законы, якія прызнаныя ўсімі без выключэньня. Падамо іх тут яшчэ раз, на ўсялякі пажарны:

*Робат ня можа зрабіць чалавеку шкоду ці сваім бязьдзеяньнем дапусьціць, каб чалавеку была зробленая шкода.*

*Робат мусіць падпарадкоўвацца камандам чалавека, калі гэтыя каманды не супярэчаць першаму закону.*

*Робат мусіць клапаціцца пра сваю бясьпеку ў той меры, наколькі гэта не супярэчыць першаму і другому законам.*

Робаты Азімава больш чалавечныя за людзей. Людзей у Азімава часам хочацца проста выключыць. Але ня ўсіх, вядома. Азімаў — дзіцячы пісьменьнік у тым сэнсе, што ён умее зрабіць так, каб ты ганарыўся, што ты чалавек. Ён ведае, дзе ў чалавека кнопка. І ведае, як лёгка яна выключаецца. Пазьней Азімаў, паразважаўшы над гісторыяй чалавецтва, дадаў да сваіх законаў яшчэ адзін, нулявы пункт:

*Робат ня можа зрабіць чалавеку шкоду, толькі калі ён не дакажа, што ў выніку гэта будзе карысна для ўсяго чалавецтва.*

...У родных Пятровічах у гонар Азімава пастаўлены мэмарыяльны камень. Ёсьць там яшчэ мэмарыяльная медная шыльда, але яна, як распавялі расейскія журналісты, захоўваецца ў адміністрацыі сяла. Каб удзячныя чытачы, насельнікі этнічных беларускіх земляў, трохі адпачылі ад навуковага дасьледаваньня каляровых мэталаў, пра незямное паходжаньне і кошт якіх так соладка думаецца бязьлюдным сьвітанкам. Камень сьцягнуць усё ж цяжэй, чым шыльду. Калі ты ня робат, вядома. І не беларус. І калі гравітацыя для цябе ўсё яшчэ нешта значыць.

# Месца для геніяў і інвалідаў

*3 студзеня 1882 Оскар Ўайлд абвяшчае мытнікам: Мне няма чаго прад'явіць, апрача свайго генія*

«Мне няма чаго прад'явіць, апрача свайго генія». Такі нечаканы адказ атрымаў 3 студзеня 1882 году ні ў чым не вінаваты нью-ёркскі мытнік на сваю нявінную просьбу «запоўніць, пажалста, дэклярацыю». Пасажыра, які прамовіў гэтыя несьмяротныя словы, звалі Оскар Уайлд. Толькі што ён сышоў з карабля на амэрыканскі бераг... Яго нічога не зьдзіўляе, Амэрыка каля яго ног, хай яна яго і ня прыме. Ён аглядвае наваколле з пагардай, ён ледзь не пазяхае. Поза тут відавочна зашкальвае, хоць ты бюст ляпі і парфумай апырсквай, гэта перабор нават для тых часоў, калі адрозьніць джэнтэльмэна ад плебея і так было няцяжка, няважна, у смокінгах яны абодва ці з лапатамі і ў целагрэйках; але вось чаго няма ў гэтых словах, дык гэта пустога пазёрства. Прамоўлена: у вочы мытніку, радком у яшчэ не народжаны верш, наўпрост у чулае вуха гісторыі — Уайлд і праўда быў такі, чалавек-мастацкі твор, капрызьлівы, як сама літаратура, і як сама літаратура сатканы з гульні, падману і жэсту. Арыстакрат, выгнаньнік, *enfant terrible* і фанфарон, гей і мізантроп, кароль стылю — якога, здаецца, крыўдзіла сама верагоднасьць таго, што на паперы можна друкаваць нешта апрача шэдэўраў. Такіх цяпер ужо даўно ня робяць — целагрэйка перамагла, бо мела пры сабе лапату.

«Апрача майго генія»... Цікава, як адрэагаваў на гэта мытнік? Прамармытаў ціхенька: «Даруйце, паночак, работа такая...» Зычна крыкнуў: «Гражданін, не задзержывайце очэрэдзь!» Прагнаў нахабнага ангельца сто разоў запар паўзуном у адных майтках праз мэталашукальнік? Зрабіў выгляд, што недачуў? А можа, папрасіў аўтограф?



Што ў вуснах Ўайлда прагучала прыгожым акордам, непатрэбным і бескарысным, як і ўсё прыгожае, — не пасавала б, мабыць, нікому іншаму. І гэта таксама — мастацтва: адчуваць адпаведнасьць слова вобразу. А таксама дзеі месцу, дзе яна разгортваецца: пра тое, што яму няма чаго прад'явіць, апрача свайго генія, Ўайлд кажа ня ў нейкім салёне і не на прыёме ў караля, не ў Парыжы і ня ў Рэдынгскай турме, а ў сталіцы Хваткі і Здаровага Розуму, дзе «геній» цэніцца перадусім фінансавы, а калі што і прад'яўляюць з гордасьцю, дык гэта чэкавую кніжку. Ну, ці палюбоўніцу з такой кніжкай.

У сувязі з гэтым выпадкам прыгадваецца іншы, які адбыўся ў 1933 годзе з расейцам Буніным. Які акурат атрымаў Нобэлеўскую прэмію і вяртаўся са Стакгольму ў Францыю. Гісторыя з геаграфіяй, калі яны сустракаюцца, заўжды выкідваюць які-небудзь жарт: здарылася так, што цягнік ішоў празь Нямеччыну. Ну не праз Румынію ж яму было ехаць. Тым памежнікам, якія завіталі ў купэ да нобэлеўскага ляўрэата, пасажыр таксама мог прад'явіць хіба што свой геній. Пра які надоечы так шмат пісалі ў газэтах. Нямецкія памежнікі і мытнікі прымусілі знакамітасьць разьдзецца практычна дагала. «Вы што, не чытаеце газэтаў?» — закрычала жонка расейскага літаратара. У адказ ветлівыя ўсьмешкі і ўсё тая самая настойлівая дзелавітасьць, за якой шчэрыцца грубая сіла. Магчыма, ім проста хацелася даведацца, як выглядае тое, што Ўайлд некалі так і не дастаў са свайго чамадана. Трое афіцэраў цярпліва чакалі, калі 63-гадовы Бунін зьніме порткі — каб паставіць на ім штамп: праверана, мастацкай каштоўнасьці для райху не ўяўляе, небясьпекі таксама, прапусьціць. Добрай дарогі, гер Бунін.

Ну, ня ехаць жа генію кантрабандай. Добра было б сказаць таму хамаватаму і вечна напружанаму беларускаму мытніку, які кожны раз так эфэктна выскоквае з-за агароджы: «Мне няма чаго прад'явіць, апрача майго генія». Але генія ў валізе я ня маю, дый месца і час ня тыя, тут патрэбныя зусім іншыя словы. А яшчэ я вельмі не люблю разьдзявацца перад людзьмі ў форме.

# Містэр Нелюдзь

*4 студзеня 1943 часопіс "Time" назваў Сталіна чалавекам 1942 году*

…Карацей, Сталіна на нас няма.

А што, праўда: няма?

4 студзеня 1943 году амэрыканскі часопіс «Time» узяў і зноў назваў Сталіна чалавекам году. 1942-га. Зноў — бо ў 1939-м крамлёўскі тыран ужо атрымліваў ад «Time» той пачэсны тытул, якім могуць аднолькава ганарыцца як выбітныя нягоднікі, так і найвялікшыя філянтропы і гуманісты, а таксама машыны (чалавекам-82 стаў звычайны комп). Але на двары пакуль што 43-і, да кібаргаў яшчэ далёка, і *einmal ist kein mal*, як кажуць цяперашнія ворагі добрага дзядзькі Джо, якім ён акурат задае дыхту пад Stalingrad. Атрымайце і расьпішыцеся, вы, змагары з дыктатурай, вы, дэмакраты і хіраманты, эмігранты-недабіткі, палітычныя прастытуткі і іншая буржуазна-фашыстоўская навалач. Вы ўсе пыл на цыфэрбляце, ваш час мінуў, стрэлку цяпер круцяць у Крамлі. У гэтым сэзоне ў модзе чырвоны колер.



Здаецца, «Time» ніколі і не лічыў сваёй задачай вызначыць найлепшага за мінулы год прадстаўніка шматпакутнай чалавечай пароды, ён шукаў самага ўплывовага й характэрнага, дый наогул, па-ангельску тая намінацыя гучыць больш нэўтральна: The person of the year. Усё гэта так, але як падумаеш, што ад паху чалавечынкі тут так ці інакш нікуды не падзецца, дык неяк «мароз па скуры падзіраець». Такім чынам, паводле «Time», у 1942-м аблічча чалавецтва, уцягнутага ў новую сусьветную вайну, лепш за ўсіх вызначаў «лучшы друх дзяцей» і «геніяльны мовазнаўца», загадчык складу «стальных рукрылаў» і «палымяных матораў», невысокі пажылы грузін з амаль адсохлай правай рукой, жоўтым, пакрытым восьпінамі тварам, хворы на параною і манію велічы, з запушчанай шызафрэніяй, арганізатар беспрэцэдэнтных па сваіх маштабах тэрору і генацыду ня толькі супраць народаў, гвалтам загнаных у імпэрскі барак, але і супраць саміх расейцаў, якія той барак так старанна пабудавалі; захопнік і мілітарыст, брутальны забойца і руплівы стваральнік такога бессаромнага культу ўласнай асобы, якога сьвет ня бачыў з часоў Старажытнага Рыму. Адным словам, пачвара. Д'ябал. У чырвоным плашчы.

Ці належаў Сталін насамрэч да ліку людзей? Можа, ён быў кібарг? У тым і рэч, што чалавек. І паводле «Time», нават двойчы. Рашэньне часопісу толькі яшчэ раз красамоўна засьведчыла, у якую дупу правалілася чалавецтва ў канцы 30-х-пачатку 40-х. Калі Сталін — чалавек году, то хто тады нелюдзь?

Матывы, якімі кіраваўся рэдактар часопісу, збольшага зразумелыя: містэр Сталін, ён цяпер такі cool, аднаасобна супрацьстаіць навале (мільёны тонаў гарматнага мяса ня лічацца), сымбаль для ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва (і гарматнаму мясу патрэбная этыкетка), ён окэй, ён, у рэшце рэшт, саюзьнік (а саюзьнік, як капрызьлівая какотка, штохвіліны патрабуе знакаў увагі), і наогул, ён такі харызматычны (і ў мясьніка ёсьць харызма, а калі яе добра адцерці, яна нават

блішчыць). Рускія зь ягоным іменем на вуснах паміраць ідуць: вы можаце сабе ўявіць амэрыканскага фэрмэра, які пойдзе ў атаку з крыкам «за Рузвэльта!»? Карацей, гэты Сталін — зусім ня меншы душка за Гітлера, якога той самы «Time» назваў чалавекам году ў 1938-м.

Мала каму вядомы на той час Уладзімер Набокаў, назіраючы ўсё гэтае амэрыканскае замілаваньне дзядзькам Джо, напісаў падчас вайны:

*Каким бы полотном батальным ни казалась*
*Советская сусальнейшая Русь,*
*Какой бы жалостью душа ни наполнялась,*
*Не поклонюсь, не примирюсь...*

І не пакланіўся, і не прымірыўся. У адрозьненьне ад тых, хто яшчэ доўга пляскаў мясьніку, хто, мружачыся і змагаючыся з рабскай сьлязой, прамаўляў з надрывам: культ быў, але ж і асоба была... Для «Time» два нумары сямідзесяцігадовай даўніны са Сталіным на вокладцы — эпізод. «Дзіўна, наколькі хутка пра яго ўсе забылі», — пісаў пра Сталіна Мілаван Джылас усяго праз сем месяцаў пасьля сьмерці правадыра народаў. Шмат у чым паказаўшы незвычайную празорлівасьць, тут Джылас відавочна пасьпяшаўся. І цяпер людзей, для якіх дзядзька Джо і надалей застаецца чалавекам стагодзьдзя, нямала, і яны прагнуць вяртаньня ідала. Ня дай ім толькі бог у рукі стрэлкі.

# На безыменнай вышыні

*5 студзеня - дзень памяці сьвятога Сымона Стоўпніка ў каталікоў*

Зь сьвятога Сымона Стоўпніка за апошнюю тысячу гадоў дастаткова пазьдзекаваліся розныя бязбожнікі. Асабліва ў апошняе стагодзьдзе. Люіс Бунюэль зьняў яго са слупа і выправіў па начных клюбах. Ільф і Пятроў зрабілі на яго пародыю ў вобразе айца Фёдара, які палез на гару, каб зьесьці скрадзеную ў Вараб'янінава каўбасу, ды так і застаўся на вяршыні, бо ня здолеў спусьціцца па стромым схіле — і гутарыў там, у вышынях, з арламі і царыцай Тамарай (Фёдара Стоўпніка неўзабаве зьнялі пажарныя). Аўтары ўсялякіх гнюсных «вясёлых эвангельляў» спрабавалі паказаць яго звычайным шызафрэнікам. Мала хто, нават сярод вернікаў, ацаніў паэзію гэтага самотнага подзьвігу... З заблукалым Сымонам Стоўпнікам выклікае асацыяцыі безыменны рабочы на будоўлі нью-ёркскага хмарачоса, засьпеты фатографам падчас перакуру — як на знакамітых здымках Льюіса Хайна. Бязбожны Ленін на менскай плошчы, які стаіць на сваім слупе ўжо 80 гадоў і не зьбіраецца злазіць. А мне пры думках пра сьвятога Сымона Стоўпніка ўяўляецца чалавек, які захрас у ліфце шматпавярховага дома. Вось ён сядзіць там, самотны, на вузкім лапіку цьвёрдай паверхні, паміж небам і зямлёй. Пра што ён думае, ужо гадзіну мэлянхалічна націскаючы кнопку «Аварыйны выклік»? З кім так бязгучна размаўляе? Дзе ён, хто ён — адзін у сьмярдзючай кабіне? Але вось лямпа загараецца, ліфт спускаецца долу. Чалавек выходзіць з дому — і не пазнае сваёй вуліцы. Дык і як ты яе пазнаеш, менскі Рып ван Вінкль? За паўстагодзьдзя тут штосьці ды зьмянілася.

Лезь ты ўжо лепей назад.

Сымон — мой улюбёны сьвяты, ягоная гісторыя заўжды ўражвала мяне ўтрапёным нонканфармізмам галоўнага героя. Гэта сьвяты, якога фактычна кананізавалі за ягоную гордасьць. Так, так: у свой час пабожнага аскета Сымона нават прагналі з манастыра за тую самую празьмерную добрасумленнасьць: замест таго, каб бавіць дні ў малітвах і працы, як усе астатнія нармальныя мніхі, Сымон бяз продыху катаваў сябе, абвязаўшыся вяроўкай так, што кроў сачылася са скуры. Мне мроіцца ягоны высалаплены язык і зубы, што бялеюць у змроку кельлі, усё яшчэ моцныя зубы, якімі ён упарта спрабуе завязаць аслаблую вяроўку на марскі вузел... Бедная чалавечая плоць, якая ўжо рыхтавалася да перамогі над духам і іншых прыемных



рэчаў, вельмі пакутуе і пачуваецца пакрыўджанай. Не для гэтага яе стваралі. Праз дзесяць дзён раны Сымона пачынаюць гнаіцца, у іх заводзяцца чарвякі. Браты-мніхі скардзяцца, што ад Сымона сьмярдзіць, як ад мёртвага асла, а чарвякі сыплюцца зь яго, быццам перхаць, і распаўзаюцца па ўсім кляштары. А Сымон толькі ўсьміхаецца ў бараду; часам ён гаворыць, але не з братамі, а з чарвякамі: «Ежце, што вам Бог паслаў». То бок, жадае ім смачна есьці. Ветлівы быў чалавек.

Ня дзіва, што Сымона пры жыцьці ня надта любілі. Сорамна было побач з такім героем. Пакуль ён не залез на васьмімэтровы слуп і ня стаў жыць на ім. Такі сабе прыватны варыянт Бабілёнскай вежы, за які ніхто так і не паплаціўся, апрача хіба што Сымонавай плоці. Калі гэта ня ўчынак гордага чалавека і не прамы выклік богу, то што? Чарвякі падалі са слупа і разьбіваліся насьмерць. Смурод зносіўся ўдалеч залётным палестынскім ветрам. Апынуўшыся там, наверсе, Сымон перастаў быць праблемай. Тады ўжо, пазбавіўшыся нарэшце ад Сымона і паказваючы яго зьнізу старажытнарымскім турыстам, людзі задумаліся. Сонца высушыла раны, дух пачаў загадваць целу. А што, калі гэта — вычын, якога ня ведаў сьвет? А зусім ня тое, што ўсе спачатку падумалі... Так у Сымона зьявіліся пасьлядоўнікі. Некаторыя, праўда, ладзілі сабе слупы не ўгару, а ў глыбіню — пэўне, проста цярпелі ад акрафобіі.

Калі б Сымон жыў цяпер, яму, напэўна, вельмі спадабаўся б помнік на плошчы Перамогі: ён любіў гэткія вузкія і ўзьнесеныя ў вышыню збудаваньні, на вяршыні якіх так карысна для душы і цела сядзець год за годам і нястомна ўзносіць Усявышняму розныя модлы, якія, дарэчы, Сымон ведаў усе на памяць і заўжды чытаў без паперкі — ня тое што цяперашнія сьвятыя.

# Цень цягніка

*6 студзеня 1896 адбылася прэм’ера фільму «Прыбыцьцё цягніка»*

Нямала цягнікоў пасьпела за апошнія паўтара стагодзьдзя прыбыць на вакзал французскага гораду Ля-Сьёта — і пасьпяхова адбыць: пасажырскіх, грузавых, паштовых, вайсковых — і ўжо ж, мусіць, без аварыяў і няшчасных выпадкаў на тамтэйшай чыгунцы за такі час не абышлося. Пэўне ж, і ногі адразаліся, і рукі, а здаралася, каціліся па насыпе галовы... Але аднаму цягніку з тых, чый маршрут пралягаў праз Ля-Сьёта, удалося пазбавіць чалавека чагосьці больш важнага. А менавіта — глядацкай нявіннасьці: з цнатлівага сузіральніка ахвяра таго цягніка зрабілася Кінагледачом, саўдзельнікам вялікай ілюзіі, пакупніком ценяў. І гэта, здаецца, ужо назаўжды.

Някепскі вынік для сьціплага паштовага.

6 студзеня 1896 году фільм братоў Люм’ераў «Прыбыцьцё цягніка на вакзал Ля-Сьёта» ўпершыню быў прадэманстраваны ў вялікай залі. Кажуць, самыя ўражлівыя з публікі хаваліся пад крэслы і спрабавалі ўцячы ад паравоза, што, пагрозьліва рухаючы локцямі, нечакана выскачыў ім насустрач проста са сьцяны, а з пудзелем, якога ўзяла з сабой адна дама, здарыўся эпілептычны прыпадак. Здаецца, чуткі трохі перабольшаныя: цягнік у гэтай стужцы хутчэй праяжджае міма гледача, чым прэ проста на яго — дый для чалавека канца 19 стагодзьдзя чыгунка была ўжо справаю звыклай. Ганна Карэніна, скажам, яе зусім не баялася. Напэўна, адчуваньні таго, хто прысутнічаў на прэм’еры, льга было б параўнаць зь першым досьведам 3D-эфэкту: калі адна, рамантычная і легкаверная частка сьвядомасьці падманутая, а другая, цынічная і разважлівая, гучна кажа на самым цікавым месцы, што ўсё гэта танныя трукі і лоўкасьць рук, нікуды ты ня падаеш, у агні не гарыш і ў вадзе ня тонеш.



«Прыбыцьцё цягніка» — цуд, які здараецца толькі адзін раз, але затое належыць усім.

Цягнік прывёз на станцыю Ля-Сьёта сяброў і сваякоў Люм’ераў, якіх стваральнікі стужкі запрасілі паўдзельнічаць у экспэрымэнце — але апрача іх ён прывёз чалавецтву новы час і новыя магчымасьці. Фактычна, на французскай станцыі Ля-Сьёта цэлы сьвет зрабіў чарговую перасадку. Паміж чалавекам эпохі кіно і ягонымі «неэкранізаванымі продкамі» адразу пралегла расколіна шырынёй з кінастужку.

«Прыбыцьцё» можна пераглядаць і пераглядаць. Сто разоў запар. Можна заміраць ад таго, што бачыш на экране жывую гісторыю. Можна засяродзіцца на дробязях. Паспрабаваць ідэнтыфікаваць пол дзіцяці, якое вядуць за руку, пакуль цягнік пад’яжджае, і якое зьнікае ў мітусьні, як толькі ён спыняецца. Можна сканцэнтравацца на чалавеку ў сьветлым гарнітуры і кепі, які, выбраўшыся з вагона, ніяк ня можа вызваліць ад сябе кадр — ён тут галоўны герой, канкурэнт паравоза, бо куды ні стане, яго паўсюль відаць. Можна пракруціць стужку ў адваротным парадку — і ўратаваць яе герояў, цягнік, вакзал, той забыты ўсімі дзень. Але лепш проста глядзець на чорна-белыя кадры і плакаць. Сорак дзевяць сэкундаў ты любіш іх усіх — ад уладальніка кепі і нябачнага апэратара да аблачынак над паравознай трубой. Людзей гэтым усім ужо ніколі не зьдзівіць. Іх наогул усё цяжэй чымсьці зьдзівіць. Можна сто разоў глядзець «Прыбыцьцё цягніка» — і ў сьвеце нічога ня зьменіцца. Але і яны нікуды не падзенуцца — тыя, Каго Прывёз Цягнік. Безыменныя героі, на якіх раптам упаў магічны прамень.

# Залегчы на дно ў Менску

*7 студзеня 1960 у Менск прыехаў Лі Гарві Освальд*

Гісторыя рэдка калі прыяжджае ў Менск цягнікам. Звычайна яна наведваецца сюды на танку, бамбардзіроўшчыку, у армейскім грузавіку або ў скрайнім выпадку конна — папярэдне разаслаўшы сабе дыванок з руінаў і маляўнічага друзу і выставіўшы абапал яго свой шалёны аркестар. Ну, не лічыць жа насамрэч гісторыяй прыезд Дарагога Леаніда Ільліча ў 1978-м. Ці якога-небудзь там Чарнамырдзіна. Нават Мікалай II, які заехаў сюды на пару гадзін у 1914-м, гісторыі з сабой не захапіў... Праўда, неўзабаве яна яго нагнала. Цягнік — ня самы хуткі транспартны сродак. Затое самы надзейны, самы злавесны і — самы прыдатны для тых, хто падарожнічае інкогніта.

7 студзеня 1960 году гісторыя прыехала ў Менск акурат цягнікам. Прычым мы ведаем, якім менавіта: маскоўскім, нумар 9. Больш за тое, вядомы нават дакладны час прыезду, што таксама бывае ня так ужо й часта. Зрэшты, пра ўсё гэта можна прачытаць у кнізе Аляксандра Лукашука «Сьлед матылька» — дык лепш дамо слова аўтару. Такім чынам...

*«7 студзеня 1960 году ў 8 гадзін 23 хвіліны раніцы з купэйнага вагона маскоўскага цягніка нумар 9 на пэрон Менскага вакзалу ступіў 20-гадовы амэрыканскі грамадзянін у салдацкай шапцы-вушанцы й бяз пашпарта — ён здаў яго ў амбасаду ў Маскве, заявіўшы пра жаданьне застацца ў СССР, пасьля чаго праз два з паловай месяцы чаканьня й спробы самагубства атрымаў 5000 рублёў ад Чырвонага Крыжа, накіраваньне на працу і жытло ў сталіцы Беларусі, дзе праз год ажаніўся, а калі нарадзілася дзіця, разам зь сям'ёю вярнуўся ў ЗША, каб а 12:30 у суботу 22 лістапада 1963 году з вакна шостага паверху даласкага кніжнага складу з адлегласьці 50 мэтраў з італьянскага карабіна Манліхер-Каркана калібру 6,5 мм першым стрэлам параніць35-га прэзыдэнта ЗША Джона Кенэдзі, другім — губэрнатара Тэхаса Джона Коналі, трэцім дабіць прэзыдэнта, затым...»*



Пра тое, што было пасьля і да таго, і расказвае гэтая кніга. Кніга ня толькі пра Освальда, а і пра Менск 60-х. Якім ён быў, гэты горад, якія людзі ў ім жылі — і чаму яго абмінала вялікая гісторыя, саступаючы месца той, малой, прыхаванай і на першы погляд дробнай. У масавай сьвядомасьці Менск існуе хіба як непрыкметная складка на палатне часу, у якой, здаецца, толькі пыл... Але там і менавіта там расьце да пары і дужае вялікая гісторыя, каб аднойчы вылезьці вонкі і ўсіх агаломшыць, адным махам зьмяніць лёсы і прымусіць задумацца. Монстар, зь якім мы вымушаныя суіснаваць, ніколі ня ведаючы, каго ён схопіць праз сэкунду — і дзе.

Нешта ў ім ёсьць такое, загадкавае... Сонны елінэкаўскі вір, на дно якога так і карціць залегчы яшчэ перад тым, як пераможна і роспачна прагучаць твае стрэлы; шматзначная правінцыйнасьць, ратавальная ананімнасьць... Менск — сталіца няясных намераў. Месца, што вабіць будучых злачынцаў, тэрарыстаў, маргіналаў. Сюды рэдка хто ўцякае пасьля зьдзейсьненага — але сюды прыяжджаюць, нібы падпарадкоўваючыся нечай магутнай злой волі, быццам бы на нейкае капішча, перад тым, як пайсьці на рашучы і канчатковы разрыў з паршывым грамадзтвам. Сюды прыяжджалі паесьці бліноў з думкамі пра дзяржаўны пераварот. Тут задумвалі перакуліць сьвет. Тут гадзіньнікі любяць спыняцца апоўначы. Тут пырхаў матылёк Освальд. Магчыма, тут бываў Брэйвік. Сусьветная нянавісьць і помста высьпявалі тут, калі ні пра якіх матылькоў, апрача млявых капусьніц у былым губэрнатарскім парку, ніхто тут яшчэ ня чуў. Стоячы на эскалятары менскага чыгуначнага вакзалу, азірніся. Магчыма, табе ў патыліцу дыхае яна, выпадковая гісторыя будучага.

# Хобі Бобі

***8 студзеня 1957 Бобі Фішэр у 14 гадоў стаў чэмпіёнам ЗША***

Шахматы я люблю, вось толькі гуляю кепска. Палова партыі — а потым: я ад вас далёка, шахматныя гоні... Уся ўвага пераключаецца на суперніка: як дыхае, куды глядзіць, пра што сапе сваім неспакойным носам... Зь якой ён кнігі? Хто яго напісаў? Ну і наогул: недахоп канцэнтрацыі, адсутнасьць уседлівасьці, нізкі айк'ю, няправільны прыкус, цяжкае дзяцінства, раньні склероз, раздвоенасьць асобы, пыл у вачах, поўны астыгматызм мысьленьня. Не да шахмат. Пешка саскоквае з дошкі і пачынае свой шлях да бездані, на край стала.

С раждзенія Бобі пай-мальчыкам быў, імеў Бобі хобі — ён дзеньгі любіў. Так сьпявалася ў адным савецкім мульціку. 8 студзеня 1957-га чатырнаццацігадовы школьнік Бобі Фішэр стаў чэмпіёнам ЗША па шахматах. Хлопчык Бобі быў геній — і не адмаўляў гэтага. А геній мае права на ўсё.



Адзін за адным зрынутыя наймацнейшыя гросмайстры. Яго ўдарыла славай, як дошкай па галаве. Ён патрабаваў неймаверныя грошы за тэлефоннае інтэрвію. Ён абзываў судзьдзяў камуністамі і адмаўляўся абедаць з прэзыдэнтам. «Бобі ня любіць касьцюмаў, ня п'е, ня курыць, не сустракаецца зь дзяўчатамі», — папярэджвала маці арганізатараў аднаго з турніраў. Ён жыў толькі ў шыкоўных гатэлях, у нумарах люкс, спазьняўся на матчы, раздаваў абяцаньні і сам жа іх парушаў. «Бобі — наш прафсаюз», — жартаваў Барыс Спаскі, намякаючы на тое, што дзякуючы каралеўскім патрабаваньням Фішэра да шахматыстаў пачалі ставіцца як да людзей — калі поп-зорак і прафэсійных баксёраў можна назваць людзьмі (мы ж і так усе ведаем, што яны звышчалавекі і небажыхары). Бобі капрызіў, як мог, і яму даравалася ўсё. А калі не даравалася, ён мог і плюнуць. Як плюнуў на забарону выступаць у Югаславіі, чым зарабіў сабе завочна10-гадовае зьняволеньне. Плюнуў у літаральным сэнсе: публічна разарваў дакумэнт і плюнуў на яго сваёй геніяльнай сьлінай. Жыў у Вугоршчыне і Ісьляндыі, адмовіўся ад амэрыканскага грамадзянства — ды каб жа толькі ад яго, ён адмаўляў Галакост, удаваў зь сябе антысэміта, усім сваім выглядам дэманстраваў, што яму ўсё, усё, усё да аднаго месца, апрача шахмат, і задоўга да сьмерці, здавалася, канчаткова зьехаў з глуздоў... і ўсё адно быў любімы і самы шанаваны сярод усіх, хто ведае, як ходзіць конь.

Чымсьці ён нагадвае гросмайстра Лужына з набокаўскага раману. У якога таксама быў свой прататып. Фішэр, дарэчы, цалкам мог азнаёміцца з «Luzhin's Defence», раман выйшаў па-ангельску ў 1964-м — але сумняваюся, што ён чытаў нешта апрача шахматнай літаратуры. Як, зрэшты, і сам Лужын. Геніі не сябруюць паміж сабой. Навошта? Сяброўства — сытуацыя пату. Як і патрыятызм. Як і падпарадкаваньне. Як і ўсё, што не зьмяшчаецца на гэтай праклятай дошцы.

# Лісты ўкрыжаванага

***9 студзеня 1889 Ніцшэ напісаў лісты, зь якіх вынікала, што ён звар'яцеў***

9 студзеня 1889 году сябры і знаёмыя Фрыдрыха Ніцшэ амаль адначасова атрымалі ад яго лісты, зь якіх недвухсэнсоўна вынікала, што іхны добры філёзаф канчаткова звар'яцеў.

Праўда, гэта для іх, нармальных, усё выглядала так недвухсэнсоўна. Чытаючы тыя лісты, нічога асаблівага не заўважаеш. Трохі больш, чым звычайна, паэтычнага свавольства — але збольшага цалкам прыстойная пошта. Сэнсаў у якой можа быць два, а можа тры; а можа і зусім ня быць. Як і ў самой філязофіі, калі яна паварочваецца да зямлі сваім цёмным бокам. Але сябры на тое і сябры, каб ставіць дыягназ на адлегласьці.

*«Я Фэрдынанд Лесэпс... я Прадо, я Шамбіж, за гэтую восень мяне пахавалі двойчы...»*, — напісаў Ніцшэ аднаму сябру ў Базэль. Намякаючы на тое, што ён і ёсьць двума парыскімі забойцамі, пра якіх тады пісалі ўсе газэты. Два ў адным.



*«Дружа Георг, з тае пары, як ты адкрыў мяне, цяпер ня дзіва знайсьці мяне, значна цяжэй цяпер згубіць мяне...»*

Гэта зь ліста Брандэсу. А Пэтэру Гасту Ніцшэ напісаў, каб ён прасьпяваў яму

*«...новую песьню. І ўсе нябёсы цешацца».*

Козіме Вагнэр, жонцы знакамітага кампазытара, Ніцшэ адаслаў прызнаньне ў каханьні. Прыкмета вар'яцтва, што й казаць...

Лісты былі падпісаныя так: «Укрыжаваны». Іхны адпраўнік жыў тады ў Турыне, куды не марудзячы выправіўся адзін зь сяброў. Ніцшэ граў Вагнэра локцем на піяніна і сьпяваў гімны Дыянісу. Сябра спыніў гэтыя пэрформансы, забраў аўтара ў Базэль і памясьціў у псыхіятрычны шпіталь. Празь дзесяць гадоў Укрыжаваны памёр у Ваймары. Перад сьмерцю ён часам нешта прыгадваў.

*«Хіба я не напісаў цудоўных кніг?»*

Напісаў, напісаў, супакойвалі яго. І ён замаўкаў.

«...*Трэба*», пачуліся галасы, «*задушыць гэтае вучэньне і забіць Заратуштру*».

*У сьвеце няма ніводнай душы, якая любіла б мяне — дык як я магу любіць жыцьцё?*»...

Фрыдрых Ніцшэ — чалавек, якога пры жыцьці не зразумелі, а пасьля сьмерці зразумелі няправільна.

Грамадзтва хоча ад нас ня так ужо й шмат. Галоўнае — гэта ня граць на піяніна локцем, не сьпяваць у не прызначаны для сьпеваў час і не дасылаць сумнеўных лістоў. І тады ўсё будзе добра. Канца сьвету не адбудзецца. Табе налічаць пэнсію. Паставяць на чаргу. Зробяць зьніжку. Адпусьцяць. Даруюць. Забудуць. Паміж «звыш» і «неда» ёсьць невялікі прагал. Калі там зьмясьцілася большасьць, то знойдзецца месца і для цябе.

# Наша вуду

*10 студзеня — Дзень Вуду ў Бэніне*

Каляндар паведамляе, што сёньня ў Беларусі нацыянальнае сьвята — Дзень Вуду. Не, наконт нацыянальнага я схлусіў. Як, зрэшты, і наконт Беларусі. Насамрэч, гэта ў Бэніне ёсьць такі адмысловы дзень, 10 студзеня. Спэцыяльна выдзелены для рытуалаў і абрадаў гэтага афрыканскага культу, які дзякуючы вывезеным з Чорнага кантынэнту рабам распаўсюдзіўся таксама і ў Амэрыцы, асабліва ў краінах Карыбскага басэйну. Было нешта падобнае і ў тамтэйшых індзейцаў, і ў славянаў, і ў Азіі, здаралася, нечым такім займаліся, але масавую культуру іншыя мадыфікацыі вуду неяк не зацікавілі. А вось афрыканска-гаіцянскія — яшчэ як. Ня ўмее чалавек любіць сваё. Шалёны беларускі народ тут — шчасьлівае выключэньне.

Што адбылося з культам вуду дзякуючы Holly-вуду, не паддаецца ніякім маральным ацэнкам. Хоць у міжнародны суд ЮНЭСКА зьвяртайся. Вось ідзе падарожны чалавек па ўроцлаўскім перадкалядным кірмашы — і бачыць лялькі вуду па 6 злотых за штуку. Сымпатычныя, як Б'ёрк, задаволеныя, як барбі, і пашытыя прафэсійным краўцом. З усьмешкамі, якія здольныя напалохаць хіба што немаўля, ды і тое, пабачыўшы гэты старанна зашыты рот, скажа: «Ляля». Сапраўдныя зомбі і лялькі вуду, пэўне, даўно зьдзейсьнілі калектыўнае самагубства, пабачыўшы, што зь імі зрабілі. І толькі шалёнаму беларускаму народу яны нічога кепскага ня скажуць на разьвітаньне — бо каму яшчэ працягваць сьвятую справу, як не беларусам.



Знаёмства з вуду пачалося для мяне з афрыканскага футболу. Тамтэйшыя каманды яшчэ і цяпер, бывае, маюць у складзе ня толькі лекара, масажыста і псыхоляга, але і свайго «палкавога капэляна» — нанятага за добрыя грошы шамана. Які займаецца выключна тым, што з дапамогай чорнай магіі разладжвае тактычныя схемы супернікаў і насылае остэахандроз на косткі паўабаронцаў і касавокасьць на форвардаў. Матчы ператвараюцца, такім чынам, у двубоі чараўнікоў, гульцы робяцца элемэнтам чыста дэкаратыўным.

Беларусы называюць сябе хрысьціянскім народам. Але тут спрадвеку жылі юдэі, мусульмане... І, вядома, адэпты вуду. Знакамітыя бабкі, што ведаюць рэцэпты нагаворных зельляў і за ўмераны кошт нашэпчуць замову ад любой пошасьці: ад ДАІ да гаймарыту. Тыя, хто не забываецца на звычаі продкаў і, здаючы камусьці кватэру, разьбівае ў ёй на шчасьце ртутны тэрмомэтар. Усе гэтыя форумы ў сеціве, дзе калектыўная нянавісьць да створанай папярэдне віртуальнай лялькі мусіць урэшце ўдарыць рэальную гадзюку ў самае сэрца. Варажба на недапітай начальнікам каве і на расейскай нафце, вера ў барабашак і гаючую сілу мачы, астрапрагнозы на год канца сьвету... Бясплатная раздача іголак, якія кожны законапаслухмяны грамадзянін абавязаны ўткнуць у чучала «пятай калёны»... Атэістычныя паніхіды і гуканьне з магіл герояў даўно забытай вайны... І нездарма менавіта майстрам-вуду назваў Віктар Марціновіч народнага самародка, мастака Мікалая Тарасюка, аўтара геніяльнай лялечнай кампазыцыі «Сьмерць мужыка каля самагоннага апарата»...

Дзе храмы вуду? Дзе прадстаўнік ад вуду ў Радзе па маральнасьці — інтэлігентны тоўсьценькі вурдалак з маральлю да калена? Дзе свабода веравызнаньня? Чаго баяцца: ясна ж і так, што ўсе мы, незалежна ад рэлігіі і палітычных поглядаў, любім вуду, практыкуем вуду і ніколі ня супраць пасядзець з вудай каля мутных водаў веры ў вычварэньні.

# Дай папяроску

***11 студзеня 1925 Шарыкаў упершыню адказвае праф. Праабражэнскаму***

*«11 студзеня. Зусім прымірыўся са штанамі. Дакрануўшыся да штаноў Філіпа, вымавіў доўгую вясёлую фразу: „Дай папяросачку — у цябе штаны ў палосачку“.*

*Поўсьць на галаве — кволая, шаўкавістая. Лёгка зблытаць з валасамі. Але падпаліны засталіся, на цемі. Сёньня аблез апошні пух з вушэй. Калясальны апэтыт. З захапленьнем есьць селядзец.*

*А пятай гадзіне папаўдні падзея: упершыню словы, прамоўленыя істотай, не былі адарваныя ад навакольнае явы, а зьявіліся рэакцыяй на яе. А менавіта, калі прафэсар загадаў: „Ня кідай аб'едкі на падлогу“, істота нечакана адказала:*

*„Адлезь, гніда“.*

*Ф.Ф. быў страшэнна ўражаны, потым ачуняў і сказаў:*

*„Калі ты яшчэ раз дазволіш сабе лаяцца на мяне ці на доктара, табе пападзе“.*

*У гэтае імгненьне я фатаграфаваў Шарыка. Іду ў заклад, ён зразумеў словы прафэсара. Змрочны цень зьявіўся на ягоным твары. Паглядзеў спадылба і даволі раздражнёна, але сьціх.*

*Ура, ён разумее!»*

Твор геніяльны — і фільм таксама. Што да фільму: здаецца, ні ў кога не было сумневу, на якім баку апынецца рэжысэр «Сабачага сэрца» ў новай Расеі. Дый бакоў зноў стала два, як некалі. На адным Філіп Філіпычы ды Бармэнталі, на другім Шарыкавы ды Швондэры. Але, кажуць, ня ўсё так проста. Спадар Бартко як сапраўдны талент узяў і зрабіў зусім ня тое, чаго ад яго чакалі. Падумаў крыху і пайшоў да Швондэра. Зрабіўся верным камуністам-зюганаўцам. І любіць цытаваць Дастаеўскага, пра тое, што расейскі лібэрал б'е сваю радзіму, сваю маці, і калі той маці балюча, дык лібэрал пацірае свае потныя ручкі і рагоча.

Правільна, любіць радзіму можа толькі Пуцін. У яго і пасьведчаньне ёсьць. Такая бумажка, выдадзеная ў домакіраваньні, аканчацельная бумажка, ка-тэ-га-рыч-на-я, фактычная! — супраць якой ніводзін сабака-лібэрал нічога зрабіць ня можа. Хаця сабаку-лібэрала ў чалавека не ператворыць ужо ніхто. Прафэсараў не засталося.



## Сам працэс

***12 студзеня 1910 у Кітаі дзеці 9 і 8 гадоў сталі самымі маладымі бацькамі ў гісторыі***

12 студзеня 1910 году на сьвет зьявіўся яшчэ адзін кітаец. І ўсё б нічога, на гэтай плянэце здараецца і не такое — калі б ня той факт, што бацьку на момант нараджэньня дзіцяці было дзевяць гадоў, а маці — восем.

Такі вось сумны рэкорд. Ды, як высьветлілася, і не рэкорд зусім. На працягу мінулага стагодзьдзя то там, то тут зь нейкай заганнай рэгулярнасьцю толькі і чуваць: нарадзіла ў восем, нарадзіла ў сем ад айчыма, стаў бацькам у дзесяць (маці — пятнаццаць). Настаўніцы цяжараць ад вучняў, вучаніцы ад указкі, унучкі ад сівых дзядоў, якім, відаць, зусім сарвала дах ад радаснага ўсьведамленьня таго, што ў іх усё яшчэ стаіць. А адна пэруанка наогул заляцела ў пяць. І не ад сьвятога духа. Кур'ёзы. Кунсткамэра бытавой гісторыі. Дзе ўвесь час тоўпіцца чарга з прыстойных людзей, якія ў 7 гадоў яшчэ гулялі ў лялькі і дочкі-мамы і якія так ганарацца цяпер сваёй нармальнасьцю.



Што не замінае ім, гнюсна хіхікаючы, блукаць у пошуках такіх кунсткамэр і з салодкім заміраньнем уяўляць сабе сам працэс. Не, калі б іхнае дзіця нарадзіла ў пяць, яны, мусіць, павесіліся б. Ці павесілі юную маці разам зь нечаканым прыплодам. Але ж гэта здарылася ня зь імі — дык чаму б ня мець законную асалоду ад сэнсацыі.

Ім нецікава, што было потым, з бацькамі і дзецьмі. Ім хочацца страшнай казкі, пажадана з працягам і падрабязнасьцямі. Калі Гэнзэль і Грэтэль трапілі да ведзьмы, чым яна прымушала іх займацца доўгімі зімовымі вечарамі? Што прыйшло ў галаву мілай старой, якая стаяла над імі са сьвечкай і відэакамэрай? І што Грэтэль прынесла ў прыполе свайму тату, апрача дыямэнтаў і золата? І што тата потым рабіў з лапатай уначы на падворку?

Кажуць, людзі прайшлі доўгі шлях — ад першабытнасьці да першых цывілізацыяў, ад сярэднявечча да сучаснасьці зь яе нябачным росквітам і неверагодным узроўнем гуманнасьці. Лухта. Сярэднявечча вылазіць з нас вонкі пры любой нагодзе. Карузьлікі такія сьмешныя, таму што яны бясьпечныя. Іх можна прымусіць спароўвацца на сцэне ці танчыць канкан. Можна браць грошы за тое, каб памацаць сіямскіх блізьнятаў, каб паторгаць за смочкі мужчыну з грудзьмі, можна засьпіртаваць мёртвае немаўля з хвастом. На нашым любімым сайце толькі дзьве рубрыкі, «Надвор'е» і «Здарэньні». Кожны другі пайшоў бы сам і павёў бы сям'ю на публічнае павешаньне — калі б такое добра прарэклямавалі. А кожны трэці прадаваў бы падчас працэдуры чыпсы, піва і марозіва. І кожны без вынятку здымаў бы сам працэс на камэру свайго тэлефона Мы нармальныя, нам можна. Бо ў нас жа ёсьць наш бог, і калі васьмігадовая зацяжарала ад дзевяцігадовага — значыць, на тое была Ягоная воля. А мы парадуемся, што гэта адбылося ня з намі, паставім шмат смайлікаў і пойдзем далей, змагацца з парнухаю і гомасэксуалізмам.

# Тут, унізе

*13 студзеня 1948 у Менску быў забіты Саламон Міхоэлс*

Менск і Гамбург. Збудаваць паміж імі масты амаль немагчыма, калі яны і ўзьнікаюць, то ня там, дзе іх чакаюць, ды ўсё нейкія вяровачныя, здрадлівыя, часовыя... Такія хісткія, амаль уяўныя, яны пагойдваюцца над прорвай гісторыі — хутчэй ранішні міраж, чым надзейная апора. Канчаткова прачнуўшыся, у здаровым розуме на такія ўжо ня ступіш. Але ў тумане зімовай раніцы, у ачмурэньні ад прачытанага ўчора іх раптам заўважаеш, і вось ужо ідзеш, упэўнена, як лунатык, на той бераг, быццам нехта паклікаў.

Вось жа, на станцыі Гольстэнштрасэ вісіць вялізная рэкляма ніжняй бялізны. Сумны спэцдзядзька ў спэцадзеньні становіцца на свае спэцдрабіны, мачае свой спэцпэндзаль у спэцклей і пачынае вадзіць ім па азадку азяблай прыгажуні, гіганцкі здымак якой так нахабна зазірае ў вокны цягнікоў. Зьбіраецца наклеіць паўзьверх яе новую сяброўку сьнежня.



Ён лашчыць пэндзлем адсырэлыя сьцёгны... Хто ляжа на яе месца? Не, гэта будзе тэатральная афіша. У Гамбургу ідзе «Анатэўка» — мюзыкл паводле твору Шолэм-Алэйхэма «Тэўе-малочнік». І раптам туман радзее, мост проста перад табой, а на тым беразе ўжо шарэе Менск, Менск канца саракавых гадоў мінулага стагодзьдзя. З усімі ягонымі сумётамі і грузавікамі, з усімі ягонымі начамі і таямніцамі.

...Раніцай 13 студзеня 1948 году ў Менску на вуліцы Беларускай, недалёка ад яе перасячэньня з Гарбарнай (цяпер Ульлянаўская), мінакі пабачылі пры дарозе ў сумёце два трупы. Адзін зь іх, як высьветлілася ў той самы дзень, належаў літаратару Голубаву, другі — знакамітаму актору і рэжысэру Саламону Міхоэлсу. Паводле вэрсіі ўладаў, уначы іх зьбіла машына. Што адбылося насамрэч, стала вядома пазьней, калі ўлады зьмяніліся і на месца вэрсіяў прыйшла праўда, ці паўпраўда — бо і ўлада ж ніколі не зьмяняецца да поўнае непазнавальнасьці.

Міхоэлс прыехаў у Менск з Масквы 8 студзеня. Гэта была службовая паездка, ён меўся паглядзець два спэктаклі, што прэтэндавалі на Сталінскую прэмію: 10-га «Заслонава» ў Расейскім тэатры, 11-га «Алесю» у Опэрным. 9-га ён пайшоў у Беларускі дзяржаўны яўрэйскі тэатар на таго самага «Тэўе-малочніка» паводле Шолэм-Алэйхэма.

Таго самага Тэўе, які сказаў:

*«Ці ведаеце вы, што бог на сьвеце ёсьць? Я не кажу: ваш бог, ці: мой бог, я кажу пра таго нашага агульнага бога, які сядзіць там наверсе і бачыць усе подласьці, што робяцца тут, унізе!»*

Тут, унізе, усё ішло паводле пляну. «Я, відаць, хутка памру», — сказаў Міхоэлс у той дзень менскім знаёмым. Сказаў, яшчэ ня ведаючы, што яму падрыхтаваная роля ахвяры ў іншым спэктаклі — спэцапэрацыі па ліквідацыі амэрыканскага шпіёна Міхоэлса, то бок яго самога. Кіраваў апэрацыяй генэрал МГБ Агальцоў. 12 студзеня ўвечары Міхоэлса і літаратара Голубава, які быў нештатным агентам МГБ, не падазраю-

чы, які канец яму падрыхтаваны, завезьлі на дачу Цанавы ў Сьцяпянцы і раздушылі там коламі грузавіка. А потым выкінулі трупы на вуліцы Беларускай, недалёка ад гатэлю.

Тут, унізе.

Менчукі не паверылі ў афіцыйную вэрсію. У яе не паверылі ўжо самыя першыя экспэрты-мэдыкі, бо сьляды на целах недвухсэнсоўна сьведчылі пра забойства, а не пра выпадковы наезд. Пасьля сьмерці Сталіна ўсё высьветліцца. На жаргоне тых гадоў, сацыялістычная законнасьць будзе адноўленая. Пацьвердзіць вэрсію забойства потым і Хрушчоў у сваіх мэмуарах: «Міхоэлса тады забілі, а забойцаў узнагародзілі». А ўжо праз чатыры месяцы пасьля забойства Міхоэлса будзе абвешчаная Дзяржава Ізраіль. Якую ня так проста будзе раздушыць пад коламі грузавіка і выкінуць на сумёт гісторыі. Ці сьпіхнуць у мора.

Здавалася б, час мусіць няўхільна аддаляць гэтыя падзеі і зрабіць іх нарэшце гісторыяй. Тыя месцы ў Менску, якія зьвязаныя з гібельлю Міхоэлса, маглі б калі-небудзь зрабіцца турыстычнымі адметнасьцямі. Або, на ўзор Гамбургу, тут мусілі б узьнікнуць свае штольпэрштайнэ, камяні, аб якія павінна спатыкацца памяць бесклапотнага мінака: яны ўбудаваныя ў вулічны брук, і на кожным — імя замучанай некалі ў горадзе ахвяры... Каб кожны мог па сваім мосьце дайсьці да таго, сталінскага Менску і падумаць пра нешта сваё. Калі-небудзь такое стане магчымым, але не цяпер. Бо і сучасны Менск, у якім так цяжка аб нешта спатыкнуцца, за апошнія пятнаццаць гадоў некалькі разоў рабіўся месцам спэцапэрацый па ліквідацыі розных «варожых шпіёнаў». Якіх да гэтага часу ніхто не знайшоў — як і саміх выканаўцаў. Тут, унізе, дагэтуль зьнікаюць людзі, і іх не адшукваюць ні на Беларускай, ні на Гарбарнай, ні ў Сьцяпянцы. Наогул, нідзе.

Затое усе ведаюць, дзе Нацыянальная бібліятэка.

# Пра сьцягі і перасьцярогі

***14 студзеня 2004 зацьверджаны новы дзяржаўны сьцяг Грузіі***

Сёньня спаўняецца роўна дзевяць гадоў з таго дня, як свой дзяржаўны статус атрымаў адзін з самых прыгожых сучасных сьцягоў у сьвеце — грузінскі. Як на мой густ, дык і самы прыгожы — пасьля беларускага, вядома. Нездарма ў іх аднолькавая колеравая гама. Цяжка сабе ўявіць, каб нейкія барбары, якім раптам не даспадобы прыйдзецца грузінская палітыка, грузінскае віно, хачапуры, чхурчхела, Мцыры ці яшчэ штосьці зь берагоў Арагвы і Куры, надумалі на арыентальны фасон публічна спаліць сьцяг Грузіі. Спаляць які заўгодна, але толькі не грузінскі. Пакрычаць і разыдуцца — бо нават у барбараў мусіць быць нейкае адчуваньне хараства. Грузінскі сьцяг зь ягонай выкшталцонай камбінацыяй колераў і крыжоў — гэта ня той сымбаль, з засені якога так і карціць уцячы, няважна куды; які ня сорамна назваць анучай і які калі да чагосьці і заклікае сваім выглядам, дык толькі да таго, каб на ім павесіцца. Грузінскім сьцягам можна толькі або любавацца, або ганарыцца — або адначасова любавацца і ганарыцца, калі ты грузін (праўда, верагоднасьць нарадзіцца ім даволі малая).

Памятаю, як тады, у 2003-м, мы шчыра радаваліся за грузінаў — як за сваіх. Потым была вайна — і грузінскі сьцяг, мала таго што прыгожы, дык зрабіўся яшчэ і сьцягам свабоды і супраціву. Пэўне ж, ёсьць за што парадавацца і цяпер, хаця, кажуць, тамтэйшая рэвалюцыя пасьпяхова зьела сваіх дзяцей разам зь іхнымі ружамі, а прэзыдэнт Саакашвілі з прыязнасьцю адгукаецца пра РБ на БТ, гуляючы ва ўсе гэтыя брыдкія гульні. Ну, ды гэта справа саміх грузінаў. Рэвалюцыя была. Новы грузінскі сьцяг прыйшоў на зьмену старому, меншавіцкаму (чамусьці прыгадваецца Ўладзімер Арлоў і «джорджыян мэншэвікс» зь ягонага тэксту пра вучобу ў БДУ). Той меншавіцкі сьцяг — чыста эстэтычна — выглядаў дзіўнавата. Спадзяюся, зьмена сьцяга — не адзінае дасягненьне Міхаіла Саакашвілі. Але, відаць, самае запамінальнае. Так ужо пабудавана чалавечае вока.



Часам я думаю, што калі б галоўны айчынны аматар чырвона-зялёных колераў узяў і вярнуў сваім падданым іхны сапраўдны сьцяг (а заадно і герб з адзінай дзяржаўнай мовай), у Беларусі не засталося б больш ніякай апазыцыі. Эстэтыка — вялікая рэч. Надышлі б часы грамадзянскай згоды і ўсеагульнай кансалідацыі. Адразу было б відаць, якая апазыцыя чаго хоча і якія ў яе насамрэч мэты. Ясна ж, як дзень, што народ беларускі толькі сьпіць і бачыць, як яму вяртаюць сьцяг і мову. У імя грамадзянскай згоды і ўсеагульнай кансалідацыі шмат хто з апантаных апазыцыянэраў пагадзіўся б заплюшчыць вочы на тое, што было, у імя таго, што будзе. І шмат хто — пераважна зь лягеру «інтуітыўных кансэрватараў» — абавязкова сказаў бы: а Рыгорыч, калі падумаць, не такі ўжо й дрэнны мужык. Мы заўжды ведалі, што ён наш. А тое, што рука цьвердаватая была — дык так было трэба, на тым этапе...

Добра, што такі сцэнар абсалютна немагчымы. Бо, здаецца, няма горшага спосабу запэцкаць свой сьцяг, чым аддаць яго ў рукі цяперашняй уладзе. І наогул, для рэалізацыі гэткага сцэнару патрабуецца, дзякуй богу, адна маленечкая, але важная перадумова: Лукашэнка мусіць быць кімсьці іншым, а не Лукашэнкам.

Але ён Лукашэнка і ніхто іншы. Плоць і кроў ад народа. Таму будзем жыць, як жылі. Любавацца грузінскім сьцягам і ганарыцца сваім. Употай. Каб ніхто ня бачыў. Ні сусед, ні валы яго, ні жонка яго, ні рабы яго, ні ягоная новая фотакамэра.

# Фокус з цыліндрам

*15 студзеня 1797 у Лёндане пачалі прадавацца цыліндры*

Усё геніяльнае — ня толькі проста, часам яно яшчэ мае цыліндрычную паверхню і дзьве паралельныя плоскасьці, якія яе перасякаюць. 15 студзеня 1797 году лёнданскі капялюшнік Гэдэрынгтан пачаў продаж абсалютна новага галаўнога ўбору. Майстар даўно задумваў ашчасьлівіць моднікаў якой-небудзь навінкай, вынікам свайго вялацякучага раману з геамэтрыяй... І вось на ягоны загад былі створаныя пробныя партыі шаўковых ромбаактаэдраў, скураных трапэцый і паркалёвых дэльтаідальных ікасітэтраэдраў — але, сем разоў адмераўшы і адзін адрэзаўшы, капялюшнік пабачыў на стале цыліндар і вырашыў на гэтым спыніцца.

Мода ёсьць гульнёй у кубікі, і калі нейкі капрызны кубік не становіцца на іншы, па ім заўжды можна стукнуць малатком. У самой форме цыліндра, якая, як вядома, зьяўляецца непрыстойна цыліндрычнай, тагачаснае грамадзтва пабачыла не абы-які выклік сабе і сваім галоўным каштоўнасьцям. А калі гэты выклік яшчэ і тырчыць на галаве, як кандзібобер... «Вы б яшчэ бідэ на макаўку насунулі, сэр»... Першы пакупнік крамы Гэдэрынгтана, які рызыкнуў зьявіцца ў абноўцы на Стрэндзе, быў арыштаваны і заплаціў немалы штраф: за парушэньне грамадзкага спакою. Можна толькі ўявіць сабе, што пагражала б небараку, калі б у яго на галаве зьявіўся дэльтаідальны



ікасітэтраэдар. Высылка на катаргу ў яшчэ не адкрытую тады як сьлед Аўстралію, ня менш. У Букінгэмскім палацы нават стварылі адмысловыя лятучыя атрады з навучэнцаў іст-эндзкіх ПТВ, якія ладзілі рэгулярныя аблавы на самых адважных лёнданскіх дэндзі і ў цёмных завулках і казённымі нажніцамі карацілі іхныя цыліндры да звычайных памераў. Таму ня дзіва, што першыя цыліндры не атрымалі шырокага распаўсюду — каму ж хацелася непрыемнасьцяў з продкамі Джоні Ротэна...

Да ўспрыманьня цыліндраў ня толькі ў выглядзе піўных бочак, але і на чалавечых галовах грамадзтва сасьпела толькі праз дваццаць гадоў. Ахвярай гэтага прызнаньня зрабіліся бабры, а таксама капялюшнікі. Бабровая скура апрацоўвалася для вырабу модных капелюшоў з дапамогай ртуці, і бедныя майстры, нанюхаўшыся яе выпарэньняў, хутка страчвалі розум і пачыналі блытаць цыліндар з цэлібатам і няпэўна ўжываць неазначальныя артыклі. Гэта з тых жудасных часоў бярэ свой пачатак ангельскі выраз «дурны, як капялюшнік». І незабыўны кэралаўскі пэрсанаж, які любіў паўтараць, што «таму, хто ў сваім розуме, я наўрад ці прысьніўся б». Бо «ёсьць краіна, якую не знайсьці нідзе на зямлі, і каб выжыць тамака, трэба быць такім вар'ятам, як капялюшнік». Цікава, што за край ён меў на ўвазе? Усё адтуль: і шапка Чэмбэрлена, зь якой ён выпусьціў некалі сваіх падробных галубоў «міру для Эўропы», і той галаўны ўбор Самага Галоўнага Буржуіна, куды, як вядома, зьмяшчалася вялікая бочка варэньня і цэлы кош пячэньня, і нямецкая чака, і каскі сучасных фокусьнікаў — на выпадак, калі фокус раптам не атрымаецца; і тое, што дагэтуль надае жакею на выездцы ваісьціну конскую сілу.

Сумую па тых часах, калі такі адмысловы ўбор не падаваўся нікому сьмешным. На старых здымках цыліндар робіць элегантным нават Ясеніна. Часам яго вельмі не хапае — калі думкі не зьмяшчаюцца ў галаве і патрабуюць больш прасторы... Але, на жаль, цяпер толькі і застаецца, што прыгадваць простую формулу: $S_p = 2\pi Rh + 2\pi R^2 = 2\pi R(h + R)$, дзе + значыць плюс, = знак роўнасьці, а ўсё астатняе ёсьць наборам нейкіх лічбаў і літар, сэнс якіх мне цяпер цяжка патлумачыць.

# Тры адценьні белага

*16 студзеня 1916 Гіндэнбург прызнае беларускую мову*

16 студзеня 1916 году нямецкі фэльдмаршал Гіндэнбург, галоўнакамандуючы кайзэраўскімі войскамі на Ўсходнім фронце, той самы, які яшчэ праз шаснаццаць гадоў прызначыць Гітлера райхсканцлерам, прызнаў існаваньне беларускай мовы. На акупаваных кайзэраўскім войскам тэрыторыях яна набыла афіцыйны статус, які трохі падпсаваў баявы настрой прыхільнікаў «адзінай і непадзельнай». Ведалі б яны, што тут пачнецца праз два гады...

Нашая мова тады называлася па-нямецку прыгожа: weißruthenische Sprache. Ня тое, што цяпер, калі пераважная большасьць немцаў, ігнаруючы афіцыйна зацьверджаны, але чужы ім тэрмін «Belarussisch», клічуць яе звыклым і панылым словам «Weißrussisch». Нягледзячы на ўсе намаганьні, прышчапіць немцам звычку казаць «Беларусіш» пакуль ня надта ўдаецца. Не ў апошнюю чаргу таму, што сама сучасная Беларусь бяз русішу сябе не ўяўляе. Ня надта прыемна ўсьведамляць сябе носьбітам загадкавай «беларасейскай» мовы, якая ўсім сваім нутром лямантуе, што так называцца можа хіба нейкі дыялект. Вайсрутэніш — іншая справа. Прыгожае, паэтычнае слова, да таго ж у сто разоў больш карэктнае за ўсе іншыя азначэньні — бо, як руплівы вучоны, яно само разьмяжоўвае паняткі «Русь» і «Расея», якія ў гермэтычнай расейскай сьвядомасьці неяк неўпрыкмет зьліпліся, не раўнуючы ледзянцы.



Летась у лістападзе падчас сваіх чытаньняў і дыскусій у нямецкім Грайфсвальдзе я, набраўшыся сьмеласьці, прапанаваў усім: публіцы, калегам і мадэратару — называць маю краіну «Вайсрутэніен», а мову «Вайсрутэніш». Здарылася дзіва: людзі паспрабавалі — і ў іх атрымалася. Ад тых вечароў засталося адчуваньне нейкай натуральнасьці — настолькі гарманічна гучала прапанаваная назва ў вуснах нямецкамоўных. Усё раптам неяк стала на свае месцы. Здаецца, ім і самім было значна прыемней вымаўляць «Вайсрутэніш» і «Вайсрутэніен». Фанэтычна гэта словы чыста нямецкія — і да таго ж адпавядаюць старой і шляхетнай традыцыі, асьвечанай аўтарытэтнымі ў навуковым сьвеце людзьмі.

І што, уласна кажучы, з таго, што словы «Вайсрутэніен» і «Вайсрутэніш» ужывалі ў дачыненьні да Беларусі і яе мовы нацысцкія акупанты? Ніхто не забараняе слова «Polen», таму што так нацысты называлі Польшчу. Сэрбію немцы, як і тады, называюць Serbien, Аўстрыю — Österreich, Францыю — Frankreich, Данію — Dänemark, а Славаччыну — Slowakei. І ніхто ня бачыць праблемы.

Усё гэтае непрыманьне назвы «Вайсрутэніен» падазрона нагадвае дурны і ірацыянальны страх перад бел-чырвона-белым сьцягам.

...Аднойчы Менск наведалі — упершыню — мае нямецкія сябры М. і Ё. У нейкай кнайпе гаворка непазьбежна зайшла пра нашыя гістарычныя праблемы. Як яны выглядаюць зь нямецкага боку, і як зь беларускага. І тут, сербануўшы піва,

я нечакана сказаў тое, пра што ня раяць гаварыць уголас ні тут, ні там.

Гэта было ўсяго толькі кароткае пытаньне, ад якога галава баліць значна больш, чым ад піва з гарэлкай.

Чаму нямецкія нацысты, якіх, як і любых нацыстаў, я шчыра ненавіджу і якім заўжды была адна дарога — у пекла, адчынялі тут нацыянальныя школы і прызнавалі нашу мову? А расейскія браты, якія сьмяротна крыўдзяцца на слова «акупанты», увесь час вынішчалі тут усё беларускае?

Нельга так ставіць пытаньне. Непаліткарэктна!

Але пытаньне ёсьць. І ад яго нікуды не падзецца. Іншая справа, што для адказу на яго трэба трохі перайначыць створаную ў сябе ў галаве мадэль сьвету. Да чаго ні немцы, ні пагатоў беларусы пакуль не гатовыя. Ці дагэтуль?

«Немцам гэта было выгодна, каб падтрымаць ваш сэпаратызм...» — няўпэўнена сказаў Ё. — «Што ў першую, што ў другую вайну...» Было відаць, што ён сам адчувае ўсю абразьлівасьць свайго меркаваньня. Сьлізкая тэма. Занадта гладкая гісторыя, дзе так лёгка пасьлізнуцца і заехаць не туды. Розьніца паміж незалежнасьцю і сэпаратызмам — прыкладна такая самая, як паміж «Вайсрутэнішам» і «Вайсрусішам». Але ў параўнаньні з турызмусам усё гэта — дробязі жыцьця.

# Як закладнік закладніку

*17 студзеня 395 была падзеленая Рымская імпэрыя*

Каму млын, каму асла, а каму ката ў ботах... Рымскі імпэратар Тэадосій вырашыў не пераймацца перад сьмерцю такімі складанымі пытаньнямі і ўсё падзяліў на два — і млын, і асла, і ката; у выніку толькі катовы боты засталіся пры гэтым цэлыя. Пагатоў і сыноў Тэадосій меў толькі двух: Ганорыя і Аркадыя. 17 студзеня 395 году імпэрыя была падзеленая: Ганорый атрымаў левы бот, заходнюю частку, Аркадый правы — усходнюю. Пасеклі наш край напалам — маглі б уздыхнуць рымскія грамадзяне, а ўздыхаць было ад чаго. З хуткасьцю восеньскага ветру, які імчыць з Рыму да Канстантынопалю, некалі наймагутнейшая, але даўно ўжо саслабелая дзяржава панеслася насустрач свайму поўнаму і канчатковаму заняпаду.

Аркадыю на момант атрыманьня правага бота было адзінаццаць, Ганорыю, калі ён узяў у свае рукі левы — васямнаццаць гадоў. Настаўнікам Аркадыя быў гал Руфін, настаўнікам Ганорыя — вандал Стыліхон. Абодва бравыя мужы няспынна інтрыгавалі адзін супраць аднаго, і не было для іх большай радасьці, чым даведацца, што няўрымсьлівыя і вечна галодныя барбары пабілі, пакралі ды папсавалі нешта ў суседа. Руфіна неўзабаве забілі, а Стыліхону давялося ўсё жыцьцё супрацьстаяць вэстготам. Кароль вэстготаў Алярых ня раз падступаўся да Рыму і ня меў да вечнага гораду ні павагі, ні сантымэнту. Вядома, што калі рымскія пасы спрабавалі запалохаць яго былой веліччу, намякаючы, што ў Рыме хапае жывой сілы, якая здольная супрацьстаяць ягоным ордам, Алярых насьмешліва адказаў са сваім гоцкім акцэнтам: «Чім густэйшы трафа, тым лягчей яе касыт». Удаваў зь сябе мірнага земляроба, фашыст... Ганорый, які хаваўся то ў Міляне, то ў Равэне, даўно забыўся пра колішнюю сталіцу. Урэшце барбары ўсіх перамаглі і пайшлі далей, паабяцаўшы вярнуцца. Рым разваліўся, як Савецкі Саюз, і як адзіную імпэрыю яго ніхто ўжо болей не прыгадваў — апрача гісторыкаў.



Цяжка быць малым зьвярком у лесе, дзе палююць імпэратары. Ніхто ніколі не пытаўся ў чалавека, дзе ён хоча жыць, якую ўладу мець і кім звацца. Калі ты не Ганорый і не Аркадый, твая думка нікому не цікавая. Чалавек — закладнік дзяржавы, якой бы дэмакратычнай яна сябе ні называла і якія б рэфэрэндумы раніцай у нядзельку ні ладзіла. Сёньня ў цябе на галаве стаіць нечы правы бот, а заўтра левы. Сумнай бясконцай чарадой, як вечныя

ўцекачы, мы рухаемся праз палітычную гісторыю нашага сьвету. Нас тут багата: ад фракійцаў і грэкаў, зулусаў, коса і індзейцаў да сылескіх немцаў, украінцаў, беларусаў, палякаў, татараў... Некаторым насельнікам колішняй Югаславіі давялося ў XX стагодзьдзі ўсяго за непрыстойна кароткі час зьмяніць некалькі ня тое што пашпартоў, але нацыянальнасьцяў і веравызнаньняў: сэрбаў пры Павэлічы гвалтам заганялі ў каталіцтва і рабілі харватамі, сэрбы харватаў лічылі д'ябальскім адродзьдзем, а басьнійцаў туркамі і здраднікамі. А потым усе раптам разам сталі югаславамі і атэістамі. Сапраўдная мараль палітыка — мараль гульца ў манаполію. Удаючыся ў тонкасьці і думаючы пра розных людзішак, гульні ня выйграеш. Толькі з папяровай гульні сочыцца сапраўдная кроў. Кожны падзел рэжа па жывым найперш чалавека, а не зямлю. Ня дзіва, што самым адчайным з нас падаецца: лепш быць вольным готам і рабаваць тое, да чаго яшчэ не дабраліся рукі нечых каранаваных дзяцей. Калі гісторыя і вучыць чамусьці карыснаму, то толькі знакамітаму:

«Жні там, дзе ня сееш». А як інакш ня быць цацкаю ў чужых руках?

Вось за гэта я не люблю палітыкаў. Усіх.

Ты нарадзіўся грамадзянінам Рыму, Саюзу Савецкіх Сацыялістычных. За цябе ўсё вырашылі — і тым, хто вырашаў, здавалася, гэта назаўжды. Вядома, у сем гадоў ты горда паўтараў: civis romanus sum! — але яшчэ празь сем гадоў ты ўжо цьвёрда ведаў, што навакольны Картаген мусіць быць зруйнаваны. І вось ты зрабіўся грамадзянінам незалежнай Рэспублікі Беларусь — і ганарыўся гэтым. Тут ужо табе здавалася, што гэта назаўжды, і ніякія маскоўскія Ганорыі на пэнсіі нам ня страшныя. А цяпер раз на год ты даведваешся, што правы бот трэба надзяваць на левую нагу, а левы на правую. І што так правільна і інакш быць ня можа. Бо ты, небарака, яшчэ, аказваецца, і падданы нейкага Саюзнага гасударства.

Цікава, дзе гэта?

# Казус бэлькі

*18 студзеня 2008 рэдактар Зьдзьвіжкоў асуджаны за карыкатуры на прарока Мухамада*

18 студзеня 2008 году беларуская Фэміда, надзеўшы чадру, вырашыла трохі адпачыць і пазаймацца правасудзьдзем. Праўда, чадру ад паранджы яна не адрозьнівала, таму нацягнула для вернасьці яшчэ і хіджаб зь нікабам, прыклеіла сабе бараду да кален, а ў рукі ўзяла меч, прысланы ёй надоечы ў падарунак роднай сястрой з Савудаўскай Арабіі. У такім выглядзе Фэмідзе нічога ня трэба было баяцца — усё адно не пазнаюць. Так, нікім не пазнаная, яна і асудзіла ў гэты дзень выпускаючага рэдактара газэты «Згода» Аляксандра Зьдзьвіжкова на тры гады калёніі ўзмоцненага рэжыму за перадрук карыкатур на прарока Мухамада, апублікаваных у адной з дацкіх газэт. Праўда, неўзабаве экзатычныя апранахі Фэмідзе давялося зьняць, бо ў такім выглядзе ўсё ж ня надта зручна ганяць пратэстантаў праваслаўным венікам — і Зьдзьвіжкова выпусьцілі.

Прысуд рэдактару «Згоды» стаў самым суровым сярод усіх, вынесеных па выніках таго карыкатурнага скандалу, што страсянуў сьвет у 2005-м і паразьбіваў шклопакеты ў дацкіх амбасадах. Праўда, на момант арышту Зьдзьвіжкова



скандал быў ужо даўно сьціх. Прагучалі пратэсты, пагрозы і выбачэньні, была ацэненая з улікам інфляцыі галава галоўнага кукрынікса. Тут, здавалася б, і казусу канец. Але, як вядома, у Беларусі ніводзін скандал ня можа сьціхнуць бяз санкцыі пракурора. Выставіўшы наперад Фэмідзіны грудзі, уся краіна ўстала супраць распальваньня рэлігійнай варажнечы. І тая неяк адразу ўзяла і патухла. Нібыта і не было.

Нічога дзіўнага ў гэтым, вядома ж, няма. Каму ж яшчэ, як не РБ, гэтаму аплоту ісламскага сьвету, было на той момант заступіцца за гонар прарока. Цяжка ўсё ж жыць пад толькі крыху перарobленым іранскім сьцягам: кругавая парука колераў. Тую публікацыю ў «Згодзе» дзяржава абвясьціла правакацыяй супраць сябе — чым канчаткова расставіла прыярытэты: камусьці вельмі карцела падацца большым мусульманінам за самага прававерная суніта. Навошта: відавочна, каб патрэбныя дзяржаве прававерныя суніты ў патрэбны момант прыкінуліся трошкі праваслаўнымі. Роўна настолькі, каб стымуляваць гандаль. Бо што такое, урэшце, для дзяржавы тры гады чалавечага жыцьця: разьменная адзінка, лічба на дробнай банкноце. Грошы ня пахнуць: ні нафтай, ні сьвіной крывёй, ні чалавечай.

Нават муфцій Варановіч, афіцыйны пазоўнік па справе Зьдзьвіжкова, быў зьдзіўлены такой празьмернай спагадай беларускага суду да пачуцьцяў добрых мусульманаў. Муфцій жа хацеў толькі нагадаць пра павагу — але пазоў зрабіўся добрай нагодай для закрыцьця яшчэ адной незалежнай газэты. Нагодай, якую так чакалі там, наверсе. Пакуль Фэміда адпачывала ў Эгіпце і Турцыі. Як паказвае практыка, судзьдзёй у Беларусі можна стаць, нават валодаючы інтэлектам бэлькі і маральлю цьвіка, пасада даецца за простую лаяльнасьць. Таму бэлька і падае на галаву тым, каму загадана.

Кажуць, пасьля абвяшчэньня таго выраку Аляксандр Зьдзьвіжкоў прамовіў: «З намі Бог і хрэсная сіла!» Што ў гэтым выпадку прагучала прыкладна ў тым самым сэнсе, што і «Алах акбар».

# Дзень №

***19 студзеня 1963 адбыўся першы выступ Бітлз на тэлевізіі***

Indra, Top Ten, Kaiserkeller... Гамбурскія клюбы, якія павырасталі на Рэпэрбане пасьля вайны, калі так хацелася зноў кахаць, выпіваць і танчыць-танчыць-танчыць. Якія б навамодныя гіпы і гопы ні гойсалі сёньня ў іхных сьценах, у гісторыі яны застаюцца найперш як месцы баявой славы бітлоў. Як, зрэшты, і ўвесь Рэпэрбан, вуліца, дзе ніколі не канчаюцца грошы і ніколі не спыняецца пагоня за асалодай. Тут ёсьць завулак, дзе пабочным жанчынам зьяўляцца забаронена, каб не ствараць канкурэнцыі прафэсійным грэшніцам. Тут у мірным суседзтве суіснуюць гамбурская стомэтроўка і самы стары ў горадзе паліцэйскі пастарунак, чарада сэкс-шопаў і тэатар апэрэты, музэй парнаграфіі і — Бітлз. Тут ёсьць цэлая плошча іхнага імя. Клюб Kaiserkeller месьціцца за некалькі дзясяткаў мэтраў ад Рэпэрбану, на вуліцы Große Freiheit — а літаральна насупраць царква: усё для зручнасьці грэшніка. Менавіта ў Kaiserkeller Бітлз упершыню выступілі на вялікай сцэне, менавіта тыя 500 гадзін, якія яны адыгралі тут, пад чырвонымі гамбурскімі ліхтарамі, загартавалі іх для далейшае славы. Адсюль яны вярнуліся ў Брытанію, каб на пачатку 60-х заваяваць Лівэрпуль, потым усю краіну, а потым і сьвет.



19 студзеня — наогул асаблівы дзень у бітла-календары. У гэты дзень у 1963-м чацьвёрка зьявілася ў тэлеперадачы «Thank your lucky stars» на брытанскай тэлевізіі (сама перадача была запісаная на тыдзень раней) і зладзіла сапраўдны фурор. А 19 студзеня 1967-га на Эбі Роўд быў пачаты запіс знакамітага бітлоўскага гіта «A Day in the Life». Таго самага, які закрывае «Сяржанта Пэпэра».

Гэта загадкавая кампазыцыя, адна з галоўных прыступак, па якіх Бітлз зьдзейснілі сваё падарожжа ў Залюстроўе. Тут ня толькі гучыць будзільнік, але і ствараецца эфэкт сапсаванага тэлефона: шмат хто са слухачоў пачуў у песьні словы «Я пахаваў Пола», якіх там не было. Дзіўны тэкст, значэньне якога літаратуразнаўцы расшыфроўваюць дагэтуль. Да таго ж з намёкамі на наркатычныя вобразы, ад якіх бітлы, як водзіцца, дваццаць гадоў адхрышчваліся, каб потым стомлена прызнацца: так, было, чаго ўжо тут. Тут жывуць шматзначныя барабанныя зьбіўкі, гераічная гітара і статак тлустай атанальшчыны, на запіс якой пайшло больш часу, чым на ўвесь першы альбом гурту. І ўсё гэта вянчаюць дэманічны голас Ленана і бадзёры, як сталінскі марш, голас Макартні. Адзін дзень з жыцьця за пяць хвілін. Многа гэта ці мала, ведае, напэўна, толькі Людміла Гурчанка.

# Правапіс і левапіс

*20 студзеня 1892 нарадзіўся Браніслаў Тарашкевіч*

Ёсьць тыя, хто піша зь мяккімі знакамі, і ёсьць тыя, хто іх выкрэсьлівае. Для ўсіх астатніх ніякай праблемы, здаецца, не існуе.

І ўсё ж.

Сёньня — дзень нараджэньня Браніслава Тарашкевіча, чалавека, імем якога, уласна, і названы той правапіс, якім я пасьлядоўна карыстаюся ўжо больш за дваццаць гадоў. Фактычна, з таго самага дня, як вырашыў гаварыць і пісаць па-беларуску. І менавіта сёньня... Вось жа, не задумваючыся паставіўшы толькі што не прызнаны дзяржаваю мяккі знак, я падумаў пра іншае: пра тое, што, магчыма, калі б ня колішняе вяртаньне тарашкевіцы, дык, можа, мой пераход на беларускую адбыўся б значна пазьней. Надта ўжо яна вабіла тады — прыгожая, зь мяккім голасам, бяз школьнага, калгаснага акцэнту, уся такая загранічна-несавецкая і разам з тым наша, як ніякая іншая. Яна вярнулася, каб разьяднаць у імя яднаньня — і ў яе атрымалася.

Правапіс — пытаньне ня толькі палітычнае, але і эстэтычнае. Правапіс не абавязкова мусіць адлюстроўваць фанэтычныя асаблівасьці, але ён мусіць быць прыгожым. На жаль, без палітыкі тут таксама нікуды. Калі мова — гэта дыялект, у якога ёсьць войска і ваенна-марскі флёт, дык правапіс — гэта тое, што застанецца, калі войска і флёт пацярпяць паразу.

Сам Тарашкевіч ні пра якую такую тарашкевіцу ня ведаў, для яго гэта быў незавершаны праект адзінай беларускай артаграфіі, аўтар якой толькі парадаваўся б новым прапановам і дапрацоўкам. То бок аніяк ня догма, хаця і адбывалася ўсё ў такім сабе беларускім Догвілі. Але праект Тарашкевіча, нібы сапраўдная Кніга, пачаў пасьля гібелі аўтара сваё, ужо зусім незалежнае ад яго жыцьцё. Ня ведаю: для мяне карыстацца правапісам, навязаным калісьці беларусам з мэтай русыфікаваць іхную мову, прыніжальна — а карыстацца правапісам той улады, якая расстраляла ня толькі Тарашкевіча, але і тысячы, дзясяткі тысяч іншых беларускамоўных, прыніжальна ўдвая. Удалая гэта назва — наркамаўка, адтуль усё ідзе, ад наркатычнай апантанасьці іхных наркаматаў... Ад іхных нормаў — абавязковых для ўсіх. Ад іхнай нармальнасьці там, дзе патрэбна было натхненьне і божая іскра. Наркамаўка — нармальны такі савецкі правапіс. Тарашкевіца — мастацтва.



Не ідэальнае, вядома — як і любое мастацтва, якое зь нічога стварае сьвет. Мадэрнізаваная тарашкевіца — аптымальны на сёньня праект правапісу, цалкам здатны да выкарыстаньня ва ўсіх сфэрах: ад любоўных цыдулак і напісаньня мацерных словаў на плоце да рэклямы парфумы і інтымных паслуг. Ну, і для літаратуры, якая ўсё гэта ў сабе абʼядноўвае і пераплаўляе. Калі нешта і выглядае сёньня архаічным, дык гэта наркамаўка, панылая і пошлая, як пляскаты жарт. Той імпэт і тая адсутнасьць уласнай годнасьці, зь якімі самыя папулярныя зь непапулярных выданьняў кінуліся ў свой час пераходзіць на наркамаўку, каб ня блытаць «бедны наш народ», не выклікае нічога, апрача ціхага шкадаваньня. Бедны народ свой выбар зрабіў, і зрабіў яго на карысьць расейскай. Пры чым тут тарашкевіца? Ну няўжо ж, прачытаўшы «сьнег», беларус падумае, што гэта значыць «гной»?

Наогул, я даўні і перакананы прыхільнік беларускай лацінкі. Ня толькі таму, што за ёй будучыня, і ня толькі таму, што гэта апошні сродак нешта зьмяніць і захаваць мову. Лацінка — гэта дзьверы туды, адкуль мы калісьці даўно самі сябе выгналі. Тарашкевіца — свайго кшталту кірылічны кампраміс паміж імкненьнем да лацінкі і яе мізэрнымі на сёньняшні дзень магчымасьцямі.

Клясыка, як вядома, не старэе. Я карыстаюся клясычным правапісам. А вы там пішыце так, як вам хочацца. Так, як вам загадаюць — сэрца, падручнік або дзяржава. Наркамаўкай, лукашэнкаўкай, лімаўкай, сталінаўкай, звычкай... А я ўжо занадта стары, каб нешта мяняць, дык неяк буду і далей панашаму, па-беларуску. Гэта родную мову трэба вучыць усё жыцьцё, з правапісам яно неяк хутчэй.

*Hier stehe ich, ich kann nicht anders.* Такі ў мяне плЯн, такое перакананЬне.

# Дзякуй, доктар

***21 студзеня 1815 нарадзіўся стаматоляг, які ўпершыню выкарыстаў анэстэзію***

Дзе праходзіць мяжа чалавечай цярплівасьці? Як ні дзіўна, за дзьвярыма кабінэта дантыста. Цягам некалькіх тысячагодзьдзяў стаматолягі і прымкнулыя да іх кавалі, цырульнікі і шаманы гераічна трывалі ўсе тыя крыкі і праклёны, якімі іх шчодра ўзнагароджвалі ўдзячныя пацыенты. Але і на дзеўку грэх бывае: у сярэдзіне XIX стагодзьдзя стаматолягам нарэшце надакучыў гэты няспынны лямант. У цёмныя сутарэньні самай інквізытарскай галіны мэдыцыны спусьцілася анэстэзія — уся ў белым, як анёл, і лёгкая, як галюцынацыя.

21 студзеня 1815 году нарадзіўся Горас Ўэлс, амэрыканскі лекар, якому першаму прыйшло ў галаву скарыстаць закіс азоту для таго, каб палегчыць пакуты пацыентаў. Як і ўсе найвялікшыя адкрыцьці, гэтае адбылося зусім выпадкова. Ці не зусім — Ўэлс, дарма што дантыст, заўжды вельмі шкадаваў тых, каму даводзілася разяўляць перад ім рот... І вось у 1844 годзе яму давялося прысутнічаць на адной лекцыі, дзе дэманстравалася, як нейкі ачмураны вясёлым газам небарака жыццярадасна драпаў уласную скуру — рыхтык які-небудзь сьвяты пакутнік. І тут наш доктар сур'ёзна задумаўся.



Ужо на другі дзень Ўэлс паспрабаваў эфэкт газу на сабе — папрасіўшы калегу, пакуль ён сам будзе пад кайфам, выдзерці яму зуб мудрасьці. Апэрацыя прайшла пасьпяхова, газ зрабіў сваю справу, Ўэлса чакала слава — але і канкурэнты ня спалі. У пошуках усё лепшых і лепшых анэстэтыкаў доктар Ўэлс, які кожны зь іх спрабаваў на сабе, пакрысе закінуў сваё рамяство, засяродзіўшыся выключна на дасьледаваньні наркозу. Ржавелі ў куточку любімыя абцугі, панура маўчала некалі стракатлівая бормашына... І ўрэшце ў галаве ў няшчаснага доктара нешта зламалася. Аднойчы сярод белага дня ён пырснуў выпадковаму мінаку ў твар кісьлатой, прычым з самых высакародных памкненьняў — вырашыўшы, відаць, што пасьля такой моцнай анэстэзіі выдаленьне зуба падасца небараку камарыным укусам. Мінак, які сьпяшаўся на спатканьне, не ацаніў дабрыні доктара і чамусьці моцна пакрыўдзіўся...

Ўэлс трапіў у вар'ятню — і тым ня менш ягонае імя засталося назаўжды ўпісанае ў крывавую гісторыю стаматалёгіі. Сьвет не бяз добрых людзей — нават калі на іх няма белых халатаў. Нізкі паклон вам, містэр Ўэлс, ад усіх бедных грэшнікаў, чые распухлыя дзясны ў гэты момант адыходзяць ад замарозкі. Хто ведае: калі б ня вы, можа, і да яе ніколі б не дадумаліся.

# За што яго было забіваць

*22 студзеня 1969 Віктар Ільлін робіць замах на Брэжнева*

Віктар Ільлін вырашыў забіць Леаніда Брэжнева. А вось Леанід Брэжнеў Віктара Ільліна забіваць зусім не зьбіраўся — па праўдзе кажучы, ён нават ня ведаў, хто гэта такі. Але нават ня ведаючы, даў Віктару Ільліну бясплатнае жытло, адукацыю, мэдыцыну і мірнае неба над галавой. Вось які ён быў, Леанід Брэжнеў. За што ж яго было забіваць?

Віктар Ільлін быў малодшы лейтэнант. А Леанід Брэжнеў быў генэральны сакратар. Леанід Брэжнеў сам быў некалі малодшым лейтэнантам, а Віктар Ільлін, калі б захацеў, сам мог бы стаць генэральным сакратаром. У краіне Леаніда Брэжнева для ўсіх былі роўныя магчымасьці.

Віктар Ільлін захапляўся менчуком Лі Гарві Освальдам. «Адзін стрэл — і славуты на ўвесь сьвет». А Леанід Брэжнеў захапляўся сам сабой. Дагэтуль невядома, што лепш.

Віктар Ільлін уцёк са сваёй вайсковай часьці з-пад Ленінграду і прыляцеў 22 студзеня 1969 году ў Маскву. А Леанід Брэжнеў жыў у Крамлі і нікуды адтуль не ўцякаў. Бо нікога ён не баяўся. Хіба што касманаўтаў трошачкі — бо ніхто ня ведае, як яно там наверсе можа адбыцца.



Уцякаючы, Віктар Ільлін скраў два пісталеты Макарава і патроны да іх. А Леанід Брэжнеў нічога ня краў. Яму народ усё сам аддаў. Добраахвотна.

Віктар Ільлін пераапрануўся ў міліцэйскую форму і прабраўся ў Крэмль. А Леанід Брэжнеў акурат сабраўся адтуль ненадоўга выехаць. Каб паглядзець, як жывуць такія, як Віктар Ільлін. Можа, падказаць што, дапамагчы. А Віктара Ільліна ніхто не хацеў слухаць.

Віктар Ільлін даведаўся, што Леанід Брэжнеў заўжды едзе ў другой машыне. Таму ён прапусьціў першую. А Леанід Брэжнеў пасадзіў у другую машыну касманаўтаў. Такі ён быў чалавек, Леанід Брэжнеў. За што яго было забіваць?

Віктар Ільлін прапусьціў першую машыну, выйшаў да другой і выпусьціў 11 куляў у яе лабавую шыбіну. А Леанід Брэжнеў спакойна выехаў праз іншую браму на трэцяй машыне.

Віктар Ільлін хацеў забіць Леаніда Брэжнева, а страляў у касманаўтаў Лявонава, Мікалаева, Берагавога і касманаўтку Церашкову. А Леанід Брэжнеў ні ў кога не страляў. Такі ён быў чалавек. За што яго было забіваць?

Віктар Ільлін забіў кіроўцу машыны, у якой ехалі касманаўты, і цяжка параніў міліцыянта, які кінуўся яму напярэймы. Касманаўты атрымалі лёгкія пашкоджаньні. А Леанід Брэжнеў — ні драпіны.

Добра мець уласных касманаўтаў.

Віктара Ільліна прызналі хворым. А Леаніда Брэжнева здаровым. Дагэтуль невядома, што лепш.

Рыхтуючыся зрабіцца тэрарыстам, памятай: страляючы ў Леаніда Брэжнева, ты можаш страляць у Віктара Ільліна. Ці наогул у Валяніціну Церашкову. За што іх забіваць?

***

Божанька столькі разоў ратаваў Гітлера, што Гагарын паляцеў у космас.

# Самае сіняе мора

***23 студзеня 1960 людзі спускаюцца на дно Марыянскай западзіны***

23 студзеня 1960 году ўрачысты хруст фальгі, у якую былі загорнутыя дзьве чакалядкі «Нэстле», абвясьціў пра канчатковае скарэньне чалавекам марскіх глыбіняў. Швайцарац Жак Пікар і амэрыканец Дон Ўэлш на батыскафе «Трыест» спусьціліся на самае дно Марыянскай западзіны і падсілкаваліся там чым бог паслаў. З таго моманту, як апарат пачаў пагружэньне, мінула больш за чатыры гадзіны — дастаткова, каб адчуць лёгкі голад. Які і пад ціскам 1100 бар за бортам ніяк не жадае мяняць пол і ператварацца ў цётку. Калі б адважным вучоным прыйшло ў галаву скараць сьвет, так бы мовіць, у вышыню, яны б луналі ў гэты момант недзе над Эвэрэстам. Аднак, справядліва разважыўшы, што вышыня — панятак умоўны, Пікар і Ўэлш далі нырца ў глёбус, ды такога, што ледзь ня выскачылі з другога боку плянэты.

На месцы Пікара і Ўэлша паўночнакарэйскія дасьледнікі, мусіць, сталі б на калені і падзякавалі б Кім Ір Сэну, які акурат у тым годзе кіраваў агульным сходам партарганізацыі сяла Чхонсан, за падтрымку і нястомны клопат. Французы... Не, пра французаў лепш ня будзем. Расейцы, відавочна, адкаркавалі б прызапашаную гарэлку і ўпіліся б у мат, так што падняць іх назад было б ужо немагчыма. Ну, а беларусы, відаць, адкаркавалі б сам апарат, каб зладзіць у западзіне імправізаваную рыбалку. Пагатоў і тут, на прыдоньні сьпіннога мозгу плянэты, былі знойдзеныя жывыя арганізмы — напрыклад, гэтыя дзіўныя пляскатыя рыбіны, што павольна кружлялі вакол замерлага батыскафа...



«Трыест» апускаўся на дно больш за чатыры гадзіны, а на пад'ём часу спатрэбілася амаль на гадзіну меней. Адкуль ён узяўся? Зь якіх фантазій і мараў? А вось тут можна і пра французаў. Хаця б пра аднаго — пра Жуля Вэрна, імя якога так ня хочацца скланяць. Я ўпэўнены, што Пікар і Ўэлш чыталі яго — у тым узросьце, калі трэба. Усё пачынаецца зь дзіцячых кніг, прачытаных зімовым вечарам, з жаданьня трапіць туды, пад вокладку. З наўтылюсаў і вандроўнікаў па часе. Зь вечнага покліч таямніцы. З гіпнозу глёбусаў і картаў.

Самае сіняе месца на мапе. Злавесна і прывабна сіняе. Мірны блакіт згушчаецца да пагрозьліва-цёмнай хмары, пляма, выцягнутая, як месца караблекрушэньня, як вір забыцьця, як застылая штармавая хваля. Дзьверы ў таемны пакой, сховішча Атлянтыды. Вада, якая забівае. Проста вада. Шмат вады.

«Трыест» правёў у самым глыбокім месцы плянэты ўсяго дваццаць хвілін. І гэтыя хвіліны рыхтаваліся некалькі сотняў тысяч гадоў. Я думаю пра тое, ці адчувалі яны адзіноту там, у глыбіні? Чым быў іхны страх — страхам вышыні ці страхам сьмерці? Як гэта: ведаць, што самае сіняе месца на мапе ахутвае цябе і сьціскае ў сваіх дужых, задушлівых абдымках? І яшчэ думаецца чамусьці пра тое, што гэты чакаляд, які трошачкі падтаваў у іхных пальцах, і хруст гэтай фальгі, напэўна, надавалі ім спакою — і пакуль яны клалі яго ў рот і хрусьцелі фальгой, іх страхавала ўсё чалавецтва. Нават калі яно само пра гэта і не здагадвалася.

# Варажба на тары

*24 студзеня 1935 у амэрыканскіх крамах зьяўляецца піва ў бляшанках*

24 студзеня 1935 году ў ЗША зьявілася ў продажы Піва ў Бляшанках. Першымі гатункамі піва, зь якімі абышліся такім бесчалавечным чынам, зрабіліся «Krueger's Finest Beer» і «Krueger's Cream Ale». А першыя бляшанкі для яго выраблялі́ся са сталі і адкрываліся, як звычайныя кансэрвы. Як і любы жывы арганізм, калі яго засунуць у цёмны сталёвы цыліндар, дзе няма ні тэлевізара, ні вайфаю, піва ў такіх бляшанках хутка псавалася, таму пажадана было выпіваць яго адразу пасьля набыцьця. Але і гэта было няпроста, бо расчыніць такую бляшанку аказалася справай, падобнай да працы сапёра. Які, як вядома, памыляецца толькі аднойчы.

Ды нават гэта не спыніла пераможнага шэсьця Піва ў Бляшанках спачатку па Амэрыцы, а потым па ўсёй плянэце. У 1958 годзе на Гаваях прыдумалі замяніць сталь алюмініем, а неўзабаве ў Пітсбургу нейкі сапёр дапяў да ідэі зрабіць на бляшанцы адмысловы кляпан. У такім выглядзе Піўная Бляшанка дажыла да нашых дзён і, відавочна, будзе існаваць нават тады, калі нам ужо ня будзе хацецца ні піва, ні да піва. Хаця, цалкам магчыма, людзі, якія вераць у замагільны сьвет, з такой фармулёўкай не пагодзяцца. Бо і ў курортных райскіх садах, і ў ліцейцы лютага пекла бляшанка халоднага піва будзе як ніколі дарэчы. Пагатоў рабіць крыва тое, што прадракае аматару піва беларуская народная прымаўка, там ужо не давядзецца. Замагільны сьвет не прадугледжвае прыбіральняў.

Вось жа, хацелася напісаць: «запацелая бляшанка халоднага піва», але мова неяк спакваля супраціўляецца такому выразу. Так ужо павялося, што пры слове «запацелае» людзі бачаць не алюмініевы цыліндар і нават ня міс Беларусь у лазьні, а выключна шкло. І ўжо тады, калі яго працерці і добра прыгледзецца, можна пабачыць і прыгажуню, і бляшанку. І пажадана і тое, і другое не ў адзінкавым экзэмпляры. І можна бяз хлеба. Падыдуць салёныя арэшкі і сушаная рыба. Піўная бляшанка — сумны апатэоз жалезнага веку. Чалавек пачаў з таго, што зрабіў з жалеза сякеру і зброю. Потым прыйшла чарга іншых карысных прадметаў. Дайшоўшы да вынаходніцтва піўной бляшанкі, ён разгубіўся, каўтануў зь яе і ўзяўся за самога сябе. Так на сьвеце зьявіліся робаты. І што такое кампутар — як не ўдасканаленая, бяздонная піўная бляшанка, у якой боўтаецца чалавечы розум? Паменшаная да зручных памераў бочка Дыягена. Адкрывай і пі.



# Мясьнік у камандзіроўцы

*25 студзеня 1983 у Балівіі арыштаваны Кляўс Барбі*

25 студзеня 1983 у Балівіі быў арыштаваны Кляўс Альтман, сямідзесяцігадовы стары са зьнешнасьцю доктара філязофскіх навук і сківіцай капітана дальняга плаваньня. Ніякім філёзафам ён, вядома, ня быў, а вось адно дальняе плаваньне яму калісьці сапраўды перажыць давялося: у 1951 годзе былы гаўптштурмфюрэр СС Кляўс Барбі, ратуючыся ад немінучай расплаты, эміграваў у Лацінскую Амэрыку, дзе працягваў працаваць па спэцыяльнасьці — дапамагаў балівійскім дыктатарам мучыць народ і змагаўся з партызанамі. Пры ягоным удзеле быў забіты Чэ Гевара — задоўга да таго, як гэта зрабіла масавая культура.

Спэцыяльнасьцю забіваць і мучыць Кляўс авалодаў падчас вайны, практыкуючыся пераважна на французах. У Ліёне і ваколіцах добра запомнілі «мясьніка», адказнага за масавыя расстрэлы і катаваньні, якія Кляўс праводзіў з імпэтам сапраўднага энтузіяста сваёй справы. Мянушкай «Мясьнік» Барбі вельмі ганарыўся і шчыра не разумеў, што ў ёй кепскага. «Гэта была мая работа» — вось і ўсё, што можна было прачытаць на ягоным твары зь філязофскім ілбом і капітанскай сківіцай падчас суду, які прысудзіў Барбі пажыцьцёвае зьняволеньне.



Помста шмат разоў падбіралася да грамадзяніна Альтмана ўсутыч. У Ліёне яму прысудзілі сьмерць яшчэ ў пяцідзясятых. Сьляды нацыста ў Балівіі знайшлі французскія паляўнічыя на нацыстаў, журналісцкае сужонства Клярсфэльд. Яго спрабавалі выкрасьці французскія і нямецкія рэвалюцыянэры. Ягонай выдачы дабіваліся з пачатку сямідзясятых гадоў. Але ў божанькі былі свае пляны. Толькі нейкімі інтрыгамі нябеснай бюракратыі можна патлумачыць той факт, што расплата для Барбі прыйшла абходнымі шляхамі: папяровымі мастамі і чарнільнымі рэкамі, а не прыляцела на самалёце, як, напрыклад, гэта здарылася з Айхманам. Спадар Мясьнік проста зрабіўся для балівійскай улады праблемай, і яна ўрэшце плюнула і выдала Барбі Францыі. Бо толку ад пэнсіянэра Альтмана ўжо ніякага не было, толькі блытаўся пад нагамі.

У Савецкім Саюзе Барбі называлі чамусьці на французскі манер: Барб'е — быццам кроў ягоных ахвяраў легла незмывальнаю ганьбай і на імя гаўптштурмфюрэра. Пра яго шмат пісалі ў газэтах і расказвалі па тэлевізары, а паколькі ў сярэдзіне васьмідзясятых я быў уважлівым гледачом «Міжнароднай панарамы», дык мяне прызначылі ў клясе палітінфарматарам. Адна зь першых такіх палітінфармацыяў і была прысьвечаная Барб'е. Аднаклясьнікам было цікава — і ніхто не разумеў, чаму ліёнскага Мясьніка не павесілі. Пашкадавалі нацыста...

У 1991-м Кляўс Барбі мірна сканаў у шпіталі ліёнскай турмы. З пачуцьцём добра выкананай справы, трэба думаць. Хочацца верыць, што часам помста зазірала ў ягонае закратаванае акенца. Што яму сьніліся прынамсі кашмары. Што яму балела хаця б напалову так, як яго ахвярам. Хочацца дажыць да таго дня, калі ўсе цяперашнія дробныя беларускія Кляўсы паўстануць перад судом. Але да іхнага мірнага скону ў шпіталі — чамусьці не. Падсьвядомасьць патрабуе іншага сцэнару.

Такія вось мы крыважэрныя істоты.

# Які немец ня любіць хуткай язды

*26 студзеня 1886 Карл Бэнц патэнтуе аўтамабіль*

У 1886 годзе насельніцтва Зямлі налічвала прыкладна паўтара мільярда чалавек. 26 (паводле іншых зьвестак 29) студзеня гэтага слаўнага году ўсе яны — ад паўднёваафрыканскіх бураў да пінскае шляхты, ад алганкінаў да ангельцаў, ад эскімосаў да кітайскіх кулі — раптоўна і без абвяшчэньня вайны зрабіліся пешаходамі. Бо менавіта ў гэтыя зімовыя дні нямецкаму вынаходніку Карлу Бэнцу прыйшла ў галаву ідэя запатэнтаваць нарэшце сваё таемнае дзіця: першы ў сьвеце аўтамабіль.

Як і належыць дзіцяці, аўтамабіль Бэнца меў формы даволі інфантыльныя, нагадваючы трохколавы ровар. Зрэшты, мяно першынец атрымаў саліднае: Motorwagen. Маторваген жор бэнзін з апэтытам сялянскага байструка і меў у сваіх мэталічных цягліцах сілу ўладзімірскага цяжкавоза. Зьявіўшыся на сьвет і атрымаўшы легалізацыю, маторваген адразу ж пачаў пладзіцца і памнажацца: праз некалькі гадоў такіх вагенаў бегала ўжо дваццаць пяць. А яшчэ праз некалькі — дваццаць пяць тысяч.



І ўсё ж той, першы, быў лепшы: як толькі арыгінал можа быць лепшы за копію. У яго і цяпер немагчыма не закахацца: у адным чорным дэрматыне ягонага сядзеньня або ў матавым пераліве сьпіцаў шарму ня менш, а то і больш, чым у якога-небудзь спартовага фэрары, ці каля чаго вы там любіце фатаграфавацца ў гэтым сэзоне.

Так 26 студзеня 1886 паступова, паволі, але няўхільна пачалося выцісканьне чалавека на ходнік, да сьценаў, на ўзбочыну. Гэта была сапраўдная рэвалюцыя: са сваімі ахвярамі, барыкадамі, трыбунамі і трыбуналамі. Дарогі назад ужо не было, заднім ходам аўтамабіль Бэнца ня езьдзіў. Прыдумаўшы маторвагэн, чалавецтва мусіла прыдумаць процьму іншых рэчаў. Аўтазапраўкі (першыя маторвагены запраўляліся ў аптэках, бо толькі там прадаваўся бэнзін як сродак супраць перхаці). Пасьведчаньне кіроўцы. Сьветлафор. Зімовую гуму. Леташнюю цукерку ў бардачку. Трупы ў багажніку. Асьвяжальнік паветра ў форме ялінкі. Постэр зь Міс СССР-89. Эвакуатар. McDrive. Казьлевіча. Гаражны панк. Mini Mk-2 з нумарам RNT 996H. Гарбаты запарожац. Рамяні бясьпекі. Сэкс на заднім сядзеньні. Даішнікаў. Невыключальную, як неапалімая купіна, сыгналізацыю на стаянцы проста пад вокнамі. Баранку *гэтага* пыласоса. Платную паркоўку. Радары кантролю хітрасьці. Бляндынак за стырном. Заторы на Магілёўскай шашы. Навігатары з голасам прастытутак. Ралі Парыж-Дакар. Гонкі на трактарах. Танаванае шкло. Слова «драндулет». Часопіс «За рулём». Песьню «The Passenger». Менскую кальцавую дарогу. Варанок. Дарожны знак «Асьцярожна: кенгуру!». І шмат іншых рэчаў, безь якіх ня тое што жыцьцё, але і банальную сьмерць уявіць сабе ўжо немагчыма.

# А горад падумаў: вучэньні ідуць

*27 студзеня 1906 Пуліхаў робіць замах на Курлова*

У гэты дзень менскі губэрнатар Курлоў выправіўся ў Петрапаўлаўскі сабор на адпяваньне памерлага генэрала Курча — і сам ледзь ня склаў нябожчыку кампанію.

Цела генэрала ўжо выносілі з царквы, губэрнатар узяўся за свой шынэль, разважаючы пра менскія укбар і тлён і наогул пра тленнасьць усяго існага — і тут у яго паляцела самая сапраўдная бомба.

За сэкунду перад вачыма Курлова прамільгнула ўсё ягонае жыцьцё: кавалерыйскае вучылішча ў Мікалаеве і конна-грэнадэрскі полк, avec nous наш порах і авёс на шпорах, пракурорства ў Волагдзе, якое, вядома, не пракуратарства ў Юдэі, але таксама весьма і assez bien, і Масква-с — да-с!, і накіраваньне ў богам забыты Курск, адкуль ён і ўзяў ня так даўно курс на богам забыты Менск. Прамільгнуў менскі вакзал, дзе яму давялося год таму ўтаймоўваць бунт, самы настаяшчы — і хто яго асудзіць за тое, што крыві тады не ўдалося пазьбегнуць?... Гаўляйтар ён ці не? То бок, пардон, губэрнатар?

Бомба ўпала да ног губэрнатара і засталася ляжаць там, быццам з кішэні ў кагосьці выпала. Курлову вельмі хацелася падштурхнуць яе нагой, бліжэй да паліцмайстра, але ён проста нацягнуў урэшце шынэль і кінуўся наўцёкі. У той дзень ён чамусьці адчуў сябе асабліва тленным, хаця і не такім, як генэрал Курч. А сам бамбіст Іван Пуліхаў, 27-гадовы тэрарыст-эсэр, пабачыўшы, што клятая бомба ня выбухнула, паспрабаваў неўпрыкмет высьлізнуць з натоўпу.

Але, як піша ў сваёй знакамітай кнізе Захар Шыбека, аднаўляючы ход тых падзеяў па матэрыялах судовага сьледзтва, напярэймы Пуліхаву кінуліся маці і дзьве дочкі Старовы. Гэта былі тры дужыя, як праваслаўе, самадзяржаўе і народнасьць, кабеты, да таго ж адданыя цару ды някрасаўскаму запавету спыняць любога каня на скаку. З крыкамі «Mersavets! Ne-go-diay! Merde!» яны скруцілі Пуліхава і перадалі ў рукі набеглага АМОНу. Праўда, гэта быў яшчэ не канец гісторыі. Калі паліцмайстар Нораў праз хвіліну наблізіўся да месца здарэньня, у яго раптам пачалі страляць. Гэта паплечніца Пуліхава Аляксандра Ізмайловіч, што ціха кусала вусны побач, дастала свой браўнінг. Праўда, выпусьціўшы пяць куляў, Норава яна так і не забіла — затое падстрэліла нораўскі каўнер, а заадно паштальёна і салдата-радавога, якія стаялі сярод



публікі. Прамахнуўся і паліцмайстар. Ды гэта было ўжо няважна — схапілі і Ізмайловіч.

...Нават дзіўна, што ў гэтай бойні ля Петрапаўлаўскай царквы ўсе засталіся жывыя. Прынамсі, 27 студзеня. Толькі генэрал Курч жывым не застаўся — але, як мы памятаем, ён меў на гэта паважную прычыну.

Яшчэ больш дзіўна і злавесна, а месцамі і сымбалічна выглядае саслоўны партрэт удзельнікаў і пацярпелых гэтае драмы. Дваранін, mersavets et negodiay Пуліхаў кідае бомбу ў двараніна Курлова. Дваранка, генэральская дачка Ізмайловіч, сястра якой праз тыдзень пасьля менскіх падзей спрабавала забіць аднаго з царскіх адміралаў, страляе ў двараніна Норава. Дваране Старовы кідаюцца на двараніна Пуліхава. Народ ні пры чым, народ стаіць сярод публікі і служыць у паліцыі, і кулі дастаюцца радавым і паштальёнам — як ад двараніна Курлова, так і ад дваранкі Ізмайловіч.

Івана Пуліхава павесілі на вежы Пішчалаўскага замку 26 лютага. Перад гэтым таварышы па партыі спрабавалі арганізаваць ягоныя ўцёкі з турмы, але здрада сарвала іхны плян. Цела яго спачатку пахавалі на Старажоўскіх могілках, а потым, пасьля другой сусьветнай вайны, перапахавалі на Вайсковых. Ізмайловіч сьмяротнае пакараньне замянілі катаргай. Былога губэрнатара Курлова тленнасьць дагнала ў Бэрліне, куды ён уцёк, ратуючыся ад ЧК. Традыцыя запрашаць для ўтаймаваньня непакорных менчукоў кавалерыстаў з Волагды, Курску і Масквы-с дажыла да нашых дзён. А іншая традыцыя — называць менскія вуліцы імёнамі тэрарыстаў, забойцаў і людзей з сумнеўнай рэпутацыяй — ня надта спрыяе выхаваньню ў гараджан пакорлівасьці і законапаслухмянасьці. Аднак гэты Пуліхаў, як ні круці, чамусьці падаецца значна больш сымпатычнай асобай за ўсіх Мясьніковых і Кнорыных, разам узятых.

# Вежа ў тумане

*28 студзеня 1972*
*памёр Дзіна Буцаці*

...Ён хацеў назваць гэтую кнігу «Крэпасьць», а назваў — «Татарская пустэльня»: і адразу гучнейшы зрабіўся тупат нябачных капытоў, і з расколін у гарах падняўся туман, і вартавыя на вежы насунулі ніжэй свае каскі. Ён напісаў пра чаканьне пагрозы, пра яго сэнс, яго бясконцасьць і яго бессэнсоўнасьць. Ён перанёс час туды, дзе яму самае месца — у горы на самай мяжы.

28 студзеня 1972 году ў Міляне памёр Дзіна Буцаці, як на мой погляд: адзін з шасьці найвялікшых італійскіх пісьменьнікаў дваццатага стагодзьдзя. Ён меў прызнаньне, Борхэс уключыў «Татарскую пустэльню» ў сваю знакамітую «Бібліятэку». Ён... Але ж «агласіце ўвесь сьпісак!» — аглашаю: Звэва, Буцаці, Кальвіна, Манганэлі, Ляндольфі, Эка.

У біяграфіі Буцаці, небагатай на крутыя павароты і каскадзёрскія трукі лёсу (зрэшты, толькі такі чалавек і мог напісаць «Пустэльню»), зьдзіўляюць найперш тры факты. І першы зь іх — палітычны. Большасьць ягоных найлепшых рэчаў была напісаная за фашысцкім рэжымам, у сьвеце, фактычна, прыдуманым Кафкам — і Буцаці без асаблівых праблем здолеў іх апублікаваць. У Італіі ніхто не паліў ягоных кніг, ня ўносіў іх у чорныя сьпісы і не пазбаўляў аўтара грамадзянства — што, між іншым, яшчэ раз даказвае недарэчнасьць прынятага ў нас ужываньня тэрміну «фашызм», бо пры ўсёй адыёзнасьці рэжыму Мусаліні ставіць яго побач з гітлераўскім нацызмам усё ж ня надта карэктна. Калі б Буцаці так жыў і пісаў у Нямеччыне трыццатых-саракавых, яго не марудзячы запісалі б у entartete Kunst і як мінімум засунулі ў канцлягер. Буцаці ніхто не выганяў з працы, ён адслужыў у войску і нават пабыў акупантам у Паўночнай Афрыцы — і адзін бог ведае, што рабілася ў ягонай душы, пакуль Мусаліні не заняў сваё законнае месца ў пекле. Буцаці сам быў вежай — і гэта дапамагло яму выжыць.




Факт другі, ня менш цікавы. Зусім маладым чалавекам Буцаці пайшоў працаваць журналістам у рэспэктабэльную «Corriere della Sera» — і працаваў там, бадай, усё жыцьцё, амаль да самае сьмерці. Можна толькі здагадвацца, якой мусіць быць журналістыка, зь яе канвэерамі, дэдлайнамі і непазьбежным дагаджаньнем публіцы, каб ня толькі не сапсаваць, але зьберагчы талент Буцаці — кафкіянскі талент містыка, думаньніка і чараўніка.

І трэцяе: Буцаці, бадай, усе шэсьцьдзесят шэсьць адпушчаных яму гадоў быў са сваёй маці, ніколі не расстаючыся зь ёй надоўга. Маці, сама дачка вядомага некалі італьянскага пісьменьніка, разумела яго і падтрымлівала — што ў сусьветнай літаратуры зь яе душадзёрнымі канфліктамі бацькоў і дзяцей бывае вельмі нячаста. І калі чытаеш цяпер, напрыклад, пра ўзаемную любоў Мішэля Ўэльбэка і ягонай маман, узьнікае пачуцьцё прыкрай недарэчнасьці і нават гідлівасьці — прыклад Буцаці прымушае хутчэй забыцца на гэта, столькі сьвятла было ў ягонай ціхай любові. Ня менш, чым у Рамэна Гары.

У Буцаці ня знойдзеш стылістычных выкрутасаў і грувасткіх вобразаў, і пры гэтым ён пісаў пра складаныя рэчы. Меў асаблівую зброю — вельмі адмысловую інтанацыю, якую немагчыма імітаваць. І ўмеў быць розным. Казка «Нашэсьце мядзьведзяў на Сыцылію» — таксама пра інвазію, пра тую, якая ўжо адбылася, і хто б мог падумаць, што гэта стварыў той самы аўтар, які падарыў нам «Пустэльню». «Сем вестуноў» і «Сем паверхаў», як і большасьць апавяданьняў Буцаці — прыпавесьці пра тупік, у які заганяе сябе чалавек. Заганяе сам. Але і ў гэтых тэкстах за вонкавай безвыходнасьцю заўсёды ёсьць дзьверы ў сад, той самы, сад тысячы розных сьцяжынаў. І вось ты стаіш перад імі і адчуваеш: нешта здарылася.

# Родзіна ілі сьмерць

***29 студзеня 1926 у школах СССР уведзенае абавязковае вайсковае навучаньне***

У гэты сонечны студзеньскі дзень, калі так прыемна сагрэць сябе якім-небудзь марш-кідком, поўзаньнем па-пластунску або чысткаю новых кірзавых ботаў, сваё сьвята адзначаюць ваенрукі і іншыя сэнсэі дапрызыўной падрыхтоўкі. Бо менавіта 29 студзеня 1926 году ў савецкіх школах было ўведзенае абавязковае вайсковае навучаньне. Прадмет, які пасьпяхова перажыў усе забурэньні, зьмены ўлады і рэформы ў СССР, а потым і сам СССР, бо дайшоў да нашых дзён у амаль некранутым выглядзе. Прадмет, безь якога цяжка ўявіць сабе любое пакаленьне беларусаў, што нарадзіліся ў дваццатым стагодзьдзі — якое ні вазьмі.

А як інакш, калі дзяржава з маленства вучыць, што мужчына ёсьць найперш гарматным мясам, а жанчына — машынай для ўзнаўленьня ягоных запасаў? Прыгожанькія эўфэмізмы кшталту «зашчытнік родзіны» і «будушчая маць» усё яшчэ ва ўжытку — і карыстаюцца попытам ня толькі сярод прапагандыстаў, але і сярод саміх «зашчытнікаў» і «мацерэй». Паміраць і забіваць. Не валодаючы гэтымі ўменьнямі, ты заўжды будзеш у вачах грамадзтва «какой-та падазрыцельны». Ды і сам сьвет, калі на яго не глядзіш праз аптычны прыцэл, выглядае ня менш падазрона.



Там, у іншым сьвеце, людзі дзіўным чынам належаць або да Мэ, або да Жо... Які дурны пацыфізм! У краіне ваенрукоў палоў тры. Салдат, санітарка і дэзэртыр. Усе астатнія — шпіёны і мішэні. Хаваюцца ў сваіх амбасадах, займаючыся наркаманіяй, пэдафіліяй і постмадэрнізмам. Хаця, здавалася б, адна граната — і парадак.

А як інакш, калі вакол адны ворагі? З 1926 году нічога не зьмянілася, як і раней, мы ў акружэньні, патроны канчаюцца, і нам няма адкуль чакаць падмогі. Таму: кожнаму салдату па санітарцы, кожнаму дэзэртыру па сарціру. Беларусь на маршы, падмацаваньне ўжо ідзе — з радзільняў і дзіцячых садкоў, са школаў і вайсковых катэдраў. Родзіна ілі сьмерць. Гэта, заўважым, кажа ня сьмерць, гэта кажа родзіна. Якую некаторыя блытаюць з Радзімай. І гэтая родзіна безупынна знаходзіцца «ў палажэніі». Ваенным. Беларускам загадана нараджаць. Ня менш за трох дзяцей. Бо іначай: хто будзе адбівацца?

*Я цэліўся з рагаткі ў варону,*
*А трапіў у міністра абароны.*
*Воранаў шмат, міністраў мала,*
*Даўно мне так не шанцавала...*

Так гучыць знакаміты верш Віктара Жыбуля, які, можа, і не прыдаўся б у якасьці гімну беларускіх зялёных, але цалкам мог бы стаць песьняй беларускага дэзэртыра. Якому ўсё яшчэ пагражае крымінальная адказнасьць за тое, што ён не салдат і не санітарка. А, напрыклад, мужчына або жанчына. Вечныя мішэні звар'яцелага ваенрука.

# Чатыры тарпэды

***30 студзеня 1945 савецкай субмарынай патоплены «Вільгельм Густлёф»***

30 студзеня 1945 году, прыкладна а дзявятай гадзіне вечара капітан савецкай падводнай лодкі С-13, адэсіт, алькаголік і весялун Аляксандар Марынэска адным гераічным махам адправіў на той сьвет 4600 уцекачоў і параненых, у тым ліку амаль 3000 дзяцей, некалькі тысяч іншых пасажыраў, а апрача таго 750 нямецкіх матросаў і афіцэраў. Гэта па самых сьціплых падліках. Карабель «Вільгельм Густлёф», атакаваны субмарынай, праз гадзіну пайшоў на дно.

«Das war's — вось і ўсё», — толькі і прамовіў капітан «Вільгельма Густлёфа», пачуўшы першы выбух — і меў рацыю. Так скончылася апошняе плаваньне былога пасажырскага ляйнэра таварыства «Kraft durch Freude», а затым плывучага шпіталя, казармы, інтэрнату для падводнікаў, ваеннага судна і санітарнага транспарту. Так пачаўся шлях да славы Аляксандра Марынэска, якога незадоўга да атакі якраз зьбіраліся выгнаць з флёту за п'янства і амаральныя паводзіны і аддаць пад трыбунал. Тры тысячы дзяцей, уцекачы і параненыя — сапраўды, гэта была Атака стагодзьдзя. За што?

Адказы на гэтае пытаньне савецкія падводнікі падрыхтавалі загадзя.

Першая тарпэда, выпушчаная па «Густлёфу», мела на сваім баку надпіс «За радзіму!». За якую радзіму адправіў на дно 3000 дзяцей і пару тысяч параненых капітан 3-га рангу Марынэска, сказаць цяжка. Магчыма, за родную Адэсу, яшчэ нядаўна акупаваную, але, на жаль, не нямецкімі дзецьмі і ўцекачамі, а румынамі. Ці, можа, за Талін, Нарву і Палдыскі, месцы, дзе пачыналася ягоная вайсковая кар'ера? Толькі вось што спатрэбілася адэсіту Марынэска ля эстонскіх берагоў? Наўрад ці эстонцы яго сюды клікалі. Ён быў тут акупантам, нічым не адрозным ад румына ў Адэсе ці немца пад Масквой.



На другой тарпэдзе было напісана «За савецкі народ». Спадзяюся, у адрозьненьне ад нас, Аляксандар Марынэска ведаў, што гэта такое, і мог без запінкі, у рэдкую хвілінку цьверазасьці, адбарабаніць вызначэньне гэтага панятку. Цікава, а вось тыя самыя эстонцы — гэта савецкі народ? Ці фіна-вугорскі? І навошта таму савецкаму народу спатрэбіліся 3000 дзяцей? Дзеля якіх рытуальных мэтаў?

Трэцяя тарпэда, кажуць, была аздобленая надпісам «За Ленінград». І тут таксама не паспрачаешся: Ленінград — гэта вам ня Менск які-небудзь, ня вёска, спаленая нацыстамі, і не Салавецкі лягер. Гэта ж горад-сымбаль. Горад Леніна. А Ленін — гэта такое боства, якому і 3000 дзяцей на раз будзе мала. Гэта нам няясна, чаму за блякаду Ленінграду трэба тапіць параненых, а ня тых, хто кінуў горад паміраць ад голаду за ідэю, а Марынэска і яго экіпаж ведалі.

Чацьвертая тарпэда была за Сталіна. Толькі яна чамусьці захрасла і ня выпусьцілася, давялося абясшкоджваць. Хаця толькі на ёй быў надпіс, які сапраўды меў нейкі сэнс.

Праз дзесяць дзён пасьля атакі на «Густлёфа» Марынэска з камандай топяць яшчэ адзін санітарны карабель. Проста ім вельмі патрэбны быў подзьвіг. Хаця б нейкі заваляшчы.

Дыскусіі наконт таго, ці мела гэтая атака ваенную мэтазгоднасьць і ці ня варта прызнаць яе нарэшце злачынствам, не сьціхаюць дагэтуль. Ці мог уявіць сабе Аляксандар Марынэска, будучы герой гэтага іхнага саюзу эстонцаў і адэсітаў, што нейкі немец, да таго ж былы эсэсавец Гюнтэр Грас, напіша пасьля ягонай сьмерці пасквіль на савецкіх падводнікаў? І назаве гэта чыста па-фашысцку: Траекторыя, панімаеш, краба...

А я думаю пра тое, што на кожнай тарпэдзе, што Марынэскавай, што любой іншай, дарэчны быў бы толькі адзін надпіс.

Soldaten sind Mörder.
Soldaten sind Mörder.
Soldaten sind Mörder.

# Любоў цара

***31 студзеня 1563 Іван Жахлівы пачынае аблогу Полацку***

31 студзеня 1563 году шэсьцьдзесят тысяч прадстаўнікоў братняга расейскага народу (а можа, і значна болей, братоў ня лічаць) на чале з генэралісімусам Іванам Жахлівым падступілі да муроў гораду Полацку. Яшчэ тысяч сорак гасьцей з усходу цягнулі на сабе тое, што мусіла назаўжды засьведчыць братэрскую любоў маскоўцаў да палачанаў: дзьвесьце гарматаў і іншы цалкам мірны рыштунак.

Генэралісімус Іван быў чалавек нязлосны і нікому не жадаў благога: падумаеш, сына роднага забіў. А што людзей пачкамі губіў, дык было б тае бяды: чаго-чаго, а гэтага майна ў маскоўскіх гаспадароў заўсёды хапала зь лішкам. Чаму ж смутак расіў у гэтыя зімовыя дні сьветлыя вочы Івана? Бедны цар проста хацеў вярнуць сваё, законнае: Валынь, Галіцыю, ды вось, Полацак. Ён жадаў усяго толькі любові. А яго чамусьці ніхто не любіў. Нават уласныя падданыя. Яго палюбяць празь некалькі стагодзьдзяў, напішуць пра яго раманы, здымуць фільмы пра тое, як ён бараніў радзіму і мяняў прафэсію, адзначаць вайсковы геній, волю, веру і дзяржаўны розум. Але любоў — такая рэч, якой заўжды хочацца тут і цяпер.



І вось перад ім, як піша Ўладзімер Арлоў, ляжыць «галоўная цьвердзь Вялікага Княства Літоўскага — горад зь дзевяцівежавым замкам, з дванаццацьцю манастырамі і васямнаццацьцю храмамі». І зусім невялікім гарнізонам. Бяры — і любі. Але праклятае места чамусьці не жадае царскае любові.

Калі б у Івана быў гучнамовец або радыё, ён, напэўна, загадаў бы з раніцы да раніцы круціць мантры на туземным «наречіі», кшталту гэтай:

«Ой, калі б, калі
Маскалі прыйшлі,
Нашы родныя, веры одныя!»

Але радыё ў яго няма. І любові таксама ўсё ніяк не адчуваецца.

...Іх гэта дагэтуль зьдзіўляе — да гістэрык і сопляў. Яны дагэтуль крыўдзяцца, як дзеці, і шчыра ня могуць даўмецца: як можна жыць у Менску, Віцебску, Горадні, Пінску, Берасьці, Полацку — і не любіць іх? У іх жа ўсё такое вялікае і прыгожае...

На 16-ты дзень аблогі Іван, паабяцаўшы папярэдне абаронцам Полацку волю і захаваньне іхнай маёмасьці, пасьля жорсткіх баёў бярэ горад. І Полацак захлынаецца ад прыступу братэрскіх пачуцьцяў: габрэяў топяць у Дзьвіне, усіх, хто няправільна хрысьціцца, забіваюць без суду і сьледзтва (хаця можна толькі ўявіць сабе гэты суд, калі б ён адбываўся), манахаў сякуць шаблямі, па ўсім горадзе гвалтаваньні і кроў, спаленыя некалькі храмаў і тры тысячы двароў, маёмасьць месьцічаў рэквізуецца на братэрскія патрэбы і звозіцца ў Маскву.

А любові ўсё роўна як не было, так і няма. Хаця, здавалася б: цяпер жа ўжо не адкруцяцца.

# У маёй сьмерці прашу вініць пана Г.

*1 лютага 1774 Гётэ пачынае пісаць "Вэртэра"*

Правільна расстаўленыя словы забіваюць, няправільна расстаўленыя — калечаць. 1 лютага 1774 году Гётэ, папярэдне запасшыся тытунём, атрамантам, віном і гесэнскай каўбасой, зачыніўся ў кабінэце і пачаў пісаць свайго «Вэртэра». Раман у лістах, які падрабязна, з паталягічнай засяроджанасьцю апісвае няшчаснае каханьне, што пакрысе перарастае ў хваравітую і самаразбуральную апантанасьць, імгненна зрабіў аўтара знакамітым на ўсю Эўропу. І неўзабаве выклікаў сапраўдную хвалю самагубстваў. Усе хацелі быць, як Вэртэр, і сысьці, як Вэртэр. Нават тыя, хто сыходзіць з жыцьця не зьбіраўся, з інтарэсам паглядзелі на свае пісталеты, макнулі пёры ў чарніліцу і селі за разьвітальную цыдулку. Паўнакроўныя зьбялелі, тоўстыя схуднелі, шчасьлівыя засумняваліся. Сямнаццацігадовы расейскі літаратар Сушкоў, прачытаўшы раман Гётэ, напісаў сваю вэрсію, паставіў апошнюю кропку і застрэліўся, ня ў змозе перажыць недагаворанасьць свайго тэксту.



А як перажыць недагаворанасьць жыцьця?

Чытач «Вэртэра», які пускаў сабе ў лоб кулю, ведаў, што ня глупствам займаецца, а зьдзяйсьняе прыгожы і рамантычны ўчынак. Аўтар «Пакутаў» легалізаваў чалавечыя пачуцьці — жарсьць, экзальтацыя і слабасьць больш не лічыліся несапалучальнымі і недарэчнымі. Эгаізму каханьня, аказваецца, ня трэба саромецца — вы што, не чыталі Гётэ? «Гэта раман пра мяне», — мог сказаць кожны, хто патрапіў у трохкутнік першага каханьня і біўся цяпер галавой аб ягоныя вострыя катэты і халодныя гіпатэнузы, ня ведаючы, дзе выхад. Выхад ёсьць — сказаў Вэртэр. І ён бліжэй, чым здаецца. «Зубны боль у сэрцы», пра які пазьней напіша Гайнэ, можна суняць.

Так літаратура пакаштавала на смак уладу над так званым жыцьцём. І ёй спадабалася.

Гётэ тады жыў у Вэцлары і, ня доўга думаючы, зрабіў гэты гарадок месцам дзеяньня свайго раману. «Вэртэра» ён напісаў за месяц — нічога дзіўнага, бо трагедыю галоўнага героя ён пісаў зь сябе, гэты раман шмат у чым — асабістая хроніка ўласнай апантанасьці. Для Гётэ, усё яшчэ закаханага ў сваю Лёту, ягонае напісаньне мела тэрапэўтычны эфэкт — ён вылечыўся ці, прынамсі, здолеў прыручыць сваю жарсьць. Ня хочаш паміраць сам — давер справу пэрсанажу. У яго гэта атрымаецца лепш. А далей — далей мастацтва здымае зь сябе адказнасьць за наступствы. Інакш яно ператварылася б у бясконцую памятку па тэхніцы бясьпекі.

Цікава, якія сучасныя беларускія творы маглі б справакаваць такую сьмертаносную рэакцыю, як некалі «Вэртэр». Што й казаць, жаданьне павесіцца выклікаюць шмат якія кнігі айчынных аўтараў. Толькі вось бяда: зубы ад іх баляць па-сапраўднаму, сэрца тут ні пры чым.

# Дом палёгкі нашай

*2 лютага 1852 у Лёндане адчыненая першая грамадзкая прыбіральня*

Кожнаму, хто чытаў цудоўную кнігу Пітэра Акройда «Тэмза. Сьвяшчэнная рака», запомніліся, мусіць, ня толькі велічнасьць галоўнай гераіні, гістарычная дакладнасьць апісаньняў і ўсе зьвязаныя з ракой таямніцы — але і дзіўны пах, які ідзе ад некаторых старонак гэтага твору. Прынамсі, там, дзе аўтар падбіраецца да XVIII стагодзьдзя, ён робіцца ўсё больш рэзкі і не заўважаць яго ўжо немагчыма. Што зробіш: гэта для чытачоў Акройда Тэмза — нешта большае за проста ваду, якая чамусьці цячэ недалёка ад дому. Для лёнданцаў мінулага рака была найперш зручным месцам для ліквідацыі адкідаў. Выліў у раку — і забыўся.

Дзеля справядлівасьці трэба сказаць, што ў гэтым сэнсе лёнданцы абсалютна не адрозьніваліся ад жыхароў іншых гарадоў. У Менску, напрыклад, яшчэ ў канцы XIX стагодзьдзя ў Сьвіслач і Нямігу спакойна выкідвалі нечыстоты з лазьняў, шпіталя, рынкаў і мясных радоў, якія мясьціліся паблізу — і як вынік, кішэчна-страўнікавыя інфэкцыі былі на другім месцы сярод захворваньняў менчукоў. Бо, скажам, вада каля Плябанскіх млыноў, паводле праведзеных нарэшце аналізаў, «нічым не адрозьнівалася ад кляачнай».



Бруд, смурод і адсутнасьць гігіены. І гэта таксама — нядаўняя гісторыя вялікіх гарадоў. Лёнданцы ў сярэдзіне XIX стагодзьдзя тысячамі паміралі ад халеры. І вось 2 лютага 1852 году ў горадзе на Тэмзе адчынілася першая грамадзкая прыбіральня. Уваход каштаваў адзін пэні. А за дзьвярыма — бляск медных трубаў, чысьціня і спакой, і цуд сантэхнікі: унітаз з ланцужком для спуску вады. Адчыніла гэты парадыз на вуліцы Фліт-стрыт лёнданскае Таварыства прыгожых мастацтваў, таму ня дзіўна, што сюды наведваліся, як на выставу: шмат хто зь лёнданцаў завітваў не па вялікай ці малой патрэбе, а па, так бы мовіць, сярэдняй — проста паглядзець. Зрэшты, залатыя часы грамадзкіх прыбіральняў надышлі не адразу: за першы месяц у туалеце на Фліт-стрыт пакінулі свае сьляды 80 мужчын і 24 жанчыны. Адважныя першапраходцы выйшлі адтуль жывыя — і горад пакрысе пачаў рабіцца чысьцейшы.

У горадзе, які прэтэндуе на тое, каб звацца адной з эўрапейскіх сталіцаў, мусіць быць мала паліцэйскіх і шмат грамадзкіх прыбіральняў. Як і наогул у любым горадзе. Калі ўсё наадварот, адбываецца Вялікая Фэкальная Дыспрапорцыя. Пачынаецца абсурд, штрафы за спраўленьне фізіялягічных патрэбаў, падазроная любоў да найбліжэйшага макдональдсу і стрыптыз пад ліпамі, частка неўміручай філязофіі савецкага чалавека: «чаму я мушу плаціць за Гэта грошы?» Менск, трэба адзначыць, у гэтым сэнсе зрабіў пэўныя крокі наперад: грамадзкіх прыбіральняў у параўнаньні з 1852-м і нават з 1990-м годам стала значна болей, хаця чым далей ад Плябанскіх млыноў, тым ніжэйшая іхная колькасьць на квадратны кілямэтар; але і паліцыі ў Менску столькі, быццам тут навек абвешчанае надзвычайнае становішча. Так ці інакш, безумоўным прыніжэньнем чалавечай годнасьці ёсьць бегаць па горадзе і адчайна зайздросьціць коткам і сабакам, якімі, як вядома зь дзіцячага вершыка, вельмі зручна быць у пэўныя хвіліны жыцьця.

# Квітней, Парагвай!

*3 лютага 1989 у Парагваі скончылася дыктатура Стрэснэра*

У індзейцаў гуарані ёсьць такая легенда. Калі бог Тупа стварыў Парагвай, ён паглядзеў на плён рук сваіх і задумаўся. Усё тут было прыгожа і цудоўна, усяго было досыць: былі густыя лясы, у якіх вадзілася розная зьвярына, паўнаводная рака, дзе хапала рыбы, узгоркі, урадлівая глеба, птаства, цёплы клімат, бавоўна, тапіёка, тапіры і брамнік Чылавэрт, карацей: рай на зямлі, жыві-не-хачу. І падумаў бог Тупа: нешта я перабаршчыў. І, каб неяк зраўняць парагвайцаў зь іншымі народамі, даў ён ім самае паганае ў сьвеце начальства...

Уначы 3 лютага 1989 году амбітны парагвайскі генэрал Радрыгес, пакрыўджаны на тое, што надоечы яго сабраліся адхіліць ад пасады, павёў свае дывізіі на прэзыдэнцкі палац. Так скончылася амаль 35-гадовае кіраваньне дыктатара Парагваю Альфрэда Стрэснэра. Напалову немец, напалову парагваец, ён любіў радзіму, як самога сябе, але сябе ўсё ж крышачку больш. Тая крышачка імгненна вырасла да памераў жалезнага каўпака, які ад сярэдзіны пяцідзясятых накрыў парагвайцаў так, што сьвежае паветра звонку да іх папросту перастала даходзіць. Зьдзейсьніўшы дзяржаўны пераварот, Стрэснэр пачаў распараджацца краінай так, быццам гэта яго ваенная здабыча. Ён арганізаваў у Парагваі некалькі дзясяткаў канцлягераў і фактычна легалізаваў гандаль рабамі. Ён называў сваім імем усё, што трапіцца пад руку. Ён...

На гэтым адрозьненьні ад Беларусі канчаюцца і пачынаюцца аналёгіі.

Лёзунгі, як і дыктатуры, рэдка бываюць арыгінальныя. Каб разьвесіць паўсюль плякаты «За Парагвай!» і «Квітней, Парагвай!», вялікага розуму не патрабуецца. «Бацька Альфрэда. Мір і прагрэс» — такія словы суправаджалі кожнага парагвайца, куды б ён ні накіраваўся. Што да міру, то, здавалася б, доля праўды тут была: Стрэснэр парушыў старую парагвайскую традыцыю, якая з часоў сьмерці прэзыдэнта Франсія патрабавала кожны дзень ладзіць хаця б невялічкі дзяржаўны пераварот. Што лепш — дзяржаўны пераварот ці такая вось стабільнасьць а-ля Стрэснэр, сказаць цяжка. Пры гэтым уладар Парагваю ня гідзіўся вайсковых апэрацый на чужой тэрыторыі і ахвотна ўлазіў у ваенныя блёкі, калі яму гэта было выгодна.



Асаблівага прагрэсу таксама не заўважалася. Прынамсі, ніхто не прыгадвае часы Стрэснэра з каўбаснай

настальгіяй і сьлязой па бясплатнай адукацыі і мэдыцыне. Парагвай быў адной з самых бедных краін Лацінскай Амэрыкі, дый цяпер значна прайграе ў параўнаньні з суседнімі Бразыліяй і Ўругваем.

Ніхто мяне ня любіць... Ня маючы іншых прыяцеляў, ён сябраваў са сваімі калегамі-душагубцамі, Пінаэтам і паўднёваафрыканскімі расістамі. Маўляў, я свой народ за цывілізаваным сьветам не павяду. І не павёў.

Ён абвясьціў кантрабанду галіной дзяржаўнай эканомікі, і гэта таксама нешта падазрона нагадвае.

Ён хаваў у Парагваі нацыстаў і іншых злачынцаў. Зусім як у нас, дзе, здаецца, для кожнага кандыдата ў Гаагу гатовы і стол, і дом.

Ён завёў сабе ручны парлямэнт, які паслухмяна прымаў выгодныя яму законы, умеў браць ношку і стаяць на задніх лапках. Трыццаць пяць гадоў гэтая «палатка» стварала ілюзію, што яна ёсьць, і зьнікла разам са Стрэснэрам.

У адрозьненьне ад сталінскай і гітлераўскай дыктатур, якія стварылі пэўную прывабную эстэтыку, што эфэктыўна дапамагала дурыць маладыя галовы, большасьць дыктатураў у сьвеце ў гэтым сэнсе абсалютна бяздарныя і невыносна пошлыя. «Сябрам усё, ворагам закон» — гэта была ўлюбёная прымаўка Стрэснэра, а на гэтым эстэтыкі не пабудуеш. Як і на дажынках, «застабільнасьці» і дробнай помсьлівасьці і калгасным мадэрнізме беларускай улады.

Ён арганізаваў сапраўдны генацыд індзейцаў гуарані. Беларускамоўная меншасьць у РБ пакуль што не пачуваецца ахвяраю генацыду, але што такое бяспраўе, яна ведае дастаткова добра. Ды і трыццаціпяцігадовага стажу тутэйшы Стрэснэр яшчэ не дасягнуў.

Ён лічыў, што дзяржава — гэта ён. Ну, і ягоныя дзеці.

Ён памёр у бразыльскім выгнаньні, на самоце, усімі праклятыі забыты. І мусіў радавацца, што памірае ад пнэўманіі ва ўласным доме, а не ў турме.

# Ромавы дзед

***4 лютага 1862 Факунда Бакардзі засноўвае кампанію па вырабе рому***

Рэвалюцыя на Кубе, якая пачалася ў пяцідзясятых стралянінай каля Манкады і скончылася ў дзевяностых на пляжах Варадэра, зьмяла сваёй барадатай мятлой амаль усю старую эліту. Сярод тых, хто ў 1959-м пакідаў выспу на філязофскіх і іншых параплавах, была і сям'я Бакардзі. Тых самых Бакардзі, чый продак дон Факунда перасяліўся некалі з Гішпаніі ў Гавану, каб зрабіць немагчымае: прымусіць тагачасныя вяршкі грамадзтва палюбіць грубы напой піратаў, капэраў і катаржнікаў — карацей, усялякіх рэвалюцыянэраў. Ён самы — ром.

4 лютага 1862 году была заснаваная фірма «Bacardi y Compañía», уладальнік якой дон Бакардзі сам, не шкадуючы ні пячонкі сваёй, ні носа, ні грошай, шляхам спробаў і памылак ператварыў таннае карыбскае чарніла ў бурштынавага колеру амброзію, якой ня гідзяцца нават асобы каралеўскай крыві. Перш за ўсё ром трэба было пачысьціць — і Бакардзі з імпэтам навукоўца ўзяўся дасьледаваць мэтады вугальнай фільтрацыі. Трэба было папрацаваць над колерам — і Бакардзі ператвараўся ў мастака. Трэба было пазбавіць ром смуроду і даць яму водар — і Бакардзі станавіўся руплівым парфумэрам. Трэба было аддаць ром на выхаваньне дубовым бочкам — і, як клапатлівы бацька, дон Факунда гадзінамі стаяў, нахіліўшыся над заснулым напоем і спрабуючы зразумець, што сьніцца ягонаму дзецішчу. Цьмянае сьвятло лямпы лавіла на паверхні напоўненых бочак няяснае адлюстраваньне будучых мільёнаў пэса. Часам, праўда, на паверхні зьяўляўся, як прывід, барадаты твар нейкага маладзёна, які, пыхкаючы цыгарай, літрамі спусташаў запасы фірмы — і тады дон Факунда тушыў лямпу і падымаўся наверх, да шчодрага кубінскага сонца, якое так любіць цукровы трысьнёг.




Які, насуперак уяўленьням, зусім не карыбская расьліна — ён паўтарыў лёс дона Бакардзі, перабраўшыся некалі з Старога Сьвету ў Новы і заваяваўшы яго за лічаныя дзесяцігодзьдзі. Звычайна ўсё бывае наадварот — і пераможнае шэсьце бульбы найлепшы таму прыклад (калі кагосьці і можна называць бульбашамі, дык гэта нашых нядаўніх вэнэсуэльскіх братоў ці іхных суседзяў калюмбійцаў). Цукровы трысьнёг, з патакі якога нейкая сьветлая галава дадумалася рабіць алькагольны напой, зьдзейсьніў у нейкім сэнсе кругасьветнае падарожжа: з Азіі ў Эўропу, а адтуль у Амэрыку, вярнуўшыся на радзіму продкаў ужо ў выглядзе Рому Бакардзі: глядзіце, зайздросьціце, толькі што з Захаду, каштую во колькі і касьцюмчык маю фірмовы — з кажаном на штрыфлі.

Знакаміты сымбаль Бакардзі — кажан, які распасьцёр крылы ня горш за гербавых арлоў — зьявіўся выпадкова: жонка Бакардзі завітала неяк да мужа на фабрыку і пабачыла пад дахам няшчаснага крылатага крывасмока, які сядзеў там і з асалодай удыхаў салодкія выпарэньні. З тае пары кажан і лётае над сьветам. Ром п'юць нават цьвярозьнікі і язьвеньнікі, а таксама дыктатары, якія насамрэч і ёсьць сапраўдныя крывасмокі, у адрозьненьне ад малога бяскрыўднага рукакрылага.

# Маўр скончыў сваю справу...

***5 лютага 1887 адбылася прэм'ера опэры «Атэла» Вэрдзі ў Міляне***

*E tu m'amavi per le mie sventure, ed io t'amavo per la tua pietà...* 5 лютага 1885 году ў мілянскім тэатры La Scala публіка ўсковвае зь месцаў і робіць такую авацыю, што яе чуваць ажно ў нямецкім Байройце. Толькі што адбылася прэм'ера новай опэры Вэрдзі — «Атэла». Сямідзесяцічатырохгадовы майстар даказаў, што мае яшчэ порах у парахаўніцах і запрашаць у лібрэтысты Альцгаймэра пакуль не зьбіраецца. Знаёмая нават чалавеку, які ніколі не душыўся ў чэргах у тэатральны гардэроб, шэксьпіраўская гісторыя пра няшчаснага маўра Атэла і ягоную ня менш няшчасную жонку набыла ўрэшце і музычнае аблічча — смуглявае і жарснае, як chili con carne.

Гэтая опэра сапраўды апякае — сваімі характарамі і галасамі, якім настолькі цесна ў гэтым сьвеце, што яны самазагараюцца ад найменшай іскры і ўрэшце выбухаюць. Густая, цяжкая і разам з тым на дзіва лірычная музыка, якую слухаеш, нібы слуга, які схаваўся за парцьерай гаспадарскай спальні. Пасьля такога ўласныя праблемкі падаюцца нейкімі драбнаватымі: ну, сусьвет недасканалы, ну, грошыкаў мала, ну, сьпіна баліць, ну, выклікі сучаснасьці ціснуць, як атмасфэрны слуп — а ў іх вось як усё прыгожа; так кахаць, так раўнаваць, так спагадаць і так інтрыгаваць ніхто ўжо ня зможа — лібрэта ня тое. Мы па-за дзеяй. Застаецца падглядваць, як схапіліся ў сьмяротным паядынку чужыя дух і цела — і плакаць, і затойваць дых, і пляскаць. То целу, то духу, то самому Вэрдзі. Галоўнае, не жаваць пры гэтым, а то можна незнарок падавіцца і памерці, як Дэздэмона, ад асьфіксіі.



Зрэшты, больш за паўстагодзьдзя перад тым «Атэла» ўжо перакладалі на мову опэры, і зрабіў гэта Расіні. Але на долю Вэрдзі выпаў куды большы і, мусіць, цалкам заслужаны посьпех — які ён з радасьцю падзяліў з выканаўцамі. Кажуць, асабліва атрымаўся Яга — мой любімы герой гэтага твору, што ў Шэксьпіра, што ў Вэрдзі, Яга са сваім Dio crudel, «жорсткім богам» — разумны, насьмешлівы і абаяльны, як усе вялікія ліхадзеі. Вось жа трагедыя Шэксьпіра! Гэта вам не праслаўтая «трагедыя Дастаеўскага»: там што ні ліхадзей, дык нейкая «балбатня і каша», і калі любога зь ягоных няголднікаў уявіць на сцэне — пачуеш толькі агідны фальцэт і мармытаньне. А вось Яга адзін перакрычыць тысячу Сьвідрыгайлавых.

Вэрдзі ў «Атэла» доўга запрагае, але хутка едзе. Першая дзея опэры нясьпешная, з расстаноўкай, грунтоўная... А потым пачынаецца сапраўдны трылер. Абсалютна правакатыўны, яшчэ ад часоў Шэксьпіра, здольны выклікаць алергію ў любога расіста: гэта ж трэба, чорны мужык душыць белую арыйскую кабету — і глядач чамусьці спачувае чорнаму мужыку ня менш, чым замучанай ім ахвяры. Дэздэмона — сымбаль згвалтаванай Эўропы, гэтай засунутай у плястыкавы мех Эўразьвязу ахвяры талерантнасьці і лібэралізму, скажуць сучасныя аматары кансьпіралягічнага фэнтэзі. Не хадзі замуж за граніцу, за бусурманіна — вось і ўся мараль, скажуць бабкі ля пад'езду. А пайшла — дык сама вінаватая. І будуць, дарэчы, у нечым мець рацыю.

І толькі тыя, хто мае вушы, пачуюць музыку.

# Пролы ўсіх краін

***6 лютага 1848 выйшаў Камуністычны маніфэст Маркса***

Гэтая кніга — не раман і ня зборнік вершаў, і тым ня менш ужо больш за паўтары сотні гадоў яна не пакідае абыякавым нікога, хто падазрае ў сабе здольнасьці ашчасьлівіць чалавецтва. Яна не пра любоў і не пра вайну і немцаў, хоць напісаў яе якраз-такі немец. Яна наогул не належыць да бэлетрыстыкі, хоць пачатак яе шматабяцальны: у ім вядзецца пра аднаго беспрытульнага прывіда... Яе ўносілі ў чорныя сьпісы, за яе перахоўваньне пагражала сьмерць, у трыццатых яна гарэла на гёбэльсаўскіх вогнішчах, а потым, пасьля вайны, трапляла ў агонь разам з сачыненьнямі самога Гёбэльса. Яна з аднолькавым посьпехам магла б мець назву «Мая барацьба» ці «Што рабіць?» — але гэтыя інтрыгоўныя назвы чамусьці дасталіся іншым. Да яе ставіліся як да новай Бібліі, ёй карысталіся як кішэнным цытатнікам, яе вывучалі нават на прыродазнаўчых факультэтах і перакладалі на ўсе асноўныя мовы сьвету. Цытаты зь яе траплялі нават на дзяржаўныя гербы, што здараецца зусім ня з кожнай кнігай. Пра яе чулі ўсе, а ўважліва чыталі адзінкі, яна дагэтуль хвалюе розумы тых маргіналаў, хто ўяўляе сабе гісторыю як татамі, на якім мільгаюць рознакаляровыя паясы. 6 лютага 1848 года ў Брытаніі выдавецтвам Камуністычнай лігі быў выпушчаны першы наклад «Маніфэсту Камуністычнай партыі» Карла Маркса і Фрыдрыха Энгельса.



Узяць — і ўсё падзяліць. А што застанецца, аддаць новай камуністычнай дзяржаве. Маніфэст прапанаваў свайго кшталту дзесяць запаведзяў, прытрымлівацца якіх мусіла грамадзтва новага тыпу, вызначыўшы мэты камуністычнай рэвалюцыі, дзеля якой усё і задумвалася. Ніякай прыватнай уласнасьці — апрача той, што нажытая ўласнымі крывёю і потам. Сьмерць буржуям. Экспрапрыяцыя зямлі, адмена права спадкаемства, серп прыпаяць да молата і запрэгчы ў гэтую канструкцыю кожнага, незалежна ад ступені ягонага падабенства да каня. А самога каня, то бок транспарт, таксама аддаць дзяржаве. Незадаволеныя могуць ісьці лесам у накірунку дзяржаўнай мяжы. Гарэлку, морфій і жанчын падзяліць па справядлівасьці — не, да гэтага «Маніфэст» не заклікаў, але натхнёныя ім сьвядомыя пралетарыі пазьней спрабавалі і такім прыемным чынам інтэрпрэтаваць дадзенае ім у Лёндане сьвятое пісаньне. Дзяцей выхоўваць і даглядаць за грамадзкі кошт — усіх. Дазвольце, як гэта: усіх? І гэтых мурзацікаў? Мурзацікаў перш за ўсё, горда адказвае «Маніфэст», бярэ ў рукі мыла і рашуча аддае яго тоўстаму буржую — разам зь вяроўкай.

Маладой буржуазнай гідры было ад чаго прыйсьці ў роспач. Хто не працуе, той ня толькі ня есьць, але і ня ёсьць. Хто быў нічым, той зробіцца ўсім: вось гэтае ваяўнічае нішто пужала грамадзтва, бадай, больш за самі ідэі, выкладзеныя ў маніхвэсьце. Ідэі, некаторыя зь якіх былі прынятыя праз стагодзьдзе буржуазнай гідрай на ўзбраеньне і якія шчасьліва дажылі да нашых дзён акурат у тых краінах, дзе маніфэст быў па-за законам. Ідэі, якія абяцалі шчасьце адразу і са зьніжкай. Ідэі, якія значна пазьней выклікалі да жыцьця найвялікшыя мары і найвялікшых марнатраўцаў, найлюцейшы маразм і найстражэйшы маральны кодэкс, бэрлінскі мур і менскі мэмарыял, мардаваньне і морак, усеагульнае памарачэньне і акадэміка Мара... ну, і марксізм, ад якога, дарэчы, сам Маркс адхрышчваўся рукамі і нагамі, а іх у яго было, як вядома, па дзьве — зусім як у якога-небудзь буржуя.

# Сьмешны, як любоў

***7 лютага 1914 Чаплін зьяўляецца на экране ў сваім клясычным выглядзе***

7 лютага 1914 году на экранах амэрыканскіх сінэматографаў упершыню зьявілася элегантная асоба бяз пэўнага месца жыхарства на імя Чарлі. З кіёчкам, у кацялку і чужых чаравіках, абутых да таго ж кожны не на тую нагу, у штанах, скрадзеных гэтым Давідам у нейкага містэра Галіяфа, з вусамі, якія пакуль што яшчэ нікому нічога не нагадвалі, і з паходкай танцора, якому, як вядома, заўжды замінаюць дзьве вялікія акалічнасьці даволі прыватнага кшталту — такога ні з кім ня зблытаеш. Гэтаму валацугу, чалавеку бяз пашпарта, было наканавана зрабіцца візытнай карткай нямога кіно: вось ужо амаль стагодзьдзе, варта толькі сказаць «Чарлі Чаплін» — і карцінка тут як тут, толькі вось мала хто пазнае ў ёй сябе, а варта было б.

Трыюмфальны студзеньскі дэбют валацугі адбыўся ў кароткай стужцы «Дзіцячыя гонкі на аўтамабілях» — герой Чапліна, які завітаў на гэткае спэцыфічнае мерапрыемства, ня робіць фактычна нічога, апрача таго, што ўвесь час спрабуе пралезьці на першы плян. Ён атрымлівае некалькі высьпяткаў ад рэжысэра, які кіруе здымкамі гонак, і ледзь не трапляе пад бязьлітасныя колы юных шумахераў; яго намаўляюць адысьці і нават у пэўны момант скручваюць яму рукі, але марна — адсунуць валацугу да публікі так і не ўдаецца. «Шум заціх — я выйшаў на падмосткі». Ён атрымаў гэтую ролю. Зрабіць выгляд, што валацугі Чарлі не існуе, што ён, як казалі ў «Карлсане-з-даху», усяго толькі выдумка, ніхто ня зможа. Кінахроніка зафіксавала ягоную прысутнасьць у сьвеце, ён зрабіўся часткай формулы: хай сабе гэта ўсяго толькі «Формула-1» для дзяцей.



Герой Чапліна ўжо ў гэтым, першым фільме — маленькі чалавек у пошуках любові. Вобраз, які пройдзе праз усе карціны з Валацугам — і наогул праз усе карціны Чапліна. Ён шукае яе там, дзе, як яму здаецца, яго ня будуць біць па галаве за тое, што ён яе папросіць. А калі і будуць, то небалюча. Што можа быць сьмяшнейшым за любоў? І што можна лягчэй пакрыўдзіць — і за гэта нічога ня будзе? І што можа быць абсурднейшым — чым шукаць любоў там, дзе зь любові прынята сьмяяцца?

Сьвет у нямых фільмах з Чарлі мэтадычна і мэтанакіравана спрабуе выбіць з валацугі ягоную саманадзейную дурасьць і пераканаць яго, што ён — ніхто і на любоў не напрацаваў. Сьвет, якое б аблічча ён ні прымаў — паліцэйскага дручка ці цагліны, любіць даўганогіх і палітычна граматных, а ня мэтраў з кепкай у чужых штанах. Але Чарлі не здаецца, ён торгае сьвет за касу, і калі той разьятрана абарочваецца, сьціпла і ўпарта кажа: я ёсьць. Пад вашым сонцам месца хапае на ўсіх. Таму пасуньцеся і не засланяйце экран, пліз.

# Дровы і вогнішчы

*8 лютага 1600 асуджаны Джардана Бруна*

У азначэньні «прававая дзяржава» заўжды хаваўся невялікі чарвячок нонсэнсу. Зусім мікраскапічны. Закон, як вядома, мусіць быць абавязковы для ўсіх. Але вось розьніцу паміж тым, каго забілі паводле закону, і тым, каго пазбавілі жыцьця насуперак яму, улавіць настолькі ж цяжка, як і адказаць на пытаньне, што вакол чаго круціцца: зямля вакол сонца ці сонца вакол зямлі. «Why then they are not dead, but dead they are» — дый зь зямлёй і сонцам усё ня так проста.

Што рабіць, напрыклад, калі спачатку сонца круцілася вакол зямлі, а потым яны памяняліся месцамі?

...«Называем, асуджаем, абвяшчаем цябе... нераскаяным, упартым і няўхільным ерэтыком. Таму... ты мусіш быць адлучаны, як мы цябе адлучаем ад нашае царкоўнае грамады і ад нашае сьвятое і беззаганнае царквы, міласэрнасьці якой ты ня варты. Ты мусіш быць аддадзены сьвецкаму суду, і таму мы аддаем цябе суду монсэньёра губэрнатара Рыму, каб ён пакараў цябе адпаведнаю карай, прычым молім яго, каб ён пажадаў зьмякчыць суворасьць законаў, і няхай будзе тая кара без забойства і наўмыснага калецтва... Загадваем, каб ад гэтага часу ўсе твае кнігі, якія знаходзяцца ў сьвятой службе і ў будучым трапяць у яе рукі, прылюдна разрываліся і спальваліся на плошчы сьвятога Пятра перад сходамі...»

Такімі словамі канчаўся прысуд, вынесены 8 лютага 1600 году ў Рыме бегламу манаху, паэту і філёзафу Джардана Бруна. Чалавеку, які так зацята аспрэчваў беззаганнае зачацьце, нібы сам пры гэтым са сьвечкай стаяў. Чалавеку, які адстойваў тэорыю Капэрніка пра геліяцэнтрычнасьць сьвету з самаадданасьцю касманаўта. Чалавеку, які лічыў, што Хрыстос зусім не хацеў ісьці за нас на крыжовую пакуту і адстрэльваўся да апошняга. Чалавеку, які цуды называў навукай, а навукова даказаныя факты — цудамі. Чалавеку, называць якога вучоным можа толькі дылетант, а называць дылетантам — толькі невук. Джардана Бруна, ма́гу і чараўніку, сымбалю непераможнасьці асьветы, жывому ўвасабленьню свабоды думкі і непахіснасьці перакананьняў, нязломнаму мысьляру, якога загубілі крывавыя цемрашалы ў сутанах.



Крывавыя цемрашалы ў сутанах, зрэшты, перад гэтым цэлыя шэсьць гадоў спрабавалі намовіць Бруна адмовіцца ад асьветы, свабоды думкі і непахіснасьці перакананьняў — толькі б не даводзіць справу да такой

жорсткай разьвязкі. Праўда, нюрнбэрскі працэс гісторыі на гэткія рэчы вырашыў не зьвяртаць увагі. Крывавыя цемрашалы дык крывавыя цемрашалы. Высьветлілася, што вэнэцыянец Мачэніга, які сем гадоў перад тым данёс на Бруна, ня хлусіў — што бывае з даносамі ня так ужо й часта. Джардана Бруна і праўда быў ерэтык і, згодна з законам, злачынец. Калі ўявіць сабе, што ў часы Мачэніга і інквізыцыі данос быў чымсьці кшталту грамадзянскай позвы — тагачаснае права проста абавязанае было ўключыцца і запрацаваць, інакш навошта ж яго яшчэ прыдумалі.

Прысуд, які нібыта маліў сьвецкія ўлады пра літасьць да злачынца і ерэтыка, у перакладзе з судова-бюракратычнай мовы азначаў, што недаверка спаляць на вогнішчы. Ні біскупы, ні монсэньёр губэрнатар ні на хвілю не засумняваліся ў тым, што робяць усё правільна. Бо падставаў для сумневу не было: і самому Бруна закон быў знаёмы, і яны самі зрабілі ўсё паводле закону, і наогул, кожнае дзіця ведае пра «дуралекс» і баіцца яго ня менш, чым бацькавай папругі. Праз чатырыста гадоў нехта з аўтарытэтных тэолягаў сказаў, што шкадуе пра вынесены Бруна прысуд, але назваць яго няправедным ён ну ніяк ня можа. Закон ёсьць закон, тады ён быў такі і ён адзін для ўсіх. Хіба ня гэтага мы ўсе і жадаем у нашым імкненьні да вяршэнства права? Бруна быў вораг царквы, ён гэтага не хаваў — а за гэта закон прадугледжваў вогнішча. Што рабіць. Дуралекс.

У цяперашняй Беларусі нязгодных і іншых ерэтыкоў таксама судзяць нібыта паводле закону. З усімі неабходнымі паперкамі, спасылкамі на артыкулы і іншымі даносамі. Праўда, у існаваньне закону на гэтых землях ня вераць ні тыя, хто на лаве падсудных, ні самі судзьдзі, ні шаноўная публіка. Дурных больш не засталося. Здаецца, інквізытары мінулага зь іхнымі вогнішчамі былі значна больш сумленнымі людзьмі за цяперашніх судзьдзяў на палітычных працэсах. І больш шчасьлівымі дакладна. Ім, прынамсі, ня трэба было так старанна рабіць выгляд, што яны судзяць вінаватага.

# Капітан Будучыня

*9 лютага 1828 нарадзіўся Жуль Вэрн*

Неяк ня так даўно, у сярэдзіне дзевяностых гадоў мінулага стагодзьдзя, француз Жан-Жак Вэрн вырашыў пакорпацца ў старых фамільных куфрах, тых самых, якія толькі месца займаюць, а выкінуць чамусьці рука не падымаецца. На дне аднаго зь іх ён наткнуўся на пажоўклыя стосы сьпісаных дробным почыркам аркушаў. На аркушах былі выразна відаць ініцыялы: JV. Іншы адразу падумаў бы: Joint Venture — і здаў бы знойдзенае ў макулятуру, але Жан-Жак ня стаў сьпяшацца з высновамі.

Жана-Жака можна было б назваць самым звычайным францувам, калі б не адна акалічнасьць. Ягоны прадзед ня браў Бэрліну, не партызаніў у Гасконі і нават мэдаля «За вызваленьне Страсбуру» ня меў — але ганарыцца ім Жан-Жак меў не абы-якія падставы. Прадзед Жана-Жака нарадзіўся 9 лютага 1828 году ў Нанце і атрымаў пры нараджэньні імя Жуль Вэрн — якое цяпер ведае ўвесь сьвет. Макулятура, якую адшукаў праўнук пісьменьніка, аказалася рукапісам рамана «Парыж у 1968 годзе», які праляжаў у куфры больш за стагодзьдзе і ніколі не публікаваўся.

Жуль Вэрн — чалавек, які выхаваў пакаленьні дзяцей бяз рэменя і ўказкі. Асоба, у якой фізык жыў зь лірыкам, прычым жылі яны шчасьліва і памерлі ў той самы дзень. Фантаст, які, па ацэнках дасьледчыкаў, высунуў у сваіх кнігах больш за сотню розных абсалютна неверагодных для свайго часу тэхнічных ідэяў і не пераставаў зьдзіўляць чалавецтва на працягу ўсяго дваццатага стагодзьдзя. У якую ваду і з ілюмінатара якой субмарыны ён глядзеў? 90 адсоткаў таго, што ён пасьпеў навыдумляць, ажыцьцявілася. Але «Парыж у 1968 годзе» агаломшыў нават звыклых да Вэрнавых прароцтваў чытачоў. Тут ёсьць аўтамабілі, ксэракс, кампутар, інтэрнэт і нават Эйфэлева вежа. Такое адчуваньне, што ён і быў тым вандроўнікам па часе, якога пазьней апіша Ўэлс у сваім толькі на першы погляд фантастычным, але насамрэч біяграфічным рамане. Госьць з будучыні.



Цікава, што годам дзеяньня свайго так і не надрукаванага пры жыцьці рамана Вэрн абраў менавіта 1968-ы — хаця пісаўся гэты твор у 1863-м. 1968 год для Францыі быў вельмі асаблівы: студэнцкая рэвалюцыя, барыкады, траўка, сытуацыяністы, лёзунг «Soyez réalistes, demandez l'impossible», які, дарэчы, пры ўсёй ягонай радыкальнасьці пасаваў бы і самому Вэрну — хаця той быў хутчэй кансэрватар зь ненармальна высокім узроўнем гуманізму ў крыві... Год, які стаў для Францыі нейкай кропкай, заканчэньнем доўгага шляху, за якім пачаўся зусім новы. У 1968-м старая Францыя, Францыя Вэрна скончылася.

Галоўная аблуда ў дачыненьні да Вэрна — лічыць яго кабінэтным пісьменьнікам, які так і не пабываў у тых нязьведаных краях, пра якія пісаў. Было такое меркаваньне — бо нават на чалавека з будучыні заўжды знойдзецца свая сотня сучасных нядобразычліўцаў. Вэрн быў заўзяты марак — і што такое марская гайданка, салёны вецер у твар і прапахлыя рыбай стамоўныя парты, ён ведаў добра. На Месяц Вэрн са сваёй яхтай і праўда ня трапілі — але хто ведае, можа, ён проста адтуль да нас і спусьціўся.

Ягоныя капітаны яшчэ плаваюць недзе ў нашых акіянах. Хто захоча — той знойдзе. Яго падарожжы працягваюцца — на плянэце, дзе не засталося ніводнага месца, куды б не ступала нага чалавека. І тая дама з чорна-белай хронікі пачатку стагодзьдзя, якая трымае ля вуха нешта падобнае на мабільнік і вядзе па ім нязмушаную размову — магчыма, яе проста прыдумаў Вэрн.

# Герой іхнага часу

*10 лютага 1978 Машэраў робіцца Героем Сацыялістычнай працы*

Гадоў дзесяць таму была папулярная такая кампутарная гульня — у «герояў». Герой мусіў умацоўваць свой замак, клапаціцца пра рост насельніцтва, зьбіраць «артэфакты», выконваць розныя місіі і, як водзіцца, назапашваць пры гэтым веды і інтэлект. Ну і, вядома, перамагаць іншых герояў. Гулец мог абраць аблічча монстра, а мог і чалавека — на жаданьне. Незалежна ад выбару ён заставаўся героем — такія былі правілы. Пакуль яго не перамагалі «чужыя» — або іншы герой.

Камуністычны кіраўнік Беларусі Пётр Машэраў быў чалавекам і героем. Прычым героем нават двойчы (у згаданай гульні таксама існавала такая магчымасьць). 10 лютага 1978 года ён, герой Савецкага Саюзу, быў узнагароджаны яшчэ і ганаровым званьнем героя сацыялістычнай працы. То бок, завалодаў яшчэ адным «артэфактам». І сапраўды, у апісаньні гэтага дзіўнага тытулу ёсьць нешта ад фэнтэзійных кампутарных гульняў: ён прысуджаецца за «рост магутнасьці і славы». Слава — 100 з 100 магчымых, магутнасьць — 90, віртуальнае золата, чароўнае срэбра.

Моц ягоная ў канцы сямідзясятых наблізілася амаль да максымуму. У ягоным арсэнале былі меч Стабільнасьці, Боты Ільлі Мурамца (пазычаныя) і промні Спакою. Ягоны замак, арандаваны прафсаюзам герояў, квітнеў на зайздрасьць суседзкім монстрам. Пры ім Беларусь дасягнула такога ўзроўню эканамічнага разьвіцьця — вядома, па савецкіх, «гераічных» мерках — што сюды хацелі на пэнсію ўсе героі, нават тыя, хто ня меў уласнага замку. Машэраўскую Беларусь выбіралі людзі, якія хацелі жыць ціха, далей ад «чучмекаў», на выгодна-блізкай адлегласьці ад «лабусаў» і каб пры гэтым недалёка ад матушкі-Расеі. Машэраў — пры ўсёй розьніцы статусаў, сьветапоглядаў і магчымасьцяў — больш за ўсё нагадвае такога сабе беларускага Янаша Кадара. Часы ўладараньня якога, чаго ўжо тут крывіць душой, большасьць мадзяраў цяпер прыгадвае зь нечаканай для саміх сябе калярыфэрнай цеплынёй. Было што паесьці, было дзе жыць, было дзе працаваць, было дзе і чаго выпіць пасьля работы. Гуляш кожны дзень. Мірны, сьветлы, спакойны час. А сакрэтная паліцыя — што тут сакрэтнага, яна як вар'ят зь сякерай, не чапай — не зачэпіць... Проста ня трэба хадзіць пасьля адзінаццаці там, дзе ня трэба. Курчыць зь сябе невядома што, калі ты — звычайны гоблін. Народжаны любіць свайго героя. Магутнага, слаўнага і чалавечнага.



Як жа ж мала трэба ўладзе, каб яе любілі. Усяго толькі абраць чалавечае аблічча і адмовіцца ад аблічча монстра. Ня біць халопаў бізуном па пысе, гаварыць «чалавечаскім языком» і ня піць кроў у пост — джэнтэльмэнскі набор начальніка новай фармацыі. І ўсё: шчырыя сьлёзы ўдзячнага народу забясьпечаныя. Машэраў, гэты «камуністы з-пад Расонаў» (насамрэч трохі далей — з-пад Сянна), быў чалавекам, былым партызанскім камандзірам і на званьне героя-монстра не прэтэндаваў. Меў прыгожую легенду пра продка-француза. Будаваў замак для сваіх гаспадароў. Расчышчаў завалы: ну хто б мог падумаць, што зьнішчэньне нейкіх там беларускіх балотаў пазьней назавуць экалягічнай катастрофай. Тады і словаў такіх не было — хіба толькі ў Маскве, загады якой герой сацыялістычнай працы заўсёды выконваў, інакш не пратрымаўся б і дня ў магутных начальніках. Пры ім зьнікла Няміга, масава зачыняліся беларускія школы, выбіваўся ў мовы зэдлік з-пад ног — і пры гэтым ён, кажуць, так ужо любіў інтэлігенцыю, што яна дагэтуль почасту ўспамінае свайго героя з удзячнасьцю. У яго і ўсьмешка была чалавечая, добрая — зусім не падобная да ілжывай і падступнай сталінскай — калі б ня гэтая недарэчная сёньня чырвоная зорачка, якая лунае над імі абодвума, чамусьці ніяк не ператвараючыся ў німб, і пра якую большасьць так хацела б проста забыць.

# Крышталёвыя кулі

*11 лютага 1959 у Менску адкрыты Дзяржаўны цырк*

11 лютага 1959 году ў Менску акрабат па прозьвішчы Бірукоў ускараскаўся на зьледзянелы дах Дзяржаўнага цырку — на самую верхавіну — і нейкі час стаяў там на галаве. Мінакі, зрэшты, паставіліся да гэтага ўчынку з разуменьнем, ніхто ня выклікаў ні пажарных, ні міліцыю, ні снайпэра: бо на чым жа яшчэ было стаяць у гэты зімовы дзень акрабату Бірукову, калі ў новым, адмыслова ўзьведзеным для такіх забаваў будынку толькі што адбыўся першы паказ.

Цырк у Менску існаваў і да таго і доўгі час захоўваў вернасьць сярэднявечным традыцыям вандроўніцтва. Месцам, дзе якая-небудзь непараўнальная мадэмуазэль Х дэманстравала свой «сьмяротны трук» і новыя францускія панчохі, а Вільям Труці мог паганяць сваіх дрэсіраваных конікаў, станавілася то Траецкае прадмесьце, то Саборная плошча, то Губэрнатарскі сад, а замежныя трупы раскідвалі свае намёты, бывала, і на Камароўскім полі. Потым цырк у сьвядомасьці менчукоў пачаў стала асацыявацца з пэўнай палянкай у Губэрнатарскім садзе — будучым парку Горкага. Бо неяк на гэтае месца сеў паназіраць за нябачнымі клоўнамі каменны госьць Максім Горкі, ды так і застаўся там сядзець, заклаўшы нагу на нагу. Задумаўся пра ролю менскага цырку ў дрэсіроўцы буравесьнікаў. Праз дзесяць гадоў пасьля вайны ўлады вырашылі ашчасьлівіць Менск першым стацыянарным цыркам. І дысьлякавацца ён меўся ў самым маляўнічым раёне — Шабанах... Ну, не зусім у Шабанах, а там, дзе цяпер станцыя мэтро Магілёўская. Але менская інтэлігенцыя сарвала мае пляны мець цырк у сябе пад бокам — і будынак пастанавілі разьмясьціць на рагу праспэкту Сталіна і вуліцы Янкі Купалы.

Беларускі цырк быў адным з найлепшых у імпэрыі і пасьпяхова канкураваў на зьнешнім рынку зь беларускімі трактарамі, яфрэйтарамі і песьнярамі. Цяпер, праўда, пры словах «беларускі цырк» у сьвядомасьці людзей узьнікае не прыгожы, падобны да паганскага храму будынак на праспэкце зь яго адважнымі насельнікамі, а ўся беларуская рэчаіснасьць, у якой, здаецца, больш няма рэчаў, зь якіх немагчыма было б не пасьмяяцца — ці такіх, якія б не былі перакуленыя дагары нагамі.



Вядома, у дзяцінстве мяне некалькі разоў вадзілі ў наш цырк. Напэўна, як і іншым савецкім дзецям, першыя выправы сюды запомніліся радасным галавакружэньнем

і чэргамі па марозіва, пазьнейшыя — бліскучай і непрыкрытай сэксуальнасьцю акрабатак і асабліва дрэсіроўшчыц. Але больш за ўсё запомніўся пах, прыемны, густы, трохі задушлівы... Потым на нейкі момант падалося, што ўзрост ужо ня той і ў цырк больш дарогі няма. Ажно не.

На пачатку дзевяностых мы зь сябрамі арандавалі менскі дзяржаўны цырк. Увесь. Праўда, на артыстаў і сланоў грошай не хапіла, таму давялося пераўвасабляцца ў іх самім. Называлася гэтая дзея «Рок новай хвалі». Такі сабе першы і апошні фэстываль менскай альтэрнатыўнай музыкі. Лепшага месца для яго правядзеньня нельга было прыдумаць. З раніцы да позьняга вечара будынак быў акупаваны панкамі, гіпі, мэталістамі, бардамі, наркадылерамі, журналістамі, будыстамі, крышнаітамі, паэтамі, прастытуткамі, мастакамі, самагубцамі, бадзягамі, агентамі ахранкі, байкерамі, прыбіральшчыцамі, анархістамі, школьнікамі, параноікамі, гопнікамі, чэрававяшчальнікамі, прызыўнікамі, халяўшчыкамі і прадстаўнікамі іншых, дагэтуль не распазнаных субкультураў. Яны распаўзьліся па цырку, як выпушчаныя з тэрарыюму зьмеі. За цяжкімі парцьерамі кахаліся і каloліся, у закутках чыталі вершы і пілі партвэйн, у вальерах адсыпаліся і рэпэтавалі свае выступы, апошні зь якіх адбыўся апоўначы ў амаль поўнай цішыні. Людзі проста перасталі зьвяртаць увагу на музыкаў. У кожным прачнуўся неспакойны дух мадэмуазэль X і Вільяма Труцi. Кожны пачуваўся тут як дома. І калі цырк пахіснуўся б раптам і рушыў праз увесь горад на Магілёўскую шашу, зносячы з сабой нашую хеўру, ніхто б асабліва не зьдзівіўся...

# Сьпірытус санктус

*12 лютага 1865 Мендзялееў абараніў дысэртацыю «Злучэньне сьпірту з вадой»*

У Менску ёсьць вуліца, якая носіць імя расейскага хіміка і фізыка, а таксама футуроляга, аэранаўта і паляўнічага на прывідаў Дзьмітрыя Мендзялеева. Што і калі рабіў вялікі вучоны Мендзялееў у Менску, доўгі час высьветліць было немагчыма. Адказ на гэтыя пытаньні дасьледчыкі знайшлі зусім нядаўна, і гучыць ён так: Дзьмітры Іванавіч не рабіў у Менску нічога і ніколі. Вось у Гайдэльбэргу, скажам, існаваньне такой вуліцы было значна больш дарэчнае. Тым ня менш адзін з насельнікаў менскай вуліцы Мендзялеева, які дажываў свае апошнія дні з-за раньняга цырозу пячонкі і раку страўніка, выкліканых пэрманэнтным і пэраральным ужываньнем вадкасьці ад паценьня ног, прызнаваўся мне неяк, што лепш жыць на вуліцы Мендзялеева, чым на вуліцы Камуністычнай.

Мендзялееў, шаптаў ён, хаця б гарэлку вынайшаў, а што далі рабочаму чалавеку камуністы? З жыхаром вуліцы Мендзялеева цяжка было не пагадзіцца. Давялося паабяцаць, што калі нашы прыйдуць да ўлады, Мендзялеева мы пакінем. Хаця ніякай гарэлкі Дзьмітры Іванавіч насамрэч не вынаходзіў і наогул ня меў да яе дачыненьня. Ну, хіба што ўжываў. Пэраральна, што ня лічыцца грахом нават сярод нарколягаў і артадаксальных хрысьціянаў.



12 лютага 1865 году Дзьмітры Мендзялееў абараніў доктарскую дысэртацыю на тэму «Злучэньне сьпірту з вадой». Вось ужо амаль паўтары сотні гадоў гэтыя простыя, мілыя і знаёмыя кожнаму з маленства словы грэюць душы аматараў вогненных вадкасьцяў. Як тут было не паўстаць прыгожай легендзе? Пра што канкрэтна вялося ў той геніяльнай працы, без паўлітры патлумачыць цяжка. Але пра гарэлку там не было ні слова. Дзьмітры Мендзялееў не прысьніў ні табліцу Мендзялеева, ні плямы Роршаха, ні кубак Эсмарха, ні душ Шарко. І чамаданаў ён у вольны ад навукі час не майстраваў, хоць хадзілі і такія чуткі. Але зь Беларусьсю, у адрозьненьне ад гарэлкі, яго ўсё ж сёе-тое зьвязвала. Напрыклад, ягоным сябрам і перакладчыкам быў Леанард Іваноўскі з Гарадзеншчыны, сын якога Вацлаў вядомы кожнаму беларусу, незалежна ад ягонага стаўленьня да этылавых і тэхнічных сьпіртоў. І наогул: нясьпешна дапіваючы другую бутэльку на менскай вуліцы Мендзялеева, прыемна ўяўляць расейскага хіміка, які, седзячы на ўласнаручна змайстраваных валізках, даводзіць сваім вучням перавагі менскага «Крышталю» над якой-небудзь «Гжэлкай».

# Цяля паміж жорнаў

*13 лютага 1974 Бёль сустракае ў Нямеччыне Салжаніцына*

Як пасажыру гэтаму пісьменьніку можна толькі пазайздросьціць. Ня кожнаму дзяржава купляе за свой кошт авіябілет у адзін канец, ня самы горшы з канцоў гэтага сьвету. Ды яшчэ сьцеле пад ногі абрус, у поўнай адпаведнасьці зь любімай прымаўкай расейскіх пакаёвак. А таксама, у якасьці бонусу, пазбаўляе свайго абрыдлага грамадзянства, зь якім бязь візы нікуды ня пусьцяць, і загадвае ніколі больш не вяртацца на свае бяскрайнія абшары. Выгнаньне першае клясы.

Што ж, тым горш для абшараў.

13 лютага 1974 году рэйсам Масква-Франкфурт у Нямеччыну прыляцеў самалёт, катастрофа якога прымусіла б сусьветную літаратуру выглядаць сёньня крыху інакш, чым мы да таго звыклі. Колькасьць прасякнутых, захопленых, пакрыўджаных, зайздрослівых і «благоговейно внемлющіх» чытачоў і пісьменьнікаў на квадратны кілямэтар была б значна меншая. Але авіякатастрофы не адбылося, і з самалёта выйшаў расейскі пісьменьнік і ўжо некалькі гадзін як ганаровы выгнаньнік Аляксандр Салжаніцын. Яго чакалі, і яшчэ празь некалькі гадзін у Кёльне Салжаніцына сустракаў Гайнрых Бёль.

Яны парукаліся і лёгенька стукнуліся адзін аб аднаго — абняліся. Жывы праваслаўны пакутнік — і каталік, вядомы сваёй крытыкай каталіцтва. Абодва былыя салдаты, разьдзеленыя лініяй фронту. Абодва з маленькіх людзей: Бёль з рамесьнікаў, Салжаніцын зь сялянаў. Абодва ахвяры самых жудасных палітычных рэжымаў, якія можна сабе ўявіць. Абодва нядаўнія Нобэлеўскія ляўрэаты — дзяліць ім няма чаго. Амаль аднагодкі: Бёль старэйшы ўсяго на год. Бёль больш знакаміты, Салжаніцын маднейшы і вастрэйшы. Бёль лірычнейшы, Салжаніцын дакумэнтальнейшы. На абодвух пакамечаныя зімовыя плашчы. У 80-х Бёль памрэ, а вось Салжаніцын... Ягонае вяртаньне ў Расею будзе нагадваць другое прышэсьце Хрыста, а сыход у вечнасьць заўважаць далёка ня ўсе.



Салжаніцын уваходзіць у дом Бёля і адразу ж просіць набраць нумар яго маскоўскай кватэры. Яго зьдзіўляе, што злучэньне адбываецца без праблем. Пагаварыўшы, ён падае на ложак у адведзеным яму пакоі і засынае. Сярод ночы падымаецца: на вуліцы, якая цяпер называецца Heinrich-Böll-Straße, натоўп журналістаў, усе чакаюць, калі ён прачнецца. Неўзабаве Салжаніцын зьехаў у ленінскія мясьціны — Цурых. Больш яны зь Бёлем толкам і ня бачыліся.

Некалькі гадоў таму давялося і мне пабываць і папрацаваць у Бёлевым доме, між ценяў вялікіх людзей. У невялікай бібліятэцы, куды трапляеш з вэранды, вісіць знакаміты здымак, зроблены ў тыя лютаўскія дні 1974-га. Бёль і Салжаніцын нясьпешна ідуць па лузе, размаўляючы пра нешта. Можа, пра Талстога і Дос Пасаса, а можа, пра кошты на паліто, футбол і ўраджай. Калі ўвечары доўга глядзець на той луг, можна пабачыць іхныя здані. Яны не абарочваюцца. Ім ёсьць пра што пагаварыць і заўжды будзе.

Бёля я люблю, а больш за ўсё люблю ягоны раман «Ansichten eines Clowns». Ягонага госьця... Ну так, паважаю — за трываласьць і мужнасьць. Ніводны зь вялікіх твораў Салжаніцына я так і ня здолеў дачытаць да канца. Для мяне ён занадта расейскі, занадта праваслаўны, занадта барадаты, шырокі і глыбокі і заўжды ўпадае ў Касьпійскае мора. І крыж у яго на грудзёх блішчыць надта ўжо зырка. У той самай бібліятэцы, дзе сярод поўнага збору твораў Бёля ёсьць і калекцыя груваскіх і страшных салжаніцынскіх эпапеяў, я наткнуўся на антысэміцкую кніжку расейскага філёзафа Розанава 2003 года выданьня, у арыгінале. Між старонак быў доўгі, бялявы арыйскі волас. Нехта прыляцеў сюды з бяскрайніх салжаніцынскіх абшараў і прывёз з сабой неўміручых расейскіх дэманаў. Цялятка памерла, а жорны ўсё круцяцца.

## Эфэкт люстэрка

***14 лютага 869 памёр Кірыл, адзін са стваральнікаў кірыліцы***

14 лютага 869 году ў Рыме памёр Кірыл, манах і вучоны, хрысьціянскі місіянэр і паліглёт, якога шмат хто лічыць стваральнікам нашай гордай кірыліцы. Унікальнага, сакрэтнага, амаль што масонскага графічнага коду, з дапамогай якога пэўная частка славянства вось ужо больш як тысячу гадоў геранчна супрацьстаіць лацінскай змове. Візуальна гэтае пісьмо нагадвае нечы вытанчаны зьдзек з клясычных рымскіх літар і дагэтуль палохае недалёкіх замежных турыстаў. Ці, прынамсі, тых, каму па ўзросьце або стане здароўя не давялося ў свой час вучыць у школе мову братоў-вызваліцеляў.

Насамрэч Кірылам брат Кірыл зрабіўся за некалькі дзён да сьмерці, а так зваўся ўсё жыцьцё братам Канстанцінам, так што створанае ім пісьмо мусіла б мець назву *канстанцініца*. Або *косьціца* ці нават *кастусіца*. Гучыць прыемна — як назва нейкага дыстыляту. Больш за тое, ніякай кірыліцы Кірыл не ствараў, ён наогул быў чалавек пабожны, цураўся любых праяваў гардыні і ня стаў бы нічога называць у свой гонар, баючыся Гасподняга гневу. Ён нават ня быў славянінам, гэты цывілізаваны грэк, які проста ўзяў і прыдумаў разам з братам Мэтодам альфабэт для дзікіх славянаў, глаголіцу, а заадно і царкоўнаславянскі валяпюк, каб прыручыць іх і зрабіць трошкі больш свойскімі. Кірыліца зьявілася пазьней, з тых часоў яна зьмянілася амаль да непазнавальнасьці, абрасла мноствам варыянтаў і выглядае, у сваю чаргу, як вытанчаны зьдзек з глаголіцы, але абедзьве яны родныя сёстры, як Кірыл і Мэтод. То бок браты. А братоў не выбіраюць і ў зубы ім не глядзяць.

У цёмным лесе гэтых пэрыпэтыяў заблудзіць настолькі ж лёгка, як замежнаму турысту на цнатліва-кірылічнай менскай ускраіне. Да таго ж кірыліцаў існуе шмат, і амаль кожная зрабіла вымушаны рэвэранс у бок лацініцы. Таму няхай Кірыл прыдумаў кірыліцу, Мэтод мэтодаўку, а Калюмб адкрыў Амэрыку, усё адно гэта было даўно і няпраўда. Значна жывейшыя і яскравейшыя ўспаміны зьвязаныя ў шмат якіх народаў з зусім нядаўнім гвалтоўным вывучэньнем кірыліцы ў школе і такім самым гвалтоўным пераводам на кірыліцу цэлых моваў.



Цудоўная гісторыя адбылася у дваццатым стагодзьдзі з азэрбайджанскай мовай: спачатку яна была пераведзена з арабскага на лацінскае пісьмо, потым, літаральна празь дзесяць гадоў, на кіры-

ліцу, а калі Азэрбайджан стаў незалежным, дык зноў вярнуўся да лацінкі, якая цяпер упэўнена перамагае кірыліцу пры поўнай падтрымцы дзяржавы.

Літоўскую мову ў XIX стагодзьдзі гвалтам спрабавалі перавесьці на кірыліцу, але яна не далася. Засталіся тэксты, якія на сёньняшні дзень выглядаюць проста фантасмагарычна:

*«Тейкасъ манъ Поны, вешкелюсъ тава пародиты, о кялюсъ сава тейкасъ манъ апрейкшити такусъ мано тэйкясъ тайситы пагалъ таво исакиму...»*

Кажуць, на пачатку 50-х савецкія экспэрымэнтатары спрабавалі перавесьці на кірыліцу нават эстонцаў, але тады з Савецкім Саюзам здарыўся Бэрыя, які за свае пару месяцаў увёў на ўскраінах імпэрыі нацыянальную распусту, і тая задума прапала бязь сьледу.

Чалавеку неспрактыкаванаму знаёмства з кірыліцай мусіць падавацца нечым кшталту падарожжа Алісы ў Залюстроўе. І самы яркі прыклад гэтаму: жудасная, нібы люстэркам выкручаная «И». Мірная і такая знаёмая зь дзяцінства літара «р» ва ўсіх гэтых дзіўных краінах зусім ня ёсьць «р», а чытаецца чамусьці як «r». Добра — але чаму тады павернутае «R» — гэта JA? Чаму? У імя якіх ідэалаў? Прыгожае, ваяўнічае і старажытнае X трэба чытаць як «h» — толькі барбары здольны на такое. Што да астатніх літар, то яны выклікаюць нейкія двухсэнсоўныя асацыяцыі — адна з танкам, другая з шыбеніцай, трэцяя наогул зь нелегальнай міграцыяй. Такіх не бяруць у Эўропу, на такіх там глядзяць з трапяткім подзівам — маўляў, мала нам грэкаў зь іхнымі закаручкамі? Таму няхай Залюстроўе застаецца Залюстроўем. А дзіўныя літары мы запішам у сьпіс культурнай спадчыны. Нематэрыяльнай, незапамінальнай і незразумелай, як і ўся гэтая нічыйная зямля, геніяльна напісаць пра якую можна толькі адпаведна ўсталяваўшы люстэрка.

# Права першага гена

## *15 лютага 1947 у СССР забаронены шлюбы з іншаземцамі*

Савецкі народ так часта называлі адной сям'ёй, што з самага пачатку гэта нагадвала нейкі ідэалягічны інцэст. А 15 лютага 1947 году Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету СССР і наогул выдаў указ, які забараняў грамадзянам краіны шлюбы з іншаземцамі. З гэтага дня савецкім людзям, якія, як вядома, усе былі роднымі братамі і сёстрамі, дазваляліся выключна кровазьмяшальныя сувязі паміж сабой, у межах свайго загону. Такім чынам рост папуляцыі мусіў за кароткі тэрмін вярнуцца на даваенны ўзровень — трэба было як мага хутчэй аднавіць страчаныя на вайне запасы чалавечага мяса, бо таго, што засталося ў наяўнасьці, не хапала. Дый яно, асьмялелае, пачало неўпрыкмет уцякаць і распаўзацца па чужых кухнях, толькі пасьпявай лавіць.

Згодна з генэтыкай, прыняцьце такога закону не магло не адбіцца на якасьці патомства, бо верагоднасьць перадачы савецкага гена ўзрастала ў некалькі разоў. Дзіця такога кровазьмяшэньня не магло нарадзіцца ніякім, апрача як савецкім чалавекам ад мозгу да апошняй залозы. Гены, як вядома, пальцам не расьцісьнеш. Напэўна, на гэта і быў спадзеў уладаў, што спрабавалі выгадаваць новую, чыстую пароду чалавека.



Чымсьці гэты ўказ нагадвае праславутыя нюрнбэрскія расавыя законы, а асабліва іхныя злавесныя пункт 2:

*«Палавая сувязь паміж габрэямі і дзяржаўнымі падданымі нямецкай крыві забароненая».*

і пункт 1.1:

*«Шлюбы паміж габрэямі і дзяржаўнымі падданымі нямецкай крыві забароненыя. Шлюб, заключаны ў абыход гэтага закону за межамі Райху, ня мае юрыдычнай моцы».*

Так што правадыр сям'і народаў быў ня горшым эўгенікам за свайго нямецкага калегу. Малаверагодна, што савецкая ўлада сама спалохалася таго, што зрабіла, але ў 1953-м, пасьля сьмерці Сталіна, недарэчны маскоўскі расавы ўказ быў бязь лішняга шуму скасаваны. Проста чалавечага мяса зноў стала досыць: і для маленькай пераможнай вайны, і для таго, каб заткнуць усе шчыліны ў агароджы. Застаўся сухі астатак, няпісаны закон статку, закон, які дзейнічае незалежна ад капрызаў пастуха — да канца існаваньня загону ён разглядаў людзей з, так бы мовіць, няправільнай шлюбнай арыентацыяй пераважна як прастытутак, афэрыстаў і здраднікаў. І тое, што загон нарэшце зьнік, зусім не азначае, што зьнік і статак. Гены... Гума... Гліна... Лепш санкцыянаваны інцэст, чым несанкцыянаваны інтым — праўда, бацюшка?

# Часам яны вяртаюцца

***16 лютага 1815 Напалеон на высьпе Эльба пачынае арганізацыю ўцёкаў***

Былых імпэратараў, як і былых забойцаў, не бывае. 16 лютага 1815 году Напалеон I Банапарт, першы імпэратар Францыі, палкаводзец і самы знакаміты выгнаньнік стагодзьдзя, у нядаўняй мінуўшчыне таксама першы консул Францускай рэспублікі, кароль і прэзыдэнт Італіі, а ў далёкай будучыні — смачны савецкі торт, пачаў рыхтаваць свае ўцёкі з выспы Эльба, куды яго засунулі далей ад граху напалоханыя эўрапейскія манархі. Ніхто не здагадваўся, што пляны ўцячы адсюль карсыканец выношваў з таго самага дня, як скончылася Бітва Народаў. Хоць вонкава ён і выглядаў як чалавек, які зьмірыўся са сваім лёсам, толькі дурань мог паверыць, што нядаўні фактычны ўладар паловы Эўропы задаволіцца ўладай над трыма тысячамі душаў і будзе да канца жыцьця разводзіць скунсаў на Эльбе, калекцыянаваць чужыя трохвуголкі і пісаць мэмуары.

І час надышоў. Ніколі не здавайся, нагадала імпэратару 16 лютага, пралятаючы над Эльбай, тая самая шчасьлівая, але ўжо трохі стомленая зорка, пад якой нарадзіўся некалі



амбітны адвакацкі сын Напалеонэ, які больш за ўсё на сьвеце ненавідзеў халодную паленту і французаў. Ён ужо даўно сачыў за падзеямі на кантынэнце, дзе ўсё складвалася як ніколі ўдала: ягоныя пераможцы перасварыліся між сабой, а Бурбоны, вяртаньне якіх нядаўна ў Францыі сустракалі з такой палёгкай, пасьпелі ўсім настолькі абрыднуць, хоць махалам гані. І махала выправілася ў дарогу. 26 лютага імпэратар на чале тысячнага атраду высадзіўся недалёка ад Канаў. Праз некалькі дзён ягонае войска павялічылася да 7000, а яшчэ праз два тыдні — да 20000.

Напалеона любілі самыя розныя людзі, у тым ліку адна жанчына з Марцінікі, а больш за ўсё яго багамілі паэты, у тым ліку з Расеі і Ангельшчыны, заклятых ворагаў імпэратара. Дзіва што — такія жарсьці, такі дэманічны вобраз і такая актуальная тэма. Падрыхтоўцы ўцёкаў з Эльбы прысьвяціў свой напышлівы вершык Пушкін, які некалькі разоў піша пра кайданы, якія выгнаньнік, седзячы ўначы на марскім беразе, зноў прымервае для беднай Эўропы. А пра трыюмфальнае вяртаньне імпэратара ў Парыж напісаў сам Байран — маўляў, імпэратар і ў выгнаньні не перастаў быць джэнтэльмэнам і «перад дамамі здымаў капялюш, а ворагаў лупіў па шапцы».

Не адставалі ад паэтаў і францускія газэтчыкі. У гісторыі ўцёкаў імпэратара з Эльбы гэта самы вясёлы разьдзел. «Карсыканская пачвара высадзілася ў бухце Жуан», пісалі парыскія выданьні ў пачатку сакавіка. Загаловак праз некалькі дзён: «Людажэр на падыходзе да Граса». Трохі пазьней: «Узурпатар увайшоў у Грэнобль». Наступнае паведамленьне: «Банапарт захапіў Ліён». Яшчэ тры дні: «Напалеон каля Фантэнблё». І нарэшце, 20 сакавіка: «Ягоную імпэратарскую Вялікасьць чакаюць сёньня ў ягоным верным Парыжы».

І ўсё пачалося спачатку. Толькі гэтым разам скончылася значна хутчэй, бо і ў шчасьлівых зорак ёсьць свой тэрмін прыдатнасьці — пазначаны маленькімі літарамі на ўпакоўцы. Іх мала хто чытае — на шчасьце для паэтаў і на бяду трыюмфатарам.

# Чатырнаццаць гадоў засухі

*17 лютага 1933 у ЗША адменены сухі закон*

17 лютага 1933 году амэрыканскі Кангрэс уздыхнуў усімі сваімі 435 галасамі і адмяніў большасцю зь іх дзеяньне ў краіне «сухога» закону. Грамадзтва, якое чатырнаццаць гадоў было ў вымушанай «завязцы» пасьля некалькіх стагодзьдзяў хранічнага запою, бурліва адзначыла гэты дзень вызваленьня і перамогі дэмакратыі (і, што ня менш важна, дэмакратычнай партыі). На старым фотаздымку, які зафіксаваў жыхароў штату Юта ў самы ўрачысты момант, відаць непадробная, як добрае віскі, чалавечая радасьць і шчырыя сьлёзы, чыстыя, быццам фірмовы джын. Зь імі міжволі хочацца чокнуцца, з гэтымі вясёлымі і вольнымі людзьмі, якія перажылі на сабе небясьпечны дзяржаўны экспэрымэнт і — выжылі.

А ўсё пачыналася так кранальна і шматабяцальна. У краіне былі зачыненыя 1092 бровары і 236 прадпрыемстваў па вырабу больш моцнай атруты. Ліквідаваныя 177790 бараў, салунаў, піўнух, кабакоў і іншых прытонаў. Ужо праз тры гады злачыннасьць зьнізілася на 70 адсоткаў, турмы апусьцелі, бяз працы засталіся паліцыянты, пажарныя і псыхіятры, рэзка вырасьлі спажываньне малака і сумы на банкаўскіх рахунках. Але нядоўга грала гэтая цьвярозая, як шкло, музыка. Удзячны народ піў сабе малако, а думаў пра кефір, у якім, як вядома, таксама ёсьць ён, запаветны Градус. І не ў аднаго грамадзяніна разрывалася сэрца, калі ён бачыў, як выліваецца ў каналізацыю некалі любімае марачнае брэндзі, смак якога язык чамусьці ніяк ня можа забыць. Ужо ў сярэдзіне дваццатых «сухі закон» адгукнуўся зусім іншым рэхам, гук якога быў больш падобны да адрыжкі п’янага бутлегера, чым да шчасьлівай песьні здаровага і працавітага сем’яніна.



У 1924 годзе хранічных алькаголікаў у ЗША налічвалася амаль удвая больш, чым да прыняцьця закону. Толькі за адзін 1929 год было арыштавана каля 70 тысяч спэкулянтаў алькаголем, самаробным і кантрабандным. У Джорджыі за тое, што гнаў сівуху, быў асуджаны да працы ў каменяломнях і штрафу 500 даляраў нейкі няшчасны 84-гадовы стары, які ўсяго толькі й хацеў, што прабавіць рэшту дзён згодна з уласнымі ўяўленьнямі пра шчасьлівую старасьць. За той самы год было паранена і забіта ў баях з алькагольнай мафіяй каля ста паліцыянтаў. Выдаткі толькі на кантроль за выкананьнем «сухога закону» наблізіліся да выдаткаў на войска, то бок вылічваліся ў сотнях мільёнаў даляраў.

І грамадзтва адступіла.

Спробы паўтарыць амэрыканскі экспэрымэнт працягваліся і працягваюцца там і тут да сёньняшняга дня. Але — калі ў людзей забраць алькаголь, яны ўсё адно яго знойдуць. Нават у гэтай палярнай менскай ночы. З рызыкай для жыцьця і нязгаснай прагай у душы. З энтузіязмам, можа, і вартым лепшага прымяненьня, але ня менш гераічным, чым любы іншы.

Забярыце ў іх алькаголь — і яны будуць піць растваральнікі. Імпарцёры не далічацца стратэгічнага прадукту. Насельніцтва шпаркімі тэмпамі пачне выміраць. Перапоўненыя могілкі і турмы, дэградацыя і масавыя забойствы. Гуманітарная катастрофа. Тэст на апакаліпсіс. Ці каштуе краіна адной пляшкі чарніла?

Як жа супрацьстаяць павальнаму алькагалізму? Самая разумная ідэя, якую я чуў: алькаголь мусіць быць дарагі. Заўсёды трошачкі недаступны. А наогул... Чалавек ніколі ня будзе піць адно малако. Чалавек будзе піць малако тады, калі яму хочацца малака, і віно — калі яму хочацца віна. Выбіраць і вызначаць, што канкрэтна нам хочацца ў гэты час, можам толькі мы самі. Падобна на тое, што гэта — таксама закон, абсалютна «мокры» і неаспрэчны. Ну, ці, прынамсі, правераны на амэрыканцах, а ў іх заўжды ёсьць чаму павучыцца.

# Цуды ў пясочніцы

*18 лютага 1979 у Сахары выпаў сьнег*

18 лютага 1979 у самай вялікай і самай пустой на сьвеце пустэльні Сахара раптам выпаў самы сапраўдны сьнег. 0,4 чалавека на квадратны кілямэтар (менавіта такая шчыльнасьць насельніцтва гэтага рэгіёну), разгублена назіралі, як векавыя пяскі пакрываюцца ня надта тоўстым, але цалкам пераканаўчым слоем невядомай белай субстанцыі.

Кажуць, той сьнег пратрымаўся ўсяго паўгадзіны, а потым быў бязьлітасна сьцёрты з аблічча Сахары ачунялым сонцам. Але, як любяць паўтараць аўтары фэнтэзі, факт застаецца фактам, сьнег, па-арабску «тальдж», выпаў і дзе-нідзе на прасторах Сахары зь яго можна нават было зьляпіць сьнежку і кінуць ёй у найбліжэйшага вярблюда.

Дзіўна чуць пра тое, што калісьці, у часы, якія папярэднічалі дагістарычным, Сахара была стэпам і празь яе цяклі паўнаводныя рэкі. Але так было — і калі б нейкаму тагачаснаму турысту шапнулі на вуха, што некалі тут будзе самая пустая і самая вялікая пустэльня на плянэце, ён, мабыць, абурыўся б і запатрабаваў грошы назад. Цяжка сказаць, як там у іншых месцах, а ў гэтым куточку Галяктыкі, дзе мы жывем, усё ўмоўна, адносна і хістка — і чым больш мы ўпэўненыя, што ведаем усё, тым вышэйшая верагоднасьць, што мы ня ведаем нічога пра сьвет, які нас акружае. Жыцьцё — гэта існаваньне ў сьвеце дэзінфармацыйных тэхналёгій і ілюзія ўсёмагутнасьці. Здаецца, варта толькі ўпэўненасьці чалавека дасягнуць пэўнай крытычнай мяжы, як здараецца нейкі кур'ёз — дробязь, выпадак, катаклізьмік на прыёме ў сусьветнага вэтэрынара — і апускае гэтую фанабэрыю трохі бліжэй да плінтусу. Сьнег у Сахары немагчымы — алё ён ішоў, і ішоў не ўпершыню.



...Напрыклад, адзін пасрэдны пісьменьнік выдумляе дзеля фантастычнага эфэкту і прыгожага слоўца нейкае Асірыйскае тэлебачаньне. Высьвятляецца, што яно існуе і пры мінімуме высілкаў яго можна нават паглядзець live.

...Лічыцца, што жанчына няздольная зацяжарыць ад сябе самой. Амэрыканка Гэйлорда Рэйборн даказала, што гэта лухта, апладніўшыся уласнай спэрмай. Можна, калі асьцярожна.

...У XIX стагодзьдзі вучоныя прыйшлі да высновы, што шаравая маланка — гэта галюцынацыя. Адзін падручнік па фізыцы пераканаўча даводзіў, што такой зьявы быць ня можа, бо яе ня можа быць у прынцыпе.

...Ангельскі геоляг па прозьвішчы Кларк падчас раскопак у крэйдавым кар'еры на глыбіні 14 мэтраў выламаў з пароды кавалак, у якім знайшоў трох загадкавых жывых істотаў. Высьветлілася, што іхны від вымер некалькі мільёнаў гадоў таму. Істоты скакалі, кусаліся і неўзабаве ўцяклі ў невядомым кірунку.

Ня трэба быць такім самаўпэўненым. Усё значна складаней, чым здаецца. Прымаючы нешта на веру, заўжды варта пакінуць у душы трохі месца для сумневу. Карузьлік Нос таксама думаў, што зь ім усё ОК, пакуль цырульнік ня даў яму люстэрка. Кніга, якую ўсе лічаць шэдэўрам літаратуры, можа аказацца бяздарнай падробкай; чалавек, якога ты любіш, у сапраўднасьці можа быць капелюшом або ключом ад паштовай скрыні. Ніхто так і не даказаў, што бога няма, і адваротнага таксама ніхто ня здолеў давесьці. У сьцьверджаньня, што зямля стаіць на трох сланах, прыхільнікаў ня так ужо і шмат — але тэарэтычна і яны некалі могуць пасьмяяцца са сваіх прысаромленых апанэнтаў. Ці вось гэты сьнег пад сахарскім сонцам — мокры і халодны, як разьвітаньне на восеньскім вакзале, як поціск дрыготкай рукі чужога розуму — хіба яго нехта чакаў?

## Нарвэскія шалі

*19 лютага 1952 памёр Кнут Гамсун*

Да ягонага дзевяностагодзьдзя адзін крытык напісаў вялікі і грунтоўны артыкул. «О Божа, апошнія шэсьцьдзесят гадоў яны толькі і робяць, што спрабуюць патлумачыць мяне! — усклікнуў на гэта юбіляр. — Я хутка ня вытрымаю...»

Ён ня вытрымаў ужо праз два гады. 19 лютага 1952 у Грымстадзе памёр Кнут Гамсун, пісьменьнік, не любіць якога і не чытаць пасьля вайны зрабілася ледзьве не абавязкам кожнага грамадзяніна, і ня толькі ў Нарвэгіі. Яшчэ нядаўна ўсё было з дакладнасьцю да наадварот. І нават сам фюрэр Вялікай Германіі, галоўны чытач і літаратурны крытык Эўропы і «барацьбіт за правы народаў», як назваў яго Гамсун у прыступе старэчага замілаваньня, прызнаваўся пісьменьніку ў тым, як ён цэніць ягоны раман «Плады зямлі», дзе так шмат «крыві і глебы».

Прыступ старэчага замілаваньня здарыўся з Гамсунам ужо пасьля самагубства Гітлера. Гамсун напісаў на ягоную сьмерць нэкралёг, які варта прывесьці цалкам:

*«Я не дастойны публічна гаварыць пра Адольфа Гітлера, да таго ж яго жыцьцё і дзейнасьць не спрыяюць сэнтымэнтальнасьці. Ён быў ваяром. Барацьбітом за чалавецтва, вестуном Эвангельля аб правах усіх народаў. Ён быў рэфарматарам найвышэйшага ўзроўню. Ягоным гістарычным наканаваньнем было дзейнічаць у эпоху ня бачанай раней жорсткасьці, жорсткасьці, якая захапіла яго самога. Так, напэўна, бачыць Адольфа Гітлера шараговы заходні эўрапеец, а мы, ягоныя самыя блізкія аднадумцы, схіляем галовы над яго прахам».*

У гісторыю сустрэча аўтара і «вестуна Эвангельля аб правах усіх народаў» увайшла як трагічны і сумны анэкдот. Гітлер прамовіў некалькі прывітальных словаў. Гамсун у адказ выказаў усё тое, што балела: пра расстрэлы, рэпрэсіі, шыбеніцы і канцлягеры ў ягонай роднай Нарвэгіі. Тое, што ён хацеў сказаць, было старым, як сьвет, і такім самым бессэнсоўным: ён прасіў у «добрага і разумнага» гаспадара прыбраць з Нарвэгіі ягоных тупых і крыважэрных намесьнікаў. Гітлер нават не даслухаў яго да канца і прамовіў доўгі маналёг, пасьля чаго загадаў выгнаць надакучлівага нарвэжца. Гамсун не зразумеў з таго, што сказаў Гітлер, ні слова. І доўга і марна прасіў потым даслаць яму пераклад.




Яму сапраўды важна было даведацца адказ.

У гісторыі падзеньня Гамсуна, аўтара «Голаду», «Вікторыі» і

«Пана», літаратурнага доўгажыхара, які пачаў пісаць яшчэ да таго, як быў прыдуманы аўтамабіль, і выдаў апошнюю кнігу ў эпоху атамнай бомбы, гэта ўражвае больш за ўсё — ён жа быў ужо стары чалавек і мог разьлічваць на спакой нават пры Квісьлінгу, дастаткова было проста ні ў што ня ўмешвацца. Ад яго ніхто ўжо не патрабаваў выразна акрэсьленага выбару: ня той узрост. Але Гамсун усё адно яго зрабіў — дэманстратыўна і насуперак усім.

Вось што гэта: наіўнасьць? Дурасьць? Канфармізм? Прадажнасьць? Маразм?

Гэта — Гамсун. Таленту якога, здаецца, не патрэбныя ні чытацкае спачуваньне, ні чытацкая нянавісьць. Гэта — шчырасьць і сьлепата, гэта — Гамсун, які лічыў сьвет празрыстым і ясным, як нарвэскае паветра, Гамсун, якому ўсе гэтыя гарадзкія гульні ў вытлумачэньне падаваліся кратовымі норамі ў вечнай і цьвёрдай, як вечнасьць, Сваёй Зямлі, да якой ён прыйшоў пасьля доўгіх блуканьняў. Гамсун, які называў сябе перш за ўсё германцам, які ненавідзеў англа-саксонскі Захад за тое, што той зьнішчае ягоную, гамсунаўскую Нарвэгію, зь яе здаровымі сялянскімі духам і маральлю. Які пагражаў дачцэ адмовіцца ад яе, калі яна выйдзе за ангельца. О, ён ведаў, пра што казаў, ён жыў у Амэрыцы, якая не хацела прызнаваць яго пісьменьнікам!.. А Нямеччына адразу прызнала. У Амэрыцы, дзе ён быў парабкам, прадаўцом, прыказчыкам і паспрабаваў сябе яшчэ ў сотні прафэсій — прыкладна ў той час, калі вынайшлі тэлефон. У Амэрыцы, дзе адна сям'я, у якой ён працаваў у маладосьці, падвешвала яго на бязьмене — ім, вар'ятам, зь іхным заакіянскім мэркантылізмам, хацелася ведаць, колькі ён важыць.

Ягоную сапраўдную вагу можна было б вылічыць і сёньня: скажам, Гамсун — гэта «Голад» плюс «Вікторыя» мінус Гітлер. Калі ўсяго дзьве кнігі могуць пераважыць цэлага Гітлера, значыць, і ад Гамсуна нешта засталося. А мне чамусьці хочацца верыць, што могуць.

# Па сьлядах няўлоўнай мышы

*20 лютага 1940 на экранах упершыню зьявіліся Том і Джэры*

У доўгім шэрагу сапраўдных герояў халоднай вайны, якія заўжды былі на перадавой і імёнаў якіх мы ўжо ніколі не забудзем (нават калі б захацелі), сярод усіх гэтых Рэмба, Бэмбі, Бондаў, Скруджаў, Рокі і іншых супэрмэнаў ёсьць двое самых заўзятых, самых шалёных антысаветчыкаў. Фільмы зь іхным удзелам паўстагодзьдзя былі ў Савецкім Саюзе пад неабвешчанай забаронай, хаця нічога антысавецкага там нібыта не адбывалася. Але гэта яшчэ зь якога боку зірнуць... Такая канцэнтрацыя гвалту, цынізму і жорсткасьці на адзін кадр ня сьнілася нават самаму крываваму баевіку.

20 лютага 1940 году амэрыканскі аматар мульцікаў пазнаёміўся зь імі — непараўнальнымі Томам і Джэры. Бясконцая, як і належыць сэрыялу, пагоня ката за мышанём неўзабаве ператварылася ў эпапэю, патлумачыць сэнс якой рабілася ўсё цяжэй. Сапраўднае мастацтва самадастатковае — і калі так, то «Том і Джэры» ёсьць мастацтвам у квадраце. Як Інь і Ян, Том і Джэры асуджаныя вечна дапаўняць адно аднаго, спараджаць новыя існасьці кшталту Спайка і Буча, і ніяк ня могуць разарваць заганнае кола, у якое самі сябе загналі. Як гэта часта адбываецца з заклятымі ворагамі, а таксама з тэрарыстамі і тымі, каго яны бяруць у закладнікі, з часам паміж імі ўтвараецца нават нешта кшталту прыязнасьці. Якую нават можна прыняць за сяброўства — калі паверыць, што ЦРУ — а менавіта яно, калі верыць майму школьнаму настаўніку працы, стаяла за ўсёй гэтай мультдывэрсіяй — было здольнае падтрымліваць падобныя праявы пачуцьцяў.



Па чутках, некалькі цэнзураваных сэрыяў Тома і Джэры ў Савецкім Саюзе ўсё ж паказалі — у сямідзясятых, у межах папулярнай перадачы «Кінапанарама» (ня дзецям жа было іх паказваць). Каб глядач мог атрымаць уяўленьне, на якую прымітыўную вуду ловіцца пралетарскі аматар мульцікаў на Захадзе. Савецкаму чалавеку Том і Джэры былі без патрэбы, гэтаксама як кола і сьнікерсы. Колу пасьпяхова замяняў напой «Байкал», сьнікерсы — «Грыльяж», а замест амэрыканскай парачкі яны мелі Зайца і Ваўка — наш адказ Кату і Мышаняці, але са значна глыбейшым ідэалягічным складнікам і няхілай порцыяй сацыяльнай сатыры.

Таццяна Талстая піша ў адным эсэ, як яна, выкладаючы ў амэрыканскім унівэрсытэце, дазволіла сабе проста на лекцыі крытычна паставіцца да постаці Мікі Маўса. Сярод талерантных, як беларусы ў кніжках, і самых дабрадушных у сьвеце студэнтаў пачуўся магутны гул пратэсту. «Не чапайце Мыш!» — пагрозьліва сказаў чужаземнай выкладчыцы, якую ў сілу гістарычных абставінаў выхоўвалі Воўк і Заяц, адзін са студэнтаў. — «Гэта наша дзяцінства і ня лезьце ў яго сваімі заечымі лапамі!» І я яго разумею.

# Посуд багоў

***21 лютага 2012 адбыўся «панк-малебен» Pussy Riot у Маскве***

Ня ведаю, праўда гэта ці не, але ў старажытным Рыме не было прадугледжана пакараньня за рэлігійнае блюзьнерства. Ёсьць такая апэратыўная інфармацыя. Злачынствам было ўявіць сабе кагосьці з багоў гэткай нікчэмнасьцю, што яго можа абразіць нейкі там просты сьмяротны. Бог не цяля, бачыць круцяля — а калі бачыць і не спыняе, значыць, мае на гэта прычыны, якія сьмяротнаму ніколі не спасьцігнуць, нават калі ён скончыў юрфак з чырвоным дыплёмам. Як жа высока трэба сябе ставіць, каб лезьці ў божы правід?

Бога цяжка абразіць. Значна прасьцей абразіць тых, хто ў яго верыць. Гэта заўжды было прасьцей няма куды — закрануць нечыя рэлігійныя пачуцьці. Крок улева, крок управа, і вось ужо пакрыўдзіў якога-небудзь верніка. Толькі высунь нос — і ў нешта ўляпаешся: у ялей ці ў міру. Ці то нос такі доўгі, ці то ў кагосьці прастора веры занадта, так бы мовіць, прасторная. Вернікі. Чалавеку ня зь іхнай кампаніі ўсё часьцей даводзіцца пачувацца, як слану ў аддзеле ГУМу, дзе прадаецца посуд — скажаш нешта занадта гучна, ці намалюеш, ці засьпяваеш, і ўсё, гамон: ваза лопнула.

А калі гэтыя вернікі яшчэ і самі лічаць сябе багамі...



Год таму, 21 лютага 2012, у маскоўскі праваслаўны храм Хрыста Збаўцы прыйшлі тры маладыя кабеты, каб памаліцца Багародзіцы. За гэта ўсе тры верніцы атрымалі па два гады калёніі агульнага рэжыму, пакараньне, якое пазьней для адной з удзельніц гэтай калектыўнай малітвы было замененае на ўмоўнае.

Так, малітва была ня надта артадаксальная. Але кожны моліцца, як умее. Так, прыпеўка была ня ў стылі «расейскага шансону», любімага жанру праваслаўнай царквы. Але за несупадзеньне густаў не саджаюць. Магчыма, калі б вернікі і служкі любілі панк-рок, дык затанчылі б пога проста ў храме. Малітва як-ніяк. Так, царква — ня тое месца, дзе трэба быць гучным і выбухаць энэргіяй. Але, зь іншага боку, калі табе па-сапраўднаму баліць — няўжо камусьці забаронена прыходзіць са сваім болем у храм? Здаецца, храм існуе ў тым ліку і для гэтага.

А ім балела. Болю ня трэба санкцыі пракурора і дазволу выканкаму, боль ня можа быць правільным ці няправільным, боль — мучыць і катуе. Асабіста мяне творчасьць (ці тое, што яны самі называюць творчасьцю) Pussy Riot пакідае настолькі абыякавым, што нават Аляксандар Саладуха выклікае ў душы больш эмоцый. Але нават спроба творчасьці заслугоўвае таго, каб яе выслухаць. І ўжо ні ў якім разе не заслугоўвае таго, каб за яе судзіць і саджаць. Мастацтва датуль застанецца мастацтвам, пакуль будзе балець само і біць іншых у балючыя кропкі. А ў храме гэта будзе адбывацца ці на кухні, у палацах ці гаражах, ці проста ў нечай чарапной каробцы, абсалютна неістотна.

Так, гэта была сьвядомая правакацыя, і ўдзельніцы «панк-малебну» ведалі, на што ідуць і каго раззлуюць. Вось менавіта таму я на іхным баку. На гэтым баку ня сьпіцца тады, калі ўсе сьпяць, і сьняцца жахлівыя сны, калі іншым здаецца, што такая і мусіць быць ява. І гэта добрая прычына падняцца, адкашляцца, выпіць кавы і пацягаць за мараль тых, у каго яна адрасла да самага пупа. Замест ранішняй гімнастыкі.

# Mendace veritas

*22 лютага 1797 памёр барон Мюнхгаўзэн*

Але ж і разьвялося іх — літаратараў... Паэтаў, эсэістаў, навэлістаў... Халера на іх! Валэндаюцца па прыстойных дамах, ядуць і п'юць за чужы кошт, удаючы, што на агеньчык завіталі, а насамрэч — матэрыял зьбіраюць. Толькі адвернешся, каб люльку набіць, глядзіш: а ён ужо нешта крэмзае на сурвэтцы сваім танным пёркам. Не каб, хрэн ім усім у вочы, проста пасядзець, парагатаць, песьню зацягнуць, а там, калі да кандыцыі дайшоў, ужо й дадому-дахаты выпраўляцца, не забыўшыся гаспадару падзякаваць за прыемны вечар. А то што ж выходзіць, панове: бавячы сёньня час за бутэлькай добрага райнскага з прыяцелямі і цешачы іх рознымі нявіннымі гісторыямі, заўтра можна прачнуцца найвялікшым хлусам у Эўропе.

22 лютага 1797 году ў сваёй сядзібе ў Бодэнвэрдэры памёр барон Мюнхгаўзэн. Той самы, Карл Фрыдрых Геранім фон. Які сам сябе разам з канём за ўласную касу з балота выцягваў, які еў вішні з галавы аленя, накарміў ільва кракадзілам, а кракадзіла львом, перамяшчаўся на гарматным ядры і зрабіў яшчэ нямала дзівосных подзьвігаў, ладная частка якіх адбылася ў Расеі, а таму невядома, сьмяяцца з гэтых гісторый ці верыць ім — бо ў Расеі магчыма ўсё. Там і цяпер можна заснуць у зімовым полі, а прачнуцца на крыжы царквы, якую ўчора занесла сьнегам ажно да самай макаўкі. Легчы спаць Ямелем на печы, а прачнуцца на нафтавай вышцы. Сёньня быць камсамольскім правадыром, а назаўтра — лідэрам правых. Сёньня паэтам-антысаветчыкам, а заўтра нацыянал-бальшавіком. Асуджаць, не чытаючы, і налізвацца, не наеўшыся. І ніхто ня зьдзівіцца. Толькі адзін мужык скажа другому:




«— Бач ты, вунь немец на царкве вісіць!.. Як ты думаеш, да пятніцы здымуць?

— Не, да пятніцы ня здымуць.

— А да нядзелі?

— Да нядзелі, думаю, здымуць».

У іх там такая і прымаўка ёсьць: што расейцу добра, тое немцу сьмерць. Пятнаццаць гадоў праслужыўшы ў царскім войску, барон здолеў пазьбегнуць гібелі, бо зразумеў, што такое агульны аршын, асаблівая пастава іісьцінная вера. Таму ён расказваў пра Расею чыстую праўду — а яму ня верылі. Таму што кожная праўда пра Расею выглядае як хлусьня, і таму нават хлусьня пра яе падаецца праўдай. Праз два стагодзьдзі малады масквіч Валодзя К. прыедзе ў Бэрлін і зробіцца там новым Мюнхгаўзэнам — тое, што ён апіша ў сваіх папулярных і нібыта аўтабіяграфічных кніжках пра савецкі час, нельга назваць праўдай, але хто скажа, што гэта мана? Напрыклад, гісторыя беларуса, які ў войску смажыць скрадзеную ў афіцэрскай сталовай бульбу з дапамогай праса і вазэліну — гэта ж чысты барон М.

Чым жа натхнёная хлусьня адрозьніваецца ад палёту фантазіі? Пэўне, тым, што першая мае на мэце атрыманьне нейкай асабістай выгоды, між тым як другая — чыстае мастацтва дзеля мастацтва. Чыстае мастацтва дзеля выгоды — нонсэнс, спроба выцягнуць сябе за касу з балота. Барон Мюнхгаўзэн нікога не падмануў. Ён проста правёў, седзячы за шклянкай віна, цывілізацыйную мяжу — толькі ў такіх умовах яна і атрымліваецца праўдзівай.

Неяк на пытаньне адной студэнткі, ці праўда гэта, што па вуліцах Менску ходзяць мядзьведзі, я адказаў, што так, вядома ж, ходзяць, але гэта ня так цікава, як, напрыклад, наша нацыянальная традыцыя абавязкова замуроўваць у сьцены новых станцый мэтро трох папярэдне адабраных і прырэзаных на галоўнай плошчы цнатлівак. Вочы студэнткі загарэліся. «Як бы я хацела ў вас пабываць!..» — прамовіла яна летуценна і пайшла дзяліцца гэтай навіной у фэйсбуку.

# Брыльянтавая нага

*23 лютага 1915 Сары Бэрнар ампутуюць нагу*

Іх ногі кормяць... Гэтак кажуць пра футбалістаў, канібалаў і рэпарцёраў. Ну і яшчэ, напэўна, пра манэкеншчыц, хаця і ў іхнай дзейнасьці ногі — яшчэ далёка ня ўсё, няхай апрача ног там зазвычай мала што застаецца. Але і тут ёсьць свае нюансы. Вось, напрыклад, адна салідная фірма некалі выразшыла выставіць на ўсеагульны агляд адну вельмі знакамітую нагу, замочаную ў фармальдэгідзе. За памяркоўную плату кожны ахвотны мог палюбавацца на адпілаваную канцавіну — і высьветлілася, што замарынаваная нага за кароткі час зарабіла больш за яе ўладальніцу. А належала гэтая залатая нага Боскай Сары — вялікай акторцы Сары Бэрнар.

Ампутацыя нагі на той час ужо пажылой зорцы сусьветнага тэатру была праведзеная 23 лютага 1915. У тым годзе Боская Сара была на гастролях у Бразыліі. Існуюць дзьве вэрсіі, чаму зь ёй здарылася непапраўнае: прыгожая і праўдзівая. Прыгожая: яна раздрабіла калена на сцэне, а праўдзівая цынічна кажа, што пасьля тромбафлебіту ў Сары пачалася гангрэна. Дактары запэўнівалі, што ампутацыя зусім не абавязковая і нагу можна вылечыць, але Сара паабяцала, што застрэліць сабе калена, калі канцавіну не адрэжуць. Ёй адразу паверылі. Цяжка было не паверыць: Сара спала ў ружовай труне, якая заўжды была пры ёй, там жа займалася каханьнем і прымала наведнікаў, цудоўна фэхтавала і брала ўрокі стральбы, у перыяды жабрацтва траціла апошнія грошы на хлеб для парыскіх вераб'ёў і кідалася ў неўпадабаных ёй людзей мармуровымі попельніцамі.



Яна грала Андрамаху, Фэдру, Іфігенію, Самарыцянку, Лэдзі Макбэт і Жану д'Арк. А перадусім яна грала сябе — Сару, выдуманую ўласнай фантазіяй. Яе кахалі Гюго, Заля, Оскар Ўайлд і ўвесь Саюз пісьменьнікаў Аўстра-Вугоршчыны. І толькі Чэхаў, паглядзеўшы на спэктакль зь яе ўдзелам, пачаў нудна расьпісваць, якая яна ўся штучная і як змушана ломіць рукі на сцэне, «нібы адказвае вывучаны ўрок». Ведаў, напэўна, што ў ружовую труну яго нізавошта ня возьмуць...

Пратэз яна спаліла ў каміне адразу ж, як толькі ачуняла. І працягвала выступаць — толькі цяпер грала выключна сядзячыя ролі. Калі хтосьці згодна са сцэнаром меўся сказаць: «Хадзі да мяне, о дарагая!» — Сара змрочна глядзела на яго і задуменна адказвала: «Не цяпер, мілы, не цяпер...» У яе і пасьля ампутацыі былі каханкі самых розных родаў і падвідаў. Пазбаўленая ад нагі, яна пражыла яшчэ восем гадоў, выступала перад салдатамі падчас першай сусьветнай і ўвайшла ў гісторыю як чалавек, які прыдумаў сябе з галавы да ног — і не памыліўся. Хай сабе з нагой і давялося разьвітацца.

# Марсу ад Маркса

***24 лютага 1934 закладзены першы камень Дома афіцэраў у Менску***

24 лютага 1934 у Менску, на месцы былога Архірэйскага падвор'я і Пакроўскай (Крыжовай) царквы, быў закладзены новы будынак — безь якога, на думку начальства, любы горад ня горад, а Ватэрлё ватна-марлевае. Будынак мусіў стаць нечым сярэднім паміж храмам, клюбам і заезным дваром для абаронцаў новай веры, гэтых чырвоных крыжакоў, якія набіраліся сілаў перад паходам на свой мройны Ерусалім. Будынак-рэпрадуктар. Будынак-маналіт. Адзін з будучых Палацаў Гораду Сонца, які разам зь іншымі палацамі неўзабаве ўпрыгожыць Плошчу Галоўнага Мэтафізыка — як апісаў душу гэтага сакральнага месца Артур Клінаў. Будынак-сымбаль. Менскі Акруговы Дом афіцэраў.

Архітэктар Іосіф Лянгбард ня стаў руйнаваць царкву — хаця мог бы і ножычкам паласнуць: тое, што засталося ў пачатку трыццатых ад папоўскай забудовы, было неўпрыкмет улучана ў новы праект. У фантасмагарычным суседзтве з тымі самымі сьценамі, за якімі раней трэсьлі расамі і махалі кадзілам, паўставала месца, дзе будуць трэсьці мокрымі чубамі (тут быў заплянаваны нават прасторны басэйн) і махаць дзяўчатамі над блiскучым танцавальным паркетам суворыя асілкі магутнай РККА. Домам афіцэраў гэты будынак зробіцца значна пазьней — бо рэвалюцыя адмяніла афіцэраў разам з пагонамі, а пакуль што тут будзе Дом Чырвонай Арміі. Потым ён нейкі час будзе насіць назву «Haus der Armee» — калі адны суворыя асілкі адступяць, каб паднабрацца сілы перад сакрушальнай контратакай, а ў горад прыйдуць іншыя, якія таксама любяць патрэсьці сьветлымі чубамі і памахаць дзяўчатамі пасьля дзённых забаваў — падчас акупацыі тут разьмесьцяцца афіцэрскі клюб і бардэль для вэрмахту. У Дом Чырвонай Арміі трапіць бомба... 4 ліпеня 1944 ён будзе гарэць, як сьвечка, але храм, у які нехта верыць, ня так лёгка спаліць. Тыя, іншыя асілкі вельмі хутка зьдзьмуцца да сваіх сапраўдных памераў і дробна-помсьліва замінуюць Дом перад сваімі ўцёкамі. І толькі потым, калі ў войска пераможцаў вернуцца афіцэры разам з пагонамі, Дом атрымае сваё сучаснае імя. А пакуль што ў Менску зіма колеру дыму, таварыш Чарвякоў яшчэ ня вораг і ў падмурак будынка-сымбаля пад музыку ўрачыста кладзецца першы камень — як водзіцца, на вякі вечныя і на славу Галоўнаму Мэтафізыку, які адзін ведае, як правільна трэсьці і чым махаць.



# Паперка для фюрэра

***25 лютага 1932 Гітлер атрымаў нямецкае грамадзянства***

Беларусы любяць ганарыцца Касьцюшкам, Міцкевічам, Дамейкам, Соф'яй Кавалеўскай, Шагалам... Меірам Ланскім, Хаімам Вэйцманам, Надзеяй Хадасевіч-Лежэ і Лары Кінгам... А некаторыя яшчэ і Жарэсам Алфёравым зь Юрыем Антонавым. Бо «еслі любовь не сбудется, ты поступай как хочется»: яны ж усе нашы — кім бы самі сябе ні называлі. А вось Фэліксам Дзяржынскім ці Генадзем Міхасевічам ніхто чамусьці не ганарыцца. Такіх нашых нам ня трэба, забірайце іх сабе. Хай не псуюць тут статыстыку.

Суцяшае тое, што беларусы не адны такія пераборлівыя. Аўстрыйцы любяць казаць, што яны — нацыя Моцарта, Гайдна, бацькі і сына Штраўсаў, Ганса Гроса, Штэфана Цвайга, Пэтэра Гандке, Фрыдэнсрайха Гундэртвасэра і Арнольда Шварцэнэгера — а вось пра аднаго вельмі знакамітага ўраджэнца Браўнаў-на-Іне ніхто ўспамінаць ня любіць. Маўляў, няхай пра яго ў суседняй Нямеччыне ўспамінаюць. Для аўстрыйцаў гэта пэрсанаж чужой гісторыі. Пагатоў вэтэраны другой сусьветнай, якія яшчэ нядаўна любілі прыгадваць за кілішкам сьлівовіцы, як слаўна яны паваявалі пад сьцягамі ўраджэнца Браўнаў, пакрысе выміраюць. Самы час забыць пра такіх нязручных суайчыньнікаў.

Між тым, немцам у бюракратычным значэньні гэтага слова Гітлер зрабіўся ўсяго за два тыдні да выбараў райхспрэзыдэнта, дзе ён набраў 30 адсоткаў галасоў — а менавіта 25 лютага 1932 году. У гэты дзень ён падаў дакумэнты на грамадзянства зямлі Браўншвайг і аўтаматычна стаў нарэшце падданым Райху. Сам ён лічыў сябе немцам, але для ўдзелу ў выбарах гэтага было недастаткова.



Адзінага грамадзянства ў Ваймарскай рэспубліцы на той час не існавала, былі баварскае, саксонскае, цюрынгскае і гэтак далей... З 1925 году будучы фюрэр пражываў у Нямеччыне наогул як асоба без грамадзянства, бо нядаўна акурат адмовіўся ад аўстрыйскага. Ім і ягонымі паплечнікамі было зроблена сем спробаў дамагчыся для галоўнага нацыста нямецкага пашпарта, але шэсьць зь іх былі марныя: бюракраты кожны раз адмаўлялі Гітлеру, разглядаючы яго як «небясьпечную для дзяржавы пэрсону». Як высьветлілася потым, рыцары штэмпэля і доўгай шуфляды мелі рацыю. Праўдадыр быў у шаленстве, ён кляў ненавісных чынушаў і перачытваў вечарамі Маякоўскага:

«Я вэрвольфам бы выгрыз бюракратызм».

Самым простым спосабам атрымаць патрэбны пашпарт было ўладкаваньне на якую-небудзь, хай сабе самую дробную дзяржаўную пасаду. «Пісьменьніка» Гітлера (такая прафэсія была пазначаная ў яго дакумэнтах) спрабавалі прыстроіць ва ўнівэрсытэт выкладчыкам хіміі, прафэсарам у Ваймарскай школе будаўніцтва, бургамістрам маленькага мястэчка, начальнікам паліцэйскага пастарунку ў нейкай вёсцы... Апошняя спроба ледзь не завяршылася посьпехам, але тут ужо ня вытрымаў сам «вялікі дыктатар германскай нацыі» — прыняць такую пасаду для яго было абразай. Сачыць за парадкам у вясковай карчомцы і шукаць скрадзеных курэй падавалася яму нявартым уласнага генія, закліканага перакроіць мапу Эўропы.

Немцам Гітлера зрабіў Браўншвайг, які на той час быў ужо дастаткова браўн, каб дапамагчы свайму фюрэру. Там Гітлера хуценька зрабілі дарадцам дыпляматычнай місіі зямлі ў Бэрліне — і ісьцінны арыец атрымаў жаданы пашпарт. Шлях да ўлады быў адкрыты. Адным зь першых законаў, якія выдаў Гітлер пасьля прызначэньня самога сябе фюрэрам нямецкага народу, быў закон аб ліквідацыі самастойнасьці земляў і ўвядзеньні адзінага грамадзянства. Помсьлівы «геній» памятаў, як яго хацелі зрабіць наглядчыкам за курамі... А што, думаў ён з тугою ў красавіку 1945, неблагая была б праца... Ня лезь, куды галава ня лезе, сказала гісторыя і зачыніла люк.

# Тэхніка бясьпекі

*26 лютага 1932 у Менску пачала выходзіць газэта ЛіМ*

26 лютага 1932 году беларускія літаратура і мастацтва атрымалі ўласную газэту. Ці, як любяць шалясьцець падшыўкі савецкіх праўдаў, свой рупар. Каб ніхто ня блытаўся, чый жа гэта рупар, і не крычаў у яго штосьці ня ў тэму, назвалі газэту адпаведна: «Літаратура і Мастацтва». Або скарочана: ЛіМ. Гэтае скарачэньне ўзбагаціла потым нашу мову дзіўнымі назоўнікамі «лімавец» і «лімаўка», а таксама прыметнікам «лімаўскі» і дзеясловам «лямантаваць». Зрэшты, наконт дзеяслову я ня пэўны.

Першы нумар ЛіМу адкрываўся прывітаньнем ад самога таварыша Шаранговіча і праграмным артыкулам «Змагацца за магнітабуды літаратуры і мастацтва». Газэта на доўгі час зрабілася голасам беларускай інтэлігенцыі, часам — разважлівым, часам — лісьлівым, але часьцей за ўсё — прымірэнчым басочкам, які і належыць мець сапраўды савецкім літаратуры і мастацтву, калі яны хочуць жыць без асаблівага галаўнога болю.



Усё зьмянілася ў канцы васьмідзясятых, калі ў рупар, які падтрымаў перабудову і галоснасьць, атрымалі права крычаць розныя прагрэсіўныя сілы. ЛіМ пачаў змагацца за зусім іншыя магнітабуды. Гэта ў ім упершыню зьявілася праўда пра Курапаты. Гэта ён, лавіруючы паміж цэнзурай і кан'юнктурай, почасту нёс вольнае слова там, дзе іншыя ўважалі за лепшае прамаўчаць. Нейкі час газэтай, якая пасьпяхова канкуравала ня толькі з маскоўскімі «аганькамі», але і зь Няўзоравым і «СПІД-Інфо», можна было ганарыцца — і нават падпісвацца на ягоную праўду, праўду беларускай савецкай інтэлігенцыі. Якая, як вядома, дакульгала да нашых дзён у тым самым выглядзе, у якім фарсіла ў слаўных васьмідзясятых: у патрыярхальным «пісьменьніцкім» барэціку, насунутым на шчыры сялянскі лоб з добрымі сакратарскімі маршчынкамі. Ад яе ўсё яшчэ ідзе такая моцная духоўнасьць... Яна нават спрабуе нешта адстойваць... Сваё, савецкае, інтэлігенцкае, васьмідзясятніцкае... Але, на жаль, ужо ня ў ЛіМе, які пасьля непрацяглага супраціву быў узяты ў закладнікі новай уладай.

І цяпер ён паводзіць сябе як сапраўдны закладнік. Вымушаны ісьці на розныя д'ябальскія ўгоды, каб выжыць, ён проста перастаў адкідваць цень — такую плату ўзяў з газэты новы цэнзар. ЛіМ вярнуўся нават не ў васьмідзясятыя, і нават ня ў год свайго заснаваньня, бо і тады нейкі цень ад яго ўсё ж быў. Ён проста праваліўся ў Бясчасьсе. І калі мне хочацца паблукаць па гэтым раёне Менску, куды ня ходзяць трамваі і ніколі не правядуць мэтро, я іду і купляю Газэту бязь Ценю. Ці чытаю яе на сайце холдынгу, падобным да старой падшыўкі — перадусім сваім неверагодна насычаным зьместам.

Сучасны ЛіМ — гэта шаснаццаць старонак досыць займальнага чытва. Тут табе і агітацыя, тут і прапаганда. Не адарвацца. Такую газэту сапраўды чытаеш «ад коркі да коркі», як кавун, такая яна чырвона-зялёная. Вось адзін са студзеньскіх нумароў. Пачынаецца ён, як мае быць, з маліт-

вы: на першай старонцы газэта пытаецца ў розных Творцаў пра іхныя надзённыя Творчыя праблемы, а менавіта пра тое, што для іх было самым важным у адказах прэзыдэнта на пытаньні айчынных і замежных журналістаў. Творцы ўзахап спаборнічаюць у тым, хто паэтычней перадасьць сваё захапленьне адказамі правадыра. Зь першай старонкі на другую плаўна пераходзіць падрабязная справаздача пра дзейнасьць Творцаў у год кнігі. Хто з аўтараў і колькі даў краіне вугля. Такіх, хто вугля не даваў, ці даваў, але ня той, у справаздачы не існуе — за што я, дарэчы, вельмі ўдзячны «газэце творчай інтэлігенцыі Беларусі».

Парачка юбілеяў у Доме літаратара... Кветачкі, пацалуначкі, клятвы вернасьці... Туды цяпер ня ўсіх Творцаў пускаюць, як і ў сам ЛіМ. Рэжымныя аб'екты, толькі для абраных. Тых, хто ўмее правільна маліцца і мае талент сядзець на двух крэслах адначасова. Яшчэ тут ёсьць рэпартажы, падобныя да абвестак, і рэкляма, замаскаваная пад рэпартажы. І самая цікавая рубрыка — нэкралёгі. А вось і крытыка: вока чапляецца за знаёмыя фразы: «пра Радзіму і сям'ю, што ня можа ня радаваць», пра тое, як пісаць «без насьмешкі і зьедлівай крытыкі». Зьедлівасьці і насьмешкі, а таксама ўсяго іншага, што не пра сям'ю і Радзіму, тут вельмі баяцца. А так можна пісаць усё, што душа пажадае: а жадае яна таго самага, што і раней — каб толькі праблем не было. Бо той, хто ўзяў газэту ў закладнікі, ён, знаеце, можа і псыхануць...

Самае першае ўражаньне — ЛіМ робяць добрыя, таленавітыя людзі, якіх нехта ўпарта намагаецца адвучыць цікава пісаць. Што ж там далей? Агляды дазволеных царскім указам часопісаў: «Нёман» цячэ туды, куды скажуць бальшавікі, гарыць сінім «Полымем» нікому не вядомая проза, а камсамольская «Маладосьць» ніяк не канчаецца. А потым газэта дае нарэшце слова нашым няшчасным расейскамоўным братам па літаратуры і мастацтву, тым братам і сёстрам, якія вымушаныя жыць у Беларусі ва ўмовах жорсткай і татальнай дыскрымінацыі, амаль што апартэіду. І вось, яны адваявалі сабе некалькі старонак... Але што гэта на фоне таго разгулу нацыяналізму, які дэманстраваў ЛіМ з 1932 году, друкуючыся выключна па-беларуску? Каштоўныя бачыны, вырваныя ў няроўнай барацьбе зь беларускімі шавіністамі, расейскамоўныя браты прысьвячаюць разумнаму, добраму, вечнаму. «Уліцам разьбітых фанарэй», напрыклад.

Сучасны ЛіМ як мэдыйны прадукт сапраўды больш за ўсё нагадвае кіраўніцтва па тэхніцы бясьпекі для тых, хто трапіў у закладнікі. «Чаго ня варта рабіць і пра што ня варта казаць, каб выжыць». Але сэнс гэтага выжываньня зразумець цяжка. Бо вакол Бясчасьсе, шэрыя дамы з пазабіванымі шыбамі, нейкія руіны і пазелянелыя помнікі, на дапамогу ніхто ня прыйдзе, тэлефоны тут ня ловяць сыгналу, выпадковыя мінакі адно адварочваюцца, бо гэта ў прыродзе чалавека — баяцца таго, хто ня мае ценю. Застаецца толькі расслабіцца, заплюшчыць вочы і атрымліваць задавальненьне.

# Кветачкі і ягадкі

*27 лютага 1957 Мао Цзэдун кажа фразу пра «сто кветак»*

У душы сваёй, недзе вельмі глыбока у ейных нетрах, паміж любоўю да салодкага і зазубранымі ў дзяцінстве цытатамі з канфуцыянскіх кніг, ён, напэўна, быў усё ж паэтам. «Народ — гэта чысты аркуш паперы, на якім можна пісаць любыя герогліфы». Так мог сказаць толькі літаратар, і толькі кітайскі. А яшчэ ён любіў агаломшваць, атрымліваючы асалоду ад разгубленасьці і пакорлівасьці, якімі сустракаліся любыя зьмены ягонага курсу. 27 лютага 1957 году Мао Цзэдун, выступаючы ў Пэкіне з прамовай на ня надта ясна сфармуляваную тэму — «Аб разьвязаньні некаторых супярэчнасьцяў сярод кітайскага народу», нечакана для ўсіх загаварыў вершамі:

«Няхай расьцьвітаюць сто кветак,
Няхай змагаюцца сто вучэньняў!»

Фраза спадабалася ня толькі ў Кітаі, але і далёка за ягонымі межамі. Найперш таму, што гэта была чыста кітайская фраза, прыгожая і абцякальная, шматзначная і трапная. Магчыма, менавіта яна паклала пачатак мааізму, калі дзясяткі тысяч людзей камсамольскага ўзросту ва ўсім сьвеце ўпершыню адарваліся ад рок-н-ролу, піва і «Плэйбою» і з інтарэсам зірнулі на камуністычны Кітай. Ім, лайдакам, якія тупа блукалі ўздоўж вітрынаў грамадзтва спажывы, патрэбна было Слова, і Слова прагучала. Што яно значыла — было ня так важна. Старшыня Мао ня сам яго прыдумаў, а ўзяў са старых кніг — але ў прамове ня стаў апускацца да такіх непатрэбных нікому падрабязнасьцяў. Хай расьцьвітаюць, а там паглядзім.



Фраза азначала пачатак кароткай лібэралізацыі кітайскага жыцьця. Лібэралізацыя рана ці позна наганяе любую дыктатуру, ненадоўга, усяго толькі на нейкі час — бо і таму, хто заняты расчляненьнем трупа, трэба паўза, каб аддыхацца, выцерці пот і з новымі сіламі ўзяцца за сваю нялёгкую працу. Кітайская інтэлігенцыя, навучаная ня верыць паэтам з ЦК, спачатку не надала асаблівага значэньня free вершаванаму закліку свайго строгага Старшыні. Васямсот тысяч судовых справаў за «контррэвалюцыю» за паўгода ня надта спрыялі таму, каб прынюхацца да прапанаванага букету. Але калі ёй далі зразумець, што Старшыня не жартуе, што «можна», што крытыка вітаецца, імпэратарскі пасад пад Мао адразу ж захістаўся. Сто кветак пацікнулі плячыма і расьцьвілі, і сто вучэньняў, замест таго, каб змагацца паміж сабой, пачалі сумнявацца ў абраным курсе. І Вялікі Стырнавы і Руплівы Садоўнік павярнуў назад, пагнаўшы сваіх пасажыраў па дарогах культурнай рэвалюцыі. І калі які-небудзь мільёнчык душаў выпаў і не падняўся — атрад не заўважаў страты. Бо, як той казаў, тры гады працы — дзесяць тысяч гадоў шчасьця.

А фраза пра сто кветак засталася ляжаць пры дарозе, і раз-пораз нават цяпер, дзявочыя забыўшы сны, яе падымае які-небудзь рамантычны нэамарксіст, нюхае, гладзіць і ўсхвалявана шэпча запаветныя словы:

«... Жыжак, партыя, камсамол... Жыжак, партыя, камсамол...»

# Лісты пра шыбеніцу

***28 лютага 1468 выдаецца «Судзебнік» ВКЛ***

Усё, што вы скажаце, можа быць выкарыстана супраць вас. А можа і ня быць. Гэта ўжо як пан пажадае.

Вы ня маеце права на адваката. Яшчэ чаго. Хто парася ўкраў, таму ў навушніках пішчыць. І так усё ясна.

Што да права захоўваць маўчаньне, то, вядома, яно ў вас ёсьць... Але наўрад ці вы здолееце гэта зрабіць — бо мы, у сваю чаргу, маем права катаваць вас самымі рознымі спосабамі, пакуль вы ня скажаце праўду. Іголкі пад пазногці, распаленае жалеза і гішпанскі бот — карацей, увесь набор юнага юрыста пад рукой. Закон дазваляе. Як дазваляе ён праводзіць сьледзтва самому пацярпеламу, аддаваць яму дзяцей вінаватага, калі той ня здольны заплаціць штраф (але не маладзейшых за сем гадоў), і абавязвае вешаць кожнага, хто дапамог дурным чаляднікам хавацца ад свайго добрага гаспадара.

Справядліва? А то ж.

28 лютага 1468 году вялікі князь літоўскі Казімір на дзяржаўным сойме пасьля ўзгадненьня з усімі князямі, панамі-радаю і «ўсім паспольствам» выдае свой знакаміты «Ліст», пазьней абазваны «Судзебнікам» — фактычна, першы ў княстве крымінальны кодэкс. Кнігу, якую некаторыя бацькі і цяпер мараць чытаць сваім дзецям на ноч, замест казак. Невядома, ці ведалі яе на памяць тагачасныя непрацоўныя элемэнты зь іхнай татальнай непісьменнасьцю, але ад гэтага дня ў дзяржаве Казіміра запанаваў які-ніякі, а закон. І няхай закон гэты быў пакуль што толькі дадаткам да ранейшых хаатычных прывілеяў, выглядаў ён зусім ня горш, чым у іншых эўрапейскіх краінах. І ўжо дакладна быў лепшы, чым у краіне на ўсход ад нашай, дзе мясцовы гарант канстытуцыі Іван у той момант больш клапаціўся пра прырастаньне сваёй зямлі за кошт суседзкай. З зайздрасьцю даведаўшыся пра наш прыгожы і зручны судзебнік, масковец пачаў марыць пра такі самы ў сябе. Марыў ён амаль трыццаць гадоў, але ўсё ж такі выдаў. Проста так, каб на саміце ў Крымскім ханстве пахваліцца: вось, маўляў, цяпер і ў нас у Маскве дэмакратыя і прававая дзяржава.



Пры ўсёй сваёй жорсткасьці, якая зрэшты, зусім не супярэчыла тагачасным агульным уяўленьням пра справядлівасьць, судзебнік Казіміра быў спробаю скончыць у Княстве з самавольствам судзьдзяў і анархіяй у судовай справе. І гэта ў той час, калі права вяршыў той, хто мацнейшы, а слабейшы і пікнуць не наважваўся. У судзебніка былі тры моцныя бакі. Ён рабіў пакараньне ўсё больш індывідуальным — хаця раней маглі за правіну аднаго караць цэлую сям'ю, вёску або нават горад. Ён рабіў пакараньне непазьбежным — ад яго цяпер нельга было адкупіцца. І ён вызначаў спосабы пакараньня: каго спаліць, каго павесіць, а з каго спагнаць штраф, цяпер было запісана ў кніжцы, а не залежала толькі ад таго, як правёў мінулую ночку вяльможны пан судзьдзя.

З гэтага самага Казіміравага «Ліста» вырасьлі потым тыя тры статуты, якімі мы так ганарымся. Так ганарымся, што і цяпер, прачнуўшыся сярод ночы ў халодным поце, я, дзіця вечнага адраджэньня, гатовы прабубнець малітоўнай скорагаворкай — нібы перадаю камусьці засакрэчанае паведамленьне:

1529, 1566, 1588... 1529, 1566, 1588... Прыём. Прыём.

# Элегантная перамога

*29 лютага 1504*
*Калюмб пужае індзейцаў зацьменьнем месяца*

Калі падчас першага плаваньня праз акіян Хрыстафору Калюмбу было зусім не да сьмеху, дык у чацьвертую экспэдыцыю адмірал ужо мог дазволіць сабе ўзяць на борт трошкі гумару. А гумар у яго быў своеасаблівы, хрысьціянскі. Гумар белага чалавека, які — вось ужо дзе бярэмя! — мусіць браць на сябе ролю і пэдагога, і лягапэда, і падлюгі, і пастыра... Карацей, і голуба, і кракадзіла з казкі Чукоўскага.

Тое, як адважны мараплавец абышоўся зь ямайскімі індзейцамі, у сучаснай Беларусі абавязкова назвалі б «элегантнай перамогай». Што ж, вялікае імя абавязвае, дый іншых перамог у нас не прызнаюць. Як і сваіх памылак. Мы верым у ратавальную цемнату.

29 лютага 1504 году Хрыстафор Калюмб разам са сваёй айнзацгрупай забраў у жыхароў Ямайкі месяц. У выхаваўчых мэтах, дзеля пакараньня і застрашэньня. Так настаўнік на ўроку забірае ў вучня мабільнік, абяцаючы аддаць пасьля званка, калі той супакоіцца. Чым жа правініліся ямайскія абарыгены перад сваім першаадкрывальнікам? Рэч у тым, што некалькі індзейскіх вёсак адмовіліся карміць гішпанцаў, намякаючы, што бледнатварым і барадатым гасьцям пара ўжо дадому-дахаты. Разьюшаны адмірал спачатку думаў расстраляць сабатажнікаў, але потым супакоіўся і вырашыў пайсьці на хітрасьць.



Ён цудоўна ведаў, што ў гэты дзень мусіла адбыцца зацьменьне месяца, а вось ямайцам пра гэта ніхто не сказаў. «Перадайце свайму богу, што калі праз гадзіну ежы ня будзе, мой хрысьціянскі бог забярэ ў вас месяц зь неба і зробіць зь яго сабе гузік для штаноў», — са злавеснай усьмешкай абвясьціў Калюмб тутэйшым жыхарам. Індзейцы недаверліва выслухалі адміральскае пасланьне; слову «штаны» перакладчык так і ня даў рады.

Магчыма, апошняя акалічнасьць і прычынілася да таго, што нарада індзейскіх правадыроў вырашыла стаяць на сваім і няпрошаных гасьцей не карміць. Праз пару гадзін месяц зьнік, як і было абяцана. Людзей апанаваў жах. Індзейская дэлегацыя зьявілася каля адміральскага будана, абяцаючы выканаць усе ўмовы. Мытны саюз, саюзнае гасударства, кошты на газ і г.д.

«Добра, я падумаю, — незадаволена кінуў Калюмб. — Думаць буду доўга. Можа, і перадумаю».

Адмірал думаў паўгадзіны. Потым месяц зноў зьявіўся ў небе над Ямайкай — і даволі неахвотна. «Кастылія-Ямайка: 6:0», фальшыва прасьпяваў Калюмб пад нос і пайшоў вячэраць. Вось які мудры чалавек быў. І з пачуцьцём гумару. А мог бы і ножычкам паласнуць.

# Нярodная воля

*1 сакавіка 1881 Ігнат Грынявіцкі забівае цара Аляксандра II*

Адны падданыя называлі яго Вызваліцель, а іншыя Вешальнік. 1 сакавіка 1881 году грамадзянін Аляксандар II, паводле прафэсіі Імпэратар і Самадзержац Усяе Расеі, Цар Польскі, Вялікі Князь Фінляндзкі, Цар Астраханскі, Цар Сібірскі, Князь Эстляндзкі, Курляндзкі, Ліфляндзкі і Сямігальскі і проч. і проч. і проч., меўся паехаць у Манэж палюбавацца конным разводам.

Перахапіўшы зранку сяго-таго і напудрыўшы вусы, ён нарэшце загадаў везьці яго да любімых кавалерыстаў. Але чамусьці ня той дарогай, пра якую ўсе ведалі, што па ёй звычайна едзе цар. Рэформы, якія ён правёў, дапамаглі ягонай імпэрыі, якая ўжо даўно задыхалася пад уласнай непамернай вагон, пратрымацца яшчэ некалькі дзесяцігодзьдзяў — а сёньняшні капрыз даў магчымасьць і самому цару пражыць яшчэ некалькі каштоўных гадзін. Бо на шляху ў Манэж цара ўжо чакаў удзячны народ у выглядзе чатырох чальцоў арганізацыі «Народная воля»: Каспара, Бальтазара, Мэльхіёра і беларуса Ігната Грынявіцкага. Як водзіцца, з дарамі — самаробнымі бомбамі.

У нейкім сэнсе яны былі нават калегамі: Вызваліцель і нарадавольцы. Прафэсійная канкурэнцыя: хто больш народу панавызваляе. Народ паставіў на цара. Апошні раз. А паколькі нарадавольцы паставілі на народ, то ніякіх шанцаў у іх не было. Была толькі сьляпая нянавісьць і зграйка не прыручаных як сьлед бесаў у адчыненай клетцы.

Зразумеўшы, што цар на абранай для апэрацыі вуліцы сёньня так і ня зьявіцца, кіраўніца нарадавольцаў Соф'я Пяроўская хуценька паслала сваіх хлопцаў на Кацярынінскі канал, абмінуць які цар па дарозе назад ніяк ня мог. Празь нейкі час пачуўся грукат капытоў — цар вяртаўся. Ля каналу яго вітае аглушальны выбух. Гэта нарадаволец Рысакоў, які апынуўся бліжэй за ўсіх да царскага экіпажа, кінуў сваю бомбу ў Вызваліцеля. Паводле традыцыі ўсіх тэрарыстаў тых часоў, бомба абмінае сваю ахвяру і забівае аднаго з казакоў. Рысакова хапаюць. Цар загадвае пад'ехаць бліжэй і з усьмешкай назірае, як ахова ломіць рэбры паваленаму на брук бамбісту.



Відовішча цару спадабалася, ён нават пашкадаваў, што на той час яшчэ не прыдумалі відэакамэры. У самы пікантны момант (боты казакоў акурат пачалі апрацоўваць твар Рысакова) Аляксандар

заўважыў краем вока, як да яго амаль усутыч падышоў нейкі анёльскага выгляду малады чалавек. Гэта і быў Ігнат Грынявіцкі, якога ў гімназіі называлі Коцікам за добры, мяккі нораў — і які кінуў пад ногі імпэратару яшчэ адну бомбу.

Наогул, бомбаю гэтага цара зьдзівіць было цяжка. Аляксандру ўжо некалькі разоў падкладвалі міну — то ў цягнік, то ў сталовую. А стралялі ў яго так часта, што ён ужо і зь ліку зьбіўся — і ўсё міма. Нездарма ён правёў вайсковую рэформу... Чалавек дваццаць прыслугі і аховы было забіта ў выніку гэтых замахаў і столькі ж паранена, паў сьмерцю храбрых імпэратарскі конь, а цару ні ў вуху вада. Толькі гэтым разам усё было іначай. Прасьцей, хутчэй і вельмі балюча.

Аляксандар сканаў праз гадзіну, так і не пабачыўшы праект канстытуцыі, якую вёз яму ў гэты дзень адзін зь міністраў, а Грынявіцкі — а палове на адзінаццатую вечара, так і не сказаўшы, як яго завуць. Ці доўга мучыліся тыя некалькі мінакоў, якія таксама стаялі ў той дзень паблізу ад цара, невядома. «Народная воля» даказала ім, што яна ўмее вызваляць ня горш за цара. Душы ад цела, а народ ад дурных ідэй.

У апошнія дні перад апэрацыяй Грынявіцкі напісаў нешта кшталту тэстамэнту. «Лёсам мне наканавана загінуць рана, і я не пабачу перамогі, ня буду жыць ніводнага дня, ніводнай гадзіны ў сьветлы час нашага трыюмфу, але лічу, што сваёй сьмерцю зраблю ўсё, што магу зрабіць, і большага ад мяне ніхто патрабаваць ня можа». Наіўны, хворы тэкст, у якім самае цікавае ў апошніх словах. Здаецца, незадоўга да апэрацыі ў ім, у Коціку, моцна сумняваліся. Ня былі пэўныя, што здолее. Баяліся, што ўцячэ ў самы адказны момант. Можа, Пяроўская, галоўны анёл сьмерці, нават сказала яму пры ўсіх штосьці ня тое. Хто ведае.

І толькі яна, бомба, заўжды ў яго верыла. Маўчала, верыла і чакала.

## 1969

***2 сакавіка 1969 выдадзены ордэр на арышт Джыма Морысана***

1 сакавіка 1969 году на канцэрце «The Doors» у Маямі Джым Морысан, прадстаўляць якога не было патрэбы ні тады, ні цяпер, выліў сабе на галаву бутэльку шампанскага, расшпіліў маланку сваіх джынсаў і прадэманстраваў публіцы нешта, што адным нагадала ўказальны палец, а іншым — тое, што ў літаратурнай беларускай мове ў апошнія гады прынята называць словам «чэлес».

Паліцэйскія, якія ахоўвалі ў той вечар пальцы, чэлес, джынсы і ўсяго астатняга Морысана ад ня ў меру захопленых прыхільнікаў, ня сталі доўга высьвятляць, якую канкрэтна частку цела прадэманстраваў Джым. Пытаньне, ці падобны чэлес да пальца, таксама падалося ім ня вартым мастацтвазнаўчай дыскусіі. 2 сакавіка ўлады выдалі ордэр на арышт Морысана, ён быў арыштаваны за непрыстойныя паводзіны і адтранспартаваны ў пастарунак, адкуль выйшаў пад заклад на некалькі тысяч даляраў.

Праўда, злыя языкі кажуць, што публіка на тым канцэрце была не такая ўжо й захопленая, а Морысан больш балбатаў, чым сьпяваў. П'яны паэт, будучая гордасьць могілак Пэр-Ляшэз, вырашыў пагутарыць з прыхільнікамі пра нешта сваё, набалелае... І гэта замест таго, каб адбарабаніць знаёмыя ўсім гіты, выйсьці пару разоў на біс і спакойна паехаць у гатэль: калоцца, кідацца крэсламі і гадзіць на дываны, раздаючы інтэрвію — як гэта робяць нармальныя чалавечаскія рок-зоркі. Бясконцы задушэўны маналёг Морысана, поўны мацюгоў, вельмі хутка ўсім надакучыў. Урэшце мэляманы засумавалі і пачалі асьвістваць свайго куміра. І тады Морысан, навісшы над натоўпам, прамовіў абсалютна цьвярозым голасам нешта накшталт такога сьпічу:



«Вы ж прыйшлі сюды не для таго, каб паслухаць музыку, праўда?

І ўжо відавочна не дзеля таго, каб паслухаць добры гурт.

Вы чакаеце нечага такога, што раней ніколі ня бачылі.

Што б мне такога вам паказаць? А?

Мо чэлес? Хочаце?»

Вядома, яны хацелі.

Гэта сёньня паўтарыць учынак Морысана можа любы аматар, удзельнік школьнага ансамблю «The Шпінгалеты». Максымум, што яму пагражае як непаўналетняму — выключэньне з БРСМ да пачатку бульбянога сэзону і дзіцячы пакой міліцыі. А тады ўсё было па-дарослаunion. 1969. Прайшоў час, і вось дзякуючы мэнсанам і іншым рамштайнам любая дзея, што толькі можа адбывацца на сцэне, яшчэ да пачатку ўспрымаецца як нешта сярэдняе паміж пальцам і чэлесам, а сама сцэна даўно лічыцца прарэхам на джынсах. Існуюць адмысловыя міжнародныя арганізацыі, якія спэцыяльна сочаць за тым, каб ты мог свабодна паказваць на сцэне свой чэлес, гатовыя засудзіць любога праціўніка чэлесаў на сцэне ў спэцыяльных судах, і больш за тое: адна зь іх задач — матываваць творцаў часьцей паказваць чэлесы і іншыя часткі цела, не апраўдваючыся маладушна, што гэта быў усяго толькі палец — бо мастацтва мусіць быць вольнае, праўда?

This is the end: суд Флорыды наогул памілаваў, а насамрэч пасьмяротна апраўдаў грамадзяніна Морысана — бо ніхто ж ня можа быць арыштаваны за выкананьне прафэсійных абавязкаў. Дый, па цяперашніх часах, ну што ён такога і праўда зрабіў у тым Маямі, што не зрабіў бы на ягоным месцы сучасны музыка? Што мы, чэлесаў ня бачылі?

# Працяг будзе

***3 сакавіка 1944 у Вільні забіты Францішак Аляхновіч***

Увечары 3 сакавіка 1944 году ў кватэру Францішка Аляхновіча на вуліцы Ясінскага ў Вільні нехта настойліва звоніць. Гаспадар, «бацька новай беларускай драмы» і рэдактар калябарацыянісцкай газэты «Беларускі голас», ідзе адчыняць. Чуюцца два стрэлы і пасьпешлівыя крокі, сьмяротна паранены Аляхновіч пасьпявае сказаць жонцы: «Звані, звані...» — але званіць ужо позна, анёлы-ахоўнікі, якія ўдала адпрацавалі ў Лукішках, на Салаўках і ў акупаванай спачатку Саветамі, а потым немцамі Вільні, сёньня адпрасіліся раней, на тым канцы проваду толькі сьвяты Пётра, начны дзяжурны. Потым суседзі скажуць, што бачылі, як з дому выбег нейкі незнаёмы ім чалавек, зь якім драматург размаўляў напярэдадні.

Калі падзеі таго вечара і паддаюцца нейкай рэканструкцыі, то вось такой — дэтэктыўнай, хісткай, небагатай на факты і таму не пазбаўленай пэўнай тэатральнасьці. Забіты ва ўласнай кватэры, проста на парозе — нават тут прачытваецца сымбаль, бо гэта для ўсіх іншых дзейнічае правіла «мой дом — мая крэпасьць», а беларусам і ва ўласным доме ніколі не было спакою, і цяпер няма. Сваім стрэлам забойца меркаваў



паставіць у гісторыі Францішка Аляхновіча канчатковую, тлустую кропку — а атрымалася двухкроп'е. Знак, за якім можа ісьці ўсё, што заўгодна. Адкрыты фінал, які зусім не азначае сьпісаньня героя ва ўтыль: Аляхновіча ня толькі не забылі, яго працягваюць чытаць, вывучаць, ставіць і спрачацца пра ягоную асобу. Калябарацыяніст, антысэміт, фашыстоўскі лёкай — ці выбітны нацыянальны дзяяч, таленавіты драматург і ахвяра тых «чырвоных сьпірахетаў», пра небясьпеку якіх ён пісаў з такім палам? Асьлеплы ад нянавісьці — ці ад празьмернае празарлівасьці? І тое, і другое, і трэцяе, і пятае — і вось толькі азначэньне «калябарацыяніст» выклікае ў мяне ўнутраны супраціў: у народу без сваёй дзяржаўнасьці ня можа быць і свайго калябарацыянізму, у яго іншы падзел: на тых, хто выбірае сродкі, і тых, для каго мэта ўсё апраўдвае. І іншы лёс: сядзець з вудай ля мутнай вады і лавіць свае шанцы, вясёлкавая луска якіх часам выглядае так прывабна — калі пашанцуе са штучным асьвятленьнем, і якая адразу блякне, варта надысьці новаму дню. Чужому, як і любы каляндар.

Хто забіў Аляхновіча, застаецца загадкай. Рэдактар «Беларускага голасу» у 1944 сам загнаў сябе ў зладесны трохкутнік, зь якога не было выхаду. Лічыцца, што сьмерць ягоная была выгодная ўсім тром бакам. Савецкаму падпольлю: у той вечар да яго цалкам маглі нарэшце дацягнуцца адрослыя да нечалавечых памераў «капцюры ГПУ», зь якіх ён шчасьлівым чынам высьлізнуў нейкі дзясятак гадоў перад тым. Польскаму Супраціву: для якога ён адназначна быў здраднікам. Немцам: нягледзячы на вісклівыя лёкайскія ноткі «Беларускага голасу», ніхто ўсур'ёз ня верыў, што Аляхновіч верны ідэалам Трэцяга Райху. Першая вэрсія найбольш праўдападобная. Уладзімер Арлоў у «Імёнах свабоды» нават называе імя забойцы: нехта Сіманавічус (Пятрайціс), які мірна дажыў да васьмідзясятых. Так ці інакш, працяг будзе, і двухкроп'е і пытальнік, гэтыя знакі вечнага прыпынку, паміж якімі можа зьмясьціцца што заўгодна, выглядалі б на помніку Аляхновічу красамоўней за любы тэкст.

# Гавары-камень

*4 сакавіка 1832 памёр дэшыфравальнік эгіпэцкіх герогліфаў Шампальён*

4 сакавіка 1832-га ў Парыжы ва ўзросьце 42 гадоў памёр Жан-Франсуа Шампальён — чалавек, які чытаў старажытнаэгіпэцкія герогліфы з такой лёгкасьцю, нібы перад ім ляжала «Юманітэ». Ну, ці не «Юманітэ», а «Амі дзю пёпль» — калі ўжо думаць пра час і эпоху.

А думаць пра іх варта... Ён здолеў зрабіць немагчымае — расшыфраваць старажытнаэгіпэцкае пісьмо — і пры гэтым быў прыхільнік Напалеона і ня надта цырымоніўся з археалягічнымі знаходкамі, пераступаючы праз любыя перашкоды лёгка і без згрызотаў сумленьня, як і сам Банапарт. Яго цікавіў Тэкст. Тое, на чым ён напісаны, было ўсяго толькі паперай — хай сабе і гранітнай, каштоўнай і тысячагадовай. Для таго, каб здабыць патрэбнае, Шампальён мог пайсьці на дробны подкуп і шантаж, ён наогул ня гідзіўся барбарскіх мэтадаў. Залаты час для дасьледчыкаў: усё вакол калгаснае, у сэнсе — нічыё. Хто першы падыме, той і гаспадар, хто сапраўдны геній, той і расшыфруе... І ня трэба, як цяпер, прасіць у народна-дэмакратычных намадаў і бэдуінскіх бюракратаў візаў і дазволаў на раскопкі і экспэдыцыі. Тубыльцам толькі і трэба, што грошы — у адрозьненьне ад вучонага зь ягоным высакародным паляўнічым азартам. Невядома, куды ён прывядзе, гэты азарт, — але нюх не падводзіць, і малюнкі, падобныя да зморшчынаў на камні, складваюцца ў словы.



Ягоны ўнёсак у агульначалавечую сьвінку-скарбонку ня так ужо й гучна бразгае, калі яе патрэсьці — і тым ня менш, калі тую скарбонку разьбіць, не заўважыць навуковы подзьвіг Шампальёна нельга. Ён здолеў прачытаць надпіс на Разэцкім камні, што не ўдавалася да яго нікому, нават самім старажытным эгіпцянам — і тым самым пахаваў для нас яшчэ адну таямніцу. Пахаваў і надпіс напісаў: «Кароткі нарыс герагліфічнай сыстэмы старажытных эгіпцянаў або дасьледаваньні гэтага пісьма».

У няпоўныя дзевятнаццаць ён — прафэсар, у дваццаць — валодае чатырнаццацьцю мовамі, у тым ліку копцкай, самай блізкай да мовы старажытных эгіпцянаў. З такімі тэмпамі ў пяцьдзясят ён мог бы даведацца, у чым сэнс жыцьця, і прачытаць у арыгінале нататнік самога Бога, які той згубіў падчас Патопу. Але хітрыя старажытныя шыфравальнікі ўсё прадумалі загадзя: Разэцкі камень быў зачараваны Ісідай і пракляты львіцай Сэхмэт. Іншага тлумачэньня проста не існуе: Шампальён, які разгадаў таямніцу герогліфаў, нечакана памёр ад інсульту ў росквіце сілаў. Грамадзтва гэта не насьцярожыла, а дарэмна. Ведала б яно, якія сюрпрызы рыхтуе яму ў будучыні дасьледаваньне Эгіпту.

Праз сто гадоў адзін за адным памруць у самых лепшых гадах лорд Карнарван і ягоныя трынаццаць паплечнікаў, адважныя дасьледчыкі пірамідаў, а таямнічая эгіпэцкая мумія патопіць «Тытанік» — і зробіць выгляд, што яе не было на борце і ўсё гэта выдумкі журналюгаў. І герогліфы працягнуць губіць абраных: тых, хто аднойчы прачытае ў савецкім школьным падручніку пра Сярэдзіннае царства і будзе перамалёўваць іх флямастэрамі, на ўсё жыцьцё апантаны таямніцай Знаку.

Не хадзі ўначы да Нацыянальнай бібліятэкі, калі душы старажытных пісараў бязьмежна ўладараць над гэтай пустэльняй.

# Сымфонія для вампіра з аркестрам

*5 сакавіка 1922 адбылася прэм'ера фільму «Носфэрату»*

Каліфарнійскі горад Санта-Барбара знакаміты перадусім тым, што ў ім некалі жыў і працаваў Мэйсан, сын СіСі Кэпвэла. Ці Кэйсан, бацька Мэйсі Добсана, я ўжо дакладна ня памятаю. Што й казаць, я нават ня ведаю, хто ўсе гэтыя людзі і за што зь імі так абышліся, але імя кожнага засталося ў памяці назаўсёды, як і іхны подзьвіг. Па-першае, дзьве тысячы з мэйсанам сэрыяў — гэта сапраўды ня жарты, а па-другое — слова «Санта-Барбара» ледзь не ўвайшло ў беларускую фразэалёгію, а калі б увайшло, нікому не прыйшло б у галаву пацікавіцца, якога сісікэпвэла яно там робіць. Бо варта толькі сказаць: «Санта-Барбара» — і далей можна нічога не тлумачыць.

На фоне гэтага сэрыялу ўсе астатнія славутасьці Санта-Барбары неяк блякнуць. А шкада: бо менавіта ў гэтым горадзе ў 1931 годзе загінуў у аўтакатастрофе нямецкі рэжысэр нямога кіно Фрыдрых Мурнаў, асілак за два мэтры ростам, гей і вэтэран першай сусьветнай. Той самы, які зьняў «Галаву Януса», «Апошняга чалавека», «Фаўста» і яе, яе, крывавую «сымфонію жаху»: «Носфэрату». Першы сапраўдны horror.

Прэм'ера «Носфэрату» адбылася 5 сакавіка (паводле іншых зьвестак на дзень раней) 1922 году ў Бэрліне. Цудоўны час, калі слова «маскульт» яшчэ не існавала і сапраўдныя мастакі з імпэтам асвойвалі «народныя» жанры. Цудоўнае месца: Бэрлін тых гадоў — культурная сталіца Эўропы, дзе шалёная інфляцыя і галеча не замінаюць небывалай канцэнтрацыі геніяў і проста талентаў. Шчыльнасьць як мінімум па адным на кожны квадратны столік! Немагчыма пражыць дзень, каб не пабачыць на вуліцы якую-небудзь знакамітасьць. На фільмы Мурнаў і Лянга ходзяць маладыя Набокаў, які пазьней ня раз скарыстае ў сваіх кнігах прыёмы кінэматографу, і Мэйшэ Кульбак, які працуе ў той час суфлёрам у тэатры Піскатара.



«Носфэрату» — гісторыя пра вампіраў, варыяцыя на тэму графа Дракулы. У гэтай стужцы Мурнаў выціскае з тагачаснага кіно ўсё, што магчыма: гуляе са сьвятлом, майструе, маючы пад рукой толькі чорны і белы, такую дынамічную і эмацыйную карцінку, якая ня сьнілася будучым мэтрам каляровага кіно. Уявім сабе «Санта-Барбару», у якой забралі гук і колер.

Здавалася б, кроў — гэты неад'емны атрыбут любога «вампірскага» фільму — шмат губляе ва ўспрыманьні гледача, калі яна не чырвоная... Аніколі: Мурнаў пераканаўча даказвае, што колер можна ўбачыць нават у чорна-белым фільме — калі стварыць адпаведную атмасфэру. Здавалася б, якая «жахалка» бязь лямanту зьляканых ахвяраў? Нямое кіно ў выкананьні экспрэсіяніста Мурнаў дае рады і гэтай праблеме: кіно ня мае голасу, а крыкі чуваць; гэта сучаснае забаўляльнае кіно неяк неўпрыкмет забылася, што ад жаху можна ня толькі крычаць, але і зьнямець. Фільм Мурнаў акурат нема вые, як купалаўскі воўк на піліпаўку. Але кінэматаграфічны замак «Носфэрату» стаіць ня толькі на цішыні, але і на музыцы — яе можна слухаць як асобны твор! Яна прыдуманая настолькі дасканала, што маніпулюе пачуцьцямі гледача зь першай да апошняй хвіліны, прымушаючы яго ў выніку палохацца свайго ўласнага ценю.

Але і гэтага было б недастаткова, калі б не абаяльны, як Квазімода, і прыгожы, як Фантамас пасьля асколачнага раненьня ў галаву, актор Макс Шрэк, які зьняўся ў ролі галоўнага забойцы-крывасмока. Праўда, з такім прозьвішчам яму толькі і была дарога што ў вампіры. Ці ў інквізытары — Шрэку даводзілася граць і іх. Жыў бы ён на паўстагодзьдзя пазьней — не пазьбегнуць яму было б сацыяльна значных роляў у савецкім кінэматографе: Гарбатага або Кальтэнбрунэра.

Нямое кіно дваццатых, робячыся ўсё больш дасканалым, само набліжала ўласную сьмерць. А потым з кіно здарылася «Санта-Барбара». Хаця ня толькі зь ім. Часам здаецца, што з усімі намі — і мы жывем у вечнай перадапошняй сэрыі. Лепш ужо даверыцца вампіру — ён, прынамсі, экспрэсіяніст у душы.

# Залатая карова

***6 сакавіка 1902 заснаваны мадрыдзкі «Рэал»***

На зары мінулага стагодзьдзя, калі грошы ў спорце вырашалі яшчэ далёка ня ўсё... Не, яны і цяпер вырашаюць яшчэ ня ўсё — але і сам панятак «усяго» з тае пары трохі зьмяніўся. Карацей, больш за сто гадоў таму, калі сам футбол выглядаў крышку інакш, арбітры ня мелі ў кішэнях ніякіх картак і іншага навучальна-дыдактычнага матэрыялу, брамнікі насілі кепі і не існавала яшчэ ня толькі сымулятару «FIFA-13», а і самой ФІФА, у Гішпаніі быў заснаваны футбольны клюб «Мадрыд».

Адбылося гэта 6 сакавіка 1902 году, а празь некалькі месяцаў паўнапраўным каралём Гішпаніі стаў Альфонса XIII. Менавіта гэтаму манарху ў 1920 годзе прыйдзе ў галаву геніяльная ідэя зрабіць клюб «Мадрыд» «каралеўскім» — так мадрыдзкая каманда атрымала сабе назву, пад якой увайшла ў гісторыю футболу і зь якой здабыла сабе такую славу, якой ня меў нават сам кароль. За «Рэал» гулялі Пушкаш, ды Стэфана, Капа, Бутрагеньё, Фігу, Крыштыяну Раналду і процьма іншых вялікіх гульцоў, імёны якіх чуў нават той, хто лічыць, што «афсайд» — гэта прозьвішча героя ў Голсўарсі.



У сьвеце «Рэал» любяць, як БАТЭ ў Барысаве, і ненавідзяць, як «Баварыю» у астатніх 15 фэдэральных землях. Мала якія клюбы выклікаюць такую дзіўную неабыякавасьць, як сьціплая мадрыдзкая калекцыя дыямэнтаў, алмазаў, залатых мячоў і бутсаў, капрызьлівых мега- і гігазорак, а таксама простых талентаў, выстаўленая на ўсеагульны агляд на срэбраным падносе ў выглядзе аднаго з самых вялікіх у сьвеце клюбных бюджэтаў. Як заўсёды, там, дзе футбол, там палітыка: у 1902 годзе гэтыя рэчы яшчэ цяжка было ўявіць побач, а цяпер зьдзіўляешся, калі чуеш пра матчы без падтэксту (бо нават ад таварыскай сустрэчы Ісьляндыі і Малдовы з падазрэньнем чакаеш чагосьці гэткага, скандальнага...).

Так, «Рэал» — гэта яшчэ і сымбаль ненавіснай кастыльскай гегемоніі, і супрацьстаяньне «Рэалу» і «Барсэлёны» ёсьць, у пэўным сэнсе, барацьбой за свабоду і незалежнасьць Каталёніі супраць усясільнай «рукі Масквы», то бок «нагі Мадрыду». У якой, спадзяюся, усё прагрэсіўнае чалавецтва стаіць на баку адзінаццаці мужных каталёнцаў (калі не лічыць тых, хто ў запасе). Але праблема ў тым, што «Рэал» магутны, нават калі ён слабы. Зрэшты, нават далучаючы сябе да прагрэсіўнага чалавецтва: асабіста мне больш даспадобы матчы з удзелам зборных Ліхтэнштайну і Сан-Марына. Бо толькі там сапраўдныя мужыкі б'юцца ня столькі за грошы, колькі дзеля задавальненьня як такога: зусім як калісьці. Як казалі ў дваровым футболе — не на карову гуляем. Дык пакінем карову каралям, а мы, калі ўжо вядзецца пра гішпанскі футбол, пазаўзеем за якую-небудзь «Кордабу».

# Д'ябал за стырном

***7 сакавіка 1908 мэр Цынцынаці заяўляе, што жанчыны няздольныя кіраваць аўтамабілем***

Дзіўны горад Цынцынаці. Не такі дзіўны, як Менск, але і ў ім заўжды з зайздроснай рэгулярнасьцю адбываецца нешта такое-гэткае. Ня так даўно ў ваколіцах гэтага гораду ў мэры балятавалася жанчына-манэкен. Проста пасярэдзіне самага што ні ёсьць мірнага часу тут раптам абвяшчаюць камэндантцкую гадзіну, а на цэнтральнай плошчы робяць бяз дай прычыны вялікі фантан з кока-колы. НЛА наведваюцца сюды так часта, як трамваі ў дэпо, а ў пяцідзясятых тут нарадзіўся сэрыйны забойца Мэнсан. Чараду дзіўнотаў дапаўняе і той невытлумачальны факт, што горадам-пабрацімам Цынцынаці ў свой час зрабіўся Харкаў. Ужо адзін гэты факт здольны насьцярожыць пільнага чалавека. Але можна супакоіцца: Цынцынаці яшчэ на пачатку мінулага стагодзьдзя адзначыўся здарэньнем, якое ўвайшло ў паралельную гісторыю сьвету і зусім не зьбіраецца яе пакідаць, дык чаго ўжо тут зьдзіўляцца.

7 сакавіка 1908 году мэр Цынцынаці Марк Брэйт публічна абвясьціў, што жанчыны фізычна няздольныя кіраваць аўтамабілем. Гэтае меркаваньне нельга патлумачыць палемічным запалам — мэр шчыра верыў у тое, што казаў. Ці то мэрам надоечы няўдала фізычна пакіравала ягоная жонка, ці то на яго за дзень да гэтага наехала нейкая фарбаваная бляндынка — невядома. Час быў такі, што аўтамабіляў на вуліцах рабілася ўсё больш, як і фэміністак, натхнёных няўрымсьлівай місіс Пэнкхэрст, а тэлеграф даўно аблытаў сваім павуціньнем усю краіну. На другі дзень у Цынцынаці і іншых гарадах адбыліся масавыя дэманстрацыі абураных жанчын. (Ну, можа, не такія яны былі й шматлюдныя — проста, калі пішаш «дэманстрацыі», заўжды трэба даваць: масавыя, інакш якія ж гэта тады ўвогуле дэманстрацыі.)



Прадстаўнікі мужчынскага шавінізму і маскулiннага лінгвафашызму даўно спрабуюць апраўдаць беднага мэра: маўляў, аўтамабілі тых часоў былі такімі цяжкімі ў кіраваньні агрэгатамі, што ім і ня кожны мужчына даў бы рады. Тыпова шавінісцкі погляд... Час давёў несправядлівасьць і бязглуздасьць словаў містэра Брэйта. Па зьвестках жаночых дасьледчых арганізацый, пяцьдзясят адсоткаў кіроўцаў у разьвітых краінах — акурат кабеты. Праўда, інфармацыя розных мужчынска-шавінісцкіх цэнтраў сьведчыць пра адваротнае: пра тое, што пяцьдзясят адсоткаў кіроўцаў у разьвітых краінах — акурат мужчыны, але хто ж ім, шавіністам, паверыць?

Ня ведаю: мяне за маё жыцьцё вазілі ў машыне самыя розныя жанчыны. У самых розных машынах, сьпераду і ззаду, і ў самых розных позах. І часам я думаю, што дагэтуль жывы і пішу гэтыя радкі толькі і выключна таму, што жанчыны здольныя кіраваць аўтамабілем ня горш за мужчын. Ці мо таму, што лепш?

Здавалася б, мы з часам і жаночымі дасьледчымі арганізацыямі дастаткова моцна прысаромілі колішняга мэра Цынцынаці. Але падмога яму прыходзіць нечакана і зусім не з таго боку, адкуль можна чакаць габарытных агнёў ісьціны. Мінула больш за сто гадоў, як містэр Брэйт прамовіў сваю сакрамэнтальную фразу. Але і на пачатку дваццаць першага стагодзьдзя ёсьць вельмі разьвітыя краіны, дзе жанчынам забаронена садзіцца за стырно. У мэтах іхнай жа бясьпекі — і бясьпекі дзяржавы. Як напісаў адзін савудаўскі прафэсар-экспэрт, рыхтуючы сваё заключэньне для каралеўскай рады:

«Калі жанчыны атрымаюць правы на кіраваньне аўтамабілем, Савудаўская Арабія наблізіцца да маральнага распаду. Гэты неабдуманы крок адчыніць дзьверы шайтану, будзе спрыяць разьвіцьцю гомасэксуалізму, парнаграфіі, прастытуцыі і разводаў, а ўсе савудаўскія цнатліўкі вымруць на працягу дзесяці гадоў». Шкада, вядома, няшчасных савудаўскіх цнатлівак — але прафэсара чамусьці яшчэ больш.

# «Такая страна»

***8 сакавіка 1983 Рэйган называе СССР імпэрыяй зла***

Я нарадзіўся ў імпэрыі зла. У мяне было шчасьлівае дзяцінства, самыя лепшыя цацкі, любоў і пяшчота, падарункі і штодзённыя адкрыцьці, прагнасьць да ведаў і радасьць стыхійнае творчасьці, усё, ад чаго потым на цэлае жыцьцё застанецца ўтульны рай успамінаў. Да пары я зусім не здагадваўся, што гэты квітнеючы сад знаходзіцца проста пасярод тэрыторыі, на якую ўвесь сьвет глядзіць з жахам і сорамам. Ад ялінак дражненскага лесу, куды мы хадзілі катацца на санках, да калючага дроту, якім была загадзя абнесеная наша будучыня, было далёка, як да Марсу.

Калі прачнулася гэтае балючае разуменьне? У школе, вядома ж. У 1982 годзе я пайшоў у першую клясу, а 8 сакавіка 1983, калі мы адзначалі дома Міжнародны жаночы дзень (а для другаклясьніка гэта азначала зрабіць напярэдадні для мамы якуюсьці прыгожую аплікацыю і напісаць наверсе няроўнымі літарамі сваё ПАЗДРАВЛЕНИЕ) — менавіта ў гэты сьветлы і слотны дзень амэрыканскі прэзыдэнт Рэйган у Флорыдзе сказаў, што я жыву ў імпэрыі зла.



Вядома, ён ня меў на ўвазе мае цацкі, маю маму, мае кніжкі, мае санкі і маю школу. Прынамсі, я на гэта спадзяюся. Але мой акцябрацкі значок меў да ягонай прамовы ўжо самае непасрэднае дачыненьне. Час ляцеў зь неверагоднай хуткасьцю, рай рабіўся ўсё меншы, а значок усё большы. Бяскрыўдны на выгляд, той значок азначаў толькі адно: цяпер і ты бярэш ва ўсім гэтым удзел. Першае прычасьце зла. І зло так хацела выглядаць у гэты момант велічна і ўрачыста.

Прыкладна ў тым самым годзе мой прадзед Кастусь, які жыў пад Заслаўем, зьедлівы і звычайна негаваркі селянін пад два мэтры ростам, казаў майму бацьку, узяўшы добрую чарку: «Вось пабачыш, Іван, яшчэ дзесяць гадоў — і канец будзе гэным камуністам, скончыцца дурман народу! Бо чуўствую, што скора канец ім! Шкада, мяне тады ўжо ня будзе...» Гэтыя словы: «дурман народу», узятыя прадзедам, відавочна, з бальшавіцкага лексыкону, запомніліся ўсёй сям'і. Як ні дзіўна, і прадзед Кастусь, і прэзыдэнт Рэйган аднолькава «чуўствавалі», што даўно надышоў час назваць рэчы сваімі імёнамі. Прэзыдэнту трэба было здабываць пункты ў ягонай палітычнай барацьбе, а прадзеду было ўжо ўсё адно, што пра яго скажуць — праз некалькі гадоў ён памёр, пакінуўшы імпэрыі зла сваё прастадушнае і злавеснае прароцтва.

Можна колькі заўгодна называць выслоўе Рэйгана прапагандысцкім клішэ, але праўды ў ім было значна болей, чым у акцябрацкім значку. Дзяржава, якая выхоўвала тваіх бацькоў і ўзялася выхоўваць цябе, была створаная злом, трымалася на зьле, жывілася ім і прадукавала зло. І ўся яе гісторыя — доказ гэтаму. Усе яе бясплатныя цуды, гераічныя сагі і бацькоўскія клопаты мелі толькі адну мэту — зрабіць нас саўдзельнікамі. Маўклівымі саўдзельнікамі зла. Мы, савецкія дзеці, былі шчасьлівыя ня дзякуючы, а насуперак ёй.

І можна колькі заўгодна называць цяпер ужо Амэрыку «імпэрыяй зла» і смакаваць на языку падзабытыя словы «сусьветны жандар» — Савецкі Саюз ад гэтага аніяк ня зробіцца мілейшы і пякнейшы, забітыя ім не падымуцца з магілаў, а ўтульны рай дзіцячых успамінаў ня страціць утульнасьці і сьвятла. Дзіўная рэч: пры згадваньні Амэрыкі мне, былому савецкаму школьніку і перакананаму эўрапейцу, прыгадваюцца адразу фатаграфіі бяскрайніх стэпаў, гордых і шумных гарадоў, прыгадваюцца знакамітыя унівэрсытэты, Лінкальн, Морысан, Набокаў, Марцін Лютэр Кінг, «Ich bin ein Berliner», Аксёнаў, Юхнавец і радыё «Свабода». Ну, і, вядома, Бобі Фішэр і Лі Гарві Освальд. Па шчырасьці, я ні на што не прамяняю сваю Эўропу, я не разумею і ня ведаю Амэрыкі і ніколі там не бываў. Але ведаю і разумею іншае: што менавіта туды ехалі і едуць, не зважаючы на перашкоды — па свабоду! — мільёны выгнаньнікаў, і яе знаходзяць. Ужо толькі з павагі да іх варта адчуць сябе крышачку амэрыканцам.

А камусьці, змарнеламу ад пачуцьця вечнае паразы, дагэтуль здаецца, што вялікі і загадкавы сьвет складаецца зь няспыннага перасоўваньня туды-сюды вялізных бэтонных блёкаў, на якіх вісяць строгія палітычныя таблічкі: «Сусьветны жандар», «Глябалізацыя», «Расклад сілаў». «Звышдзяржава», «За што барОлісь?» і «Такую страну развалілі». Шкада такіх «знаўцаў», яны шмат губляюць. Пэўне ж, жыць у такім сьвеце сумна і нудна, як у турме. Нічым ня лепш, чым у турме народаў. Палітыкі і бюракраты ня маюць нацыянальнасьці, у адрозьненьне ад сьнегу, гораў і ветру. Савецкі раб працягвае марыць пра Амэрыку, нават палівaючы яе брудам — у гэтым працяг імпэрыі зла і яе надзея. Бо дзесьці ж яна мусіць быць, тая імпэрыя? А інакш як жыць? З кім ваяваць? Дзе вораг? Каго вінаваціць у тым, што ў «такой стране» ня здарылася Амэрыкі, хаця яе ж, здаецца, завалілі сьнікерсамі? Ужо ж не «Алёнку» з шакалядкі?

# Мона Ліза ў ружовых танах

***9 сакавіка 1959 на цацачным рынку зьяўляецца лялька Барбі***

Пра адну жанчыну ў сьвеце дакладна можна сказаць, што для свайго ўзросту яна сапраўды някепска захавалася. Завуць гэтую жанчыну Барбара, і яна жыве ў мяне дома, у скрыні пад ложкам у суседнім пакоі. Апошнім часам ёй усё радзей даводзіцца бачыць сонечнае сьвятло — але зь яе твару не зьнікае шчасьлівая ўсьмешка.

Можна было б памарыць трохі і ўявіць сабе, што гэта яна так радуецца таму, што жыве з Бахарэвічам, аднак, на жаль, я не ў яе гусьце. У параўнаньні з Кенам у мяне не настолькі добра разьвітыя сківіцы і жудасная ангельская, да таго ж занадта вялікае пуза, поўна сівых валасоў і няма басэйна, толькі ванна, куды я і адзін не заўжды зьмяшчаюся. Гэта абсалютна неверагодна, але fuck! — 9 сакавіка лялькы Барбі спаўняецца ня дваццаць, ня трыццаць, а 54 гады. Калі б яна жыла ў Беларусі, ёй заставаўся б год да пэнсіі. Хаця чаго насьміхацца: Барбі з тых, каму было, ёсьць і заўжды будзе шаснаццаць, і сумнявацца ў гэтым — значыць здраджваць ня столькі лялькцы, колькі тым, хто зь ёй ў дадзены момант гуляе: на ўсіх кантынэнтах. І тым, хто яшчэ нядаўна гуляў, але ўжо пераключыўся на барбі ў сабе. І тым, хто пакуль не гуляе, але ўжо закаціў гістэрыку проста каля вітрыны цацачнай крамы: хачу, хачу. Хачу.



Барбі не пашанцавала: для дарослых яна заўжды была сымбалем чагосьці — не каб проста ўзяць і пагуляцца. Спачатку — празьмернай сэксуальнасьці, а значыць, разбэшчанасьці. Потым — інтэлектуальнай абмежаванасьці. Затым, калі першыя два пункты перасталі лічыцца чымсьці заганным, лялька зрабілася ўвасабленьнем грамадзтва спажываньня. Але і гэтага дарослым было мала, і Барбі ў вачах гендэрна заклапочаных стала ўвасабляць сэксізм. Ня ведаю, ня ведаю: здаецца, такія дарослыя рэчы, як сэксізм, гендэр і кансумэрызм, трэба прадаваць у спэцыялізаваных крамах і адпаведна ўпакаванымі, дый наагул, яны жывуць ня ў лялькаx, а ў галовах. Хаця, вядома, нельга з пэўнасьцю сказаць, што Барбара цалкам па-за палітыкай: напрыклад, ня так даўно ў Іране яе абвясьцілі пэрсонай нон-грата. Але Ахмадынэжады прыходзяць і сыходзяць, як і ўсе мужыкі, сёньня адзін, заўтра другі, а Барбара толькі і ведае, што ўсьміхаецца з акна сваёй ружовай хаткі, і на яе твары, як і 54 гады таму, нічога немагчыма прачытаць — зусім як на пысе якога-небудзь загадкавага сьфінкса.

# Папка з матузкамі

*10 сакавіка 1920 нарадзіўся Барыс Віян*

Галоўнае — пра ўсё меркаваць перадузята. Натоўп звычайна памыляецца, асобны чалавек заўжды мае рацыю. Той, хто сказаў гэта — вуснамі свайго пэрсанажа, ведаў, што такое літаратура. 10 сакавіка ў Віль д'Аўрэ нарадзіўся Барыс Віян, ён жа Вэрнон Саліван, ён жа — уладальнік мноства іншых вэстэрнізаваных псэўданімаў, і ён жа — аўтар адной з найвялікшых кніг стагодзьдзя, «Пены дзён», гісторыі

*«абсалютна праўдзівай, бо я выдумаў яе ад пачатку да канца».*

Тут жыве і памірае Хлоя, адна з тых дзяўчат, на якіх трымаецца космас Віяна — бо «ёсьць толькі дзьве рэчы, дзеля якіх варта жыць: каханьне да прыгожых дзяўчат, якім бы яно ні было, і новаарлеанскі джаз». Тут жыве і памірае кранальны Шык, які начытаўся Жан-Соля Партра, тут жыве празрысты і тонкі Кален — і таксама напалову памірае, бо: «ёсьць дзьве рэчы...» Проза Віяна — гэта і ёсьць сапраўдны джаз, што б там ні казалі літаратуразнаўцы, спрабуючы ўцiснуць у ліфт сваіх уяўленьняў старую шафу пад назваю «сюррэалізм». Дый які можа быць сюррэалізм у эпоху Жана-Соля Партра ды яшчэ адразу па вялікай вайне? Віян нязмушаны, музычны, вольны, імправізацыйны; часам здаецца, што ён піша першае-лепшае, што ў галаву прыйдзе, толькі б гісторыя працягвалася: што — ай-яй-яй! — ў яго няма Пляну; але першае і аказваецца найлепшым. Ён не для ўсіх — ён аркестар, які, заплюшчыўшы вочы, працягвае захоплена граць у воблаках дыму, у надыханай тысячамі хворых лёгкіх атмасфэры вечнага зьдзіўленьня і вечнае няспраўджанасьці, калі публіка, даеўшы і дапіўшы, даўно разбрылася па дамах. Засталіся толькі ты ды я, ды Віян.



Ён памёр у 39 гадоў, пакінуўшы па сабе ў францускай літаратуры вібрацыю вар'яцтва, ноту, якой ёй даўно не хапала і якая гучыць дагэтуль. Ну, і ня толькі ў францускай — рэха ягонае можна пры жаданьні адшукаць і ў нас. А зараз — пра галоўнае, асабістае і таемнае. Перада мной — нумар 16 газэты «Наша ніва» за 1993 год. Не пажоўклы — а, хутчэй, кранутыя за 20 гадоў высакародным адценьнем сэпіі нумар *той*, н а ш а й «НН». Я купляў яе ў шапіку на праспэкце Скарыны, каля Нацбанку. З часам сабралася такая сабе «падшыўка» ў кардоннай папцы вырабу Мінскай паліграфічнай фабрыкі «Красная звезда» за 22 кап. з матузкамі і загадкавым надпісам «Крот Андрей». Ці ж гэта ня менскі джаз? Нядаўна я забраў яе ў Гамбург і вось цяпер разьвязаў матузкі. На старонках 12-15 гэтага нумару друкуецца апавяданьне «Сюпрыз-вечарынка ў Леабіля» у перакладзе SS. Тэкст, які некалі адкрыў для мяне космас Віяна. Бо для чалавека, які ўпершыню прачытаў Віяна ў перакладзе на беларускую, ён будзе зусім іншы, чым для таго, хто пазнаёміўся зь ім па-расейску (хаця і зусім ня тым, каму выпала шчасьце прачытаць Віяна ў арыгінале). Але беларускі Віян — гэта сапраўды наш Віян:

*«Идзи сюда, — сказаў яму Маёр. — Будзиш иё дзиржаць, пака этат иё абработаит»....*

*...«Я адмаўляюся, — сказаў Фалюбэр. — І ўвогуле можаш валіць адсюль. Абрыд ужо».*

Ну, а цяпер можна завязаць матузкі маёй папкі, падзякаваць SS і крату Андрэю і сапраўды падумаць

*1.Пра тое, як прыбіраца.*
*2.Пра тое, як харчаваца.*
*3.Пра тое, як забаўляцца.*

Віян абавязвае.

## Чортава чэрава

***11 сакавіка 1878 французскі акадэмік Буё называе Эдысона «чэрававяшчальнікам»***

11 сакавіка 1878 году францускі прафэсар Жан Буё проста ў залі Акадэміі навук абазваў вынаходніка Томаса Эдысона нехарошым словам. Настолькі кепскім, што нават прыгожы адпаведнік у беларускай мове з ходу не падбярэш. «Чэрававяшчальнік! — крыкнуў Буё, ускочыўшы зь месца. — Няўжо гэты махляр-чэрававяшчальнік і праўда думае, што мы здольныя паверыць у такі прымітыўны падман? Каб нейкі там паскудны мэтал мог гаварыць высакародным чалавечым голасам? Ха-ха-ха!»

У залі акурат праводзілася дэманстрацыя новага цуду тэхнікі — прыдуманага зусім нядаўна Эдысонам фанографа. Найлепшыя розумы Францыі заварожана слухалі, як дзіўная прылада, адхаркваючыся і плюючыся, сьпявае песеньку «Мела мамка тры сыночкі», а дакладней, «Mary had a little lamb». І не пасьпеў the teacher did reply, як прафэсар Буё прамовіў свой кароткі маналёг, падскочыў да фізыка Мансэля, які арганізаваў мярзотнае відовішча, і пачаў яго душыць.

Жарсьці, да якіх далёка нават Вярхоўнай Радзе Ўкраіны. Ці не адсюль пайшло супрацьстаяньне «фізыкаў» і «лірыкаў»? Зрэшты, акадэміка Буё можна зразумець. Цяжка прыняць выхад слова з-пад кантролю, нават калі гэта слова пра Мэры і ягнятка, а вымаўляе яго ня нейкі дзёрзкі выскачка, а амэрыканская снопавязалка з трубой. Слова мусіць ляжаць у магіле, якую яму так клапатліва выкапалі ў прамерзлым грунце супрацоўнікі філфакаўскай пахавальнай канторы. Яны ж так стараліся: апранулі слова ў новы гарнітурчык, зьвілі вяночкі, запрасілі найлепшага паталягаанатама. А труну якую змайстравалі: з камэнтарамі і ўсімі вэнзэлямі!.. Помнік замовілі мармуровы, агароджа з чыгуну, кветачкі ў вазе, шыльдаў мэмарыяльных — на кожную вуліцу па трыццаць штук!.. А слова ўсё адно гучыць: ня там, не пра тое, не туды і не ад таго. Суцэльнае махлярства, хунвэйбінства і чэрававяшчаньне на кароткіх хвалях.



# Абставіны: правільны выбар

*12 сакавіка 1996 у латыскай турме памірае Альфонс Новікс, былы міністар ГБ Латв. ССР*

Латвія — краіна невялікая, схавацца ў ёй, напэўна, нялёгка — калі ты, вядома, не «лясны брат» і не ліліпут. Ціхі пэнсіянэр Альфонс Новікс хавацца не зьбіраўся: бо, як з зайздроснай наіўнасьцю паўтараюць ка́ты ўсіх часоў і народаў, ад Сансона і Малюты Скуратава да Айхмана і чэкіста Васі Блахіна, «я ведь просто делал свою работу». Але, мусіць, зьменшыцца да ліліпуцкіх памераў часам марыў. Не атрымалася. Законы прыроды, разам з латыскімі законамі, не дазволілі. 15 сакавіка 1994 году ў Рызе Новікс быў арыштаваны і асуджаны на пажыцьцёвае зьняволеньне за ўдзел у генацыдзе ўласнага народу, а 12 сакавіка 1996 памёр у турме.

Зрэшты, пэнсію ён меў не абы-якую, а генэральскую, а ціхім зрабіўся, калі стала ясна, што імпэрыя больш не ачуняе. Яго ведала ўся Латвія — і ўся Латвія яго ненавідзела. У адрозьненьне ад Беларусі, тут да прыходу Саветаў была свая дзяржава, і таму шпіёны і калябаранты кшталту Новікса маглі лічыцца толькі шпіёнамі і калябарантамі. А яшчэ за нейкія сем гадоў да сьмерці ён даваў інтэрвію, у якіх неахвотна, але з бляскам у вачах расказваў пра тыя далёкія, цудоўныя часы, калі ён раптам зрабіўся на гэтай зямлі калі ня богам, то ягоным намесьнікам. Якім героем ён тады пачуваўся: былы загадчык складам — спачатку камісар унутраных справаў, потым міністар МГБ Латвіі!



Як сьвярбелі рукі навесьці парадак... І як выразна фармуляваліся загады! Ніякіх табе двухсэнсоўнасьцяў. Вакол адны ворагі — гэта галоўнае. Ня тое што цяпер, калі нічога не разьбярэш: дзе свой, дзе чужы. Ні да сьценкі не паставіць, ні ў Сібір выслаць. Перабудова, вашу маць. Вось гэты журналіст газэты «Сегодня» — што ён наогул такое вярзе? Якая акупацыя?

Паводле Новікса, Савецкі Саюз мог толькі вызваліць Латвію. «Гісторыю трэба ведаць, але сыходзячы з абставінаў, якія тады былі, — кажа былы начальнік НКВД. — Цяпер у нас зусім іншыя абставіны».

Клясыка не старэе. Правільны выбар абставінаў гарантуе невінаватасьць. Як шмат можна патлумачыць імі, абставінамі. Забойства, перасьлед, генацыд, акупацыю. Здраду, кар'ерызм, садызм. Нават тая самая банальнасьць зла — усяго толькі вынік пэўных абставінаў. Новікс, які ў пэрыяд росквіту сваёй кар'еры кіраваў дэпартацыяй 60 тысяч сваіх суайчыньнікаў, вінаватых толькі ў тым, што яны «нейкія ня тыя» латышы, шчыра не разумее, што ён такога зрабіў.

Ён спакойна кажа пра тое, як абіраўся «народны» ўрад Латвіі: з дапамогай савецкага разьведчыка, які «працаваў» у амбасадзе. «Умовы ў нас былі някепскія», — уздыхае Новікс, прыгадваючы тую бліскучую перамогу, якая ўзьняла яго да нябёсаў. — «Трагедыя здарылася потым: расстралялі Берыю, Абакумава, Мяркулава... Катаваньні? Барані божа! Не, у нас гэтага не было! Не, ну быў адзін выпадак...» Міністар ГБ нават дэманструе, які ён быў добранькі: аднойчы насварыўся на аднаго з падначаленых, п'янага садыста, а яшчэ лічыў, што ня трэба ўводзіць нормаў для дэпартаваных, «няхай бяруць з сабой столькі, колькі змогуць». Суайчыньнікі, як-ніяк.

Які енк узьняўся сярод «русскоязычных граждан», калі Новікс апынуўся за кратамі! Фашысцкая Фэміда пачынае гнаіць у турме вэтэранаў! Але Латвія — невялікая краіна. Павішчаць і сьціхнуць. Можна толькі ўявіць сабе, якія муры абрынуліся б і на колькі тысяч кілямэтраў было б чуваць грукат, калі б сваіх Новіксаў асудзілі і ў Беларусі зь яе моцнымі традыцыямі ў неўміручай нквдэшнай справе. У Маскве дык дакладна. Але нашыя новіксы памерлі спакойна. З пачуцьцём выкананай справы і зусім не ліліпуцкай упэўненасьцю ў тым, што жыцьцё за кіпучай чэкісцкай работай пражытае не дарма. Так тут склаліся абставіны: у тым, што ўпусьціла Ігната, вінаватая хата. А яна ў нас ведама якая.

# Іосіф і яго раты

*13 сакавіка 1964 адбыўся суд над Бродзкім*

13 сакавіка 1964 году суд Дзяржынскага раёну гораду Ленінграду асудзіў грамадзяніна Іосіфа Бродзкага за дармаедзтва на пяць гадоў высылкі і абавязаў яго да прымусовай працы. І гэта ўжо само па сабе верш. Дзяржынскі, Ленін і судзьдзя Савельева супраць Іосіфа ў пустэльні.

Ня толькі «искусство поэзии требует слов» — суды, на жаль, таксама бязь іх не абыходзяцца. А можа, і на шчасьце: словы захоўваюць у сабе дух эпохі, і ён не выветрываецца нават тады, калі выбіць зь іх увесь пыл. Было б толькі каму запісваць. А адданых чытачоў, гатовых лавіць кожнае слова «дармаеда», Бродзкі ў 1964 меў ужо дастаткова. Гэтаму, вызначальнаму ў лёсе паэта сакавіцкаму паседжаньню папярэднічала яшчэ адно, лютаўскае — і сёньня займальна прыгадаць, якія словы гучалі ў тыя дні — лепшых сьведкаў, абаронцаў і абвінаваўцаў тут ня знойдзеш.



**Дыялёг.**

*Судзьдзя:*

«Хто прызнаў, што вы паэт? Хто далучыў вас да паэтаў?»

*Бродзкі:*

«Ніхто. А хто далучыў мяне да роду чалавечага?»

*Судзьдзя:*

«А вы вучыліся гэтаму?.. Каб быць паэтам? Не спрабавалі скончыць ВНУ, дзе рыхтуюць, дзе вучаць?»

*Бродзкі:*

«Я ня думаў, што гэта даецца адукацыяй... Я думаў, гэта ад Бога...»

**Маналёгі.**

*Сарокін, грамадзкі абвінаваўца:*

«Ён належаў да кумпаніі, якая д’ябальскім сьмехам сустракала слова «праца» і з пашанай слухала свайго фюрэра Ўманскага. Асаблівы посьпех тут меў набор парнаграфічных словаў і паняткаў. Кажуць пра адоранасьць Бродзкага? Але хто кажа: людзі, падобныя да яго. Бродзкага абараняюць прайдзісьветы, дармаеды, макрыцы і жучкі. Бродзкі не паэт, а чалавек, які спрабуе пісаць вершыкі. Ён забыўся, што ў нашай краіне чалавек мусіць працаваць, ствараць каштоўнасьці: хлеб, станкі — як вершы. Бродзкага трэба прымусіць працаваць гвалтоўна. Трэба выселіць яго з горада-героя. Ён — дармаед, хам, прайдзісьвет, ідэйна брудны чалавек. Чаму тут абаранялі чалавека, які ненавідзіць нашу Радзіму? Трэба праверыць маральнае аблічча тых, хто яго абараняў. Ён пісаў: «Люблю Радзіму я чужую». У яго дзёньніках ёсьць запіс: «Я ўжо даўно думаю пра выхад за чырвоную рысу». Яшчэ ён пісаў так: «Стакгольмская ратуша выклікае ў мяне больш павагі за праскі Крэмль». Маркса ён называе так: «Стары абжора ў вянку зь яловых шышак». У адным лісьце ён піша: «Пляваць я хацеў на Маскву!»

*Рамашова, выкладчыца марксізму-ленінізму:*

«Асабіста я Бродзкага ня знаю. Але ягоная так званая дзейнасьць мне знаёмая. Пушкін казаў, што талент — гэта перадусім праца. А Бродзкі? Хіба ён працуе, каб зрабіць свае вершы зразумелымі для народу?»

*Ваяводзін, сябра Саюза пісьменьнікаў СССР:*

«Асабіста я з Бродзкім не знаёмы. Ён мала бывае ў Саюзе, пераважна на творчых вечарынах. Я чытаў эпіграмы Бродзкага. Вы пачырванелі б, таварышы судзьдзі, калі б іх прачыталі. Тут казалі пра талент Бродзкага. Талент вымяраецца народным прызнаньнем. А яго няма і быць ня можа... Бродзкі адрывае моладзь ад працы, ад сьвету, ад жыцьця».

*Дзянісаў, трубаўкладнік УНР-20:*

«Асабіста з Бродзкім не знаёмы. Пасьля выступу газэты я абураны працай Бродзкага. Захацеў пазнаёміцца зь ягонымі кнігамі, пайшоў у бібліятэку — няма кніг. Пытаўся знаёмых, ведаюць яны такога? — не, ня ведаюць. Я рабочы. Я зьмяніў за жыцьцё дзьве работы. А Бродзкі? Кажуць, ён паэт. Чаму ж ён тады ніколі ня быў сябрам ніводнага літаб'яднаньня?»

*Галасы з залі:*

Пісьменьнікі! Вывесьці б іх усіх...

Інцілягенты! Навязаліся на нашу шыю!

Я таксама завяду сабе падрадкоўнік і буду вершы перакладаць!

Выселіць бы вас усіх зь Ленінграду — даведаліся б, што па чым, дармаеды!

Адвакат за грошы гаварыў, а абвінаваўца бясплатна — значыць, мае рацыю.

Ня кожны дзень судзяць паэта.

*Судзьдзя:*

А нам усё адно, паэт ці не паэт.

*Усе хорам:*

«О, не выходи из комнаты. Танцуй, поймав, боссанову,
В пальто на голое тело, в туфлях на босу ногу.
В прихожей пахнет капустой и мазью лыжной.
Ты написал много букв, еще одна будет лишней».

# Маўчы і пі

*14 сакавіка — 3.14: Дзень ліку «пі»*

Кожны год 14 сакавіка яны сустракаюцца пасьля заняткаў у прапахлай потам і анучамі настаўніцкай і маўкліва чакаюць, пакуль за дзьвярыма ня сьціхне вясёлы школьны гоман і апошняя геаграфічка ня сыдзе нарэшце дахаты. Іхныя рухі дакладныя, як лязо цырульніка, іхныя позіркі цяжкія, як каменьне бабілёнскай вежы, і вострыя, быццам цыркуль. Мройныя іхныя цені імкнуць праз паўзмрок у бясконцасьць — у кабінэт фізыка, адзінага, далучанага да іхнай таямніцы. Там, за надзейна замкнутымі дзьвярыма, сярод вядзерцаў Архімэда і насосаў Камоўскага, маномэтраў, баромэтраў і штатываў яны наліваюць сабе сьпірту і выпіваюць, ня чокаючыся. «За пі!» — чуецца нечы ўмольны голас, але сапраўдныя матэматыкі не запіваюць.

У цішыні добра чуваць, як цурчыць празрыстая вадкасьць, як прабягаюць недзе пад плінтусамі скразьнякі і прусакі, як мерае крокамі калідор самотны фізрук, як ён паныла ўздыхае і ўрэшце ідзе ўніз, да вахторкі — папіць гарбаты і паскардзіцца на раматус. Гэта не ягоны дзень — гэта дзень Пі, загадкавага ліку, зразумець увесь сакральны сэнс якога могуць толькі тыя, хто на сваёй скуры адчуў, што такое ірацыянальнасьць.

І калі б у гэтую хвіліну на школу напала раптам нейкая праверка, у матэматыкаў дый у фізыка было б неблагое апраўданьне — бо акурат на 14 сакавіка прыпадае дзень нараджэньня Альбэрта Айнштайна, імя якога вядома нават вахторкам, гардэробніцам і кантралёрам. Чаго ня скажаш пра пі... Гэтую, прабачце за выраз, «матэматычную канстанту, якая паказвае суадносіны даўжыні акружнасьці да даўжыні яе дыямэтру». Для чалавека, адзнака якога па матэматыцы ў школе часьцей за ўсё была роўная прыкладна 3,14, усё гэта гучыць вельмі таямніча. Здаецца, усе словы знаёмыя — а выглядае як фраза на замежнай мове, сэнс якой вядомы толькі яе прыродным носьбітам. Пі, пі... Так і хочацца сказаць: ну і што далей? І што з таго, што 14 сакавіка 1988, то бок 3.14.1988, у адным з музэяў Сан-Францыска каляндар у ягоным амэрыканскім варыянце ўпершыню скрыжавалі з матэматыкай?




І гэта будзе абсалютна няслушны падыход да праблемы, скажуць матэматыкі. Менавіта няправільны разьлік пі прывёў некалі да таго, што Бабілёнская вежа так і не была пабудаваная. А дапялі б да сутнасьці — можа, і не было б ніякіх замежных моваў... І перакладнікаў... І слоўнікаў... Адна Касталія навокал, у якой Дзень Пі мусіў бы абавязкова зрабіцца галоўным дзяржаўным сьвятам.

# І я, Цэзар

*15 сакавіка 44 да н. э. забіты Юлі Цэзар*

Гісторыя сьведчыць: для таго, каб забіць пісьменьніка, хопіць кароткага пісталетнага стрэлу ды загаджанай турэмнай сьценкі. Што там казаць: часам дастаткова нават бруднага кухоннага нажа ці імправізаванай шыбеніцы. Але для забойцаў, якія пайшлі такім бяздарным шляхам, звычайна існуе вялікая рызыка яшчэ пры жыцьці быць запісанымі ў каты-душагубцы і мардавальнікі геніяў, а імёны іхныя звычайна змывае першая сур'ёзная паводка гісторыі. Да таго ж фізычная сьмерць — ня самае жахлівае, што можа здарыцца зь літаратарам: цеста ня тое, матэрыял спэцыфічны.

Між тым, сакрэт таго, як забіць пісьменьніка і ня толькі не запэцкаць крывёю аналы, але і зрабіцца сапраўдным героем, быў знаёмы ўжо старажытным цывілізацыям. «Мы цябе нябольна зарэжам: чык — і гатова»... Гэткі прымітыўны мэтад з намёкам на псэўдагуманізм і талстоўства відавочна не пасаваў, напрыклад, рымскім сэнатарам Лёнгіну і Бруту — пачуцьцё стылю ў іх было разьвітае як мае быць. Вось жа, жылі некалі людзі — ня тое што нейкае там пінаЧэтаўскае чэка і іншыя багатыры Нявы!

Аднак для забойства пісьменьніка часам патрэбны ня толькі вытанчаны стыль, але і добра наточаны стылас. 15 сакавіка 44 году да нашай эры проста ў залі паседжаньняў рымскага сэнату цэлы натоўп змоўнікаў пад кіраўніцтвам тых самых Лёнгіна і Брута забівае Гая Юлія Цэзара, аўтара бэстсэлера «Нататкі аб гальскай вайне». Ну, і трохі дыктатара, вядома — але які пісьменьнік не тыран у душы? Назавіце такога — ён, відаць, член суполкі хрысьціянскіх літаратараў і ў пост пра мяса ня піша: хіба што тваражок часам згадае, ды сальца шматочак схавае паміж радкоў... Бог даруе.



Забойства Цэзара атрымалася відовішчнае. Зусім побач — тэатар зацкаванага Гаем Юліем Пампэя; дзея ў сэнаце таксама да немагчымасьці тэатральная. Умоўнага знаку для пачатку расправы давялося чакаць нядоўга: сэнатар Цымбэр зрывае з Цэзара тогу — і змоўнікі накідваюцца на аўтара «Нататак», як савецкія людзі на першы макдональдс. Яны дамовіліся, што кожны зробіць адзін удар — нібыта кінуліся ў гісторыю з апошняга паверху, узяўшыся за рукі. Калектыўная адказнасьць, найлепшы ў сьвеце клей.

Кожны зь іх мае пры сабе востры стылас — і чымсьці яны нагадваюць тых вучняў, якія закалолі свайго настаўніка, сьвятога Касіяна Імалійскага, шарыкавымі асадкамі. Застаўшыся ў споднім, уладар Рыму не губляе прысутнасьці духу і спрабуе абараняцца. Але стылас — ня шпага, ім асабліва не пафэхтуеш. Атрымаўшы дваццаць тры раны, дыктатар нарэшце памірае. Паспеўшы перад гэтым прамовіць Тую Самую Фразу. Якой, цалкам магчыма, і не было — ці яна гучала зусім ня так. Але якую, далібог, варта было прыдумаць.

*І ты, Бруце?*

Ягоны апошні твор. Насамрэч у ім больш шчырага зьдзіўленьня, чым папроку і болю ад ранаў і здрады. «І ты, Бруце?» — у сэнсе: і ты тут? Так сустракаюць на вуліцы далёкага гораду пэрсанажа з даўно забытага дзяцінства, так знаходзяць у фэйсбуку першае каханьне.

*І я, Цэзару.*

*Як маешся? Дзе ты, з кім ты? Усё там жа?*

*Ды так, паціху. Магло б быць і лепей.*

*Але навошта, Бруце?*

*Так трэба, Цэзару.*

# Яго апошні паклон

***16 сакавіка 1967 на экраны выходзіць фільм «Фантамас супраць Скотланд-Ярду»***

Сумна, крыўдна і несправядліва, амаль да сьлёзаў, але гэта сапраўды быў fin... Зь якога, тым ня менш, атрымаўся не абы які бэнэфіс. 16 сакавіка 1967 году на экраны Францыі выйшаў апошні фільм Андрэ Юнбэля з цыклю пра Фантамаса.

Гэтым разам галоўны ліхадзей і нелюдзь 60-х, розум, гонар і сумленьне злачыннага сьвету супрацьстаіць ня толькі камісару Жуву, але і Скотланд-Ярду, а ў дадатак яшчэ і нейкім гангстэрам — і няглядзячы на гэта пакідае ўсіх сам-насам з носам і ўсімі іхнымі насавымі галоснымі, а камісара дастаўляе сабе ў сутарэньні проста ў ягоным ложку. Ён шчасьліва пазьбягае гібелі, уцякае ад перасьледу на звычайным ровары, апошні раз прамаўляе сваё нязьменна аптымістычнае «ха-ха-ха-ха-ха» і зноў імчыць на сваёй супэрмашыне, ружовай мары савецкай міліцыі60-х. Куды? У будучыню, вядома. Туды, дзе яго ўжо чакаюць стомленыя ад тэрмінатараў і альмадовараў гурманы. Часам лепш сьмяяцца зь нічога, чым гаварыць пра ўсё.



О, гэтае «ха-ха-ха-ха-ха»! Простае, як мыканьне, наіўнае і абаяльнае, як і сам гэты фільм, як і ўсе францускія камэдыі, на любую зь якіх і цяпер можна ставіць знак якасьці з выбітым на ім профілем Люі дэ Фюнэса. Энэргія «Фантамасаў» бярэцца нібыта зь нічога, і тым ня менш яе напор нястрымны, яна б'е, быццам нафта ў твар будучаму мільярдэру. Ня верыцца, што сваім посьпехам гэты фільм абавязаны ня надта ўжо й маладым акторам. Люі дэ Фюнэсу на момант выхаду ў сьвет апошняга з «Фантамасаў» — пяцьдзясят тры, Жану Марэ — пяцьдзясят чацьверты год, і толькі Элен, Элен, зь яе каленкамі, сукенкамі-фікцыямі і інтэлектам сапраўднай журналісткі, Элен, у якую немагчыма было не закахацца, непараўнальная Элен, якую грала Мілен Дэманжо — ёй было ўсяго трыццаць два. Ненашмат старэйшы за яе і кампазытар Мішэль Мань, дзякуючы якому Фантамас не старэе, бо ты і сёньня, выходзячы на двор, часам мармычаш напаўголасу гэтую напаўджазавую тэму.

А як не мармытаць — з такімі дэманічнымі духавымі? Крадучыся, набліжаецца бас, новы нумар «Le point du jour» ужо ў кіёсках. П'ер Сувэстр, аўтар страшылак пачатку XX стагодзьдзя пра пачвару Фантамаса, пераварочваецца ў магіле на правы бок, але ўрэшце не вытрымлівае і ён, і пачынае рагатаць, дэманічна, адпаведна свайму герою. Дык усьміхніся і ты, зануда.

# Песьня пра соль

*17 сакавіка 1898 апублікаваная песьня O sole mio*

17 сакавіка 1898 была апублікаваная самая ранішняя, самая со-о-о-нечная і самая знакамітая ў сьвеце песьня на нэапалітанскай мове, ці, як яе называюць мясцовыя, nnapulitano. Называлася песьня «O sole mio», то бок «Маё сонца» — і сьвеціць тое сонца да нашых дзён. Хто толькі ня лашчыўся ў ягоных шчодрых промнях: Энрыке Каруза, Рабэрціна Лярэці і Лючана Паварoці, а таксама Элвіс Прэсьлі, Міхаіл Александровіч, Плясыда Дамінга, Хасэ Карэрас, Пол Макартні і Мусьлім Магамаеў, якія любіў разагрэць на ёй галасавыя зьвязкі перад выкананьнем свайго кароннага нумару, «Маршу нафтавікоў Касьпія». Аднойчы «O sole mio» нават давялося выконваць ролю італійскага гімну — на Алімпіядзе ў Антвэрпэне, дзе не знайшлося адпаведных нотаў, затое кожны музыка на памяць ведаў нэапалітанскі шлягер.



І тым больш дзіўна, што песьня гэтая ніякая не народная і была прыдуманая далёка ад Італіі. У самым канцы XIX стагодзьдзя па Ўкраіне, недзе ў раёне горада Чарнаморску падарожнічаў сабе малавядомы кампазытар Эдуарда ды Капуа, які меў пры сабе тэкст, напісаны малавядомым літаратарам Капура, і замову ад аднаго расейскага графа напісаць такую песьню, «штоб душа развернулась, а патом апяць свернулась, но уже вдвое». І вось у тым самым Чарнаморску заежджага кампаніста нарэшце наведала муза — і песьня была гатовая. Маючы перад вачыма Чорнае мора, ды Капуа напісаў адну з самых вядомых міжземнаморскіх песьняў, і паехаў у Піцер ладзіць для графа прэм'еру. А жыхары Чарнаморску, слухаючы тую «O sole mio», таксама ўяўлялі сабе зіхоткую Нэапалітанскую затоку і смуглявых прыгажуняў, якія шчабечуць на сваім мілагучным nnapulitano, і падпявалі, сьвята ўпэўненыя, што дзе-дзе, а ў іхным правінцыйным Чарнаморску ніякага «о соле міо» быць ня можа.

Але хіба ўсё гэта мае значэньне? Важна тое, што цяпер цудоўная раніца. Што паветра празрыстае і такое спакойнае пасьля буры. Што зьзяюць твае вокны, і ў іх адбіваецца ва ўсёй сваёй сьвежасьці затока гораду, які толькі што прачнуўся, што вясёлая прачка рэжа хлеб і, не саромеючыся, напявае нешта на сваёй мове, поўнай ладных ранішніх сугуччаў. Што ўжо сноўдаюць лодкі і бадзёра гудуць вялікія караблі. Што сонца на тваім твары ўсё адно пякнейшае за тое, якое ўжо даўно назірае за намі са сваёй сьляпучай вышыні. А ўсё астатняе: грошы, графы і гімны — насамрэч ня варта аднаго твайго позірку. Ці, як кажуць нэапалітанцы:

O sole mio sta ´nfronte a te!

# К д’яблу іх візы

***18 сакавіка 1921 падпісаная Рыская мірная дамова***

18 сакавіка 1921 году ў Рызе ўсялякія чужаніцы і цёмных дарог махляры падпісалі дамову, згодна зь якой Беларусь была падзеленая паміж Польшчай і Савецкай Расеяй. Рэзалі па-жывому, не саромеючыся — адны пачуваліся хірургамі, іншыя краўцамі, трэція наогул мастакамі-каляжыстамі: чаго і каго саромецца? Застаўся вядомы здымак, зроблены адразу пасьля падпісаньня: махляры на ім сапраўды стаяць з дужа махлярскім выглядам, не раўнуючы пэрсанажы з фотаархіву Шэрлака Голмса, і відавочна сумуюць па сваіх цёмных дарогах, раскіданых паміж Масквой і Варшавай. Праўда, шмат хто прыплюшчыў вочы, але вінаватая была, вядома ж, магніевая ўспышка... Увага, зараз вылеціць птушка!

«Обе договаривающиеся стороны, согласно принципа самоопределения народов, признают независимость Украины и Белоруссии, а также соглашаются и постановляют, что восточную границу Польши, т. е. границу между Россией, Белоруссией и Украиной, с одной стороны, и Польшей — с другой, составляет линия...»



Вось у лініі і была галоўная праблема. Лінія падзяліла беларусаў на польскіх і савецкіх — беларусы беларускія, тыя, якія хацелі быць самі па сабе, успрымаліся як нонсэнс, ня варты таго, каб браць яго пад увагу. Лінія гэтая існуе дагэтуль, уецца, ледзь улоўная, па гісторыі, па сьветапоглядзе, па біяграфіях... Беларуская Беларусь лунае недзе па-над ёй і спрабуе ў яе сеяць, кожнага разу прамахваючыся; што нас аб’яднае: мова? Кава? Кафка?

...Калі б нехта ў 1921 сказаў дэлегацыям, якія сабраліся ў Рызе, што гадоў праз семдзесят на парэзаных імі абшарах паўстане нейкая там Рэспубліка Беларусь, усе тыя «махляры» разрагаталіся б і плюнулі гэтаму фантазёру ў твар. Беларускі праект не лічыўся рэалістычным — дый цяпер ён сам па сабе, а РБ сама па сабе; а лінія вось засталася... На яе натыкаешся ў самых нечаканых месцах, як яшчэ зусім нядаўна ў Бэрліне на парэштка муру. І дзьве душы абапал, маўклівыя, як дрэвы, і, як дрэвы, жывыя і нерухомыя. А нас вецер гоніць...

Прынята лічыць, што пра Беларусь на тых рыскіх перамовах ніхто й ня думаў. «Незавісімость Белоруссіі» «адстойвала» ад імя «белорусского правіцяльства» дэлегацыя РСФСР — праўда, самое «правіцяльства» БССР пра гэта ніхто не парупіўся папярэдзіць. Але слова «Беларусь» на перамовах гучала, асабліва на неафіцыйных, закулісных, якія вяліся ад пачатку савецка-польскага замірэньня — яшчэ задоўга да падпісаньня Рыскай дамовы яе ўдзельнікі думалі пра Беларусь ня горш за Леніна і Акудовіча і нават намагаліся вызначыць яе месца ў новым усходнеэўрапейскім парадку. Думкі гэтыя, асабліва ў палякаў, былі даволі цьвярозыя — толькі вось рамантычнаму беларускаму руху гэтая цьвярозасьць адно толькі замінала.

Удзельнік тых перамоваў з польскага боку Станіслаў Грабскі ў сваіх успамінах пісаў пра тое, як успрымалася тады будучая мяжа — «пэўнае, хоць і не празьмерна вялікае, для

нас значэньне мае тое, што Расея разам з Украінай і Беларусьсю прызнаюць, што на захад ад нашай зь імі мяжы ёсьць не якая-небудзь „Заходняя Ўкраіна“ ці „Заходняя Беларусь“, але папросту Польшча».

Іншы перамоўнік, Ян Домбскі, што ні кажы, шмат у чым меў рацыю: «Савецкія Ўкраіна і Беларусь — гэта фікцыі, створаныя бальшавікамі для маскіраваньня іх агульнасавецкага імпэрыялізму. Бальшавікі, магчыма, маюць намер калісьці ліквідаваць гэтыя ўкраінскія і беларускія фікцыі. У выпадку ж зьнішчэньня незалежнасьці Украіны і Беларусі і ліквідацыі саміх іх назваў нашая мяжа павісла б нібы ў паветры. Адзіным трывалым быў бы адрэзак, які мяжуе з Расеяй, які потым можна было б аўтаматычна падоўжыць на поўдзень, бо Расея была б, несумненна, тады спадкаемцам Беларусі і Ўкраіны. Маю ўражаньне, што апошняя бальшавіцкая прапанова можа зьмяшчаць у сабе менавіта прадказаньне ліквідацыі Беларусі, якую бальшавікі... зьвялі да сьмешных памераў... Савецкая Беларусь ня мае ніякіх аб’ектыўных рысаў самастойнасьці і дзяржаўнай незалежнасьці».

Пра БНР ніхто ня згадваў.

Наогул, кожны, хто пачынае гуляцца з этнаграфічнымі межамі, рызыкуе ў іх заблудзіць і выйсьці не з таго боку на міннае поле гісторыі і насустрач уласнай гібелі. Рыскі падзел не прынёс шчасьця нікому з тых, хто яго ажыцьцявіў, і скончыўся ўрэшце тым, чым мусіў скончыцца — вялікай вайной і новымі падзеламі. Апошні зь іх уплывае на Беларусь ня менш за той ганебны Рыскі, і зноў хочацца цытаваць Коласа. Ці перайначваць, што таксама мае сэнс. Бо, сапраўды, к д’яблу іх візы, к чорту граніцы: чалавек нараджаецца не для таго, каб яго рэзалі, расклаўшы тушкай на дзяржаўных мапах, і не для таго, каб ананімная цётачка ў акенцы амбасады вызначала, ехаць яму заўтра ў Парыж ці застацца дома — і калі межы Эўразьвязу не супадаюць з Эўропай і супадаць не зьбіраюцца, значыць, нешта зноў пайшло ня так — і на дарогах паміж Масквой і Брусэлем для нас зноў стала неяк цемнавата.

# Калі схаваецца сонца

***19 сакавіка 721 да н. э. жыхары Бабілёну назіраюць сонечнае зацьменьне***

19 сакавіка 721 году да нашай эры жыхары гораду Бабілёну, шчасьлівыя падданыя Мардука-апла-ідына II, на свае вочы пабачылі, чым займаюцца іхныя багі, калі яны маюць вольную хвілінку і трохі срэбра ў кішэні. У высокім і бязьлітасным небе над Бабілёніяй нечакана здарылася сонечнае зацьменьне, ад якога адны грамадзяне падалі ніцма, іншыя з румзаньнем і малітвамі поўзалі на каленях, трэцiя гублялі прытомнасьць, чацьвертыя прадказвалі неўраджаі, а пятыя, наадварот, зьмены да лепшага, лібэралізацыю і стабілізацыю бабілёнскай валюты — і толькі жрацы, па сумяшчальніцтве вучоныя і астролягі, спакойна ўзялі і напісалі пра гэта на гліняных таблічках, у сваіх верных нататніках, якія, як высьветлілася, могуць быць значна больш даўгавечнымі за паперу.

А, можа, і не 19 сакавіка 721 году, а, можа, ня сонечнае, а месяцовае... А можа, і не Мардука-апла-ідына, а можа, і ня падалі, а можа, не такія ўжо і шчасьлівыя... Усё гэта ўмоўна, хістка і было так даўно, што праўду даўно пахавалі тыя самыя пяскі, пад якімі дваццаць стагодзьдзяў спаў у руінах самы знакаміты і магутны з старажытных гарадоў Міжрэчча. Горад, муры якога былі такія высокія, што іхную рэканструкцыю пачынаў адзін уладар, а скончаў ягоны ўнук. Горад, які існаваў толькі дзякуючы інжынэрам, якія здолелі пабудаваць аазіс там, дзе не было ні лясоў, ні рэсурсаў, ні Расеі пад бокам, толькі шырокая рака і бязрадасная, выпаленая сонцам, хаця і ўрадлівая раўніна. Горад тысячаў умела прakапаных у гліністай глебе каналаў і жудасных каляровых зікуратаў. Важна тое, што бабілёнскае сонечнае зацьменьне — першае зь вядомых задакумэнтаваных. Пабачыць яго можа кожны гопнік, а вось апісаць — адно горды, цывілізаваны і барадаты грамадзянін.



І непазьбежна ўяўляецца наступнае: у нейкім 721 годзе пасьля нашай эры, неўзабаве пасьля таго, як абрынецца нашая Самая Разумная Сыстэма, і калі праміне дастаткова часу, каб канчаткова пра яе забыць, аўтар зусім іншага календара напіша, што 1 жніўня 2008 году да нашай эры жыхары гораду Менску, шчасьлівыя падданыя квітнеючай Дзяржавы, назіралі сонечнае зацьменьне і пілі піва на лавачках каля плошчы Перамогі. І абавязкова дадасьць, што, можа, і ня першага жніўня, а «перваго августа», што, можа, ня Менску, а города-героя Минска, што, можа, не такія ўжо і шчасьлівыя, што, можа, не такой ужо й квітнеючай, і што, цалкам магчыма, ня піва, а гарэлку з кока-колай. Усё гэта ўмоўна, хістка і было так даўно, што праўду пра той горад-герой на дваццаць стагодзьдзяў пахавалі пяскі, прынесеныя ветрам са сьпякотнай Антарктыды. Але зацьменьне было — факт.

# Шчасьце з пакета

*20 сакавіка 1995 адбылася газавая атака ў такійскім мэтро*

У пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагодзьдзя японец Цідзуо Мацумото, ён жа Сёко Асахара, аптэкар, ёг, мільянэр з крымінальным мінулым, кампазытар, улюбёны рэклямадаўца расейскіх мэдыяў і шэф загадкавага таварыства з абмежаванай адказнасьцю «Аўм Сінрыкё» абвясьціў сябе яшчэ і новым Збаўцам, гатовым пайсьці на пакуты дзеля чалавецтва. Праўда, як і кожны, чыім хобі ёсьць прыдумваньне новых рэлігій, у слова «Збаўца» Мацумота-Асахара ўкладваў трошачкі іншы сэнс...

20 сакавіка 1995 году на станцыях Касумігасэкі і Нагатацё такійскага мэтрапалітэну пакуты нарэшце пачаліся. Але не Асахаравы. У выніку газавай атакі з выкарыстаньнем зарыну трынаццаць чалавек загінулі, некалькі дзясяткаў былі зьнявечаныя і некалькі тысяч мелі часовыя праблемы са зрокам. Плян новага «Збаўцы» быў выкананы з чыста японскай дасканаласьцю. Пяцёра тэрарыстаў, «духоўных акцыянэраў» Аўм Сінрыкё, знаходзячыся ў розных месцах, паставілі пакеты з зарынам на падлогу вагонаў, праткнулі іх кончыкамі парасонаў і выйшлі — на паверхню, да сонца і паветра, да сьвету і сьвятла. Некаторыя ваганіся, перад тым, як праткнуць свой пакет; ніводзін так і не перадумаў. Кожнага каля станцыі чакала загадзя падрыхтаваная машына, у якой драмаў гатовы ў любы момант рвануць зь месца кіроўца.

...Якім раем падавалася такім, як Асахара, постсавецкая прастора! На пачатку дзевяностых ягоная каманда, а можа, і ён сам добра паезьдзілі па дзікім полі новаствoранага СНД, вярбуючы прыхільнікаў, і калі ўяўляеш сабе сходку Аўм Сінрыкё ў якім-небудзь Палацы трактарнага, дысанансу не ўзьнікае... Там і не такое ў свой час рабілася.

Наогул, па колькасьці ахвяраў падзабыты такійскі тэракт, бадай што, супастаўляльны зь нядаўнім тэрактам у Менску — ня кажучы ўжо пра месца. Па сваёй нечаканасьці — таксама.



«Ніхто ня мог уявіць сабе, што нешта падобнае можа адбыцца...» Як быццам бываюць тэракты, заплянаваныя грамадзкасьцю і ўхваленыя гарвыканкамам. Аб’ява: «32 сакавічніка 200... году на станцыі Х адбудзецца тэракт. Просьба абмінаць станцыю Х бокам, ісьці лесам і выходзіць па адным». І як вынік: разгубленыя ліхадзеі ў масках, якія ў роспачы распыляюць газ і ўзрываюць бомбы ў абсалютна пустых вагонах і на абсалютна пустых станцыях, тым часам як супрацоўнікі

службы бясьпекі насьміхаюцца зь іх, назіраючы ўсю дзею на сваіх маніторах і папіваючы безалькагольнае піва. Але так не бывае. Малалетніх дзержыце за руку, грудных дзяцей бярыце на рукі. І інвалідам. Не задзержывайце поезд! Падазрыцельныя прадметы. Чалавек бязь імені, з пакетам і парасонам, такі самы, як ён, як ты, як мы, ужо выйшаў з дому і спусьціўся ў мэтро. Ён зробіць тое, што задумаў. «Выхада нет».

Ці ёсьць? У краіне, дзе структуры настолькі сілавыя, што ніхто ня ведае, дзе канчаецца іхная сіла, у якім яна яйцы і каму тое яйцо належыць, дзе столькі паліцыі на квадратны кілямэтар, што кожную хвіліну хочацца здацца і прыйсьці з павіннай, хоць бы нічога такога й не рабіў — у такой краіне можна прынамсі спадзявацца на тое, што ёсьць каму заняцца бясьпекай і іншай «грамадзянскай абаронай». Але ўся сіла марнуецца на барацьбу з іншадумцамі, з іншаплянэтнікамі, з іншасьветам, наогул — зь Іншымі. І калі потым на супрацьстаяньне з паліцыяй выйдзе Нішто, шэры чалавек з шэрага натоўпу, не адрозны ні ад каго, кропля ў моры парасонаў і каляровых пакетаў — паліцыя зробіцца бясьсільнай. Шэры чалавек у гэты момант усёмагутны, як сам бог.

Здаецца, для спадара Асахары тая газавая атака ў такійскім мэтро была яшчэ адным рэклямным трукам, грошай на якія ён не шкадаваў. Як і людзей. Падобна любімым Асахарам нацыстам, фюрэр Аўм Сінрыкё сказіў старажытныя тэксты, «перапісаў» іх на новы лад і выдаў за ісьціну, а сябе — за ідэйнага барацьбіта за шчасьце чалавецтва. Але пакутніка за ідэалы, такога сабе «акадэміка Асахарава» з грамадзяніна Мацумото ня выйшла. Як там, дарэчы, яго ўсё яшчэ не павесілі?... Бойся чалавека, які кажа, што ў ягоным пакеце шчасьце.

# Мэтад доктара Ражэ

***21 сакавіка 1923 доктар Ражэ ў Парыжы абвяшчае курэньне карысным для здароўя***

Звычайны пачак цыгарэт у Нямеччыне каштуе пяць эўра, а ў Швэцыі — амаль шэсьць, дый у пачку тым іх ня дваццаць штук: быццам курэц, яшчэ не купіўшы цыгарэты, ужо кагосьці пачаставаў — таварыша па няшчасьці ці дзяржаву, у якой скончылася сваё курава і цяпер яна страляе яго ў грамадзянаў. У Нарвэгіі, кажуць, усё яшчэ больш цікава: той самы пачак цыгарэтаў з тым самым сакрэтам там, кажуць, мае кошт ужо каля 11 эўра. Куды коціцца сьвет... Ну, дакладна не туды, куды Беларусь, дзе ўся гэтая атрута — адна з самых танных у Эўропе. У нейкі іншы бок. Дзе для курцоў месца не прадугледжана. А калі ўсё ж і знойдзецца, то ў выглядзе празрыстых плястыкавых загончыкаў, да якіх будуць з прапагандысцкімі мэтамі вадзіць дзяцей і з вучэбна-практычнымі — студэнтаўмэдыкаў. Такіх загончыкаў, якія ёсьць на лётнішчах — дзе часам хочацца залезьці ва ўласны чамадан, каб хаця б там пакурыць спакойна.



Можна толькі ўявіць сабе, як быў бы абураны ўсёй гэтай барацьбой супраць курцоў і курэньня вялікі францускі мэдык доктар Ражэ. Той самы парыскі доктар Ражэ, які 21 сакавіка 1923 году выступіў з заявай, што курэньне карыснае для здароўя, бо нікатын, як вядома, мае цудоўныя антыбактэрыяльныя ўласьцівасьці. Больш доктар нічым такім не праславіўся, але ж што такое слава — дым цыгарэт без мэнтолу, а сапраўднаму генію часам дастаткова сказаць толькі адну-адзіную фразу, каб увайсьці ў гісторыю. Бязь ценю сумневу парыскі доктар прапісваў цыгарэты, папяросы, цыгары і люлечныя сумесі цяжарным жанчынам, дзецям, пажылым людзям і інвалідам, лячыў вірджынскім тытунём грып і ангіну, турэцкай латакіяй — батулізм і хламідыёз, а расейскай махоркай — дыфтэрыю, дызэнтэрыю і слупняк. Як, ад чаго і калі памёр доктар Ражэ, высьветліць не ўдалося, а дарэмна — вось хто заслугоўвае сабе гранітны помнік з надпісам «Barbarus hic ego sum, quia non intellegor ulli».

Праўда, калі б добры доктар жыў у наш час, да сьмерці б яго давялі не драконаўскія захады ў барацьбе з курэньнем, пры ўвядзеньні якіх, як гэта часта бывае, ніхто не прыслухаўся да меркаваньня сапраўдных спэцыялістаў, і не 19 цыгарэт у пачку. Дабіла б доктара адна займальная кніжка, напісаная ў васьмідзясятых адным зь яго суайчыньнікаў. З тае пары яна вытрымала шмат перавыданьняў і называецца «S'arrêter de fumer», але самае цікавае ў ёй ня гэта, а імя аўтара. Бэстсэлер, прысьвечаны таму, як кінуць курыць і забіць пры гэтым як мага менш людзей, напісаў доктар Жан Люк Ражэ, то бок цёзка па прозьвішчы змагара за нікатынавы мэтад лячэньня. Здаецца, гэта называецца іроніяй лёсу, хаця якая ўжо там іронія — адзін непрыхаваны сарказм.

# Помнік на шыбеніцы

*22 сакавіка 1864 павешаны Кастусь Каліноўскі*

22 сакавіка 1864 году ў Вільні на гандлёвай плошчы Лукішкі быў публічна павешаны Яська-гаспадар з-пад Вільні, то бок Кастусь Каліноўскі, хаця і з гэтым ягоным імем усё ня так проста. Спачатку яго зьбіраліся расстраляць, але Мураўёў закапрызіў: «нет уж, Вешатель так Вешатель». Давялося прыслухацца.

На шыбеніцу ўзышоў чалавек, «які ненавідзеў беларускі народ», «які ў сваіх маніфэстах і загадах называў беларусаў дурнымі авечкамі, параўноўваў іх зь Юдам Іскарыётам і Каінам, які разгарнуў шырокі тэрор на тэрыторыі Беларусі і чыю фігуру па яе жахлівым водбліску можна параўнаць са знакамітым Нячаевым і нячаеўшчынай, вядомымі са знакамітых „Бесаў“ Дастаеўскага». Так ласкава адгукаюцца цяпер пра Каліноўскага некаторыя занадта разумныя нашчадкі, якім засьвярбела ў тым месцы, якім звычайна перапісваюць гісторыю на дзяржаўную замову. Бедны Дастаеўскі, сюды прыплялі і яго, і цяпер ён вымушаны стаяць побач зь Якавам Трашчанком і спрачацца адначасова з Ігнатоўскім і Абэцэдарскім.



Між тым, іншыя, ня менш, а можа, і больш разумныя нашчадкі зусім нядаўна распачалі збор подпісаў за ўзьвядзеньне ў Менску помніка павешанаму герою, і амаль адначасова з гэтым была выпушчаная гульня, у якой Каліноўскі — адзін з галоўных пэрсанажаў.

І адны, і другія гуляюць найперш зь мітамі, якія пазарэз патрэбныя любой нацыі, пакуль яна не навучыцца іранізаваць з самой сябе, і якія замінаюць яе праціўнікам. Бальшавікам патрэбны быў вобраз сялянскага героя-паўстанца — але і беларускаму нацыяналізму ён быў патрэбны ня менш. На нейкі працяглы гістарычны момант міт Каліноўскага, здаецца, збольшага задаволіў усіх.

Пытаньне ў тым, на які падмурак перастравіць яго з той віленскай шыбеніцы. Чалавек, для каго гісторыя Беларусі пачынаецца з 1917 году, жыве цяпер, адпаведна, у 96 годзе паводле нацыянальнага календара — узрост немаўляці. Ня дзіва, што гульня, якую ён вядзе, у выніку атрымліваецца ня надта інтэлектуальная і больш падобная да дзіцячага кіно: нешта сярэдняе паміж «Гары Потэрам» і «Начным дазорам». Для праціўнікаў Каліноўскага і «каліноўшчыны» сьветлыя сілы прадказальна атаясамліваюцца з мудрым расейскім царом і з Мураўёвым, які, як высьветлілася, быў такі прагрэсіўны, што ажно плакаць хочацца, і займаўся тут «этнічнай мадэрнізацыяй» беларускага сялянства. Тэрмін, дарэчы, у лукашэнкаўскіх «навукоўцаў» атрымаўся сапраўды злавесны... З такімі поглядамі лепш ісьці сьпяваць «Горста Вэсэля», а не навукай займацца.

Ну, а цёмныя сілы для нашых немаўлятаў ад гісторыі — гэта, адпаведна, атаман Каліноўскі з хлопцамі. Якіх, як высьвятляецца, у сапраўднасьці і не было зусім, іх БНФ прыдумаў на амэрыканскія грошы. Прынамсі, такую выснову можна зрабіць з усяго гэтага лепету.

На адной зь вядомых карцін 1959 году аўтарства Пётры Сергіевіча, які Каліноўскага маляваў ня раз, у КК, які робіць агледзіны сялянскаму войску, сапраўды твар фанатыка. І хлопчыкі крывавыя ў вачах. Мароз грае на ягоных шчоках опэры Шастаковіча. Каліноўскаму лісьліва пасьміхаюцца — бо панок, відаць, ня толькі па-мужыцку гаварыць умее, але і на расправу быстры. Каліноўскі на гэтай сапраўды вельмі моцнай карціне непрыемны, як занадта яркае сонца. Яго так і хочацца прыкрыць рукой ці зацерці, такая ад яго ідзе энэргія. Стрыманасьць у пяцідзясятыя не віталася, калі ўжо герой — дык да гістэрыкі, калі ўжо сымбаль, дык такі, каб кожны дзень уваччу стаяў. Прыкладна такі самы першы кіношны Каліноўскі 1928 году ў выкананьні актора Сіманава — трэба было, каб вочы гарэлі, дык яны і гараць, не раўнуючы падпаленая панская сядзіба. У мастака Адольфа Гугеля Каліноўскі больш нагадвае паэта, толькі што прынятага ў Саюз пісьменьнікаў. Паэт дэклямуе, паэма доўгая, але народ не разыходзіцца. Ня кожны дзень з-пад самой Вільні паэты прыяжджаюць. Але гэта ўсё, так бы мовіць, мастацкая інтэрпрэтацыя. Самым нячаеўскім нячаевым Каліноўскі атрымаўся на сваім клясычным здымку — тым самым, дзе ён стаіць і глядзіць кудысьці ўбок, і ў яго на лбе напісана, што ён супраць цара і яшчэ пакажа ўсім маскалям, як дзяліць паспалітыя рэчы.

Ведама, можна пагадзіцца з тым, што Каліноўскі сапраўды быў тэрарыст. Але ў такім разе тэрарыст кожны, хто хоча зьмяніць злачынную ўладу. У тым ліку дзед Талаш, Алена Мазанік, Марат Казей, Зоя Касмадзям’янская, маладагвардзейцы кардынала, і цэлы сонм савецкіх ваенна-партызанскіх сьвятых — усе яны ня меншыя забойцы і тэрарысты, і «господам історікам» трэба так і называць сваіх улюбёнцаў і адпаведна пазначаць іх на сваіх іконах. І ставячы віртуальныя помнікі Мураўёву і Аляксандру II, трэба ўжо быць пасьлядоўным і ставіць заадно сапраўдныя Івану Жахліваму, царыцы Кацярыне, Сталіну і Гітлеру. Толькі вар’ят можа аспрэчваць, што Каліноўскі ваяваў на сваёй зямлі супраць захопнікаў-чужаземцаў. Усё вельмі лягічна: бандытамі называлі балахоўцаў бальшавікі і белагвардзейцы, бандытамі называла нямецкае камандаваньне беларускіх партызанаў другой сусьветнай, бандытамі называюць расейцы чачэнскіх інсургентаў, бандытам называюць Каліноўскага некаторыя сучасныя праўдашукальнікі. Як бачым, яны, гэтыя барацьбіты за ісьціну, у добрай кампаніі.

Бяда толькі ў тым, што каму ў Менску помнік ні пастаў, усё адно ён атрымаецца групавы — і за сьпінай каменнага Каліноўскага абазнанаму мінаку заўжды будуць мроіцца ашчэраныя Мураўёў з царом Аляксандрам II, а калі помнік паставіць цару і Мураўёву, дык над імі навечна будзе вісець цень Каліноўскага, які замахваецца жалезным дрынам, каб па чарзе апусьціць яго на галовы гэтых дзеячоў. Такая вось расплата за грэх ідэалёгіі. Абмінуць якую ў Беларусі, на жаль, цяжка — як п’янаму прыдарожны слуп.

# Разумныя хлопчыкі

*23 сакавіка 1919 Мусаліні засноўвае першую фашысцкую арганізацыю*

Неабмежаваная ўлада, чорныя кашулі, тэрор, хаўрус зь Нямеччынай Гітлера, далучэньне да краінаў Восі, ганьба ў Афрыцы, захоп Альбаніі, правал на Ўсходнім фронце, Кляра Пэтачы, Рэспубліка Сало, здрада маршала Бадольё і — і ты, дзіця маё?... — роднага зяця, графа Чана, і, урэшце, некалькі фінальных стрэлаў у вёсцы Джуліна-ды-Мэцэгра... Усё гэта будзе потым. А пакуль што 23 сакавіка 1919, дзень, які быў такі доўгі, што, здавалася, ён ніколі ня скончыцца, ні праз дваццаць гадоў, ні праз трыццаць: у Міляне, на плошчы Сан-Сэполькра, у памяшканьні прамыслова-камэрцыйнага таварыства 36-гадовы журналіст і палітык Бэніта Мусаліні з паплечнікамі засноўвае «Fasci de Combattimento», свой уласны Саюз барацьбы.

Тут жа прымаецца і праграма новай арганізацыі, дзіўная мешаніна з сацыялізму, у якім будучы дучэ якраз пачаў расчароўвацца, і самых правых ідэяў. Яны, фашысты (якое сьвежае, яшчэ нявіннае слова ў 1919) маглі дазволіць сабе гэтую раскошу: рабіцца то тым, то другім, то трэцім, то арыстакратам, то дэгенэратам, у залежнасьці ад абставінаў, як карта ляжа — толькі на Апэнінах такое і было магчыма. З усімі супраць усіх за Італію. Патрабаваньні простыя, як заклён. Завалодаць сваім, законным — Фіюмэ і Далмацыяй. Даеш васьмігадзінны працоўны дзень, усеагульнае выбарчае права, новую канстытуцыю. У пекла верхнюю палатку гаварыльні пад назвай парлямэнт. Вярнуць былую рымскую веліч. Мусаліні адчувае сябе ў сваёй стыхіі і ў сваёй талерцы — неўзабаве зь яе будзе есьці ўся краіна. Якая пакуль што ўсё больш зацікаўлена слухае, што там кажа гэты пісака з такім бессаромным, але жвавым пяром.



Ужо да канца году ў фашыях — каля 900 чалавек, а яшчэ праз год — дваццаць тысяч, фашыі існуюць ужо ў 67 гарадах. За тую амаль чвэрць стагодзьдзя, якая дасталася фашызму ў ягоным італійскім варыянце, пасьпела выгадавацца пакаленьне, для якога часы Мусаліні былі не такім ужо і благім варыянтам маладосьці. Пакаленьне балілаў, юнакоў у чорным. Часам — даволі разумных. І ніколі — няшчасных.

«У 1942 годзе, калі мне было 10 гадоў, я заняў першае месца на алімпіядзе Ludi Juveniles, якая праводзілася для італійскіх школьнікаў-фашыстаў (то бок для ўсіх італійскіх школьнікаў). Я здолеў з рытарычным майстэрствам разьвіць тэму „Ці мусім мы памерці за славу Мусаліні і за несьмяротную славу Італіі?“ Я давёў, што мусім», — піша Умбэрта Эка ў сваім эсэ «Вечны фашызм». — «Я быў разумны хлопчык».

Фашызм — гэта калі ты мусіш паміраць, таму што дваццаць тры гады таму купка крыкуноў-дарослых сабралася, каб пасумаваць па былой велічы. І неістотна, як яны сябе называлі: арыстакратамі або дэгенэратамі, фашыстамі або дэмакратамі. Але фашызм — гэта яшчэ і неабходнасьць заўсёды быць «разумнымі хлопчыкамі». У абмен на прыгожую чорную форму. На якой можа быць усё, што заўгодна. Калі яны ня бачылі нічога іншага, як ім можа прыйсьці ў галаву, што нешта ня так?

...Васямнаццаць гадоў ужо мінула. Пайшоў дзевятнаццаты. Гэтае пакаленьне пакрысе вырасла, і яно давядзе табе ўсё, што захоча. Яно мае такую раскошу — жыць пры дыктатуры і не заўважаць яе. Вывучаць ідэалёгію і ня мець ніякай. У нейкім сэнсе яно нават вальнейшае — бо нішто так не замінае ў рухах, учынках і словах, як прысутнасьць свабоды.

# Выкрыць і абясшкодзіць

*24 сакавіка 1882 Робэрт Кох адкрывае бактэрыю сухотаў*

Вось пра што можа задумацца звычайны чалавек, перад якім раптам ва ўсёй сваёй аголенасьці, нявіннасьці і пекнаце адбываецца «Нараджэньне Вэнэры» Батычэлі? Здаецца, моцна думаць тут наогул не давядзецца, мазгі адключаюцца — пасьпець бы налюбавацца. І нарадавацца: за Вэнэру, да якой можна вось проста так хадзіць у адведкі, за тое, што яна нарадзілася адразу такой, з усімі належнымі Вэнэры вабнотамі, прамінуўшы стадыю гаршка і соскі; за Батычэлі, шэдэўр якога добра захаваўся, бо ў ягоны рэцэпт уваходзіў яечны жаўток; ды за сябе, грэшнага, які можа ў момант сумненьняў паглядзець на гэтую карціну і пераканацца, што прыгажосьць яшчэ плавае ля нашых берагоў і тануць не зьбіраецца.

Але гэта звычайны чалавек — дылетант і прафан, які нічога не разумее ў мастацтве. Асоба, якая глядзіць на карціну поглядам спэцыяліста, адразу заўважыць, што левае плячо ў Вэнэры апушчанае занадта нізка, а гэта, як вядома, дае падставы меркаваць пра наяўнасьць тубэркулёзу ў плечавым поясе. Асоба сапраўды неабыякавая да жывапісу палезе ў архівы і даведаецца, што жыхарка Флярэнцыі Сыманэта Катанэа, у замустве Вэспучы, сваячка таго самага Вэспучы, які скраў у Калюмба Амэрыку, менавіта тая жанчына, зь якой Батычэлі пісаў Вэнэру, памерла ад сухотаў ва ўзросьце дваццаці двух гадоў. Зрабіўшы гэты мастацтвазнаўчы аналіз, асоба задаволена гмыкне і страціць да карціны ўсялякі інтарэс. Бо дыягназ пастаўлены. Што і патрабавалася даказаць. Кропка.



У часы Батычэлі людзі мерлі ад сухотаў, як мухі. Сухотная палачка, якой было ўсё адно, Вэнэра перад ім або Лярнейская Гідра, касіла ўсіх без разбору, як Ясь канюшыну — карыстаючыся сваёй няўлоўнасьцю. Сухотная бактэрыя — рэч ня простая: калі звычайным мікробам трэба ўсяго паўгадзіны, каб пачаць дзяліцца, то цыкл дзяленьня сухотнай мікабактэрыі складае амаль суткі, таму чакаць вынікаў кожнага дасьледаваньня трэба тыдні і нават месяцы. Апрача таго палачка Коха мае абарону ў выглядзе тоўстага пласта тлушчаў і воску і таму не рэагуе ні на сьпірт, ні на шчолак, ні на кіслату, ні на малітвы, ні на хабар, ні на пагрозы — нездарма ніхто ня мог яе выдзеліць і ўтаймаваць.

І толькі ў дзевятнаццатым стагодзьдзі, роўна праз чатырыста гадоў пасьля таго, як Батычэлі пачаў пісаць «Вэнэру», знайшоўся чалавек, які выкрыў яе і прыціснуў да пазногця. 24 сакавіка 1882 году на паседжаньні Бэрлінскага фізіялягічнага таварыства нямецкі навуковец доктар Робэрт Кох выступае са спавешчаньнем на тэму «Этыялёгія сухотаў», якое робіць яго знакамітым на ўвесь сьвет. Адначасова з гэтым трыюмфам Коха ананімная палачка перажывае самае вялікае ў сваёй творчай біяграфіі прыніжэньне: ёй даюць імя яе пераможцы.

Да гэтага навуковага подзьвігу доктар прыйшоў не адразу. Ён абклаўся мышамі, якія тысячамі гінулі на ягоных руках; кожную раніцу, як на працу, ён хадзіў у шпіталь Шарытэ, што знаходзіўся недалёка, і рупліва зьбіраў там макроту і кроў, выплюнутую бэрлінскімі сухотнікамі, каб да сьвітанку фарбаваць іх, як натхнёны мастак, і шукаць загадкавага ўзбуджальніка.

У прынцыпе, тым, што ён зрабіў, можна любавацца, не раўнуючы карцінай. На якую пайшло столькі крыві і макротаў і мышыных жыцьцяў, што міжволі закашляешся і задумаешся над сэнсам быцьця.

# За нашу і вашу

*25 сакавіка — Дзень Волі*

Насамрэч, было б файна, калі б 25 сакавіка са сьвята чыста палітычнага сапраўды ператварылася ў такі сабе беларускі Дзень сьвятога Патрыка. Дзень, калі беларусы ўсяго сьвету яднаюцца, п'юць, жаруць, пяюць, танцуюць, гуляюць, як бедна басота, б'юць вітрыны, падпальваюць аўтамашыны, ломяць агароджы, грамяць пастарункі... не, без чатырох апошніх пунктаў можна і абысьціся (дастаткова будзе зламаць пару стэрэатыпаў) — і іх, беларусаў, чуваць і відаць паўсюль, і кожны ім рады.

Так, сёньняшні дзень у календары, як вядома, чырвоны — а дакладней, бел-чырвона-белы. Можа, камусьці і хацелася б, каб ён быў іншых колераў, але позна. Кім бы ні былі заснавальнікі БНР — рамантыкамі, авантурыстамі або проста звычайнымі людзьмі ў нязвычнай для сябе ролі палітыкаў — накірунак яны абралі правільны і прыгожы. Іхная Вялікая Спроба сталася



прэцэдэнтам, адмахнуцца ад якога не маглі ўжо ні бальшавікі, ні кайзэр, ні Польшча, ні іншыя зьвяры гэтага Лесу. У тым, што ты нарадзіўся ў БССР, а не ў якой-небудзь аўтаномнай вобласьці РСФСР, іхная заслуга. І ня іх віна, што не ў БНР.

Больш за тое, сёньня — самы бел-чырвона-белы дзень году, бо ні Дзень канстытуцыі, ні Дзень машынабудаўнікоў, ні Дзень незалежнасьці, ня кажучы ўжо пра дзень незалежнасьці ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і марсіянскіх акупантаў, ня могуць цягацца з Днём Волі — пры ўсёй павазе да трактаразаводцаў і марсіянаў. Канкураваць з Днём Волі можа толькі асабісты дзень нараджэньня, дый тое адно ў тым выпадку, калі ён прыпадае на сёньняшнюю дату. Застаецца толькі павіншаваць усіх Воляў і ўсіх беларусаў, дзе б яны ні былі, а таксама тых, хто нам спачувае, хто нас падтрымлівае, хто пра нас піша, вучыць нашую мову, перакладае зь яе, тых, хто не маўчыць, хто кажа пра нас з высокіх трыбунаў, за сталамі кавярняў, на плошчах, на кухнях і ў інтэрвію, хто беспасьпяхова намагаецца нас зразумець — карацей, усіх, хто хаця б трошачкі беларус у душы.

Сёньня самы час павіншаваць і тых, хто нас ненавідзіць, не прызнае, пагарджае намі і нас баіцца, тых, для каго мы нацысты, вылюдкі, паліцаі, маргіналы, змагары, сьвідаміты, пятая калёна, ідэалісты, якіх не падтрымаў народ, русафобы, жыдамасоны, меншасьць, вар'яты, дэструктыўныя элемэнты і наіўныя летуценьнікі. Віншую! Як бы вам ні хацелася, мы ёсьць і зьнікаць нікуды не зьбіраемся. Больш за тое — вы ўжо нам прайгралі. І даўно: яшчэ 25 сакавіка 1918 году. І ня ведаю, як астатнім, а мне вас шкада.

# Мозэльская мара

***26 сакавіка 1995 пачало дзейнічаць Шэнгенскае пагадненьне***

У 1871 годзе праз гэтую вёску ў Люксэмбургу праяжджаў сам Віктар Гюго, які незадоўга перад тым вярнуўся ў Францыю з свайго выгнаньня. Мэтр пашпацыраваў па ваколіцах, моўчкі агледзеў тутэйшы замак і ад няма чаго рабіць намаляваў яго. Малюнак ён хацеў выкінуць, але шэнгенцы ўгаварылі яго захаваць паперку — раптам прыдасца.

Больш чым на стагодзьдзе гэта зрабілася адзінай значнай гістарычнай падзеяй, якая тут адбылася і якой жыхары вёскі вельмі ганарыліся. Пакуль у васьмідзясятых гадах ня здарылася нешта, што трохі пазьней прымусіць усю Ўсходнюю Эўропу вымаўляць назву люксэмбурскай вёсачкі зь любоўным прыдыханьнем і шчырым эратычным стогнам. Бо вёскі на сьвеце бываюць розныя. Адна, напрыклад, завецца Наябарскае, да 1959 году — Гнойнікі, а другая мае назву Шэнгенка, да 1995 году — Schengen, і гаворка цяпер ідзе акурат пра другую.




Такім чынам, у 1985 годзе на прыгожым караблі, што паволі праплываў міма вёскі Шэнген па Мозэлі, было падпісанае папярэдняе Шэнгенскае пагадненьне, а ў 1990 тут жа — Шэнгенская канвэнцыя. Была створаная прастора, якую яшчэ нядаўна цяжка было сабе ўявіць: Шэнгенская зона, куды ўвайшлі Бэльгія, Люксэмбург, Нідэрлянды, Францыя і Нямеччына. Такога, каб можна было эўрапейскаму чалавеку спакойна блукаць сабе і не пераймацца наконт візы і замежнага пашпарта, не было ў прымозэльскіх лясах з часоў старажытных германцаў. І вось, на табе — у межах новастворанай Шэнгенскай зоны плянавалася цалкам адмяніць рэгулярны пашпартны кантроль для грамадзян пяці дзяржаваў-удзельніц. Праўда, мінула яшчэ пяць гадоў, перш чым канвэнцыя запрацавала — але ўрэшце здарылася і гэта: 26 сакавіка 1995 году канвэнцыя нарэшце ўступіла ў дзеяньне для сямі краін (на той момант да краінаў Бэнілюксу, а таксама Францыі і Нямеччыны далучыліся Гішпанія і Партугалія). Вось хто сапраўды паслаў візы і граніцы к д'яблу і сказаў людзям, што, маўляў, вашы тут гоні, бары, а не працаўнікоў памежнай службы зь іхнымі сабакамі, кукардамі і штэмпэлямі...

Дажыць бы да такога і на родных гонях.

# Сабака стагодзьдзя

*27 сакавіка 1966 сабака Піклз у Лёндане знайшоў скрадзены Кубак сьвету па футболе*

27 сакавіка 1966 году, лёнданец Дэвід Корбэт пайшоў у кіёск праз дарогу патэлефанаваць і ўзяў з сабой сабаку Піклза, каб той па дарозе зрабіў усе свае вялікія і малыя справы.

Малую справу Піклз зрабіў адразу ж, на суседзкі ровар, а для вялікай, сапраўды вельмі вялікай справы заставалася ўсяго некалькі хвілін. Вось яны рыхтуюцца перайсьці вуліцу, вось Піклз цягне гаспадара да прыпаркаванай каля ходніку машыны. Вось гаспадар бачыць, што проста побач зь пярэднімі коламі ляжыць скрутак, на які Піклз пачаў звонка і гучна брахаць, нібы намякаючы, што ні ў які кіёск сёньня яны ня пойдуць. Містэр Корбэт разгортвае скрутак і бачыць там не каўбасу і не сасіскі, і не адрэзанае вуха, і не парнаграфічныя фотаздымкі, а Кубак сьвету па футболе, скрадзены тыдзень таму ў Вэстмінстэр-Голе, за тры месяцы да пачатку чэмпіянату сьвету, які, як вядома, меўся прайсьці ў Лёндане.

Так чорна-белы дварняк Піклз зрабіўся сабакам стагодзьдзя. Праўда, яму давялося зрабіць яшчэ адну вялікую справу: выратаваць з пастарунку свайго гаспадара, які ў той самы дзень прынёс знаходку ў паліцыю і быў адразу ж арыштаваны — усю ноч яму сьвяцілі лямпай у вочы і патрабавалі прызнаньня. І толькі слава Піклза не дала пратрымаць містэра Корбэта ў камэры даўжэй за тыдзень. Але ні паліцыя, ні Піклз, ні містэр Корбэт ня ведалі, што ў роспачы Ангельская футбольная асацыяцыя ўжо замовіла ювэлірам дакладную копію скрадзенага кубка, што трымалася ў строгім сакрэце. Як ня ведалі яны і таго, што ў Кубка сьвету лёс быў такі — у 1983 годзе яго зноў скралі, і гэтым разам не знайшлося сабакі, які, робячы на дарозе малыя справы, быў бы здольны і на вялікую. Сам Піклз, атрымаўшы шэсьць тысяч фунтаў стэрлінгаў, бочку корму і зьняўшыся ў некалькіх фільмах, на наступны год загінуў у пагоні за коткай. І толькі містэр Корбэт кожныя дзесяць гадоў вымушаны зноў і зноў распавядаць журналістам, як ён пайшоў у кіёск праз дарогу патэлефанаваць і ўзяў з сабой сабаку Піклза, каб той па дарозе зрабіў усе свае вялікія і малыя справы, і...



# Чалавек да канца

*28 сакавіка 1994 памёр Эжэн Ёнэско*

«Адзін супраць усіх! Мне ніколі не зрабіцца насарогам! Я буду абараняцца, абараняцца! Я апошні чалавек, і я застануся чалавекам да канца! Я ня здамся!»

І ня здаўся ж. Хаця насарогі ўжо зазіралі ў вокны.

28 сакавіка 1994 у Парыжы памёр Эжэн Ёнэско, бацька абсурдызму. Ня хросны — а, так бы мовіць, біялягічны. Хаця самому Ёнэско зь ягоным адчуваньнем мовы тэрмін «тэатар абсурду» ніколі не падабаўся. Вызначэньне «тэатар насьмешкі», казаў Ёнэско, мружачыся, як кот, значна лепш перадае сутнасьць тэатру, які ствараюць ён і ягоныя аднадумцы. Тэатру, дзе няма пэрсанажаў камічных, і трагічных таксама няма, але ёсьць передусім пэрсанажы сьмешныя. «У іх няма ніякіх каранёў — ні мэтафізычных, ні трансцэндэнтальных, яны — паяцы, пазбаўленыя псыхалёгіі...»

На крэслах Ёнэско павесіўся Станіслаўскі. А ён дзе папала ня вешаўся. Толькі ў сапраўдным тэатры, які, як вядома, заўжды пачынаецца з шыбеніцы.



Бацькам абсурду Ёнэско таксама сябе не лічыў, саступаючы гэтую пачэсную ролю не каму-небудзь, а Шэксьпіру. Напрыклад, Шэксьпіру — бо, згодна зь Ёнэско, кожны клясычны тэатральны твор можна прачытаць як абсурдысцкі. Трэба проста трошкі пацерці пазалоту... І ўсе гэтыя непатрэбныя, штучныя пласты адваляцца самі сабой. Застанецца абсурд — ці, пардон, насьмешка.

Непатрэбным тэатар Ёнэско абвясьціў наступныя рэчы. Перадусім, усё немастацкае, тое, без чаго тэатар спакойна можа абысьціся. Скажам, грамадзка-палітычны патас. А яшчэ рэалізм, натуралізм, фізіялягізм, прычыннасьць, літаратурны тэкст і пануючую ролю дыялёгу. Вось як шмат лішняга было ў тэатры, кажа доктар, дэманструючы пацыенту нешта сьлізкае і крывавае, загорнутае ў марлю. Але цяпер усё будзе інакш. А гэта вам — на памяць.

Яно і праўда, неўзабаве пайшло інакш. Тэатар пасьля Ёнэско і ягоных лысых сьпеваў ужо ня змог заставацца такім, як раней, і, у пэўнай меры, гэта Ёнэско мы абавязаныя ўсімі гэтымі жудаснымі «інтэртрапацыямі» клясыкі — але і Ёнэско, дарма што прасоўваў у масы ідэю тэатру насьмешкі, таксама вельмі хутка зьмяніўся. Як гэта здараецца амаль заўжды, рана ці позна, нават самага авангардысцкага аўтара ўрэшце прыбівае да берагоў яснага сэнсу. Ягоныя пазьнейшыя рэчы выразна антытаталітарныя — а значыць, ужо не настолькі абсурдныя. «Перад намі адбываецца адчужэньне чалавека ад ягонай функцыі. Ніколі адчужэньне не было такое моцнае, як цяпер, асабліва ў с а ц ы я л і с т ы ч н ы х краінах, якія трубяць пра пераадоленьне адчужэньня», — кажа Эжэн Насарогавіч у адным сваім позьнім інтэрвію, якое выглядае як лекцыя. — «Чалавек растварыўся ў сваёй функцыі, яго больш няма. Грамадзкая машына зжэрла яго, яна — гэта грамадзтва, што ператварылася ў пачвару, у людажэра».

Ну, і дзе тут абсурд?

# Пра добрае і выдатнае

*29 сакавіка 1936 Купала атрымлівае прэмію конкурсу на найлепшую савецкую песьню*

У 1935 годзе газэта «Праўда», тая самая, у якой, як вядома, не было «ізьвесьцій» (а ў «Ізьвесьціях», адпаведна, не было праўды), вырашыла правесьці свой савецкі гіт-парад — конкурс на найлепшую песьню.

Дапамагчы вызначыць, чыя песьня «аб жызьні вясёлай» сёлета лепш за ўсё дапамагае жыць і будаваць і з чыёй «нікагда і нідзе не прападзёш», рэдакцыя «Праўды» запрасіла прафэсіяналаў: Саюз кампазытараў і Саюз пісьменьнікаў. Ну, а самы творчы з усіх творчых саюзаў, які займаўся адразу і музыкай, і літаратурай, і жывапісам, а заадно ратацыяй музыкаў, літаратараў і мастакоў, каб не занадта пладзіліся, гэтым разам выступіў у ролі слухача. Уважлівага такога, сур'ёзнага, пільнага...

Сачыў за конкурсам і Галоўны Слухач. Пра якога любяць казаць, што ён быў апошні кіраўнік СССР, абазнаны ў музыцы. Па-першае, таму што ў дзяцінстве сьпяваў у царкоўным хоры, а па-другое, таму што прымаў музыку надта ўжо блізка да сэрца. Так блізка, што пісаць яе было рызыкоўна: а раптам схопіць? Бо што такое, таварышы, пэсьня? Яна, таварышы, бывае выдатная і добрая. Менавіта такім чынам былі пазначаныя ўсе кружэлкі на сталінскай дачы. Вось так, выдатная і добрая, а не які-небудзь там Шастаковіч, які, дарма што пяціразовы сталінскі ляўрэат, а часам «адмаўляе прастату, рэалізм, зразумеласьць вобразу, натуральнае гучаньне...», карацей, суцэльны «лявацкі сумбур замест прыроднай чалавечай музыкі», якая «прыносіцца ў ахвяру дробнабуржуазным фармалістычным патугам». На такой кружэлцы не напішаш: выдатная або добрая. На такой толькі мацернае слова напісаць можна. А наогул, самая лепшая песьня, любімая песьня Галоўнага Слухача — «Волская бурлацкая», да якой кампазытару Аляксандраву нават было загадана прырабіць якую-небудзь прыгожую канцоўку. Яна ў конкурсе ня ўдзельнічала, бо народная, а ў геніяльнасьці народнай і так ніхто не сумняваецца.



Але ўсё гэта: Шастаковіч, Аляксандраў, сумбур — будзе потым. А пакуль што 29 сакавіка 1936 году «Праўда» публікуе вынікі свайго амаль дзевяцімесячнага конкурсу. Народную песьню не пераплюнуў ніхто — і першую прэмію вырашылі не прысуджаць. А вось другую за тэксты аддаць двум аўтарам: М. Галоднаму за песьню пра чалавека, які ішоў на Адэсу, а выйшаў чамусьці да Хэрсону, і Я. Купалу за «Матка сына праважала».

Можна толькі спадзявацца, што сын той да Хэрсону ня выйшаў, ён жа быў усё-ткі не адзін, а з маці, якая, магчыма, лепш за яго арыентавалася ў геаграфіі. Гэтую загадкавую песьню «Матка сына праважала» я, да свайго сораму, ніколі ня чуў, але мяркую, што яна або выдатная, або добрая. Хаця хутчэй добрая, чым выдатная, інакш наўрад ці была б адзначаная другой, а ня першай прэміяй. Кепскай яна, як вядома, апрыёры быць ня можа, бо яе стварыў Купала, а гэта ўжо 99 адсоткаў посьпеху для любога мастацкага твора, нават для яйка-пісанкі. У наш час гэтую песьню беларусы чамусьці стараюцца не сьпяваць прылюдна — усё больш па закутках, па кухнях. Берагуць, напэўна, для Славянскага базару-2050. Які адрозьніваецца ад конкурсу газэты «Праўда» 1936 году тым, што... А чым ён, уласна кажучы, адрозьніваецца?.. Ёсьць над чым задумацца.

Так, гэтую песьню на вуліцах не пачуеш, але 1936 год у купалаўскай творчасьці і безь яе уявіць сабе можна даволі няблага. Запомніўся ён збольшага іншай Купалавай песьняй: «Песьняй будаўніцтву».

Вось гэта музыка. Ня тое што нейкія там партызан Жэлязьняк і фармаліст Шастаковіч. Выдатная песьня. А можа, і добрая. Галоўнае, што Яму спадабалася.

# Ці панк, ці прапаў

***30 сакавіка 1976 адбыўся першы канцэрт «Сэкс Пісталз» у клюбе 100***

Дэградацыя... 30 сакавіка 1976, калі яшчэ не было ніякіх іракезаў, чацьвёра беспрацоўных маладзёнаў, якія чамусьці вырашылі, што ўмеюць граць на музычных інструмэнтах, упершыню выступаюць у знакамітым лёнданскім клюбе «100». І гэта былі сапраўды ўжо ня bullocks, у сэнсе — ня жартачкі. Гэта былі Sex Pistols.

Жахлівая прыгажосьць у сваім канцавым пункце, Арцюр Рэмбо, даведзены да абсурду... Вось што адбылося ў той вечар у 100'х. Ацанілі гэтую падзею не адразу — а між тым, выбухнула маленькая музычная рэвалюцыя. Ці вялікае махлярства — The Great Rock 'n' Roll Swindle? На сцэну, дзе выступалі некалі клясыкі сусьветнага джазу, дзе гралі Animals, The Who, The Kinks, дзе пачыналі Rolling Stones, вылезьлі брудныя, ваяўнічыя дылетанты бяз слыху і музычных здольнасьцяў. Пілярама з чатырма галовамі. Хаця зь пілярамай некалі параўноўвалі і Джэніс Джоплін, так што слова тут недарэчы. Лепш так: бензапіла «Дружба». Бо на сяброўстве там сапраўды шмат што трымалася.

Дагэтуль яны давалі канцэрты пераважна ў актавых залях розных каледжаў, для чулай і рамантычнай пэтэвэшнай публікі, якая паўсюль аднолькавая: што ў Лёндане, што на Аўтазе. У новай банды гэта атрымлівалася не бяз посьпеху, да таго ж у



іх быў добры прадусар на імя Макларэн — чалавек, якога вабіла ўсё новае, вар'яцкае і вычварэнскае. Пра гурт неўзабаве загаварылі, расьпісваючы іх як піянэраў новага стылю. Хаця ад пачатку хлопчыкі ні пра што такое ня марылі: «касілі» сабе паціху пад зорак, гвалтуючы крадзеныя гітару і барабаны...

Але стыль склаўся сам сабой. Сутнасьць панку заўжды была ў тым, што чым горай, тым лепей — а гэта ў Sex Pistols атрымлівалася вельмі няблага. Ніколі яшчэ прынцып «граць трэба гучна і проста» не ўспрымаўся гомам сапіенсам з такой літаральнасьцю. Нават такім прадстаўніком гэтага роду, як «дзядуля панку» Ігі Поп, які ў параўнаньні са сваімі лёнданскімі нашчадкамі выглядаў Бэтговэнам. Сьпеў мусіў быць адпаведны: вакаліст гурту Джоні Ротэн, інтэлектуал, які ўдаваў зь сябе гопніка, вельмі любіў Някрасава, асабліва вершык пра тое, што «гэты стогн у іх песьняй завецца». Калі ён год перад тым прыйшоў на праслухоўваньні, зялёнавалосы і з надпісам «Ненавіджу Пінк Флойд» на футболцы, дык ня змог трапіць ні ў адну ноту. «Гэта тое, што трэба», сказаў Макларэн і Джоні быў узяты. А самым бяскрыўдным у новым гурце быў басіст Глен Мэтлак, якога неўзабаве выгналі за тое, што ён любіў Бітлз.

Панк як музыка пачаў паміраць у той самы дзень, калі толькі зьявіўся. Ён паміраў імкліва, як ад перадазіроўкі — і на некалькі гадоў адрадзіўшыся ў СССР ды іншых краінах сацлягеру (у выглядзе такога сабе «панка Тадэвуша»), канчаткова сканаў. Не лічыць жа панкам усіх гэтых цяперашніх прафэсіяналаў зь іхнымі інструмэнтамі за $10000, фрызурамі з модных салёнаў прыгажосьці, шпількамі з спэцыялізаваных крамаў, тэкстамі, якія можна ўключаць у любую паэтычную анталёгію, і музычнай адукацыяй, якая напісаная ў іх на паголеных ілбах. Панк як лад жыцьця бяз музыкі ня мае сэнсу — бо тады ён ператвараецца ў звычайнае тупое самаруйнаваньне. З усіх удзельнікаў Sex Pistols маладым загінуў толькі Сід Вішэс, які акурат такімі рэчамі і займаўся. Астатнія ператварыліся ў сапраўдных музыкаў і часам зьбіраюцца, каб прыгадаць мінулыя вясёлыя часы і падзарабіць крыху. А панк — ды ну, панк застаўся там, на сцэне клюбу «100», дзе яны апынуліся сакавіцкім вечарам 1976-га, дурныя, п'яныя, каб прыглушыць страх, і такія новыя, што ім самім займала дух.

# Горад дагары тварам

***31 сакавіка 1889 адкрыцьцё Эфэлевай вежы ў Парыжы***

Горад мусіць мець пазнавальны абрыс — асаблівыя прыкметы, паводле якіх яго ня зблытаеш ні зь якім іншым: ні ў кнізе, ні ў небе, ні ў п’яным чадзе. Бародаўку там на паўтвару, пірацкую павязку на правым воку, кальцо ў носе... Парыж такое кальцо мае ўжо больш за сто дваццаць гадоў — і ўсе шчаслівыя. Прынамсі, ні з Ўагадугу, ні з Дрычынам яго дакладна ня зблытаеш. 31 сакавіка 1889 году ў Парыжы было скончанае будаўніцтва Эфэлевай вежы — трохсотмэтровага жалезнага монстра, узьведзенага да Сусьветнай выставы. Монстра, якога ўсе палюбілі так, як толькі можна любіць гіганцкую часнычніцу, што абзавялася душой.

Вежу плянавалі праз дваццаць гадоў разабраць і вывезьці ў невядомым кірунку, каб і духу яе не засталося — але так і не наважыліся. Гэта ў Менску Нацыянальную бібліятэку можна дражніць чупа-чупсам толькі за яе сьпінай — а дзецішча Гюстава Эфэля з самага свайго нараджэньня выклікала такую публічную крытыку, якая нашаму ромбакубаактаэдру і ня сьнілася. Распавядаюць, што Мапасан, адзін з самых перакананых ворагаў вежы, прызвычаіўся абедаць у рэстарацыі на яе першым паверсе і на пытаньні, як ён, надзея антыэфэлеўскай апазыцыі, ня давіцца, спакойна адказваў, што гэта адзінае месца ў Парыжы, адкуль вежу не відаць. У Менску месцаў, адкуль не відаць Нацыяналку, хапае — можа, таму я там ніколі яшчэ не бываў.



Калісьці давялося быць знаёмым з адным менчуком, марай жыцьця якога было плюнуць з Эфэлевай вежы. Ён патраціў усе свае ашчаднасьці на тое, каб дабрацца да Парыжу. Дабраўся, прыехаў на Марсава поле, сеў у ліфт. Плюнуў. Сьліна ляцела доўга, неўзабаве ён страціў яе з поля зроку. Мара зьдзейсьнілася. Ён вярнуўся ў Менск, сьпіўся і памёр. Гэтая вежа гіпнатызуе — на ёй заўжды хочацца зрабіць штосьці гэткае. Пацалавацца — самая нявінная з ідэй, што прыходзяць у галаву людзям, якія ўздымаюцца на яе вершаліну. Побач з воблака ім усьміхаецца Эфэль — ён ведаў, што ўсё будзе менавіта так. І адмыслова спраектаваў вежу такім чынам, каб яе вершаліна нават пры моцным ветры адхілялася ад восі толькі на 15 сантымэтраў.

Дзе каханьне, там і сьмерць — адзін з тых матэрыялаў, на якіх стаіць гэтая славутасьць. Кінуцца ўніз зь яе — трэці паводле папулярнасьці ў Францыі спосаб самагубства. Вось пра гэта Айфэль нейк не падумаў. Затое ён падумаў пра іншых удзельнікаў праекту: на вежы выгравіраваныя імёны сямідзесяці двух вучоных і інжынэраў, якія бралі ўдзел у праектаваньні і пабудове — людзей, дзякуючы якім яна тут стаіць. Да іх няблага было б дадаць яшчэ адно імя — фон Гольтыц: так звалі нямецкага генэрала, камэнданта Парыжу, якому Гітлер у 1944 загадаў узарваць вежу. Той не паслухаўся. Іншыя прайдзісьветы спрабавалі прадаць вежу на мэталалом — і ў іх нічога не атрымалася. Вежа нібыта ўрасла ў Парыж, зачапілася за яго каранямі, і вырваць яе цяпер — значыць пазбавіць Парыж твару.

Цікава, што магло б сфармаваць пазнавальны абрыс Менску? Вось што, калі яго вырваць, пазбавіць Менск твару? Ці здыме зь яго маску? Ці ўсё ўжо даўно сарвана і вырвана — а тое, што засталося, ня больш чым касмэтыка, пад якой адна пустата? Пустата, якая дзьме ў дом-«Ветразь»... Магчыма, мы проста не адтуль глядзім, ракурс ня той. Дый «цэрквы ў нас замячацельныя», як казаў эпізадычны герой аднаго раману.

## Уцёкі ў рай

***1 красавіка 1891 Гаген адплывае на Таіці***

На Таіці! Туды, дзе цьвіце гардэнія, ад якой так прыемна круціцца галава, туды, дзе каралавыя рыфы і стракатыя птушкі, дзе ні мужчыны, ні жанчыны не саромеюцца сваіх целаў, туды, куды яшчэ не дабралася гэтая пошасьць, якую называюць так напышліва: цы-ві-лі-за-цы-я. Дзе грошы яшчэ не вырашаюць усё, дзе сутаны ды сурдуты яшчэ ня вымелі зь людзей рэшткі годнасьці і волі, дзе чалавек яшчэ жыве на цёмнай далоні маці-прыроды... На Таіці!

1 красавіка 1891 году францускі мастак Поль Гаген, маючы ў кішэні трохі грошай і выдадзены яму ў дэпартамэнце народнай асьветы і прыгожых мастацтваў дакумэнт, які пацьвярджаў, што прад'яўнік яго едзе ня проста так, а з культурнай місіяй, узыходзіць у Марсэлі на борт параходу «Акіянія» — каб выправіцца да сваіх любімых таіцянцаў і назаўжды забыць пра ўчадзелы і атручаны мясам залатога цяляці Захад.



Ён прыедзе ў Папээтэ ажно 10 чэрвеня — і неўзабаве расчаруецца настолькі, што пераселіцца далей ад эўрапейскай калёніі, будзе есьці толькі какосы і рыбу, пасівее і схуднее, а на высьпе пойдзе пагалоска, што гэты француз — ён трохі маа-маа, то бок не ў сабе. Эўрапейцы, якіх служба і «цяжар белага чалавека» закінулі ў гэты куточак Ціхага акіяну, таксама будуць стукаць пальцам па сваіх загарэлых ілбах, пабачыўшы дзіўную, схуднелую постаць Гагена і ягоныя сівыя дзікунскія пасмы, што ўжо самі па сабе кампрамэтавалі высокую цывілізатарскую місію, зь якой сюды прыяжджалі суайчыньнікі мастака. Яму спрабавалі замаўляць партрэты — але кожны, хто бачыў карціны Гагена, зразумее, што наўрад ці чалавек, які ЗАМАЎЛЯЕ ПАРТРЭТЫ, застаўся б задаволены імі ў Гагенавым выкананьні. Хто-хто, а ён — гэта ня той выпадак, калі мастака можна паэксплюатаваць у якасьці фотакамэры. Цікава, што б яны сказалі, калі б атрымалі сваю замову ў выкананьні Пікаса...

На два гады Гаген вернецца ў Францыю, у тую самую Эўропу, дзе яго, дарэчы, таксама лічылі маа-маа: бо некалі ён ахвяраваў дзеля мастацтва сваёй сям'ёй: кінуў у Даніі сваю бледнатварую жонку, па-таіцянску «вахіну», забыў дзяцей, каб цалкам прысьвяціць сябе жывапісу. А потым зноў выправіцца ў Францускую Палінэзію, ажэніцца з таіцянкаю, напіша ўсе свае самыя лепшыя працы, у якіх столькі сьвятла і цеплыні, што каля іх можна грэцца доўгімі зімовымі вечарамі. А яшчэ ў іх ёсьць нейкая трывога — трывога і адзінота. Ён памрэ на малой высьпе, нікому не вядомы, безь ашчаднасьцяў, пэнсіі і страхоўкі, сярод папугаяў і пальмаў, у шчасьлівым атачэньні людзей, якія падаваліся яму самымі прыгожымі на сьвеце.

# Кнігі зь пекла

*2 красавіка 1790 маркіза дэ Сада выпускаюць з псыхіятрычнай лячэбніцы*

Тысяча сямсот дзевяносты год. У Францыі віруе і паруе, курэе і паціху карае каралеўскіх недабіткаў рэвалюцыя. 15 сакавіка дэкрэтам рэвалюцыйнага ўраду адмяняюцца фэадальныя павіннасьці і спадчыннае права, а 2 красавіка з турмаў адпушчаныя ўсе, хто быў зьняволены старым рэжымам без суду і сьледзтва. «Марсэльеза» яшчэ не напісаная, і нават «Са іра!» на вуліцах яшчэ не пяюць. Затое ў выглядзе рукапісаў ужо існуюць «120 дзён Садому» ды іншыя сумнеўныя кнігі, якія пакуль што яшчэ ніхто не называе літаратурай... Разам з стракатым натоўпам на волі ў гэты красавіцкі дзень апынаецца і іхны аўтар, пісьменьнік Данасьен Альфонс Франсуа дэ Сад — ці то маркіз, ці то граф, але «маркіз» гучыць неяк эратычней. Той самы маркіз, якога нашчадкі пасьля сьмерці (вось дзе сапраўдныя вычварэнцы) ажэняць зь бедным львавянінам Мазохам. Вэнэра і Жустына сустрэнуцца ў адным меху, і ніхто ня выйдзе зь яго жывым. На пацеху шаноўнай публіцы зь яе семкамі — сучасным аналягам шпанскай мушкі.



У тым насычаным жарсьцямі красавіку 1790-га дэ Сада трымалі ў псыхіятрычнай лячэбніцы Шарантон-Сэн-Марыс — якая ў сапраўднасьці была звычайнай турмой пры манастыры: чымсьці гэта нагадвае савецкія часы, калі іншадумцаў спрабавалі вылечыць ад іншадумства нэўралептыкамі. Маркіза перавялі туды з Бастыліі: адчуваючы, як сытуацыя ў горадзе ўсё больш выходзіць з-пад кантролю, ён крычаў мінакам з вокнаў знакамітага астрогу пра тое, што, маўляў, каралеўскія ка́ты зьбіраюцца іх усіх тут перабіць, і таму, дарагія парыжане, ці не маглі б вы там трохі паварушыцца? Празь некалькі дзён Бастылію возьмуць штурмам, але дэ Сад будзе ўжо ў Шарантоне і ў самы ўрачысты момант у гісторыі пэнітэнцыярнай сыстэмы ніхто не абдыме яго са сьлязьмі, ніхто не начэпіць яму на сурдут чырвоную стужачку і не сфатаграфуецца зь ім на фоне турэмных руінаў. Хаця ў палітвязьні яго на нейкі час запішуць, і ён нават зробіцца рэвалюцыянэрам... Будзе засядаць у камісіях як грамадзянін Сад... Галасаваць... Прымаць рэзалюцыі... Цяжка ўявіць сабе дэ Сада за гэтым заняткам. Хаця праславутая «лібэртэ» ў вядомым лёзунгу даволі лёгка замяняецца на «лібэртынаж». Магчыма, маркіз знаходзіў адмысловую асалоду і ў рэвалюцыйнай бюракратыі. Зьбіраюцца ж людзі дагэтуль на партыйныя зьезды, па дваццаць чатыры гадзіны сядзяць у душных ДК, давяцца распушчальнай кавай, падымаюць членскія білеты і слухаюць стогны дакладчыкаў. І нічога, выходзяць адтуль задаволеныя.

Ніякім палітвязьнем маркіз, вядома ж, ня быў. І нават доўгія гады, праведзеныя ў Вэнсане, Бастыліі, Шарантоне і іншых турмах, па якіх ён мог бы вадзіць экскурсіі, былі не галоўным у ягоным жыцьці зьняволеньнем. Ён быў вязьнем самога сябе. Пасаджаны, як і кожны чалавек, у адзіночную камэру сваіх патаемных жаданьняў, за кратамі табу і двайной маралі, ён, у адрозьненьне ад большасьці, не ішоў ні на якія перамовы з, так бы мовіць, турэмнай адміністрацыяй. Не

спрабаваў «скасьціць» сабе тэрмін, прызначаны яму грамадзтвам. Спрабаваў быць вольным — з папраўкай на час, гэта значыла: вольным за кошт іншых. І без папраўкі таксама. Час даказаў рацыю Сада: нягледзячы на ўсе рэвалюцыі, людзі заўжды будуць дзяліцца на тых, хто пануе, і тых, хто падпарадкоўваецца. Кім бы яны сябе ні называлі.

«Калі б у бібліятэках было сваё Пекла, кнігі маркіза акурат для яго...» Марыс Бляншо, адзін з тых, хто праз паўтара стагодзьдзя разгледзеў у легендарным псыхапаце і пэрвэрце не абы-якога пісьменьніка, пісаў пра Сада:

«Калі бачыш захады перасьцярогі, ужытыя гісторыяй, кабператварыць Сада ў калясальную загадку, калі думаеш пра дваццаць сем гадоў у турмах, пра забароненае існаваньне ў зьняволеньні, калі пазбаўленьне волі захоплівае ня толькі прыжыцьцёвае існаваньне, але і замагільнае, міжволі пыташся ў сябе: ці не былі цэнзары і слугі Сада ў яго на службе, выконваючы самыя вялікія патрабаваньні ягонага лібэртынажу, яго спадзеў на таемства падпольнага жыцьця. Сад на дзясяткі ладоў фармуляваў ідэю, што самыя вялікія чалавечыя празьмернасьці вымагаюць прыхаванасьці, цемры і бездані, недатыкальнай адзіноты камэры-кельлі. Дзіўная рэч: менавіта ахоўнікі маралі, асуджаючы яго на адзіночную камэру, зрабіліся паслугачамі самага відавочнага імаралізму».

Гэтую выснову Марыса Бляншо пацьвярджае і тое, як абышліся з маркізам пасьля яго сьмерці. Перад сконам дэ Сад прасіў пра магілу без апазнавальных знакаў — у лесе, прысыпаную жалудамі, каб ня дай божа не застацца ў памяці чалавецтва. Цэнзары і ахоўнікі маралі не паслухаліся і зрабілі па-хрысьціянску, пахаваўшы маркіза як мае быць. Быццам бы і праўда ён быў патрэбны ім ня менш, чым яны — яму.

## Жывейшы за жывых

*3 красавіка 33 — укрыжаваньне Хрыста*

Яго называлі першым камуністам, першым касманаўтам, першым гіпі... Лухта, вядома, але дзіўна: чамусьці вельмі хочацца верыць, што ён сапраўды існаваў. Што яму часам балелі зубы, што калі ён прастуджаўся, дык смаркаўся, што ён бачыў сны, баяўся адзіноты, з задавальненьнем насіў дзяцей на плячах і быў ня супраць выпіць халоднага віна з авечым сырам. Што ён ня быў супэрмэнам, таемным агентам дабра і ісьціны, бо кіно нам, урэшце, хапае і безь яго. Што ён жыў, гучаў, пах. Некаторым, самым прасунутым, так моцна хочацца верыць у ягоную рэальнасьць і гістарычнасьць, што яны нават вызначылі дакладную дату ягонай гібелі: 3 красавіка 33 году нашай эры. Дзень, калі па экране густа пайшлі тытры.

Вядома ж, гаворка пра Хрыста. Ён — сакрэтная зброя хрысьціянства, спрадвеку ягоны вобраз выклікаў давер нават там, дзе канчалася ўсялякая павага да рэлігіі: два тысячагодзьдзі



мінула, а ён як новенькі. Самыя адпетыя атэісты і блюзьнеры, якія ў выразах не саромеюцца, не знаходзілі і не знаходзяць прыдатнага слова, каб яго абразіць і зьнішчыць, адгукаючыся пра Ісуса кожны па-свойму, але заўжды безь нянавісьці, а часьцей за ўсё зь нейкай спагадлівай сымпатыяй. Дзіўным чынам усе сыходзяцца на тым, што Ён быў неблагі хлопец, зь якім можна ісьці ня толькі ў разьведку, але і ў самаволку. Хрыстос і праўда ўяўляе сабой нейкі цёплы чалавечы кампраміс, ня толькі яму ёсьць справа да нас усіх, але і кожнаму з нас ёсьць што сказаць пра яго, што бывае нячаста.

А гавораць рознае.

Курт Вонэгут, напрыклад, назваў Ісуса адным з пацыентаў вар'ятні, якую называюць Зямлёй. Пацыентам, якога іншыя хворыя прыбілі да драўлянага крыжа, ды так, каб нават самаму нізенькаму было відаць, як той наверсе мучыцца.

Ну, гэта, так бы мовіць, канстатацыя факту. А вось Джон Ленан, ляпнуўшы неяк, што Бітлз, маўляў, папулярнейшыя за Хрыста, праз некалькі гадоў пачаў апраўдвацца, што не хацеў такім чынам нікога пакрыўдзіць, і прызнаў, што Ісус быў файны, толькі вось пасьлядоўнікі ў яго нейкія тупаватыя.

Іншы Джон, Элтан, ня так даўно абвясьціў, што Ісус быў геем. Ня простым геем, а «звышінтэлігентным, спагадлівым геем, які разумеў чалавечыя праблемы, які хацеў, каб мы любілі і разумелі адно аднаго. Паспрабуйце быць геем на Блізкім Усходзе — можаце лічыць, што вы труп...»

Невядомы гумарыст, якога можна лічыць голасам сучаснага фальклёру: «Калі б Ісус жыў у наш час, яго б зноў забілі, і людзі б цяпер хадзілі з маленькімі электрычнымі крэсельцамі на грудзях».

Оскар Ўайлд лічыў, што Ісус памёр не для таго, каб нас выратаваць — а для таго, каб мы навучыліся ратаваць адно аднаго. То бок, ягоныя задачы прыкладна супадалі з задачамі міністэрства па надзвычайных сытуацыях. Выдатную фразу прыпісваюць Сымону Балівару:

«Самыя нудныя постаці, якіх я ведаю, гэта Хрыстос, дон Кіхот і я».

Баюся, аднак, што мужнага рэвалюцыянэра і палкаводца пераблыталі з Сымонай дэ Бавуар — ёй гэтыя словы пасуюць неяк лепш, бо нуднейшы за яе толькі яе муж. Добра яшчэ, што самога Хрыста не пераблыталі з Хрыста Стоічкавым.

Апазыцыйны беларускі сьпявак Мэрылін Мэнсан зь веданьнем справы кажа, што «Хрыстос такі знакаміты, бо яго забілі. У кожнай рэлігіі ёсьць такі Ісус, якога забіваюць. Людзям трэба ў кагосьці верыць, бо яны ня вераць у сябе».

Пра Хрыста выказваўся нават Гітлер, які прымерваў на сябе ролю новага Збаўцы. «Гэтыя абшчыны, якія назвалі сябе першымі хрысьціянскімі цэрквамі — яны здраджвалі Хрысту, яны сказілі сьвятую ідэю хрысьціянскага сацыялізму! Яны забілі яе так, як яўрэі прыбілі Хрыста да крыжа!»

Сымона Вайль шчыра казала, што калі думае пра Хрыста, то ўпадае ў грэх зайздрасьці. А вось якія словы знайшоў для Ісуса аўтар моладзевых раманаў Бэгбэдэр:

«Ісус — найлепшы ў сьвеце рэкляміст, аўтар несьмяротных слоганаў: „Палюбі бліжняга свайго", „Апошнія зробяцца першымі", „Спачатку было слова"... А, не, гэта ня ён сказаў, гэта ягоны баця».

Ну, ён і сам хутчэй рэкляміст, чым пісьменьнік. І бацька ў яго не такі ўплывовы, як у Ісуса. Іншы француз, Мішэль Уэльбэк, адгукнуўся пра Хрыста значна больш цікава:

«У маладосьці я часам пачуваўся захопленым гісторыяй Хрыста. Але звычайна гэта працягвалася не даўжэй за дзесяць хвілін. Варта мне было выйсьці на вуліцу, як усё зьнікала».

Гаворачы пра Хрыста, кожны кажа пра сваё. Напэўна, ён і праўда жыў — бо каб прыдумаць такога пэрсанажа зь нічога, мала быць трошкі больш таленавітым за Бэгбэдэра, трошкі большым геем за Элтана Джона і трошкі нуднейшым за дона Кіхота. Трэба быць геніем. Прыкладна такім, якім, напэўна, і быў Хрыстос.

# Цар над царамі

***4 красавіка 1991 адбыўся ўсебеларускі страйк***

4 красавіка 1991 году Менск страйкуе: на плошчы Незалежнасьці, якая тады яшчэ мела імя Леніна, зьбіраецца пад сто тысячаў чалавек — замест таго каб арбайтэн, маўчаць і радавацца. Ільліч на гранітным пастамэнце пры выглядзе натоўпу ажно памаладзеў: такога непадробнага энтузіязму працоўных масаў ён ня бачыў зь лістападу сямнаццатага. На плошчы не якія-небудзь прафэсійныя рэвалюцыянэры і пэнсіянэры — на плошчы тыя, каго нават пры вялікім жаданьні не назавеш пятай калёнай; каб іх усіх пералічыць, перапісаць і прыняць меры, аднаго дзядзькі зь відэакамэрай мала. На плошчу выйшлі пераважна самыя што ні ёсьць рабочыя. Той самы пралетарскі элемэнт, пра якога Купала пісаў, што ён яшчэ ўчора раб пакутны, а сягоньня зямлі ўладар і над царамі цар магутны.

І гэта было праўдай — 4 красавіка 1991 цары спужаліся не на жарт. У тыя дні менскія пралетары, пакутныя рабы, якім не было за што карміць свае рабочыя дынастыі, сапраўды былі ўладарамі і, відаць, маглі практычна ўсё, на што хапіла б фантазіі. Напрыклад, зраўняць Дом ураду зь зямлёй і пабудаваць на ягоным месцы парк культуры і адпачынку. Дый ня толькі менскія: у красавіку таго году ў Воршы людзі спынілі рух цягнікоў, сеўшы на рэйкі; пратэсты былі паўсюдна. Слабасьць і нерашучасьць улады лунала ў паветры і адчувалася ўсімі. Для мяне, тады — менскага старшаклясьніка, які толькі-толькі сасьпеў палітычна і нацыянальна, гэта быў вызначальны год, бо менавіта на той час прыпаў пік маёй грамадзкай актыўнасьці. Я акурат пачаў хадзіць на ўсе мітынгі, слухаць прамоўцаў, чытаць адпаведную літаратурку, дый падвышэньне цэнаў — ня тая рэч, якая абмінае дзяцей, інвалідаў і старшаклясьнікаў... Як цяпер памятаю, якое адчуваньне далучанасьці да сваёй гісторыі давала тая вясна. І вельмі добра разумею Сяргея Антончыка, які кажа, што само відовішча «цёмных хмараў людзей, якія ідуць з „Інтэгралу“, з трактарнага, з аўтазаводу» да цэнтру гораду, ужо выклікала адчуваньне сьвята свабоды.



У гэты час зусім побач з плошчай ішлі гарачыя дэбаты. Дэпутаты ад апазыцыі БНФ, якія ўзялі на сябе каардынацыю стыхійнага рабочага руху, супрацьстаялі тым самым перапуджаным царам — але ня толькі ім. «Члены Прэзыдыюму адзін за другім

заклікалі нас адумацца, а да страйкамаўцаў прапаноўвалі «прымяніць уладу», — піша Сяргей Навумчык. Выглядае, што камуняцкая ўлада мела ў запасе самы эфэктыўны ход дрэннага шахматыста, які прыберагаўся на скрайні выпадак — дошкай па галаве. «Ужо ў эміграцыі я даведаўся, што у сутарэньнях Дому ўраду былі разьмешчаныя сотні спэцназаўцаў, прысланых Масквой з Закаўказьзя, — піша ён. — Яны нічым не выдавалі сваёй прысутнасьці...»

Страйкі ў сталіцы былі і да 1991-га — яны ў нас маюць свае традыцыі. Узяць хаця б транспартны цэх гэтага вялізнага заводу пад назвай Менск. Ужо ў 1876 годзе тут страйкавалі рабочыя чыгуначных майстэрняў. Мінула больш за сотню гадоў. Пасьля страйку 1991-га будзе страйк працаўнікоў мэтрапалітэну ў 1995-м, задушаны ўладай, якая зноў адчуе сілу. А цяпер удзельнікі тых красавіцкіх падзеяў ломяць галовы — чаму тады, у 1991-м, усё так хутка патухла, хто вінаваты і што рабіць. А вось можна Купалу пачытаць далей, той самы верш пра пралетара. Купалаўскаму пралетару, хай яму і бацькаўшчынай цэлы сьвет, і ад родных ніў ён адвярнуўся, сьніліся сны аб Беларусі. Якія сны сьніліся цёмным хмарам людзей з Інтэгралу і трактарнага 4 красавіка 1991 году, мы ня ведаем. Але паміж хлебам і воляй чалавек звычайна выбірае хлеб. Цэны трошкі зьнізілі — каб неўзабаве павысіць іх яшчэ больш, а такога, усенароднага, страйку, як у 1991-м, больш не было. Салідарнасьць аказалася мітам.

Адзін менскі міліцыянт неяк прызнаўся ў размове: «Вось калі б цяпер столькі народу на плошчу выйшла, як тады, у 1991-м. Вось тады б сапраўды: міліцыя была б з народам. А цяпер — выбачайце». Як казаў ня надта станоўчы герой набокаўскай «Камэры абскуры», грукаючы кулаком аб стол: чалавек перш-наперш павінен жэрці, так!.. Але той красавік быў, і свабода была, і цары баяліся. А калі ўсё гэта было — яно можа, здольнае, мусіць паўтарыцца.

## Ня грэцкі спорт

***5 красавіка 1896 у Атэнах адкрыліся першыя Алімпійскія гульні Новага часу***

Барон П'ер дэ Кубэртэн, заснавальнік алімпійскага руху Новага часу, быў чалавек шчыры і, як гэта часта бывае з грамадзкімі дзеячамі, больш абазнаны ў фізкультуры і старажытнагрэцкай гісторыі, чым у людзях. У 1936-м, прыехаўшы ў Бэрлін, каб на месцы разабрацца, ці варта аддаваць сталіцы Райху гонар правесьці чарговыя Гульні, ён так закахаўся ў новы нямецкі парадак, што назваў фюрэра «адным з самых выбітных творчых духаў нашай эпохі». П'ер дэ Кубэртэн не крывіў душой. Бэрлін атрымаў Алімпіяду.

Ці мог ён падумаць 5 красавіка 1896 году, калі адкрыліся першыя Алімпійскія гульні новага часу ў Атэнах, што, фактычна, кожнай Алімпіядзе будзе спадарожнічаць нейкі палітычны скандал і што прыдуманы ім адзін з асноўных алімпійскіх прынцыпаў: спорт па-за палітыкай, так і застанецца ўсяго толькі прыгожай ідэяй, што ня мае нічога агульнага з рэальнасьцю... Іншы прынцып, пазьней сфармуляваны як «о, спорт, ты — мір», таксама не спрацуе: акурат у алімпійскую эпоху людзі пачнуць забіваць адно аднаго паточна-канвэерным спосабам, то бок шмат, рэгулярна і з задавальненьнем. Быццам робячы практыкаваньні на спартовай пляцоўцы.

Тыя першыя гульні 1896-га шмат чым адрозьніваліся ад сучасных алімпійскіх супэршоў. Не было ні колцаў, ні мядзьведзяў, ні танцаў з паходнямі, ні параду... Ні допінгу з выкарыстаньнем найноўшых дасягненьняў хіміі і фармакалёгіі — бутэлька добрага віна перад стартам ня лічыцца: гэта ня значыць, што пілі ўсе пагалоўна, але ж ніхто і не правяраў! Адсутнічалі веславаньне і бокс, затое былі праведзеныя спаборніцтвы па плаваньні ў марацкай вопратцы. Было і яшчэ адно цікавае адрозьненьне. Алімпійцы Расейскай імпэрыі, якія цяпер звыклі браць колькасьцю і запамінаюцца ў асноўным сваёй сэнтымэнтальнасьцю, да Атэнаў у 1896 годзе не даехалі — дабраўшыся да Канстантынопалю, павярнулі назад: скончыліся грошы.



Пакуль спартоўцы з чатырнаццаці краін вызначалі найлепшых у дзевяці відах спорту, вакол Мармуровага стадыёну ў гордай адзіноце бегала грэцкая маратонка. А што ёй заставалася рабіць? Знаўцы старажытнагрэцкіх алімпійскіх традыцый і ня думалі запрашаць да ўдзелу ў Алімпіядзе жанчын. Усё, як у часы Паўсанія і Лікурга. Толькі жрыцам Дэмэтры дазвалялася назіраць за турнірамі з трыбунаў — і хаця

атлеты ў 1896 годзе ўжо не выступалі голымі і нават плавалі ў марацкіх касьцюмах, глядзець на такое лічылася шкодным для жаночай псыхікі.

Вось і наступныя Алімпіяды будуць заставацца ў памяці ня толькі рэкордамі, азартам і фэйр-плэем, але і рознымі каляспартовымі скандаламі. Ужо ў 1908 годзе ў Лёндане расейская дэлегацыя, якая гэтым разам усё ж здолее прасунуцца далей за Канстантынопаль, забароніць фінам выступаць пад іхным сьцягам, а амэрыканцы адмовяцца апускаць сьцяг перад брытанскім каралём, зазначыўшы, што гэты сьцяг не апускаецца ні перад адным манархам. У 1920-м на Алімпіяду ня возьмуць немцаў і бальшавікоў, у 1924-м бальшавікі скажуць, што будуць удзельнічаць толькі зь немцамі, у 1936 годзе «адзін з самых выбітных творчых духаў эпохі», прыкінуўшы ўсе выгоды ад Гульняў, загадае на нейкі час прыбраць антысэміцкія плякаты з бэрлінскіх вуліц...

Беларусь, як вядома, прымала некаторыя спаборніцтвы Алімпіяды-80 у Маскве, але ў нас і без Алімпіяды каляспартовых боек хапае. У 2012 годзе прэзыдэнт Міжнароднай фэдэрацыі хакею Рэнэ Фазэль адказаў на заклікі пазбавіць Менск чэмпіянату сьвету па хакеі 2014 году або байкатаваць яго фразай, якая б цалкам пасавала да візыту дэ Кубэртэна ў Бэрлін. «Мне здаецца, што спартовыя арганізацыі і самі спартоўцы не павінны выконваць працу палітыкаў. Мы ня мусім быць марыянэткамі ў іх руках. Палітыка вядзе да канфрантацыі, а спорт мусіць яднаць людзей».

Шчыра сказана. Па-кубэртэнаўску. Найлепшыя творчыя духі нашай эпохі зноў могуць спаць спакойна.

# Магічны квадрат

*6 красавіка 1528 памёр Альбрэхт Дзюрэр*

Ягоныя карціны і гравюры ніколі не ствараюць адчуваньня празьмернасьці — ад іх ідзе нейкая спакойная, стрыманая сіла. Так рыцар у адным з самых знакамітых ягоных твораў едзе сабе нясьпешна наперад, мінаючы змрочны краявід, не зьвяртаючы ўвагі на сваіх дакучлівых спадарожнікаў: ні на д'ябла, што бяжыць ззаду, рохкаючы пра тое, як гэта карысна для здароўя — хлусіць, забіваць і марыць пра валоў бліжняга свайго, ні на вясёлую сьмерць зь яе сьпідомэтрам. Аўтар гэтай гравюры і жыў адпаведна — зь верай у сваю мастацкую місію, верай, якая ніколі не згасала. 6 красавіка 1528 году ва ўзросьце 56 гадоў у сваім родным горадзе Нюрнбэргу памёр Альбрэхт Дзюрэр, сын ювэліра. Майстар, у якога вучацца дагэтуль. І якога людзі так любяць цытаваць у ня самыя лепшыя для сябе часіны.




За сваё не такое ўжо доўгае жыцьцё ён пасьпеў шмат. Пераканаць бацьку ў тым, што ягонаму сыну трэба займацца мастацтвам — гэта і цяпер нялёгка, а тады было амаль подзьвігам. Зьдзейсьніць некалькі падарожжаў, у тым ліку ў фанабэрыстую Італію, дзе мясцовыя мастакі, заканадаўцы жывапісу, менавіта пад уплывам Дзюрэра вымушаныя былі нехаця прызнаць, што на поўнач ад Вэнэцыі і Флярэнцыі, пад значна менш лагодным сонцам, ёсьць творцы, роўныя ім. Прывучыць бюргерскі сьвет да таго, што мастак ня ёсьць рамесьнікам, які на замову зробіць усё, што пажадаеш. Завесьці знаёмства з каралямі і біскупамі — самымі пераборлівымі замоўцамі, якіх ён выхоўваў, як малых дзяцей. Напісаць некалькі тэарэтычных працаў. Зрабіцца пад канец жыцьця перакананым лютэранінам. Упісаць сябе ў магічны квадрат мастацтва, не парушыўшы ягонай гармоніі.

І — стварыць свой сьвет: часам жудасны, вусьцішны, і заўжды прыгожы і непаўторны. У ім мала сьвятла, затое кожная рысачка мае свой голас. Дзюрэравы творы поўныя зашыфраваных пасланьняў, як «Энігма» — але пры гэтым яны рэалістычныя, як зімовы дзень. Можна сабе ўявіць, як пазнавалі сваіх суседзяў сучасьнікі Дзюрэра ў ягоных «Чатырох апосталах», дзе Марк, які насамрэч ніякі не апостал, выглядае як беглы манах, а лысіны Пятра і Паўла блішчаць, нібы ночвы з кухні якой-небудзь фраў Мюлер. Ян Багаслоў, які есьць кнігу з рук анёла, ня мае зубоў, каб яе разжаваць. Дзядоўнік у руцэ Дзюрэра на аўтапартрэце і чыжык на руцэ малога Хрыста — безумоўна, сымбалі, але яны з нашага сьвету, яны жывыя, цёплыя, крохкія і маюць свой пачатак і свой канец.

Што да іншага сьвету, які ідзе на чалавека з малюнкаў і гравюр Дзюрэра такім ладным і бязьлітасным шыхтом, то і ягоныя вестуны на самой справе — нашыя. Нашыя страхі і фобіі, нашыя марныя спадзевы і патаемныя надзеі, нашыя грахі і памылкі. Можа, менавіта таму гэтымі творамі так любяць ілюстраваць гісторыю, якая, як вядома, агульная, а таму — нічыя.

## Палачка, гары

*7 красавіка 1827 у Ангельшчыне купленая першая скрыначка запалак*

Неяк у тысяча васямсот, дай бог памяці, дваццаць шостым годзе ангельскі фармацэўт і аптэкар Джон Ўокер перамешваў дома свае мікстуры. Ён рабіў гэта пры дапамозе адмысловай доўгай драўлянай палкі, якая на патрэбу лёгка ператваралася ў зброю супраць патэнцыйных рабаўнікоў і цалкам рэальных суседзкіх дзяцей, што панадзіліся красьці з аптэкі гематаген. Карацей, добрая была палка. Аднак, як гэта часта бывае, у гісторыю яна ўвайшла дзякуючы іншым, ня менш чароўным уласьцівасьцям.

Пабачыўшы, што сумесь амаль гатовая, і адклаўшы свой інструмэнт убок, містэр Ўокер падышоў да шафы, выбіраючы прыдатную бутэлечку і разважаючы, што яму на ёй напісаць: «Сродак ад усяго на сьвеце» або «Сродак супраць усяго на сьвеце». Ён і сам цьмяна ўяўляў, з чаго складаецца ягоны прэпарат, але дзе была б цяпер мэдыцына, калі б фармацэўты мінулага зьвярталі ўвагу на такія дробязі. Вярнуўшыся, ён заўважыў, што на канцы ягонай палкі ўтварылася нейкая засохлая непрыгожая кропля. Містэр Ўокер паспрабаваў выцерці яе аб падлогу — і тут здарылася нечаканае: ягоная цудоўная палка загарэлася, а пакой напоўніўся сьмярдзючым дымам.



«Гм», — сказаў містэр Ўокер. — «Здаецца, я прыдумаў запалкі Ўокера».

Натхнёны фармацэўт зрабіў сабе сотню палак значна меншага памеру і пачаў ліхаманкава прыгадваць, зь якіх жа такіх інгрэдыентаў складалася яго мікстура. У выніку працяглых і не заўжды бясьпечных экспэрымэнтаў палкі ператварыліся ў палачкі, а рэцэпт быў адноўлены. Містэр Ўокер дэманстраваў сваё вынаходніцтва ўсім ахвотным, і нават тым суседзкім падшыванцам, не забываючы, аднак, нагадваць ім, што «запалкі Ўокера — ня цацка», а тэлефон пажарнікаў 03. А потым зрабіў прыгожую алавяную скрыначку, у параўнаньні зь цяперашнімі больш падобную да цыгарнай, і 7 красавіка 1827 году прадаў яе адвакату Ніксану. У той скрынцы іх было роўна сто штук, і гарэлі яны нядоўга, але затое пахлі так, што нейкі час адвакату не было чаго баяцца цісканіны ў дыліжансах.

Так упершыню ў сьвеце адбыўся продаж запалак паўналетняй асобе. Аднак гонару быць вынаходнікам запалак містэра Ўокера пазбавілі іншыя, больш спрытныя грамадзяне. Наогул, гісторыя вынаходніцтва такой простай рэчы, як звычайная сярнічка, цёмная, як найбліжэйшая будучыня чалавека з цыгарэтай і без агню ўначы на бязьлюдным прыпынку.

Больш-менш дакладна вядома толькі тое, што сучасная запалка абавязаная сваім існаваньнем швэду Лундстрэму, які першы прыдумаў, як зрабіць сярнічку абсалютна бязшкоднай, і атрымаў за гэта мэдаль. Цяпер ужо ніхто й ня памятае, а яшчэ ў пачатку мінулага стагодзьдзя назва «швэдзкая запалка» ўспрымалася народам ня менш натуральна, чым цяперашнія выразы «швэдзкая сям'я», «швэдзкі стол» і «швэдзкая сьценка». Якія, як вядома, таксама наўрад ці ўзьніклі б, калі б не выпадковая палка ў нечых умелых руках.

# Вяртаньне багіні

***8 красавіка 1820 грэцкі селянін з выспы Мілас адкапаў Вэнэру***

8 красавіка 1820 году грэцкі селянін і турэцка-падданы на імя Георгіяс Кентротас, які жыў на высьпе Мілас, адкапаў на сваім гародзе жанчыну зь яблыкам у руцэ.

Жанчына была мармуровая, ніжняя яе частка ляжала асобна ад верхняй, але селяніна ўсё гэта ня надта зьбянтэжыла. Жылі тыя Кентротасы бедна, ды розуму ў іх, як і ва ўсялякай беднай басоты, хапала. У той час ягоная радзіма зрабілася сапраўднай ахвярай аматараў антычнасьці — натоўпы чорных археолягаў зь белымі рукамі і блакітнай крывёй аралі Грэцыю ўздоўж і ўпоперак у пошуках хаця б якога-небудзь каменнага носа часоў Паліклета і Алкамена. Яны былі гатовыя аддаць за такі нос больш, чым селянін Кентротас мог зарабіць за ўсё сваё жыцьцё. А тут — цэлая кабета, хай сабе і разламаная напалам... Пераймацца неверагоднай прыгажосьцю статуі Кентротас не зьбіраўся: падумаеш, у ягонай вёсцы ўсе дзяўчаты былі такія, а некаторыя дык і лепшыя. У нас у Грэцыі ўсе мужчыны — Апалёны, а ўсе жанчыны — Афрадыты, сказаў сам сабе з гордасьцю праваслаўны Георгіяс, і толькі грошай у нас пры гэтым чамусьці ніколі няма. Ён схаваў знаходку ў загоне для коз і стаў чакаць пакупніка.



Пакупнік знайшоўся імгненна. Адзін францускі афіцэр, вялікі знаўца антычнага мастацтва, пабачыўшы Афрадыту-Вэнэру, якая цярпліва ляжала сярод аліваў і козачак, адразу ж ацаніў маштаб свайго адкрыцьця. Далейшая гісторыя мае шмат розных вэрсій, якія нібыта зводзяцца збольшага да наступнага. Той афіцэр дамовіўся з Георгіясам пра цану і паслаў у амбасаду ў Канстантынопаль просьбу прыслаць як мага хутчэй карабель з узброенымі матросамі, каб адтранспартаваць насамрэч бясцэнную пакупку ў Парыж. Але калі карабель прыплыў на месца, знаходку Георгіяса перахапілі «гаспадары поля» туркі. У выніку гандлю і нават узброенага супрацьстаяньня Афрадыта-Вэнэра пазбавілася ня толькі яблыка, але і рукі, у якой яна яго трымала. Другая рука таксама бясьследна зьнікла. Так грэцкая прыгажуня назаўжды зрабілася Бязручкай з казак братоў Грымаў. Расейскі драматург Астроўскі на той час яшчэ не нарадзіўся, і сказаць, як ягоны герой: «Дык не даставайся ж ты нікому!» і ўтапіць статую ў Эгейскім моры не прыйшло ў галаву ні французам, ні туркам. Урэшце гальскі геній і францускі франк перамаглі, за што потым султан бязьлітасна пакараў няздатных удзельнікаў змаганьня за Вэнэру з турэцкага боку. Мармуровую жанчыну, цуд дасканаласьці і ідэал жаноцкасьці, склеілі, прадалі... Урэшце яна апынулася ў Люўры. На радасьць усім, хто можа згубіць галаву з-за жаночай пекнаты — і канцавіны тут, як высьветлілася, нічога не вырашаюць.

# Нулявы вагон

***9 красавіка 1917 «плямбаваны» вагон зь Леніным выпраўляецца ў дарогу***

9 красавіка 1917 году а 15.10 з цурыхскага вакзалу ў памежнае нямецкае мястэчка Готмадынген выехалі некалькі дзясяткаў расейскіх палітэмігрантаў. Сярод гэтай стракатай кампаніі тэрарыстаў-тэарэтыкаў, гарапашных грантасмокаў, авантурыстаў і рамантыкаў была адна загадкавая высокая дама пад чорным вэлюмам, увесь багаж якой складалі каса, партбілет, кашалёк ды маўзэр. Дама ехала ў Расею, а звалі яе Рэвалюцыя.

Мястэчку Готмадынгену, наогул, пашанцавала, ён вядомы ў савецкай гісторыі ня толькі гэтым фактам — менавіта ў ягоных ваколіцах у 1945-м высьветлілася, што пастар Шляг дрэнны лыжнік, а пастар быў куды больш любімы народам пэрсанаж за ўсіх пасажыраў таго цягніка разам узятых... Але ў 1917 годзе ні пастар Шляг, ні Ісаеў-Штырліц, ні ўся кампанія на чале зь Леніным яшчэ не здагадвалася, якой крывавай саўнай усё гэта скончыцца.

Празь некалькі гадзін у Готмадынгене расейскія пасажыры пераселі ў спэцыяльна падрыхтаваны для іх плямбаваны вагон — паводле іншай вэрсіі, вагон быў звычайны, проста выходзіць зь яго забаранялася. Плян, распрацаваны зьнешняй выведкай і генэральным штабам кайзэраўскага войска, які прадугледжваў адпраўку ў Расею за кошт Райху яе самых заклятых — нават больш заклятых за самога кайзэра — ворагаў, пачаў дзейнічаць. Расьпяваючы на ўсё горла «Марсэльезу» і раздражняючы нямецкіх афіцэраў, што суправаджалі вагон, ня толькі парушэньнем маскіроўкі, але і сваімі фальшывымі галасамі, дэлегацыя праехала ўсю Нямеччыну з поўдня на поўнач, да станцыі Засьніц. Там перасела на параплаў да Трэлеборгу, адкуль прыбыла ў Стакгольм, потым цягнік давёз эмігрантаў разам з Рэвалюцыяй да мяжы зь Фінляндыяй — і 16 красавіка Ленін з таварышамі ступілі на пэрон Фінляндзкага вакзалу ў Пецярбургу. Там мадам Рэвалюцыя з плямбаванага вагону нарэшце адкінула свой вэлюм і нечакана сустрэлася тварам у твар зь мясцовай канкурэнткай. Вам слова, таварыш Маўзэр, сказала дама з Цурыху — “ і ўсё заверте...”



Вэрсія, што бальшавіцкі пераварот быў зьдзейсьнены за кайзэраўскія грошы і пры непасрэдным удзеле нямецкага генштабу, была і застаецца папулярнай, як Майкл Джэксан. Яе прыхільнікі асабліва засмучаныя этычным бокам праблемы: як жа так — немцу прадаліся, каб пагубіць Расею?.. То бок пагубіць Расею за свае, кроўныя, выглядае значна больш хрысьціянскім учынкам. Атрымаць кулю ў патыліцу ад «свайго» — ад роднай партыі, ад адзінаверца, ад «барына», якому лепш відаць — спрадвеку лічылася і лічыцца ў той імпэрыі значна менш ганебным, чым здрада радзіме ці іншая якая шпіёнская дзейнасьць.

Між тым, кожная «нармальная чалавечаская», не аксамітная, а дзяружная і брызэнтавая рэвалюцыя, калі яна хоча перамагчы і на донарскай крыві грамадзянаў «наш, новы сьвет пастроіць», заўжды кіравалася ня нейкай там хрысьціянскай ці агульначалавечай этыкай, а сваёй, рэвалюцыйнай. У якой мэта апраўдвае сродкі — і Ленін зь ягоным нямецкім грантам тут зусім не наватар. А інакш, як казаў Ільліч, будзе балбатня і каша. Інакш усё гэта «пастарашлягаўшчына», а пастар, які ня ўмеў катацца на лыжах, казаў так: «Я ня буду выкарыстоўваць вашыя мэтады — каб ня быць падобным да вас...» Вось і трапіў у засаду, стары дурань. Напэўна, Рэвалюцыя — у Беларусі ці Эгіпце, Францыі часоў Рабэсп’ера ці Кітаі часоў Чан Кайшы, і нават сэксуальная рэвалюцыя 60-х — заўжды на нейкім сваім этапе будзе чакаць плямбаваны цягнік з-за мяжы. Інакш не перамагчы. Каса і маўзэр, партбілет і кашалёк.

# Выклятае месца

***10 красавіка 2010 пад Смаленскам разьбіўся польскі ўрадавы самалёт***

Выклятыя, д'ябальскія месцы на зямлі ўзьнікаюць ня самі па сабе — іх ствараюць цалкам рэальныя людзі. Цёплыя і прыгожыя вянцы прыроды, бацькі і дзеці такіх самых людзей — і ў той самы час апантаныя д'ябальскімі ідэямі, прызвычаеныя да крыві, гатовыя выканаць любы загад. Сьлядамі іхных ботаў у вясновай гразі, іхнай вясёлай лаянкай, іхным адчуваньнем беспакаранасьці, іхнымі пальцамі на спускавых кручках жывіцца выклятае месца, а зусім ня нейкай там звышнатуральнай, трансцэндэнтнай воляй...

10 красавіка 1943 году на загад нямецкіх акупацыйных уладаў у Кракаве і Варшаве была тэрмінова сабраная група яшчэ ня зьнішчаных польскіх грамадзкіх дзеячоў і інтэлектуалаў. Гэтую групу немцы накіравалі ў Катынь пад Смаленскам. Там, над знойдзенымі парэшткамі тысяч расстраляных людзей, ужо працавала нямецкая камісія пад кіраўніцтвам прафэсара Бухца — яго, сумленнага вучонага, які не належаў да нацысцкай партыі, наўмысна абралі кіраўніком, каб не было сумневаў у выніках расьсьледаваньня. Так палякі, а потым і ўвесь сьвет, упершыню даведаліся пра Катынскі лес — месца, дзе атрады НКВД у 1940 годзе зьнішчылі больш за дзесяць тысяч польскіх ваеннапалонных, вінаватых толькі ў тым, што яны палонныя палякі неадпаведнага клясавага паходжаньня. За тры гады над пахаваньнямі ўзышоў малады сасоньнік. Паблізу разьмяшчаўся пабудаваны ў 1931 годзе Дом адпачынку для супрацоўнікаў НКВД, кінуты гаспадарамі пры адступленьні з усім майном: сталовыя, бібліятэка, спартовыя пляцоўкі...



Для нацысцкай прапаганды ўсё гэта было вельмі карысным падарункам: тысячы адкапаных целаў польскіх афіцэраў, часта са зьвязанымі ззаду рукамі, забітых стрэламі ў патыліцу савецкім гестапа... Тая самая нямецкая камісія высьветліла, што масавыя расстрэлы тут адбываліся і раней. Дарэчы, да рэвалюцыі Катынскі лес належаў палякам: Казьлінскім і Лядніцкім — але потым быў забраны і перададзены ГПУ. Тут тысячамі расстрэльвалі яшчэ ў 1918-м, тут забівалі асуджаных у дваццатых, у трыццатых. Мінула амаль паўстагодзьдзя, савецкая ўлада некалькі разоў зьмяніла аблічча, то галіла, то зноў адпускала сабе сталінскія вусы, перайменоўвала, амніставала, змагалася з ачарніцелямі, а кроў зь яе рук усё ніяк не хацела змывацца — і ўсё адно вуснамі генсэкаў, дыпляматаў і простых савецкіх людзей яна год за годам упарта цьвердзіла: не, гэта былі ня мы, не, гэта былі ня мы... Пакуль аднойчы не здалася і нехаця не прызнала: так, гэта былі мы. Але ж паглядзіце: у нас цяпер акурат бязвусы пэрыяд! Гэта ўсё Сталін вінават!

10 красавіка 2010 году, роўна праз 67 гадоў пасьля таго, як першыя палякі пабачылі, што Саветы зрабілі зь іхнымі палоннымі суайчыньнікамі, польскі ўрадавы самалёт расейскай вытворчасьці, які меў на борце 88 чалавек (плюс восем чалавека экіпажу) і ляцеў на ўгодкі той катынскай трагедыі, пацярпеў пад Смаленскам катастрофу. Ня выжыў ніхто. Каля таго самага выклятага месца загінула значная частка польскай палітычнай эліты. Паўстане шмат вэрсіяў, чаму так магло адбыцца. Высьветліцца, што і на борце самалёта, і на аэрадроме было дапушчана вельмі шмат памылак і недаглядаў, былі парушаныя самыя розныя непарушныя правілы палётаў. Чацьвёра жаўнераў расейскага войска, што працавалі на месцы падзеньня самалёта, будуць ліхаманкава корпацца ў рэчах загінулых, шукаючы банкаўскія карткі і коды да іх... А тыя, хто зусім нядаўна аддаваў загады расстрэльваць палонных у Чачні, прасаваць танкамі тамтэйшыя вёскі, бамбіць Грузію, выкажуць спачуваньні польскаму народу і паставяць сьвечкі за спачын душаў пасажыраў польскага самалёта. І зноў скажуць сваё, сакрамэнтальнае: гэта ўсё Сталін вінават. А ў нас пэрыяд самі бачыце які — бязвусы.

# Jemi gati kurdoherë

*11 красавіка 1985 памёр Энвэр Ходжа*

Тыран памёр у Тыране — і так бывае... 11 красавіка 1985 году ў сталіцы Альбаніі ад кровазьліцьця ў мозг на семдзесят сёмым годзе жыцьця аддаў богу душу Энвэр Ходжа, камуністычны лідэр маленькай краіны, якую ён ператварыў у вялікі запаведнік сталінізму. У Тырану паляцелі афіцыйныя спачуваньні — але Энвэр памёр, а справа ягоная працягвала жыць: тэлеграмы з Масквы, Бялграду і Пэкіну альбанскае кіраўніцтва адаслала назад. Ад здраднікаў тут спачуваньняў не чакалі. І ўсё ж пасьля сьмерці Энвэра нешта зьмянілася ў самім паветры — усім стала страшна і цікава. Няўжо і безь яго — можна жыць?..

Разам з усімі чакаў пераменаў і пісьменьнік Ісмаіль Кадарэ — цяпер самы вядомы ў сьвеце альбанскі аўтар. Але Альбанія прачыналася марудна. Мінулае ляжала на краіне, як магільная пліта.

«Parti! Enver! Jemi gati kurdoherë!» — так тут прынята было выказваць любоў правадыру. То бок, у перакладзе на савецкую: таварышы альбанцы, да барацьбы за справу Энвэра і партыі будзьце гатовы! — Заўжды гатовы! Альбанія пры Ходжу ператварылася ў такі сабе піянэрскі канцлягер: на ўзьбярэжжы двух цёплых мораў, сярод цудоўных краявідаў і гор людзей муштравалі, як пажыцьцёвых рэкрутаў, вынішчалася рэлігія, культывавалася нянавісьць да прыватнай уласнасьці (можна было мецьровар, а вось аўтамашыну або нерухомасьць — не), была абвешчаная забарона джазу і рок-музыкі, касмэтыкі і джынсаў, усяго нянаскага, заходняга, а значыць прагнілага і шкоднага. Адбываліся няспынныя паказальныя працэсы і рэгулярныя расстрэлы іншадумцаў: мясцовае КДБ, сігурымі, пільна сачыла за тым, каб усе радаваліся, дзякавалі і весела пяялі камсамольскія і партызанскія песьні. Здавалася, альбанскія грошы часоў Энвэра, гэтыя лекі ды кіндаркі з партрэтамі шахцёраў, даярак і партызанаў, вось-вось будуць адмененыя праз сваю відавочную непатрэбнасьць. Гэта быў амаль камунізм: усё агульнае, натуральны тавараабмен замяніў эканоміку — праўда, тавараў было як у вясковай перасоўнай крамцы. А Энвэр замяніў сабой сонца.



Сталінскі аазіс у пустэльні рэвізіянізму. Зь сярэдзіны шасьцідзясятых Альбанія перастала існаваць для Савецкага Саюзу. Яе проста замоўчвалі: магчыма, таму, што яна была ня самай вялікай, але вельмі балючай паразай СССР: як гэта камуністы, марксісты — і жывуць самі па сабе, ды яшчэ паводле састарэлых сталінскіх запаветаў. Савецкія людзі пры Хрушчове і Брэжневе ў параўнаньні з альбанцамі і праўда мусілі пачувацца жыхарамі прыстойнай дэмакратычнай дзяржавы... Ісмаіль Кадарэ у 1959-61 гадах вучыўся ў Літаратурным інстытуце ў Маскве і нават пасьпеў выдаць там кніжку вершаў — а ўжо праз год Альбанія пакінула СЭУ, а потым адмовілася ад даўгоў і абвясьціла ўсіх былых сяброў здраднікамі камунізму. Новым сябрам зрабіўся Кітай — але ненадоўга: як толькі там памяняўся курс, у ворагі запісалі і кітайцаў. Даўжэй за ўсіх у прыяцелях пратрымаліся румыны пад кіраўніцтвам Чаўшэску. А наогул, у сьвеце была толькі адна краіна, якую можна было параўнаць з Альбаніяй. Паўночная Карэя. А ў наш час з КНДР ужо й няма каго параўноўваць...

І ўсё ж пэўныя аналёгіі напрошваюцца і цяпер. Справа Энвэра жыве. Часам, калі назіраеш сутаргавыя рухі ўладаў РБ, якія шукаюць сабе сяброў на адну ноч у далёкіх марах і аазісах, здаецца, што ягоная Альбанія — гэта месца, куды ідзем мы. Даўно і мэтанакіравана. Зь песьнямі і скокамі, гордыя блякаднікі ў пустэльні. Праўда, нават Энвэру не прыходзіла ў галаву геніяльная думка распрадаваць сваю краіну суседзям. Недалёкі быў чалавек, што й казаць.

# Ён сказаў: «Паехалі!»

*12 красавіка 1961, Гагарын у космасе*

І махнуў рукой. Праз дваццаць тры хвіліны пра тое, што паехалі, і пра тое, як махнуў, ужо ведалі ў Пэнтагоне: спрацавала амэрыканская радарная станцыя на Алеуцкіх выспах. А махнуў ён на ўсё: на небясьпеку і невядомасьць, на гравітацыю і граніцы, а таксама на папярэджаньне ўлюбёнага героя савецкіх людзей адстаўнога дворніка Мікіты Прахіна, які лічыў, што «чалавек хадзіць мусіць, а ня лётаць», а хто лётае, таго трэба пазбавіць пакоя ў камуналцы.

12 красавіка 1961 году старшы лейтэнант савецкіх вайскова-паветраных сілаў Юры Гагарын на працягу ста васьмі хвілін выконваў абавязкі бога, абляцеўшы грэшную зямлю і вярнуўшыся на яе ў раёне горада Энгельса. Вонкава зь Зямлёй за час палёту нібыта нічога ня здарылася — але нешта ў сьвядомасьці чалавецтва ў гэты дзень усё ж вельмі моцна зьмянілася. Палёт Гагарына зрабіўся новай вэрсіяй першароднага граху: чалавецтва пабачыла сябе ягонымі вачыма, звонку, з пустаты і цемры, пабачыла сваю крохкасьць і прыгажосьць, сваю слабасьць і моц, сваю адзіноту, і не знайшлося анёла, які б пагрукаў у ілюмінатар Гагарына і спытаў, па якому такому праву ён тут лётае і дзе ягоны мандат. І вось жа цікава: празь сем гадоў, перад сваёй гібельлю, Гагарын, адно з увасабленьняў антырэлігійнай прапаганды, будзе ўпотай езьдзіць да адной манахіні, якая скажа яму амаль тое, што дворнік Прахін: ня лётай, нельга табе лётаць. Ня ўсё там было так проста, у тым космасе.



Максымальная вышыня, на якую ён падняўся, склала трыста дваццаць сем кілямэтраў. Гэта прыкладна тое самае, калі паставіць тарчма трасу ад Менску да Жабінкі. У палёце Гагарын еў і піў — хаця не адчуваў ні голаду, ні смагі, проста заданьне было такое: паесьці, папіць і паглядзець, адразу ён памрэ ці яшчэ памучыцца; а таксама запісваў на магнітафон свае ўражаньні. Не пазбаўленыя паэтычнасьці, яны потым будуць растыражаваныя на ўвесь сьвет:

«Калі гравітацыя пачала зьнікаць, я адчуў сябе цудоўна, усё адразу стала рабіць лягчэй, і рукі, і ногі, і ўсё цела зрабіліся быццам не маімі. Кроплі вадкасьці, якія праліліся з шлянга, вольна перамяшчаліся ў прасторы і, дакрануўшыся да сьценкі кабіны, прыліпалі да яе, як раса на кветцы».

12 красавіка 1961 году ўсё прайшло як мае быць — нават нягледзячы на пэўныя хібы ў абсталяваньні ракеты, дзякуючы якім астранаўт ледзь не загінуў (на такі выпадак ужо было гатовае паведамленьне ТАСС). Праблемы пачаліся на Зямлі, якая, ледзь прыняўшы на борт свайго сына, пачала яго паіць, і ня толькі сьвежым бярозавікам. Бясконцыя банкеты, пацалункі і ўручэньні ключоў і мэдалёў зрабіліся перагрузкай мацнейшай за тыя, што яму давялося перажыць падчас касьмічнага старту.

Шчасьлівыя былі, аднак, ня ўсе. Інтэлектуалы, далёкія ад тэмаў сялянскіх хлопцаў у космасе, крывіліся. Вядомае выслоўе маладога Бродзкага: «Ды які космас? Стары самалёт быў прынамсі да чалавека падобны». Ён расстаўляў рукі ў бакі: «Праўда, падобны? А гэтыя ракеты не падобныя ні да чаго, апрача бомбаў».

І ўсё ж у пантэоне савецкіх герояў Гагарын быў і застаецца самай сымпатычнай постацьцю. Бо надта ўжо моцна ён вылучаўся з тых шэрагаў, у якія яго паставілі адразу ж па вяртаньні. Па-першае, нікога не забіваў — што з героямі здараецца рэдка. Па-другое, усьміхаўся шчыра, нават стоячы на Маўзалеі. Не зрабіў ніводнага даносу. Па-трэцяе, сапраўды сказаў «Паехалі!» і махнуў — подзьвіг неаспрэчны. Ну, і тое, што яго забралі іншаплянэтнікі (а ніхто пакуль што не давёў, што гэта ня так), сьведчыць, што яны прызналі ў ім свайго. У фальшывым савецкім пантэоне засталася дзірка памерам з бога.

# Ірляндзкі шлях

*13 красавіка 1906 нарадзіўся Сэмюэл Бэкет*

13 красавіка 1906 году, прыкладна ў той самы час, калі Джэймс Джойс у сваім добраахвотным выгнаньні ў Трыесьце атрымаў ад выдаўца Рычардса ліст, дзе паведамлялася, што друкар адмаўляецца набіраць зборнік «Дублінцы», калі ў ім ня будуць зробленыя Адпаведныя Праўкі (о, гэтыя друкары — здаецца, яны былі тады страшнай сілай, больш страшнай за саміх выдаўцоў!) — менавіта ў гэты дзень недалёка ад Дубліну нарадзіўся Сэмюэл Бэкет, у якога праблем з выдаўцамі і друкарамі будзе ня менш. Ірляндзец з тварам марсіяніна, які пісаў па-ангельску і па-француску і якому было наканавана шмат у чым паўтарыць Джойсаў шлях, шлях Адысэя. І няма нічога дзіўнага, што ў канцы дваццатых дарогі Бэкета і Джойса перасекліся ў Парыжы — і яны нават зрабіліся чымсьці накшталт сяброў, нягледзячы на розьніцу ва ўзросьце і статусе і паталягічнае няўменьне або нежаданьне Джойса мець па-сапраўднаму цёплыя стасункі зь людзьмі. Гэта Джойсава падтрымка пераканала Бэкета, што варта працягваць займацца літаратурай — а ўсё магло скончыцца інакш: звонкай пустатой у гулкім Парыжы, дэпрэсіяй і нянавісьцю да сябе... Зрэшты, чаканьнем Гадо ўсё скончылася б так ці інакш.

Бэкет — файны прыклад таго, што непрызнаньне іншымі мала што значыць для таленту, галоўнае — быць сабой: на-



пісаны ім у трыццатых раман «Мэрфі» адмовіліся выдаваць больш за сорак выдавецтваў. Друкары, гэтыя першыя чытачы ўсяго на сьвеце, таксама ня мелі асаблівых падставаў любіць Бэкета — за ўсю тую галерэю хворых, мітусьлівых людзей на краі роспачы, зробленых з суцэльных ранаў і расчараваньняў, за адсутнасьць павярхоўнага сэнсу і дрымучую мову. За нянавісьць да любові ў тым выглядзе, у якім яна найлепш прадаецца: нянавісьць «да Вэнэры-кухаркі і сэксу а-ля сасіскі зь пюрэ». Але — «я не для вас, паны...» Да 1950-х гадоў ён выдаў некалькі нікім, апрача вузкага, амаль сямейнага, кола знаўцаў, не заўважаных кніг — а ў канцы шасьцідзясятых атрымаў Нобэлеўскую прэмію. І паваротам, напэўна, была вайна — дзе Бэкет зрабіўся ўдзельнікам Супраціву і пабачыў усе свае сны жыўцом. Ён не пакінуў Францыю, хаця мог, маючы ірляндзкі пашпарт — і гэта таксама называецца: быць сабой, тое, без чаго шлях наперад немагчымы. Прызнаньне прыйшло, як доўгачаканая кніга, але ён схаваўся ад яго, уцёк — не даваў інтэрвію і не паказваўся на публіцы. Нібыта прызнаньне — гэта нейкі канцлягер, абнесеная калючым дротам і вышкамі тэрыторыя для геніяў.

Сьвет Бэкета цёмны, але нейкі вельмі чалавечны. Яго чытаеш — нібы ідзеш праз вузкі тунэль, дзе на кожным кроку нечы дотык, але чый? Пэрсанажы Бэкета спрабуюць у гэтым разабрацца. Чалавецтва, паводле яго — гэта два вядры, адно зь якіх апускаецца, каб напоўніцца, а другое ў гэты час падымаецца, каб быць спустошаным. Гэта і праўда ня вырак людзям — гэта нагадваньне людзям, што яны асуджаныя жыць. Тэатар Бэкета праз дарогу ад тэатра Ёнэско — але калі ў тэатры Ёнэско боль умоўны — у тэатры Бэкета пэрсанажы ўвесь час мучацца і ўспрымаюць гэта як належнае. Шкада, што «антыгісторыя» пра Гадо зрабілася самым знакамітым творам Бэкета, ягоныя раманы не прачытаныя як сьлед, усё засланілі двое прыдуркаў, якіх і не сыграеш як мае быць — бо давядзецца граць саміх сябе.

# Права першага голу

***14 красавіка 2005 памёр Люсьен Ляран, аўтар першага голу ў чэмпіянатах сьвету па футболе***

14 красавіка 2005 году на могілках у Бэзансоне быў праведзены ў апошні шлях чалавек, унёсак якога ў гісторыю складаецца з аднаго дотыку да футбольнага мяча. Але затое якога дотыку — гэта менавіта ён, Люсьен Ляран, форвард «Сашо» і францускай зборнай, 13 ліпеня 1930 году забіў гол у браму мэксыканцаў на першым чэмпіянаце сьвету ва Ўругваі. Першы гол на футбольных чэмпіянатах сьвету. На той час Лярану ішоў дваццаць трэці год.

Падзея адбылася на стадыёне «Пакітас» у Монтэвідэа ў прысутнасьці каля трох тысяч гледачоў. Так, усяго некалькіх тысяч — што й казаць, наведвальнасьць неверагодная. Стадыён быў маленькі, дый у вачах уругвайскіх заўзятараў ні Францыя, ні Мэксыка не былі фаварытамі... Лацінаамэрыканцы хадзілі збольшага толькі на сваіх, а выправіцца ва Ўругвай на чэмпіянат з Эўропы наважыліся адзінкі. І наогул, цалкам небеспадстаўна лічылася, што апрача ўругвайскай зборнай ды яшчэ суседзяў-аргентынцаў шанцаў тут ня мае практычна ніхто. Памяталі трыюмфы мясцовай каманды на папярэдніх Алімпіядах і самі эўрапейцы. Затое вось фінал Уругвай-Аргентына на навюткім стадыёне «Сэнтэнарыё» сабраў у Монтэвідэа амаль сто тысяч фанаў...



Але вернемся да матчу Францыя-Мэксыка. На 19-й хвіліне гульні Ляран адкрыў лік, а ўжо на 26-й хвіліне поле з-за траўмы пакінуў брамнік французаў Тэпо, месца якога заняў абаронца Шантрэль (замены тады яшчэ не дазваляліся). Французаў гэта, аднак, не зьбянтэжыла, і да перапынку Лянжыё і Машыно павялічылі лік да 3:0 на карысьць эўрапейцаў. На 70-й хвіліне мэксыканцу Карэньё ўдалося скараціць разрыў — але незадоўга да фінальнага сьвістку зноў вызначыўся Машыно: гульня скончылася разгромам зборнай Мэксыкі: 4:1.

У наступнай гульні супраць зборнай Аргентыны, дзе Францыя саступіла 0:1, Ляран быў траўмаваны ўжо ў першым тайме. Той чэмпіянат запомніўся шмат каму яшчэ і страшэннай грубасьцю і нізкім узроўнем судзейства. У трэцім матчы супраць чылійцаў, таксама прайграным, Ляран ужо наогул ня выйшаў на поле.

У выніку ў паўфінал таго першынства з эўрапейцаў трапілі толькі футбалісты Югаславіі, дзе з буйным лікам прайгралі аргентынцам. А чэмпіёнам, як вядома, стаў Уругвай. Што да гульнёвай кар'еры Лярана, то яна працягвалася да 1946 году. За зборную Францыі ён згуляў дзесяць матчаў і забіў два галы. Другая сусьветная вайна засьпела яго гульцом «Страсбуру», ён быў прызваны ў войска, трапіў у палон, выйшаў на волю... Вайна яшчэ ішла, але што дзіўна: у футбол усё адно гулялі, і ня толькі ў Кіеве, але і ў Бэзансоне, дзе Ляран зрабіўся гуляючым трэнэрам мясцовага клюбу...

Пасьля заканчэньня кар'еры ён пражыў яшчэ ні многа ні мала — 59 гадоў. Ці памятаў ён, 97-гадовы стары, перад сьмерцю той гол?

«Кожны раз адно і тое самае, — бурчаў ён у апошнім інтэрвію. — Як забіваў, як забіваў... Памятаю, ясная справа. Тэпо выбіў мяч на Шантрэля, той на Лібэрацці, той абыграў абаронцу, навесіў — і я з ходу ўпячатаў мяч у кут. Мне і ў галаву не прыйшло, што гэты гол нейкі гістарычны...»

# Апошняе крэсла

*15 красавіка 1927 прачынаецца Іпаліт Мацьвеевіч Вараб'янінаў*

Так, менавіта ў гэты вясновы дзень і пачалася ягоная сумная гісторыя. У пятніцу 15 красавіка 1927 году...

«...Іпаліт Мацьвеевіч, як звычайна, прачнуўся а палове на восьмую і адразу ж прасунуў нос у старамоднае пэнснэ з залатой дужкай. Акуляраў ён не насіў. Аднойчы, вырашыўшы, што насіць пэнснэ негігіенічна, Іпаліт Мацьвеевіч накіраваўся да оптыка і купіў акуляры без аправы, з пазалочанымі аглоблямі. Акуляры зь першага разу прыйшліся яму да спадобы, але жонка (гэта было незадоўга да яе сьмерці), сказала, што ў акулярах ён — выліты Мілюкоў, і ён аддаў акуляры дворніку. Дворнік, хаця й ня быў блізарукі, з акулярамі звыкся і насіў іх з задавальненьнем.

„Бонжур!“ — прасьпяваў Іпаліт Мацьвеевіч самому сабе, спускаючы ногі з ложка. „Бонжур“ сьведчыла пра тое, што Іпаліт Мацьвеевіч прачнуўся ў гуморы. Прамоўленае падчас прабуджэньня „гут морген“ зазвычай значыла, што печань сваволіць, што пяцьдзясят два гады — гэта ня жарты і што на двары сёньня вогка».

Спроба двух журналістаў напісаць авантурны сатырычны раман скончылася зьяўленьнем на сьвет самай сьмешнай і самай антысавецкай кнігі ў савецкай літаратуры. Тэкерэйшчына канца нэпу, бляклы бляск былой эпохі напярэдадні першай пяцігодкі, «гразь зьзяе ў сьвятле месяца, як антрацыт». Раман, у якім усіх любіш і нікога не шкада.



Дзень, у які жыцьцё Іпаліта Мацьвеевіча зьмянілася такім карэнным чынам, быў для Савецкага Саюзу не такі ўжо і звычайны. Зрэшты, у самой кнізе вельмі добра перададзена тое, што звычайных дзён у тую вар'яцкую эпоху проста не існавала. 15 красавіка 1927 Савецкі Саюз усталяваў дыпляматычныя стасункі з Швэйцарыяй (і адразу прыгадваецца кравец Журкевіч, які ў вялікім доме «Наркоминдела» «строчыць фракі» для савецкіх дыпляматаў). Сталін у часопісе «Бальшавік» адказвае тав. Ян-скаму пра тры асноўныя лёзунгі партыі па сялянскім пытаньні. Газэты пішуць пра пераварот у Кітаі. Працягваецца барацьба зь «левай апазыцыяй» Троцкага — пакуль яшчэ ў межах унутрыпартыйнай палемікі, але ўжо зь ледзь прыхаванай прагай крыві. Праз тры дні адкрыецца зьезд Саветаў, на якім будуць вызначаныя прынцыпы пяцігадовага плянаваньня эканомікі. У гэты дзень таксама публікуецца пастанова СНК СССР «Аб узмацненьні дзейнасьці Народнага Камісарыяту Працы Саюзу ССР, народных камісарыятаў працы саюзных рэспублік і іх мясцовых органаў у галіне аховы працы і рэгуляваньня заробку». А грамадзянін І.М. Вараб'янінаў, які пачуваецца даволі няўтульна сярод усёй гэтай вакханаліі няўклюдных абрэвіятураў і трохпавярховых летуценьняў, ходзіць туды-сюды па пакоі, у якім памірае цешча, і на душы ў яго гідка.

Што цяпер азначае для нас гэтая кніга? Ці састарэла яна і патрабуе «глязэтавай труны з кісьцямі»? Ці пераўжыве яна апошняга савецкага чалавека? Можна меркаваць, што так. Бо і тады, калі апошні савецкі чалавек памрэ (а да гэтага яшчэ далёка), цуду літаратуры ў ёй хопіць яшчэ на тысячагодзьдзе. Цікава было б прачытаць яе вачыма сучаснага шаснаццацігадовага камсамольца — з чаго ён сьмяецца і ці сьмяецца, чытаючы яе, наогул. Але страшна. Раптам ён ужо ня ўмее — сьмяяцца, чытаць, думаць. І ўвесь цуд будзе змарнаваны, як апошняе крэсла.

# Радасьць паразы

*16 красавіка 1947 упершыню ўжыты выраз «халодная вайна»*

«Мы за мір, вайны ня нужна, вось дэвіз атраду «Дружба». Мелася на ўвазе, што там, па той бок заслоны, яны ўсе за вайну: стаяць гэткімі скаўтамі дзесьці ў сваёй Оўклагоўме і скандуюць:

«За вайну! Прэч fucking peace, вось, Саветы, наш дэвіз!»

...Аўтарства выразу «халодная вайна» прыпісваюць дарадцы прэзыдэнта Трумэна Бэрнарду Баруху, які 16 красавіка 1947 году ўжыў яго ў сваёй прамове ў Паўднёвай Караліне. «Давайце не дазволім нас падманваць, — сказаў ён. — Мы знаходзімся ў стане халоднай вайны». Фраза спадабалася, яе падхапілі.

Той Бэрнард Барух быў асобаю прыкметнай. Палітык і фінансіст, а паводле савецкай тэрміналёгіі, спэкулянт: «спэкулянт — гэта чалавек, які назірае за будучыняй і дзейнічае яшчэ да таго, як яна надыдзе», казаў Барух і меў рацыю, бо ў Амэрыцы за спэкуляцыю не расстрэльвалі, а рабілі дарадцам прэзыдэнта. Яшчэ ў трыццатых ён пісаў: «Кожны ўзяты асобна чалавек дастаткова разумны і разважлівы. Але калі ён робіцца часткай натоўпу, дык адразу ператвараецца ў ідыёта. Сьвет ведаў натоўпы лінчавальнікаў і крыжовыя паходы, наплывы людзей у банкі з патрабаваньнем вярнуць уклады і пажары, якія, калі б людзі не панікавалі, маглі б абысьціся без ахвяраў. А нядаўна ўзьнік цэлы культ натоўпу — моладзь вучыцца танцаваць ва ўнісон, як лемінгі».



Танцаваць і сьпяваць: «мы за мір, вайны ня нужна»...

Хаця існаваў чалавек, які памераў новай вайне тэмпэратуру раней за Баруха. Гэтым чалавекам быў Джордж Оруэл, які ў кастрычніку 1945-га апублікаваў эсэ «Вы і атамная бомба». Але да пісьменьнікаў прыслухоўваюцца радзей, чым да спэкулянтаў. Ня верац, і правільна робяць. Зь імі кашы ня зварыш. І вайны не разагрэеш.

Кожны савецкі чалавек — вэтэран халоднай вайны. Нават той, каму пажыць пад сярпом і молатам давялося нядоўга. Нам, па вялікім рахунку, усім пасьведчаньні трэба выдаць і пуцёўкі бясплатныя ў Турцыю, малако наліваць бясплатнае і мэдалі на грудзі начапіць: «За абарону тылу». Нас трэба піянэрам паказваць, пакуль мы ня вымерлі, каб мы сядзелі ў сьветлых і прасторных клясах, пілі буржуйскую гарбатку і задуменна глядзелі ў чыстыя дзіцячыя вочы: «А вось яшчэ быў на фронце выпадак...»

Бо той тыл фактычна і быў фронтам. Палітінфармацыі, «Міжнародная панарама», шпіёнаманія, грамадзянская абарона, «Зарніца», першыя савецкія баевікі, дзе ворагам быў нязьменны амэрыканец. Дзядзя Сэм. Забі амэрыканца. Мішэні мелі сылюэты чалавека «адтуль». Усе гарэлі халодным полымем у гэтым інфэрнальным савецкім танку: і дзеці таксама.

...На паўночнакарэйскім дзяржаўным сайце naenara.com.kp заўжды можна было знайсьці нямала займальных матэрыялаў. Галоўны інжынэр Пхэньянскай шкарпэтачнай фабрыкі Хан Сон Хо ганарыцца, што ён грамадзянін наймацнейшай дзяржавы пад гэтым небам. А Чвэ Гён Хо, начальнік электрапечы першага цэху сталеліцейнага аб'яднаньня «Чхоліма», заклікае закінуць у сваю печку ўсіх маньякаў ядзернай вайны. «Галоўным зачыншчыкам стварэньня цяперашняй суворай сытуацыі ёсьць адміністрацыя Белага дому і ваяўнічыя элемэнты Пэнтагону, якія шалеюць з мэтай зь пірацкай лёгікай пасягнуць на наш сувэрэнітэт і разбурыць нашую дастойную сыстэму!» — піша ён «у газету». — «Няма ў сьвеце тых, хто здольны перамагчы наш народ і нашае войска!»

Печка таварыша Хо занятая тым, што разаграе «халодную вайну», як выменяная ў кітайцаў мікрахвалёўка. Праўда, ягоную «наймацнейшую дзяржаву» да звышдзяржаваў неяк рука не падымаецца аднесьці. Бомба — гэта яшчэ ня ўсё. А нам вось у свой час пашанцавала.

# Свабода ў кубе

*17 красавіка 1961 на Кубе адбываюцца баі на Плая-Хірон*

Куба, любоў мая,
Востраў зары барвовай...

Гэтак сьпяваў Іосіф Кабзон, а за ім і ўвесь шматгалосы савецкі народ, адпаведна акцэнту, службоваму становішчу і вакальным дадзеным. Рамантыка часам моцна засьціць вочы. У гэтай рамантычнай цемры адрозьніць рэвалюцыянэра ад нягодніка гэтаксама цяжка, як героя-палюбоўніка ад Героя Сацыялістычнай Працы. А асабліва цяжка робіцца, калі высьвятляецца, што рэвалюцыянэрамі, палюбоўнікамі і героямі ў гэтым цёмным пакоі ёсьць усе прысутныя без выключэньня.

Уначы 17 красавіка 1961 году марскі дэсант, складзены з кубінскіх эмігрантаў, высадзіўся ў сябе на радзіме ў затоцы Качынас, каб паспрабаваць скінуць рэжым Фідэля.

Каля дзьвюх тысяч чалавек, пераважна студэнты і былыя вайскоўцы Батысты, узброеныя ў Амэрыцы, прынялі бой з арміяй Кастра ў раёне Плая-Хірон — і гэта была толькі частка пляну ўварваньня, хаця і адна з найважнейшых. Спачатку ім удалося замацавацца на ўзьбярэжжы, але потым урадавыя войскі, зброя ў якіх была пераважна савецкай вытворчасьці, на працягу трох дзён толькі й рабілі, што грамілі няпрошаных гасьцей. Уварваньне скончылася правалам, грамадзянская вайна на Кубе згасла, як сьлед не разгарэўшыся. Згубіўшы каля паўтараста чалавек забітымі і 1300 чалавек палоннымі, эмігранты адступілі і эвакуаваліся назад у ЗША.

Можна ўявіць сабе гэты дэсант — як яны высаджваюцца ўначы на родны бераг, і кожны ведае, што, напэўна, ідзе на верную сьмерць. І кожны не сумняваецца, што ідзе на яе за свабоду. Савецкія байкі пра наймітаў даўно сьпісаныя ва ўтыль: каля Плая-Хірон кубінцы ваявалі з кубінцамі, і ваявалі за ідэю. За сваё бачаньне Кубы, волю якой яны ўяўлялі па-рознаму. Гэтаксама пяць гадоў перад тым за некалькі соцень кілямэтраў на ўсход ад Плая-Хірон і затокі Качынас высаджваліся з купленай у амэрыканцаў яхты самі барбудас. Праўда, яхта была старая і мела цечу, ніякія войскі і ўрады іх не падтрымлівалі і ў паветры не кружлялі савецкія самалёты, а ля берага ня плавалі савецкія эсьмінцы — але факт: іхнае ўварваньне было ня меншым нахабствам і ня менш антыўрадавай ак-



цыяй, чым гэтая інвазія 1961-га. Цяпер жа бакі памяняліся месцамі.

І ўсё ж тым, хто высадзіўся на Плая-Хірон, чагосьці не хапала. Таго, без чаго яны былі асуджаныя на паразу.

Харызмы.

«Мне ня трэба ўлады, — усьміхаючыся, казаў Кастра пасьля перамогі сваёй рэвалюцыі. — Паеду ў вёску і буду працаваць там адвакатам». Неўзабаве ён закрые апазыцыйныя газэты, ліквідуе незалежныя прафсаюзы, кіне ў турму іншадумцаў і навадніць краіну агентамі свайго «чырвонага гестапа» — DSE. Расстрэлы зробяцца звычайнай справай. А самым любімым спосабам падымаць кубінскую эканоміку зробіцца выкарыстаньне працы зьняволеных, якіх у краіне стане значна больш, чым турыстаў...

Ад барвовай зары на высьпе Свабоды яе жыхары ўцякалі, як ад чумы, яшчэ да падзеяў на Плая-Хірон. Пасьля 1961-га ўцёкі зрабіліся масавымі. Кубінскія бальсэрас, людзі, якія на сваіх плытах, бальсас, плывуць у Флорыду і на Гуантанама, ужо нікога не зьдзіўлялі. Палымяныя рэвалюцыянэры, якія дарваліся да ўлады, каб вызваліць няшчасных працоўных ад крывавага Батысты, закідвалі зь верталётаў тыя крохкія плыты мяхамі зь пяском. У 1994-м, за адзін год, так загіне сем тысяч чалавек. Людзі пусьціліся наўцёкі: ад бяспраўя, прымусовай працы, канцлягераў, жабрацтва і пошласьці дыктатуры. У васьмідзясятых у Гаване каля пасольства Пэру сто дваццаць пяць тысяч кубінцаў будуць патрабаваць ад уладаў даць ім выязныя візы. І хто — самыя бедныя, простыя секары трысьнягу, самы рэвалюцыйны, здавалася б, элемэнт... Эх, Куба, любоў мая... Не аценілі яны той перамогі. Ненадоўга хапіла харызмы.

# Eine kleine Nachtmusik

***18 красавіка 1928 Горкі друкуе артыкул пра «музыку тоўстых»***

Музыка — гэта тое, што нельга выказаць словамі. Калі ты не Максім Горкі, вядома. Максім Горкі мог выказацца словамі нават там, дзе іншыя саромеліся або апускалі рукі — пра Салаўкі, пра Беламорскі канал, напрыклад, пра тое, як на ягоным будаўніцтве «праўда калектыўнай працы пахіснула ў гэтых паўлюдзях, ідалапаклоньніках прыватнай уласнасьці, Заалягічнае індывідуальнае».

А вось можна пра джаз, Аляксей Максімавіч?

Отчего ж нельзя, ізволь, голубчік.

18 красавіка 1928 году ў газэце «Праўда», № 90, выйшаў вялікі артыкул вялікага пралетарскага пісьменьніка «Пра музыку тоўстых». Артыкул не артыкул, хутчэй — эсэ, хаця такімі словамі тады ня надта раскідваліся. Першы савецкі тэкст, дзе вуснамі спэцыяліста патлумачана, што такое джаз, і дзе рэцэпт схудненьня для ягоных слухачоў.

Пачынаўся ён словам «Ноч». Ноч была італійская — Горкі пісаў сваё эсэ ў Сарэнта, даволі далёка і ад «Праўды», і ад першай пяцігодкі, і ад ОГПУ. І вось там, пад італійска-фашыстоўскім начным небам, у цудоўнай цішыні, сядзіць вялікі пралетарскі пісьменьнік і гартае лісты, дасланыя яму захопленымі чытачамі. Гартае і думу думае: дум, дум, дум...



Пра Вавілава, пра Мічурына, пра Паўлава і Рэзэрфорда... І тут суседзі, а трэцяй гадзіне ночы, без абвяшчэньня вайны, раптам уключаюць радыё — і ночы няма, як не было, і цішыні больш няма, і наогул — быццам бы нябёсы адчыніліся, і адтуль проста на галаву вялікага пралетарскага пісьменьніка звалілася бомба, мацнейшая за Фаўста Гётэ.

«*...раптам у чулую цішыню пачынае суха стукаць нейкі ідыёцкі малаточак — раз, два, тры, дзесяць, дваццаць стукаў, і ўсьлед за ім, быццам кавалак гразі ў чыстую, празрыстую ваду, падае дзікі віскат, сьвіст, грукат, енк, роў, трэск, прарываюцца нечалавечыя галасы, што нагадваюць конскае ржаньне, чуецца рохканьне меднай сьвіньні, лямант аслоў, любоўнае крумканьне вялікай жабы, увесь гэты абразьлівы хаос шалёных гукаў падпарадкаваны рытму ледзь улоўнаму... паслухаўшы гэты лямант хвіліны дзьве-тры, пачынаеш міжволі ўяўляць, што гэта грае аркестар вар'ятаў, якія зьехалі з глузду на сэксуальнай глебе, а дырыжорам у іх нейкі чалавек-жарабец, які махае агромністым фаласам*».

Спачатку Горкі ня піша: джаз, ён піша «факстрот». Факстрот і «сутаргі чарльстону». Але потым зьяўляецца і «джаз-банд». «Джаз-банд нэграў, якія сьмяюцца», назіраючы, як іхныя белыя ўладары эвалюцыянуюць у дзікуноў. Джаз — гэта тое, што супраць Бэтговэна і Моцарта, гэта сэкс замест любові:

«*Нечалавечы бас раве ангельскія словы, аглушае нейкая дзікая труба, нагадваючы крыкі раззлаванага вярблюда, верашчыць дрэнненькая дудачка, разьдзіраючы вушы, крэкае і гугнява гудзе саксафон. Раскачваючы тлустыя сьцёгны, шаргочуць і тупаюць тысячы, дзясяткі тысяч тлустых ног. Нарэшце музыка тоўстых канчаецца аглушальным грукатам... Зноў сьветлая цішыня, і думкі вяртаюцца дадому, адкуль селькор Васіль Кучаравенка піша мне...*»

Селькор піша пра старую, якая хоча запісацца ў камсамолкі.

# Армагедон па-тэхаску

*19 красавіка 1993 ФБР штурмуе сядзібу, якая належала сэкце Дэвіда Корэша*

Была такая кніжка ў савецкі час — «Вецер рве павуціньне». Абсалютны бэстсэлер. Аўтар — Міхаіл Герчык. Пра тое, як ідэйна выхаванае грамадзтва ратуе дзяцей ад сэктантаў, што ачмураюць неакрэплыя душы, карыстаючыся нездаровым кліматам у сям'і і хібамі выхаваўчай камсамольскай работы на месцах. Перавыдаць бы яе па-беларуску. Ды на ангельскую перакласьці. Там зразумеюць. Асабліва ў Амэрыцы — дзе камсамольскай работы няма зусім, а неакрэплых душаў пры гэтым хапае зь лішкам, і таму сэкты растуць, як галюцынагенныя грыбы.

Вось і 19 красавіка 1993 году каля гораду Ўэйка, штат Тэхас, вецер мясцовага правасудзьдзя ў выглядзе спэцатраду ФБР колькасьцю сямсот штыкоў, а таксама танкаў і гелікоптэраў, разарваў адно вельмі моцнае сэктанцкае павуціньне, якое ўжо даўно муляла вочы грамадзтву. Пасьля пяцідзесяці дзён аблогі была ўзятая штурмам сядзіба «Маўнт Кармэл», дзе заселі адэпты рэлігійнай сэкты «Галіна Давіда». Падчас апэрацыі ў сядзібе пачаўся пажар: ці то самі сэктанты падпалілі свае пабудовы, каб ворагу не дасталіся, ці то перастараліся тыя, хто браў удзел у апэрацыі — так і засталося невядома.



Загінула каля 90 адэптаў новага культу, у тым ліку малыя дзеці. А зь імі — і той, каму ахвяры верылі так безаглядна, як вераць толькі фюрэру або богу, той, хто прывёў сотню чалавек да такога жудаснага канца. Вэрнан Гоўэл, ён жа Дэйвід Корэш — гуру, збаўца, прарок, муж усіх жыхароў «Маўнт Кармэл» жаночага полу, а таксама іх духоўны бацька, дзядзька, сват, брат, правадыр, агнец Божы і хросны айцец. Яго рэлігія дазваляла яму спаць зь дзесяцігадовымі, дурыць галовы дарослым, гандляваць зброяй і бесьсьмяротнасьцю, уваскрашаць мёртвых, маніпуляваць пастакамі і зусім не замінала, прыбіраючы канкурэнтаў у нялёгкай мэсіянскай справе, зьвяртацца ў дзяржаўны суд штату Тэхас і іншыя адпаведныя зямныя інстанцыі.

Чаму ж так сувора: танкі, гелікоптэры, сямсот узброеных агентаў супраць сотні няшчасных цывільных вернікаў з махляром на чале? Задоўга да 19 красавіка, яшчэ ў лютым, ФБР паспрабавала прарвацца ў сядзібу з выкарыстаньнем больш элегантных мэтадаў. У «Маўнт Кармэл» быў засланы свой Шарапаў, было арганізавана спэцназіраньне і ў рэшце рэшт быў праведзены штурм сіламі некалькіх агентаў, якія меліся захапіць сядзібу зь мінімальнымі стратамі для яе ачмуранага насельніцтва. Але ачмуранае насельніцтва хутка разгадала няхітры плян: у выніку перастрэлкі двое агентаў былі забітыя. Давідыяне прадэманстравалі, што маюць порах у парахаўніцах і жывымі не здадуцца. Пагатоў яны верылі ня толькі ў другое прышэсьце Хрыста, але і ў Армагедон — і агенты ФБР ідэальна падыходзілі на ролю сілаў зла, што выйшлі, выпіўшы кавы і сунуўшы ў кішэні свае прыгожыя значкі, на апошні бой супраць Хрыстова воінства. Так сядзіба трапіла ў доўгую аб-

логу, якая завяршылася 19 красавіка канцом «Маўнт Кармэл», містэра Корэша і ягоных падманутых акцыянэраў.

Зрэшты, гэта не спыняе новых карашоў сьвятога Духа і братаноў Айца і Сына, што ў Амэрыцы, што ў іншых частках сьвету. Людзі ў масе сваёй працягваюць заставацца легкавернымі тугадумамі. Год за годам уваскрашаюць мёртвых на выбарах, апытаньнях і мітынгах і дзівяцца пры гэтым: чаму пацыент не варушыцца? Кепска молімся? Нават такая звычайная рэч, як партыйная дысцыпліна, можа прымусіць людзей паверыць ня толькі ў тое, што другое прышэсьце пачалося, але і ў сілу круглых сталоў пры перамовах з палітычнымі крымінальнікамі. Круглыя сталы наогул здаўна лічыліся добрым сродкам выклікаць духаў — дзіўна, што і цяпер імі карыстаюцца, хаця, здавалася б, стагодзьдзе ўжо ня тое. За адмену санкцый супраць злачынцаў выступаюць тыя, дзякуючы каму іх, тыя санкцыі, увялі. Канца сьвету на Зямлі чакалі сотні мільёнаў адукаваных грамадзянаў. Кожны трэці расеец пазытыўна ацэньвае Сталіна. Кожны пяты жыхар плянэты лічыць, што іншаплянэтнікі жывуць сярод нас. Адным словам, вар'ятня. У што застаецца верыць?

Напэўна, толькі ў вецер.

# Атрад імя А. Дзюпэна

***20 красавіка 1841 апублікаванае «Забойства на вуліцы Морг» Эдгара По***

20 красавіка 1841 году ў часопісе «Graham's magazin», што выходзіў у Філядэльфіі, было ўпершыню апублікаванае апавяданьне Эдгара По «Забойства на вуліцы Морг». Першы ў сьвеце тэкст, які можна назваць сапраўдным дэтэктывам — але лепш не называць, бо ўсёй праўды гэтае простае, як ляск наручнікаў, слова так ці інакш ня скажа. Марыніна вось таксама дэтэктыўны аўтар, але пры ўсёй павазе ставіць яе побач з По — тое самае што параўноўваць Чыкацілу з Ганібалам Лектарам. «Забойства» і цяпер чытаецца на адным дыханьні — можна сабе ўявіць, як хвалявала яно тады: таямнічы Парыж (дзе бываў зусім ня кожны амэрыканскі чытач), ноч, два жаночыя трупы, загадка і яе тлумачэньне — настолькі ж нечаканае і эфэктнае, наколькі і лягічнае...

По працаваў тады рэдактарам у тым самым часопісе — і гэта быў адносна спакойны пэрыяд яго жыцьця. Яшчэ не захварэла на сухоты Вірджынія, хаця ў самых рысах яе тварру хваравітая фантазія По ўжо з жахам шукала прадвесьце будучай бяды; яшчэ не памутнеў яго магутны розум. У гэты час ён як ніколі нагадваў свайго героя: Агюста Дзюпэна, таго, хто здолеў разьвязаць справу пра здарэньне на вуліцы Морг фактычна за адзін дзень. І хто зрабіўся літаратурным дзядулем цэлай чарады цудоўных асобаў: тут і айцец Браўн, і Пуаро, і міс Марпл, і Глеб Жаглоў, і «Знатакі-Калабкі», і Анікін і нават інспэктар Жув — але самым вядомым зь іх ёсьць, безумоўна, містэр Шэрлак Голмс. Хаця сам знакаміты сышчык адгукаўся пра Дзюпэна ня надта прыхільна:



«...*Паслухаць вас, дык гэта вельмі проста, — усьміхнуўся я. — Вы нагадваеце мне Агюста Дзюпэна ў Эдгара Алана По. Я думаў, такія людзі існуюць адно ў раманах.*

*Шэрлак Голмс устаў і запаліў люльку.*

*Вы, напэўна, лічыце, што, параўноўваючы мяне зь Дзюпэнам, робіце мне камплімэнт, — сказаў ён. — А на мой погляд, гэты ваш Дзюпэн — недалёкі хлопец. Гэты прыём — зьбіваць з думак свайго суразмоўцу пасьля пятнаццацiхвілiннага маўчаньня, паверце, вельмі танны паказны трук. Ён, безумоўна, меў пэўныя аналітычныя здольнасьці, але яго зусім нельга назваць фэномэнам, якім, відаць, лічыў яго По*».

Пры гэтым і сам Голмс, і Ўотсан, і нават лёнданская паліцыя ў асобе Лэйстрэда (як і парыская ў «Забойстве» — «занадта хітрая, каб убачыць сутнасьць») абавязаныя сваім існаваньнем перадусім магіі вуліцы Морг. Ну, і самому магу, таму, хто дазваляў сабе толькі адну раскошу — кнігі, і больш за ўсё на сьвеце любіў ноч, паэзію і адзіноту. Як бы яго ні звалі: Дзюпэнам, По або проста чорнай птушкай.

# Справа сямейная

*21 красавіка 753 да н. э. — дзень заснаваньня Рыму*

Радзіма, як вядома, пачынаецца з карцінкі ў тваім буквары, а горад пачынаецца з баразны. 21 красавіка 753 году да нашай эры такая баразна, праведзеная вакол Палятынскага ўзгорку каля ракі Тыбр, стала пачаткам і мяжой новага места, ды не якога-небудзь там, а Вечнага.

Ягоны заснавальнік Ромул быў чалавек малады — ваўчынае малако яшчэ не абсохла як сьлед на ягоных вуснах, а ён ужо марыў пра тое, як будзе кіраваць уласным горадам. Пытаньне толькі, якім. На Альбу Лёнгу, месца свайго нараджэньня, Ромул з братам мелі поўныя правы — але жыць там, дзе цябе паспрабавалі ўтапіць, як кацяня, ня вельмі хацелася. Маса непрыемных успамінаў: маці, якую добры дзядзька Амуліюс загадаў забіць у іх на вачах — і за што? За тое, што цалавалася зь нейкім Марсам... крыкі, кроў... потым цесны кошык, вада, якая сачылася з усіх дзірак... Нясмачная, з прысмакам гнілі. Ня тое што малако, якое зьявілася так нечакана і менавіта тады, калі яны з братам думалі, што зараз памруць з голаду. Некалькі радоў апэтытных смочак, хапай любую, цёплая шэрая поўсьць, ад якой ішоў пах сапраўднага дома, і гэты шурпаты язык, ад дотыкаў якога яны з братам ажно засьмяяліся, так было сьмешна і козытна. Але тое малако — ммм, малако было што трэба, ягоны смак ён ніколі ў жыцьці не забудзе. Не, лепш пабудаваць новы горад. І вось месца, здаецца, знойдзенае.



Праўда, толькі што ён закапаў тут паблізу мёртвага брата... Але той быў сам вінаваты: нашто было скакаць сюды-туды праз мур, які Ромул акурат пачаў узводзіць. Яму некалькі разоў было сказана: Рэме, не скачы. А той ня слухае, скача, як казёл, ды яшчэ зубы шчэрыць: «Пясок ды палена, мур да калена!» Намякае, што вось так ён мой горад, калі што, і будзе браць — гоп: і тут. Гоп: і назад. З усімі маімі рэчамі, рабамі і палоннымі сабінянкамі.

«Рэме, татам нашым Марсам прашу: не скачы. Павалішся яшчэ, лоб разаб'еш».

А той толькі сьмяецца ды ну далей скакаць. Гімнаст.

«Рэме, маткай нашай Рэяй Сыльвіяй малю, канчай скакаць. Ідзі лепш дапамажы».

Пясок ды палена...

Птушкі ж ясна патлумачылі, калі яны паспрачаліся, дзе капаць і каму кіраваць. Найпрасьцейшае матэматычнае раўнаньне: дванаццаць птушак больш за шэсьць. Ды дзе там. А цяпер вось скача. І ломіць мне муры.

«Ну вось, я ж казаў».

І гэта ж ён таксама не выпадкова зрабіў. Ён жа прадэманстраваў, як будзе руйнаваць мой горад: вось так, нагой адзін раз дакранецца — і няма вечнага гораду. Эх, братка...

«Рэме, хадзі сюды. Паглядзі, што гэта там на дне. Мо скарб які?»

І тады ён нарэшце сьціх, падышоў, нахіліўся... Вечны горад, вечная памяць.

# Дывэрсія ў Траецкім

*22 красавіка 1984 — выступ «Мроі» у Траецкім прадмесьці*

У дзевяностыя гады мінулага стагодзьдзя выступы беларускамоўных рок-гуртоў open air, пад шэра-блакітным менскім небам зусім не былі нейкай рэдкай зьяваю. Напрыклад, адным з такіх месцаў запомніцца Парк Чалюскінцаў зь ягонымі разьбітымі лаўкамі, густым кустоўем і амаль пушчанскімі гушчарамі, у якім так добра пілося, курылася, цалавалася, білася, чыталася, размаўлялася пра ўсё на сьвеце і — слухалася розныя рокі. Рок па вакацыях, да вакацыяў, падчас вакацыяў... неяк так называліся тыя фэстывалі ў самых розных месцах, карацей, суцэльнае «Pretty vacant». «Новае неба», «Уліс», «Крама» і, вядома, легендарная «Мроя», што неўзабаве музычна зьменіцца амаль да непазнавальнасьці, зрабіўшыся ня менш легендарным... легендарнымі... легендарнай... ным... нам... ну, карацей, НРМ. На чале зь Лявонам Вольскім, чалавекам, дзякуючы якому гэтыя няўклюдныя радкі пішуцца цяпер менавіта па-беларуску, а ня, скажам, на тамбоўскім дыялекце вялікамагучай мовы.

Такія канцэрты пад адкрытым небам успрымаліся юнай публікай як нешта само сабой зразумелае для часоў незалежнасьці і яшчэ вэгетарыянскага лукашызму. Лявона вітаў стракаты натоўп, у якім былі і нацыянальна сьвядомыя студыёзусы, і пэтэвэшнікі з ускраін, і інтэлектуалы, будучыя і былыя, і прадстаўнікі ўсіх менскіх субкультураў, і проста аматары «патусіць на чалюсьцях». Немалы, трэба сказаць, натоўп, што лямантаваў «Давай, Лявон!» і з зайздрасьцю паглядваў на тых абраных, хто быў знаёмы з мрайчукамі-энэрамаўцамі яшчэ ў васьмідзясятыя. Наўрад ці нехта з тых нэафітаў здагадваўся, што ўпершыню «Мроя» грала на адкрытымі паветры ў цэнтры гораду яшчэ ў 1984-м. У часы ня менш легендарныя — і да нядаўніх часоў незаслужана ігнараваныя.



22 красавіка 1984 году, калі на набярэжнай Сьвіслачы ў Траецкім прадмесьці ладзілася выстава маладых мастакоў, так званая «Выстава аднаго дня» ў межах тыдня выяўленчага мастацтва, на ганку кнігарні «Вянок» выступіла з цалкам беларускамоўнай праграмай тады яшчэ зусім не такая знакамітая «Мроя». Для Менску гэта было нешта абсалютна новае: на ганку, беларускамоўнае і ў такім выглядзе...

Як можна вычытаць у «Бібліятэцы Свабоды», у Лявона тады былі вельмі доўгія валасы — ня проста доўгія, а Вельмі Доўгія. Уладзімер Давыдоўскі перад войскам пастрыгся, але валасы меў пафарбаваныя ў радыкальны чорны колер. Алег Дземідовіч таксама пафарбаваўся — у жоўты. Усё гэта — выгляд, колеры, мова, музыка — было наўпроставым выклікам таму грамадзтву, у якім толькі за валасы цягалі ў міліцыю, прымусова стрыглі, вырывалі завушніцы, выключалі з камсамолу і ставілі на ўлік. А за мову па-за гета маглі і артыкул уляпіць. Грамадзтву, на вяршыні якога сядзеў сьмяротна хворы Чарненка з добрымі каматознымі вачыма і замілавана чытаў свой любімы верш: «Выхажу адзін я на дарогу...» А тут усё як адна сплянаваная ідэалягічная дывэрсія: валасы, рок, Траецкае, мастакі, мова, «Майстроўня». У год Орўэла, у дзень нараджэньня Леніна. Гісторыя аднаго цуду, як напісаў Сяргей Дубавец. Некалькі сотняў чалавек вакол кнігарні «Вянок», гіпі і панкі, і ніхто ня ведае слова «Крамбамбуля».

# Другі пасьля бога

*23 красавіка 1616 памёр Ўільям Шэксьпір*

У 1759 годзе гаспадар дому пад назвай «Нью-Плэйс» у ангельскім горадзе Стратфардзе-на-Эйване правялебны Фрэнсіс Гастрэл загадаў зруйнаваць сваё жытло. «Бо ўсё ходзяць і ходзяць, — сказаў ён са злосьцю сапраўднага пурытаніна. — У вокны зазіраюць, цагліны са сьцяны выкалупваюць... А чаго ходзяць? Тэатар тут ім, ці што?»

Таму і хадзілі, таму і калупалі, ужо тады, а мелі б машыну часу, дык і фатаграфаваліся б — бо менавіта ў гэтым доме 23 красавіка 1616 году памёр самы вялікі з ангельскіх драматургаў і паэт, роўных якому знойдзецца няшмат. Чалавек, творы якога ставяць і чытаюць ужо чатырыста гадоў, вучаць на памяць, перакладаюць і цытуюць — паводле некаторых зьвестак, ён наогул другі ў сьвеце паводле цытаванасьці пасьля Біблії. Аўтар, здольны і цяпер выклікаць сьлёзы ня менш горкія і прысмак у роце ня менш даўкі, чым на мяжы тых далёкіх стагодзьдзяў, што яшчэ раз даводзіць веліч боскай задумы (Госпад быў вялікі біяхімік). І для гэтага нават не абавязкова даваць Рамэа джып, а Джульеце стрынгі — яны і ў тым, старамодным антуражы глядзяцца цяпер цалкам сучасна. Ўільям Шэксьпір, геній-самавучка, чалавек якога не было.

Чытаць усе гэтыя дасьледаваньні, што цягнуцца сумнай чарадою ажно з XIX стагодзьдзя, займальна і гідкавата: не пісаў, ня жыў, ня меў, не прыцягваўся. Ды ён наогул пісаць ня ўмеў, гэты ваш ці то Шакспер, ці то Шустэр, ці то наогул Схакеспеарэ — вы толькі зірніце на ягоны почырк (эх, ня бачылі яны почырку Чэхава). Ня граў у «Глобусе» перад самай патрабавальнай у Лёндане публікай, якая стоячы пацягвала эль, грызла арэхі і пакідала пасьля сябе памаранчавы кілім з апэльсінавых шкурак. Не напісаў свае п’есы, дзе даўжыня рэплік пралічана такім чынам, каб актор, які меўся ў наступнай сцэне прамаўляць з балькона, пасьпеў падняцца за гэты час угару. Але ж і праўда: Шэксьпір, як вядома, пакінуў у сваім тэстамэнце жонцы другі (!) па якасьці ложак у доме, дочкам — фунты, а нам — загадку: чаму ў тым тэстамэнце ні слова няма пра рукапісы, кнігі, ганаровыя граматы і выразкі з газэтаў з ухвальнымі рэцэнзіямі? Там усё пра грошы ды пра грошы, ды пра той недарэчны ложак. І ні слова пра літаратуру.



Зрэшты, загадка, ці быў ён аўтарам сваіх санэтаў, п’есаў і хронік, не такая ўжо цікавая. У параўнаньні з пытаньнем, як ён напісаў такое, усіх гэтых «Макбэтаў», «Генры» і «Гамлетаў» — сын пальчатачніка, бедны актор, што гучала ў пачатку яго кар’еры як гучала слова «футбаліст» перад першай сусьветнай. Не скончаўшы ніякіх унівэрсытэтаў і школаў маладога пісьменьніка. Вядома, можна сказаць, што сакрэт Шэксьпіра такі самы, як і ў любой літаратуры — па-першае, ён быў магам, а па-другое, пісаў пра рэчы, што яднаюць каралёў, пальчатачнікаў, крытыкаў і футбалістаў: каханьне, здрада, сьмерць, вернасьць, апантанасьць. Дзюма-бацька, упершыню пабачыўшы на сцэне Гамлета, расчуліўся так, што параўнаў свае адчуваньні з шчасьцем сьляпога, якому дараваны зрок, і радасьцю Адама раніцай пасьля ягонага стварэньня. «...Ён драматычны, як Карнэль, камічны, як Мальер, філёзаф, як Гётэ, і жарсны, як Кальдэрон. У ім столькі тыпаў, колькі маюць у сабе творы ўсіх названых драматургаў, разам узятых... Ён стварыў больш за ўсіх, за выключэньнем самога Бога».

Бірнамскі лес з 12 трагедый, 16 камэдый, 6 гістарычных хронік, 154 санэтаў і лексыкону на 15 000 словаў ідзе на сумніўцаў Шэксьпіравага таленту шчыльнай сьцяною. Той гэта Шакспер ці ня той, але асоба, якую мы лічым такой, безумоўна, перамагла ўсіх скептыкаў яшчэ пры жыцьці. Герб Шэксьпіра, залаты шчыт са срэбнай дзідай упоперак, упрыгожвае надпіс «Не бяз права» — і чамусьці не-не, а прымроіцца ў канцы гэтай фразы нейкі смайлік, вось такі — ;)

# Міні запаволенага дзеяньня

*24 красавіка 1967 хунта ў Грэцыі забараняе міні-спадніцы*

Жаночыя ногі, як вядома, заўжды ўяўлялі сабой сур'ёзны выклік грамадзтву. Вось яны нясьпешна крочаць па вуліцы, нахабна супрацьпастаўляючы сябе здароваму патрыятызму, усенароднай згодзе, палітычнаму кансэнсусу і іншым вечным каштоўнасьцям. Ужо самой сваёй формай гэтыя ногі пры кожнай нагодзе імкнуцца дзёрзка абвергнуць розныя непахісныя, асьвячаныя стагодзьдзямі ісьціны:

«Куля — дура, штых — маладзец»;
«У здаровым целе — здаровы дух»;
«Не наеўшыся, не наліжашся»;
«Kinder, Küche, Kirche»;
«Які Хомка — такая і жонка».

Зразумела, бессаромныя напаміны жаночых ног пра сваё існаваньне ніколі не заставаліся без адказу. У кожную гістарычную эпоху знаходзіліся адважныя і валасатыя асобіны мужчынскага полу, якія паўставалі супраць парушальніц парадку, здольных адной каленкай выбіць зэдлік з-пад ног грамадзкай стабільнасьці і адной сваёй лыткай учыніць шкоду на мільёны тэтрадрахмаў. Запомнім імёны галоўных змагароў з экстрэмізмам, хай сабе гэта і ня надта лёгка: Георгіяс Пападопулас, Ніколаас Макарэзас, Стыліянас Патакас... Хай будзе зямля Віньні-Пухам гэты героям. Сапраўдныя былі афіцэры іісьцінныя патрыёты Грэцыі.



Так, прыклад па-сапраўднаму прынцыповага змаганьня з жаночымі нагамі паказала ўсяму чалавецтву менавіта зямля Афрадыты, асфадэляў і асфаліі. 24 красавіка 1967 году, ужо на трэці дзень вайсковага перавароту, у выніку якога да ўлады ў Грэцкім каралеўстве прыйшлі згаданыя вайскоўцы, так званыя чорныя палкоўнікі, жаночым нагам у гэтай краіне быў дадзены дастойны адпор у выглядзе адпаведнага ўказу. Праўда, забараніць кабетам мець ногі хунта не магла, бо хто б тады і чым мясіў для краіны вінаград і аліўкі, і таму забараніла міні-спадніцы. Афіцыйна, строга, пад пагрозай арышту.

На час кіраваньня палкоўнікаў Грэцыя ператварылася ў нейкае падабенства вялікага праваслаўнага манастыра: «без доклада не входіть». Ніякіх элегантных шортаў, у якія ператвараюцца нагавіцы, ніякіх джынсаў, жаночых штаноў, касмэтыкі, рок-музыкі і іх — іх, квінтэсэнцыі сусьветнага зла: кароткіх, як грэх, спадніц. Дасталася і мужчынам, аналягам міні-спадніцы ў якіх былі названыя доўгія валасы. Нядаўняя сэксуальная рэвалюцыя была вымеценая з Грэцыі паганай мятлой, з ганьбай і праклёнамі, як гарадзкая лярва зь вясковай цэркаўкі.

Праўда, зусім ненадоўга. Міні вярнулася ў Грэцыю ў сямідзясятых, разам з дэмакратыяй і рэспублікай, якіх тут ня бачылі з часоў Сафокла і Эсхіла. Дарэчы, творы Сафокла хунта таксама пасьпела забараніць як экстрэмісцкія. Наогул, складзены палкоўнікамі «чорны сьпіс» зрабіў бы гонар любой спадніцы, нават калі яна горда завецца кілтам. Апрача міні, року і Сафокла, у тым сьпісе апынуліся Бэкет і Чэхаў, сіртакі і Сартр, Ёнэско і навука сацыялёгія, страйкі і біцьцё шклянак пасьля тосту, матэматыка і Троцкі, свабода слова і камэдыі Арыстафана. Усё карацейшае, чым да калена, вышэйшае за плінтус і прыгажэйшае за палкоўніцкую фуражку. Якой, у адрозьненьне ад міні-спадніцы, не заўсёды ёсьць чым пахваліцца.

# Першая галава

***25 красавіка 1792 у Парыжы адбылося выпрабаваньне першай гільятыны***

Позьняй ноччу 14 кастрычніка 1791 году грамадзянін Францыі Нікаля Жак Пэлецье трапіў у гісторыю. Яны з прыяцелем падкаравулілі на парыскай вуліцы Бурбон-Вільнёў аднаго мінака, што, уцягнуўшы галаву ў плечы, сьпяшаўся дахаты, добра адлупцавалі яго ды экспрапрыявалі на патрэбы душы і цела васямсот ліўраў і розныя каштоўныя паперы. Наўрад ці Пэлецье мог падазраваць у той момант, чым скончыцца для яго гэтая вясёлая начная авантура. Не, сам арышт не зрабіўся для яго нечаканасьцю, пад суд за падобныя забавы ён трапляў і раней… А вось далей пачаліся сюрпрызы.

Суд прысудзіў Пэлецье сьмяротнае пакараньне, прысуд быў пацьверджаны і наступнымі інстанцыямі. У студзені было канчаткова вырашана імем закону публічна пазбавіць начнога рабаўніка ягонага праклятага жыцьця. Але выканаць прысуд ніхто не сьпяшаўся. Пакуль асуджаны мардаваўся ў камэры гарадзкой турмы, гадаючы, чаму па яго не прыходзяць, каб павесіць на добрай старой шыбеніцы, у Нацыянальным Сходзе Францыі ішлі гарачыя дэбаты на тэму, якім чынам самая гуманная і справядлівая ў сьвеце дзяржава мусіць забіраць праклятыя жыцьці ў Пэлецье і яму падобных.

Куля, пятля, сякера? Газ? Вогнішча? Разрываньне на кавалкі? Тумба-юмба? Клетка з галоднымі тыграмі? Такія рэчы ў мінулыя эпохі заўжды былі справай густу, быццам выбар начынкі для круасана. Новая эпоха мелася адмяніць густы, скончыць з круасаннай практыкай ды лішняй крывёй і вызначыць адзін спосаб пакараньня для ўсіх: каралёў і рабаўнікоў, арыстакратаў і дэгенэратаў, пэйзанаў і партызанаў. Урэшце перамагла ідэя доктара Жазэфа Гіятэна, зь якой той насіўся яшчэ з 1789-га. Машына, казаў ён, анатам з адукацыі, толькі машына. Машына, якая будзе рэзаць галовы — хутка, танна, смачна і зусім не балюча. І да таго ж сучасна. Прафсаюз французскіх катаў адразу ж заявіў рашучы пратэст: прадстаўнікі гэтай прафэсіі добра нажываліся на асуджаных, якія почасту, каб усё прайшло без пакутаў, вымушаныя былі плаціць кату перад працэдурай — інакш ён мог і з трэцяга разу ня даць рады. І разводзіў бы рукамі на вачах у натоўпу: нешта не ідзе сёньня… Бывае…



Але час катаў зь сякерамі і ў прыгожых балахонах незваротна мінаў. Доктар Гіятэн ня быў вынаходнікам апарату свайго імя, падобнымі грамадзянарэзкамі карысталіся і задоўга да яго. Ён усяго толькі выразна сфармуляваў перавагі гігіены і гіятэны і прапанаваў выкарыстаньне апошняй у юрыдычных мэтах і ў дзяржаўных маштабах. Нават саму машыну спачатку ахрысьцілі Люізэтай, у гонар аднаго з прыхільнікаў Гіятэна, але ён не захацеў такой славы, дый гучала слова занадта гульліва як для зброі непадкупнай юстыцыі. Іншая справа — гіятэна-гільятына: у меру сувора і без какецтва.

25 красавіка 1792 году на Пляс дэ Грэв у Парыжы галава Нікаля Жака Пэлецье, якая пакацілася па эшафоце пад ногі знакамітаму кату Сансону, стала першай галавой, адсечанай новай машынай. «Парыская кроніка» горда пісала з гэтай нагоды: «Яна ня пэцкае рук чалавека забойствам сабе падобнага, а тая хуткасьць, зь якой яна насьцігае вінаватага, больш адпавядае духу закону. Закону, які хаця й можа часам быць вельмі строгі, але ня мае права быць жудасным у сваіх праявах». Затое публіка была расчараваная. Сам жа Пэлецье мог суцешыцца ў пекле тым, што яго не падманулі: не мінула і двух гадоў, як тая самая машына ў той самы спосаб адрэзала галаву самому каралю. Быццам нейкаму ліхадзею зь цёмных парыскіх завулкаў.

# Мірны Атам

*26 красавіка 1986 адбылася Чарнобыльская катастрофа*

Улада на тое і ўлада, каб жыць сёньняшнім днём — учора цікавіць яе пераважна толькі ў сувязі з чарговым парадам, а заўтра… Заўтра, пасьля нас, хоць патоп. Лягічна: жывем адзін раз, дык чаго пераймацца, пасьпець бы «асвоіць» тое, што дасталася так лёгка, як зь неба ўпала: зямля там, рэчкі розныя, лясы, паветра, жывёлкі і яшчэ гэтыя, як іх… а, ну так: лю-ю-юдзі. Уладзе не да календара. Вось жа, 9 жніўня 1945 году амэрыканскі самалёт скінуў на японскі горад Нагасакі атамную бомбу, ужо другую з прызначаных для Японіі, бо адной Хірасімы амэрыканскім генэралам падалося мала — больш за семдзесят тысяч чалавек было забіта, зруйнавана больш за пяцьдзясят тысяч будынкаў. А 9 жніўня 2012 году, як наўмысна, а можа, і наўмысна, у гадавіну той катастрофы, у Астраўцы на Гарадзеншчыне адбылася ўрачыстая цырымонія закладкі Капсулы з Пасланьнем Нашчадкам — на месцы будаўніцтва першай беларускай АЭС. Ня надта цікава, што там напісана. Па вялікім рахунку, словы ў тым Пасланьні мусілі б стаяць наступныя:

«Здароў, мутанты. Калі вы чытаеце гэтыя радкі, значыць, нехта ўсё ж выжыў. Як самаадчуваньне? Жывоцікі не баляць? Ядку хапае? Піце там больш чырвонага вінца, пры прамянёвай хваробе дапамагае. І прабачце нам, калі зможаце. Мы тут у 2012 былі дурныя і сквапныя, пляваць на вас хацелі, а гісторыя нас так нічому і не навучыла. Ні Кыштым, ні Чарнобыль, ні Фукусіма не пахіснулі нашай сьвятой веры ў Мірны Атам. Мы верылі ў яго, як дзікуны вераць у добрых духаў, як дзеці ў Дзеда Мароза, як салдаты ў геній фюрэра. Бывайце і не паўтарайце нашых памылак. Зь ядзерным прывітаньнем — вашыя тупыя продкі».



26 красавіка 1986 году а 1.23 ночы на савецкай Чарнобыльскай АЭС прыкладна за адзінаццаць кілямэтраў ад мяжы Украіны і Беларусі адбыўся ён — выбух. Вэрсіяў таго, зь якой прычыны, існуе з добры тузін. Чаму ён, мілы, пухнаты і ручны Мірны Атам, які яшчэ ўчора еў з рук моркву і дазваляў сябе гладзіць, раптам ашалеў, як загнаны ў клетку драпежнік, і выскачыў, разарваўшы ўсіх супрацоўнікаў заапарку, школьнікаў-экскурсантаў, замежных турыстаў і нават брыгаду спэцыяльна навучаных лаўцоў. І самая праўдзівая з вэрсій гучыць так: бо ён ніколі і ня быў Мірны, бо ў пагоні за зручнасьцю, эканамічнымі выгодамі

і прагрэсам чалавек ў пэўны момант папросту асьлеп і аглух, згубіўшы інстынкт самазахаваньня. Бо з асваеньнем ядзернай энэргіі быў пяройдзены нейкі крытычны пункт, пасьля якога толькі і застаецца, што прасіць прабачэньня ў тых, хто будзе жыць пасьля нас.

Распавядаць пра тую аварыю ўсё яшчэ ня мае сэнсу — наступствы адчуваюцца дагэтуль. Чарнобыль — гэта тое, якімі нас бачаць за мяжой. Чарнобыль і ўлада, якую мы не выбіралі. Гэта — Зона на месцы, дзе буяла жыцьцё. Гэта дзеці на бэрлінскім Hauptbahnhof, якія ганарацца, што пабывалі ў Нямеччыне, пажылі ў нямецкіх сем'ях, і ўсё дзякуючы такой цудоўнай ядзернай энэргіі. Гэта тысячы людзей рознага ўзросту, якія працягваюць паміраць ад наступстваў сучаснага погляду на энэргетыку. Гэта стракаты натоўп у Кёльне, узяты ў шчыльнае кальцо нязьменна карэктнымі паліцэйскімі: пратэстоўцы шчыра не разумеюць, як укласьці ў галовы тым, хто наверсе, што трэба часам зазіраць у каляндар і вучыцца на сваіх памылках. Гэта эколягі, якіх арыштоўваюць за нецэнзурную лаянку. Гэта расейцы, якія даводзяць, што ў Беларусі не бывае землятрусаў, і таму яны пабудуюць нам тут такую АЭС: зямлю есьці будзеш ад шчасьця і яшчэ й пальчыкі абліжаш. Гэта амаль восемдзесят адсоткаў беларускіх тэлегледачоў, якія на дзяржаўнай (!) тэлевізіі недвухсэнсоўна выказаліся супраць АЭС у Астраўцы — нават іх, гледачоў БТ, верны электарат, ніхто не паслухаў. Гэта высокія, падобныя да гімнастаў, нямецкія ветракі ўздоўж чыгункі — як яшчэ ня згаслая надзея на чалавечы розум. Чарнобыль падзяліў нас на тых, хто нарадзіўся пасьля яго, перад ім і тых, хто нарадзіўся ў той, 1986 год. Год Атаму, выгоднага, як бомба ў каструлі з супам, і мірнага, як бамбардзіроўшчык у небе над Нагасакі.

# Цяжар бронзы

*27 красавіка 2007 у Таліне дэмантавалі статую савецкага салдата*

«Калі мой дзед быў у Бэрліне, у яго ніхто не пытаўся пра візу». Як высьветлілася, у сьвеце ўсё яшчэ хапае індывідуўмаў, у якіх гэтая пошлая фразачка зь семкавым шалупіньнем на верхняй губе і вялікай, як кулак пітэкантрапа, прэтэнзіяй на дасьціпнасьць здольная выклікаць гэткую самую пошлую і ганарыстую ўсьмешачку.

Пра гэтага агульнага бязьвізавага дзеда лепш іншым разам. Ён быў салдатам імпэрыі, і Бэрлін, пад якім ён гінуў, страляючы ў салдата іншай імпэрыі, тут, уласна кажучы, абсалютна ні пры чым. Дзеду было наканавана трапіць у жорны гісторыі, і наўрад ці ён быў гэтаму так ужо рады — што зусім не выключае ягонага гераізму. Але дзед ужо даўно там, куды таксама трапляюць бязь візы — і назаўжды.

Унукі ў дзядулі атрымаліся розныя. Адзін шавец, другі кравец, трэці на дудзе ігрэц. Усё мірныя прафэсіі. А вось чацьверты... На яго ня так даўно можна было ўдосталь налюбавацца, разгледзець, так бы мовіць, ва ўсіх падрабязнасьцях, як жука пад мікраскопам. Здымкі зь веснавога Таліна абляцелі ў 2007 годзе ўвесь сьвет: той п’яны нашчадак з шчасьлівым тварам прыроджанага марадзёра, гопніцкім бляскам у вачанятах і імпэтам члена айнзацкаманды рабуе і нішчыць эстонскую сталіцу, трохі зьбянтэжаную ад такога простапрасталінейнага выяўленьня самых патаемных нюансаў расейскай душы. Рэдка калі даводзіцца адчуваць салідарнасьць з паліцыяй — але ў тыя дні ня быць на яе баку значыла быць на другім.

Падзеі таго красавіка дакладна ўвойдуць у гісторыю. Гісторыю пазбаўленьня ад імпэрскіх страхаў. А пачалося ўсё з таго, што на досьвітку 27 красавіка 2007 году з цэнтру Таліна, з узгорку Тынісмягі, быў нарэшце прыбраны бронзавы помнік савецкім жаўнерам. Не расьпілаваны і пераплаўлены ў статую Лембіта Ульфсака, і не прададзены Кітаю на патрэбы хімпрамысловасьці, а перанесены ў іншае, больш дарэчнае месца. З цэнтру Таліна зьнік узьведзены ў 1947-м манумэнт, які мусіў штодня нагадваць эстонцам, што некалі іх вярнулі «ва ўлоньне» новай «радзімы», а заадно і засьведчыць, хто тут цяпер гаспадар, чыя мова мілагучнейшая, цяльняшкі паласацейшыя, песьні душэўнейшыя і чые ўнукі будуць дзяліць дзедаву здабычу. А ў перакладзе на савецкую гэта гучала так: «памяці чырвонаармейцаў, загінулых у Вялікай Айчыннай вайне падчас вызваленьня



ня Эстоніі». Так і бачыш Гітлера, які абвяшчае вайну ўраду Канстанціна Пятса, і вэрмахт, які скідвае памежныя слупы з эстонскім гербам... І расейскіх хлапцоў-добраахвотнікаў, што прыйшлі на дапамогу суседзям.

Двукосьсі тут раскрываюцца лёгка, варта толькі сарваць з гісторыі праславутыя ванітныя стужачкі калярадзкіх колераў. Савецкі салдат прыйшоў у Эстонію значна раней за нямецкага і зусім не турыстам, а такім самым захопнікам і ворагам. Першыя савецкія вайсковыя часьці акапаліся тут яшчэ ў 1939-м, калі ніякім вэрмахтам у Эстоніі і ня пахла. Зразумела, яны прыйшлі з самымі мірнымі намерамі, чыстымі, як сапёрныя лапаткі! Пазагараць і рыбкі паесьці. А менш чым праз год на гэтую зямлю — вядома ж, выключна з мэтамі абняць і расцалаваць мясцовых жыхароў — былі высаджаны марскі дэсант і ўведзенае стотысячнае войска. І ўсталяваны акупацыйны рэжым — нічым ня лепшы за той, што існаваў у пратэктараце Багемія і Маравія. Шэсьць стралковых дывізій, танкавая брыгада, вайскова-марскія часьці, паветраныя эскадрыльлі, войскі НКВД — поўны «Набор юнага вызваліцеля».

Што такое вызваленьне, Эстонія даведалася вельмі хутка. 14 чэрвеня 1941 году пачалася першая масавая аблава — і праз тры дні ў вагонах для быдла, любімым транспарце вызваліцеляў, у Сібір выправілася каля дзесяці тысяч чалавек, большая частка якіх там і памерла. Незадоўга да гэтага ў Пірыта-Косэ былі праведзеныя масавыя расстрэлы. У ліпені таго самага году ў Тартускай турме былі за адну ноч расстраляныя дзьвесьце дзеячоў культуры. У 1949-м адбылася прымусовая высылка ў Расею дваццаці тысяч чалавек. І гэта быў толькі пачатак...

Напэўна, цень бронзавага помніка на Тынісмягі мусіў захінуць сабой усё гэта. Але ня здолеў, не дацягнуўся. Лёс помнікаў — адказваць за справы жывых. Лёс жывых — хаваць за помнікамі свае страхі і злачынствы. Або не хаваць — але гэта пад сілу зусім ня кожнаму. Нават таму, хто працягвае лічыць сябе вызваліцелем.

# Авантура Тура

***28 красавіка 1947 Тур Хэердал выпраўляецца ў сваё падарожжа на “Кон-Тыкі”***

28 красавіка 1947 году ў пэруанскім порце Кальяа вайсковы карабель «Гуардыян Рыё» узяў на буксір невялікі плыт з бальсавага бярвеньня і пацягнуў яго ў адкрыты акіян. На плыце, які меў горды назву «Кон-Тыкі», сядзелі нарвэскі дасьледчык і падарожнік Тур Хэердал і зялёны папугай і ліхаманкава думалі, як патлумачыць афіцэрам пэруанскага вайскова-марскога флёту, што на беразе засталіся астатнія пяцёра ўдзельнікаў экспэдыцыі. Але ўсё абышлося, па іх паслалі шлюпку, «Гуардыян Рыё» некалькі разоў прагудзеў на разьвітаньне — і «Кон-Тыкі» зь пяцьцю нарвэжцамі, швэдзкім мастаком і папугаем на борце застаўся ўрэшце ў адзіноце сярод сямісот зь лішкам мільёнаў кубамэтраў вады.

Напэўна, гэта таксама магло б як найлепш прадэманстраваць адрозьненьне чалавека ад іншых, не такіх легкадумных жывёлаў: наўрад ці зялёны папугай стаў бы добраахвотна рызыкаваць жыцьцём дзеля таго, каб давесьці сьвету, што шмат гадоў таму інкі былі здольныя даплыць на сваіх плытах да выспаў Палінэзіі. Але 33-гадовы Тур Хэердал, завадатар і кіраўнік экспэдыцыі, быў з тых людзей, якім на адным месцы не сядзіцца, якіх вечна «цягнуць санкі з дому» — ці бальсавыя індзейскія плыты. А калі ўлічыць, што да дваццаці двух гадоў ён панічна баяўся вады і ня ўмеў плаваць, і прыгадаць пры гэтым пра тыя самыя сямсот зь лішкам мільёнаў кубамэтраў, дык міжволі пагодзішся з Саціным з горкаўскай п’есы з акіянічнай назвай «На дне»: часам слова «чалавек» гучыць ня менш горда, чым слова «папугай».




А пачалося ўсё некалькі гадоў перад тым у Нью-Ёрку. Дасьледаваньне Хэердала, у якім ён даводзіў, што сучасныя палінэзійцы — нашчадкі паўднёваамэрыканскіх індзейцаў, сур’ёзныя вучоныя ніяк не хацелі ўспрымаць сур’ёзна. «Ніводзін з індзейскіх народаў не перасяляўся на выспы Ціхага акіяну, — сказаў нарэшце адзін з такіх навукоўцаў Хэердалу проста ў твар. — Яны не маглі гэтага зрабіць, бо не маглі туды даплыць! Яны ня мелі лодак!»

«Яны мелі плыты», — асьцярожна зазначыў нарвэжац.

Вучоны паглядзеў на Хэердала, як сын бога сонца Тыкі на лямпачку. І зьедліва адказаў:

«Хе-хе... А вы паспрабуйце даплыць з Пэру да ціхаакіянскіх выспаў на бальсавым плыце...»

Сам таго ня ведаючы, стары скептык, які нават не парупіўся дачытаць да канца працу Хэердала, падаў ідэю самага вар’яцкага падарожжа дваццатага стагодзьдзя. Ён і не ўяўляў сабе, як моцна зачапілі ўпартага нарвэжца і гэты скепсыс, і гэтая самаўпэўненасьць, і гэты недавер... Тэарэтык меў тэорыю і дрэнна ведаў як Хэердала, так і Гётэ — бо, як вядома зь літаратуры, любая тэорыя, майн фройнд, сухая і па сваіх уласьцівасьцях саступае ня толькі елцы і асіне, але і бальсаваму дрэву.

Праз сто адзін дзень падарожжа «Кон-Тыкі» прыбіла да аднаго з атолаў выспаў Туамоту. Выжылі ўсе. Хэердал давёў, што какос і батат, расьліны, на якія чамусьці багатыя як Лацінская Амэрыка, так і Палінэзія, не маглі даплыць да гэтых выспаў ні кролем, ні брасам, ні іншым стылем, бо сапсаваліся б у дарозе. Давёў, што падарожжа ўзброеных гэтымі пладамі індзейцаў на крохкіх плытах праз акіян цалкам магчымае. Давёў усім, што ён меў рацыю — што б ні казалі кабінэтныя тэарэтыкі. Ну, і тое, што амундсэны, а таксама і ібсэны ў Нарвэгіі не пераводзіліся, давёў таксама — ягоная кніжка пра падарожжа зрабілася бэстсэлерам. Потым будуць іншыя плыты і іншыя кніжкі, іншыя, ня менш вар’яцкія ідэі, будзе савецкі доктар Сянкевіч з добрым тварам — і кожнага разу Хэердал будзе выходзіць пераможцам. Плаваць ён навучыўся позна — але затое туды, куды хацеў.

# Конікі супраць

***29 красавіка 1987 у Друі стартавала воднае ралі пратэсту супраць пабудовы Даўгаўпілскай ГЭС***

На гербе памежнага беларускага мястэчка Друі пакачваецца на дзьвінскіх хвалях карабель зь белым ветразем. Прыгожа, ня горш чым у якога-небудзь прыморскага Брэмэргафэна. Герб вядомы з 1620-га, а 29 красавіка 1987 году, калі савецкаму мястэчку мецць свой герб было нямодна, дый няможна, ён нечакана набыў новае значэньне. Актуальнае, як ніколі.

У той дзень у Друі, каля Траецкага касьцёлу бэрнардынцаў, сабралася каля сотні чалавек зь Беларусі і Латвіі, каб на чаўнах, зусім як шмат гадоў таму, выправіцца ў падарожжа па Дзьвіне — не такое доўгае, як у Хэердала, але ня менш важнае. Падарожжа-пратэст супраць будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС, у выніку якога ў дзьвюх краінах меліся апынуцца пад вадой рачныя даліны і выселеныя вёскі ды зьнікнуць рэдкія віды флёры і фаўны. Энэргетыка, ненажэрнае бажышча канца дваццатага стагодзьдзя, зноў запатрабавала сабе ахвяраў. Праўда, гэтым разам нічога ня выйшла — тое падарожжа па Дзьвіне з Друі ў Дзьвінск-Даўгаўпілс у час перабудовы і нацыянальнага ўздыму прымусіла-такі жрацоў бажышча адмовіцца ад ахвярапрынашэньня.

ГЭС пачалі будаваць яшчэ ў 1979-м і да 1987 году пасьпелі даволі шмат: пабудаваць пасёлак для гідрабудаўнікоў, пасекчы лясы, паперанасіць могілкі і лецішчы, выкапаць катлаван... А ў 1986-м журналіст, а пазьней першы старшыня Народнага фронту Латвіі Дайніс Іванс выступіў з артыкуламі ў латыскім ЛіМе — газэце «Literatūra un māksla», сэнс якіх зводзіўся да пытаньня: што ж мы робім з Ракою і Прыродай? Латыскія «зялёныя» і нацыяналісты зьвярнуліся да беларусаў, для якіх Дзьвіна-Даўгава таксама, як-ніяк, была сваёй, з прапановай зладзіць такое вось экалягічнае ралі па рацэ.



Калі чытаеш успаміны ўдзельнікаў тых падзей, узьнікае прыемнае, падзабытае ўжо адчуваньне перамогі: студэнтаў за ўдзел у той акцыі пагражалі выгнаць з вучобы, забаранілі прадаваць квіткі да Друі, людзей затрымлівала міліцыя, мясцовыя ўлады ўсімі сіламі намагаліся выслужыцца перад Менскам — і ўсё адно вандроўка пратэсту адбылася і дала плён. Да таго ж, аказваецца, гэта была адна зь першых грамадзкіх акцыяў, на якіх удзельнікі зь беларускага боку выкарысталі нацыянальныя колеры і сымбалі. Наогул, дзіўным чынам ад любой з тых акцыяў васьмідзясятых застаецца пачуцьцё перамогі — ня тое што цяпер... Ці то выслужвацца па той бок барыкадаў стала прасьцей, ці то проста час зрабіўся цяжэйшы на пад'ём.

На пачатку новага стагодзьдзя Беларусь будуе ня нейкую там ГЭС, а самую сапраўдную АЭС, «а ў Латвіі, а ў Латвіі»... А ў Латвіі то там, то сям чуюцца галасы, што заклікаюць узяць і дабудаваць таго монстра. Удзельнікаў таго плаваньня 1987 году яны інакш як у двукосьсі не называюць: «энтузіясты», «так званыя абаронцы навакольнага асяродзьдзя», чортавы «эколягі»... Такую махіну не далі дарабіць! Філязофскім маналёгам пра сусьвет і бога выглядае інтэрвію аднаго высокапастаўленага латыскага спэцыяліста, прыхільніка ГЭС:

«Так, магчыма, калі аднавіць той праект і давесьці яго да канца, нейкі від конікаў можа зьнікнуць. Але чаму ніхто ня кажа, як выжыць людзям? Гэта ж усё наш кашалёк! Той, хто валодае энэргарэсурсамі, багаты і моцны. Ніхто не спрачаецца, конікі таксама патрэбныя. Але інтарэсы людзей мусяць стаяць вышэй за інтарэсы інсэктаў. Дый жывёлы пачуваюцца лепш ва ўпарадкаваным асяродзьдзі».

Чарговае сутыкненьне інтарэсаў людзей і інсэктаў, чарговая спроба «упарадкаваньня асяродзьдзя». Канчатковае рашэньне для аднаго лішняга віду. Ня толькі чарнобыльскія ўрокі забытыя, але і кітайскія. Конік супраць «рэсурсу», так званыя «энтузіясты» супраць улады. Усё паўтараецца, а Дзьвіна бяжыць.

# Хітры геній ідыятызму

***30 красавіка 1883 нарадзіўся Яраслаў Гашак***

«Забілі Фэрдынанда нашага...». Так, з ходу вызначыўшы свае каардынаты ў гісторыі, пачынаецца гэтая кніга, пра якую крытыкі адразу ж сказалі, што аўтара яна дакладна не перажыве і наступнаму пакаленьню цікавая ўжо ня будзе. І памыліліся. Герой аказаўся жывучы. Магчыма, яму дапамагло тое, што ён, Швэйк...

*«...некалькі гадоў таму, пасьля таго як мэдычная камісія прызнала яго ідыётам, сышоў з вайсковай службы і займаўся цяпер продажам сабакаў, агідных вырадкаў, якім прыдумляў фальшывыя радаслоўныя...»*

Яраслаў Гашак, чалавек, які напісаў гэтыя бесьсьмяротныя радкі, нарадзіўся 30 красавіка 1883 году ў Празе і таксама ня гідзіўся зарабляць на хлеб тым самым, чым і Швэйк. Пагатоў гэты занятак усё ж меў значна большае дачыненьне да літаратуры, чым любыя віды вайсковай і дзяржаўнай службы. Ён наогул мала чаго гідзіўся, рана зразумеўшы, што літаратару-апавядальніку празьмерная гідлівасьць да чагосьці, апрача няволі, толькі на шкоду. І ў выніку зрабіўся народным пісьменьнікам задоўга да стварэньня народнай Чэхаславакіі.



Трэба сказаць, жыцьцё Гашка выглядае весялейшым і багацейшым на калізіі за самы чытаны ў сьвеце чэскі раман, якім зрабіліся «Прыгоды бравага ваякі Швэйка». Яго аўтар ня толькі прадаваў крадзеных сабакаў — але пасьпеў за сорак адпушчаных яму гадоў пабыць салдатам, вар'ятам, шпіёнам, самагубцам, арыштантам, ваеннапалонным, нацыяналістам, банкаўскім клеркам, журналістам, штатным гумарыстам, гарадзкім камэндантам, хросным бацькам адной экзатычнай мухі і нават выдаўцом газэты на бурацкай мове. Але той Прагі і той Чэхіі даўно няма, а «Прыгоды» вось засталіся...

Няма сумневу, што і цяпер знойдуцца мільёны чытачоў, якія надарваліся ад сьмеху, чытаючы гэтую кнігу, і шчасьліва жывуць з такім дыягназам у перапоўненым траўматалягічным пункце, якім ёсьць любоў да літаратуры. Аднак уступіць у гэты прэстыжны клюб нешта замінае. Прырода Швэйкавага сьмеху дзіўная: паржаць з k.u.k.арэканьня напаўздохлага аўстра-вугорскага пеўня, апантанага мілітарысцкім запалам, можа, і варта, але неяк не атрымліваецца: ці то Ёзэф Рот становіцца ўпоперак горла, ці то Музіль, ці то Кафка. Калі ставіцца да «Швэйка» як да сатыры, падчас чытаньня пачынаеш неўпрыкмет засынаць — калі гэта і сатыра, дык хутчэй на чалавека і гісторыю, чым на войска і дзяржаву. Магчымасьці Швэйка злавесна большыя, чым здаецца — у гэтым маленькім чалавеку тоіцца страшная сіла. Здольнасьць зрабіць ідыятызмам любую рэч і любую зьяву, бо ні розуму, ні прыгажосьці, ні пяшчоце месца ў ягоным сьвеце няма. Толькі нейкаму пра-сьмеху — найвялікшай з руйнавальных стыхій. Такому першабытнаму, што неяк яно і нясьмешна.

Гашак — анархіст, прычым анархіст ваяўнічы і пераканаы. Такіх у войска не бяруць, а як возьмуць — дык сабе на бяду. Анархізмам ён перадусім і сымпатычны — а не сваёй

«крытыкай прагнілай манархіі»: любая дзяржава заганная, кажа ён, любая дзяржава ў пэўны момант з чыстым сэрцам робіць з нас ідыётаў. Ён сьмяецца з гісторыі, якая ёсьць такім самым атрыбутам дзяржавы, як паліцыя, войска і падатковы інспэктар. Іншы знакаміты чэх, Мілан Кундэра, пісаў пра асобу Швэйка: «Гэта не адсутнасьць ведаў, ня дурасьць, гэта адмова прызнаць за гісторыяй лёсавызначальнасьць, адмова паставіцца да яе сур'ёзна. Не вайна ператвараецца ў Гашка ў гратэск, а гісторыя... Што, калі рацыяналізацыя хады падзей ёсьць містыфікацыяй, што, калі гісторыя — проста дурніца?..» І далей пра Кафку, які ў час, калі «забілі нашага Фэрдынанда», піша ў дзёньніку: «Нямеччына абвясьціла вайну Расеі. Пасьля абеду басэйн» — ён «успрымае вайну не як немец, а як праскі яўрэй, які ўсьведамляе, што ні яўрэі, ні чэхі ня робяць гісторыі, а падпарадкоўваюцца ёй».

Але, паводле Швэйка, і гэта — ня вырак.

# Мангол шуудан

*1 траўня 1840 у Лёндане пачалі прадавацца паштовыя маркі*

Чалавецтву давялося адасланць мільярды лістоў, цыдулак, пакетаў і бандэроляў, перш чым яно дадумалася да такой простай і зручнай рэчы, як паштовая марка. Іншымі словамі, для таго, каб пачаць лізаць клей, людзям трэба было спачатку навучыцца гнаць віно і курыць тытунь. І гэта пры тым, што ўжо старажытны Рым меў нейкае падабенства мабільнай сувязі: тагачасная эсэмэска, адпраўленая ў выглядзе бадзёрага раба ў дні студзеньскіх календаў, даходзіла да адрасата акурат на сакавіцкія іды. Існавалі, праўда, і іншыя тарыфы: маратонскі, напрыклад... Затое было над чым падумаць, было чаго чакаць, можна было сьмела цалаваць паштара, не баючыся, што ён абвінаваціць цябе ў сэксуальных дамаганьнях. Быў час пашкадаваць пра тое, што вось напісаў камусьці, а можа, і ня варта было брацца за стылас; затое чалавек быў цярплівейшы і ўмеў радавацца простаму — зусім як мы цяпер радуемся, атрымаўшы папяровы ліст у капэрце з прыгожай маркай... І гатовыя забіць беднага паштара, высьвятляючы, што гэта чарговы рахунак, які трэба аплаціць да панядзелка.

Першыя паштовыя маркі ў сучасным разуменьні гэтага слова былі выпушчаныя 1 траўня 1840 году ў Вялікай Брытаніі, а «прабіў» іхнае ўвядзеньне чалавек, якога звалі Роўлэнд Гіл. І хаця афіцыйна яны пачалі прадавацца толькі празь пяць дзён, існуюць лісты з гэтымі маркамі, атрыманыя адрасатамі ўжо 2 траўня — частка накладу была ўжо гатовая, і нехта, відаць, пасьпяшаўся закупіцца маркамі проста ў друкарні, з чорнага ходу. Гэтыя першыя брытанскія маркі і самі былі чорнага колеру, а каштавалі яны адзін пэні — адсюль і іхная легендарная пірацкая назва «Чорны пэні». Упрыгожваў тую марку профіль самай вялікай маралісткі ў гісторыі Брытаніі — каралевы Вікторыі, пазнавальны і патрабавальны, як ражок паштара.



Праўда, спробы наладзіць вытворчасьць паштовых марак рабіліся і раней. Грэкі даўно запэўніваюць сьвет, што яны ўвялі ў сябе на пошце маркі яшчэ ў 1820-х, але ім ніхто ня верыць. Адзін швэдзкі лейтэнант прапанаваў Стакгольмскаму паштамту праект сваіх марак, вельмі падобных да марак Гіла, і атрымаў адказ, што ягоная ідэя ўражвае сваёй недарэчнасьцю. Славенец, падданы Аўстра-Вугоршчыны Лорэнц Кошыр, выдумаў марку, якую трэба наклейваць на капэрту, за чатыры гады да сэра Роўлэнда — і ягоная прапанова згінула ў цёмных бюракратычных завулках імпэрыі. А вось брытанскія маркі былі вельмі хутка ўзятыя на ўзбраеньне ўсім сьветам.

Марка любую, нават самую простую капэрту здольная пертварыць у музэй. Калі грошы — гэта нябачныя рукаеньні зь дзясяткамі тысяч незнаёмых людзей, то маркі — гэта амаль французскія пацалункі, дасланыя ім па пошце. І няхай марка, якая наклейваецца сама, так бы мовіць, «сухім» мэтадам, упэўнена перамагае старую добрую «марку на язык» — больш чым за паўтара стагодзьдзя чалавецтва добра-такі абмянялася сьлінай, заадно даведаўшыся дзякуючы маркам пра іншыя краіны, мовы і культуры столькі, колькі не даведалася б за тысячагодзьдзе. Чаго варты адзін «Монгол шуудан»... Марка — гэта заўжды сюжэт. Можна прыгадаць, што зрабіла з маленькай паштовай маркі Астрыд Ліндгрэн: той эпізод з гісторыі пра Малога і Карлсана, дзе марка з Чырвоным Каптурком спачатку засмоктваецца чалавекам з прапэлерам у пыласос, а потым дастаецца адтуль, як з ваўчынага чэрава. Марка — больш чым марка. Гэта пропуск у мару, мініятурная мадэль дывана-самалёта, што паляціць туды, дзе ты, магчыма, ніколі не пабываеш — і тым ня менш усё адно патрапіш туды, пакінуўшы на марцы адбіткі пальцаў, якімі толькі што незнарок правёў па яе вострых зубчыках. Проста так. У імя тактыльнага шчасьця.

# Астма ля віста

*2 траўня 1930 у Чэ Гевары здарыўся першы прыступ астмы*

2 траўня 1930-га ў сям'і аргентынскага архітэктара Гевары Лінча, якая на той час жыла ў Буэнас-Айрэсе, вялікая бяда — у малога сына, якога завуць Эрнэста, гэтаксама, як бацьку, пачынаецца моцны кашаль, які ніяк не спыняецца — і неўзабаве дзіця пачынае задыхацца.

Сыну яшчэ ня споўнілася двух гадоў, і ён пакуль ня можа ўсьвядоміць, што значыць імгнення пастаўлены яму флегматычным доктарам дыягназ — алергічная бранхіяльная астма. Празь яе сям'я неўзабаве пераедзе ў больш сухія і здаровыя мясьціны. Празь яе насамрэч шмат што адбудзецца... Пакуль хлопчык не падрасьце, бацька будзе кожную ноч спаць побач, каб, калі што, прыйсьці малому на дапамогу. А вось калі Эрнэста трохі пасталее — ён абвесьціць сваёй хваробе вайну, будзе быццам бы дэманстратыўна жыць насуперак ёй, ды так, што з часам увесь сьвет пачне сачыць за гэтым неверагодна насычаным, поўным прыгодаў і перашкодаў, крыві і любові, прынцыповых учынкаў і пакутлівых разважаньняў жыццём, а наглядзеўшыся, зробіць у выніку зь яго казку — страшную і прыгожую казку пра вечную Рэвалюцыю.

«Менавіта хвароба робіць нас людзьмі, чалавек настолькі чалавек, наколькі ён хворы», — сказаў вуснамі свайго героя незадоўга да нараджэньня Эрнэста адзін знакаміты немец. Чароўных гор у жыцьці Гевары хопіць зь лішкам. Астма зробіцца



ягоным спадарожнікам да самага канца, больш верная за сяброў і жанчын, неадступная, як біёграф, задушлівая, як турма. Ёй будзе ўсё адно, каго мучыць — салдата Батысты або гераічнага камандантэ. Усё адно, каго, і ўсё адно, дзе. Месцы, дзе яна будзе нагадваць пра сябе, будуць самыя розныя. Напрыклад, Ікітас на Амазонцы, дзе малады доктар Гевара, які хоча лячыць хворых на струплю, трапіць у шпіталь пасьля бясконцага прыступу. Ці яшчэ раней, у Пэру. «Рэвалюцый без страляніны не бывае», — устаўляе ён з вымучанай усьмешкай паміж дробнымі, балючымі выбухамі кашлю, асуджаючы на сьмерць дзясяткі тысяч і — спакойна і нават весела — сябе самога.

А месцы зьмяняюцца, як у калейдаскопе. Залітая ванітамі «Гранма», якая, раз-пораз зьбіваючыся з шляху, набліжаецца да Кубы — доктар пакутуе ад няспыннага кашлю і ўсё адно дапамагае паплечнікам. Сьера-Маэстра, дзе ён навучыцца курыць цыгары. Узятая паўстанцамі Гавана. Падарожжы, дзе, аточаны дыпляматычным пакашліваньнем, Гевара будзе вымушаны граць такую нялюбую яму ролю чыноўніка. Жудасная пасада кіраўніка трыбуналу, які адхіляе апэляцыі «ворагаў народу» і падпісвае расстрэльныя прысуды. Афрыканскія джунглі і балівійскія горы. Дзякуючы астме, у гэтым жыцьці, амаль цалкам запоўненым спробамі самому зрабіць Гісторыю, паўзы будуць кароткія, але частыя: Гевара будзе класьціся на зямлю або садзіцца на заплечнік і цярпліва чакаць, калі скончыцца прыступ.

Пра Гевару напісана і зьнята досыць, а яшчэ больш выдумана і пакрыта тоўстым слоем бліскучага лаку, як для здымкаў у рэкляме якіх-небудзь бургераў, каб зьзяла і выклікала танны апэтыт пры любой перамене трэндаў і брэндаў. Аднак вось гэты камандантэ Чэ, які сядзіць на заплечніку ў джунглях і намагаецца прывесьці ў норму дыханьне, нататнік на каленях, аўтамат побач, прыхілены да дрэва, Чэ, якога ніхто не чапае, бо ведаюць, што ў такія моманты ён можа і на тры літары пасланць, ці на колькі там пасылаюць у Лацінскай Амэрыцы — вось той партрэт, які ніколі не састарэе. Вось чалавек Гевара як ён ёсьць, з рукамі, якія пасьля сьмерці яму адрэжуць варожыя салдаты, рукамі, якія на дзесяць хвілін пакінулі ў спакоі безнадзейную, безуважную гліну гісторыі і ўзялі цёплае пітво ці біклажку з ромам. Нічым не адрозны ад таго хлопчыка, які некалі закашляўся і ўпершыню з жахам адчуў, як ў ягоных бронхах расчыняецца чорная бездань.

# Чырвоны травень

*3 траўня 1968 пачаліся масавыя студэнцкія пратэсты ў Парыжы*

Спачатку — дыплём, а потым ужо — рэвалюцыя. «Первым дзелам самалёты, ну, а дзевушкі — а дзевушкі патом», — як сьпявалася ў адной савецкай песьні. Вось ён, клясычны бацькоўскі падыход да справы, нудны, як лекцыя ў сонечны веснавы дзень. Ну-у-удна... І чагосьці хочацца: ці то сэксу, ці то марозіва, ці то эканамічных і сацыяльных рэформаў. Ці то проста што-небудзь зламаць і выкінуць.

Увесну 1968 году французскія студэнты вырашылі, што так далей жыць нельга і што дыплём без папярэдняй рэвалюцыі ня мае сэнсу, як і «самалёты» бязь «дзевушак». Асабліва іх раздражняў той факт, што дзяўчаткі маглі вольна наведваць мужчынскія студэнцкія інтэрнаты, а вось хлопчыкі дзявочыя — ай-я-яй. У выніку па краіне прамчаў сапраўдны віхор, які сарваў з Францыі ня толькі дах, але і ўсё фігавае лісьце. Голае грамадзтва задуменна разглядвала сябе ў люстэрках разьбітых



вітрынаў. Ніхто больш не хацеў працаваць. Некалькі мільёнаў чалавек зладзілі сабе вясёлыя вакацыі, не адыходзячы далёка ад касы.

3 траўня 1968 у Лацінскім квартале галовы сьцелюць снапамі, харалужнымі малоцяць цапамі і веюць душу ад цела. Напярэдадні рэктар Сарбоны зачыніў унівэрсытэт, баючыся боек левакоў і правых — студэнцкая брація абурылася не на жарт. І вось — дзьве тысячы паліцыянтаў з дубінкамі і газам супраць дзьвюх тысяч навучэнцаў з каменьнем у руках і кашай у галаве. У выніку больш за пяцьсот арыштаваных, некалькі соцень параненых. Але напраўду ўсё пачалося значна раней.

Магчыма, з тэкстаў сытуацыяніста Дэбора, у якіх ён заклікаў суайчыньнікаў да «рэвалюцыі штодзённасьці»: адмяніць для сябе самога законы, падаткі, мараль і выяўляць сябе ў вольнай спантаннай творчасьці. І яго пачулі. Ужо 29 красавіка адна з аўдыторыяў Сарбоны была захопленая студэнтамі, 1 траўня на вуліцы выходзіць сто тысяч чалавек, назаўтра ва ўсіх унівэрсытэцкіх гарадах адбываюцца мітынгі і страйкі. Пасьля бітвы ў Лацінскім квартале праходзяць суды над затрыманымі ўдзельнікамі, няўклюдныя працэсы, якія толькі здабываюць бунту новых прыхільнікаў. Страйкуюць сотні прадпрыемстваў. На бок студэнтаў становяцца Сартр і Сарот, Саган і Марыяк, вельмі радыя такой цудоўнай нагодзе нагадаць пра сваё існаваньне.

7 траўня паліцыі супрацьстаіць ужо трыццаць тысяч разьюшаных студыёзусаў. Паўсюль страйкі, перакуленыя і спаленыя машыны, барыкады і «Інтэрнацыянал». Зачыненыя некаторыя марскія парты і лётнішчы. А 13 траўня ў Парыжы на дэманстрацыю выходзіць ужо ні многа ні мала васемсот тысяч чалавек. Астатнія жывуць у страху, як бы іхныя кватэры не пераблыталі з Бастыліяй, а іх саміх з вандэйскай контрай, бо хто там ведае, што ў гэтых філёзафаў у Сарбоне было па гісторыі.

...Сярэднюю клясу нездарма называюць станавым хрыбтом дзяржавы. Яе прэзыдэнта дэ Голя ўсе тыя забурэньні, здаецца,

ня надта бянтэжаць. Каб паказаць, хто тут бацька, ён нават ляціць у госьці да Чаўшэску, быццам нічога ня здарылася. Алена Чаўшэску ў захапленьні: «Какой мусчына!» Дэ Голь вяртаецца, вымае з шуфлядкі запыленую жалезную руку і спрабуе навесьці ёй парадак — калі ў краіне страйкуе ўжо дзесяць мільёнаў чалавек. У чэрвені яму гэта нарэшце ўдаецца. Праўда, пражавелая жалезная рука ў выніку ломіцца і выпраўляецца на мэталалом. Але парадак адноўлены. Аднаго зь лідэраў тых пратэстаў супраць усяго адразу і за вольны ўваход у дзявочыя інтэрнаты, неўзабаве высланага з Францыі бунтара, а цяпер цалкам сабе рэспэктабэльнага палітыка дагэтуль дзе-нідзе клічуць Кон-Бандытам. І нічога — пасьля 1968 рэпутацыя «бандыта» ўжо не перашкода кар'еры, а просты шлях у Эўрапарлямант. Таксама свайго кшталту рэвалюцыйнае дасягненьне...

Засталіся людзі, засталіся лёзунгі — гэтыя дзіўныя гальскія дацзыбао, якімі расьпісваліся зьдзіўленыя сьцены травеньскага Парыжу. Занадта літаратурныя — мо таму адным траўнем усё фактычна і абмежавалася. Прывіды Маокарла Цзэгевары. «Будзьце рэалістамі — патрабуйце немагчымага», «Усё — і зараз жа!», «Забараняецца забараняць», «Аргазм — тут і цяпер!», «Адчыніце вокны вашых сэрцаў!» Ёсьць пра што паразважаць філёзафу пасьля дзьвюх бутэлек віна і добрага касяка, але не зусім зразумела для рабочага.

І абсалютна контррэвалюцыйна для слыху мілых студэнцкаму сэрцу кітайскіх хунвэйбінаў, пра якіх парыскія бунтары мелі даволі цьмянае ўяўленьне і тым ня менш лічылі іх чамусьці прыкладам для пераймання. Цемната! Якая была і застаецца сябрам моладзі. Прапанаваць бы розным эўрапейскім левакам прыняць грамадзянства РБ — калі ўжо ім так бракуе свабоды на гістарычнай радзіме. А яшчэ лепш пашпарт КНДР, краіны чучхэ. Вось ужо дзе прыклад рэвалюцыйнага мысьленьня...

Але, што ні кажы, насамрэч парыскія падзеі 1968 году — гэта яшчэ і добры напамін студэнцтву пра часы ягонага росквіту. Студэнцтву, што ад часоў Сярэднявечча было сілай, зь якой лічылася любая ўлада, а цяпер, здаецца, вымірае сабе пацíху — вядома ж, выключна як кляса. І правільна, дыплём і кар'ера важнейшыя. А дзевушкі — дзевушкі пачакаюць.

## Пахаваньня ня будзе

### *4 траўня 1891 адбываецца двубой Голмса і прафэсара Марыярці*

*«Мой дарагі Ўотсан, я пішу вам гэтыя радкі дзякуючы ласкавасьці містэра Марыярці, які чакае мяне для канчатковага вырашэньня пытаньняў, што тычацца нас абодвух.*

*Ён коратка апісаў мне спосабы, з дапамогай якіх яму ўдалося ўцячы ад ангельскай паліцыі і даведацца пра наш маршрут. Яны толькі пацьвярджаюць маю ўпэўненасьць у ягоных выдатных здольнасьцях. Мне прыемна думаць, што я магу пазбавіць грамадзтва ад далейшых нязручнасьцяў, зьвязаных зь яго існаваньнем, але баюся, гэта будзе дасягнутай высокай цаной, што засмуціць маіх сяброў і асабліва вас, дарагі Ўотсан. Зрэшты, я ўжо казаў вам, што мой жыцьцёвы шлях дайшоў на свайго найвышэйшага пункту, і я ня мог бы зычыць самому сабе лепшага канца. Між іншага, калі казаць шчыра, я зусім не сумняваўся, што ліст з Майрынгену — пастка, і адпускаючы вас, быў пэўны, што далей здарыцца нешта падобнае. Перадайце інспэктару Пэтэрсану, што паперы, неабходныя для выкрыцьця банды, ляжаць у мяне ў стале, у шуфлядзе пад літарай „М“ — сіняя капэрта з надпісам „Марыярці“. Перад ад'ездам з Ангельшчыны я зрабіў усе неабходныя распараджэньні адносна маёй маёмасьці і пакінуў іх у свайго брата Майкрафта.*

*Сардэчна вітайце ад мяне місыс Ўотсан.*

*Шчыра адданы вам*

*Шэрлак Голмс».*



І вось тут дзесяцігадовая гісторыя прыгодаў геніяльнага сышчыка і вернага доктара мелася скончыцца. Джон Ўотсан, які 4 траўня 1891 году чытаў гэтыя радкі, стоячы каля Райхенбахскага вадаспаду каля Майрынгену ў Швэйцарыі, мусіў вярнуцца ў Лёндан, аплакваючы свайго сябра. Мусіў выкінуць з галавы ўсе этуды ў барвовых і іншых танах, усе апэльсінавыя костачкі і стракатыя стужкі, безь якіх ён ужо не ўяўляў сваё жыцьцё, якое з прыходам у яго Голмса раптам расквецілася такімі дзіўнымі фарбамі, мусіў перастаць бубнець пад нос музыку кампазытара Дашкевіча і зрабіцца нарэшце тым, кім яму прызначыў лёс — сьціплым лекарам, вэтэранам афганскай вайны, чалавекам, які не хапае зь неба зорак і ўпотай ганарыцца сваім нікому не патрэбным літаратурным талентам, папісваючы ў вольную хвілінку для мясцовай газэткі. Некалькі хвілін таму Голмс моўчкі і з годнасьцю паляцеў з вышыні двухсот пяцідзесяці мэтраў у бездань равучай вады, каб разьбіцца насьмерць, а побач зь ім на тую самую сьмерць выправіўся закляты вораг, прафэсар, доктар матэматычных навук, акадэмік Марыярці. Вакол з альпійскай непасрэднасьцю раскашуе прырода, вада шуміць нешта на швэйцарскім дыялекце, дастойны фінал прадуманы да драбніцаў, і аўтар можа ў рэшце рэшт спакойна сканцэнтравацца на тым, што ён уважае сваім сапраўдным пакліканьнем — на гістарычных раманах у духу Вальтэра Скота. Ну чаму, чаму — чаму б, дзеля ўсяго сьвятога, не паставіць у прыгодах надакучлівага героя кропку?..

Тут ня лішне будзе прывесьці цытату зь яшчэ аднаго ліста. У 1893 годзе Артур Конан Дойл піша сваёй маці, праўда, не з Швэйцарыі, а зь Лёндану, але ня менш заклапочаны за прафэсара Марыярці: *«Дарагая матухна, я вырашыў забіць Шэрлака Голмса. Ён замінае мне займацца больш важнымі рэчамі»*. І неўзабаве ў часопісе «Strand Magazine» выходзіць доўгае апавяданьне «Апошняя справа Голмса». Канец казкі.

Ужо на другі дзень пасьля таго, як чытачы атрымалі нумар, каля рэдакцыі адбываецца стыхійная дэманстрацыя. «Вярніце нам Голмса!», «Містэра Дойла — да адказу!», «Брытанія, прачніся!», «Беларусь — у Эўропу!», «Рукі прэч!» — такія плякаты трымаюць у руках абураныя лёнданцы. Часопіс за тыдзень пазбаўляецца дваццаці тысяч падпісчыкаў. Конан Дойл атрымлівае па пошце капэрты з чорнымі меткамі, рэклямай бюро пахавальных паслуг і пагрозамі адправіць самога аўтара на дно вадаспаду, калі Голмс не ўваскрэсьне да канца месяца. Сярод гэтай пошты ледзь не згубіўся ліст з запаветным вэнзэлем VR. «Мілы аўтар, прызнайцеся, што вы ўсё гэта наўмысна — гэта ж проста чарговы трук вялікага сышчыка, ці ня так?» — піша Конан Дойлу каралева. А тым часам выдаўцы прапануюць яму сто фунтаў за тысячу радкоў. Спакуса, што й казаць.

Ня вытрымаўшы напору, аўтар уцякае ў Эгіпэт, дзе пакутліва думае, што рабіць. І вось адным цудоўным днём, пад сьпевы муэдзінаў і крыкі вярблюдаў, ён нехаця дастае аркуш паперы, кладзе на стол, мачае пяро ў атрамант і, сьцяўшы зубы, выводзіць словы:

«Пусты дом».

Імпэрыя зноў магла спаць спакойна.

# Апэрацыя «Паравоз»

***5 траўня 1865 у Агаё адбываецца першае ў гісторыі рабаваньне цягніка***

Вэрсіяў таго, хто, дзе і калі ўпершыню ў сьвеце залез у вагон цягніка, каб пажывіцца чужымі грошыкамі і залацішкам, існуе ня менш, чым шпалаў на чыгунцы паміж Балтыморам і Агаё. І гэты амэрыканскі маршрут працягласьцю 115 кілямэтраў згаданы тут не выпадкова. Як не выпадкова ён трапіў і ў шэраг гістарычных маршрутаў сьвету. А ўсё таму, што, паводле адной з вэрсіяў, менавіта паміж гэтымі кропкамі А і Б 5 траўня 1865 году адбылося яно самае — першае на Зямлі рабаваньне на чыгуначным транспарце.

У той дзень каля станцыі Норт-Бэнд у штаце Агаё некалькі бравых каўбояў заскочылі ў адзін з вагонаў і, пагражаючы пасажырам кольтамі… Не, наконт таго, чым яны пагражалі — кольтамі, тамагаўкамі або карай нябеснай, дакладных зьвестак няма, але калі ў 1865-м у Агаё рабаўнікі маглі выхапіць нешта, апрача зараджаных кольтаў, дык, як казаў Карлсан, я так не гуляю. Пакуль таварышы зьбіралі з пасажыраў іхнюю багатую даніну, некалькі тысяч даляраў, пярсьцёнкі, брошкі і завушніцы, парачка самых тэхнічна прасунутых злачынцаў накіравалася ў багажны вагон. Яны цудоўна ведалі, што там у сэйфе ляжыць яшчэ каля дваццаці тысяч — уласнасьць кампаніі «Adams Express». Уся гэтая апэрацыя «Паравоз» заняла менш часу, чым спатрэбілася Гойку Міцічу, каб набіць люльку міру. Кажуць, рабаўнікоў так і не знайшлі. Магчыма, атаманам у іх быў сам Джэсі Джэймс, той самы партызан і Робін Гуд. Але і гэта — усяго толькі вэрсія на шыі ў легенды.



На той час чыгунка ў ЗША існавала толькі трыццаць пяты год. Ня надта доўга ў параўнаньні зь нябесным Вялікім Возам, але цалкам дастаткова для таго, каб ацаніць яе вартасьці — у тым ліку чалавеку зь цёмным мінулым, на кані і з кольтам. З гэтага здарэньня ў Агаё і пачалася вялікая любоў рабаўнікоў усяго сьвету да чыгункі. Любоў, якая працягваецца дагэтуль, хаця, здаецца, і паравозаў больш няма, і грамадзяне спасьціглі нарэшце перавагі ашчадкасаў.

Ужо праз некалькі гадоў пасьля рабунку каля Норт-Бэнд новым відам спорту захапіліся самыя знакамітыя крымінальныя аўтарытэты таго часу. Паляваньне на паштовыя і пасажырскія экспрэсы ладзілі браты Рэно на чале са сваёй сястрычкай — іхным сямейным бізнэсам з маленства была экспрапрыяцыя банкаўскіх білетаў, золата і каштоўных папераў. А той самы Джэсі Джэймс, натура творчая ва ўсіх адносінах, нават пакінуў аднойчы на месцы злачынства цыдулку з падрабязным апісаньнем зьдзейсьненага, па літаратурных мерках ня горшым за раманы Карла Мая. У 1900 годзе ў Ваёмінгу цягнік робіцца ахвярай знакамітага Бутча Кэсіды і яго банды, а ў 1901 у Новым Арлеане адбылося самае сьмешнае рабаваньне на чыгунцы — здабычай суворай банды сталі дванаццаць з паловай тысяч калядных паштовак: грошай той паравоз ня вёз наогул.

У 1903-м у Амэрыцы выйшаў фільм «Вялікае рабаваньне цягніка», які толькі дадаў рамантыкі ў нялёгкую працу чыгуначных зладзеяў. Магчыма, менавіта ён натхніў польскіх рэвалюцыянэраў на чале зь Юзэфам Пілсудзкім «расьпячатаць» у 1908-м на станцыі Бязданы паштовы цягнік, што ехаў у Пецярбург, на суму дзьвесьце тысяч рублёў. А ў 1963-м, калі рабаваньне цягніка здавалася ўжо архаізмам ня толькі паліцыі, але і самім бандытам, недалёка ад Лёндану сваё «The Great Train Robbery» правярнула банда Роні Бігса. Рабаўнікі ўключылі чырвонае сьвятло сэмафора, машыніст цягніка, што ішоў з Глазга, затармазіў, і… За пятнаццаць хвілін Роні з паплечнікамі сталі ўладальнікамі трох мільёнаў фунтаў.

# Патанулы ў часе

***6 траўня 1937 дырыжабль «Гіндэнбург» разьбіўся пры пасадцы***

«Цэпэліны ў небе, неба ў цэпэлінах...» Прыкладна так уяўлялі сабе будучыню фантасты і іншыя футуролягі. Не было асаблівых прычын сумнявацца, што прыгажун-цэпэлін сапраўды зробіцца неўзабаве гаспадаром нябёсаў — у нейкі момант ягонае бліскучае, выцягнутае цела, што паволі плыве ў паветры, як нейкая бясконца дасканалая жывая істота, цалкам магло лічыцца адным з сымбаляў сучаснасьці. Здавалася, справа толькі ва ўдасканаленьні ўжо створаных узораў, яшчэ трохі, і... Аднак, на жаль, усё выйшла інакш.

6 траўня 1937 году гордасьць нямецкага паветранага флёту цэпэлін «Гіндэнбург», які выконваў рэйс з Эўропы ў Злучаныя Штаты і на борце якога былі 36 пасажыраў, 61 член экіпажу, алюмініевае піяніна і ўсяго адна запальнічка, дабраўся да Нью-Ёрку. Велічны карабель, хвост якога ўпрыгожваў сьцяг са свастыкай, здавалася, завіс над горадам; з дахаў хмарачосаў можна нават было разглядзець твары пасажыраў. На базе Лэйкхэрст, канцавым пункце падарожжа, да якога заставалася ўсяго нічога, цэпэлін ужо чакалі. Прыкладна а 19.20 на зямлю былі скінутыя прычальныя ліны, а ўжо а 19.25 «Гіндэнбург» загарэўся, як агромністая запалка, і яшчэ праз паўхвіліны выбухнуў проста ў небе, на вышыні каля 150 мэтраў.

Сьведкам падзеі быў сярод іншых амэрыканскі журналіст Морысан, які рыхтаваўся зрабіць рэпартаж пра прыбыцьцё цэпэліна. Задыхаючыся ад дыму, ён працягваў распавядаць пра тое, што бачыў проста перад сабой — і нават у гэтых умовах ён заставаўся прафэсіяналам і гаварыў тое, чаго вымагала яго прафэсія: «Самая жахлівая катастрофа ў гісторыі чалавецтва, усе пасажыры загінулі!» На шчасьце, Морысан памыляўся. Зь дзевяноста сямі чалавек выжылі шэсьцьдзесят два. Сужэнства Адэльт выскачыла ў акно, калі таму абломку карабля, у якім яны сядзелі, да зямлі заставалася ўсяго пяць мэтраў — і атрымала толькі гузакі і сінякі. Падлетак Карл Штогалер таксама скочыў у акно, упаў проста ў языкі полымя — і тут жа зьверху на яго вылілася вада з балёна, што разарваўся проста ў паветры. Пэнсіянэрка Ліза Готшыльд адчула, што цэпэлін раптам заваліўся на бок, выйшла прад'явіць свае прэтэнзіі капітану і апынулася на цьвёрдай зямлі, бо кавалак «Гіндэнбурга» зь яе каютай апусьціўся на зямлю плаўна, нібы дэльтаплян. Сам капітан Макс Прус апынуўся на зямлі пад аскепкамі, якія палалі, як паходня, атрымаў сур'ёзныя апёкі ўсяго цела і тым ня менш таксама ацалеў.



І ўсё ж у гэты дзень цэпэлінагадоўля атрымала такі ўдар паміж гондалаў, ад якога ўжо ня здолела ачуняць. Праўда, яшчэ адну гордасьць Нямеччыны, «Граф Цэпэлін-II», дабудавалі, але пра аднаўленьне і разьвіцьцё пасажырскіх палётаў з дапамогай такіх ненадзейных караблёў пасьля выбуху над Лэйкхэрстам ужо ніхто й не заікаўся. Чалавецтва канчаткова перасела ў самалёты і пачало масава падаць з вышыні, значна большай за сто пяцьдзясят мэтраў. А што на самой справе адбылося ў целе «Гіндэнбурга» 6 траўня 1937-га, цікавіла цяпер усіх найперш з палітычнага боку — мармытаньне тэхнікаў пра вадарод і статычную электрычнасьць ніхто ня слухаў. Камуністы абвінавацілі ў трагедыі нацыстаў, якія, маўляў, арганізавалі сабе другі Райхстаг, нацысты — камуністаў, а значна пазьней нават прагучала імя чалавека, што пагубіў гордую машыну: Эрых Шпэль, тэхнік і антыфашыст, які быццам бы перад стартам заклаў бомбу ў адзін з балянэтаў. Калі гэта сапраўды так, то нацызм ён не перамог, а вось з цэпэлінамі разабраўся на славу. Шкада, бо часам зь нейкай немагчымай настальгіяй іх шукаеш у небе за хвіліну перад навальніцай, калі так востра пахне апакаліпсісам і апалым лісьцем, шукаеш — і не знаходзіш.

# Дарагія мае мінсквічы

*7 траўня 2005 адбылося бессэнсоўнае перайменаваньне менскіх вуліц*

Часам вельмі хочацца зірнуць у вочы тым «вэтэранам і жыхарам сталіцы», па чыіх шматлікіх просьбах 7 траўня 2005 году менскі праспэкт Францішка Скарыны раптам зрабіўся праспэктам Незалежнасьці, праспэкт Машэрава — праспэктам Пераможцаў, вуліцы Ерусалімская, Н.П.Дразда і Варвашэні — праспэктам Машэрава, а Старабарысаўскі тракт — вуліцай таго самага Францішка Скарыны. Хочацца даведацца, наколькі шматлікімі былі просьбы — колькі загінула паштальёнаў, колькі было абарвана казённых тэлефонаў і абвешчана бестэрміновых галадовак, колькі спалена чучалаў Н.П. Дразда і пасьля якой па ліку дэманстрацыі пратэсту ўлада нарэшце прыслухалася да волі менчукоў і апублікавала даўно насьпелы ўказ. І, галоўнае, цікава, наколькі пераканаўчымі былі просьбы «трудзяшчыхся». Уяўляюцца поўныя роспачы і праведнага гневу пасланьні, напісаныя дрыготкім почыркам неабыякавага да тапанімікі чалавека:




«Здрастуйця, дарагая рэдакцыя. Я так больш не магу. Чэснае слова, скора абалью сябе кірасінам і падажгу. Ілі бінзінам. Усё дзела ў том, што я жыву на прасьпекце імені Францыска Скарыны, каторы, как сьледуе сь яго імені, был паляк і вабшчэ ня наш чалавек, і эта ўжэ пачці пятнаццаць лет уніжает маю чэсьць і дастоінства, а такжэ рэлігіозныя чуства. Праўда, раньшэ нам гаварылі, што яго завуць Георгі, как і мяня, но аказалась, што ўралі. Шчытаю сваім доўгам такжэ саабшчыць, што ешчо адзін прасьпект, па каторому я кажды дзень іду ва ўтарое аддзяленьне наркадыспансера штоб праведаць сваіх друзей, ужэ даўно называецца Машэрава. Пазаўчара я ўзнаў пра гэта ад майго друга Толіка, мы яго ўсе так і называемІсторык. З бальшой буквы. Уся логіка працэсаў падказвае, што пачаму бы не назваць эту бальшую уліцу ў чэсьць нас, прастых жыцелей Мінска, каторые адстаялі нашу пабеду ў ліцэ сваіх дзедаў і прадзедаў. А названіе Машэрава я прэдлагаю аддаць уліцэ Варвашэні, патаму што я там нікагда ня жыў, дык мне да аднаго месца, як яна будзе там называцца, а жыву я на прасьпекце Францыска Скарыны, каторы вабшчэ неізьвесна чэм тут занімался ў годы акупацыі. Можэт, нам усё ўралі і он падпольшчыкаў вешаў.

С уважэніем

Патрыёты Віцебска».

У сувязі з гэтым прыгадваюцца дзьве гісторыі. Першая — пра аднаго прыяцеля, які напісаў і даслаў у канцы васьмідзясятых на Цэнтральнае тэлебачаньне ад імя выдуманых ім савецкіх школьнікаў дзьвесьце лістоў з патрабаваньнем паказаць па тэліку фільм «Піраты XX века» — і ўсе розным почыркам і розным стрыжнем. Другая пра маладых латыскіх літаратараў, якія ў 1999-м, стоячы на менскай плошчы Перамогі, на поўным сур’ёзе пачалі дапытвацца, чаму яна так называецца і каго беларускае войска перамагло ў 1945-м.

Перайменаваньні вуліц у Менску адбываліся і раней, але такога бязглуздага, як у 2005-м, сталіца ня бачыла даўно. Заўжды былі нейкі матывы: ідэалягічныя, палітычныя, культурныя — або проста «ў сувязі са зьменай абстаноўкі». Ясна, чаму Сталінградзкая зрабілася ў 1961-м Валгаградзкай, а яшчэ раней, напрыклад, Турэмная — Валадарскага, Нямецкая — Карла Лібкнэхта, Архірэйская — Пуліхава, Лютэранская — Волаха... Даволі сюррэалістычна выглядаюць на мапе шматлікія назвы менскіх вуліц кшталту Авакяна (былая Лібаўская) або Чыгладзэ, што была раней нейкім Радыятарным завулкам, але гэтыя асобы прынамсі прычыніліся да гарадзкой гісторыі, у адрозьненьне, скажам, ад Пушкіна. Даводзілася павандраваць па горадзе Заслонаву, Коласу, Луначарскаму, Дзяржынскаму і іншым рознакалібэрным героям. На іхным фоне Машэраў, якому, як у адмысловым абменьніку, памянялі адзін праспэкт на другі, цалкам упісваецца ў тапанімічны менскі пэйзаж. Які б ні быў — але наш.

Але нашто, у імя якіх патаемных жарсьцяў і загадкавых ідэалаў адбылося перайменаваньне 2005-га, сказаць цяжка. Здаецца, прычына адна. Паказаць менчукам, хто тут гаспадар, паказаць, што вось, мы тут усё зараз памяняем, паперназываем, проста так, ад няма чаго рабіць, а вы нічога ня зможаце запярэчыць, паслухмяна пачняце называць вуліцы па-новаму, зьмірыцеся і зробіце выгляд, што так было заўжды. Блытаніна і марнаваньне грошай ня страшныя — звыкніцеся, і не з такім звыкаліся. А захочам — наогул усё тут пазносім нафіг, і нічога нам за гэта ня будзе. Чарговы этап праверкі на ляяльнасьць, на тое, колькі і чаго можа праглынуць адзін асобна ўзяты горад. А мала падасца — вабшчэ вас зачыркнём, так і будзеце хадзіць зачоркнутыя, а горад назавем красіва і саўрэменна: Масква.

# Прыгожая, як катастрофа

*8 траўня 1950 Брыжыт Бардо ўпершыню зьяўляецца на вокладцы часопіса*

Неяк у траўні 1950 году будучы мэтр француская кінэматографу, а тады усяго толькі малавядомы актор і асыстэнт рэжысэра Ражэ Вадзім падпрацоўваў мамкай у адной кіназоркі — за грошы сядзеў зь яе трохгадовым хлопчыкам. Малы прагнуў хлеба і відовішчаў і пагражаў залямантаваць на ўвесь Парыж, калі не атрымае іх зараз жа і не ўстаючы з канапы. Хлеб знайшоўся хутка, а вось зь відовішчамі было цяжэй. Што рабіць? На мамку-асыстэнта патрабавальна, як два жандары, глядзелі чыстыя і ясныя дзіцячыя вочы. Пачытаць яму Бадлера? Зацягнуць песьню «Doubinouchka» (Вадзім быў расеец з паходжаньня)? Кінуцца ўніз галавой з шостага паверху?

Хлопчык нахмурыўся. Вадзім пачаў ліхаманкава азірацца ў пошуках прыдатнага матэрыялу і заўважыў сэксісцкі часопіс «Elle», нумар 232 за 8 траўня, які валяўся пад столікам. «Тое, што трэба», — падумаў ён і вырваў з часопіса старонку, каб зрабіць зь яе папяровы караблік. Праўда, у выніку атрымаўся самалёцік, але што зробіш. Міжволі ён зірнуў на вокладку — і... І ўбачыў яе, «катастрафічна прыгожую», як будуць раз за разам называць гэтую жанчыну, што хавалася тады пад ініцыяламі Б.Б. Самалёцік узьняўся ў паветра, а Вадзім закахаўся так, як могуць толькі бедныя асыстэнты рэжысэра і мамкі па дзесяць франкаў за гадзіну.



Так пачалося ўзыходжаньне да славы Брыжыт Бардо. Дзяўчынкі з брэкетамі, якую ў школе дражнілі за зубы, як у зайца, і касавокасьць. Потым яна ня раз яшчэ будзе зьяўляцца на вокладках розных сэксісцкіх і іншых часопісаў і здымацца ў сэксісцкіх і іншых фільмах, ды з такой абаяльнасьцю, з такім талентам і жарсьцю, што міжволі падумаеш: а можа, ня ўсё так кепска было ў Францыі ў часы сэксізму? Будаваліся дарогі, быў парадак, і Брыжыт Бардо хадзіла проста ў бікіні. А ББ у бікіні — гэта ўжо тое, дзеля чаго варта трохі затрымацца на гэтай б... плянэце.

Як Бабэта на вайну, яна рашуча кінецца ў самы вір сэксуальнай рэвалюцыі і зробіцца яе сымбалем спачатку на адным, а потым і на другім баку акіяну. Пад постэрамі з Бардо будзе адбывацца палавое сасьпяваньне паловы мужчынскага насельніцтва чалавецтва. За адзін дотык Брыжыт, за адно яе слова можна было спакойна прадаць калі ня ўсю Радзіму цалкам, дык прынамсі некаторыя яе інтымныя месцы.

І тых, хто не задумваючыся пайшоў бы на гэта, можна зразумець. Ад позірку Вялікай Брыжыт здрыганецца нават Жалезная Заслона. На яе хацелі быць падобныя нашыя мамы, цёткі і стрыечныя бабулі, іхныя сяброўкі, каляжанкі, знаёмыя і незнаёмыя, а таксама некаторыя дзядзькі, якім за гэтае жаданьне пагражаў артыкул крымінальнага кодэксу. Значна пазьней такіх дзядзек Брыжыт Бардо назаве ў ліку самых ненавідных ёй пэрсанажаў сучаснага грамадзтва. Іх і яшчэ мусульманаў, якія жыўцом забіваюць авечак і эўрапейскую культуру, без папярэдняга аглушэньня палкай па галаве. Хаця тое, якім клопатам акружаюць мусульманак іхныя мужы, на

думку Бардо ОК. Як і тое, якім бацькоўскім клопатам ахінуў Расею яе галоўны сэкс-, а таксама крэкс-, пэкс- і фэкс- сымбаль У. Пуцін — на думку зоркі, самы чалавечны чалавек, які «зрабіў для жывёлаў больш, чым усе французскія прэзыдэнты разам узятыя». Кажуць, яна нават зазьбіралася ў краіну балалайкі, бліжэй да тых міласэрных мясьцінаў, дзе людзей прынята аглушаць перад тым, як зрабіць зь іх матрошкі.

У 1940-м яна падабрала на вуліцы і прытуліла кацяня, якое назвала Крокусам — і гэта быў яе першы бой у справе змаганьня за правы жывёлаў. У васьмідзясятыя Бардо зробіцца адным з самых знакамітых барацьбітоў за братоў і сясьцёр нашых меншых. «Сваю прыгажосьць я аддала мужчынам, а сэрца — жывёлам», — скажа яна, з усьмешкай сплачваючы чарговы штраф за распальваньне міжнацыянальнай і іншай варожасьці. — «Я нарадзілася з гэтай любоўю і ў кіно пачала здымацца, каб выкупіць якую-небудзь бойню і выратаваць яе ахвяраў». Ну, мы, ідыёты, думалі, што гэта яна дзеля мастацтва пайшла здымацца, хаця невядома яшчэ, што лепей. Прынамсі, грацц саму сябе ў ББ атрымліваецца ня горш, чым іншых за грошы. А значыць, той самалёцік у 1950-м паляцеў куды трэба.

# Адгадай загадку

*9 траўня 1941 брытанскі карабель захапіў «Энігму»*

9 траўня 1941 году ў атлянтычных глыбінях недзе на поўдзень ад Ісьляндыі шукала чым такім разжыцца на абед адзінокая нямецкая субмарына U-110 пад камандаваньнем капітана Фрыца-Юліюса Лемпа.

Гэта было яе другое вялікае паляваньне — на рахунку U-110 было пакуль што пяць ахвяраў. Але ў той дзень 28-гадоваму капітану Лемпу, шыю якога ўпрыгожваў Рыцарскі крыж Жалезнага крыжа за дваццаць патопленых суднаў, не пашэнціла. Сьлед ад пэрыскопа ягонай субмарыны заўважылі два брытанскія эсьмінцы і карвэт, якія не марудзячы падрыхтаваліся да атакі — лодка наляцела на цэлы лес глыбінных бомбаў і атрымала такія пашкоджаньні, што давялося «паказаць лічыка»: тэрмінова ўсплываць. Большая частка экіпажу была ўзятая ў палон, астатнія загінулі, сам Лемп быў ці то забіты, ці то скончыў жыцьцё самагубствам; субмарыну паспрабавалі цягнуць за сабой на буксіры, але ўжо на другі дзень яна затанула. Праўда, перад гэтым на ёй пабывалі ангельскія маракі, аблазілі ўсё ў пошуках сакрэтных дакумэнтаў, зьдзіўляючыся, у якой сьпешцы нямецкая каманда пакідала свой U-Boot — і наткнуліся на нейкую дзіўную друкавальную машынку.

«А можа, ну яе?...» — сказаў адзін з матросаў, якому зусім не хацелася цягаць на сабе гэты чамаданчык з клявішамі, дроцікамі ды лямпачкамі.



«Дурань, гэта ж Энігма! — сказаў другі. — Зь яе дапамогай мы выйграем бітву за Атлянтыку, пра нас напішуць кніжкі, здымуць чатыры фільмы, у якіх усё пераблытаюць, і выпусьцяць кампутарную гульню, а адзін француз назаве ў гонар нашай знаходкі свае псэўдагрэгарыянскія харалы, пад якія ўся плянэта будзе цалавацца пры сьвечках і ўяўляць сябе апошнімі рамантыкамі!»

«Ну тады ладна», — пагадзіўся першы і пацягнуў машынку да люка.

«...Цікаўнасьці вашых канкурэнтаў адразу ж будзе пакладзены канец, бо „Энігма“ дазваляе вам захоўваць зьмест вашых дакумэнтаў або прынамсі самых важных іх частак у поўнай таямніцы без істотных выдаткаў. Адзін добра абаронены сакрэт можа акупіць кошт усёй машыны». Так у 20-х гадах рэклямаваўся той апарат, прыдуманы нямецкім вынаходнікам Артурам Шэрбіюсам. Тым самым, які пачынаў з электрагрэлак і вэнтылятараў, а ў выніку прыдумаў «Энігму». Сам Шэрбіюс лічыў, што на расшыфроўку аднаго паведамленьня, прапушчанага празь ягоную машыну, спатрэбіцца гадоў дзесяць.

Да самага цікавага ён не дажыў — у 1929-м наляцеў, едучы ў павозцы, на каменны мур і памёр ад ранаў. У пачатку трыццатых мэханізм тагачаснай «Энігмы», якую ўрэшце ўзялі на вайсковую службу, здолелі разгадаць тры польскія матэматыкі. Пракляты чалавечы фактар лёгка перамагаў машыну там, дзе іншая машына аказвалася ў тупіку і сьмярдзела ад перагрэву. Даводзілася рэгулярна ўдасканальваць і мяняць коды. А інакш — канец, і тысячы памруць там, дзе плянавалася перамога. Почасту так і адбывалася. Пра тое, што «Энігма» была зьнятая з субмарыны капітана Лемпа і перададзеная спэцыялістам, камандаваньне Kriegsmarine наогул не здагадвалася амаль год. А яны, машыны, працягвалі пісаць другую, таемную гісторыю вайны — як звар'яцелыя храністы ў сваіх нябачных вежах. Пакуль на франтах салдаты забівалі адзін аднаго, у пракураных сакрэтных памяшканьнях, галёнамі заліваючы ў сябе эрзац-каву і лаючыся на зморaных машыністак, вялі сваю вайну тысячы крыптолягаў, якія так ніколі і не пабачылі сваіх ворагаў у твар: толькі лямпачкі ды лічбы, якія сьняцца па начах. Гэта чымсьці нагадвае тую самую падводную вайну, якую прайграў капітан U-110.

Ну, а рэкляма на тое і рэкляма, каб ня верыць ніводнаму яе слову: добра абаронены сакрэт у сьвеце толькі адзін, і мы яго ня ведаем. Таму і жывем пакуль што.

# Ход канём

*10 траўня 1892 у Менску пачала працаваць конка*

10 траўня 1892 году ў Менску ад вакзалу ўздоўж вуліцы Захар'еўскай да самай Саборнай плошчы не было дзе ўпасьці ні яблыку, ні бомбе, ні авіятару Вутачкіну — натоўп сабраўся такі, быццам у горад завітаў сам гасудар імпэратар. «Народъ не разходился до поздняго вечера», — пісаў на другі дзень менскі карэспандэнт «Віленскага весьніка». Але ж і падзея адбывалася не абы-якая — у горадзе ўрачыста адкрывалі першую конку. Пад неспакойнае ржаньне новага грамадзкага транспарту менскі губэрнатар, яго правасхадзіцельства Нікалай Нікалаіч Трубяцкой пажадаў вэтэранам расейска-турэцкай вайны не старэць душой, моцнага здароўя і шчасьця ў лічнай жызьні. Граф Чапскі выказаўся ў тым духу, што дзякуючы концы гарадзкі пульс пачаў біцца мацней. А затым слова ўзяў камандзір 4-га армейскага корпусу афіцэр Косіч. Гаварыў ён доўга і пранікнёна.

«А вось яшчэ быў выпадак», — сказаў Косіч. — «Апынуўся я неяк у Брусэлі. Дамскі горад, скажу я вам. Каруначкі ды кветачкі. Вулачкі вузенькія. Але якія харошыя faubourgs, брусэльскія прадмесьці! Шырокія, прыгожыя, людныя, разрасьліся, як кветнікі. А ўсё дзякуючы ёй — конна-трамвайнай чыгунцы. Дык хай жа і ў нашым Менску...»

І конка пачала працу, перавёзшы за першыя пяць дзён пятую частку гарадзкога насельніцтва — амаль дваццаць тысяч чалавек. Спачатку дзейнічалі дзьве лініі: Вакзальная — паміж Берасьцейскім і Віленскім вакзаламі, і Цэнтральная, галоўная — ад Віленскага вакзалу да Саборнай плошчы па Пецярбурскай, Каломенскай, Захар'еўскай і Губэрнатарскай. Ужо ў чэрвені галоўная лінія была працягнутая па Манастырскім завулку і Гандлёвай вуліцы да Нізкага рынку, потым гэтыя маршруты яшчэ некалькі разоў мяняліся і ўдасканальваліся, а ў 1895-м пачала дзейнічаць Няміга-Захар'еўская лінія, што перасякалася з Галоўнай і злучала Гандлёвую ды Садовую зь Нямігай і Камароўкай. У Табэлі дадзеных Парыскага сусьветнага кірмашу 1900 году Менск ужо фігураваў як ня проста так сабе гарадочак, а Места з Конкай — і гэта гучала салідна і важыла шмат: зусім як цяпер статус жыхара паселішча з мэтрапалітэнам змушае арганізм да нейкай ірацыянальнай нутраной гордасьці.



Каштаваў праезд у менскай концы ад трох да шасьці капеек, а працавала яна да адзінаццаці вечара — у цёмны час вагоны асьвятляліся газавымі ліхтарамі. Рухаўся гэты транспарт з хуткасьцю прыкладна пяць кілямэтраў на гадзіну — але і пры такіх тэмпах можна было папрасіць спыніцца ў любым месцы, што і цяпер выгодна адрозьнівае конку ад маршруткі зь яе «астаноўкамі толька на астаноўках». Кандуктар мусіў абавязкова знайсьці сядзячае месца для пасажыра, калі ён не гімназіст і не гімназістка, а пасажыр... Пасажыр, паводле Правілаў карыстаньня грамадзкім транспартам, мусіў пры ўваходзе павітаць дамаў лёгкім нахілам галавы. Конка кожнага рабіла джэнтэльмэнам.

Але перадусім менская конка — гэта, напэўна, музыка. Фурман, які несупынна звоніць у адмысловы званок, рытмічны цокат капытоў, нясьпешныя размовы на некалькіх мовах, сьпевы рэек... За тое, каб адзін раз праехацца на менскай концы канца XIX стагодзьдзя, можна было б аддаць шмат. Але вандроўнік у часе не бярэ пасажыраў. Вагон перапоўнены, вуліцы перакрытыя. Аблава. Сьпёка. Перастрэлка. Цішыня. Давядзецца лезьці ў аўтобус.

## Піянэрская праўда

*11 траўня 1944 загінуў Марат Казей*

Самы знакаміты здымак Марата Казея зрабіў нямецка-фашысцкі акупант. Улетку 1941-га гэты фотааматар зайшоў у хату да Казеяў і за некалькі сьвежых яек шчоўкнуў хлопца, як у найлепшых дамах Бэрліну. Піянэр, які на імгненьне зірнуў у нацэлены на яго аб'ектыў галоднага нелюдзя, нічым такім не вылучаўся. І біяграфія ў яго была даволі тыповая... Як і імя.

Маратам гэтага хлопчыка зь вёскі Станькава назвалі зусім ня ў гонар знакамітага якабінца, арганізатара масавых забойстваў, заколатага некалі проста ў ваньне. Аднак ускосна — так яно і было: новая ўлада тэрарыстаў абагаўляла, вось і лінкор Балтыйскага флёту «Петрапаўлаўск», на якім служыў бацька хлопца, Іван Казей, быў у 1921 годзе перайменаваны ў «Марат». Слова гэтае так спадабалася дэмабілізаванаму матросу, што ён вырашыў назваць сына ў гонар карабля.

Што такое вялікі тэрор, Марат Казей даведаўся задоўга да таго, як пачалася вайна. Бацьку, фанатычнага камуніста, які працаваў на Дзяржынскай МТС і быў старшынём таварыскага суду, забралі ў 1935-м, асудзілі за шкодніцтва, ён так і загінуў у ссылцы. Маці перад вайной забіралі «за трацкізм» некалькі разоў, але кожнага разу выпускалі, урэшце яе выгналі з працы і з інстытуту. І нават маючы перад вачыма такі лёс мужа і пазнаёміўшыся з сталінскімі сьледчымі, яна засталася перакананай прыхільніцай Саветаў і з пачаткам акупацыі кінулася дапамагаць партызанам, быццам загладжваючы сваю страшную «віну». Ужо ўвосень 1941-га маці нехта выдаў — і яе павесілі. Марат зь сястрой Арыяднай уцяклі ў лес.




Кажуць, ён заўжды насіў на поясе дзьве гранаты, адну — справа, другую — зьлева. «Каб, калі што, не пераблытаць: гэтая — немцам, гэтая мне», — адказваў Казей-малодшы, калі пыталіся, чаму б не павесіць іх разам. І не пераблытаў.

11 траўня 1944 году камандзір партызанскай выведкі Ларын і партызан Марат Казей завіталі ў вёску Харамецкія на Вузьдзеншчыне. Ларын пайшоў на сустрэчу з сувязным, Казей завітаў да знаёмых. Неўзабаве вёска была абкружаная паліцыяй і немцамі. Ларына падстрэлілі, калі ён бег цераз поле ў лес, Казей пасьпеў дабрацца да кустоў і трапіў у пастку. Выйсьця не было. Пакуль былі патроны — страляў, а потым, як абяцаў: адна немцам, другая сабе. Ішоў пятнаццаты год яго жыцьця. У той самы дзень у Італіі саюзьнікі пачалі наступ каля Касіна.

Цікава, ці разглядаў ён магчымасьць зрабіць хэндэхох, здацца? Напэўна, не. Здаецца, у такім разе яго чакалі б немінучыя катаваньні і сьмерць. То бок выйсьця не было. Ці выдаў бы сваіх, трапіўшы да ворага жывым? Хутчэй за ўсё, не. Верыцца чамусьці ў ягоны кібальчышызм. Ці прыходзіла яму калі-небудзь у галаву разьмеркаваць гранаты на поясе іншым чынам? Напрыклад, так: тая, што зьлева, за бацьку, тая, што справа, за матку? Пачаставаць камісараў за ўсё, што зрабілі з бацькамі? І тут, пэўне, адказ мае быць адмоўны. Ён, Марат, быў чырвоны хлопчык.

Цікава думаць і пра іншае. Пра тое, напрыклад, да якой кропкі даляцела б граната, калі б помнік Марату ў Менску мог яе кінуць. І пра тое, чаго ён не пасьпеў спазнаць. Тэарэтычна ён мог бы дажыць да сёньняшняга дня, яму б было 84. А яшчэ чамусьці пра тое, што вось, ёсьць вядомы здымак 1945-га, дзе састарэлы фюрэр незадоўга да сваёй сьмерці абыходзіць з усьмешкай шэрагі нямецкіх хлопчыкаў ва ўзросьце Казея, якіх пасылае на верную сьмерць. Тузае ласкава за шчокі. Падымае баявы дух. Нягледзячы на тое, што кожнага зь іх Марат Казей прыкончыў бы без усялякіх ваганьняў, у нейкім сэнсе яны ўсе стаяць зь ім у адной шарэнзе. Дарослыя прыдумляюць вайну, каб нейкія канкрэтныя дзеці паміралі, падарваўшы сябе гранатай. А жыць застаецца подзьвіг народа. У вяках і іншых прыгожых рамачках.

# Партрэт мастака ў сале

*12 траўня 1921 нарадзіўся мастак Ёзэф Бойс*

Крэфэльд... Ёсьць на рацэ Райн і такі горад. Каля яго прынц Фэрдынанд Браўншвайгскі даў некалі такога перцу з імберцам французам, што потым там амаль два стагодзьдзі нічога асаблівага не адбывалася. Пакуль 12 траўня 1921 году ў ім не нарадзіўся мастак Ёзэф Бойс, які зацьміў і прынца, і французаў, і ўсіх крэфэльдцаў і крэфэльдак, у тым ліку даўно памерлых і яшчэ не народжаных.

Яго дагэтуль называюць гуру постмадэрну — хаця што такое гэты самы постмадэрн і чым ён лепшы за няпост, так ніхто ўцямна і не патлумачыў (як і тое, чаму менавіта гуру, а не які-небудзь бханант, ўпадх'яя або гіранг-туўн). Ён — Творца, які... І вось тут узьнікае невялічкая праблема, бо ад творцы неяк падсьвядома чакаеш твораў. Хаця б нейкіх. Звычка такая існуе дурная. А тут: «Найлепшае, што можна зрабіць — пасекчы палатно сякерай». Ах, як дасьціпна. Ах, баюс.

Вядома, цяжка аспрэчыць, што пэрформанс «Як навучыць курыць вожыка», інсталяцыя «Мёд або ёсьць, або яго няма» і малюнкі ў стылі пэрсанажаў Роні-старэйшага — гэта чыстай вады мастацтва. Што лепш пасадзіць сем тысяч дубоў, чым сем тысяч чалавек. Што сала можна ня толькі жэрці з цыбуляй і чорным хлебам, але і паказваць яго іншым. Што размаўляць зь мёртвым зайцам і жыць з каётам — гэта творчыя акты, якія нешта там абуджаюць. Што для таго, каб быць мастаком, зусім не абавязкова ўмець маляваць. Усё гэта вельмі цяжка паставіць пад сумнеў у часы, калі пасікаць, пакакаць, выціснуць прышч на носе, раскласьці пасьянс зь мерцьвякоў ці бяздарна ўдаваць зь сябе сабаку — ужо не абы-якое культурнае дасягненьне. Прынамсі, патэнцыйнае. Аднак ацаніць такое могуць толькі людзі з адмысловым чыпам у галаве. Ці ў якім іншым месцы. Яны даўно захапілі сьвет, таму лепш зь імі не спрачацца, бо, так ці інакш, яны былі дастаткова літасьцівыя і ня сталі забіраць у нас Дзюрэра, Гою і «Паляўнічых на сьнезе» — а значна разумней будзе проста надзець сваю шапачку з фальгі і патлумачыць, за што я люблю Ёзэфа Бойса.



За яго знакамітую Гісторыю. Якая, як вядома, пачалася 16 сакавіка 1944 году. Менавіта тады «Юнкерс», на борце якога знаходзіўся будучы гуру постмадэрну, быў зьбіты над Крымам. Пілёт загінуў, а дваццацідвухгадовы стралок-радыст Бойс ацалеў, хаця і атрымаў цяжкія пашкоджаньні, у тым ліку пералом чарапной каробкі. Татарскія пастухі падабралі яго і доўга лячылі, абкладваючы салам і лямцам, каб вярнуць арганізму сілу.

То вяртаючыся ў прытомнасьць, то зноў правальваючыся ў сьвет трызьненьня і галюцынацый, салдат Люфтвафэ спасьцігаў абсалютна незнаёмы для сябе сьвет і паступова прасьвятляўся розумам і целам. Урэшце татары паставілі яго на ногі і ён вярнуўся на вайну. Так распавядаў ён сам, калі апынуўся на радзіме, распавядаў да самай сьмерці як пра цалкам рэальныя падзеі. І толькі потым камусьці прыйшло ў галаву праверыць праўдзівасьць легенды. Высьветлілася, што ўжо на другі дзень пасьля таго аварыйнага прызямленьня Бойс апынуўся ў палявым шпіталі і ніякія татары яго не ратавалі. Але гісторыя вельмі прыгожая. Калі б кожны, хто называе сябе мастаком, мог вось так геніяльна прыдумаць сябе — ніякія чыпы нікому не спатрэбіліся б, і шапачкі з фальгі можна было б сьмела выкінуць.

# SOS, які ніхто не пачуў

*13 траўня 1939 з Гамбургу на Кубу адправіўся «карабель асуджаных»*

13 траўня 1939 году з гамбурскага порту выйшаў карабель «Сэнт-Люіс» кампаніі HAPAG і ўзяў курс на Гавану.

На борце было больш за 930 пасажыраў. Яны і паводзіліся, як звычайныя пасажыры — елі, трохі больш, чым заўсёды, пілі віно, чыталі, вялі нясьпешныя размовы, нехта пакутаваў ад марской хваробы, нехта курыў, зачаравана назіраючы за хвалямі, нехта фатаграфаваўся на фоне капітанскага мастка. Але звычайнымі людзьмі, якія купілі білеты на атлянтычны лайнэр, назваць іх мог толькі насельнік бязьлюднай выспы. Большасьць пасажыраў «Сэнт-Люіса» былі нямецкімі яўрэямі, вымушанымі як мага хутчэй — пакуль улады яшчэ гналі, падштурхоўваючы ў сьпіну, а не забівалі і ня спальвалі ў крэматорыях, пакуль межы яшчэ заставаліся прачыненыя, пакуль не пачалася вайна — пакінуць радзіму, каб ўратавацца самім і, хто ведае, можа, пазьней, калі апынуцца ў бясьпецы, выцягнуць сваіх родных. Шмат хто прыехаў у Гамбург проста з канцлягеру, адкуль ужо не спадзяваўся калі-небудзь выйсьці жывым. Тым ня менш, нацысцкі рэжым на той момант быў зацікаўлены ў яўрэйскіх грошах, і сваякі проста выкуплялі некаторых вязьняў, каб адразу ж выправіць іх у вольны сьвет.



Кожны з такіх пасажыраў меў пры сабе запаветны кубінскі від на жыхарства, дакумэнт, які за шалёныя грошы пашэнціла купіць перад самым ад'ездам у аднаго добрага чалавека. Амаль усе думалі, трапіўшы на Кубу, пастарацца перабрацца адтуль у Амэрыку, якая тады акурат абмежавала іміграцыйныя квоты — і тым ня менш надзея, як вядома, памірае апошняй. Той добры чалавек быў кубінскі чыноўнік, ён шчодра раздаваў такія паперкі з штэмпэлямі направа і налева, былі б толькі ў дастатковай колькасьці даляры ды марачкі, каб заплаціць за ласку і чалавечнасьць. Ніводзін з пасажыраў «Сэнт-Люіса» не здагадваўся, што іхныя дазволы на пражываньне на Кубе больш ня дзейныя, бо акурат перад адплыцьцём добрага чалавека звольнілі за махінацыі, а ягоную лавачку прыкрылі, зьмяніўшы законы аб уезьдзе на Кубу. Не здагадваўся пра гэта і капітан Шрэдэр, які ня быў нацыстам і трымаўся з пасажырамі як з роўнымі. Так што настрой на палубах і ў каютах панаваў прыўзьняты. Людзі былі на волі і адчувалі сябе людзьмі, і воля чакала іх наперадзе. Пэўне, толькі пасярод акіяну і з гэткім жудасным досьведам за сьпінай можна адчуць, што гэта такое.

Праз два тыдні карабель без прыгодаў дабраўся да Гаваны. Але нікому не было дазволена сысьці на бераг. І тут у шчасьлівых пасажыраў зьявіліся першыя сумневы. Раніцай стала ясна, што Куба ня хоча іх прымаць, а свае «дакумэнты» яны могуць спакойна выкінуць за борт. На бераг змаглі трапіць толькі шасьцёра неяўрэяў і яшчэ дваццаць два пасажыры, аўсвайсы якіх прызналі законнымі. Астатнім заставалася спадзявацца, што ўсё вырашыцца: ну які сэнс цяпер адпраўляць іх назад?

Ды толькі ні Куба, ні Амэрыка, нягледзячы на ўсе стараньні і перамовы, так і не пагадзіліся прыняць уцекачоў. «Сэнт-

Люіс» мусіў вярнуць пасажыраў у карычневы рай Трэцяга Райху. Гавана ляжала перад імі, як фата-маргана. Адзін няшчасны, гадзінамі ўзіраючыся ў такі блізкі, але недасяжны бераг, ня вытрымаў, перарэзаў вены і кінуўся ў ваду, яго вылавілі і адвезьлі ў шпіталь — такі спосаб трапіць на кубінскую тэрыторыю прызналі законным. 1 чэрвеня «Сэнт-Люіс» пад пагрозай атакі кубінскага флёту быў вымушаны пакінуць гаванскі рэйд. Разам з амаль усімі пасажырамі. Пакружыўшы вакол выспы ў марным чаканьні, што, можа, у кубінскага ўраду раптам прачнецца банальная чалавечая міласэрнасьць, карабель паплыў назад у Эўропу. Па дарозе былі дасланыя тэлеграмы ў ЗША і асабіста прэзыдэнту Рузвэльту — беспасьпяхова. Ніхто не хацеў браць на свой нацыянальны борт 900 лішніх чалавек, якія цярпелі катастрофу.

Дзевяцьсот асуджаных на гібель яўрэяў... О, вядома, калі б яны трапілі на Кубу, яна дала б крэн і затанула ад такога непасільнага грузу. Цэлых дзевяцьсот яўрэяў... Для такой маленькай краіны, як ЗША, наступствы, ясная справа, былі б проста жудасныя. Перанаселенасьць і голад, не іначай. 900 чалавек, якія будуць забітыя па вяртаньні на радзіму! — Не, у нас, знаеце, прававая дзяржава і іміграцыйныя законы не дазваляюць. Усяго 900! Насельніцтва аднаго, ня самага вялікага ў сьвеце, карабля. Адной ня самай доўгай гарадзкой вуліцы. — Не. Не. Не. Не калыша, не хвалюе, не пасуе. Мы нічога ня хочам пра іх ведаць. У нас тут усе свае, а чужых нам ня трэба.

Капітан Шрэдэр, амэрыканскі «Джойнт» і HAPAG не здаваліся і ўсю дарогу бамбардавалі кожны з свайго боку ўрады эўрапейскіх краін тэлеграмамі з просьбамі аб дапамозе. І ўрэшце дамагліся таго, што пасажыраў па частках узялі да сябе Бэльгія, Нідэрлянды, Францыя і Брытанія.

Тры з гэтых краін неўзабаве апынуцца пад акупацыяй. Тры чвэрці пасажыраў «Сэнт-Люісу» загінуць там ад рук выканаўцаў «канчатковага рашэньня». Выканаўцаў дакладных і адказных. Забойцаў, так — але яшчэ і такіх самых бюракратаў, дысцыплінаваных, старанных і непадкупных дзяржаўных службоўцаў, якія дзейнічаюць, вядома ж, заўсёды «строга паводле закону». Якім бы ён ні быў. Зусім як тыя чыноўнікі і ўрадоўцы ў 1939-м, што абаранілі свае гордыя і непрыступныя межы ад пранікненьня непажаданых чужаземцаў. Бюракратыя забівае. Часам яна спрабуе пераканаць, што на яе руках атрамант, а глухія ўдары там, за сьцяной — гэта грукат пячатак і штэмпэляў. Магчыма, у дадзены момант яно так і ёсьць. Але чаму тады тут, у кабінэтах і калідорах, часам так страшна і пахне крывёй?

## Дзень перамогі

*14 траўня 1995 адбыўся лукашэнкаўскі «рэфэрэндум»*

14 траўня 1995 году ў Беларусі народ сказаў «так». Коратка, проста і ясна, як у загсе. Насамрэч ён, вядома, сказаў ня «так», а «да», і не адзін раз, а чатыры, вось так: «да-да-да-да», проста Трыстан Цара нейкі ў квадраце, але з павагі да народу чаго толькі сабе ня ўявіш.

Напрыклад, некаторыя, і я ў тым ліку, яшчэ задоўга да таго «гістарычнага волевыяўленьня» выразна ўяўлялі сабе нейкі свой, пэрсанальны і партатыўны беларускі народ, які, калі спатрэбіцца, скажа цьвёрдае і рашучае «не» і выйдзе кудынебудзь шчыльнымі радамі ў крывавых муках. І не адзін раз скажа, а ўсе чатыры, хаця цяпер, у 2013-м, і адно народнае «не» ўспрымалася б як перамога. Але ў 1995-м народ сказаў «да-да-да-да», як быццам хацеў як мага хутчэй скончыць надакучлівую тэлефонную размову, і пайшоў сабе шчыльнымі радамі на работу. Бо заўтра быў панядзелак. І пасьлязаўтра. І праз год, і праз восем гадоў. Народ любіць панядзелкі. Ня менш за суботнікі.



Як вядома, на тым «рэфэрэндуме» перад народам былі пастаўленыя чатыры няпростыя пытаньні. І першае зь іх гучала прыкладна так:

«Ці згодныя вы, каб вам, а таксама вашым дзецям, унукам і праўнукам паадразалі вашы паганыя языкі? Каб вы, падлы, запомнілі нарэшце, з чым пішацца „жы“ і „шы“?»

«Да!» — радасна сказалі восемдзесят тры адсоткі беларусаў. «Хацім!»

Дэмакратыя, што паробіш. Давялося рэзаць. Другое пытаньне было трохі больш складанае. Сэнс яго зводзіўся прыкладна да наступнага: «Ці падтрымліваеце вы прапанову аб абавязковым і пагалоўным татуяваньні ўсіх беларусаў у нацыянальныя колеры Рэспублікі Гвінэі-Бісаў зь невялікімі зьменамі і аб прымусовай ампутацыі ў кожнага грамадзяніна РБ лімбічнай сыстэмы ягонага галаўнога мозгу?»

«Да!» — сказалі семдзесят пяць адсоткаў. — «Спасіба! Хацім!»

Пытаньне трэцяе. «Ці падтрымліваеце вы...»

«Хацім!» — сказалі беларусы, нават не даслухаўшы.

На чацьвёртае пытаньне можна было і не адказваць. Але народ усё адно сказаў «да», бо галоўнае ў жыцьці што? Пасьлядоўнасьць. Яна, пасьлядоўнасьць, здольная ў любы момант элегантна і хутка кампэнсаваць адсутнасьць любых іншых талентаў. А момант у траўні 1995-га быў якраз вельмі прыдатны. І калі б у суайчыньнікаў спыталі, ці гатовыя яны зараз жа перадушыць усіх немаўлятаў, зрабіць сабе харакіры, перайменавацца ў пінгвінаў або пачаць размнажацца пачкаваньнем, я ўпэўнены, яны не раздумваючы сказалі б: да. Бо яно карацей за «нет». Бо «я где-то чітала, что наш белорусскій язык самый красівый в міре после італьянского» — і таму давайце лепш ня будзем на ім гаварыць, вось быў бы на першым месцы, тады яшчэ падумалі б. Бо і так ясна, хто на каго плебісцыт, дык чаго ўжо тут. Бо кожная ўлада ад бога, а ён, як высьветлілася,

за саюз з Расеяй, любіць насіць чырвонае зь зялёным і наогул данскі казак у душы.

Цікава сёньня глядзець на тых, хто ў 1995 годзе, у той дзень ганьбы, галасаваў адначасова супраць мовы і супраць улады. Цяпер яны, якія так ганарыліся сваім рацыяналізмам, нешта пачалі разумець і нават здольныя зьвязаць па-беларуску два словы. А часам і больш. Няўжо сувязь была такой цяжкаўлоўнай? Пасьля 14 траўня 1995-га стала магчымым паглядзець, як выглядае беларускі сорам. У тых, у каго ён яшчэ застаўся. Сказаўшы сваё да-да-да-да, людзі потым яшчэ доўга чырванелі і адварочваліся. Спрабавалі знайсьці сабе апраўданьне. Быццам забілі кагосьці, каб жыць далей.

14 траўня 1995 году ў Беларусі перамагла дымакратыя. Менавіта так, праз «ы». І хаця ніякіх асаблівых шэсьцяў з паходнямі каля райхстагу, ні вогнішчаў з кніг «на самам красівам пасьля італьянскага» заўважана не было, ілюзіі расталі, як дым ад пакрышкі МАЗа, дыхаць умомант стала немагчыма, а адчуваньне было рыхтык такое, як у бэрлінца 30 студзеня 1933-га. Адчуваньне, што цёмныя часы прыйшлі і яны надоўга. Пасьля 14 траўня 1995 году неяк зьнікла вера ў тое, што беларусаў у краіне жыве больш за восем мільёнаў чалавек. Нас не набярэцца і на адзін мільён. Затое мы ведаем, хто мы і не бярэм напракат ні мову, ні гонар, ні свабоду, ні чужыя перамогі. Хто такія астатнія 83 адсоткі, сказаць цяжка. Для іх прыдумана шмат вызначэньняў, часам несправядлівых і занадта агульных — але адно ясна: у іх свая дарога, у цябе свая. Пасьля 1995-га зьявілася новая гордасьць. Тая асалода супрацьстаяньня, якую ніколі не адчуць васьмідзесяці тром адсоткам. Гордасьць за тое, што належыш да меншасьці. За тое, што і тут, у васьмідзесяцітрохадсоткавай краіне, знайшліся тыя, хто не прамаўчаў. Дзякуй, народзе, за тое, што расставіў усё і ўсіх па сваіх месцах — з пэдантычнасьцю сапраўднага самагубцы.

# Дзеці ўрагану

*15 траўня 1856 нарадзіўся Фрэнк Баўм, аўтар «Чараўніка з краіны Оз»*

На ягоны пятнаццаты дзень нараджэньня бацька, з паходжаньня немец, падараваў яму сапраўдную друкарскую машыну. Друкаром хлопец, праўда, так і не зрабіўся — затое апублікаваў за сваё не такое ўжо й доўгае жыцьцё больш за шэсьцьдзесят кніг. А першую ён пачаў пісаць у дванаццаць гадоў, так што бацька ведаў, што рабіў, і, магчыма, спадзяваўся, што цікавасьць да пісьма ў сына прыме больш разумныя і неабходныя для нармальнага жыцьця формы. Друкар або ўладальнік друкарні — годная прафэсія, на благі канец журналіст, але вось пісьменьнік...

15 траўня 1856 году паблізу ад Нью-Ёрку на сьвет зьявіўся Лаймэн Фрэнк Баўм. Калі гуляць з друкавальнай машынай яму надакучыла, ён заняўся курамі і нават напісаў кіраўніцтва па курагадоўлі. Потым ён пісаў для газэтаў, потым было змазачны алей «кастарын Баўма», потым... На сьвеце існаваў толькі адзін занятак, які заўжды прыносіў Баўму неверагодную радасьць: расказваць дзецям гісторыі на ноч. І з часам ён пачаў іх запісваць. А прыкладна ў той самы час, калі Баўм нарэшце зрабіўся пісьменьнікам, недзе ў Расеі пайшоў пехатой пад стол Аляксандар Волкаў. У 1900-м, калі Волкаву споўнілася усяго дзевяць і ніхто не дарыў яму ніякіх друкавальных машын, Баўм выдаў сваю кніжку «Чараўнік краіны Оз», якая адразу зрабіла яго знакамітым — на ўсе часы, кніжку, працяг якой ён пісаў да самай сьмерці, а затым пісалі іншыя. У тым ліку той самы Волкаў.



Як і ў выпадку з Бурацінам і Пінокіё, усё здольнае чытаць насельніцтва плянэты з часам падзялілася на «баўмаўцаў» і «волкаўцаў», і той, каму выпала пазнаёміцца перш-наперш з Элі і Татошкам, не асабліва пераймаецца наконт прыгодаў Дораці і Тото, і наадварот. Элі і Татошка папулярныя ня толькі сярод тых, хто вырас у СССР — напрыклад, ва Ўсходняй Нямеччыне іх таксама да нядаўняга часу любілі і шанавалі і стараліся па магчымасьці перадаць таемную веду пра Смарагдавы горад, Страшылу і Баязьлівага Льва дзецям. І ніякіх восаў. Што да мяне, то адносна Бураціны я пінокіевец, але калі вядзецца пра Чароўную краіну — дык верны волкавец. Няхай жывуць Урфін Джус і ягонае драўлянае войска.

Перачытваючы ўсё гэта ўжо дарослым, што няправільна (дарослым быць наогул няправільна), задаешся некалькімі дзіўнымі пытаньнямі. Якім мусіў быць час і якімі — норавы ў літаратуры, каб вось так проста ўзяць і, скарыстаўшыся са сваёй ангельскай і з дарэвалюцыйнай бібліятэкі, пераказаць «Чараўніка» па-расейску. Ніякага асуджэньня, хутчэй — удзячнасьць напалову зь недаўменьнем. І няхай кніжкі Волкава імкнуцца ўвесь час выйсьці на нейкі новы, больш акрэслены, чым у Баўма, этычны ўзровень — ідэя ж усё адно застаецца ня волкаўская... Як ён з гэтым жыў? А яшчэ муляюць тыя Мараны са сваім вогненным богам. Назваць казачных герояў у гонар хрышчоных яўрэяў — гэта сьмела. І неяк ня верыцца, што адбылося ўсё ненаўмысна. Але гэта калі чытаць тыя казкі падаросламу. Што ў краіне Оз забаронена — і не без падставаў.

# Аптымізм, або Першая ходка

*16 траўня 1717*
*Вальтэр трапляе ў Бастылію*

«Франсуа-Мары Аруэ, 23 гадоў, родам з Парыжу, сын скарбніка падліковай экспэдыцыі, пасаджаны ў Бастылію за складаньне абразьлівых вершаў на рэгента і герцагіню Бэры».

Такі запіс зьявіўся ў ноч з 16 на 17 траўня 1717 году ў тутэйшым турэмным журнале. Па-француску гэты від літаратурнай крытыкі называецца embastiller і дагэтуль карыстаецца папулярнасьцю і аўтарытэтам ва ўсім сьвеце, не выключаючы Беларусь. Цікава, дарэчы, было б прачытаць гэты журнал, ці тое, што ад яго захавалася, цалкам, ад коркі да коркі — займальная, мусіць, проза. Нармандыя і «Нёман» з «Полымем» пад адной вокладкай. А пачыналася ўся гэтая гісторыя так.

Франсуа-Мары Аруэ, будучы ганаровы вальтэр, рэвальвэр і пасьмяротны маўзэр першай францускай рэвалюцыі, быў тады прыдворным паэтам — што ў тыя часы ў Францыі зусім не абавязкова значыла быць падхалімам, як гэта прынята ў нас цяпер. Здарылася так, што нехта з калегаў напісаў сатыру пад назвай «Я бачыў» на рэгента Філіпа і герцагіню. А падпісацца забыўся. Што менавіта бачыў аўтар, здагадацца было няцяжка: рэгент быў чалавек сымпатычны — горды і працавіты да пяці вечара, а ад пяці і да раніцы распусны, як Пан, і пладавіты, як трус: да канца жыцьця ён так і ня мог назваць дакладную колькасьць сваіх дзяцей ад розных кабет. Крыху пазьней недзе ў Вэрсалі пад засеньню дзяўчат у квецені адбыўся наступны дыялёг:



«Мэсьё Аруэ, іду ў заклад, я прымушу вас пабачыць тое, чаго вы яшчэ ня бачылі».

«Што ж гэта, монсэньёр?»

«Бастылія!»

«О, монсэньёр, пакіньце гэтае месца для тых, хто ўжо яго бачыў!»

Вальтэру зрабілася крыўдна. Ён зірнуў на паперку з інкрымінаваным яму тэкстам і з прыкрасьцю прамовіў тое, што заўжды прамаўляў у такіх выпадках: маўляў, вершык занадта дрэнна напісаны, каб быць маім! Раней такая дасьціпнасьць дапамагала, але гэтым разам рэгент быў абражаны не на жарт. Давялося выправіцца ў Бастылію за чужую графаманію.

У Бастыліі яму забаранілі мецъ атрамант, пёры, паперу, мікрахвалёвую печку, інтэрнэт, фотаапарат, мабільнік, масажыста і адключылі ўсе эратычныя каналы ў тэлевізары, затое дазволілі сваякам даслаць Франсуа-Мары Вэргілія і Гамэра. Седзячы на саламяным матрацы, захутаны ў індыйскую шаль вязень з імпэтам узяўся пісаць чым папала паміж радкоў дасланых кніг свае ўласныя тэксты, паэму пра караля Генры. 10 красавіка наступнага году рэгент, падняўшыся роўна а пятай з-за працоўнага стала, падумаў раптам: «А дзе гэта падзеўся наш наймілейшы Аруэ? Нешта яго не відаць...»

«Дык у Бастыліі ж», — азвалася з-пад стала адна фаварытка, імя якой ён ня памятаў. «Хм, сапраўды», — сказаў рэгент і вызваліў Аруэ з турмы. Сустрэўшы герцага на другі дзень усё ў той самай засені, паэт, які перажыў сваё зьняволеньне як даволі вясёлую, прыгоду, з паклонам сказаў:

«Я прашу вас, монсэньёр, не клапаціцца больш пра маё харчаваньне і жытло над маёй галавой».

Да пяці вечара заставалася яшчэ некалькі гадзін, і рэгент дараваў Аруэ гэтую дзёрзкасьць.

Праз восем гадоў паэт, ужо зрабіўшыся Вальтэрам, будзе зьбіты лёкаямі аднаго вяльможы і зноў трапіць у тую самую Бастылію. Але гэтым разам выйдзе зь яе ўжо іншым чалавекам. Уладальнікам такой сьмертаноснай сілы на кончыку пяра і такой крыўды на існуючы лад і прынятыя парадкі, што яго будуць слухаць і баяцца ня толькі ў Вэрсалі. Бо адна Бастылія — добра, а дзьве — яшчэ лепей, і калі першая псуе здароўе, дык другая вылечвае ад ілюзій, і назаўсёды. Але ўлада рэдка вучыцца на памылках — бо, на жаль, мала бывае ў славутых эўрапейскіх турмах. Санкцыі, сьпісы неўязных і ўсё такое. Хаця хапіла б і адной пажыцьцёвай экскурсіі.

# На фоне Сакса

*17 траўня 1846*
*Адольф Сакс*
*патэнтуе саксафон*

4 лютага 1894 году ў Парыжы памёр у галечы васьмідзесяцігадовы бэльгіец, якога звалі Адольф (Антуан-Жазэф) Сакс. Ніхто асабліва і не заўважыў сыходу ў лепшы сьвет чалавека, які паўстагодзьдзя перад тым узяў люльку для курэньня, клярнэт, каралеўскі скіпэтр ды габой, скамбінаваў іх паміж сабой адмысловым чынам, падзьмуў — і атрымаўся ён, саксафон.

Да джазу ў яго сучасным разуменьні заставалася ўсяго нічога. Праз 26 гадоў народзіцца Чарлі Паркер, праз 32 — Джон Колтрэйн, а ўжо праз 10 — Коўлмэн Гокінс. Для саксафона будуць пісаць музыку Дэбюсі, Гіндэміт, Шастаковіч, Пракоф'еў, Ігі Поп і процьма іншых геніяў і проста фотагенічных асобаў. А яшчэ пры жыцьці майстра Бэрліёз, «не родсьцьвеньнік», скажа, выціраючы скупую мужчынскую сьлязу, што гук саксафона «поўны, агромністы па моцы і так добра паддаецца зьмякчэньню!..» А ў 1928-м вялікае пралетарскае вуха вялікага пралетарскага пісьменьніка Горкага, праз сваё правільнае клясавае паходжаньне больш чулае за Бэрліёзава, пачуе ў саксафоне адно крэканьне, гугнявае гудзеньне ды голы сэкс.



Патэнт на вынайдзены ім музычны інструмэнт Сакс атрымаў 17 траўня 1846 году — і адразу ж быў уцягнуты ў судовую вайну: адны аспрэчвалі ягонае першынство, другія лічылі, што саксафон пагубіць музыку, трэція — што душу, чацьвертыя — што ён гучыць папросту неяк амаральна і падазрона, і калі дазволіць саксафону і далей беспакарана саксафоніць, неўзабаве ў Францыі не застанецца ні цнатлівых дзяўчат, ні афрыканскіх калёніяў, ні францускіх булак. Дзякуючы ўсім гэтым руплiўцам фірма Сакса ўрэшце збанкрутавала. Сын майстра музычных інструмэнтаў і вынаходнік саксафона апынуўся ледзьве не на вуліцы.

Музыкі і цяпер жартуюць, што нехта на небе вельмі не хацеў, каб саксафон зьявіўся на сьвет: калі Саксу было два гады, ён выпаў з акна і разьбіў галаву, у шэсьць ён выпіў борнай кіслаты замест малака, у чатырнаццаць зламаў руку, у дзевятнаццаць выпадкова апынуўся на шляху цагліны, што ляцела кудысьці з даху па сваіх справах, у дваццаць тры сур'ёзна атруціўся вінам. Цалкам магчыма, што саксафон прыдумаў бы тады нехта іншы і называўся б гэты магічны інструмэнт зусім інакш. Шпэцлефонам, напрыклад, або дамафонам. Але сам гэты гук, які склікае ўсе першабытныя сілы, якія яшчэ засталіся ў сучасным чалавеку, на нейкае апошняе баляваньне, які абуджае ў нас то прыгожых і маркотных зьвяроў, то анёлаў, то іншаплянэтнікаў — ён ня мог не зьявіцца.

# Доўгае лета Ганны

*18 траўня 1888 нарадзілася Ганна Барысевіч, якая пражыла 118 гадоў*

23 лютага 2007 году, акурат у дзень савецкай арміі і ваенна-марскога флёту, у Менску памерла Ганна Барысевіч, сьціплая і працавітая бабуля родам з-пад Ігумену.

Ну і што — сьцепане плячыма недасьведчаны цынік і пазяхне пры гэтым: уласна кажучы, кожны год у дзень савецкай арміі і ваенна-марскога флёту на плянэце аддаюць богу душу мільёны працавітых і сьціплых бабуляў з-пад розных далёкіх і блізкіх Ігуменаў, дык чаго ўжо тут валасы на галаве рваць. І горка пашкадуе пра свае словы. Бо, як той казаў, уся рэч у тым, што за бабуля. Ганна Барысевіч нарадзілася 18 (паводле старога стылю 5-га) траўня тысяча васемсот восемдзесят восьмага году — і калі гэтая дата не выклікае ў кагосьці ўзрушэньня, значыць, нечым бог гэтага небараку ўсё ж абдзяліў.

1888... Калі не існавала яшчэ ня толькі савецкай арміі і ваенна-марскога флёту, а і самога слова «савецкі». Ленін толькі-толькі паступіў ва ўнівэрсытэт. П'яны Вісарыён Джугашвілі з імпэтам лупцаваў свайго беднага сына. Яшчэ быў жывы Францішак Багушэвіч, які ў той год выправіўся ў Менск па адвакацкіх справах. Наводзіў на Лёндан жах Джэк Патрашыцель. У Амэрыцы выйшла першая вінілавая кружэлка, а прускі прынц Вільгельм рыхтаваўся прыняць імпэратарскую карону. Ганна Барысевіч нарадзілася за царом Аляксандрам III Міратворцам, а памерла за Лукашэнкам. Выходзіць, яна пасьпела пажыць пад уладай (непатрэбнае закрэсьліць): двух цароў, БНР і БССР, Леніна, Сталіна, Гітлера, зноў Сталіна, Хрушчова, Брэжнева, Чарненкі, Андропава, пасьпела сустрэць незалежнасьць і надыход дыктатуры... Так, тут замест кропкі значна больш дарэчна будзе выглядаць шматкроп'е. Бо пасьля такога сьпісу неяк і ягонае сумнае заканчэньне ўспрымаецца больш спакойна. Мінае ўсё, міне і гэта. Ганна Барысевіч — гісторыя краіны, увасобленая ў адной жанчыне. Сьведчаньне ня толькі таго, што тут усё паўтараецца, але і таго, што тут насамрэч нічога ніколі не стаіць на месцы і кожная ўлада ня проста ня вечная — яна як дождж або паводка, і сур'ёзна ставіцца да яе можа толькі камар. Пацьверджаньне таго, што ў апошнія 118 гадоў тут ніколі не было ніякай стабільнасьці і ніякай згоды, што тут амаль заўжды гаспадарылі ўсе, хто заўгодна, толькі не тутэйшыя. А тутэйшыя — жылі сабе. І выміраць, як бачым, ня надта сьпяшаліся.



А яшчэ гэтае велічнае і даўгое жыцьцё — абвяржэньне розных мэдычных мітаў. Паводле ўласнага прызнаньня, Ганна Барысевіч усё жыцьцё з ахвотаю ела шкваркі ды бульбу (дарэчы, яна ж распавядала журналістам, што была сьведкам трыюмфальнага памідорнага бліцкрыгу ў цэнтральнай Беларусі — раней пра тую індзейскую расьліну тут ня чулі). Пасьля таго, як мужа забралі ў 30-х органы, шлюбу ні з кім больш ня брала. Была непісьменная — што яшчэ раз даказвае: грамата — яна нікога да дабра не даводзіць. Калі была на душы туга, сьпявала песьні. Калі было трэба — падымала чарку. Ні пра што не шкадавала. І нам на разьвітаньне шкадаваць ня раіла.

## Мэтадам матыкі

*19 траўня 1925 нарадзіўся Пол Пот*

*«Самдэку Нарадому Сіянуку...*
*Самдэку Пэн Нуту...*
*Кхіеў Самфану...*

*Ад імя Цэнтральнага камітэту КПСС, Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР, Савецкага ўраду і ўсяго савецкага народу шлем вам і ў вашых асобах усім камбаджыйцам гарачыя віншаваньні з нагоды выдатнай перамогі — вызваленьня сталіцы Камбоджы Пномпэня. Гэтая перамога, дасягнутая камбаджыйскімі патрыятычнымі сіламі... успрынятая ўсімі савецкімі людзьмі з пачуцьцём глыбокага задавальненьня. Яна знамянуе сабой важны этап на шляху да поўнага таржаства...»*

І гэтак далей. Такое віншаваньне за подпісамі Брэжнева, Падгорнага і Касыгіна выйшла ў «Праўдзе» 18 красавіка 1975 году. СССР горача вітаў зьяўленьне на мапе сьвету яшчэ адной краіны, якая абвясьціла пра марксісцкі курс і якую можна было б зацягнуць у сфэру свайго ўплыву. Але неўзабаве пра новы рэжым папаўзьлі такія чуткі, ад якіх рабілася не па сабе нават савецкім ідэолягам. Дый віншавалі, як высьветлілася, ня тых.




***

У пачатку пяцідзясятых гадоў малады камбаджыец Салот Сар паехаў у Парыж вывучаць радыёэлектроніку. Але вучоба яму вельмі хутка абрыдла. Як і сама радыёэлектроніка. Прычым апошняя абрыдла настолькі, што ў другой палове сямідзясятых, калі Салот Сар зрабіўся гаспадаром Камбоджы, ён загадаў зьнішчыць у краіне ўсе электрапрыборы як пэражытак імпэрыялізму. І ўнівэрсытэты таксама.

З Парыжу ён пісаў сваім родным кароткія лісты. Але пісаць дамоў яму неўзабаве абрыдла. Так абрыдла, што, зрабіўшыся кіраўніком краіны, ён адмяніў у ёй пошту як контррэвалюцыйны інстытут. І тэлефон адмяніў. І тэлеграф. У Парыжы яму ўвесь час не хапала грошай. Адным зь першых сваіх рэвалюцыйных дэкрэтаў ён адмяніў іх празь іхную поўную непатрэбнасьць. Бо абрыдлі так, што моцы няма пра іх думаць. Таму і думкі ён таксама адмяніў.

У Парыжы пажылыя людзі ў акулярах вучылі яго, як жыць. І абрыдлі студэнту настолькі, што пасьля перамогі ён адмяніў у Камбоджы людзей у акулярах. Прычым ня толькі пажылых, але і маладых. Іх можна было забіваць на месцы, бо паўнавартасных членаў новага, здаровага камбаджыйскага грамадзтва з тых, хто носіць акуляры, атрымацца не магло.

А яшчэ ў Парыжы зь ім гаварылі па-француску. Прымушалі чытаць францускія кнігі. Вось сволачы. Калі надарылася магчымасьць, ён адмяніў францускую мову як каляніяльны пэражытак. А заадно ўсе астатнія мовы, апрача кхмэрскай. І кнігі адмяніў таксама. Акрамя «Маленькай чырвонай», зборніку вэрлібраў пра тое, як яму ўсё абрыдла і што яшчэ трэба адмяніць.

Парыж быў вялікі горад. Калі рэвалюцыя перамагла і Салот Сар прыйшоў да ўлады, ён адразу ж адмяніў гарады. Спачатку Пномпэнь, а потым і астатнія. Парыж ён адмяніць ня мог — затое пастараўся зрабіць так, каб ніхто ня мог даведацца, што гэта такое і дзе. Камбоджа таксама пасьпела яму абрыднуць, і ён зрабіў зь яе Дэмакратычную Кампучыю. А яшчэ больш абрыд Віетнам. Ён паспрабаваў адмяніць і яго, але скончылася ўсё адменай самога Салота. Аднак гэта будзе потым. А пакуль што, у 1975-ым, ён адмяніў мапы і зачыніў межы.

Дагэтуль ніхто ня можа сказаць з дакладнасьцю, калі нарадзіўся Салот Сар. Як самую праўдападобную дату называюць 19 траўня 1928 году. Дні нараджэньня ён таксама адмяніў. І вясельлі, і хаўтуры. І Новы год зь Першамаем. У маленстве ён два гады быў манахам. Манаства так яму абрыдла, што пры нагодзе ён адмяніў рэлігію і павынішчаў усіх вернікаў і сьвятароў. А як яму абрыдла ягонае імя!... Таму, як толькі займеў уладу, ён адмяніў і імёны. Сваё ён яшчэ ў Парыжы памяняў на Пол Пот, скарачэньне ад словаў «палітыка магчымага». А потым і наогул зрабіўся таварышам нумар 87.

Часам ён хварэў. І гэта так яму абрыдла, што ён адмяніў у Дэмакратычнай Кампучыі мэдыцыну. І хворых адмяніў таксама. І інвалідаў, якіх тут проста спальвалі жыўцом. Бо хваробы ды інфэкцыі — гэта ўсё старарэжымныя забабоны, а яны ўжо даўно абрыдлі, праўда? За Пол Потам Камбоджа зрабілася краінай з самым здаровым насельніцтвам у Азіі, бо за хваробу тут проста забівалі.

У сям'і яго любілі. Асабліва сёстры. Потым яго любіла адна жанчына, якой таксама ўсё абрыдла. Ад яе ў яго было чатыры дачкі. І гэта ўсё было так брыдка, што ён адаслаў усіх сваякоў на перавыхаваньне ў джунглі, адмяніў сям'ю, шлюб і любоў ва ўсіх яе праявах. І дзяцей адмяніў — іх забіралі ў бацькоў і рабілі зь іх салдатаў рэвалюцыі. Яму вельмі хацелася адмяніць сэкс, але тады ў яго б не было маладых салдатаў, і ён нехаця дазволіў, каб сагнаныя ў вёскі дэмакратычныя камбаджыйцы раз на месяц маглі застацца на гадзінку сам-насам пасьля дванаццацігадзіннай лекцыі на тэму таго, як яму ўсё абрыдла. Лішніх дзяцей, тых, хто меў бацькоў, за ягоным часам зьвязвалі разам і скідвалі ў напоўненыя вадой яміны, каб ніхто зь іх ня мог выбрацца. Бо што такое дзіця? «Дзіця — гэта патэнцыйны вораг рэвалюцыі».

Ён быў знаёмы з тысячамі людзей. І яны настолькі яму абрыдлі, што за некалькі гадоў яго ўладараньня ў краіне было забіта некалькі мільёнаў чалавек. Большасьць — ударам матыкі па галаве. Яшчэ тут любілі пераразаць горлы пальмавымі лістамі. Тапіць і душыць цэляфанавымі пакетамі. Бо патроны трэба было эканоміць. А вось самога таварыша № 87 мала хто знаў у твар. Большасьць удзельнікаў гэтага экспэрымэнту не падазравала, хто насамрэч кіруе краінай і як ён выглядае. Адзін мастак намаляваў аднойчы ягоны партрэт, які плянавалася разьвесіць ва ўсіх казармах і бараках (іншага жытла не прызнавалася). Каб было як у сапраўднай марксісцка-ленінскай дзяржаве. Калі таварыш № 87 даведаўся пра гэта, мастака забілі матыкай. Бо абрыд ужо, контра.

Калі Салот Сар нарэшце памёр, таварышы спалілі яго труп на вогнішчы з аўтамабільных шынаў, у джунглях, дзе да апошняга працягвалі сваю партызанскую барацьбу за матычнае шчасьце народу. Ва ўладара не было ні рахункаў у замежных банках, ні прыдворных паэтаў, ні дачы, ні самалёта. Таварыш № 87 меў толькі гімнасьцёрку і палку. Ды яшчэ веер. Каб ня так сьмярдзела чалавечынай.

# Свая Бо Далёкая

***20 траўня 1954 пачало працаваць Радыё Свабода***

Нікола Тэсла, якога ў ЗША прынята лічыць вынаходнікам радыё (хаця гэта і ня слушна — аднак што возьмеш з краіны, дзе забегі касманаўтаў завуцца футболам), яшчэ да Брэдбэры адзначыў неяк, што «любое дзеяньне нават самай малюсенькай істоты прыводзіць да зьменаў ва ўсім сусьвеце». Здаецца, менавіта так атрымалася і з Радыё Свабода: пачаўшыся некалі з маленькага калектыву загадкавых вайсрутэнскіх эмігрантаў, яно здолела зьмяніць беларускі сусьвет. Не зусім само, вядома, але здолела. Беларусь атрымала свой, сучасны голас, які можна пачуць адусюль. Напэўна, і палітычная, і культурная мапа Эўропы, і сам беларускі космас выглядалі б сёньня крышку інакш, калі б аднойчы ў этэры за паўгадзіны да паўночы пасьля музычнай застаўкі не прагучала раптам упершыню ў гісторыі вось гэта, легендарнае:



*«Тут Радыё Вызваленьне. Вы слухаеце голас сваіх суродзічаў-беларусаў з вольнага сьвету... Наш голас ёсьць вашым голасам...»*

Хто хацеў, той пачуў.

Трэці год пішучы для РС з рэгулярнасьцю, што часам палохае цябе самога, цяжкавата знайсьці нейкія нэўтральныя словы пра гэтую дату ў гісторыі. Намеру канкураваць з выдатнымі перадачамі, якія Свабода зладзіла да свайго паўвекавога юбілею, у мяне няма, дый таленту радыйнага бракуе. Але затое адгукаецца пры словах Радыё Свабода шмат. На мой погляд, пісьменьнік — гэта чалавек, які прамаўляе тое, што іншыя ня здатныя або баяцца сказаць. Таму, калі чуеш гэта: «Наш голас ёсьць вашым голасам...» — немагчыма не знайсьці нешта бясконца блізкае для сябе, нават калі сам і не сядзіш перад мікрафонам.

Гэтымі словамі пачалася 20 траўня 1954 году першая перадача беларускай «Свабоды», рэдакцыя якой тады месьцілася ў Мюнхэне. «Замест кампутараў друкарскія машынкі, замест дыгітальных магнітафонаў шпулевыя, з хуткасьцю 78 абаротаў за хвіліну, замест сьвежых карэспандэнцыяў зь Менску — вера, досьвед і веды», — можа, гэтыя словы Аляксандра Лукашука пра тую першую, толькі што паўсталую Свабоду і ня мелі на мэце нікога зачароўваць, але ўяўляць шпулі, друкаркі і апантаных людзей, якія працавалі зь імі, бяз нутранога хваляваньня цяпер не атрымліваецца. Гісторыя Свабоды — гэта таксама гісторыя цуду. Пяцідзясятыя, Мюнхэн, халодная вайна, магія часу — і ў ім, абыякавым часе знаходзіцца месца для іншай Беларусі, сынонімам якой ня ёсьць БССР. Зусім як цяпер існаваньне РБ ніяк не ўплывае на колькасьць і якасьць беларускага ў гэтым сьвеце і яго ваколіцах. Наогул, Беларусь і РБ — гэта цяпер хутчэй, на жаль, такія сабе антонімы. З антанімічнасьцю прыкладна такой самай, як вечная пара Свабода — Рабства. Толькі вось Радыё Рабства чамусьці заўжды вяшчае з радзімы, а Свабода — з-за мяжы.

А рыхтавалі тую першую перадачу ў 1954-м Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Пятро Сыч, Сымон Кандыбовіч, Янка Ліманоўскі і Лявон Карась. Цела апошняга ўжо празь некалькі месяцаў нямецкая паліцыя вылавіць у рацэ Ізар — беларускі голас, ды яшчэ з вольнага сьвету, адразу ж паспрабавалі заткнуць. Бо на ягоным фоне цёмнае мармытаньне крамлёўскіх шаманаў ужо не магло дзейнічаць так эфэктыўна, усё гэта адцягвала ўвагу ад танцаў з боегалоўкамі і грукату ў прапагандысцкія бубны — таго, чым жыла тады Беларусь у складзе «сям'і народаў». Радыё зрабілася зброяй задоўга да стварэньня Свабоды — але атрымалі беларусы гэтую зброю толькі ў траўні 1954-га. Позна? Здаецца, не. Менавіта тады, калі патрэба насьпела.

Тры гады пішучы для сайту Свабоды з рэгулярнасьцю, якая часам палохае нават тваіх чытачоў, думаеш, што не, усё гэта невыпадкова. Зь ім, цяперашнім РС, цябе лучыць шмат. Ад мовы да арыентыраў. Ад артаграфіі да геаграфіі. Яно — адзін зь нешматлікіх прыкладаў таго беларускага жыцьця, якое ніколі ня зможа працягвацца ў гета ды яшчэ ганарыцца гэтым. Ня тыя ў яго прынцыпы. Яно і праўда больш за проста радыё — і для таго, каб так сталася, трэба было прайсьці шлях ад Вызваленьня палітычнага да Свабоды ў самым шырокім сэнсе. Ягонае існаваньне — доказ таго, што той самай свабоды ў Беларусі як не было, так і няма. Ягонае існаваньне — доказ таго, што яна камусьці тут усё ж патрэбная. Як там было ў Набокава: «...і Цынцынат пайшоў сярод пылу і палых рэчаў, і трапяткіх палотнаў у той бок, дзе, мяркуючы па галасах, стаялі істоты, падобныя да яго»...

# На могілкавым кладзьбішчы

*21 траўня 1771 у Парыжы адкрытыя могілкі Пэр-Ляшэз*

Як сьпяваў адзін заслужаны савецкі мушкетэр, Парыжу заўжды былі патрэбныя дзьве рэчы: грошы і рыцары. Але сэ ля ві — трэцяй рэччу, пякучую патрэбу ў якой адчувала француская сталіца, аказаліся новыя могілкі. Што, у прынцыпе, даволі ўдала завяршае пачаты грашыма асацыятыўны рад. Увесну 1804 году горад Парыж выкупіў у прыватнага ўладальніка сямнаццаць гектараў зямлі на ўзгорку Бэльвіль на самай ускраіне, а ўжо 21 траўня таго году там адбылося першае пахаваньне. Якое ні да рыцарства, ні да грошай ня мела ніякага дачыненьня — доўгі шэраг жыхароў могілак Пэр-Ляшэз адкрыла пяцігадовая дзяўчынка.

Піярыць могілкі ва ўсе часы было няпроста — няма да чаго падкапацца. Каб завабіць народ класьціся ў зямлю менавіта на Пэр-Ляшэз, а не на перапоўненых і такіх звыклых старых, яшчэ зь сярэднявечча вядомых могілках, што неўпрыкмет апынуліся ледзьве ня ў цэнтры гораду, давялося зьвярнуцца да клясыкаў. Праз некалькі гадоў пасьля адкрыцьця на Пэр-Ляшэз перапахавалі Мальера і Ляфантэна, і на парыскім Стыксе пачалася паводка, бо народ паваліў сюды ракой. Ляжаць у сырой зямліцы побач зь несьмяротнымі майстрамі слова хацеў кожны француз, які ўмеў чытаць, а неўзабаве і для іншаземных трупаў на Пэр-Ляшэз быў уведзены бязьвізавы рэжым.



З жыхароў Пэр-Ляшэз можна скласьці горад. Можна — энцыкляпэдыю. Можна — Кнігу лёсаў. Можна — пазл: каго не хапае, каб карцінка выглядала завершанай — і хто лішні? Можна — дапаможнік па сьпірытызьме. Тут ляжыць Нестар Махно, таксама ў нейкім сэнсе пэр. Тут знайшоў апошні прытулак Шампальён. Менавіта тут спачываюць Бальзак і Апалінэр. Сюды, прамовіўшы свае цудоўныя словы пра мярзотныя шпалеры ў кветачкі, выправіўся Оскар Ўайлд. Тут навечна аддаўся сваёй вялікай мэлянхоліі Пруст. Гюстаў Дарэ і Сара Бэрнар, Шапэн і Элюар, Піяф і Дэлякруа... Тут вярнуўся нарэшце ў сваё індзейскае аблічча сын адмірала Джым Морысан. Тут побач ляжаць куртызанкі, куцюр'е, камуністы і камэдыёграфы. Тут спачывае прах старшыні Рады БНР Міколы Абрамчыка — і Пэр-Ляшэз, па вялікім рахунку, мусіць у нейкім сэнсе дадаваць БНР аўтарытэту. Бо ў такім суседзтве...

На радзіме Міколы Абрамчыка, між тым, могілкі — самы жудасны прыклад таго, да якой пульпы дабралася русыфікацыя. Або — куды так і не дабраліся ўсе беларусізацыі. Наведваючы сваіх памерлых у Менску, адганяеш ад сябе навязлівую думку, што дзеці нябожчыкаў, напэўна, сьвята вераць ва ўваскрашэньне душаў і баяцца, каб на тым сьвеце іхных бацькоў не палічылі «апазыцыяй» і «адмарозкамі». Калі, вядома, бацькі — не пісьменьнікі ці якія іншыя артысты. Гэтым можна. Але нармальнаму чалавеку паміраць па-беларуску не выпадае — засьмяюць або арыштуюць. Вось дзе праца для ТБМ. А для празьмерна ўражлівага нацыянальна сьведамага чалавека дык і наогул глеба для новай фобіі — быць пахаваным пад помнікам з эпітафіяй па-расейску і без «Пагоні». Лепш ужо зажыва. Ці ў Парыжы.

# Чалавек як чалавек

*22 траўня 1945 пад Гамбургам арыштаваны Гімлер*

Гэты чорна-белы здымак быў зроблены ўвесну 1945-га і ня так даўно выстаўлены на аўкцыён: на падлозе ляжыць, склаўшы рукі на грудзях, быццам бы сьпіць, бяскрыўдны мужчына гадоў пяцідзесяці ў акулярах, у кашулі брытанскага вайскоўца, напаўпрыкрыты салдацкай коўдрай. «Вузкагруды чалавечак зь бязвольным падбародзьдзем, лісьлівай усьмешкай і мяккімі рукамі, пэдант, містык і кніжны чарвяк» — так апісвалі яго тыя, каму не пашчасьціла і яны пазнаёміліся зь ім асабіста. Партрэт ісьціннага арыйца, нічога ня скажаш. Трыюмф волі! Праўда, яшчэ за два дні да таго, як было зробленае гэтае фота, яго герой шмат бы аддаў за тое, каб выменяць сваё паходжаньне на нейкае іншае. Напрыклад, яўрэйскае. Памяняцца крывёй. Але гэта ня так проста, як памяняць аўсвайс.



...Ці то 21, ці то 22 траўня 1945 году, розныя крыніцы кажуць рознае, у Майнштэце, за паўсотню кілямэтраў ад Люнэбургу брытанскі патруль спыніў на дарозе невялікую групу змораных, галодных і абарваных супрацоўнікаў Geheime Feldpolizei, нямецкай тайнай ваеннай паліцыі. Паводле немцаў, што выглядалі жывым сымбалем сваёй жудаснай паразы, яны не задумвалі нічога такога і проста прабіраліся дамоў у Баварыю. Адзін зь іх, Гайнрых Гітцынгер, меў на левым воку чорную павязку — правым ён уважліва ўзіраўся ў твары пераможцаў з быццам бы нейкім амаль што навуковым інтарэсам. Непрыемны позірк. «Ну што, наваяваўся, аднавокі?» — спытаў адзін з патрульных, нядаўна вызвалены савецкі ваеннапалонны, адвёўшы вочы, і сплюнуў. — «Красаўчык! Ладна, паўзіце далей...»

Але перадумаў: навюткія, як толькі што надрукаваныя дакумэнты немцаў усё ж падаліся патрулю падазронымі. Затрыманых даставілі ў фільтрацыйны лягер 031 пад Люнэбургам. Такія лягеры для таго і былі створаныя, каб пасьля праверкі вырашыць, каго адпусьціць, а каго пакінуць для далейшага высьвятленьня асобы — па дарогах Нямеччыны цалкам маглі разгульваць загрыміраваныя борманы і ўваскрэслыя гёбэльсы. Ужо на другі дзень на Ульцэнштрасэ, 31а тыя немцы з Майнштэту сядзелі ў бясконцай чарзе да капітана Сэлвэстра, які асабіста дапытваў кожнага затрыманага. Чарга ёсьць чарга, чаканьне ў ёй часта бывае невыносным, асабліва калі даўно ў ёй не стаяў, асабліва калі дагэтуль стаялі пераважна ў чарзе да цябе... Заўжды знойдзецца нехта, хто захоча «бяз очарадзі». Такіх у чарзе да Сэлвэстра аказалася трое. У тым ліку і Гайнрых Гітцынгер.

Апынуўшыся перад брытанскім капітанам, Гітцынгер зьняў павязку, надзеў акуляры і ціха, зь нейкай палёгкай прамовіў:

«Я — Гайнрых Гімлер».

Да Гімлера прыставілі ахову і адразу ж паслалі ў штаб па афіцэра выведкі. Былога райхсфюрэра абшукалі і знайшлі

ў яго латунную скрыначку, дзе быў фляканчык зь нейкай вадкасьцю. «Гэта мае лекі ад страўніка», — патлумачыў Гімлер. Другая латунная скрыначка была пустая. У рот яму не зазіралі, хаця ведалі, што нацысты любяць захоўваць там атруту, на скрайні выпадак. Баяліся, што спалохаюць, такое ўжо бывала — а Гімлер быў патрэбны брытанцам жывы. Яму далі бутэрбродаў з сырам.

Нарэшце зьявіліся палкоўнік выведкі Мэрфі і доктар. Гімлера даглядзелі ўжо больш грунтоўна: залезьлі ва «ўсе адтуліны цела», як назваў гэтыя месцы далікатны пратакол. Заставалася толькі чортава Гімлерава пашча з цудоўнымі белымі зубамі.

«Адкрыйце рот, — ласкава сказаў доктар, быццам перад ім было дзіця. — Скажыце „а-а-а"...»

Гімлер нехаця адкрыў рот, і палкоўнік Мэрфі адразу ж заўважыў маленькі чорны шарык паміж ягоных зубоў з правага боку ніжняй сківіцы. Доктар маланкава сунуў два пальцы ў пашчу райхсфюрэра і закрычаў — Гімлер моцна прыкусіў яму пальцы. Тут жа пачуўся нейкі нягучны хруст. Палкоўнік і яшчэ адзін афіцэр кінуліся на Гімлера і павалілі яго на падлогу, намагаючыся перавярнуць на жывот, каб яму было цяжэй глытаць, а доктар сьціскаў горла, каб нацыст выплюнуў атруту.

Яшчэ пятнаццаць хвілін яны ўлівалі яму ванітны сродак, рабілі прамываньне страўніка і штучнае дыханьне, але марна. Райхсфюрэру ўдалося сысьці ад адказнасьці, ён быў мёртвы, мёртвы канчаткова, незваротна і несумненна — зусім як усе тыя мільёны людзей, забітыя на ягоныя загады і пад яго кіраўніцтвам. Зусім як сапраўдны Гайнрых Гітцынгер — немец, забіты падчас вайны паводле прысуду нацысцкага суду за свой пацыфізм. Зусім як Гітлер, за ўплыў на якога Гімлер змагаўся ледзьве не палову жыцьця і якому перад сьмерцю здрадзіў. Перад брытанскімі афіцэрамі ляжаў чалавек, які самым непасрэдным чынам прычыніўся да ўсіх галоўных злачынстваў нацызму: ад арганізацыі канцлягераў і кіраваньня СС да экспэрымэнтаў над жывымі людзьмі і распрацоўкі і рэалізацыі «канчатковага рашэньня». І самых бязглуздых яго ідэяў: кшталту праграмы «Lebensborn», пошукаў каранёў у Тыбэце і шлюбных законаў для эсэсаўцаў. Ён любіў сваю дачку, лічыў сябе рамантыкам, цікавіўся ісламам, быў прыхільнікам палігаміі і запомніўся «калегам» як спэцыяліст, які можа даступна патлумачыць усё на сьвеце. Патлумачыць і апраўдаць. То бок чалавек як чалавек...

Хаця і ў яго, пэўне ж, бывалі сумневы. Гэта пра яго расказвалі: неяк ён пабачыў у натоўпе асуджаных на сьмерць яўрэяў высокага, дужага блакітнавокага бляндына з правільнымі рысамі твару і жалезным падбародзьдзем. Да такіх у яго была слабасьць, і ён падышоў пагаварыць. «Вы яўрэй?» — «Так». «А вашыя бацькі...» — «Абое былі яўрэямі». «Магчыма, хаця б нехта з вашых сваякоў быў неяўрэем?» — «Усе, каго я знаю і пра каго чуў, чыстакроўныя, рэлігійныя і сьвядомыя яўрэі». Гімлер быў агаломшаны. Але ж ён сам прыдумаў усе гэтыя правілы... «Тады я нічога не магу для вас зрабіць», — суха сказаў ён і адвярнуўся. Думаючы, відаць, пра капрызы прыроды. Аграном-мічурынец і генэтык-лысенкавец у адной асобе. Толькі замест расьлінаў — людзі.

# Вырвацца і ўцячы

*23 траўня 1934 расстраляная банда Боні і Клайда*

Усё, што табе трэба — гэта каханьне. А калі ты забойца, у якога рукі ў крыві, дык і пагатоў. Каханьне — як фальшывае алібі, што безь пярэчаньняў бяруць на веру некалькі мільярдаў прысяжных, якіх ніколі не запросяць у суд. Яно, каханьне, апошняя надзея сьмяротнікаў, бо калі цябе кахалі і ты кахаў — значыць, нікчэмнае жыцьцё тваё ўсё ж мела сэнс. Нейкі, няважна які. Каханьне здольнае і над парай звычайных бандытаў запаліць такі арэол, які, здаецца, і ў пекле заменіць сабой геену вогненную. І вось ужо замест сухога пратаколу і чарговай закрытай справы на пакамечаных блянках банкаўскіх чэкаў праступае напісаная няроўнымі, бы таропка накрэмзанымі ў машыне, радкамі яна, гісторыя.

Ён быў дробны злодзей, яна была афіцыянтка, але ім хацелася большага. Яго гвалцілі ў турме, яе гвалціла сама рэчаіснасьць, непрыгожая і безнадзейная, як пустэльня — ім хацелася вырвацца і ўцячы. Ён любіў свабоду, грошы і добрыя машыны, яна любіла свабоду, пісталеты і пісала кепскія вершы. 23 траўня 1934-га ўсё скончылася: на адным з гасьцінцаў у Бэлвіл Пэрыш, штат Люізіяна, мясцовы шэрыф разам з тэхаскімі рэйнджэрамі імем закону выпусьцілі сто семдзесят куляў у аўтамабіль Форд V8, у якім былі Клайд Бэроў і Боні Паркер. Пяцьдзясят зь іх трапілі ў цэль. Імёны амаль паўтара дзясятка чалавек, якіх забіла за два гады рамантычная пара, што так марыла жыць прыгожа, ня ведае ніхто, акрамя, мабыць, нейкіх вузкіх спэцыялістаў па крымінальнай гісторыі ЗША. А хто такія Боні і Клайд, ведае ўвесь сьвет. Каханьне страляе проста ў лоб справядлівасьці, мазгі разьлятаюцца і запырскваюць мараль.



А і праўда, хто яны такія? Ёсьць два чалавекі, якіх лепш прыбраць, шукаючы адказ на гэтае пытаньне, прыбраць, як непатрэбных сьведкаў: Ўорэн Біці і цудоўная Фэй Данаўэй. Кантрольны клік у прыгожую галаву — усё, іх больш няма. Назваць Боні і Клайда звычайнымі бандытамі наважыцца цяжка. Ахвярамі — таксама. Самі яны лічылі сябе добрымі і чалавечнымі людзьмі, чулымі да чужога гора — і былі амэрыканцамі да апошняга капіляра на запясьці. Прынцыповымі ворагамі дзяржавы называць іх таксама не выпадае: што Клайд, што Боні, што саўдзельнікі іхных нападаў і рабункаў былі занадта неадукаваныя і цьмяна ўяўлялі сабе, што такое значыць гэтая ідэалёгія — ня кажучы ўжо пра тое, каб яе мець.

А адказ просіцца вось які: яны былі героі школьнага сачыненьня на тэму «Кім я мару быць, калі вырасту». Школьнага — дарма што ў той травеньскі дзень яму было 25, ёй не было 24. Хаця ім задавалі ўсяго толькі пераказ. Яны напісалі тое сачыненьне так, як маглі, паспрабавалі прыдумаць сябе ў меру свайго розуму і ўяўленьня пра мараль. У выніку атрымаўся хаатычны, непісьменны і страшны ў сваёй шчырасьці тэкст, кожнае слова ў якім падкрэсьлена, пакрэсьлена і перакрэсьлена — чырвоным.

# Першы блін сабакаловам

*24 траўня адбываецца першы замах на Троцкага*

Увечары 24 траўня 1940 году ў адной з рэстарацыяў Мэхіка пʼе ды гуляе шумная мужчынская кампанія. Віно, шампанскае, тэкіла... Як пайшла такая пʼянка — рэж апошні агурок! На нявіннае пытаньне афіцыянта, ці ня выйграў нехта з сэньёраў у лятарэю, адзін з балявальнікаў раздражнёна адказвае: «Дзень нараджэньня ў мяне, паняў? Давай, нясі яшчэ тэкілу! Ды з чарвячком, з чарвячком!»

Пра сапраўдную нагоду разгуляцца ў гэты вечар ніхто не заікаецца, нягледзячы на колькасьць выпітага. Разьвязаць цяпер язык значыць завязаць сабе на шыі пятлю, надзейную, як гальштук піянэра Пятра Сталыпіна. Але заікнуцца хочацца. Бо нагода ж не абы-якая, і яны пачуваюцца героямі: сёньня на досьвітку каля 4-й гадзіны гэтыя самыя сэньёры колькасьцю дваццаць чалавек, пераапранутыя ў мэксыканскіх жаўнераў, падʼехалі да дома палітычнай прастытуткі Троцкага ў Каяакане. Ахоўнік правёў іх ва ўнутраны двор, яны падышлі да танюсенькай сьцяны, за якой была спальня палітычнай прастытуткі і ягонай жонкі, і ўсадзілі ў яе столькі куляў, колькі здольная выпусьціць аўтаматычная зброя на працягу дзесяці хвілінаў. Сыходзячы, яны для надзейнасьці пакінулі каля дзьвярэй бомбу і забралі з сабой ахоўніка, які, як водзіцца, «зашмат ведаў». У сьцены дома было зроблена некалькі сотняў стрэлаў. Каб ацалець пасьля такога ціру, трэба нарадзіцца ў кашулі.



«Ну, за посьпех! І каб не апошні!»

Ніхто з прысутных, і нават сам «імяніньнік», чырвоны дон мастак Сікейрас, не здагадваўся, што палітычная прастытутка пасьля гэтай агнястрэльнай ранішняй фээрыі ня проста выжыла — яна не атрымала ніводнай драпіны, за выключэньнем лёгкага парэзу аскепкам шкла. Як і жонка палітычнай прастытуткі Натальля Сядова, якая, як толькі пачалася страляніна, штурхнула старога ў карак з такой сілай, што ён паваліўся на падлогу паміж ложкам і сталом — і дзякуючы гэтаму застаўся жывы. «Наташа, за што?» — нема пыталіся вочы, пакуль банда перατварала сьцены каяаканскага дома ў рэшата. Відаць, і праўда ў бронекашулі нарадзіўся больш за шэсьцьдзесят гадоў таму пад Хэрсонам Лёва Бранштэйн. Унуку Троцкага Севу, які мірна спаў у суседнім пакоі, адна з куляў трапіла ў нагу. На гэтым сьпіс ахвяраў таго дня сканчаецца.

Неўзабаве ўсе дваццаць сэньёраў будуць арыштаваныя мэксыканскай паліцыяй. Мастак Сікейрас будзе бажыцца на допытах, што забіваць нікога не хацеў, што напад на дом у Каяакане быў пэрформансам і спадары сьледчыя проста нічагусенькі не разумеюць у сучасным мастацтве. Пра тое, што на гэты пэрформанс быў атрыманы грант ад НКВД, ён маўчаў. А ў дом Троцкага ўсё часьцей пачне наведвацца адзін малады чалавек, францускі альпініст, які захоча прадэманстраваць правадыру новую мадэль ледаруба. Як казаў сам Леў Давідавіч, «гістарычная заканамернасьць адбываецца ў выніку натуральнага падбору выпадковасьцяў». Кулі адбор не прайшлі, а ледаруб вось — вытрымаў.

Усё гэта нагадвае нейкую трагічную карыкатуру. Чалавека, які паклаў жыцьцё на тое, каб ашчасьлівіць сваіх суродзічаў сусьветнай рэвалюцыяй, што будзе, нібы шалёны трамвай, давіць усіх запар — забілі сталінскія áгенты, у якіх погляды на тое, як заразіць той трамвай шаленствам, трохі адрозьніваліся. У Мэксыцы ў 1940-м загінуў той, хто, не саромеючыся, мог напісаць з чыста марксісцкай гідлівасьцю: «З пункту погляду так званай абсалютнай каштоўнасьці чалавечай асобы рэвалюцыя падлягае „асуджэньню“, як і вайна, як, зрэшты, і ўся гісторыя чалавецтва. Але ж і самое разуменьне асобы выпрацавалася ў выніку рэвалюцый...» Якое вялікае і прасторнае двукосьсе. Туды ўвесь сьвет можна засунуць — у імя ідэалаў.

# Магчымасьць бухты

## *25 траўня 1917 у сьветлай краіне ля сіняй бухты памёр Максім Багдановіч*

*«...Въ послѣдніе годы значительно увеличился пріѣздъ въ Ялту трудового люда, не богатаго средствами, желающаго на сотню трудовыхъ рублей прожить въ Ялтѣ пару мѣсяцевъ, набраться силъ и покупаться въ морѣ. Значительнѣйшую часть этого контингента составляетъ педагогическій персоналъ. Кромѣ педагоговъ пріѣзжаетъ много учащихся. Этимъ послѣднимъ при желаніи устроиться подешевле слѣдуетъ поискать комнату на одной изъ окраинъ города: въ Аутке, на Воронцовской слободкѣ, въ концѣ Заречья, гдѣ можно найти комнату рублей за 10 и жить въ ней вдвоем. Лѣтомъ въ такихъ комнатахъ можно смѣло селиться, зимою же многія изъ нихъ требуютъ къ себѣ большой осмотрительности...»*



***

«Пакой быў даволі вялікі, сьветлы, меў выгляд на мора, на другім паверсе, з асобнай лесьвіцай і абсалютна ізаляваны: хоць крычы, хоць грукачы — ніхто не пачуе (гаспадыня жыла ўнізе) і не дапаможа».

Так пазьней апісаў апошні прыстанак Багдановіча яго бацька. І дадаў, поўны скрухі: «Найлепшае месца, каб паміраць у адзіноце». «Я не самотны...», — запярэчыць Багдановіч-малодшы перад сьмерцю, быццам ведаючы, якім рэхам яна адгукнецца. Пакой у доме нумар восем на вуліцы Мікалаеўскай у Ялце быў зьняты яшчэ ў лютым. Гаспадыню, якая «жыла ўнізе», звалі Марыя Цамко. Менавіта ў гэты пакой яна ўвайшла 25 траўня 1917 году: яе кватарант ляжаў, выпрастаўшыся, на ложку, адна рука пад падушкай, другая адкінутая ўбок, на зэдліку побач трускаўкі ў набрынялым сокам кульку. На старых капэртах яна адшукала яраслаўскую адрэсу бацькі Багдановіча, ня ведаючы, што ён у гэты час быў зусім блізка, у Сымфэропалі. Напісала яму пра сьмерць сына, паплакала трохі па маладым-прыгожым, але без гістэрык — у Ялту шмат хто ехаў лячыцца, а прыяжджаў паміраць: сярод дамаў з сабачкамі, за два крокі ад мора, зьеўшы апошняе марозіва на знакамітай набярэжнай, шпацыруючы вакол няіснага вакзалу з набокаўскага «Сагледача».

Ні пані Цамко, для якой пастаялец быў звычайны хворы студэнт, ні бацька, які на сваё зьдзіўленьне апынуўся неўзабаве ў цені сынавай славы, бо нічога такога ніколі і падумаць ня мог, хаця сына, вядома, паважаў і любіў; ні тая містычная дзяўчына, зь якой Багдановіч пазнаёміўся незадоўга да сьмерці — ніхто не падазраваў, што за чалавек насамрэч разьвітаўся з жыцьцём. Дый цяпер шмат хто не падазрае. Прынамсі, абсалютная большасьць тых, каго Максім Багдановіч заклікаў біць двуручнымі мячамі па галаве (ОК, трохі ніжэй), каб яны пачулі нарэшце, як начамі баліць беларускае сэрца, на свой конт гэтых словаў не адносяць і шчыра працягваюць блытаць паэзію зь міністэрствам культуры.

# Чалавек зь ніадкуль

*26 траўня 1828 сьвет знаёміцца з Каспарам Гаўзэрам*

26 траўня 1826 году, акурат на Тройцу, нюрнбэрскі шавец Вайкман і ягоны прыяцель Бэк выправіліся за горад на піва і сасіскі. Паблізу ад гарадзкой брамы ім памахаў рукой нехта незнаёмы ў лямцавым капелюшы і чорным шаліку.

«Ведаеш, Бэк, пра што я цяпер думаю? — запытаўся Вайкман. — Пра таемныя знакі чалавечага быцьця. Пра тое, як важна іх распазнаваць. Вось узяць хаця б нас з табой. Калі нехта махае нам рукой, значыць, яму ад нас нешта трэба. А калі камусьці ад нас нешта трэба, значыць, дружа, цалкам можа здарыцца, што ён пачастуе нас півам і сасіскамі. І мы зэканомім сёньня парачку флярынаў».

Яны падышлі. Чалавек, які іх паклікаў, быў зусім малады, гадоў сямнаццаць, ня больш. «Што табе трэба, шаноўны?» — важна запытаўся Вайкман. Незнаёмец паклікаў іх пальцам, прыклаў яго да вуснаў, і калі яны міжволі наставілі вушы, выразна і заклапочана прамовіў:

«Я хачу быць такім кавалерыстам, як мой бацька!»

«Ведаеш, Вайкман, здаецца мне, што піва і сасіскі давядзецца сёньня ўсё ж купляць за свае», — сказаў Бэк, разглядваючы боты незнаёмца, зь якіх выглядвалі брудныя пальцы.

«Што ж, пахвальнае жаданьне, — з прыкрасьцю адказаў Вайкман дзіўнаму тыпу ў шаліку. — А я хачу зрабіцца прынцам Бадэнскім. На гэтым скончым наш марбурскі дыспут. Мы, шаўцы, народ заняты. Братоў Грымаў чытаў?»

«О, я хачу быць такім самым кавалерыстам, як мой бацька! — заківаў бадзяга. — Кавалерыстам! Коні! І-го-го!»

Прыяцелі ўжо думалі пайсьці сваёй дарогай, але незнаёмец, дзіўна перастаўляючы свае крывыя ногі, рушыў за імі. «Хачу быць кавалерыстам!» — ледзь ня румзаў ён, нібы Вайкман і Бэк былі камандзірамі ўланскага палка. Урэшце гэта ім надакучыла, і яны здалі яго гарадзкой варце. Так сьвет упершыню пазнаёміўся з Каспарам Гаўзэрам, чалавекам зь ніадкуль, самай загадкавай асобай дзевятнаццатага стагодзьдзя.



Варта адвяла незнаёмца да капітана кавалерыі, той прывёў хлопца ў паліцыю. Пры Каспары і праўда знайшлі ліст, аўтар якога, старанна ўдаючы зь сябе малапісьменнага баўэра, прасіў «залячіть падателя сяго пісьма ў коволерію, патаму што мальчык хоча служыць сваму каралю, мне яго аддалі на васьпіта-

ньне, а яго карміць не магу». А разам зь лістом — некалькі паперак з малітвамі і нечае эсэ пад злавеснай назвай «Як вярнуць страчаны час і змарнаваныя гады».

На ўсе пытаньні, хто ён і адкуль родам, Каспар прызнаваўся, што хоча быць кавалерыстам, як ягоны бацька, і вельмі ганарыўся, што можа падзяліцца з панамі такой важнай інфармацыяй. Ён умеў трохі пісаць і чытаць (напісаў сваё імя, калі яго папрасілі), пра навакольны сьвет ведаў ня больш за трохгадовае дзіця, мог так-сяк прамармытаць «Ойча наш», любіў белых коней, пад якімі разумеў усё, што варушыцца, еў адно чорны хлеб, а піў толькі ваду. Ад сасісак, піва, айсбайну, кудэль-мудэлю, шпэцляў, фляйшпфлянцляў, обствасэру, егермайстру, лідлю, рамштайну і іншых рэчаў, безь якіх беларусу цяжка ўявіць сабе нармальнае чалавечае шчасьце, Каспара адразу пачынала ванітаваць. Ня менш за Каспаравы кулінарныя густы і жарсьць да конскай пароды зьдзіўлялі ягоныя ногі — вывернутыя, бы абцугамі.

Пазьней ён прыгадаў, што жыў у клетцы, у якой немагчыма было выпрастацца, можна было толькі сядзець, ляжаць і поўзаць. Яго прызналі цудам прыроды і пачалі перадаваць з рук у рукі — настаўнікі, прафэсары, сьвятары, чыноўнікі, прыёмныя бацькі і прыемныя жанчыны доўгай чарадою пацягнуліся цераз ягонае новае жыцьцё, і кожны хацеў разгадаць яго, і кожны хацеў навучыць небараку Каспара розуму.

Пра яго гаварылі ў Мінэапалісе, Менску, Манчэстэры і Мадрасе. Адны лічылі яго Маўглі, выхаваным зьвярамі (а пісаць ён, відавочна, навучыўся ў Лясной школе, і «Патэр ностэр» даведаўся ад зайцоў), іншыя — прайдзісьветам, які вырашыў у такі спосаб пажыць па-чалавечы, не турбуючыся пра хлеб надзённы; трэція — ахвярай псыхічна хворых бацькоў, чацьвертыя... Чацьвертыя, супаставіўшы ўсе факты, моўчкі паказвалі ўгару і ня раілі ні з кім дзяліцца здагадкамі: відаць, Каспар наш — пазашлюбны сынок самой Ягонай міласьці... Пятыя пагаджаліся, але даказвалі, што дзіця трымалі да паўналецьця ў зьняволеньні, каб уратаваць.

А неўзабаве на Каспара пачалі паляваньне таямнічыя людзі ў чорным. Камусьці вельмі не хацелася, каб ён Нешта Ўспомніў. А ўспамінаць ён пачаў усё часьцей. Усё скончылася ў Ансбаху, калі Каспару было каля 21 году ад роду: яго завабілі ў парк і закалолі нажом. Гэта потым ужо ў адным з баварскіх замкаў знайшлі сутарэньне, у якім валяўся спарахнелы, некалі пафарбаваны ў белы колер цацачны конік — ці сапраўды ён некалі належаў Каспару, засталося невядома. Як і тое, хто ён усё ж быў — Каспар Гаўзэр, чалавек зь ніадкуль.

# Сродак ад глухаты

*27 траўня 1963 у Менску арыштаваны Сяргей Ханжанкоў*

Ёсьць у расейскай мове такое дзіўнае, падзабытае, рэдкаўжывальнае слова — «берушы»... Не адразу і зразумееш, што яно мае дачыненьне не да хабарнікаў, а да вушэй і беражлівасьці. Затычкі, каб менш чуць, нічога ня ведаць і спакойна спаць. Карысная рэч! А існуюць жа яшчэ серныя коркі, якія і купляць у аптэцы ня трэба — проста ня чысьціш вушы, і ўсё: ці-шы-ня, разбаўленая бессэнсоўнымі шумамі. Прыкладна з такімі самымі мэтамі ў Менску доўгі час працавала так званая радыёстанцыя № 3, асноўнай задачай якой было глушыць замежныя «галасы», каб нічога не замінала савецкім людзям бачыць ідэалягічна правільныя сны ад ранку да ранку.

Праўда, пра тое, што гэта глушылкі, ведаў кожны мянчук. Ведаў і расеец Сяргей Ханжанкоў — ад самага свайго пераезду ў сталіцу Савецкай Беларусі ў сярэдзіне пяцідзясятых. 27 траўня 1963 году ён, студэнт аўтадарожнага факультэту менскага палітэхнічнага інстытуту і сапёр паводле вайсковай спэцыяльнасьці, быў арыштаваны проста ў аўтобусе, з валізкай у руках. У валізцы ляжаў тол, з дапамогай якога Сяргей з двума сябрамі зьбіраліся ўзарваць тыя глушылкі — такі сабе сымбалічны тэракт. Кажуць, яны былі ня надта эфэктыўныя і рады радыёхвалям давалі не заўжды — але яны былі, яны існавалі, вось у чым праблема.

Быў яшчэ і трэці прыяцель, які настойліва раіў заняцца больш сур'ёзнымі справамі: узарваць замест нікому не патрэбных глушылак завод, напрыклад, і заадно выйсьці на якіх-небудзь іншаземцаў, зацікаўленых у арганізацыі дывэрсій у БССР... Радыкальна настроены быў чалавек. Сапраўдны антысаветчык. Ён і здаў Ханжанкова зь сябрамі, прычым задоўга да таго, як Сяргей пачаў рыхтаваць сваю апэрацыю.



Але Ханжанкову былі патрэбныя менавіта глушылкі. Як сымбаль савецкага рабства, якое ён ненавідзеў зь дзяцінства — нарадзіўшыся на Калыме ў сям'і былога лягерніка, а потым ссыльнага, хутка пачынаеш разумець, што да чаго. Такія былі ў яго ўнівэрсытэты да менскага палітэху. Паводле задумы, глушылкі меліся быць узарваныя позьняй часінай пры самым паскудным надвор'і, каб максымальна зьменшыць верагоднасьць ахвяраў.

*«...Ханженков, начиная с весны 1962 года и до осени этого же года, изучая расположение объектов радиостанции № 3, неоднократно проникал на ее территорию*

*и произвел необходимые измерения, на основании которых составил схематический и масштабный планы расположения объектов радиостанции и окружающих ее строений, а также рассчитал количество взрывчатого вещества, необходимого для подрыва радиостанции... С целью приобретения взрывчатого вещества для подрыва радиостанции № 3 Ханженков и Храповицкий в конце лета и осенью 1962 года приобрели 9 артиллерийских снарядов и две минометные мины... Одновременно с подрывом радиостанции № 3 Ханженков, Храповицкий и Серегин готовились к изготовлению и распространению антисоветских листовок, для чего обсуждали способы изготовления листовок, вопрос о приобретении пишущей машинки и приобрели 5 кг 840 граммов типографского шрифта, используя для этой цели малолетнего брата Ханженкова».*

Цяпер цікава ўяўляць сабе, як бы прыгожа яны абрыналіся, тыя глушылкі — у дажджлівым начным Менску, па якім калючы вецер ганяе старыя білеты ў цырк і апалае лісьце. Гул быў бы ня надта гучны — затое рэха... Сяргею Ханжанкову далі дзесяць гадоў, якія ён адбыў да канца ў мардоўскім лягеры. Нехта скажа: бессэнсоўна, сам загубіў сваю маладосьць, «пашанцавала, што быў 1963, бо за Сталіным да сьценкі б паставілі бяз роздумаў», «юнацкая дурасьць, барацьба зь ветракамі»... І наогул, пачынаць трэба з сыстэмы. А так — донкіхоцтва. А вось цікава, у якой камэры сядзела б цяпер гісторыя, калі б Ян Палах або Ромас Каланта думалі ў свой час пра пажарную бясьпеку? Калі б Валерыя Навадворская выконвала рэкамэндацыі маёраў у белых халатах? Калі б усе спачатку ўзважвалі і адмыралі, а потым думалі, плаціць або не? І напаўшы на бяскрыўдны з выгляду вятрак, можна раптам выгнаць схаваную ў ім пачвару. Ці хаця б прымусіць яе баяцца.

# Госьця з будучыні

*28 траўня 1431 Жанна д'Арк апошні раз надзела мужчынскае адзеньне*

На дворы травень, а яны так мерзнуць, гэтыя мужчыны ў плашчах, са сьмешнымі стрыжкамі пад гаршчок — віно іх даўно ня грэе, сонца гэтыя небаракі, седзячы ў сваіх каменных кабінэтах, амаль ня бачаць, а выправіцца да руанскіх прасталытак не дазваляе высокі статус. Таму праз некалькі дзён яны, канонікі ды багасловы, ударнікі інквізыцыйнай працы, загадаюць разьвесьці на галоўнай плошчы Руану вялікае вогнішча — мо хаця б там зуб пападзе нарэшце на зуб, можна будзе выцягнуць рукі да полымя, адчуваючы, як прыемна адтаюць пальцы, і ўсё гэта скончыцца...

«Вось бы кінуць усё ды махнуць за горад на шашлыкі! — летуценна кажа адзін зь іх. — Усё ж добра прыдумалі гэтыя басурмане: бярэш шампур, насаджваеш мяса... Не, спачатку замочваеш...»



«Басурман, ён ніколі жанчыне шашлык не даверыць, — устаўляе свае пяць су другі інквізытар. — Я іх, ведама ж, ненавіджу, басурманаў, што возьмеш з тых, хто без Хрыста жыве, але тут яны, што ні кажы, маюць рацыю... Ёсьць справы, куды бабам лепш ня совацца!»

«Цішэй там! — прыкрыквае на іх трэці. — Будзе вам шашлык, будзе...»

Ужо некалькі месяцаў яны працуюць не складаючы рук, каб спаліць гэтую чортаву мадэмуазэль — канец блізка, аднак час цягнецца так марудна, і холад ніяк не сыходзіць. Але сёньня ведзьма сама прысьпешыць разьвязку. 28 траўня 1431-га, добра пасьнедаўшы, судзьдзі наведваюць яе ў турме Руанскага замку і — «яна зноў зрабіла гэта!» Жанна д'Арк, яна ж Арлеанская дзева, яна ж Жанна з Домрэмі, яна ж Жанна Нявінная, чарговы раз сустракае іх у мужчынскім адзеньні. Некалькі дзён таму яна, паглядзеўшы на падрыхтаваныя для яе дровы, пагадзілася адрачыся і надзець сукенку, і вось:

«Жанна была зноў апранутая па-мужчынску, у куртку з капюшонам, кароткую робу і іншае мужчынскае адзеньне, якое яна раней зьняла на наш загад і апранулася ў жаночае. Таму мы распыталі яе, каб даведацца, зь якой прычыны яна зноў у мужчынскім убраньні. «Я надзела яго з уласнае волі, — абвясьціла Жанна, — я надзела яго, бо для мяне больш натуральна апранацца па-мужчынску, чым па-жаночаму, я ж знаходжуся з мужчынамі. Я зноў надзела яго таму, што абяцанае мне так і не было выканана: што я пайду да службы, пакаштую ад цела Хрыстова і зь мяне здымуць кайданы».

Працэс над Жаннай ішоў ужо пяты месяц. Ніякага большменш значнага кампрамату на яе сабраць не ўдалося: дрэсіраванай мандрагоры ў яе не знайшлі, голай зь мяцёлкай верхам на вепруку яе ніхто ня бачыў, на Лысай Гары яе таксама не апазналі, тэст на цнатлівасьць яна вытрымала з гонарам, і па месцы нараджэньня і ў мясьцінах баявой славы яе ніхто не памянуў благім словам. А ангельцы, якім бургундцы летась прадалі Жанну за дзесяць тысяч франкаў, нецярпліва чакалі

расправы і ўжо, god damn, пачалі падазраваць суд у валакіце і сабатажы! Рабілася відавочным, што той пункт абвінавачаньня, у якім вялося пра парушэньне заведзенага ад біблейскіх часоў дрэс-коду («на жанчыне ня мусіць быць мужчынскага ўбраньня, а на мужчыне жаночага, брыдкі перад Богам той, хто робіць такое») станецца ледзьве не галоўнай апорай суду. Збольшага праз яго было даказанае і ўсё астатняе — і перадусім непаслушэнства сьвятой царкве.

...Жанна д'Арк нагадвае госьцю з будучага, чалавека, які стрымгалоў кінуўся ў калідоры часу, каб вярнуцца і ўратаваць Францыю. Не падумаўшы пра наступствы для сябе і забыўшыся, дзе прыпаркаваная яе Машына. Яна апранаецца, як сучасная жанчына, яна жыве напалову ў віртуальнай рэальнасьці, дзень і ноч размаўляючы зь нябачнымі сьвятымі, яна прапаноўвае альтэрнатыву стомленаму ад войнаў грамадзтву, яна ведае цану адзінства, яна ўмее маніпуляваць і натхняць прыкладам, яна фэміністка, яна пацыфістка — на свой лад: «Я наўмысна трымала ў руках сьцяг, каб нікога не забіваць». Урэшце, яна ведае свае правы, хаця зусім непісьменная — пяць месяцаў яна па-майстэрску, аргумэнтавана і з годнасьцю абвяргае ўсе абвінавачаньні, допыты амаль нічога не прыносяць, яна выходзіць зь іх пераможцай. Але што тады, што цяпер — трапіўшы ў лапы «закону», вырвацца немагчыма...

Адкуль гэтая жарсьць да мужчынскага адзеньня? Яе дагэтуль тлумачаць па-рознаму. Штаны абаранялі Жанну ад замахаў на яе гонар — у іх яе значна цяжэй было згвалціць, а такія спробы былі. Мужчынскае ўбраньне для мужчынскай справы — Жанна была салдатам. Мужчынскае адзеньне як сымбаль: праз яго яна абвяшчала сьвету, што больш не падпарадкоўваецца ягоным умоўнасьцям — дзеля перамогі ў сьвятой справе. Ёсьць і больш памяркоўныя тэорыі: штаны і куртка як сродак захаваць дзявочую сарамлівасьць там, дзе ты штосэкунды ва ўсіх на вачах.

...«Усё, што я сказала раней, і маё адрачэньне — гэта было зроблена ад страху перад вогнішчам. Я не адракаюся ад маіх відзяжоў, я бачыла іх, бачыла сьвятую Кацярыну і сьвятога Міхала, і бог выказаў мне праз іх сваё вялікае шкадаваньне, што я пагадзілася на гэтую жахлівую здраду, каб ўратаваць сабе жыцьцё».

«Адказ сабе на пагібель», — не стрымаўшыся, вывеў на палях пратаколу пісар. Пратакол канчаўся словамі судзьдзяў:

«Пачуўшы гэта, мы пайшлі, каб дзейнічаць у адпаведнасьці з правам і розумам».

Пачухваючы свае правы і розумы, мужчыны па адным выйшлі з камэры і спусьціліся ў двор. Апошнім выйшаў галоўны судзьдзя Кашон, які зірнуў на сонца і, не хаваючы палёгкі, прамовіў: «Ну ўсё, цяпер можна і на шашлыкі...»

30 траўня Жанну спалілі зажыва на плошчы Старога Рынку ў Руане. Яна згарэла, апранутая ў доўгую, да пятаў, бясформенную кашулю — жаночая яна была ці мужчынская, не ўзялася б вызначыць нават інквізыцыя.

# Паўмесяц над Залатым Рогам

*29 траўня 1453 асманы захапілі Канстантынопаль*

«І той дзень надышоў» — стрэлкі самкнуліся, і 28 траўня 1453 году, нікога ня слухаючы, зь янычарскай бязьлітаснасьцю стала 29-м. Яшчэ апоўначы ля муроў Канстантынопалю было ціха, хаця горад ня спаў — цяжка заснуць за мурамі, па той бок якіх дзясяткі тысяч турак-асманаў і іх памагатых марацца, як яны будуць успорваць кішкі і гуляць у коннае пола чалавечымі галовамі. І вось мінае ўсяго чвэрць гадзіны — і падманлівую цішыню зьнянацку ўзрываюць вой і грукат: гэта турэцкія кімвалы, рогі і бубны даюць сыгнал да новай атакі. Імпэрыя Канстантына, якую няўмольная гісторыя сьціснула да памераў аднаго, хай сабе і вялікага гораду, пабачыла, як выглядае сьмерць.

Канчаўся другі месяц аблогі, няспынных баёў і амаль шахматнай гульні палкаводцаў. Гэта была апошняя ноч бізантыйскай сталіцы. Спачатку султан Мэхмэд кідае на штурм сваіх хрысьціянскіх ваякаў, набраных ва ўжо захопленых асманамі краях, і «джэнтэльмэнаў удачы», той размаіты зброд, які прыбіўся да ягонага войска ў надзеі, што і ім нешта перападзе ў выпадку турэцкай перамогі. За імі ідуць наглядчыкі з доўбнямі і пугамі, якімі яны падганяюць адсталых і нерашучых. У апошняй шарэнзе янычары — яны лупяць сваімі крывымі шаблямі тых, хто ня вытрымаўшы, наважыўся ўцячы з поля бою.



Абаронцы стаяць насьмерць. Сеча працягваецца дзьве гадзіны — затым Мэхмэд нарэшце загадвае тым, хто ацалеў, адступіць, і кідае ў бой новыя сілы — сваіх верных анаталійцаў. Тыя — сапраўдныя фанатыкі, яны караскаюцца па целах сваіх палеглых і параненых таварышаў на муры, як па нейкім д'ябальскім эскалятары, і, здаецца, зусім не зважаюць на гарачы алей, цяжэзныя камяні і іншыя дэлікатэсы, якімі іх шчодра частуюць канстантынопальцы. Над горадам акурат зьяўляецца сонца, калі і анаталійцы нарэшце адыходзяць. Абаронцы, якіх засталася зусім нейкая жменька, біліся пяць гадзін безь перапынку і зноў адстаялі Новы Рым. Але Мэхмэд і цяпер не дае ім пярэдыху. Наступны атрад, пяць тысяч ягоных найлепшых янычараў, ён павядзе на муры сам!

Але і гэтая атака не дае жаданага выніку: здаецца, прыступ захлынаецца і туркі неўзабаве адступяць. І тут на мурах адбываецца непапраўнае. Высьвятляецца, што генуэзец Джавані Джустыньяні Лёнга, наняты Канстантынам экспэрт па абароне абложаных гарадоў, які пасьпяхова камандаваў і так невялікім, а цяпер яшчэ больш парадзелым войскам, цяжка паранены і канае на руках сваіх салдатаў. У красавіку ён прывёў у горад сямсот генуэзцаў — і цяпер тыя, хто застаўся жывы, не зьбіраюцца працягваць барацьбу без камандзіра. Целаахоўнікі сьпешна адносяць акрываўленага Лёнга на карабель, шмат хто з абаронцаў кідае муры і сьпяшаецца схавацца ў завулках і ў гавані. Мэхмэд адразу заўважае, як у шэрагах канстантынопальцаў зьяўляюцца шырокія прагалы, праз якія можна без праблем дабрацца да ўнутраных умацаваньняў. «Горад наш!» — крычыць ён радасна, як дзіця. І сапраўды: адразу некалькі атрадаў яго янычараў вельмі хутка апынаюцца за мурамі. Праз пятнаццаць хвілін іх у горадзе ўжо тысячы. Цела забітага ў сечы Канстантына так і ня знойдуць.

Мэхмэд дае свайму войску некалькі гадзін на тое, каб зьняць стрэс: яго малойцы паляць і бураць цэрквы, рэжуць, мучаць, гвалцяць і рабуюць, а таксама набіраюць сабе рабоў, хто колькі зможа — карацей, паводзяцца ў поўнай адпаведнасьці з правіламі сярэднявечнага аўтатрэнінгу. Толькі ўвечары султан сам паволі і ўрачыста ўяжджае ў горад на чорным кані — яму дваццаць адзін год і ён любіць эфэкты.

# Быў у чысцы

*30 траўня 1265 нарадзіўся Дантэ*

Пекла, дзявяты круг, раўчук Антэнора. «Свой шлях зямны прайшоўшы напалову», можна і так пазначыць уласныя каардынаты ў быцьці, хай сабе і будучым — і гэта выглядае больш праўдзіва і дакладна за паштовую адрэсу, мэйл і імя ў фэйсбуку. П9К-РА. Нешта сярэдняе паміж індэксам, ідэнтыфікацыйным нумарам і групай крыві на рукаве. А ўсё дзякуючы Дантэ Аліг'еры, які ў напісанай ім «Камэдыі» стварыў сваю вэрсію замагільнага сьвету — а можа, проста правёў там падрабязную інвэнтарызацыю паралельна зь перапісам насельніцтва. Бо каб так шчыльна засяліць гэткія змрочныя абшары і ўзьвесьці там такія маляўнічыя дэкарацыі — трэба было там пабываць, хай сабе і інкогніта. Па гэтай краіне можна шпацыраваць усё жыцьцё і на кожным кроку сустракаць знаёмых: вось колішні начальнік, вось загадчык аддзелу ў выканкаме, вось міліцыянт, вось сусед-грэшнік, а вось знаёмы на фотаздымках палітыкан — пакуль урэшце не спаткаеш сябе самога. Са зьдзіўленьнем і жахам — бо пекла ж не існуе, праўда?

Ён нарадзіўся 30 траўня 1265 году ў Флярэнцыі. А можа, і не 30 траўня, ніхто ня ведае. Дантэ — з тых вялікіх, чые біяграфіі дасьледчыкі вымушаныя прыдумляць на аснове іх жа твораў: так у абсалютна цёмным пакоі нічога не застаецца, як прыдумаць сабе яго інтэр'ер і рухацца далей у адпаведнасьці з гэтым вобразам. Пакуль не наляціш носам на шафу. Ці на шкілет у ёй. У выпадку Дантэ такіх шкілетаў хапае; адным з галоўных ёсьць, відаць, найперш ягоная жонка Джэма: нелюбімая ім маці ягоных дзяцей, якой было наканавана ўсё жыцьцё стаяць у цяню Бэатрычэ Партынары і папраўляць ёй віртуальную прычоску. Але ў рай, хутчэй за ўсё, трапілі яны абедзьве.



Дзе ён вучыўся, зь якім пэста еў спагеці і што насамрэч сказаў Бэатрычэ на тым знакамітым мосьце, дзе цяпер толькі графіці па-ангельску і пустыя плястыкавыя пакункі з-пад віна і рызота — мы так ніколі не даведаемся.

Але паспрабаваць паставіць сябе на месца аўтара «Камэдыі» можна і рызыкнуць. У беларусаў, дарэчы, тут багаты досьвед. Некалі, натхніўшыся несьмяротнымі радкамі гэтай паэмы, Францішак Багушэвіч напісаў пра сваё бачаньне замагільнага сьвету — ягоны герой, не раўнуючы Дантэ, «быў у чысцы»:

Раз у дзень задушны, якраз апаўночы,
Іду я дадому... а цёмна і ўюга -
Не каб заліўшы саўсім ужо вочы,
Але так, у меру падвыпіўшы туга;
Іду і мяркую: ці то цяпер шчасьце,
Як паноў ня стала, ці то была доля?..

Цікава, што б на гэта сказаў Вэргілій?..

Усе цэнзары ва ўсе часы любілі «Камэдыю» — як муха варэньне. Колькі стагодзьдзяў мінула, а яна ўсё не дае ім спакою. Летась, напрыклад, адна вельмі прагрэсіўная арганізацыя, якая займаецца правамі чалавека, не ўдакладняючы, праўда, якога менавіта, запатрабавала разабрацца нарэшце з клясыкам. Заклікаць яго да адказу за расізм, гамафобію і нянавісьць да ісламу. Камэдыя дый годзе. Усё гэта там ёсьць, вядома: і «садаміты», і тое-сёе пра прарока, і іншая непаліткарэктнасьць. Пачынаць, аднак, лепш зь Бібліі. І Вэргілія не забыць аштрафаваць — за саўдзел. Але сьцерці імя флярэнтыйца з памяці грэшнікаў ня так проста. Нездарма гадоў сем таму адзін беларускі палітзьняволены, які наўрад ці здолеў дачытаць «Камэдыю» да канца, так падзяліўся сваімі ўражаньнямі ад беларускай турмы:

«Пекла як пекла, ня горш, чым у Дантэ».

# Рацыя Гамэра

***31 траўня 1873 Гайнрых Шліман абвяшчае, што адкапаў Трою***

31 траўня 1873 году на ўзараным уздоўж і ўпоперак узгорку Гісарлык у Турцыі сьвята. Ужо а восьмай раніцы жонка гаспадара раскопак, гэтага хворага на галаву ці то немца, ці амэрыканца, ці то расейца, што шукае тут нейкія скарбы, раптам крычыць рабочым «Пайдос!» — а гэта значыць, працоўны дзень, які толькі пачаўся, ужо скончаны. Абвяшчаецца, што яны могуць атрымаць грошы і ісьці дахаты. Гаспадара, Гайнрыха Шлімана, тут ня тое што ня любяць — не, чалавек ён неблагі і плаціць сумленна, але нядаўна вось забараніў пеpaкуры: ну ці ж не вар'ят? І гаворыць пры гэтым ледзьве не на дзесяці мовах — які чалавек у сваім розуме будзе марнаваць час на такое? А дачку ў яго ведаеце, як завуць? Андрамаха! Ха-ха-ха!

Рабочыя сыходзяць, застаецца толькі турэцкі чыноўнік, які мусіць сачыць за ходам раскопак, але ён сьпіць, як пшаніцу ў Стамбуле прадаўшы. Шліман з жонкай застаюцца адны і сьпяшаюцца туды, дзе пад не да канца ачышчаным ад зямлі шасьцімэтровым мурам гадзіну таму бліснула нешта, што прымусіла сэрца археоляга-самавучкі біцца часьцей. Ён бярэ нож і асьцярожна пачынае капаць. Празь нейкі час на сьвет божы зьяўляюцца кінжалы, сякеры, мячы, шчыт, наканечнікі дзідаў зь медзі, кубак з электрону, кацёл, міса, а яшчэ залатыя кубкі, срэбраныя зьліткі і нейкі аплаўлены прадмет, падобны да вялікага ключа... Ключа ад палацу, пад якім ён адшукаў Прыямавы скарбы. А значыць, Гамэр нічога ня выдумаў! Яго Троя існавала, і ён яе знайшоў!



Так, прынамсі, лічыць сам Шліман. Жонка — ягоная другая жонка, якую ён купіў за сто пяцьдзясят тысяч франкаў, зрабіўшы ёй папярэдні іспыт па антычнай літаратуры, а ўжо потым заказ хаўся ў яе бяз памяці — кладзе ўсё гэта ў свае кошыкі, а што не зьмясьцілася, загортвае ў шаль. Неўзабаве Шліманы хуценька зьедуць адсюль, парушыўшы дамоўленасьць з асманскім урадам адносна таго, што ўсе скарбы мусяць быць падзеленыя напалову паміж археолягам і дзяржавай, а пра знаходку Шлімана загавораць на ўсіх мовах сьвету. Згрызоты сумленьня будучага бацьку археалёгіі ня мучаць. Па-першае, яго тут ужо і самога падманвалі і абкрадалі, па-другое, гэта ягоная Троя, яго і нічыя больш — той Іліён, пошукі якога зрабіліся сэнсам яго жыцьця. Яшчэ ў школе ён напісаў сачыненьне на тэму Траянскай вайны і з тае пары марыў знайсьці яе, на свае вочы ўбачыць тое, што некалі так узрушыла і сьнілася яму потым дзесяцігодзьдзямі. І вось мара ўвасобілася ў жыцьцё — Шліман сам не разумее, плакаць яму ці сьмяяцца.

Затое сур'ёзныя вучоныя не пераймаюцца ягоным выбарам паміж сьмехам і сьлязьмі, яны проста абураныя. Ды які, маўляў, археоляг з чалавека, які разбагацеў на кантрабандзе прускай салетры ў Расею? Раскопкамі ён займаўся па-шкалярску, ніякага дачыненьня да Прыяма знойдзеныя ім «гаршкі» ня маюць. «Падзяліўся б лепш сваімі мільёнамі з сапраўднымі вучонымі», — бурчыць адзін венскі прафэсар. — «Мо тады б і заслужыў месца ў гісторыі — гісторыі мэцэнацтва».

Так, ён знайшоў Трою — але ня тую: вывезены ім з Турцыі скарб быў на тысячу гадоў старэйшы за Гамэравы часы. Высьветліцца, што Гамэраву Трою ён проста зьнішчыў — гэты пласт ляжаў занадта блізка да паверхні, і Шліман не зьвярнуў на яго ўвагу. Перад раскопкамі мільянэр, які так і ня скончыў гімназію празь беднасьць бацькоў, слухаў лекцыі ў Сарбоне — але не даслухаў, кінуў, надта ўжо мудрагеліста і тэарэтычна, а ён хацеў дзейнічаць, не губляючы моманту, як у выпадку з салетрай, як некалі з каліфарнійскім золатам. І разбурыў палову Гісарлыку дзеля аднаго скарбу... Дзеля Гамэравай Трoі, у ахвяру якой былі прынесеныя шмат іншыя Трояў, ня менш рэальных.

# Воленс-няволенс

## *1 чэрвеня 1862 у ЗША забаронена рабства*

Што ні кажы, а геніяльных псыхіятраў у сьвеце хапала і да Зыгмунда Фройда. Узяць хаця б доктара Картрайта — сьціплага лекара, які жыў у першай палове дзевятнаццатага стагодзьдзя ў адным з паўднёвых штатаў ЗША. Доктар Картрайт першым на плянэце, насуперак усім бацылам абаліцыянізму, дыягнаставаў і апісаў новую жахлівую хваробу — драпэтаманію, то бок такі разлад псыхічнага стану, які прымушае рабоў — о Езус Марыя, дзеці, закрыйце вушы! — уцякаць ад сваіх гаспадароў. Але, на шчасьце, доктар знайшоў спосаб лячэньня: у сваёй брашуры ён прапанаваў у якасьці леку даваць бедным пацыентам бярозавай кашы, а пры рэцыдывах — ампутаваць ім пальцы на нагах. Доктар ведаў, што эканоміка мае быць эканомнай, і шчыра жадаў сваёй дзяржаве багацьця і росквіту, а якія ж, прабачце, багацьце і росквіт без здаровых, паслухмяных і верных рабоў?

Можна толькі ўявіць сабе той шок і тую крыўду, якія апанавалі мэдыка 1 чэрвеня 1862 году, калі ён даведаўся, што нейкія там паўночныя штаты вырашылі забараніць рабства на ўсёй тэрыторыі ЗША. Ужо праз год няшчасны доктар памёр, ня вытрымаўшы зьдзеку са сваіх ідэалаў. І лічачы, напэўна, што надышоў канец сьвету. Перад сьмерцю ён бачыў гаршчэчкі зь нікому больш не патрэбнай, астылай бярозавай кашай і гэтыя пальцы... Шмат чорных пальцаў, адсечаных у імя мэдыцыны і прагрэсу.



Праўда, гэтую дату — 1 чэрвеня 1862 — можна лічыць днём вызваленьня толькі ўмоўна. ЗША як адзінай дзяржавы тады не існавала, ішла вайна паміж вольнай ад рабства Поўначчу і Поўднем, які бяз рабства сябе не ўяўляў. Гэты самы Поўдзень, Канфэдэрацыя адзінаццаці штатаў, якая з пачаткам вайны зрабілася фактычна незалежнай, не зьбіраўся выконваць прынятыя недзе там на звар'яцелай Поўначы (гэта ж трэба прыдумаць такое: забараніць рабства! А бавоўну, трысьнёг ды тытунь хто расьціць будзе? Лінкальн?) законы. Так што з такім самым посьпехам можна лічыць днём вызваленьня Амэрыкі ад рабства 19 чэрвеня, калі быў аформлены адпаведны закон, або 30 сьнежня таго самага году, калі прэзыдэнт Лінкальн падпісаў Праклямацыю пра вызваленьне, або 1 студзеня наступнага году, калі яна ўступіла ў дзеяньне і ўсе салдаты войскаў Поўначы былі абавязаныя вызваляць кожнага сустрэтага імі раба, незалежна ад стадыі ягонай драпэтаманіі. Шмат хто з гэтых вызваленых рабоў выправіцца ў Лібэрыю, гэтую афрыканскую Амэрыку...

Праз паўтара стагодзьдзя высьветліцца, што і пасьля перамогі Поўначы адзін вельмі хітры штат, Місысыпі, так і не ратыфікаваў папраўку пра забарону рабства — шкада, што доктару Картрайту не прыйшло некалі ў галаву абвясьціць псыхічнай хваробай бюракратызм, тут ён бы сапраўды не паграшыў супраць праўды. Пра тое, што Місысыпі фармальна застаецца рабаўладальніцкім штатам, у ім успомнілі пазнавата, у дзевяностых гадах мінулага стагодзьдзя, але толькі сёлета папраўка была прынятая...

Ну, ды гэта так, казус грандыёзус. «Рабства не зрабілася больш гуманным за апошнюю тысячу гадоў» — з гэтай сацыяльнай рэклямай можна пагадзіцца. Набіваючы люльку залацістай вірджыніяй, цікава думаць пра тых, хто гнуў сьпіну ў штаце, які даў назву ўлюбёнаму тытуню, і лічыць сябе зь імі заадно — ды прыслухоўвацца да ўласнай драпэтаманіі, што нястомна кліча цябе да ўцёкаў. Ад чаго? У рабства шмат прыгожых імёнаў. Асабліва ў Беларусі. «Кантрактная сыстэма», напрыклад. Доктар Картрайт пазайздросьціў бы.

# Душой і целам

*2 чэрвеня 1537 папа Павал III прызнае, што індзейцы маюць душу*

Пэўне, кожны, хто паглынаў у дзяцінстве кніжкі па гісторыі геаграфічных адкрыцьцяў, неяк прамінаў на першы погляд бяскрыўдны, але насамрэч злавесны выраз: «сюды ўпершыню ступіла нага чалавека».

Неяк не хацелася думаць пра тое, што выраз гэты вельмі часта пярэчыў сам сабе: там, куды ступіла тая рашучая нага, амаль заўжды нехта ўжо жыў. Прычым даўно і законна, без хваста, маючы дзьве нагі, дзьве рукі, мову, памяць і ўсё такое. Але называць яго чалавекам ніхто асабліва не сьпяшаўся. Бо чалавек — гэта белы герой з мушкетам у адной руцэ і крыжам у другой, у скрайнім выпадку вучоны, такі сабе ўскудлачаны паганэль, чалавек — гэта эўрапеец, а яны, тыя, хто сядзіць галяком у зарасьніках і пазірае на нас адтуль зь цікаўнасьцю і страхам — яны Іншыя. Ня мы. Калі прымаць іх пад увагу — якія ж могуць Вялікія Адкрыцьці, якая рамантыка, якія калюмбы? Так што: менавіта «ўпершыню» і менавіта «чалавека». Нічога асабістага. Проста трошачкі эўропацэнтрызму і духу канкісты.



І вось Амэрыка, 1537 год. На руінах Тэначтытлану будуецца Мэхіка, неўзабаве будуць заснаваныя Асунсьён і Гўаякіль, а Эрнанда дэ Сота «адкрые Місысыпі», дэ Альмагра спрабуе ў Чылі падмануць новага Інку і адначасова замышляе нядобрае супраць свайго канкурэнта Пісара, кроў ліецца ракой Параной, а золата — рэчкай Пераплюйкай. Канкістадоры ў пыльных шаломах, усе гэтыя безьзямельныя шляхцічы з выпаленых сонцам кастыльскіх раўнін сотнямі гінуць на іншым канцы сьвету ў пагоні за часам рэальным, але пачасту прывідным багацьцем і апантана ставяць крыжы там, дзе толькі можа ступіць тая самая «нага чалавека». У тым, што самі яны людзі, ніхто з эўрапейцаў не сумняваецца, а што да тутэйшых нехрысьцяў, якія гінуць дзясяткамі тысяч... Хто яны? Нават самым прасунутым з эўрапейцаў часам таксама прыходзіць у галаву сумнеў: з аднаго боку — дзікуны, але ж шмат хто з канкістадораў і сьвятароў бачыў на свае вочы ўсе гэтыя гарады і будынкі, гэтае мастацтва, шмат хто пераканаўся, што і тут ёсьць законы, дзяржавы, падаткі, пісьменства, бізун... усё як у Гішпаніі; ды тут ёсьць нават сваё рыцарства! Але пераймацца такімі пытаньнямі часу няма — хіба што ты Папа Рымскі, у якога работа такая, пра душу думаць; індзейцаў нішчаць далей, цэлымі народамі.

І вось 2 чэрвеня 1537 году па доўгім роздуме і працяглых кансультацыях у нябеснай канцылярыі Папа Рымскі Павал III выдае сваю знакамітую булу «Sublimus Dei». Хрыстос вучыў, што ўсе людзі без выключэньня здатныя да ўспрыняцьця ісьціннай веры, якую ім трэба цярпліва несьці, нагадаў Папа, але, на жаль, ня ўсе браты нашыя пра гэта памятаюць. Д'ябалавы памагатыя дураць добрым хрысьціянам галовы, вымушаючы іх абыходзіцца з індзейцамі, як з буйным рагатым быдлам. А трэба — як з авечкамі неразумнымі... Таму «мы тут падумалі і я вырашыў»: індзейцы здольныя стаць на шлях выпраўленьня.

Яны маюць душу — і мы зробім гэтыя душы хрысьціянскімі. А пачнем... Ну, хаця б з манагаміі.

Кажуць, на каталіцкую царкву і на Папу тады вельмі паўплываў цуд 1531 году ў Мэксыцы. Адзін індзеец-ацтэк абвясьціў, што да яго некалькі разоў прыходзіла сама Панна, Маці Божая, гаварыла зь ім, дзялілася плянамі: тут, сказала, няблага было б храм паставіць, паблізу ад твайго дому... Праігнараваць такую падзею было нельга. Не магла ж Панна зьявіцца перад тым, хто ня мае душы, ды яшчэ і размаўляць зь ім. Маці Божая Гўадэлюпская была смуглявая, сапраўдная індыянка з выгляду — мусіць, прыняла такое аблічча, каб прасьцей было дамовіцца з абарыгенамі. Да таго ж сем гадоў таму рабіць індзейцаў рабамі забараніў гішпанскі кароль — Папу было з каго браць прыклад.

Папскую булу 1537 году мала хто з канкістадораў успрыняў сур'ёзна. Мёртвых індзейцаў абсьледавалі з ног да галавы і ніякай душы неяк не адшукалі. Дый наогул: «індзейцы самі мелі рабоў», таму «што ўжо тут наракаць на культурную Эўропу!». Гішпанец Авіеда пісаў праз стагодзьдзе, што індзеец па прыродзе сваёй «лянівы, ілжывы, заганны, мэлянхалічны...» — якая тут можа быць душа. Браць індзейцаў у рабства, праўда, пакрысе перасталі, пераканаўшыся, што тыя ахвотней прымуць пакутніцкую сьмерць, чым будуць служыць камусьці дармовай працоўнай сілай — але затое з новымі сіламі ўзяліся за вынішчэньне. Паводле некаторых ацэнак, за пяць стагодзьдзяў колькасьць індзейскага насельніцтва скарацілася больш чым у сто разоў. Большасьць індзейцаў загінула ад прывезеных «чалавекам» інфэкцыйных хваробаў. Перафразуючы: «чаго не дарабіў эўрапейскі порах, даробяць грып, чума ды воспа». А душа... Можа, яе і няма зусім.

## Слова-сьмерць, слова-жах

***3 чэрвеня 1988 у ЛіМе выходзіць артыкул «Курапаты — дарога сьмерці»***

«Добрый вечер! Здравствуйте, товарищи».

3 чэрвеня 1988 году выпуск праграмы «Время» Цэнтральнага тэлебачаньня СССР быў, як заўжды, багаты на сэнсацыі і скандалы. А як інакш: на носе выбары дэлегатаў дзявятнаццатай партканфэрэнцыі, «камуністы і беспартыйныя з захапленьнем абмяркоўваюць тэзісы». Іншыя гарачыя навіны дня: на Алтаі пачалі сяўбу збожжа, а на Ўрэнгоі — вытворчасьць уласнага дызэльнага паліва. У Іванаве падступныя вытворцы гародніны дамагліся таго, што капуста па рубель пяцьдзясят, а тальяцінцы, наадварот, малайцы — разьвіваюць соцкультбыт. Пачынаецца сэсія Вярхоўнага Савету УССР, а сусьветная прагрэсіўная грамадзкасьць абмяркоўвае савецка-амэрыканскую сустрэчу на найвышэйшым узроўні. Азызлыя пасьля ўчорашняга замежныя госьці Масквы вярзуць нешта з экрана пра раззбраеньне і перабудову.



Шэрыя твары, шэрае лета, рабскія вочы, галасы ў пустаце, словы бяз сэнсу. Поўная дэградацыя. У БССР нічога не адбываецца, і дзякуй богу. Хоць там усё спакойна — думаюць урэнгойцы і тальяцінцы, алтайцы і масквічы, камуністы і беспартыйныя, якія, вядома ж, даўно ніякаму ЦТ ня вераць. Галоўнае, што капуста ў беларусаў не па рубель пяцьдзясят, а больш ім нічога і ня трэба. Вось якія яны задаволеныя, спакойныя і верныя. І з тэзісамі.

Але менавіта ў той дзень у Менску адбылася падзея, якая ўшчэнт разьнесла ўяўленьне пра Беларусь як пра сытую і ўсім задаволеную ўскраіну, дзе нічога ніколі не адбываецца. 3 чэрвеня 1988 году ў газэце «Літаратура і мастацтва», рэдактарам якой быў тады паэт Анатоль Вярцінскі, выйшаў артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты — дарога сьмерці». Першы ў Беларусі, які сказаў праўду пра масавае зьнішчэньне нашых людзей тымі самымі камуністамі, ідэалягічныя нашчадкі якіх рыхтаваліся цяпер да партканфэрэнцыі. Напэўна, пасьля гэтага артыкулу звацца камуністам тут стала папросту сорамна. Гэты тэкст меўся сказаць тое, што замоўчвалася, меўся стаць абвінавачаньнем, пачаткам, штуршком — але зрабіўся прысудам.

*«...У пачатку 1970-х гадоў на паўночнай ускраіне Менску, зьлева ад Лагойскай шашы, не даяжджаючы да кальцавой дарогі, існавала яшчэ вёска Зялёны Луг. Старажылы яе расказалі нам, што за два кілямэтры на поўнач ад вёскі, паміж кальцавой і заслаўскай дарогамі, у лесе з 1937 па 1941 год кожны дзень і кожную ноч расстрэльвалі людзей, якіх прывозілі сюды на машынах. Там на ўзгорках стаяў стары бор, вакол лясы і глухмень. Кавалак бору гектараў з 10-15 быў абгароджаны высокім, вышэй за тры мэтры шчыльным дашчаным плотам у накладку — дошка на дошку, абцягнутым зьверху калючым дротам...»*

Якое далёкае было ЦТ ад рэальнасьці, пацьвярджае той факт, што артыкул Пазьняка і Шмыгалёва прапусьціла цэнзура. Ужо на другі дзень сьмеламу рэдактару Вярцінскаму

пазванілі з ЦК КПБ, які курыраваў газэту — захацелі «глыбей пазнаёміцца з матэрыялам». 14 чэрвеня Савет Міністраў выдаў пастанову па стварэньні ўрадавай камісіі па расьсьледаваньні падзей у Курапатах, 19 чэрвеня дзесяць тысяч чалавек выйшлі на антысавецкі мітынг, 30 кастрычніка міліцыя жорстка разагнала тых, хто выйшаў на Дзяды — сьвята ўшанаваньня продкаў зрабілася масавай антысавецкай акцыяй.

У Курапатах ляжыць ня менш за трыццаць тысяч забітых безь віны цывільных людзей, а паводле іншых ацэнак — больш за дзьвесьце пяцьдзясят тысяч. Пасьля вайны іх парэшткі спрабавалі зьнішчыць, але схаваць сьляды ня выйшла.

І вось гады мінаюць. «Эта ўсё, канешна, нямецка-фашысцкія захватчыкі зьдзелалі, нашы так не маглі! Ня верым!», — было чуваць раней, чуваць калі-нікалі і цяпер. Ну, «нашы» маглі яшчэ і ня так... «Абнародаваць усе факты прэждзеўрэменна, няльзя пазваляць сьпекуліраваць на іх нездаровым экстрэмісцкім сілам,» — далучаюцца да іх іншыя галасы. «Курапаты? Эта пцічкі такія! Ілі празьнік», — кажа, усьміхаючыся, парам-па-пам-патрыятычна выхаваная беларуская моладзь. Тое, як з Курапатамі абыходзіцца ўлада, значыць толькі адно: ёй існаваньне гэтага лесу і праўда пра яго замінае ня менш, чым той амаль падохлай ужо пачвары, якая склікала свае партканфэрэнцыі. Праўда, уявіць сабе артыкул, падобны да «Курапатаў» 1988 году, у цяперашнім ЛіМе немагчыма. ЦК КПБ даўно няма — а цэнзары баязьлівейшыя, чым за Саветамі? Нешта тут ня сходзіцца, нейкі тут ёсьць абсурд... Як і ў самім існаваньні ў XXI стагодзьдзі партый, якія спакойна называюць сябе не якімі-небудзь там, а Камуністычнымі.

І вось Курапаты дзеліць ужо апазыцыя. Псыхуе, крыўдзіцца, гуляе ў манаполію. А ты прыгадваеш кароткі тэкст Пазьняка ў Слоўніку Свабоды. «*Курапаты — слова-сьмерць, слова-жах, „ваше слово, товарішч маўзер“, магільны помнік расейскаму камунізму*». Ня ведаю, што там думаюць палітыкі — і як можна так падзяліць сьмерць і жах, каб нікому не было «абідна». Але з пункту погляду літаратуры лепш і ня скажаш.

# Рубель з носа

***4 чэрвеня 1926 Далай-лама ўводзіць падатак на вушы***

Тхуптэн Гʼяцо нездарма ўвайшоў у гісторыю вольнага Тыбэту як лама-рэфарматар. Не, ён не прымушаў манахаў сто тысяч разоў перапісаць рукою лёзунг «За сільный і процветающчій Цібет!» і, рызыкуючы жыцьцём, павесіць яго на кожнай гары — так, каб было відаць з Пэкіну, Дэлі і Брусэлю. Ён не забараняў газэты (бо іх у Тыбэце не існавала) і не распрадаваў зямлю і прадпрыемствы (Тыбэцкі трактарны завод быў для яго сьвятыняй, і што з таго, што і яго не існавала — існасьцяў мноства, а дзяржава адна!). Лама-рэфарматар хацеў, каб усё ў яго было, як у людзей. І пакуль за гарамі, за марамі зацята спрачаліся, ці варта лічыць Тыбэт незалежнай краінай, ці ёсьць ён наогул і ці ня выдумалі яго незнарок брытанскія альпіністы, Далай-лама захацеў стварыць у сябе паўнавартаснае войска.

Праўда, грошай на войска ён ня меў. Ягоныя папярэднікі неяк не паклапаціліся пра тое, каб закласьці такі артыкул у бюджэт: які сэнс у войску, калі кожнага чакае бясконцы ланцуг перараджэньняў, і шараговец можа адразу пасьля сьмерці атрымаць маёра, а загінулы маёр, наадварот, ператварыцца ў парцянку. І тут лама раптам знайшоў рашэньне.



4 чэрвеня 1926 году ён увёў для сваіх падданых падатак на вушы, і грошы пацяклі ракой, бо дзякуючы трагічнай выпадковасьці вушы маюць усе людзі, і ня толькі тыбэтцы: атавізм, што паробіш, цяжкая спадчына дагістарычнага пэрыяду. Аднак і тая срэбная рака падалася кіраўніку тыбэтцаў недастаткова паўнаводнай, і праз год ён увёў новы падатак: на насы. Уладальнікі даўгіх насоў мусілі плаціць удвая або і ўтрая. Тыбэтцы не пярэчылі і рэвалюцый не рабілі: па-першае, таму што ім рэлігія не дазваляе, а па-другое, паводле сьведчаньняў рэдкіх гасьцей Лхасы, на мяжы XIX і XX стагодзьдзяў тут існавала 1892 падаткі. Існавалі падаткі на сьпевы, граньне на бубнах, чытаньне кніг... Цярплівым тыбэтцам было ўжо няважна, за што яшчэ давядзецца плаціць, а таму: за нос дык за нос. Сказалі б за валасы ў носе — дык, мусіць і тады ніхто б і слова не сказаў. Дзеці гор.

На жаль, праіснавалі тыя падаткі нядоўга. Напрыканцы дваццатых рэакцыйнае духавенства і інтрыгі заходніх спэцслужбаў паклалі канец прагрэсіўным рэформам Тхуптэна Гʼяцо. На погляд чалавека, які нарадзіўся за гарамі, у так званым цывілізаваным сьвеце, усё гэта падаецца вясёлым абсурдам, экспанатам юрыдычнай кунсткамэры. Але хіба ня меншым абсурдам ёсьць, напрыклад, усеагульны вайсковы абавязак? Або татальнае заходняе памарачэньне на глебе аўтарскага права? Або рэгістрацыя на месцы жыхарства? Або звычайная замена пашпарта? Грошы за вушы... Вушы за грошы. Выцягнулі рэпку.

# Цягнік не для ўсіх

***5 чэрвеня 1883 пачаў працаваць Усходні экспрэс***

Толькі ў вагоне цягніка можна ісьці на Захад, едучы на Ўсход.

Express d'Orient, Усходні экспрэс... У саміх гэтых словах ужо ёсьць загадкавая, прыцягальная супярэчнасьць. Усход зь ягонай нясьпешнасьцю («тут варта толькі тады паскараць хаду, калі хтосьці гоніць цябе на бяду: забойца, мінулае і г. д.») — і хуткасьць, грукат колаў, начныя тамбуры, скрыпы: па-француску, па-нямецку, па-сэрбску, па-вугорску, па-баўгарску... і кожны раз новае, магічнае чаргаваньне Эўропаў за вакном: першая, другая, трэцяя; Эўропаў, якія паволі, амаль непрыкметна робяцца Азіяй — зьмяняецца толькі тарыф.

5 чэрвеня 1883 году з парыскага Gare de l'Est, Усходняга вакзалу, знакаміты Орыент-экспрэс выправіўся ў свой першы рэйс. І вагоны былі толькі першае клясы, цягнік-люкс, цягнік не для ўсіх. Ці для ўсіх? Як там было ў Агаты Крысьці:



*«...надзвычай цяжка давесьці вінаватасьць любога асобна ўзятага пасажыра... ня проста малаверагодна, але і проста немагчыма, каб выпадак зьвёў у адным вагоне столькіх людзей, што маюць дачыненьне да справы...»*

Да якой справы, ужо неістотна. Цягнік у Крысьці зьбірае ўсю Эўропу ў адным вагоне — і вінаватыя ўсе.

Дарогу да Стамбулу ён адольваў за восемдзесят адну гадзіну сорак хвілін, а ўжо празь некалькі гадоў гэты час скараціўся да шасьцідзесяці адной гадзіны. Сам маршрут — ужо літаратура: Парыж-Страсбур-Мюнхен-Вена-Будапэшт-Бухарэст-Варна-Стамбул... Пазьней ён некалькі разоў зьмяняўся: Лязана, Мілян, Бялград, Сафія... быў злучаны з Алепа! — разам з Эўропай, адзінай у тысячы аблічаў і таму трохі падобнай да д'ябла, пажылога праведніка, які заўжды апошнім ускоквае ў вагон.

У вагон цягніка лёсаў: «*Цягнік пахіснуўся, а затым з ровам уварваўся ў тунэль і вырваўся зь яго, ён заглушыў адказ Мэйбл Ўорэн, схапіўшы яго, як сярдзітая рука хапае ліст, рве і раскідвае ашмецьце...*» Стамбульскі экспрэс у Грэма Грына — жыцьці, пушчаныя па рэйках у той час, калі лепш за ўсё сядзець дома і гартаць падарожныя даведнікі. Да Стамбулу дабяруцца ня ўсе.

«У кіслым духу анучаў, у кізяковым паху
Цані раўнадушша рэчы да погляду і да страху.
І сам губляй абрысы, недасягальны для
Бінокля, успамінаў, жандара або рубля».

# Казка пра рыбакоў і мойраў

*6 чэрвеня 1896*
*Самуэльсэн і Гарба выпраўляюцца зь Нью-Ёрку ў Эўропу на чоўне*

Сік транзіт... Але бывае, што сік зусім і не транзіт, бывае, што глёрыя мундзі мінае, як сьлед і не пачаўшыся: бо проста нехта забыўся начапіць транзытныя нумары.

Гэтая гісторыя пачалася 6 чэрвеня 1896 году. У гэты цудоўны дзень упершыню ў гісторыі двое адважных амэрыканцаў, якія, тым ня менш, былі нарвэскага паходжаньня (нешта такое ёсьць у гэтых хэерведаенаколькідальнабачных нарвэжцаў) выправіліся зь Нью-Ёрку на звычайнай лодцы, каб перасячы на ёй Атлянтычны акіян. Фрэнку Самуэльсэну было дваццаць сем, а Георгу (Джорджу) Гарба — трыццаць гадоў, і яны плянавалі дабрацца на сваім лядашчым чоўне да Эўропы і заваяваць гэтым подзьвігам сусьветную славу.

Праўда, злыя языкі казалі, што натхнілі сьмельчакоў на іхны вычын зусім не адвага і нават не жаданьне праславіцца, а банальная ўзнагарода — дзесяць тысяч даляраў — абвешчаная адной газэтай таму, хто здолее даплыць такім чынам да Старога Сьвету. Да таго ж Самуэльсэн і Гарба мелі свой рыбацкі бізнэс і не без падставаў спадзяваліся, што падарожжа назаўжды зробіць рыбу ад Самуэльсэна і Гарба самай смачнай у ЗША. Але гэта ўсё, вядома, домыслы і інтрыгі. Яны былі сьмелыя людзі — і нішто не магло іх спыніць.

У Эўропе іх нецярпліва чакалі, а зь Нью-Ёрку герояў праводзілі з аркестрам. «Вас чакае слава ў вяках! — мэр гораду змахнуў сьлязу. — Або... Або гібель... Але гэта будзе геройская гібель!» І ён зарумзаў уголас. Дамы кідалі ўгару каптурыкі, кветачкі і капялюшыкі, журналісты фатаграфавалі дамаў — карацей, усё як мае быць. Самуэльсэн і Гарба правялі ў адкрытым акіяне пяцьдзясят пяць дзён. Васямнаццаць гадзін на дзень яны грэблі і змагаліся з кітамі, акуламі, рыбамі-мячамі, скатамі, мінаносцамі і іншымі братамі нашымі меншымі, гадзіну елі, пяць — спалі, а некалькі разоў, перакуленыя штормам, ледзь не аддалі Богу душы. У пачатку жніўня, дашчэнту зьнясіленыя, яны ўсё ж дабраліся да Гаўра і адразу ж рушылі ў мясцовую мэрыю. Там да іх паставіліся з падазрэньнем і выклікалі паліцыю. Амэрыканцы ледзь адбіліся і неяк здолелі перадаць тэлеграму ў Нью-Ёрк: «дабраліся без прыгодаў прымаем віншаваньні самуэльсэн гарба».



«Такіх ня ведаем», — прыкладна гэткі адказ атрымалі яны зь Нью-Ёрку праз некалькі дзён.

«Ну як жа: Самуэльсэн! Гарба! Слава ў вяках! Каптурыкі! Кветачкі! Капялюшыкі!»

«Якія яшчэ капялюшыкі?»

Празь некалькі дзён высьветлілася, што ў амэрыканскай сталіцы пра храбрых падарожнікаў забыліся ўжо на трэці дзень пасьля іхнага старту, а ў Эўропе на пяты. Іх ніхто не чакаў ні там, ні тут. Інфармацыйных нагодаў па абодва бакі акіяну хапала і бязь нейкіх там рыбакоў: Форд нядаўна выпрабаваў свой першы аўтамабіль, Маршан прабіраўся скрозь афрыканскія джунглі, брытанцы разьбілі суданскае войска, выбух у Пэнсыльваніі забіў больш за паўсотні чалавек, распачаўся кангрэс трэйд-юніяністаў, французы канчаткова прыбралі да рук Мадагаскар, а тут неўзабаве яшчэ і залатая ліхаманка на Клондайку... Якія каптурыкі, якія кветачкі? І якія $10000? Імёны Самуэльсэна і Гарба ўжо даўно нікому нічога не гаварылі, а іхнаму аповеду пра падарожжа праз акіян ніхто ня верыў. Адзін з герояў скончыў сваё жыцьцё ў вар'ятні — да самага скону ён кожны дзень прачынаўся на досьвітку, махаў нябачнымі вёсламі і крычаў нешта па-нарвэску, а што менавіта, усім было напляваць.

# Горад успамінаў

***7 чэрвеня 1952 нарадзіўся Архан Памук***

*«Я нарадзіўся ў Стамбуле 7 чэрвеня 1952 году ў маленькай прыватнай клініцы ў раёне Мода трохі па паўночы. Калідоры клінікі і сьвет вакол яе былі зануранья ў начную цішыню. На нашай плянэце, за выключэньнем вывяржэньня італійскага вулькана Стамбаліні, які нечакана прачнуўся два дні да таго, усё было спакойна. Сярод газэтных артыкулаў пра турэцкіх жаўнераў, якія ваявалі ў Паўночнай Карэі, зьявіліся паведамленьні пра тое, што паўночныя карэйцы, магчыма, рыхтуюцца выкарыстаць хімічную зброю... Пабачыўшы мяне ўпершыню, мама падумала, што ў параўнаньні з маім братам я выглядаю кволым, крохкім і худзенькім. „Мама падумала...“ Я ўжыў тут мінулы час, а трэба было б — мінулы з канчаткам -tiş. Я вельмі люблю гэты граматычны час, які ў турэцкай мове выкарыстоўваецца, калі мы расказваем казкі, гаворым пра свае сны і наогул пра тое, што з намі не адбывалася або адбывалася, але ня з намі, калі мы пераказваем тое, што чулі ад іншых...»*

Адданаму чытачу Архана Памука пашанцавала. Дзякуючы Памуку Стамбул, дарма што ён можа быць недасяжны, як месяц, робіцца сваім за дзьве ночы — а роўна столькі трэба, каб прачытаць кнігу пра «горад успамінаў». Яго ўжо ніколі не забудзеш — як не забудзеш свой Менск, як бы ні хацеў, як бы ні гнаў ад сябе па берасьцейскай шашы або аўтабане. Пасьля Памука İstanbul сьніцца ў вобразах, сьніцца ў колерах — а яны, некалі такія багатыя, як на кіліме, ад якога вочы разьбягаліся: адно на Захад, другое на Ўсход, у Памука сыходзяцца да амаль што манахроміі, велічнай і тужлівай у сваёй велічы. Стамбул — «зануранны ў прыцемкі, сьвінцова-шэры горад» фатаздымкаў, не настолькі старых, каб страціць пазнавальнасьць, і абсалютна пазбаўленых усялякай рэклямнасьці. Горад, дзе любое, нават самае неістотнае скрыжаваньне — паміж Захадам і Ўсходам, і выбраць паміж імі немагчыма.



Гэты Стамбул зачароўвае, а не запрашае. Падзяліцца такой любоўю дадзена ня кожнаму.

Мала хто зь пісьменьнікаў пакінуў такія падрабязныя ўражаньні пра пачатак свайго жыцьця і так асэнсаваў яго — дзяцінства займае сваё законнае месца ў космасе з упэўненасьцю далёкай нованароджанай зоркі і з каралеўскай непасрэднасьцю. Рэканструюючы сваё стамбульскае маленства, Памук наноў будуе сусьвет — толькі так і можа існаваць літаратура, калі яна яшчэ на нешта здольная ў такі нелітаратурны век, калі любы неасьцярожны рух аўтара імгненна вырастае да памераў *Прэтэнзіі на*. Паміж вульканам Стамбаліні і Стамбулам заўжды ёсьць сувязь, і ня толькі фанэтычная — як паміж Менскам і Мінатаўрам.

Стамбул ёсьць гісторыяй, ва ўсіх сэнсах: не адзін раз, чытаючы, скажам, «Мяне завуць чырвоны», адчуваеш, што перад табой заўжды (дарма што гэтая кніга, па сутнасьці, гістарычны дэтэктыў) — нешта большае. Больш чым горад, больш чым слова, больш чым аповед. Больш чым турэцкі *kar*, Памукаў жывы сьнег з IQ, роўным чалавечаму. Памук — гэта голас, якім Турцыя сказала тое, на што ў яе доўгі час не хапала ці то сьмеласьці, ці то пэўнасьці, ці то проста здольнасьці зірнуць на сябе... не, ня збоку — з вышыні радка.

# Кашмар на вуліцы МАЗаў

*8 чэрвеня 1949 выйшаў раман Оруэла «1984»*

Што, напэўна, мацней за ўсё шакавала ў гэтай кнізе савецкага, а ў маім выпадку позьнесавецкага чытача: героі былі спрэс брытанцы (і Голдстэйн таксама, так!) і месца дзеяньня было адпаведнае, усё там было нянаскае — і пры гэтым настолькі пра нас.

Гэта ўражвала значна больш за палітычна ангажаваных сьвіньняў і сабакаў у «Фэрме» — да казак усе прывычныя; а вось брытанскі камуна-нацыянал-сацыялізм — гэта было акурат пад дых. Гэта нейк ня ўкладвалася ў галаве, прызвычаенай да таго, што дзе-дзе, а ў іх такое немагчыма. Як касьмічны пірат, якога завуць Сідаравым, як Джэк Васьмёркін. Немагчыма. А калі можа стацца магчымым («1984» з тых кніг, якія па розныя бакі жалезнай заслоны чытаюцца зусім па-рознаму: у выніку хадзячы нонсэнс — дакумэнтальная антыўтопія) — дык на чым тады наогул стаяць сьвету? Палітычная, як улётка, праўдзівая, як «Дзеці Арбату», фантастычная, як марсіянскія брады Брэдбэры, кніга пра каханьне — усё гэта ўмясьцілася ў чатыры лічбы: «1984».

8 чэрвеня 1949 году ў брытанскім выдавецтве Secker and Warburg гэты раман упершыню выйшаў асобным выданьнем. Джорджу Оруэлу заставалася жыць менш за год. Пасьля вайны ад літаратуры чакалі аптымізму — таго, што ў яе заўжды атрымліваецца найбольш бяздарна. Оруэл гэта ведаў. Ён спрабаваў пісаць аптымістычныя рэчы — і, мусіць, застаўся б у гісторыі як неблагі эсэіст, майстар сатыры, журналіст... У лякальнай гісторыі лякальных праблемаў. І ён пасьпяшаўся сказаць тое, што ўсе ведалі і так — але ніхто не наважваўся праводзіць з гэтым веданьнем хімічныя экспэрымэнты, пагатоў — у сябе дома. У яго атрымалася напісаць унівэрсальную кнігу, зь якой давядзецца жыць усім таталітарным рэжымам — пасьля 1949 году кожны, нават непісьменны дыктатар бачыць на сьцяне гэтыя лічбы і ня можа прыбраць іх адтуль, яны не сьціраюцца: ні крывёй, ні гіпнозам, ні палкай.



Так, вядома: раман-выкрыцьцё, раман-папярэджаньне, раман-прысуд. Але для мяне «1984» быў і будзе кнігаю пра каханьне. Вы ня плакалі разам з Ўінстанам і Джуліяй? Я так. Вы не шукалі працяг вершыка пра «званы сьвятога Клемана»? Я шукаў. Каб знаёмства, прывязанасьць і ўзаемны інтарэс зрабіліся ім, каханьнем, гэтаму простаму пачуцьцю трэба здарыцца несвоечасова, нарадзіцца ў самы беспрасьветны, непралазны, цёмны, бесчалавечны час. Калі кахаць, уласна кажучы, забаронена. Ну, хіба што Вялікага Брата...

Ён нездарма завецца менавіта так: сямейнае, сваяцкае, чалавечае адмяняецца. Карлсан — першы кандыдат у пакой 101. Вялікі Брат супраць Ліленброра: жудаснае супрацьстаяньне. Ліленброр перамагае — хаця і здаецца, што ўсё наадварот і 1985 не надыдзе.

У 1984 ішла Афганская вайна (Эўразія супраць Акіяніі). У 1984 Плаціні адкрыў лік у фінале супраць гішпанцаў. У 1984 на экраны выйшаў «Кашмар на вуліцы Вязаў» — а значыць, міністэрства праўды не спрацавала як сьлед. У 1984 мне споўнілася дзевяць. Першыя ўрокі навамоўя і двухдумства я ўжо атрымаў, і часам катаўся з дарослымі ледзьве не да самага будынку міністэрства любові, насупраць якога стаяў бюст нейкага містэра О'Браена — ён і цяпер там, што часам прымушае мімаволі падазраваць, што нешта ня так зь беларускім календаром. Што ж, перапісаць — не праблема.

# Крык душы

***9 чэрвеня 1910 каля берагоў Аўстраліі ў ваду кінутая бутэлька з цыдулкай, якую знойдуць праз 73 гады***

Кругазварот шкла ў прыродзе, як вядома, бясконцы — і ня менш велічны за кругазварот вады, крыві і гарэлкі. Вось і 6 чэрвеня 1983 году адзін з жыхароў аўстралійскай выспы Мортан зьбіраў на марскім беразе пустыя бутэлькі, каб ператварыць іх увечары ў поўныя, якія затым зноў зробяцца пустыя — і гэтак далей. Карацей, звычайнае чараўніцтва. Адна з бутэлек прыцягнула ягоную ўвагу сваёй незвычайнай формай. Ён адкаркаваў, панюхаў і ўлавіў зусім слабы, але яшчэ адчувальны пах смачнага мужчынскага ласьёну, якім так файна пахмяляцца чэрвеньскай раніцай. Але бутэлька была пустая, як паштовая скрыня асуджанага на знос дома, дый наогул, яе не ўзялі б ні ў водным прыёмным пункце. Расчараваны мортанец з горкім уздыхам гэхнуў сваю знаходку аб камень. І, не даючы веры вачам, утаропіўся ў аскепкі: сярод іх ляжала паперка зь нейкім пасланьнем.



Тэкст быў кароткі, зьмястоўны і напісаны рашучым почыркам чалавека, якому няма чаго губляць. Падамо яго тут цалкам, зь меркаваньняў маралі замяніўшы нецэнзурныя словы і выразы зорачкамі:

> *«****!*
> ******* ***** **** ********** *** ******, ****** ******* ******
> ******* ** ***** ******. ***** *** *****!*
> *На борце карабля „Аравата“, 9 чэрвеня 1910 г.»*

Узрушаны мортанец прадаў цыдулку журналістам. І ўжо празь некалькі дзён увесь сьвет даведаўся пра гэтае поўнае болю пасланьне зь мінулага, адпраўленае нам неабыякавым продкам.

Доўгі час гэтае падарожжа аднаго пісьма лічылася самым доўгім у гісторыі паштовых адпраўленьняў такога кшталту. Як бачым, яму не хапіла ўсяго нейкіх трох дзён, каб праплаваць у акіяне роўна семдзесят тры гады. Праўда, кажуць, што Хрыстафор Калюмб, толькі-толькі адкрыўшы сваю Індыю, напісаў пра гэта каралеве і кінуў бутэльку з радаснай весткай у мора — на выпадак, калі ніхто зь першаадкрывальнікаў ня зможа вярнуцца назад. Ягоны ліст знайшлі і прачыталі толькі праз трыста пяцьдзясят дзевяць гадоў. Кожнага разу, бываючы ля мора, думаеш пра тое, колькі яшчэ такіх непрачытаных пасланьняў плавае ў ягоных бяскрайніх прасторах. Цудоўная атрымалася б кніжка — анталёгія лістоў, знойдзеных у бутэльках. Хочацца дадаць да іх і свой, але рука не падымаецца. Нашчадкам усё адно, можа, яны і чытаць да таго часу развучацца, а вось мора шкада. Туды і так кожны дзень кідаюць што заўгодна, ***** ** **** *****.

# Запрашэньне да зьверства

*10 чэрвеня 1793 у Парыжы адкрыты першы заапарк*

Чалавека хлебам не кармі — дай толькі пабудаваць якінебудзь канцлягер. Праўда, канцлягеры для людзей паціху выходзяць з моды — дарага, негігіенічна і непаліткарэктна. Застаюцца браты нашыя меншыя — гэтыя пэтыцый пісаць ня будуць і паўстаньняў уздымаць таксама.

Перамогі над прыродай — адноснай і даволі ўяўнай, памятайма пра Бабра! — чалавеку заўжды было мала. Бо: а як жа памучыць, як жа пазьдзекавацца? Садагуманізм абавязвае: знаёмства з флёрай і фаўнай бязь іхнага прыніжэньня ніякай радасьці не прынясе... Каб палюбіць матылька або муху, трэба хаця б раз у дзяцінстве адарваць ім крылы. Ударыць сабаку, каня, схапіць за хвост ката... Гэта ўжо потым, пазьней зьявіцца дзіцячая мара: вызваліць усіх зьвяроў з заапаркаў і цыркаў. Шырокія савецкія вуліцы, запоўненыя сланамі, ільвамі і малпамі, якія шыбуюць дадому — і дрэсіроўшчыкі ды наглядчыкі ў клетках... Але і гэта прайшло. Цяпер мы ідзем з дачкой па заапарку Гагенбэка, для зьвяроў самых розных відаў тут найлепшыя ўмовы — гэта быў галоўны прынцып Гагенбэка: жывёла ў заапарку мусіць жыць так, як яна жыве ў натуральным асяродзьдзі. У гэтым заапарку лёгка можна заблудзіць. Пакутай тут ня пахне, але няволя ёсьць няволя. Гадоў пяць таму ў Менскім zoo дзіцяці хацелася захінуць чымнебудзь вочы — відовішча было не для слабанэрвовых.



Карл Гагенбэк наогул любіў розных дзікіх істотаў. Заснаваўшы ў дзевятнаццатым стагодзьдзі свой заапарк, ён рэгулярна выстаўляў там напаказ і людзей. Хіба ж не займальна: побач з паўночнымі аленямі ў яго жылі сем'і саамаў, а побач з тыграмі і антылёпамі — сапраўдныя афрыканцы, прывезеныя з калёніяў. Гагенбэк зладзіў каля пяцідзесяці чатырох такіх выставаў, і ўсе яны карысталіся шалёным посьпехам. Без ахвяраў не абышлося — але ж ці мала гіне жывёлы?

А першы грамадзкі заапарк у Эўропе, дзе ўсё было салідна, па-навуковаму, быў заснаваны задоўга да Гагенбэкавага. 10 чэрвеня 1793 году ў Парыжы, на левым беразе Сены, у Jardin des Plantes адчыніўся зьвярынец: месца, куды кожны мог прыйсьці і паназіраць за экзатычнай зьвярынай, прывезенай з каралеўскага зьвярынцу ў Вэрсалі. Рэвалюцыйная Францыя ўсё імкнулася павярнуць на карысьць народу — прызначэньне заапаркаў было зразумета практычна і прагматычна. Натоўп узброеных людзей уварваўся ў Вэрсалі ў той прыватны каралеўскі заасад і пачаў адбор: тыя жывёлы, якіх можна было есьці, былі забітыя на месцы, а мяса падзялілі народныя масы. Што да нясмачных, іх пакінулі жыць і аддалі пад нагляд вучоных. Што ж, часам нават чалавеку выгодна быць нясмачным — хаця, урэшце, уся рэч толькі ў прыправах.

# Імя Афрыкі

*11 чэрвеня 1964 Нэльсану Мандэлу даюць пажыцьцёвае зьняволеньне*

11 чэрвеня 1964 году, важна паблісьваючы акулярамі, паўднёваафрыканскі судзьдзя Квартус дэ Вэт абвясьціў сваё рашэньне па справе Нэльсана Мандэлы і ягоных паплечнікаў. Яшчэ не адбыўшы да канца трохгадовы тэрмін за нелегальнае перасячэньне мяжы і заклікі да страйку, гэтым разам Мандэла быў асуджаны да пажыцьцёвага зьняволеньня — за сабатаж і пляанаваньне ўзброенага супраціву ўладам. Так яму, чорнаму, і трэба, з палёгкай уздыхнулі законапаслухмяныя грамадзяне. На сьвятое замахнуўся!.. Бедны судзьдзя дэ Вэт падумаць ня мог, што адпраўляе ў турму будучага прэзыдэнта сваёй дзяржавы.

Калі б судзьдзі кожны раз, выносячы палітычныя прысуды, думалі пра тое, як нечакана можа павярнуцца гісторыя… І пра тое, наколькі часам законапаслухмянасьць не адрозная ад звычайнага фашызму. Надышоў бы канец сьвету. Прыкладна такі па сваіх маштабах, які перажыла ў пачатку дзевяностых белае насельніцтва ПАР — у час, калі архаічны, спарахнелы апартхэйд нарэшце сканаў, пакінуўшы па сабе толькі нянавісьць і прагу помсты. Не зусім тыя рэчы, якіх хацеў дасягнуць Мандэла — і ўсё ж непазьбежныя, як шнары пасьля апэрацыі.



…Калі ён пайшоў у школу, настаўніца сказала яму, што з гэтага часу яго будуць зваць Нэльсан. Таму што ў нармальнага чалавека, які хоча чагосьці дасягнуць у жыцьці, мусіць быць брытанскае імя. У турме яму далі нумар 46664 — лічбы азначалі, што Мандэла быў 466-м асуджаным у 1964 годзе. Таксама імя — у нейкім сэнсе… Калі ён зробіцца прэзыдэнтам, яго будуць называць Мандзіба, паважліва і зусім па-афрыканску. На кожную трацціну жыцьця — па новым імі.

…Большую частку свайго зьняволеньня ён адбываў на высьпе Робэн, дзе працаваў у вапнавым кар'еры. І завочна вучыўся ў адным з брытанскіх унівэрсытэтаў, стаўшы ўрэшце бакаляўрам права. Наўрад ці, дарэчы, у Савецкім Саюзе, дзе Мандэлу любілі маляваць на марках і паштоўках з надпісам «Змагар за свабоду народаў Афрыкі» і дзе Паўднёвую Афрыку цалкам справядліва называлі запаведнікам расізму, нехта са зьняволеных — белых зьняволеных — мог скончыць завочна замежны ўнівэрсытэт… Затое ў вас нэграў лінчуюць, казалі савецкія людзі — праўда, не паўднёваафрыканцам, а амэрыканцам, прадстаўнікам краіны, дзяржаўнае ўладкаваньне якой Мандэла лічыў ледзьве ня ўзорным. Ой, няпроста было савецкаму чалавеку разабрацца з гэтай Афрыкай…

«За нашу і вашу волю» — гэты лёзунг быў і ягоным лёзунгам. На афрыканскі кшталт, вядома. «Усё сваё жыцьцё я прысьвяціў барацьбе за афрыканскі народ. Я змагаўся супраць панаваньня белых і змагаўся супраць панаваньня чорных. Мой ідэал — дэмакратычнае, вольнае грамадзтва, дзе ўсе людзі будуць жыць у згодзе і карыстацца роўнымі магчымасьцямі,» — сказаў Мандэла ў сваёй прамове за паўтара месяца да вынесенага яму прысуду. Наперадзе былі дваццаць сем гадоў турмы, Нобэлеўская прэмія, пацiснутая ім рука дэ Клерка, белая рука былога гаспадара… І праведзены ў ПАР чэмпіянат сьвету па футболе — самае прыгожае ўвасабленьне яго Перамогі.

# Жыцьцё шэптам

***12 чэрвеня 1942 Ганна Франк атрымлівае на дзень народзінаў ад бацькі нататнік у чырвонай вокладцы***

Ота Франк быў былы афіцэр, разумны чалавек і сапраўдны бацька. Але надышлі часы, калі ўсё гэта зьвялося да кароткага, у чатыры лацінскія літары, слова: яўрэй. Яўрэй ня мог быць афіцэрам, ня мог быць бацькам і наогул ня быў чалавекам. Калі пачаўся другі год нямецкай акупацыі Нідэрляндаў, а ў эміграцыі ў Амэрыку яму і ягонай сям'і адмовілі, Ота Франк пачаў рыхтаваць Прытулак. Ня раз яны з жонкай, ідучы на працу, бралі з сабой сёе-тое, што можна лёгка і непрыкметна схаваць на сабе — рэчы, кнігі і прадукты харчаваньня паволі перамяшчаліся па горадзе з кватэры Франкаў у вялікі дом на набярэжнай, і ніхто, нават дзеці, не заўважаў гэтага. Калі б ня бацькаў плян, дык, можа, не было б нічога асаблівага ў тым простым факце, што

12 чэрвеня 1942 году нямецкая дзяўчынка яўрэйскага паходжаньня Ганна Франк, якая жыла ў Амстэрдаме, атрымала ў падарунак на дзень нараджэньня нататнік у чырвонай вокладцы.



У той дзень ёй споўнілася трынаццаць.

*«Пачну з таго моманту, калі пабачыла цябе на стале сярод іншых падарункаў... (тое, што напярэдадні я сама выбрала цябе ў краме, ня мае значэньня). У пятніцу 12 чэрвеня я прачнулася а шостай раніцы. Нічога дзіўнага, гэта ж быў дзень майго нараджэньня! Але падняцца так рана я не магла, давялося ўтаймаваць сваю цікаўнасьць да шасьці сарака пяці. Трываць далей было немагчыма, і я спусьцілася ў сталовую, дзе мяне радасна вітаў наш кот Моршы. А сёмай я зазірнула да таты з мамай, а потым у гасьцёўню, каб разгледзець падарункі. Першым пабачыла цябе — мой найлепшы падарунак. Яшчэ былі букет ружаў і два букеты півоняў. Ад бацькоў я атрымала блакітную блюзку, настольную гульню і бутэльку вінаграднага соку, які, па-мойму, па смаку нагадвае віно (яго ж таксама робяць зь вінаграду), настольную гульню, два з паловай гульдэны, крэм і талён на дзьве кніжкі. Яшчэ кнігу „Камэра Абскура", якую я, праўда, памяняла, бо яна ўжо ёсьць у Марго, хатняе печыва, якое я сьпякла сама, я файна ўмею яго пячы, і мамін трускаўкавы торт. Яшчэ ліст ад бабулі, які прыйшоў менавіта ў гэты дзень, выпадкова, сам сабою. Потым па мяне зайшла Ганэлі, і мы пайшлі ў школу...»*

Так пачалося лета. А ўжо ў самым пачатку ліпеня Франкам прыйдзе позва ў гестапа на імя старэйшай сястры Ганны Марго. І 6 ліпеня, ратуючыся ад немінучай гібелі, яны пераселяцца ў свой прытулак на вуліцы Прынсэнграхт, дзе ў задніх памяшканьнях фірмы «Опэкта», у якой працаваў яе бацька, яны таемна пражывуць больш за два гады. Разам зь яшчэ чатырма асуджанымі на сьмерць. Супрацоўнікі фірмы будуць дапамагаць ім, але знойдзецца здраднік, які выдасьць уладам таямніцу дома на Прынсэнграхт. І 4 жніўня 1944 году іх схопяць. З усёй сям'і Франкаў ацалее толькі Ота Франк.

...Увесну 1944-га Ганна з бацькамі пачуе па радыё, як адзін зь міністраў нідэрляндзкага ўраду ў эміграцыі заклікае гра-

мадзянаў фіксаваць, запісваць, захоўваць дзеля будучыні ўсё, што яны перажылі пад акупацыяй. З таго моманту яна ўсьвядоміць, што насамрэч піша ў сваім нататніку. Прыватны дзёньнік зробіцца літаратурай ня з волі аўтара.

Ганну любяць называць звычайнай дзяўчынкай. Усе людзі звычайныя, пакуль не зьмяняюцца звычаі. Напрыклад, калі звычаем робіцца адпраўляць людзей у газавыя камэры, звычайным чалавекам, напэўна, застацца цяжка. Але Ганна і да Прытулку не была звычайнай. Яна вельмі шмат чытала. Зь дзёньніку добра відаць, як яна ня проста балюча засяроджаная на сабе, што ўласьціва падлеткам — яна пачуваецца адначасова аўтарам і пэрсанажам страшнай гісторыі. На жаль, рэальнай. Яе позірк занадта ўважлівы як для дзяўчынкі — яна бачыць усё. «Размовы ў любы час дазволеныя толькі шэптам, нават удзень; тут можна выкарыстоўваць любыя мовы цывілізаваных народаў, а значыць, не гаварыць па-нямецку» — звычайны чалавек так ня скажа.

Дзёньнік Ганны Франк — прыклад таго, як сьвет, нават сьціснуўшыся да памераў прытулку, застаецца сьветам людзей. Нават у такіх умовах яны знаходзяць нагоды для сварак. Але і цуды, якія дорыць чалавеку жыцьцё, працягваюць адбывацца.Ператварэньне дзяўчынкі Ганны ў маленькую жанчыну няўхільнае і пераможнае, нягледзячы на ўсе акупацыі, уцёкі, расавыя законы і вымушаную кляўстрафабічную рэальнасьць, у якой даводзіцца існаваць. У нейкім сэнсе — самае красамоўнае сьведчаньне перамогі жыцьця над сьмерцю. Як і сьмех Ганны — нават жывучы вось так, шэптам, яна знаходзіць у сабе моц усьміхацца.

Цікава, што за «Камэру Абскуру» падарылі Ганьне на яе трынаццаты дзень народзінаў? Няўжо набокаўскі раман? Той самы, які аўтар потым перапрацаваў і назваў «Сьмехам у цемры?» Гісторыю жарсьці і асьляпленьня... Калі гэта так, можна толькі падзівіцца, у якой лібэральнай атмасфэры выхоўвалася Ганна і які давер панаваў у яе сям'і.

А яшчэ ў ім, як ні дзіўна, на адной са старонак мільгае і Беларусь. Хаця — нічога дзіўнага, з Усходу таксама ідзе надзея. Франкі рэгулярна слухаюць радыё. «Настрой прыўзьняты: справы на фронце ідуць найлепшым чынам. Сёньня захопленыя ў немцаў Шэрбур, Віцебск і Жлобін». Радыё не казала пра тое, што яўрэйскае насельніцтва Жлобіна было практычна вынішчана, а з 37 тысяч віцебскіх яўрэяў было забіта амаль 20 тысяч. Аднак падлікі пачнуцца потым. Калі аўтаркі дзёньніка даўно ўжо ня будзе ў жывых.

# Тым, хто ў танку

***13 чэрвеня 1984 у цэнтры Менску 13 чалавек пратэстуюць супраць руйнаваньня будынку тэатра Поляка***

*«Асьцярожна*
*Выцірайце шыбы*
*Старой камяніцы!*
*Іх ва ўсім маім горадзе*
*Толькі некалькі ацалела...»*

13 чэрвеня 1984 году ў Менску тая самая ўлада, якая прызначыла аўтара гэтых радкоў старшынём Саюзу пісьменьнікаў і выканаўцам волі якой ён заўжды быў, вырашыла прыслухацца да паэта і выцерці шыбы адной камяніцы. І выцерла — асьцярожненька так, з дапамогай бульдозэра і чыгуннай бабы, так выцерла, каб і сьлядоў ад тых шыбаў не засталося. Аб'ектам асьцярожнага выціраньня быў абраны стары будынак першага менскага тэатру, які, дарма што некалькі разоў гарэў, дабудоўваўся і перабудоўваўся, займаў сваё пачэснае месца на менскіх вуліцах амаль некалькі стагодзьдзяў.

*«Яны бачылі болей,*
*Чым дрэвы і помнікі.*




*Яны бачылі болей,*
*Як вочы людзей,*
*Якія заўжды пасьля стрэлаў*
*Згасалі».*

Напэўна, тым, хто аддаў загад зьнішчыць касабокі будынак у самым цэнтры сталіцы, таксама часам прыходзіла ў галаву такая мысьля. Але паэзія — гэта для Дома літаратара, паб. 1976, арх. Грыгор'еў і Шубіна, а тут — мы наш, мы новы Менск пастроім!.. Суворая рэчаіснасьць, архітэктурны плян «Ост», які не цярпіць сантымэнтаў.

Трынаццаць маладых людзей, якія нечакана для ўладаў зьявіліся ў той дзень, калі зьнішчалася камяніца, на прыступках, што цяпер насупраць гатэлю «Эўропа», таксама маглі б заняцца справай. Вершы пачытаць або там, ня ведаю, піва папіць. Але яны пачалі гучна скандаваць: «Руйнуюць помнік гісторыі!» — і гэта, напэўна, было мацней і выразьней за верш і хмяльней за піва. Такога нахабства ўлады не чакалі і не даравалі. Усё мусіла быць ціха-мірна — і тут на табе. «Нашлі ўрэмя», — як казаў беларускі савецкі пісьменьнік, прачытаўшы Пруста.

І цяпер адчуваеш да іх павагу за той учынак — да тых трынаццаці нязгодных. Ды нават калі б на тыя прыступкі выйшаў адзін чалавек — значыць, у гэтым горадзе ў 1984 ужо быў нехта жывы.

*«Асьцярожна*
*Выцірайце шыбы,*
*Каб зь ценямі дыму*
*Пажараў вайны*
*Ня сьцерці і ценяў*
*Вам блізкіх людзей,*
*Якія апошні раз*
*Некалі ў гэтыя шыбы глядзелі».*

Зрэшты, тым, хто ў танку, Танк без патрэбы.

# Учорашні сон

*14 чэрвеня 1965 была ўпершыню запісаная песьня «Yesterday»*

Гісторыя стварэньня гэтай песенькі пахне яешняй з бэконам, венскай вар'ятняй і лёнданскім туманам. Аднойчы раніцай Пол Макартні прачнуўся ў сябе дома з мэлёдыяй у галаве. Што, у прынцыпе, ня так ужо і дзіўна: сапраўдны музыка і мусіць прачынацца або з мэлёдыяй, або з рэшткамі галюцынацый ад LSD, трэцяга ня дадзена. Ён схапіў гітару і паспрабаваў найграць тое, што прысьніў.

«Плягіят, — сказаў Полу Макартні яго ўнутраны худсавет. — Але гучыць няблага. Дзе ты яе скраў?»

«Я пачуў яе ў сьне!» — запярэчыў унутранаму худсавету Пол Макартні.

«Ну-ну, — сказаў унутраны худсавет. — Большую частку таго, што мы даведаліся пра паходжаньне вобразаў у сьне, можна выказаць у наступнай формуле: кожны элемэнт сну цалкам вызначаецца прыхаванымі думкамі пабачанага ў сьне і абавязаны сваім паходжаньнем не аднаму элемэнту гэтых думак, а цэламу іх шэрагу, аднак апошнія ня шчыльна злучаныя паміж сабой, а належаць да самых розных сфэраў перапляценьня думак. У зьмесьце сну кожны элемэнт ёсьць па сутнасьці выяўленьнем усяго гэтага разнастайнага матэрыялу. Гэтаксама як ад кожнага элемэнту сну ідуць ніці да шмат якіх прыхаваных думак, так і кожная прыхаваная думка сну выказваецца звычайна не адным, а некалькімі элемэнтамі сну... Sigmund Freud, Die Traumdeutung, S.92».



«Трызьненьне нейкае», — сказаў Пол Макартні і прачнуўся цяпер ужо па-сапраўднаму.

Песьняй ён вельмі ганарыўся, але Пола ўсё роўна мучылі цьмяныя сумневы. Пачалася гульня ва «Ўгадай мэлёдыю»: ён прымушаў самых розных людзей слухаць тое, што прыйшло яму ў сьне, і, строга зазіраючы ў вочы, патрабаваў сказаць, дзе яны гэта ўжо чулі. І толькі калі яму соты раз сказалі, што чуюць гэтую музыку першы раз у жыцьці, ён пакрысе супакоіўся і пачаў прыдумляць для цудоўнай мэлёдыі словы. Першы варыянт тэксту «Yesterday» пачынаўся так:

*«Scrambled eggs, oh, my baby, how i love your legs...»*

Нармальны такі тэкст мужчыны, які толькі што прачнуўся і прагне сьняданку.

14 чэрвеня 1965 году ў студыі на Abbey Road песьня ўпершыню была запісаная — каб вельмі хутка зрабіцца адной з самых знакамітых і пазнавальных песьняў у гісторыі чалавецтва. «Yesterday» — прыгожая, геніяльная і разам з тым, бадай, самая ненавідная: ёй затыкаюць усё і паўсюль, яна — незаменная там, дзе ёсьць праблемы з густам і кругаглядам, яна — «дручок-ратаўнічок», калі трэба зрабіць «красіва», а ў галаве і на душы пустата, яе кладуць пад слухача, каб дагадзіць ягонаму мяшчанскаму «рамантызму»; яна чымсьці нагадвае Фройда, якім так лёгка і зручна тлумачыць неспазнавальнае. А шкада — добры быў сон.

# Паперка нейкая

*15 чэрвеня 1215*
*Джон Безьзямельны падпісвае Вялікую Хартыю Вольнасьцяў*

Сыну Генрыха II ангельскаму каралю Джону, які кіраваў краінай з 1199 да 1216 году, не пазайздросьціш.

Родны тата ўзяў і не пакінуў яму ў спадчыну зямлі на гістарычнай радзіме, у Францыі, а Папа Рымскі не любіў Джона так, што аднойчы нават заклікаў ангельцаў не даваць прысягі свайму манарху. Дзякуючы першаму да караля Джона прычапілася крыўдная мянушка Безьзямельны, дзякуючы другому ён урэшце зрабіўся Папавым васалам і плаціў яму даніну, як нейкаму татара-манголу.

Мала таго: каралю Джону собіла навечна трапіць у розныя сумнеўныя літаратурныя гісторыі пра Робіна Гуда і Айвэнга як жорсткаму, крываваму і амаральнаму ліхадзею. І гэта яшчэ ня ўсё: ён прайграў некалькі важных для айчыны і кароны бітваў, за што да мянушкі «Безьзямельны» дадалася яшчэ адна, ня менш, а можа і больш прыкрая, зь відавочным сэксуальным падтэкстам: Джон Мяккі Меч.



Ну, а апагеем няўдалага лёсу караля Джона зрабіўся дзень 15 чэрвеня 1215 году, калі ён, ангельскі манарх і прочая і прочая, падпісаў Вялікую Хартыю Вольнасьцяў — прыніжэньне для любога караля, асабліва калі ён жыве ў трынаццатым стагодзьдзі. Неўзабаве ён, адступаючы са сваім войскам пасьля нейкай чарговай вайны супраць уласных падданых, замарудзіўся на марскім беразе — і хвалі змылі ягоныя куфры з золатам і дыямэнтамі. Такога ўдару ён перанесьці ўжо ня мог і хутка сканаў.

Дзіўна: нягледзячы на ўсё гэта кароль Джон увайшоў у гісторыю як вялікі дэмакрат. А ўсё тая Хартыя, Magna Carta. І што з таго, што яго прымусілі яе падпісаць бароны, царкоўнікі ды вечна незадаволеныя гараджане, што з таго, што ён сам адмяніў яе яшчэ пры жыцьці, спалохаўшыся ўласнага размаху. Праз тую Хартыю, фактычна — праўобраз канстытуцыі (і гэта ў XIII стагодзьдзі) яго будуць памінаць добрым словам ва ўсім сьвеце, нібы гэта ён, уладар блакітных крывей, даў народу волю раней за іншых манархаў. Хартыя давала грамадзянам абароненасьць, усталёўвала вяршэнства закону і недвухсэнсоўна гаварыла пра розныя іншыя «вольнасьці» — нечуваная рэч для фэадальнай дзяржавы. «Ну я і дажыўся, — мармытаў сам сабе Джон, які неяк у вольную хвілінку вырашыў прачытаць тое, што ён падпісаў. — Не зьдзіўлюся, калі мяне назавуць Джон Марксіст...»

Марксістам яго, праўда, ніхто не называў — але і рэпутацыю сярод каралеўскіх дамоў Эўропы Плянтагенэты сапсавалі сабе мацней не прыдумаеш. За наступнымі манархамі Хартыю то вярталі, то скасоўвалі, то перапісвалі. Калі ў 1628 годзе парлямэнт прад'явіў каралю Якубу I «Пэтыцыю аб праве», у ёй стаяла прамая спасылка на Хартыю як на закон, які кароль ганебна парушыў. Яго Вялікасьць абяцалі падумаць, але плюнулі і забыліся. Усё скончылася ангельскай рэвалюцыяй, адсечанай галавой Карла I і дыктатурай Кромвэля. А здавалася б, паперка нейкая — вось і слоўнік кажа пра тое самае.

# Вечар Норы, Блюмаў дзень

*16 чэрвеня, Блумсдэй*

У сусьветнай літаратуры іншага такога дня няма і, хутчэй за ўсё, ужо ня будзе. Магчыма, ён доўжыцца дагэтуль.

Так кажуць пра сёньняшні дзень — і ўсе астатнія падзеі згасаюць, варта ўспомніць, што 16 чэрвеня ўсё прагрэсіўнае чалавецтва адзначае Bloomsday. Дзень, калі адбываецца дзеяньне найвялікшага ў сьвеце раману «Уліс», дзень, калі Джэймс Джойс пазнаёміўся з сваёй Норай. Будучай жонкай, якая не чытала ягоных кніг і зь якой ён, вечна п'яны, хворы, вясёлы, усё больш сьляпы і нязьменна геніяльны, пражыў усё жыцьцё. Потым яна скажа: «Джэймс зрабіў мне нямала благога — але такога чалавека, як ён, я больш не сустракала і ніколі не сустрэну».

Што і дзе адбываецца ў рамане на працягу аднаго чэрвеньскага дня 1904 году, усе ведаюць. Хто ня ведае — што ж, ім не пашанцавала. А вось што ж адбылося ў гэты дзень у так званай рэальнасьці?



На той час ён ня жыў ні ў якіх вежах і быў закаханы ў дачку аднаго музыкі. Або думаў, што закаханы. Раніцай ён разважаў пра Шэксьпіра: пра тое, што аўтара «Гамлета» варта атаясамліваць не з самім прынцам, а зь ягоным бацькам. І пра тое, што сам Шэксьпір зрабіўся ахвярай здрады: з боку ўласнай жонкі. Такі вось занятак на ўвесь дзень. Пра гэта ён распавядае сваім прыяцелям.

Яны ў курсе, што яшчэ 10 чэрвеня Джойс пабачыў на Насаў-стрыт маладую жанчыну і пазнаёміўся зь ёй. Яна мела каштанавыя валасы, незалежны характар і працавала ў гатэлі «Фін». Імя яму спадабалася — Нора, а вось прозьвішча — не. Бо Барнакл азначае нешта, што лепіцца, чапляецца і не адпускае. Джойсаў бацька, пачуўшы, як завуць новае каханьне сына, прабурчаў: «Вось пабачыце, гэтая ад яго ніколі не адчэпіцца». Як на ваду глядзеў. Джэймс і Нора дамовіліся спаткацца 14 чэрвеня на рагу Мэрыён-сквэр, але ці то яна не прыйшла, ці то ён спазьніўся. 15-га ён даслаў ёй цыдулку.

*«Мусіць, я асьлеп. Так доўга глядзеў на рудыя валасы і намагаўся вызначыць, ці Вам яны належаць. Дамоў я вярнуўся маркотны. Я зноў бы прызначыў Вам спатканьне, але, магчыма, Вам будзе нязручна. Спадзяюся, Вы самі прызначыце яго мне — калі яшчэ мяне не забылі.*

*Джэймс А. Джойс».*

16-га ўвечары яны сустрэліся і шпацыравалі па Рынгс-энд. Яна скончыла ўсяго толькі звычайную школу, той літаратурай, якая хвалявала Джойса, не цікавілася, і наогул была праставатая — але Джойс ніколі не пераймаўся адукацыяй і паходжаньнем тых, каго любіў. Чым скончылася тое спатканьне? Адны кажуць, першым пацалункам. Другія прыгадваць гэта, знакамітае, балючае, жарснае, пра што нікому нельга ведаць:

*«Ты, бессаромнае, шкоднае дзяўчо, першая пайшла на ўсё, ты прасьлізнула рукой мне ў нагавіцы, ніжэй, ніжэй, потым адвяла кашулю, дакранулася да майго чэлеса казытлівымі, доўгімі пальцамі і паступова ўзяла ва ўсю руку цалкам, ён быў тоўсты, цьвёрды, і ты, не сьпяшаючыся, пачала дзейнічаць...»*

# Лепш позна, чым ніколі

*17 чэрвеня 1885 статуя Свабоды прыплыла ў Нью-Ёрк*

*...Узьняўшы факел, статуя Свабоды*
*Глядзіць, як адплываюць параходы.*
*Ёй хочацца агнямі азарыць*
*Ім доўгі шлях, ды факел не гарыць.*
*Даносіцца зь Нью-Ёрку гул нядобры,*
*Бяссонны горад стомлена гудзе.*
*І, быццам палісмэны, небаскробы*
*За статуяй стаяць і ноч, і дзень.*
*Глядзяць з тугой яе старыя вочы*
*На далі акіянскіх сініх вод.*
*І хочацца адгэтуль ёй пакрочыць*
*Усьлед за параходамі на ўсход.*

Так, зь нечаканым шкадаваньнем, апісаў сваё знаёмства са знакамітай статуяй у 1958 годзе Пімен Панчанка. Статуя ў яго паўстае такой сабе палоньніцай, якую сьцеражэ хціві і жорсткі маньяк Нью-Ёрк — а ёй, маркотнай, сьніцца воля: «і думкі мкнуцца мімаволі, туды, дзе расьцьвіла вясна». Назад, у Эўропу, пераадзецца за жалезнай шырмай, у рабочага або калгасьніцу. Карацей, ня там паставілі. Не паслухалі паэта.

Вось толькі наконт «старых воч» Панчанка перастараўся — у 1958-м Свабода стаяла ў Нью-Ёрку ўсяго толькі семдзесят трэці год, людзі, бывае, жывуць менш, а для статуі дык наогул ня ўзрост. 17 чэрвеня 1885 году францускі карабель «Ізэр» прывёз яе ў выглядзе 350 частак, раскладзеных па 214 скрынях, у Новы Сьвет — у якасьці падарунку францускага народу амэрыканскаму. Амэрыканскі народ адказваў за пастамэнт. Ад пачатку плянавалася, што падарунак аўтарства архітэктара Бартольды прыбудзе ў Нью-Ёрк да стагодзьдзя абвяшчэньня Дэклярацыі аб незалежнасьці ЗША, але прыпазьніўся трохі, бывае. Лепш позна, чым ніколі — кажа Статуя Свабоды, маючы на ўвазе ў тым ліку і тых, хто ніяк не здабудзе сабе волю, але вельмі хоча. За рознымі жалезнымі шырмамі і іншымі кардонамі на ўсходзе. Я пасьвячу — кажа яна, а вы дзейнічайце. Сачыце за агнём.



28 кастрычніка 1886-га адбылося ўрачыстае адкрыцьцё статуі. Не абышлося без скандалаў і крытыкі. Суфражысткі, якіх не пусьцілі на імпрэзу (там наогул было толькі тры кабеты: жонка Бартольды, унучка аднаго амэрыканца і ўласна сама Свабода) нанялі параплаў, які некалькі гадзін плаваў вакол выспы, дзе адкрывалі манумэнт, і зь якога яны гучна выкрыквалі свае лёзунгі: якая яшчэ, маўляў, свабода, пакуль жанчыны ня маюць выбарчага права. Афраамэрыканская газэта выпусьціла з нагоды адкрыцьця помніка поўны зьедлівай горычы артыкул: «Статуя мусіла б выкінуць у ваду сваю паходню, калі б ведала, што сапраўднай свабодай для афраамэрыканцаў у гэтай краіне і ня пахне». Але абышлося. Лэдзі Свабода засталася стаяць там, дзе ёй даручылі, і дагэтуль сьвеціць нам у нашай ночы.

Вось ужо амаль паўтара стагодзьдзя яна ўпрыгожвае сабой галоўную марскую браму ў ЗША, і гэта выклікае ва ўсім сьвеце пачуцьці досыць супярэчлівыя. Хаця, здаецца, віной тут звычайная рэўнасьць. Абраўшы сымбалем трыццацітрохмэтровую прыгожую жанчыну эўрапейскай зьнешнасьці зь дзесяцімэтровай таліяй і рамантычным імем, трэба быць гатовым да зайздрасьці. Ня кожны мае такую — і ня кожны вытрымае яе позірк.

# Вецер і туман

*18 чэрвеня 1928 адбылася апошняя радыёсувязь са зьніклым самалётам Амундсэна*

18 чэрвеня 1928 году а чацьвертай гадзіне папаўдні з нарвэскага Тромсё ў накірунку Шпіцбэргену вылецеў францускі гідрасамалёт «Лятам». Яснае надвор'е хутка скончылася, быццам хто яго выключыў. Туман над морам быў такі, што хоць пэмікан на яго намазвай. Пачынаўся шторм.

На борце машыны знаходзіліся чацьвёра французаў і двое нарвэжцаў — у тым ліку знакаміты палярнік, Вялікі Зануда, самотнік і аскет з дыктатарскімі замашкамі Руаль Амундсэн. Той самы Амундсэн, які першы пабываў на Паўднёвым полюсе... Ну, ды дзе ён толькі ні пабываў, апошні вікінг Нарвэгіі, як яго называлі, зь ягонай дзіўнай любоўю да мінус пяцідзесяці, ільдзінаў, таросаў, айсбэргаў і сабачаціны. А цяпер ён выправіўся ў падарожжа, каб знайсьці зьніклую экспэдыцыю Умбэрта Нобіле — гэтага «недарэчнага афіцэрчыка», гэтага «чалавека дзікай, напаўтрапічнай расы». Некалькі гадоў таму яны з Нобіле зьдзейсьнілі на цэпэліне неблагое падарожжа на Паўночны полюс, але італійцу, гэтай «бяздарнасьці», гэтаму «дылетанту», не сядзелася на месцы, і вось цяпер ён тырчыць недзе пасярод Баранцава мора — сам вінаваты.



Зрэшты, не сядзелася на месцы і Амундсэну. Палюсоў на плянэце больш не засталося, а жыць без таго, каб прабірацца скрозь сьнежныя пустэльні, прабірацца на чым заўгодна: на сабаках, караблях, на самалётах або на сваіх двух, ён ужо ня мог... Машына для Амундсэна знайшлася ў апошні момант. Перад вылетам ён падараваў аднаму зь сяброў у Тромсё запальнічку — «мне яна больш не спатрэбіцца». Як заўсёды, ніхто не зьвярнуў увагі на гэты Знак.

А васямнаццатай сорак пяць радыст «Лятама» Валет апошні раз выйшаў на сувязь зь Вялікай зямлёй. Больш Руаля Амундсэна і ягоных таварышаў ніхто ня чуў і ня бачыў.

Хаця гэта і не зусім праўда. Каханка Амундсэна Кіс Бэнэт, зь якой ён, зрэшты, парваў напярэдадні падарожжа, была ўпэўненая ў сваіх тэлепатычных здольнасьцях. Як і сам палярны дасьледнік — вера ў тое, што яны могуць кантактаваць на нейкім нябачным, астральным узроўні, доўгі час трымала іх разам. І вось неяк у гатэлі ў гарах, калі Нобіле ўжо даўно знайшлі, яна, надзяваючы панчохі, раптам пачула ў пакоі глухі, але вельмі выразны голас Амундсэна:

«О Кіс, пачынаецца жудасная агонія».

«Тры дні я адчувала ў пакоі яго прысутнасьць, зусім блізка, я магла б дакрануцца да яго. Потым усё скончылася. Думаю, ён памёр пакутлівай і павольнай сьмерцю», — пісала яна.

Хутчэй за ўсё «Лятам» прызямліўся на хвалі і перакуліўся. Гэта была такая машына, якая не змагла б сесьці нават на лёд.

Кажуць, калі карабель з уратаваным Нобіле дабраўся да берагоў Паўночнай Нарвэгіі, ніхто ў гавані не захацеў прымаць ягоныя швартовы. На італійца глядзелі зь непрыхаванай варожасьцю. На радзіме яго таксама чакала ня надта радасная сустрэча. Нобіле плюнуў і паехаў у СССР будаваць дырыжаблі. Насамрэч ён ні ў чым ня быў вінаваты. Ніхто не абавязаны ратаваць сваіх ворагаў. Гэта ўсё туман і вецер. Вецер і туман.

# Сабе і іншым

***19 чэрвеня 1976 нарадзіўся Уладзімер Каткоўскі***

Жыве Беларусь. Толькі вось дзе? Адрасы, паролі, яўкі? Месцы, дзе яна жыве, можна назваць розныя, і ўсё, напэўна, будзе праўдай, за выключэньнем хіба дзяржаўных установаў. Але з адным месцам дакладна не памылішся. Беларусь жыве ў вольным сеціве і пачуваецца там усё больш упэўнена. Часам здаецца, што, ня маючы свайго віртуальнага аблічча, краіна даўно страціла б і так званае рэальнае. А ў вачах сьвету ня мела б і зусім ніякага. У нейкім сэнсе інтэрнэт уратаваў Беларусь у яе самыя цёмныя часы. І ў гэтым немалая, а можа, і асноўная заслуга Ўладзімера Каткоўскага, аднаго са стваральнікаў беларускай інтэрнэт-прасторы, самага папулярнага беларускага блогера пачатку новага стагодзьдзя, вэб-майстра, пра якога кажуць, што роўных яму не было, карыстальніка rydel23, жыцьцё якога трагічна абарвалася, калі яму ішоў трыццаць першы год. Чалавека, якога сёньня, у дзень ягонага нараджэньня, нельга ня ўспомніць добрым і удзячным словам.

*«...Зьяўленьне інтэрнэту дало нам, беларусам, магчымасьць лепш рэпрэзэнтаваць сваю краіну. Мы вельмі доўга жылі „чужым жыцьцём“, у чужым інфармацыйным абшары, і ўся інфармацыя пра нас у замежжы зьяўлялася праз расейскія крыніцы, якія цяжка назваць аб'ектыўнымі. Пашырэньне інтэрнэту дазволіла нам хутка зьліквідаваць гэтую „белую пляму“ (ці хутчэй перафарбаваць яе ў той колер, які нам больш адпавядае). Цяпер мы можам самі расказаць пра сябе...»*



Чытаеш сёньня гэтае ягонае інтэрвію пачатку стагодзьдзя, выкладзенае пазьней на створаным Уладзімерам Каткоўскім сайце pravapis.org — і бачыш, наколькі чалавек разумеў час, наколькі тонка адчуў, адным зь першых, што ў сьвеце Нешта Зьмянілася. Такіх звычайна — хто з зайздрасьцю, хто з захапленьнем — называюць геніямі і першапраходцамі. Сеціва дало Беларусі шанец заявіць пра сябе, нагадаць, што і мы маем месца пад сонцам — магчыма, гэта быў апошні шанец. Бачыш і тое, што беларускі інтэрнэт можна без агаворак аднесьці да нашых перамогаў — якіх, на жаль, было за апошнія дваццаць гадоў значна менш, чым паразаў. Чытаючы ўспаміны пра Ўладзімера Каткоўскага ягоных калег і сяброў, бачыш, наколькі моцны ў ім быў гэты сьветлы, стваральны пачатак. Тое, чаго не хапае нам, сучасным. З нашымі трыма соснамі, у якіх хаваецца вечна няўлоўны вораг.

«Мы, беларусы, часта самі сабе нецікавыя, — казаў ён, адказваючы на пытаньне, як зрабіць беларускі інтэрнэт цікавым для замежнікаў. — Калі мы будзем ім цікавыя, яны створаць сайты пра нас...» І прыводзіў прыклад ужо створаных старонак і парталаў, прысьвечаных Беларусі. Сьпіс, які сёньня зрабіўся нашмат даўжэйшы. Бо — атрымалася.

Я ніколі ня быў знаёмы з Уладзімерам Каткоўскім — але гэта не зусім праўда. Я чытаў яго допісы і камэнтары паўсюль, дзе толькі можна — і дакладна ведаю, што ён чытаў мае першыя бездапаможныя кніжкі. Ды і ўсе мы карыстаемся зь ягоных набыткаў — і сайт, на якім пішацца цяпер гэты каляндар, доўгі час рабіў менавіта ён. Наогул, ягоная асоба — прыклад таго беларускага нацыяналізму, які ніхто не наважыцца назваць ні пячорным, ні ўчорашнім, архаічным, ні «апошнім прытулкам нягоднікаў», як любілі гэта рабіць пры жыцьці Каткоўскага розныя расейскамоўныя белорусскіе інтэлектуалы. Ягоная Беларусь была беларуская, сучасная, эўрапейская — іншая Беларусь, цікавая сабе, цікавая іншым.

# Ай-нэ-нэ

## *20 чэрвеня 1939 зьлёт народных сказіцеляў у Маскве*

*«Таварышы сказіцелі, кабзары ды лірнікі, ашугі, акыны, бахшы, галасістыя песьняры нашай Радзімы, да вас зьвяртаецца наша слова!..*

*Таварышы песьняры! Гады трэцяй пяцігодкі сьцьвердзяць камунізм. Мы клічам вас — прыкладзіце сваю мудрасьць да ўсяго, што бачаць вашы вочы і чуюць вашы вушы. Трапным словам ганьце гультаёў, сквапных аматараў народнага майна, выкрывайце ў песьнях і казках тайных і яўных ворагаў, выкурвайце іх з усіх шчылін. Выкараняйце перажыткі старога часу, змагайцеся з папоўскай брахнёй, як змагаліся зь ёй песьняры ўсіх часоў і народаў. У песьнях і казках слаўце мнагарадаснае жыцьцё нашага савецкага народу, усхваляйце ўсіх знакамітых людзей, тых, хто працуе на заводах і калгасных палях — вучняў вялікага Стаханава... Няхай нашы песьні раскажуць пра неймаверную радасьць, пра незьлічонае шчасьце людзей, якія жывуць у дастойную эпоху вялікага Сталіна».*

Гэтымі прачулымі словамі зьвярнуліся да калегаў з усёй савецкай краіны ўдзельнікі першага зьлёту народных песьняроў, які пачаўся 20 чэрвеня 1939 году ў Маскве. Зьлёт працягваўся дзесяць дзён і сабраў некалькі сотняў прафэсійных гамэраў з усяго СССР. Большая частка была ў сталіцы ўпершыню, палова ніколі дагэтуль ня бачыла паравоза, дзьве траціны чыталі па складах, так што асьляпіць іх «неймавернай радасьцю» і «незьлічонымі шчасьцямі» было няцяжка: на мэтро праехаўся — і новы пэсьня гатовы. Зрэшты, песьняры, ашугі і акыны і самі даўно скумекалі, што па чым, і ўжо на другі дзень навучыліся ў патрэбны момант глыбакадумна закочваць свае вочы і выдаваць векавым, як пік Камунізму, і чыстым, як паветра ў лясным санаторыі, голасам штосьці кшталту:



Ай-нэ-нэ, крэпка нашая браня,  
Ай-нэ-нэ, быстрыя нашыя танкі,  
Ай-нэ-нэ, мацнейшая за ўсіх Чырвоная армія!

Мерапрыемства было, зрэшты, шмат у чым вымушанае. Новы савецкі фальклёр сапраўды пачаў паўставаць яшчэ ў дваццатых і, як і належыць народнай творчасьці, адразу ж набыў дзікаватыя і дзіўнаватыя формы. Па расейскіх вёсках, напрыклад, хадзіла самая што ні ёсьць жывая казка пра такога сабе Леніна, больш падобнага да Гаруна ар-Рашыда. Захацеў той Ленін праверыць, ці дадуць рады бальшавікі безь яго, і сказаў самым блізкім паплечнікам: «Ці можна, таварышы, зрабіць так, каб я памёр, але так, ведаеце, не па-сапраўднаму?» «Вядома, таварыш Ленін», — сказалі паплечнікі. І зрабілі яму шкляную труну. Удзень Ленін у труне ляжыць, мёртвым прыкідваецца, а ўначы падымаецца і носіцца ваўкалакам па краіне, правярае, ці ўсе ў парадку...

Такія інтэрпрэтацыі дазваляць было непажадана. Таму ўжо ў трыццатых на фальклёр была арганізаваная дзяржаўная замова. З кожнага раёну — па песьняру, песьняру пад нос — сьпіс тэмаў, а да яго аўтарская дамова. Уздыхаў пясьняр, пачухваў ліру, пазіраў адным вокам на навакольнае ўбоства, а другім вокам, прымружаным, хітрым, сялянскім — на лічбы ў савецкіх рублях, і: ай-нэ-нэ...

Нейк, гадоў дзесяць таму, давялося пазнаёміцца з адным беларускім акынам, які бегаў па рэдакцыях, спрабуючы ўладкаваць сваю «Быліну пра Аляксандра Мінскага, абаронцу сьвятой Русі». І шчыра не разумеў, чаму яму паўсюль адмаўляюць. Што ж, пакрыўдзіць песьняра кожны можа, а вось грошай даць... Потым рачысты былíньнік кудысьці зьнік. У глыбіню вякоў, напэўна. Ці ў Маскву — а куды яшчэ цяпер песьняру падацца.

# Грыбы з Булёнскага лесу

***21 чэрвеня 1935 Якуб Колас бярэ ўдзел у Кангрэсе пісьменьнікаў у Парыжы***

21 чэрвеня 1935 году вялікая парыская заля Mutualité перапоўненая — менавіта яна абраная для паседжаньняў і выступаў першага Міжнароднага кангрэсу пісьменьнікаў у абарону культуры. Волаты духу і шараговыя інжынэры КБ чалавечых душаў супраць шакалаў імпэрыялізму і рэваншызму. Шакалы выюць; волаты пазіруюць. Мысьляр зь пяром — як «Дзяўчына зь вяслом»: вобраз ужо тады пазнавальны і пашлаваты, але стрымацца немагчыма. Стомлена-безуважны позірк, далонь падпірае гіпэрбалічна магутны лоб, увесь у мэтафарычных зморшчынах, люлька ў зубах — або цыгара... З аднаго СССР прыехала цэлых дваццаць інжынэраў ЧД — у тым ліку загадкавы для бальшыні ўдзельнікаў кангрэсу Yakoub Kolass з Zaguibelka.

Уласна кажучы, абараняць было што і было ад каго. Сьвет каціўся да вайны, як пусты інвалідны вазок. У суседняй Нямеччыне зусім нядаўна на ўсю моц палалі кнігі, а над папялішчамі дагэтуль стаяла рэха маладых звонкіх галасоў, якія ўрачыста паўтаралі свае заклёны на самай «культурнай» мове сьвету:

«...Супраць дэкадансу і маральнага распаду! За традыцыі і парадак у сям'і і дзяржаве! Я аддаю агню сачыненьні Гайнрыха Мана, Гайнрыха Глэзэра і Эрыха Кестнэра!

Супраць фальшаваньня нашай гісторыі і пагарды да яе найвялікшых асобаў, за пашану да нашага мінулага! Я аддаю агню сачыненьні Эміля Людвіга і Вэрнэра Хэгемана!

Супраць літаратурнай здрады салдатам сусьветнай вайны, за выхаваньне народу ў тым духу, які здольны абараніць яго! Я аддаю агню сачыненьні Рэмарка!

Супраць перабольшваньня ролі сэксу, якое псуе душы! За высакароднасьць чалавечай душы! Я аддаю агню сачыненьні Зыгмунда Фройда!...»

І так далей. Пра Yakoub Kolass тыя галасы ня згадвалі і кніжак ягоных не палілі. Шкада: цікава было б пачуць фармулёўку.

Іншая рэч — што і ад абаронцаў, якія засядалі ў Парыжы, культуру варта было б чым-небудзь прыкрыць. Хаця б якім-небудзь буржуазным літаратурным выродкам — для прыстойнасьці і парытэту. Бо кангрэс атрымаўся дзіўнаваты.

Афіцыйна ён ладзіўся з ініцыятывы і пры падтрымцы Люі Арагона, а таксама «сачуствуюшчых» яму Мальро, Блёка, Рышара, усіх тых, хто блытаў левізну ў палітыцы і левізну ў мастацтве. Насамрэч кожнаму ўдзельніку было вядома, за чые грошы ў Парыжы вырашылі абараніць культуру — але ўголас пра тое, што галоўныя фундатары і арганізатары сядзяць ў Крамлі, ніхто гаварыць не наважваўся. Там, у Маскве, доўга думалі, каго пасылаць і каго запрашаць. Урэшце ўключылі ў сьпіс нават Пастэрнака і Бабеля, а Шолахава выкрасьлілі — не паехаў і Горкі. З замежных гасьцей так і не ўдалося выцягнуць у Парыж Томаса Мана (Гайнрых паехаў), Шоў, Ўэлса. У выніку



атрымалася такая пераважна пракамуністычная пісьменніцкая сходка.

Yakoub Kolass таксама выступіў на кангрэсе — цікава, на якой мове ён прамаўляў? Парыж яму ня надта спадабаўся. Абараніўшы культуру і прыкупіўшы ў Парыжы фотакамэру, ён вярнуўся ў Менск, дзе яго чакала эпіграма ад Кандрата Крапівы, які па-свойму разумеў ролю кангрэсаў у пісьменніцкім жыцьці:

*«Быў я ў Парыжы на кангрэсе,*
*То ў Загібельцы, браце, лепш —*
*Грыбоў няма ў Булёнскім лесе,*
*А ў Сене хоць бы адзін лешч».*

Yakoub Kolass ня стаў пярэчыць зайздросьліваму калегу:

*«Калі агледзіш хвайнякі*
*І гэты кут пазнаеш бліжай,*
*Зьбіраючы баравікі,*
*Дык вывад я зраблю такі:*
*Мне Загібелька лепш Парыжа».*

# Вайна Нікога

***22 чэрвеня 1867 палонныя капітана Нэма ўцякаюць зь ягонай субмарыны***

*«Аднойчы, 22 чэрвеня 1867 году... трое людзей, якія нічога ня ведалі пра мінулае капітана Нэма, здолелі ўцячы ад яго, завалодаўшы адной са шлюпак „Наўтылюса“. „Наўтылюс“ у гэты час цячэньнем несла да берагоў Нарвэгіі. Капітан Нэма вырашыў, што ўцекачы трапілі ў страшны вір і загінулі ў марской бездані...»*

Так сам аўтар у рамане «Таямнічая выспа» паставіў кропку ў спрэчках, калі ж урэшце адбыліся знакамітыя ўцёкі з загадкавай субмарыны, апісаныя ў «Дваццаці тысячах льё пад вадой». Трое ўцекачоў — гэта, вядома ж, парыскі прафэсар з фармацэўтычным прозьвішчам Аранакс, які, паводле ягонага ж прызнаньня, любіць «у пошуках ісьціны кідацца з адной крайнасьці ў другую», але ні на што не прамяняе чалавечае грамадзтва, а таксама ягоны флегматычны і верны слуга Кансэль — і канадзец Нэд Лэнд, прафэсійны зьнішчальнік акіянскай фаўны, па якім плакаў бы Грынпіс, калі б ён існаваў у часы Жуля Вэрна.



Карацей, Розум, Вернасьць і Адвага — рамантычная кампанія, якая ўцячэ адкуль заўгодна. Але вось жа бяда: каб заваёўваць сэрцы, гэтай тройцы заўжды будзе не хапаць трохі мізантропіі. Таму — бягуць, як пацукі з карабля... А сымпатыя чытачоў, як ні дзіўна, усё адно застаецца на баку капітана Нэма — які зьнішчае фрэгаты і людзей з апантанасьцю і майстэрствам нямецкага падводніка часоў другой сусьветнай. Аўтар называе яго «анёлам помсты»: страціўшы сям'ю, Нэма абвясьціў чалавецтву вайну і вядзе яе з глыбіні — там лягчэй быць жорсткім. Мора-акіян — як акуляры, праз якія наземны сьвет падаецца не такім ужо і вартым павагі і шкадаваньня.

«Дваццаць тысяч льё пад вадой» — страшная кніга, дзе ўсе прагнуць забіваць: кітоў, людзей або нават пакуль што яшчэ неідэнтыфікаваных марскіх пачвараў. Магчыма, таму яна мела такую прыцягальнасьць для сярэдняга школьнага ўзросту — падлеткавыя гульні са сьмерцю знаходзілі ў гэтай цёмнай і сумнай гісторыі нейкі дзіўны водгук...

...Цікава, што капітан Нэма мог бы аказацца і беларусам — дарма што сам ён адпрэчваў усе нацыянальнасьці. Першапачаткова Вэрн, натхнёны паўстаньнем 1863 году, думаў зрабіць героя кімсьці, хто нядаўна «рубаў маскалюшкі» паводле Касьцюшкавых запаветаў. Але аўтар чамусь перадумаў, і Нэма зрабіўся індыйскім прынцам. Што ж, адным забойцам меней у не такой ужо й багатай на іх беларускай літаратурнай гісторыі. Але і адным мізантропам — што, можа, ня так і добра, як падаецца.

# Пустая брама

***23 чэрвеня 1990 у матчы Калюмбія-Камэрун на мундыялі, Рэнэ Ігіта зрабіў фатальную памылку***

Італія, Нэапаль, 23 чэрвеня 1990-га. Стадыён «Сан-Паола», сонечны і стракаты, як ніколі (у гэты дзень ён жоўта-зялёна-сіне-чырвона-белы), віруе, зацягваючы ў сябе доўгія вечаровыя цені Кампаны. Футбольны чэмпіянат сьвету працягваецца — у той год ён быў небагаты на галы, затое поўны амаль шэксьпіраўскага драматызму. І адна восьмая фіналу не зрабілася выключэньнем. Кароль Лір, лэдзі Макбэт, Гамлет, і ўсё на адной сцэне адначасова: карацей, Камэрун супраць Калюмбіі.

Ідзе дадатковы час, сто дзявятая хвіліна, зусім нядаўна камэрунец Ражэ Мілер, ці, як яго называлі, Міла, нарэшце адкрыў лік, прымусіўшы зайсьціся ў экстазе ўсю Афрыку, і станчыўшы ля кутняга сьцяжка свой нязьменны танец — і вось ягоная каманда зноў атакуе. Але гэтым разам усё, здаецца, абышлося, абаронца калюмбійцаў завалодаў мячом недалёка ад сваёй штрафной, зірнуў абачлівым вокам на найбліжэйшага афрыканца, што памкнуўся быў да яго, але перадумаў. Стадыён прыціхае. Калюмбіец вырашае не рызыкаваць і аддае мяч упоперак поля свайму брамніку. Нічога асаблівага — на першы погляд. Калі ня ведаць, што за брамнік.

...Галкіпэр зборнай Калюмбіі Рэнэ Ігіта ўсё сваё жыцьцё паклаў на тое, каб давесьці, што ягоны пост апошняга абаронцы — панятак умоўны і насамрэч даўно састарэлы. Самі вы кіпэры! — нібыта казала ягоная таўсматая галава, у якой заўжды невядома што рабілася — але дакладна можна сказаць, што ў ёй ніколі не зьяўлялася рэчаў звычных і рацыянальных. Штрафная пляцоўка заўжды была яму цесная, як ільву клетка. Або як скарпіёну слоік. Праз пяць гадоў ён скорыць увесь сьвет сваім scorpion kick: у матчы з ангельцамі Ігіта, выгнуўшыся, нібыта ён зроблены з плястыліну, і пругка кінуўшыся рукамі на траву, адаб'е мяч пяткамі (!) — трук настолькі ж рызыкоўны, наколькі фантастычны. Там, дзе іншы вартаўнік брамы баязьліва ціснуўся да сваіх штангаў, Ігіта паляваў на мяч у цэнтры поля; сорак чатыры галы за кар'еру, большасьць з пэнальці, сем са штрафных — такі вось чалавечышча па мянушцы El Loco, Вар'ят, атрымаў мяч ад свайго абаронцы ў тую злую сто дзявятую хвіліну матчу Камэрун-Калюмбія.



І вось перад Ігітам — Мілер, у небясьпечнай блізіні, але нармальны брамнік цалкам мог пасьпець перадаць мяч наперад ці вярнуць абаронцу, або выбіць яго куды ад граху далей. Аднак вар'яты на тое і вар'яты. І Ігіта спрабуе абвесьці афрыканца. За сьпінай Вар'ята пустая брама. І адбываецца непапраўнае: Мілер перахоплівае мяч і дабягае да штрафной калюмбійцаў — на перакошаным твары Ігіты, які намагаецца дагнаць камэрунца, яшчэ няма разуменьня таго, што ўсё скончана, а на твары Ражэ блукае нешта кшталту хітрай усьмешкі. Мяч няўмольна ўкочваецца ў сетку. 2:0. Ражэ Мілер зноўку танчыць ля сьцяжка.

Празь сем хвілінаў калюмбійцы заб'юць. Але будзе ўжо позна. Дзякуючы авантуры Ігіты Калюмбія разьвітаецца з чэмпіянатам. Адна памылка вырашыць лёс каманды. Савецкі трэнэр Няпомняшчы, які вывеў афрыканцаў у чвэрцьфінал, зробіцца ў Камэруне нацыянальным героем. А ў Калюмбіі — ніхто там не абвінаваціць Ігіту ў здрадзе, шкодніцтве або недахопе патрыятызму. Бо гэта быў бы такі самы абсурд, як абвінаваціць яго ў тым, што ён ня ўмее гуляць у футбол, тое самае, што абвінаваціць мяч у тым, што ён мае форму шара. Людзі любяць вар'ятаў. Ты маеш права быць якім заўгодна. Адзінае права, якога ты ня маеш — быць нудным. Нават калі за сьпінай пустая брама. Ня ў ёй, урэшце, сэнс — хай правілы часам і сьцьвярджаюць адваротнае.

# Найлепшае месца для пераправы

*24 чэрвеня 1812*
*Напалеон пераходзіць Нёман*

На досьвітку 24 чэрвеня 1812 году малады слуга Напалеона І Банапарта, сагнуўшыся ў тры пагібелі, працуе падстаўкай для вялікай падзорнай трубы імпэратара. Хлопец не хавае свайго гонару, што менавіта ягоная сьпіна абраная ў гэты дзень непераможным палкаводцам, які, стоячы на беразе Нёмана, моўчкі разглядвае сваё Вялікае войска. Сьпіна слугі раз-пораз падрыгвае, і Напалеону ў гэтыя імгненьні здаецца, што зямля сыходзіць з-пад ног. «Не трасіся», — загадвае ён нарэшце змрочна, і хлопец замірае. Чуваць толькі, як цячэ вада, як стракочуць па-беларуску конікі, як шапоча па-літоўску чарот і як іржуць на ўсіх мовах Эўропы неспакойныя коні. Тысячы, дзясяткі тысячаў коней. Некалькі хвілін таму Напалеон аддаў каманду аб пераправе на той, «расейскі» бераг. Вялікае ўварваньне пачалося.

Галоўныя сілы Напалеона разгортваюцца двума вялізнымі эшалёнамі. Чатырыста сорак тысяч салдатаў пад камандаваньнем брата імпэратара Жэрома, Эжэна Багарнэ і самога Напалеона рушаць наперад. У тыле застаюцца яшчэ сто семдзесят тысяч жаўнераў. У Вялікім войску шмат нацыянальных карпусоў з краін, падуладных Банапарту або залежных ад яго, а таксама польскі корпус маршала Панятоўскага. Плян Напалеона просты, высакародны і дагэтуль актуальны: Расеяў мусіць быць шмат. Чым болей, тым лепей. Напалеону патрэбныя васалы, Маскву ён думае ўзяць у 1813-м, Пецярбург — у 1814-м. Мясцовым прыхільнікам імпэратара патрэбная воля. Гісторыя праплывае міма, як рака. А рака дае толькі адзін шанец.



Расейскі клясык Леў Талстой, які пазьней змарнуе столькі часу і паперы на тое, каб зладзіць сэанс сьпірытычнай сувязі з імпэратарам, апісвае пераправу як нейкую амаль экстатычную дзею, скокі пры вогнішчы з салодкім пахам бессэнсоўнай сьмерці: польскія ўланы, апантаныя любоўю да імпэратара і прагай помсты, тонуць дзясяткамі ў цёплай нёманскай вадзе, а Банапарт асыпае тапельцаў ордэнамі Ганаровага легіёну. Хто ведае, можа, так, яно і было. Безьлімітны сьпірытычны сэанс дае досыць прасторы для ўяўленьня. Але гэта калі глядзець зь іншага берага — зь Пецярбургу. На нёманскіх берагах нікому не прыйшло б у галаву назваць пераправу празь Нёман нейкай там «Айчыннай вайной». Добра вядома, што Расейская Айчына для расейцаў — панятак умоўны і знаходзіцца гэтая загадкавая тэрыторыя почасту там, дзе ніякімі расейцамі ніколі ня пахла.

Цар Аляксандар увечары 24 чэрвеня танцуе на балі ў генэрала Бэнігсэна, у Вільні. У самы разгар скокаў у залі зьяўляецца нейкі афіцэр і таропка крочыць проста да цара, уручае тэрміновую дэпэшу. Цар чытае, і ён, здаецца, усьцешаны і расхваляваны. Румянец на шчоках робіцца яшчэ мацнейшы. «Ну-с, павоюем», — кажа ён разгублена, з дурнаватай усьмешкай. Даставайце маіх салдацікаў. Бо чужых войнаў не бывае ж, скажы, дзядзя?

# На ваду гледзячы

*25 чэрвеня 1783 Лявуазье абвяшчае, што вада ёсьць злучэньнем вадароду і кіслароду*

Назіраеш часам некаторых беларускіх акадэмікаў, якія, дарма што два слова зьвязаць ня могуць, ні па-беларуску, ні па-расейску, але ступені маюць і ў тэлевізар лезуць — і міжволі зь нейкім спачуваньнем прыгадваеш словы судзьдзі рэвалюцыйнага трыбуналу Францыі Кафіналя-Дзюбая:

«Вучоныя Рэспубліцы не патрэбныя».

А хто патрэбны? Рабочыя, калгасьнікі, салдаты. Прыкарытныя паэты. Судзьдзі. Журналісты. Спартоўцы. Паліцыянты. Ну, можа, яшчэ надзвычайныя і паўнамоцныя пасы. Уласна кажучы, усё. Калі не знаходзіш сябе ў гэтым сьпісе — хутчэй за ўсё, ты нахлебнік або сабатажнік. Той юрыст Кафіналь вынес амаль дзьве тысячы сьмяротных прысудаў, а асабліва запомніўся тым, што адправіў на гільятыну хіміка Антуана Лярана Лявуазье.




З пункту погляду судзьдзі гэты Лявуазье, напэўна, быў кімсьці кшталту пражэкцёра з Сўіфтавай краіны Бальнібарбі — бо кім яшчэ можна назваць чалавека, які начамі ня сьпіць, а толькі і думае, што такое вада. Кожнаму нармальнаму французу зразумела, што вада — гэта... Ну, па-першае, яна мокрая. Па-другое, яна можа быць празрыстая, калі ў яе ня плюнуць усім народам. Па-трэцяе, яна цячэ. А яшчэ ў яе можна выліваць гаўно і выкідваць трупы. Ці мыць ёй эшафоты. Каб жыць у гэтым сьвеце, пра ваду неабавязкова ведаць нешта яшчэ. А гэтыя айсбэргі, вайсбэргі, рабіновічы і лявуазье яе толькі муцяць. Ну якая, прабачце, карысьць рэвалюцыйнай Францыі і судзьдзю Кафіналю ад таго, што вада — гэта, бач ты,

*«ня простае рэчыва, а такое, якое поўнай сваёй вагой складаецца з двух відаў паветра: паветра гаручага і паветра жывучага».*

Так 25 чэрвеня 1783 году на паседжаньні францускай Акадэміі навук Лявуазье абвясьціў пра сваё адкрыцьцё, што вада складаецца з вадароду і кіслароду.

На гільятыну празь дзесяць гадоў ён пайшоў, вядома, не за гэта, а за антыдзяржаўную змову — аднак ваду яму прыгадалі. Думаць пра ваду, калі дзяржава заціснутая ў шчыльнае кальцо ворагаў — само па сабе падазрона. Вось пра вадародную бомбу — калі ласка. З пункту погляду дзяржавы кожны навуковец мусіць адчуваць сваю віну за тое, што не прыдумаў дзяржаве харошай супэрзброі. Як пісьменьнік — за тое, што не напісаў «Вайну і мір». Бо нашто ж мы вас кормім, дармаеды?..

Сапраўдная навука — рэч для дзяржавы шкодная. Яна думае там, дзе трэба пляскаць, яна спакойная тады, калі трэба рваць на грудзях кашулі і падкідваць угару шапкі, яна ведае нешта, што дзяржаве ніколі не спасьцігнуць. Яна застаецца там, дзе канчаюцца эмоцыі і надыходзіць працьверазеньне. І выбар у яе невялікі: або тэлевізар, або гільятына. І, мяркуючы па «бэ» і «мя», якія чуюцца з тэлевізара, акадэмікі Бальнібарбі свой выбар зрабілі.

# ГГМ-74

## *26 чэрвеня 1974 Менск стаў горадам-героем*

Родны Менск я пакінуў, пажарам і бомбамі гнаны. Хто сказаў, што мой горад загінуў, што ён зруйнаваны? А вось можа, не загінуў бы, ды ня быў бы зруйнаваны, дык і не зрабілася б беларуская сталіца ў сярэдзіне сямідзясятых гадоў мінулага стагодзьдзя ня проста горадам, а героем: за ўсё трэба плаціць сваю цану.

У новым для сябе статусе жыхароў горада-героя менчукі апынуліся 26 чэрвеня 1974 году. Так кароткая прыстаўка «фон» надавалася некалі нетытулаванаму дваранству: здаецца, колькі таго фону, але форсу — на наш век хопіць і дзецям застанецца. Ніякіх асаблівых прэфэрэнцый, чысты прэстыж, як ордэн чужой, ужо няіснай дзяржавы: хочаш — насі, хочаш, у шафу схавай. Затое гучыць. Ну, і памяць, вядома — якая ёсьць проста разнавіднасьцю забыцьця. Горад-герой — гэта гучала сьмешна ўжо ў васьмідзясятых.

Ганаровае званьне Менск атрымаў Указам Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР за

*«выдатныя заслугі перад Радзімай, мужнасьць і гераізм, праяўленыя працоўнымі гораду ў барацьбе супраць гітлераўскіх акупантаў, вялікую ролю ў разгортваньні ўсенароднага партызанскага руху ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны і ў азнаменаваньне30-годзьдзя вызваленьня БССР ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў».*




Што тут праўда? Напэўна, усё. Як праўдаю былі і нямецкія эшалёны, якія незадоўга да 3 ліпеня 1944 году звозілі зь Менску на Захад сотні тых менчукоў, якія, здаецца, не былі ні нямецкімі, ні фашыстоўскімі захопнікамі, ні «калябарантамі», але мусілі ўцякаць ад сваіх, ад «нашых», бо «нашых» чамусьці баяліся ня менш, а мо і больш за немцаў.

Адна з самых жудасных праяваў таталітарнай дзяржавы — яна патрабуе гераізму ад кожнага. Але ніхто не абавязаны быць героем: дзіўна, што ў дэклярацыі правоў чалавека не прапісаны такі пункт. Калі ты не герой — дык прынамсі мусіш марыць быць ім: усё, што трэцяе — здрада. Або дэфіс.

*«На высокую ўзнагароду працоўныя Мінска адказалі новым пад'ёмам... У сацыялістычным спаборніцтве за датэрміновае выкананьне заданьняў дзявятай пяцігодкі і дастойную сустрэчу XXV зьезду КПСС і XXVIII зьезду КПБ яны дасягнулі новых посьпехаў. Напрыканцы 1974 завершанае будаўніцтва газаправоду Таржок-Мінск, электрыфікаваны ўчастак БЖД Мінск-Барысаў, уведзены ў строй мясаперапрацоўчы завод. У 1975 даў прадукцыю малочны завод № 1, уведзены ў строй завод буйнога панэльнага будаўніцтва, піўзавод № 2, Вілейска-Менская водная сыстэма, здадзеныя ў эксплюатацыю новыя магутнасьці на маторным заводзе, мотавелазаводзе, заводзе шасьцярон і станкабудаўнічым заводзе...»*

Горад-герой — у самім гэтым выразе ёсьць нейкі гвалт. І нейкая містыка: жывучы ў горадзе-героі, ты нібыта ёсьць часткаю мэханізму нейкага кібарга, элемэнтам мікрасхемы або проста шрубком, але ад цябе і толькі ад цябе залежыць якая-небудзь дробязь, вызначальная для ўсяго мэханізму. Гэта ўжо не прыналежнасьць да гораду — але адказная пасада. Быццам бы ад цябе залежыць, якім пальцам ён націсьне на спускавы кручок, калі давядзецца прыняць бой з монстрамі. Якімі — а хто яго ведае. Гэта вырашаць герою, а не ягоным запчасткам.

Цікава, што нешта падобнае да званьня ГГ мелі некалі гарады сацыялістычнай Югаславіі — Ордэн народнага героя, які даваўся і людзям, і арганізацыям, і вось — гарадам... Такі Ордэн мела, напрыклад, Любляна. Але яна даўно ўжо — проста сталіца незалежнай Славеніі. А мы як жылі, так і жывем у целе героя — бо бяз нас і яму ня выжыць. Такая ў яго анатомія.

# Сьмерць імпэратара

*27 чэрвеня 1520 забіты імпэратар Мантэсума II*

27 чэрвеня 1520 году перад палацам Ашакаятль у ацтэцкай сталіцы Тэначтытлане бясьпечней быць каменем або сабакам, чым эўрапейцам: разьюшаны народ каторы дзень спрабуе ўзяць штурмам муры, за якімі хаваецца нешматлікі атрад канкістадораў. Праўда, разам з гішпанцамі там заселі іхныя хаўрусьнікі, індзейцы з Тласкалы, непрымірымыя ворагі ацтэкаў — гэта дазваляе камандзіру гішпанцаў Картэсу спадзявацца, што сілаў вырвацца з ахопленага паўстаньнем Тэначтытлану ў яго ўсё ж хопіць. Да таго ж Картэс мае ў рукаве козыр — так, прынамсі, яму здаецца: у ягоным палоне знаходзіцца сам тлатоані Мантэсума II, імпэратар ацтэкаў, і падступны гішпанец разважае, як найлепш выкарыстаць гэтага дзікуна. Козыр пакуль што маўчыць, зануpаны ў сябе, і паблісквае вузкімі вачыма: можа, прыгадвае, як упершыню пачуў пра барадатых, белатварых гасьцей з мора — ён ужо тады зразумеў, чым гэта пагражае яго імпэрыі, і спрабаваў дамовіцца... І ўсё ж цяпер, што ні кажы, колькасьцю ацтэкі нашмат перавышаюць прыхадняў — найменшая памылка можа каштаваць гішпанцам жыцьця.

Прыхінуўшыся да прахалоднай сьцяны, Картэс з раздражненьнем разглядвае свайго намесьніка дэ Альварада: менавіта гэты руды, як заход сонца над Тэначтытланам, крывасмок прычыніўся да таго, што ацтэкі ўзбунтаваліся. Пакінуў, называецца, «на хазяйстве». У адсутнасьць Картэса дэ Альварада ўчыніў у гэтым праклятым горадзе такую разьню, што і самыя цярплівыя індзейцы ўзялі ў рукі камяні ды дзіды і пайшлі да палаца, дзе атайбаваліся гішпанцы. Пайшлі зь цьвёрдым намерам забіваць, секчы галовы, рэзаць, праломваць чарапы нахабным прыхадням. Ня тое каб Картэсу было тут кагосьці шкада — але ён стратэг, а дэ Альварада — о, гэта звычайны мясьнік. З тых, у каго ёсьць адвага, але каму заўжды бракуе розуму.



Перад палацам чуюцца крыкі, якія нагадваюць рытуальныя песьні, і песьні, што нагадваюць крыкі параненых. Ад усяго гэтага неяк цесна ў грудзях і сьвярбяць рукі. На ўсё воля Госпада — але, халера на вас, Картэс не зьбіраецца скончаць жыцьцё тут, сярод кактусаў і паганскіх капішчаў. І тады ён загадвае прывесьці Мантэсуму. Шасьцёра гішпанцаў прыкрываюць тлатоані шчытамі — у такім выглядзе, амаль цалкам схаваны ад вачэй, але пазнавальны па голасе, Мантэсума

зьяўляецца ўрэшце на даху палаца. Крыкі ўнізе сьціхаюць. Гішпанцы прымаюць гэта за добры знак і апускаюць шчыты. Імпэратар стаіць над сваімі падданымі — ва ўвесь рост, як некалі ў хвіліны трыюмфу. Картэс нецярпліва паказвае яму, каб Мантэсума гаварыў.

І татлоані пачынае. Ён спрабуе пераканаць ацтэкаў, што супраціўленьне бессэнсоўнае. Ён заклікае іх скарыцца гісторыі і не ісьці на самагубства. Гішпанцы мацнейшыя — нават калі яны прайграюць сёньня, заўтра іх прыйдзе ў дзесяць разоў болей, яны пераб'юць усіх і зруйнуюць Вялікі Тэначтытлан.

Спачатку яго слухаюць уважліва і не перапыняюць. Але вось нехта са знатных ацтэкаў не вытрымлівае.

«Які зь цябе імпэратар! Ты баба, баязьлівец і садаміт! Ты здаўся ім, нават не пакаштаваўшы іхнай крыві!»

«Табе трэба прасьці, а не ваяваць! На кухню — мыць посуд! Ты сьпіш з гішпанцамі, як іх палюбоўніца! Пасьцілка Рудога! Адна на ўсіх!» — азываюцца ўсё новыя і новыя галасы. — «Мы ўжо маем новага татлоані! Ведай пра гэта!»

І ў Мантэсуму ляцяць камяні і стрэлы. Гішпанцы зноў змыкаюць вакол яго шчыты — але трохі запозна: некалькі камянёў трапляюць імпэратару ў галаву, бакі, грудзі, у нагу ўпіваецца страла. Мантэсуму адводзяць у бясьпечнае месца. Раны несур'ёзныя — і як жа зьдзіўленыя гішпанцы і тласкаланцы, калі неўзабаве ім абвяшчаюць, што Мантэсума памёр.

Ніхто ня верыць, што тлатоані загінуў ад рук паўстанцаў. Потым высьветліцца, што Мантэсума, пабачыўшы такую рэакцыю падданых, перастаў прымаць ежу і адмовіўся ад лячэньня — а на целе імпэратара, які стаў непатрэбны нікому, апрача, можа, сваіх змрочных багоў, знойдуць раны, зробленыя кінжалам. Празь некалькі дзён Картэс зь людзьмі вырвецца ўначы з гораду — а потым вернецца, прагнучы крыві — як і прадракаў тлатоані. І Тэначтытлан зьнікне зь зямной паверхні — нібыта яго ніколі не існавала.

# Прынцыпы Гаўрылы

***28 чэрвеня 1914 эрцгерцаг Фэрдынанд і яго жонка забітыя ў Сараеве***

Па начах яны зьбіраліся на сараеўскіх могілках: Даніла Іліч, Мішка Ёванавіч, Вэлька Чубрылавіч... Часта бывалі там Трыфка Грабеж, Гаўрыла Прынцып, Нядзелька Чабрынавіч, завітваў літаратар Уладзімір Гачынавіч. Сядзелі на магіле Богдана Жэраіча, таго самага, які ў 1910 страляў у аўстрыйскага губэрнатара Босьніі і прамазаў з трох мэтраў — затое пасьля гэтага не прамахнуўся, стрэліўшы ў сябе; гаварылі наўмысна грубымі, хрыпатымі галасамі, сьціскалі кулакі, уяўлялі, як праз ненавісныя мундзіры праступае цёмная варожая кроў. Пілі віно. Кашлялі. Месяц асьвятляў нездаровыя, бледныя твары. Слухалі, што напісаў Гачынавіч.

*«...Крв је потекла валовима, на његовим је уснама лутала велика реч: Српско ослобођење! Смртни грчеви ломе већ изваљено тело, он се напреже и подрхтава у басловеном болу и оставља последње лабудове речи: «Своју освету остављам српству!...»*



Гачынавіч вагаўся. Забойства як акт яго адначасна палохала і вабіла. Гаўрыла Прынцып глядзеў на яго з подзівам: як можна пісаць такое, узьнёслае, мужнае — і сумнявацца?..

Яны чакалі, калі надарыцца магчымасьць. І яна надарылася хутчэй, чым можна было сабе ўявіць.

28 чэрвеня 1914 году раніцай аўстрыйскі эрцгерцаг Франц Фэрдынанд з жонкай Сафіяй прыехалі ў Сараева зь візытам да генэрала Патыёрэка. На шасьці машынах шаноўнае панства нясьпешна пракацілася па сараеўскіх вуліцах. Перад гэтым Патыёрэк атрымаў ад шэфа сараеўскай паліцыі рапарт пра тое, што забясьпечыць ахову картэжу будзе праблематычна: у распараджэньні ягонай службы толькі 30-40 чалавек, а дарога досыць доўгая — «прашу выдзеліць у падмогу вайскоўцаў». Патыёрэк не надаў гэтаму ўвагі.

Першую машыну займалі бургамістар Сараева эфэндзі Фэхім Чурчыч і шэф паліцыі. Эрцгерцаг з жонкай і генэралам ехалі ў другім аўто. Неўзабаве яны прамінулі натоўп, у якім стаяў непрыкметны чалавек на імя Мэхмэдбашыч, адзін са змоўнікаў — але бомбу той ня кінуў: не пазнаў эрцгерцага. Потым картэж праяжджае міма Васы Чубрылавіча і Цвэткі Попавіча: і таксама ніхто зь іх не наважваецца на замах: першаму раптам робіцца шкада герцагіню, другому — сябе.

А вось бомба, кінутая праз нейкі час Нядзелькам Чабрынавічам, трапіла ва ўзнятую руку Франца Фэрдынанда, адскочыла, пераляцела цераз апушчаны ззаду складны дах і ўпала акурат за другой машынай — кіроўца наступнага аўтамабіля ўткнуўся ў стырно, забіты на месцы, былі параненыя паліцыянт і мінакі. Эрцгерцаг едзе ў ратушу, выступае там, удаючы, што ўсё ў парадку — ён спрабуе ўсьміхнуцца, калі яму кажуць, што трэба як мага хутчэй ехаць у рэзыдэнцыю, але Патыёрэк апярэджвае яго і накідваецца на палахліўцаў: «Па-вашаму, Сараева бітма набітае тэрарыстамі?» Машына з

эрцгерцагам едзе далей — але, насуперак пляну, не зьмяніўшы першапачатковага маршруту.

Толькі каля Лацінскага моста праз Міляцку кіроўцу камандуюць разьвярнуцца. На нейкі час машына спыняецца. Гаўрыла Прынцып, які ў нейкім здранцьвеньні сядзіць у вулічнай кавярні, раптам агаломшана заўважае, што на другім баку вуліцы стаіць аўтамабіль з Францам Фэрдынандам. Ён шпарка перасякае вуліцу, набліжаецца да машыны — ніхто не спрабуе яго затрымаць. Прынцып робіць два стрэлы з браўнінга: і першы накіраваны ў Патыёрэка. Куля, прызначаная генэралу, трапляе ў ніжнюю частку цела герцагіні, прабіўшы там усё, што можна — яшчэ ў машыне яна памрэ ад унутранага крывацячэньня. «*Sopherl, Sopherl, stirb nicht, bleib am Leben für unsere Kinder!*» — у роспачы крычыць эрцгерцаг. Тут жа гучыць другі стрэл: гэтая куля ўваходзіць у шыю Франца Фэрдынанда і прабівае яму трахею. Прынцып спрабуе атруціцца, застрэліцца, дабегчы да Міляцкі — усё марна: яго ловяць, зьбіваюць, ды так, што потым у турме яму ампутуюць руку.

Як непаўналетняму яму захаваюць жыцьцё — але ўжо праз чатыры гады сухотнік Прынцып, чалавек-нагода, «нягоднік, які цэліў у сэрца Эўропы», а забіў ні ў чым не вінаватую кабету і прыхільніка славянскай аўтаноміі, памрэ за кратамі. Але гэта потым. А пакуль што, 28 чэрвеня 1914, у венскім Пратэры грае музыка: ну, «забілі ж Фэрдынада нашага» — падумаеш, гора якое. Не вайну ж пачынаць праз такі кур’ёз.

## З мэтаю ачышчэньня

*29 чэрвеня 1940 23000 жыхароў Заходняй Беларусі былі дэпартаваныя ў Сібір*

«Дзед, а што ты рабіў у тым Казахстане?»

Маўчыць.

«Казахі — яны якія?»

Ён кажа, што казахаў амаль ня бачыў. Але бачыў яўрэяў. Шмат. Цэлыя сем'і, зь якімі можна было паразумецца па-польску. Уражаны ўнук лезе ў сеціва — разьбірацца. Дзеду было тады восем гадоў — дзе тут усё ўпомніш.

...Нямецкі пісьменьнік і крытык Марсэль Райх-Раніцкі, паводле ягонага прызнаньня — «напалову немец, напалову паляк і на ўсе сто адсоткаў яўрэй», прыгадвае ў сваёй знакамітай кнізе «Маё жыцьцё» польскіх уцекачоў, якія ўвосень 1939 імкнуліся трапіць у Савецкі Саюз, ратуючыся ад вернай сьмерці. Чуткі пра тое, як абыходзяцца зь яўрэямі немцы, дайшлі да іх задоўга да пачатку вайны — і цяпер яўрэі ўсяляк імкнуліся апынуцца на савецкім баку, хаця ніякага сантымэнту да Саветаў ня мелі. Камусьці ўдалося, камусьці не — Райх-Раніцкі застаўся ў Польшчы і цудам ацалеў пад акупацыяй, але вось што цікава: наколькі па-іншаму склалася б ягонае жыцьцё, калі б у тыя дні ён усё ж трапіў у БССР. Наколькі іншы быў бы досьвед, наколькі іншыя былі б кнігі, мова, погляд — аднак нешта ўсё ж паўтарылася б... Абавязкова паўтарылася.



29 чэрвеня 1940 году ў БССР адбылася масавая дэпартацыя спэцперасяленцаў-уцекачоў з акупаванай немцамі Польшчы. Дваццаць тры тысячы чалавек, пераважна — яўрэі, былі мусова вывезеныя ў аддаленыя раёны імпэрыі. Гэта чымсьці нагадвала зьдзяйсьненьне колішняга праекту Гітлера пра высяленьне эўрапейскіх яўрэяў на Мадагаскар, у часы, калі фюрэр яшчэ не прыдумаў лягчэйшага спосабу ўвасобіць свае мары. Людзей, якія, дарма што ўцекачы, лічыліся небясьпечнымі для савецкага ладу, запіхвалі ў цягнікі, выкідвалі ў голым полі, прымушалі самім будаваць сабе жытло або сялілі ў непрыстасаваных для жыцьця будынках, выракалі на непасільную працу, з асалодай адрываючы іх ад іхнай «Эўрооопы» — «штоб жызьнь малінай не казалась», любілі паўтараць тыя, хто ладзіў гэтыя барбарскія перасяленьні. Уцякач ва ўсе часы быў бясправўны, як жывёла — і СССР зусім не зьбіраўся адмаўляцца ад гэтай слаўнай традыцыі.

Савецкі чалавек ставіўся да тых яўрэяў па-рознаму. Расейская паэтка Ахматава ўспамінае, як з пачаткам вайны нехта ўжо з савецкіх эвакуантаў шаптаў, палахліва азіраючыся: «А я б тых яўрэяў усіх Гітлеру пааддаваў бы, хай бы ён іх усіх у зямлю закапаў жыўцом, мо і супакоіўся б...» Іншыя маўкліва пагаджаліся; былі і тыя, хто дапамагаў уцекачам незалежна ад нацыянальнасьці. Але факт: краіна рабочых і сялян, якая так голасна і гістэрычна супрацьпастаўляла сябе нацысцкай сыстэме, пасьпяхова спаборнічала з апошняй у бесчалавечнасьці.

Сярод дэпартаваных тымі чэрвеньскімі днямі былі і беларусы, каля 1700 чалавек — але для заходніх беларусаў і палякаў у Саветаў існавалі свае пляны. Той 1940 год наогул стаўся

для Беларусі годам дэпартацый. У лютым былі выселеныя з Заходняй Беларусі ў Сібір і Казахстан так званыя «асаднікі», у красавіку надышла чарга «адміністратыўна высланых»: родных і сваякоў рэпрэсаваных польскіх афіцэраў, паліцыянтаў, жандараў, памешчыкаў, дзяржаўных службоўцаў, у чэрвені — уцекачоў... Праз год з заходніх раёнаў Беларусі былі выселеныя 200 000 чалавек. БССР пазбаўлялі ад непажаданага сацыяльнага элемэнту. Усё гэта называлася «ачышчэньнем» — знаёмы злавесны тэрмін. Каля 25 тысяч высланых былі беларусы паводле нацыянальнасьці, згодна з дакладам Бэрыі Сталіну: 27 з паловай тысяч — хаця разабрацца, хто там беларус, а хто паляк, не лягчэй, чым разьвязаць гэтае пытаньне цяпер. Цяпер, калі сьведкі амаль усе памерлі, а пра тыя дэпартацыі памятаюць хіба гісторыкі. Свайго музэю генацыду ў Беларусі няма, дый ніколі ня будзе — вялікія айчынныя ня церпяць канкурэнтаў, дый тэма ўжо даўно неактуальная. А мусіў бы існаваць — хаця б як філіял музэю Беларускай чыгункі, той самай, па якой дзясяткі тысяч ехалі некалі на Ўсход, у невядомасьць, асуджаныя на сьмерць — праходзіць свой страшны тэст на жывучасьць.

# Горад без мэтранома

***30 чэрвеня 1984 адкрылася першая лінія Менскага мэтро***

У 1972 годзе ў Менску нарадзіўся мільённы жыхар, а на МТЗ быў выпушчаны мільённы трактар. Трактар, вядома, рэч значна карысьнейшая і прыгажэйшая за чалавека, прынамсі, у сучаснай мадыфікацыі апошняга... Але часам у гэтым завочным двубоі магчымыя свае неспадзяванкі. Падзея на менскім трактарным не прынесла нічога, апрача законнай гордасьці і заслужаных прэміяльных. А вось тое, што адбылося ў 1972 у менскай радзільні нумар шэсьць, мела сваім наступствам амаль неверагоднае: Менск як горад-мільёньнік пачаў прэтэндаваць на ўласны мэтрапалітэн.

У канцы сьнежня 1976 году ў Маскве далі дазвол на будаўніцтва, а ўжо 16 чэрвеня 1977 у раёне парку Чалюскінцаў была забітая першая свая. Першую лінію менскага мэтро плянавалі зрабіць за восем гадоў — але нягледзячы на тое, што горад адчайна супраціўляўся ўсімі сваімі сутарэньнямі, нябачнымі рэчкамі і культурнымі слаямі, справа ішла досыць гладка: Менск атрымаў падземку на год раней. І вось 26 чэрвеня 1984 пакатацца на «мятро» пад зямлю першымі, як водзіцца, спусьціліся інфэрнальныя ўладары БССР. Хто там кіраваў у той час сіламі пекла? Мікалай Мікітавіч Сьлюнькоў? Ды Іван Яўцеевіч Палякоў? Ды яшчэ, мусіць, паўсотні кіраўнікоў меншага калібру — і кожны, як стрэлка компаса на магнітны полюс, чуйна азіраецца на ўсход. Аднак заданьне выкананае на выдатна. Кампанія трапіла ў царства Аіда на плошчы Перамогі і праехала па ўсіх васьмі станцыях. Падземны Менск стомлена назіраў за ўзбуджанымі чалавечымі тварамі — як замучаны ўколамі паддосьледны асілак. «Ты цяпер ня проста горад...» Менск быў прынесены ў ахвяру мэтро — у яго сьцякла ўся памяць.



Празь некалькі дзён, 30 чэрвеня ўсё стала на свае месцы — уладары вярнуліся ў свае чорныя волгі, а падземку адчынілі для паспалітага люду. Наверсе адразу зрабілася вальней — да пары; да пары вольна было і ўнізе... Цяпер менскае мэтро ў гадзіны пік ёсьць оргіяй цела і духу, звальным грахом пасажырапатоку, і ў ім сваю прыналежнасьць да чалавечага роду адчуваеш так востра-пякуча, як, мусіць, нідзе больш — нават на пляжы і ў лазьні. Я ня памятаю дакладна, калі ўпершыню праехаўся на мэтро — але засталіся два яркія ўспаміны: на ім каталіся, як на атракцыёне, тудэма-сюдэма і назад, і так раз за разам, гадзіну ці нават дзьве. А яшчэ гэтыя нейкія яркія, навюткія медзякі, па пяць капеек, ці што: іх чамусьці запомнілі і далоні, і вочы.

З будаўніцтвам мэтро кожны горад пачынае жыць у двух вымярэньнях — і тое, падземнае, робіць яго жыхароў няўлоўнымі ценямі, якія рухаюцца так павольна, як могуць дазволіць сабе толькі тыя, хто нырнуў у вечнасьць. Мэтро зрабілася патрэбай: патрэбай пакінуць сваю прызначаную для верхняга сьвету абалонку, скінуць скуру, зрабіцца земнаводным. А яшчэ мэтро ёсьць патрэбаю ў нары — або ў мэтамарфозе. Кожны раз, спускаючыся на нейкую з падземных станцый, жыхар гораду нібы на нейкі час памірае — каб уваскрэснуць на іншай лініі, каб выйсьці там, дзе «Няма ўваходу». Жэтон, які падае ў рот тэрміналу — нашая плата Харону. Кожны раз, калі едзеш у мэтро, не пакідае адчуваньне ўласнага раздваеньня — нібы там, наверсе, застаўся твой двайнік, які цяпер брыдзе, бяжыць, крочыць, рухаецца, едзе — у таксі, маршрутцы, концы, катафалку аўтобуса, у тралейбуснай гойданцы, у трамвайным трымценьні.

Стоячы з табой на плятформе канцавой станцыі, пад небам у зорках, Miensk in the sky with diamonds, у чаканьні апошняга цягніка — люблю гэты горад.

# Шпіён з Утопіі

*1 ліпеня 1535 пачаўся суд над Томасам Морам*

Бывае, што прысуд кажа пра тых, хто яго вынес, больш, чым пра самога абвінавачанага. Пачытаеш такое — і праўда міжволі затужыш-замаркоцішся па нейкай ідэальнай дзяржаве:

*«...Вярнуць яго ў Таўэр, адтуль цягнуць па зямлі праз усё лёнданскае Сіці ў Тайбэрн, там павесіць яго так, каб ён замучыўся да паўсьмерці, зьняць зь пятлі, пакуль ён яшчэ не памёр, адрэзаць полавыя органы, успароць жывот, вырваць і спаліць вантробы. Затым чвартаваць яго і прыбіць па адной чвэрці цела над чатырма брамамі Сіці, а галаву выставіць на лёнданскім мосьце».*

Някепскі тэкст, варты пяра дэ Сада і Ўэльбэка ды кінакамэры Пазаліні ў прыдачу, а почыркам падобны да нерэалізаваных фантазіяў Андрэя Чыкаціла. Такі слаўны канец, згодна з пастановай суду, чакаў Томаса Мора, аўтара знакамітай «Утопіі». А пачалося ўсё 1 ліпеня 1535 году ў Судзе каралеўскай лавы ў Вэстмінстэры, дзе мысьляру і будучаму сьвятому, які наважыўся пярэчыць каралю і якога кінулі за гэта ў турму, зачыталі нарэшце, у чым яго абвінавачваюць.

«Кароль і яго спадчыньнікі і наступнікі — адзіныя на зямлі вярхоўныя прадстаўнікі царквы, а адмаўленьне гэтага або любога іншага каралеўскага тытулу ёсьць дзяржаўнай здрадай», — нагадваў абвінаваўчы акт. Вось жа, ці памятае



шаноўны сэр Томас Мор, як 7 траўня 1535 году, калі ў яго пыталіся, ці прызнае ён гэтую простую і неаспрэчную ісьціну, ён у адказ «зламысна і злачынна» маўчаў? Больш за тое: ці не забыўся глыбокапаважаны містэр Мор, як ужо праз пяць дзён, 12 траўня, ён выказаўся ў тым духу, што, маўляў, дасі на гэткае простае пытаньне адзін адказ — пагубіш душу, дасі іншы — пагубіш цела. І гэта яшчэ ня ўсё: ці ня вылецела зь дзіравай галавы абвінавачанага Мора, як разам зь біскупам Фішэрам яны не адзін раз паўтаралі, нібы тыя папугаі, што парлямэнцкі акт аб вяршэнстве караля як галавы царквы падобны да двусечнага мяча. Гэта ж трэба так пра манарха і ангельскую дэмакратыю! І апошняе: хіба абвінавачаны Мор запамятаваў, як у пазьнейшай размове з сэрам Рычам ён зноў вёрз лухту наконт таго, што Ягоная Вялікасьць ня можа быць галавой ангельскай царквы? То бок згаданы Мор яшчэ і надзвычай упарты ў сваёй ерасі і, па ўсім відаць, перавыхаваньню не падлягае. Таму — цягнуць, павесіць, успароць, адрэзаць, чвартаваць, можа хоць так нешта дойдзе ў хворую пісьменьніцкую галаву.

«Утопія» — вар'яцкая кніга, якая дагэтуль «у топах»; і сапраўды: яна «настолькі ж карысная, наколькі забаўная», і горад можна пабудаваць, і парк культуры і адпачынку, і канцлягер. У ідэальнай дзяржаве Мора, гэтым Саюзе Савецкіх Утапічных Рэспублік, атэістаў гоняць прэч, існаваць без рабоў ня могуць, «усё вакол калгаснае, усё вакол маё», а караля — караля ніхто не адмяняе. Кароль і праўда патрэбны: хаця б для таго, каб некаторыя тэксты заставаліся проста тэкстамі. На досьвітку 6 ліпеня 1535 году ў камэру дзяржаўнага здрайцы ўваходзіць яго сябра Поп, які паведамляе, што Мора ня будуць рэзаць на кавалачкі, перадумалі: Яго Вялікасьць загадалі замяніць усю гэтую судовую паэзію на празаічнае адсячэньне галавы, што і адбудзецца сёньня а 9 раніцы. «Я дзякую Яго Вялікасьці за іхную міласьць і дабрыню», — спакойна адказвае Мор. Утопія блізка — сто тысяч чалавек, і ўсе пагалоўна ў белых штанах.

# Котка ў пустой кватэры

*2 ліпеня 1923 нарадзілася Віслава Шымборска*

Яна піша так, быццам гэта простая справа, на якую здольнае нават дзіця — складаць вершы... Так казалі пра яе крытыкі. А ў дзяцей кепскіх вершаў не бывае. Што ні вазьмі ў Віславы Шымборскай — паўсюль словы зь ня самага тоўстага слоўніка, сьветлая глыбіня і нейкая падазроная чытэльнасьць: ну ня можа быць, каб паэзія другой паловы дваццатага стагодзьдзя так давалася ў рукі, а ня ў знакі, і настолькі не тлуміла, а наадварот, праясьняла галаву. Шымборска не размаўляе з інтэлектуаламі: нават знаходзячыся сярод іх, у іхных цёмных пакоях, яна гаворыць да ўсіх нас — ахвяраў усеагульнай пісьменнасьці.

2 ліпеня 1923 году ў Бніне пад Познаньню яна прыйшла ў гэты сьвет. Сьвет, дзе...

*«Не ведаю як дзе,*
*але тут, на Зямлі, багата ўсяго.*
*Тут вырабляюць крэслы і смутак,*
*нажнічкі, скрыпкі, пяшчоту, транзыстары,*
*плаціны, кубачкі, жарты...»*

Калі чытаеш яе па-беларуску — так і чуеш нейкія перагукі з Максімам Танкам, у ягоных найлепшых вершах. Нарачанская такая празрыстасьць і менская любоў да рэчаў. Хаця, як і Танк, сваю даніну канфармізму яна аддала — хіба што значна меншую. Цяжка ўявіць сабе, каб кніжка Танка не прайшла цэнзуру (як гэта адбылося зь першым зборнікам Шымборскай), цяжка ўявіць сабе гэтую паэтку ў крэсьле літаратурнага і ня толькі літаратурнага функцыянэра, якім быў па сумяшчальніцтве Танк — але свае вершы пра Сталіна і Леніна яна напісала. Хай сабе і ня шмат і ня столькі пра самі боствы правадыроў, колькі пра іх адлюстраваньні — ды ня так прымітыўна. «Наш галоўны трафэй — мірнае спазнаньне сьвету»... Ад помніка вызваліцеля Польшчы Сталіна да жывога Еці зь яе першай Сапраўднай Кніжкі мінула некалькі гадоў, і гэта быў шлях толькі ўгару і па гарах, гарах новага сэнсу, па самых яго вяршалінах. І калі яна адчула, што загаварыла нарэшце сваім голасам — то кінулася ратаваць рэчы, якія засталіся ў спадчыну: ад мёртвасьці і зношанасьці. Ад таго, што дасьледчыца яе творчасьці Клэр Каванах назаве «таталітарызмам погляду». І нават маленькае «дзіця Гітлер» зь яе знакамітага верша магло б не існаваць, бо заўжды прасьцей мець справу з ужо сказаным і ўпакаваным, асабліва — са злом. Яна пранікла ў самы пачатак зла — ня маючы пад рукой ні аналізу, ні анальгіну, толькі простыя словы.



Яна і пісала так мала і рэдка, як можа толькі дзіця. Была коткай, якая гуляе сама па сабе. І калі ўжо вядзецца пра сямейства кашэчых, дык герой яе найлепшага верша пра чалавека — звычайны хатні кот.

*«Umrzeć — tego się nie robi kotu.*
*Bo co ma począć kot*
*w pustym mieszkaniu.*
*Wdrapywać się na ściany.*
*Ocierać między meblami.*
*Nic niby tu nie zmienione,*
*a jednak pozamieniane.*
*Niby nie przesunięte,*
*a jednak porozsuwane.*
*I wieczorami lampa już nie świeci.*

*Słychać kroki na schodach,*
*ale to nie te.*
*Ręka, co kładzie rybę na talerzyk,*
*także nie ta, co kładła...»*

# Небясьпечная прафэсія

***3 ліпеня 1991 адбыўся замах на італійскага перакладчыка «Д'ябальскіх вершаў»***

Якая прафэсія ў сьвеце самая небясьпечная — ніхто дакладна ня скажа.

У лаўцоў блакітнага тунца верагоднасьць дажыць да пэнсіі такая нізкая, што прачытаеш — і тунец у рот ня лезе; для шахцёраў кожны дзень можа зрабіцца апошнім, нават калі гэта Дзень работніка горназдабываючай прамысловасьці.

Толькі аднойчы ў сваёй біяграфіі памыляюцца сапёры, а мыйнікаў вокнаў у хмарачосах па сваёй адвазе можна, папярэдне прывязаўшы, паставіць побач толькі з пажарнымі — хай сабе працаваць ім даводзіцца з зусім рознымі стыхіямі.

Электрамантажнікі-высотнікі ня толькі шлюць прыветы з вышыні — яны зь яе яшчэ і падаюць, забітыя пераменным і пастаянным токам. Кожная бярозка можа пахаваць пад сабой дрывасека.

Вядома, ва ўсіх гэтых сьмельчакоў і рызыкантаў таксама здараюцца сумневы: часам і лаўцу тунца прыйдзе думка, што, можа, ну яго, блакітнага — вось пераключыцца б на якога-небудзь зялёнага і зажыць нарэшце спакойна; часам і мыйнік вокнаў на сто дваццатым паверсе паглядзіць выпадкова ўніз і падумае: мама. Але небясьпека вабіць. Паліцэйскія, футбольныя трэнэры, каскадзёры, кіроўцы маршрутак... Варыянтаў, як памерці безыменным героем, у чалавека заўжды хапала. Але вось каго-каго, а перакладчыкаў мастацкай літаратуры ў такія сьпісы звычайна не ўключаюць — і дарэмна, бо небясьпекі насамрэч хапае і тут.



3 ліпеня 1991 году ў доме італійскага перакладчыка Эторэ Капрыёла на Вія Куртатонэ ў Міляне пачуўся званок у дзьверы. Гаспадар не сьпяшаючыся падняўся зь месца — шэсьцьдзесят пяць гадоў усё-ткі — і пайшоў адчыняць. Ён чакаў гэтага візыту: некалькі дзён таму яму патэлефанавалі, чалавек, які званіў, сказаў, што ён з іранскай амбасады, і папрасіў пра сустрэчу — вялося пра пераклад нейкай кнігі. Ідучы да дзьвярэй, Эторэ Капрыёла міжволі яшчэ раз кінуў позірк на свае кніжныя паліцы: там, у маляўнічым бязладзьдзі, ляжалі кнігі, пераствораныя ім па-італійску, тоўстыя, прыгожыя, добрыя і так сабе — але добрых больш, інакш які сэнс... Камю, Арагон, Брэтон, Фаўлз, Гэмінгўэй, Апдайк, Доктараў, Мэйлер, Бэлаў, Набокаў... І, на відным месцы, гэты індыец Рушдзі, скандальны раман якога «Шайтанскія аяты» выйшаў пад назваю «I versi satanici» у перакладзе Капрыёлы пару гадоў таму... Капрыёла адчыніў дзьверы і ўпусьціў госьця, жэстам запрасіўшы яго прайсьці ў гасьцёўню.

Госьць прыкметна нэрваваўся. Ён кепска гаварыў па-ангельску, яшчэ горш па-італійску, і таму толькі празь некалькі хвілін Капрыёла са зьдзіўленьнем дапяў, што незнаёмец з амбасады патрабуе ў яго адрэсу Салмана Рушдзі. «Я вам не даведачнае бюро, шаноўны», — горда прамовіў перакладчык, паказваючы на свае стэлажы. — «Я перакладаю кнігі, вось, зірніце: Гэмінгўэй, Фаўлз, Набокаў... Я будую масты...»

Дагаварыць ён не пасьпеў. Госьць пабачыў на паліцы раман Рушдзі, маланкава надзеў пальчатку, гідліва скінуў на падлогу цэлы стос кніг і пачаў іх таптаць. Капрыёла пацягнуўся да тэлефона.

«Масты?» — разьюшана крыкнуў госьць. — «Must die!»

У руках ягоных зьявіўся доўгі нож — і ён з асалодай некалькі разоў усадзіў яго ў захінутыя халатам грудзі перакладчыка.

Эторэ Капрыёла ацалеў, некалькі месяцаў праляжаўшы ў шпіталі. Яму пашанцавала болей, чым японскаму перакладчыку Рушдзі Хітосі Ігарасі, прафэсійнаму арабісту, мусульманіну і пэрсафілу, якога знайшлі забітым у ліфце. Выйшаўшы з больніцы, Эторэ Капрыёла назаўжды разьлюбіў творчасьць Рушдзі. І, даючы інтэрвію, адгукаўся пра індыйска-брытанскага празаіка з кепска прыхаванай непрыязнасьцю.

# Калода картаў

*4 ліпеня 1862 Чарльз Доджсан упершыню распавядае гісторыю пра Алісу*

Літаратура — гэта яшчэ і каляндар: летазьлічэньне ў тэкстах, ад нараджэньня першай літары да апошняй кропкі, якую ня ўбачыш за сонечным сёньня. Ці, можа, дакладней — гэта календары, цэлы стос календароў, дзе ўжо не разьбярэш, які зь іх наш, а які — іхны, таму бяры любы, ніхто не пакрыўдзіцца. У іх ёсьць Блумсдэй — а ў нас... Ну, напрыклад, 10 лютага 1960 закаханы ў Ніну Молеву Караткевіч сеў і напісаў свой верш «Сьнягір». Кажуць, Ніна Молева беларушчынай не пераймалася — зусім як Нора Джойс творчасьцю мужа. Але ёсьць у іх і яшчэ адзін вялікі дзень, амаль што роўны паводле сваёй значнасьці Блумсдэю — і які з поўным правам мог бы лічыцца нашым. Хаця б таму, што «Краіна цудаў» — гэта пра нас: цяжка знайсьці больш беларускую кнігу сярод замежных.

*«Пагодны ранкам залатым*
*Плывём мы на чаўне.*
*Дзяўчатак тройца спакваля*
*Вяслуе ля мяне...*
*...Няўмольныя! У гэткі час,*
*У млосную сьпякоту*
*Давай ім казку выдумляй —*
*Прыдумалі работу...»*



Прыкладна так яно і было — як у гэтым перакладзе Макса Шчура. 4 ліпеня 1862 году Чарлз Доджсан са сваім прыяцелем Робінсанам Дакўортам каталіся ў лодцы па Тэмзе — а дакладней, каталі трох дачок віцэ-канцлера ўнівэрсытэту Оксфарду: трынаццацігадовую Ларыну Лідэл, васьмігадовую Эмі Лідэл і — яе, дзесяцігадовую Эліс Лідэл, тую самую дзяўчынку, якая, як у казцы,ператварылася ў сусьветна вядомую Алісу, што ў перакладзе зрабілася Алесяй, і з таго дня пачала жыць нібыта ў двух вымярэньнях.

Больш Эліс Лідэл, уласна кажучы, не зрабіла нічога, каб увайсьці ў гісторыю — ні Брытаніі, ні літаратуры; яна проста папрасіла Чарлза Доджсана: раскажы нам гісторыю! А літаратуры, па вялікім рахунку, больш нічога і ня трэба. Раскажы — і ён пачаў расказваць. Спачатку павольна, падбіраючы словы, а потым, нібы ўваходзячы ў нейкі транс, ня здольны спыніцца, часам назіраючы за сабой нібыта аднекуль збоку — і ў пэўныя моманты з заміраньнем сэрца жахаючыся, што ж ён такое вярзе. Але тое, што вёрз Доджсан, дзяўчаткам падабалася. І толькі Робін Дакўорт раз-пораз паглядаў на сябра зь неўразуменьнем: ці не перагінае ён палку-вясло ў сваім няўрымсьлівым трызьненьні? Урэшце гэта ж усяго толькі дзеці!

Так зьявілася на сьвет гэтая Кніга непаслухмяных сьцежак. Борхес для дзяцей. Дзе ўсё ўмоўна — нават зло. Першы ўрок тэорыі імавернасьці — і неверагоднасьці. Ці не падкажаце вы, кудою адсюль ісьці?

*«Гэта залежыць ад таго, куды ты хочаш патрапіць, — сказаў Кот.*

*Ды мне, бадай што, бяз розьніцы, — разважыла Алеся.*

*Тады ўсё роўна, кудою, — сказаў Кот.*

*...калі я толькі куды патраплю, — патлумачыла Алеся.*

*Куды-небудзь пэўне патрапіш, — запэўніў яе Кот. — Толькі калі будзеш ісьці досыць доўга».*

І мы ідзем. Праступем наперад. Праспэкты, парады, празьнікі. Пераможцы. Прамовы. Адпрасаваныя працоўныя. Тут, у гэтай краіне цудаў, таксама часам дастаткова прамовіць:

*«Ды каму вы патрэбныя? Вы ж усяго толькі калода картаў!»*

і сон скончыцца.

# Зеленаскурая пашпарціна

*5 ліпеня 1922 падпісанае пагадненьне пра «нансэнаўскі» пашпарт*

Зь ім нават самы сумленны чалавек пачуваўся ўмоўна вызваленым злачынцам — або дзіцём, народжаным па-за шлюбам.

Так пісаў пра гэты зьненавіджаны дакумэнт, так званы «нансэнаўскі» пашпарт, Уладзімер Набокаў, які сам быў ягоным уладальнікам ажно да таго моманту, як атрымаў амэрыканскае грамадзянства. Але і зрабіўшыся паўнавартасным амэрыканцам, пісьменьнік не перастаў згадваць сваё колішняе жыцьцё з праклятай паперкай — столькі пакутаў яна прынесла яму і іншым эмігрантам. «У 1938 годзе французскі консул груба адмовіўся праштампаваць мой пажоўклы, колеру марской зелені нансэнаўскі пашпарт...» — з горыччу прыгадвае герой набокаўскага апавяданьня «Узор размовы». Нансэнаўскі пашпарт — такі самы сталы адмоўны пэрсанаж у набокаўскай творчасьці, як Зыгмунд Фройд або расейскі пашляк. Гэта ж трэба так дапячы пісьменьніку...



Што ні кажы, а чалавеку, імем якой назвалі злавесны аўсвайс, было б дужа крыўдна пачуць такое — бо мэты ў яго былі высакародней няма куды. Знакаміты на ўвесь сьвет палярны дасьледчык Фрыт'ёф Нансэн, у 1922 годзе — камісар Лігі нацый у справах уцекачоў, шчыра верыў у тое, што распрацаваны ім дакумэнт дапаможа мільёнам ахвяраў першай сусьветнай вайны і бальшавіцкай рэвалюцыі неяк уладкавацца на чужыне. 5 ліпеня 1922 году канфэрэнцыя Лігі нацый зацьвердзіла пашпарт Нансэна. Маючы яго, уцекачы маглі вольна перамяшчацца па краінах, што падпісалі адпаведную канвэнцыю, і жыць там, не баючыся ў любы момант быць высланымі на радзіму. Яны ўжо не былі асобамі без грамадзянства — якаяніякая, а абарона. Нансэнаўскі пашпарт прызнавалі больш за паўсотні краін, яго мелі такія знакамітасьці, як Ігар Стравінскі, Арыстотэль Анасіс і Марк Шагал... Некаторыя з эмігрантаў дажылі зь ім да канца дваццатага стагодзьдзя, а Міжнародны Офіс Нансэна ўжо пасьля сьмерці нарвэжца атрымаў Нобэля за заслугі ў распаўсюдзе ратавальнага дакумэнта.

І ўсё ж, і ўсё ж... Гісторыя нансэнаўскага пашпарту — пацьверджаньне адной вельмі невясёлай ісьціны. Нават самая дэмакратычная дзяржава ў асобе сваіх законапаслухмяных і непадкупных чыноўнікаў заўжды будзе ставіцца з паталягічным падазрэньнем да чалавека, які пакінуў радзіму і не «прыпісаны» хаця б да нейкага, хай сабе паскудненькага, хай нават ушчэнт таталітарненькага, хай нават самага пагарджанага у сьвеце гаспадарства. Бо ва ўсім мусіць быць парадак — а ўцекачу веры няма: так было, так ёсьць і будзе, таму даставай з шырокіх штанін і не адводзь вачэй, умоўна ты ўсё ж вольны.

# Паміж космасам і Віцебскам

*6 ліпеня 1887 нарадзіўся Марк Шагал*

За мяжой той просты факт, што Марк Шагал нарадзіўся ў Беларусі, чамусьці прызнаюць досыць неахвотна... Ідучы на выставу Шагалавых малюнкаў, можна быць пэўным, што слова «Беларусь» не прагучыць ані разу, яго не пабачыш і на тых папяровых пратэзах, якія так шчодра разьвешаныя на сьценах у дапамогу выпадковаму інтэрпрэтатару, ня будзе яго і ў кароткай біяграфіі. Яны Там таксама лічаць, што Мы Тут пачаліся пазьней — прынамсі, значна пазьней за Шагала. Geboren in Russland — і ніякіх табе дужачак, у якіх зьмясьцілася б неабавязковая, але здольная пацешыць нацыянальнае самалюбства праўда.

Хаця, здаецца, усё відавочна і неаспрэчна: 6 ліпеня 1887 году, Віцебск. Места, дзе палова насельніцтва былі яўрэі. З аднаго боку, сапраўды — якая розьніца, дзе ён нарадзіўся, галоўнае, што мастак харошы, а з другога — ці зрабіўся б Шагал Шагалам, калі б ня гэтыя правінцыя, правінцыйнасьць і правіна, уяўная, недарэчная, але зь якой трэба было жыць, калі б ня гэтая іншасьць, яўрэйская, даўно страчаная Беларусь, казку пра якую Шагал распавёў усяму сьвету, ня надта пераймаючыся назвамі, топасам, нацыямі — як і належыць сапраўднаму казачніку.

Як мастак Шагал пачаў з таго, што выключыў гравітацыю — высьветлілася, што яна сапраўды замінала бачыць галоўнае, і ня толькі яму. Лунаць над горадам у эпоху першых рэдкіх аэрапланаў — зусім ня тое, што выправіць сваіх герояў угару цяпер: у наш час гэта заўжды азначае падарожжа, у часы маладога Шагала гэта быў сон. Сон хлопчыка, які расьце. Горад у Шагала заўжды меншы за чалавека — зьяўляецца адчуваньне, што ён зьнікае, гэты задушаны сумётамі і ачмураны акацыяй горад, і зараз выплыве за межы рамы. Аўтару патрэбны толькі яго абрыс, толькі разьвітаньне. Затое людзі займаюць асноўную частку прасторы — і пустаты не застаецца, толькі свабода. Насычаная каханьнем, як паветра кіслародам.



Прыйсьці да Шагала, успрыняць, прачытаць яго — падобна да прачынаньня на досьвітку: колеры, гукі, цені, твары, неба ўжо сьвятлее і ўсё гэта неўзабаве скончыцца. І вось тут, у гэтае ціхае імгненьне, у месцы паміж космасам і Віцебскам, можна пабачыць нешта, што бачаць Іншыя.

# Няма праблемы

*7 ліпеня 2000 зьнік Дзьмітры Завадзкі*

Страх адымае памяць. Нешта падказвае, што прадстаўнікі самай мірнай і запатрабаванай у сьвеце прафэсіі — зьнішчаць журналістаў, «зашчышчаючы родзіну» — наўрад ці ведаюць гэты афарызм, які прыпісваюць Фукідыду. І тым ня менш менавіта на гэта яны і разьлічвалі, забойцы і тыя, хто аддаваў ім загады — на тое, што страх прымусіць нас усё забыць. Міне год-два, ну добра, тры — і ніхто ня ўспомніць, бо ўспамінаць пра такое стра-а-ашна... Раптам і цябе?.. Зашчыцят?... Дый што, у беларусаў іншых клопатаў няма? Прыкладна так, напэўна, яны і разважалі, робячы непазьбежную памылку ўсіх бяздарнасьцяў (а забойца і выкрадальнік заўжды бяздарны): мераючы ўсё сваім уласным страхам.

Гэтую гісторыю ведае і памятае кожны — кожны з тых, хто не баіцца ведаць і памятаць. 7 ліпеня 2000 году беларускі журналіст і тэлеапэратар Дзьмітры Завадзкі паехаў на машыне ў менскі аэрапорт сустракаць Паўла Шарамета. Машыну Дзьмітрыя пазьней знайшлі ў аэрапорце, а яго самога больш ніхто і нідзе ня бачыў. Як і Віктара Ганчара і Юрыя Захаранку, зьніклых за год да таго.



«Гісторыя, якая магла б адбыцца дзе заўгодна, але толькі ня ў нас» — скажа той, хто верыць у страх як аснову парадку. А іншыя нічога ня скажуць, усьміхнуцца ў камэру: пэўне, калі правесьці цяпер на вуліцы апытаньне, ці ведаюць мінакі, хто такі Дзьмітры Завадзкі, большасьць абыякава сьцепане плячыма. Ня ведаем. Не. А што? Дзецям такое ня кажуць і ў школе не праходзяць. Новае пакаленьне жыве так, нібы 2000 году наогул не існавала ў прыродзе. Што ўжо казаць пра дзевяностыя.

Так да галоўных беларускіх пытаньняў — «за што»? «калі ўжо»? і «хто мы»? — дадалося яшчэ адно, ня менш вызначальнае: «дзе?»

Любая прытомная ўлада, якая дапусьціла выкраданьне грамадзяніна, мусіла б ужо праз месяц карміць скунсаў на далёкай плянэце зь нехарошай назвай — або вошай на нарах. Нават калі б яна абсалютна не была датычная да злачынства. Там, дзе страху няма — там і памяць так проста не аднімеш, і адказнасьць працуе. Зрэшты, дурняў, якія вераць уладзе, у Беларусі трэба яшчэ пашукаць. Хаця знайсьці іх і значна лягчэй, чым цела выкрадзенага і хутчэй за ўсё забітага журналіста.

Дзяржаве, ясная справа, ня верыцца, а неяк верыцца ў тое, што замяшаныя ў гэтую справу дагэтуль спакойна жывуць сярод нас. Дзяцей гадуюць, жаруць, п'юць, музыку слухаюць. Лаюцца і ходзяць у адпачынкі. Яшчэ адзін афарызм, не фукідыдаўскі, ім дакладна знаёмы. Няма чалавека — няма праблемы. У прынцыпе, бываюць сытуацыі, калі ў ім знаходзіш нешта жудасна-рацыянальнае. Часам таксама вельмі хочацца, каб пэўных людзей не было ў прыродзе. Нейкія праблемы ў Беларусі непазьбежна б вырашыліся. Але спачатку хай будзе суд. Ня толькі за зьнікненьні, выкраданьні, катаваньні, прыніжэньні, але і за тое, што яны рабілі і робяць з нашай памяцьцю. Яна ў нас, хто б там чаго зь ёй ні рабіў, яшчэ жывая і крычыць — і ні даравацьб ні забываць нічога не зьбіраецца. Ня ўмее. Развучылі.

# Цёплае і мокрае

***8 ліпеня 1918 Гэмінгўэй паранены ў адным з баёў у Італіі***

Ад першай сусьветнай вайны ў прыгожым пісьменстве засталося столькі аскепкаў, што на стагодзьдзе хапіла, — усе ня выдастаць: не найлепшая літаратура, але самая пранізьлівая журналістыка. Літаратары ваявалі на кожным баку — і часам стралялі проста адзін у аднаго: хто ацалеў, той і напіша. Той і зробіцца ім — «страчаным пакаленьнем».

8 ліпеня 1918 году невядомыя аўстрыякі — дзякуючы Гарэцкаму яны заўжды будуць уяўляцца беларускаму чытачу сымпатычнымі ўкраінцамі, на якім бы фронце яны ні ваявалі — узялі і абстралялі зь мінамётаў і кулямётаў італійскія пазыцыі каля Фасальта-ды-П’явэ. Хто яго ведае, ці быў у той дзень сярод тых аўстрыякаў хаця б адзін пісьменьнік ці хаця б які заваляшчы драматург, а вось на італійскім...

У ліку параненых зь іхнага боку быў 19-гадовы амэрыканец Эрнэст Гэмінгўэй, які спрабаваў ўратаваць італійскага снайпэра. Пад аўстрыйскія кулі хлопец з Ілінойсу, карэспандэнт канзаскай газэты палез сам — у войска яго ня ўзялі праз слабы зрок, давялося запісвацца добраахвотнікам. Так Гэмінгўэй зрабіўся кіроўцам Чырвонага крыжа. Ён вельмі хацеў пабачыць вайну на ўласныя вочы і напісаць пра яе. Праўду.



Снайпэр загінуў.

*«...Я сеў, і ў гэты час нешта хіснулася ў мяне ў галаве, быццам гірка ад вачэй лялькі, і выцяла мяне знутры па вачах. Нагам зрабілася цёпла і мокра, і чаравікі зрабіліся цёплыя і мокрыя ўсярэдзіне. Я зразумеў, што паранены, нахіліўся і паклаў руку на калена. Калена не было. Мая рука сьлізнула далей, і калена было там, выкручанае набок. Я выцер руку аб кашулю, і аднекуль зноў пачало ліцца белае сьвятло, і я паглядзеў на сваю нагу, і мне зрабілася страшна. «Божа!» — сказаў я. — «Вызвалі мяне адсюль».*

У той дзень у Фасальта-ды-П’явэ ён паехаў, каб адвезьці на перадавую шакаляд і цыгарэты — у выніку 227 раненьняў у абедзьве нагі, дактары выцягнулі зь яго амаль трыццаць аскепкаў. Неўзабаве грудзі ўпрыгожыў мэдаль, атрыманы ад самога караля Італіі Віторыё Эмануэле II — высьветлілася, што Гэмінгўэй стаў першым амэрыканцам, параненым на Італійскім фронце. Мэдаль быў са срэбра, а пратэз у калене — з алюмінію... Потым быў мілянскі шпіталь, было каханьне — на здымку, зробленым у бальнічнай палаце, ён выглядае такім шчасьлівым, як толькі можа выглядаць чалавек, якому 19 і які ведае, чаго хоча.

# Насустрач зьезду

***9 ліпеня 1906 адбыўся нелегальны настаўніцкі зьезд у Мікалаеўшчыне, разагнаны паліцыяй***

Дзень быў сьпякотны. Шчэ ад раньня... Не, гэта крыху пра іншае. А тады абышліся без блінцоў: «У гутарках, у спрэчках прыйшлі на Прыстаньку... Усе сышліся на высокім і маляўнічым беразе Нёмана, дзе можна было прысесьці або проста пакачацца на зялёнай траўцы...»

Вось так 9 ліпеня 1906 году каля вёскі Мікалаеўшчына ва ўрочышчы Прыстанька пачаўся той самы знакаміты нелегальны настаўніцкі зьезд. Не Палац Культуры, вядома — затое ніхто не заснуў падчас паседжаньня. Ну, задрамаў хіба. На зялёнай траўцы качаліся ў той дзень сямнаццаць народных настаўнікаў: зь Меншчыны, Бабруйшчыны, з-пад Ігумену, Ашмяны, Барысава, і сярод іх — самы вядомы ў Беларусі пэдагог з крымінальным мінулым: ён, Якуб Колас.

Качаліся, адганялі камароў, гаварылі пра настаўніцкае бяспраўе, пра рэформы асьветы, пісалі пратакол і адозву. «Свабода, дэмакратыя, дэцэнтралізацыя, Усерасійскі настаўніцкі саюз» — паўтараючы, як мантру, гэтыя важкія словы, засядзеліся да ночы. Ніхто не заўважыў, як да паляны з шашы пад'ехаў уазік з выключанымі фарамі.

Расьпіваем? — бадзёра спытаўся паліцыянт з шашкаю на баку і спрытна злавіў паперку, якая ўжо ляцела ў вогнішча. — Эге, ды тут змова супраць цара і ацечаства... Выхухалеў, афармляй! Пэдагогі, вашу маць!

Судовая справа супраць Коласа цягнулася доўга — у сучаснай Беларусі так не цырымоняцца. Толькі 15 верасьня 1908 году выязная сэсія Віленскай судовай палаты, выканаўшы ўсе фармальнасьці, асудзіла настаўніка Канстанціна Міцкевіча да трох гадоў зьняволеньня ў астрозе. Па вялікім рахунку, Віленская судовая палата заслужыла помнік ад удзячных чытачоў беларускай літаратуры. Апынуўшыся ў астрозе, Канстанцін Міцкевіч дастаў чарніліцу, узяў пяро і вывеў уверсе:

«Мой родны кут!...»

А мог бы і далей пэдагогікай займацца ды камароў ганяць.

Гісторыя паўтараецца. Час кінуць утульныя ДК, купляць рэпэленты і ехаць у Мікалаеўшчыну, на Прыстаньку. Па адзінства, перамогу і водар тайгі.



# П’яны, як карабель

*10 ліпеня 1873 Вэрлен страляе ў Рэмбо*

Да вандроўніка Егуды Галеві падобны чалавек, які з самага ранку накіроўваецца ў краму, і ўсе сустрэчныя глядзяць на яго з замілаваньнем...

Раніцай 10 ліпеня 1873 году францускі паэт Поль Вэрлен («бляднее твар, рвецца ўздых») таропка ідзе па брусэльскіх вуліцах, каб набыць сабе рэвальвэр. Уласна кажучы, прачнуўшыся, ён зьбіраўся патраціцца на капялюш, кіёк або запальнічку; па вялікім рахунку, яму як сапраўднаму паэту ўсё адно, на што пойдуць сёньня ягоныя мізэрныя грошы, хапіла б на выпіўку, але рэвальвэр — о, гэта добрая ідэя. Бо акурат некалькі дзён перад тым Вэрлен паабяцаў маці і свайму каханку Арцюру Рэмбо, што застрэліцца — а зьдзейсьніць абяцанае з дапамогай капелюша, кія або запальнічкі даволі праблематычна.



Сьпёка. Вэрлену вельмі хочацца халоднага белага, неразбаўленага, яму хочацца пісаць, уладкаваўшыся дзесьці ў цяньку, а яшчэ яму хочацца пусьціць кулю сабе ў скронь.

Па дарозе назад, у гатэль «Льежуа», Вэрлен завітвае ва ўлюбёную карчму, у гатэлі ён выпівае яшчэ бутэльку віна — і тут перад ім, як п’яная галюцынацыя, зьяўляецца Рэмбо. Вэрлен паволі дастае з кішэні зброю, так, ён зробіць гэта проста на вачах у Арцюра, зараз, зараз... Чуецца стрэл, Рэмбо хапаецца за запясьце, Вэрлен неўразумела глядзіць на рулю і нават зазірае ў яе, а потым кідаецца да сябра, падае на калені...

Абняўшыся, яны разам ідуць у шпіталь — дакладней, іх вядзе туды Вэрленава маці, якая, пачуўшы стрэл, адразу прыбегла ўніз, праклінаючы ўсіх геяў, паэтаў, празаікаў і навэлістаў на сьвеце. Што гэта ў цябе там такое цьвёрдае? — пытаецца Рэмбо, прыціскаючыся да сябра. Ды так, нічога асаблівага, — змрочна адказвае Вэрлен і прыгадвае, што пакуль што так і не застрэліўся. Ён зноў вымае сваю ранішнюю пакупку і настаўляе яе сабе ў грудзі. Паліцыя! — кліча Рэмбо, баючыся за каханага калегу. Ён ні ў чым не абвінавачвае Вэрлена, але таго ўсё адно арыштуюць за замах на забойства, за прабітае куляй запясьце, і асуджаюць на два гады.

За тыдзень да таго стрэлу Рэмбо пісаў Вэрлену:

«Вярніся, вярніся, дарагі мой дружа, адзіны мой сябар, вярніся. Клянуся, я буду паводзіцца добра. Я быў грубаваты з табой, але гэта быў толькі жарт, вярніся, мы ўсё забудзем, ... вось ужо два дні я плачу бясконца... табе трэба вярнуцца... быць мужным... наша сварка была несур’ёзная... Жахлівае імгненьне! Ну чаму, чаму, калі я заклікаў цябе пакінуць карабель, ты не зрабіў гэтага?... Калі мне нельга будзе бачыцца з табой, я завэрбуюся ў флёт ці ў войска...»

Так яны й жылі. Выклятыя, ірацыянальныя, абсурдныя, жарсныя. Капрызьлівыя, як дамачкі, гучныя, як даміно. Быццам два кепскія вершы, якія, трапіўшы ў нечаканы кантэкст, пачынаюць раптам па-навальнічнаму пахнуць нейкай новай, нечуванай раней паэзіяй.

# Турысты зь Піцера

***11 ліпеня 1706 манахі ўніяцкага манастыру ў Полацку даюць годны адказ Пятру I***

*«Во всяком месте, где останавливался, по обыкновению своему он всегда спрашивал: нет ли в том месте чего достопамятнаго и, буде что слышал, тотчас оное осматривал».*

10 ліпеня 1705 году расейскі цар Пётар I, які ваяваў са швэдамі і таму знаходзіўся ў Полацку зь неафіцыйным несяброўскім візытам, адзначыў свае імяніны. Назаўтра, 11 ліпеня, ён прачнуўся, паспрабаваў прамовіць слова «достопрімечательності» і ня здолеў.

«Усё роўна мы пойдзем іх глядзець, — прабурчаў цар, галава якога была цяжкая, як добры палаш на галаве ненавіднага ўніята. — Меншыкаў, канём цябе! Ёсьць у гэтым горадзе дысрыстыпр...? Ну, ты мяне зразумееў! Тады los, los! Матка, яйкі, млеко!»

Расейскі цар вельмі любіў нямецкую мову.

...Неўзабаве цар з набліжанымі ўвайшлі ў сабор сьвятой Сафіі. Пётар, не азіраючыся па баках, рушыў да алтара. Гісторыкі лічаць, што манарх-рэфарматар хацеў там аблягчыцца. Звычайная, калі падумаць, фізіялягічная патрэба. Для душы і цела. Аднак шлях цару моўчкі загарадзілі некалькі манахаў. Пётар спыніўся.



«Но-но», — сказаў ён прымірэнча. — «А яшчэ лічыце сябе эўрапейцамі. А нас ардой азіяцкай. Не даюць пасцаць чалавеку. Да таго ж госьцю, які проста захацеў зірнуць на гэтыя... дыстпрстр...»

Манахі маўчалі, але зь месца не сыходзілі. Пётар пачаў не сьпяшаючыся прагульвацца ўздоўж сьценаў.

«А гэта хто?» — ткнуў ён пальцам у ікону. — «Што за морда лацінская?»

Манахі маўчалі.

«Што за морда, пытаюся?» — крыкнуў цар. І тады адзін з манахаў зірнуў проста ў пахмельныя вочы цара і спакойна адказаў:

«А гэта сьвяты пакутнік Ясафат Кунцэвіч, якога забілі праваслаўныя ератыкі».

Гэткае абразы Пётар, у якога балела галава і брыдка было ў роце пасьля ўчорашняга, вытрываць ня мог. «Кунцэвіч?» — і ён выхапіў шаблю. Паводле гістарычных крыніцаў, у той дзень цар уласнаручна забіў вікарыя Зайкоўскага, Меншыкаў — айца Кнышэвіча, пасеклі шаблямі закрыстыяна Кандратовіча, казаньніка Калбячынскага, айца Кізікоўскага і брата Анкудовіча. Некаторых іншых уніятаў з сафійскага храму забілі на другі дзень.

Ёсьць і іншыя вэрсіі таго, што адбылося ў Сафіі тым ліпеньскім днём... Так ці інакш, уніяцкія манастыры былі пасьля гэтага зачыненыя, а сам храм Пётар загадаў перарабіць у склад пораху і амуніцыі. Праз пяць гадоў расейцы яго ўзарвуць. А яшчэ праз трыста гадоў цара Пятра на гэтых абшарах хто-ніхто ўсё яшчэ будзе па звычцы называць «нашым», «геніяльным», «пэрсанажам айчыннай гісторыі». Дом, дзе ён п’янстваваў у Полацку, рэканструююць. І будуць дзякаваць яму за Новы год — які ў Беларусі нібыта ўвёў менавіта той «імяніньнік» (што хлусьня і няпраўда). Дзедушка Мароз проста нейкі, а не манарх. Зьісьцінай верай у чырвоным мяху.

## Жоўты крыж

*12 ліпеня 1916 нямецкія войскі ўпершыню ўжываюць іпрыт*

Часам сьмерць пахне часныком.

Або гарчыцаю — каму як больш падабаецца. Трапіўшы на скуру, гэткая пякучая прыпраўка хутка распускаецца ў ліпіднай змазцы, пранікае ў глыбокія слаі эпідэрмісу, скура чырванее, сьвярбіць, ацякае. Узьнікаюць пухіры, абалонка якіх хутка рвецца, спараджаючы язвы — яны непазьбежна інфікуюцца і потым загойваюцца месяцамі, а на месцы язваў зьяўляюцца рубцы, маючы якія, немагчыма паварушыцца ад болю. Трапіўшы ў вочы, гэтая прыправа псуе зрок, выклікае сьлёзы, боязь сьвятла, ацёкі павекаў, гнойныя выдзяленьні. Панюхаўшы яе, можна страціць голас — або навек перастаць дыхаць. Яе пары ў пяць з паловай разоў цяжэйшыя за паветра, пападаньне ў кроў гарантуе вострае атручэньне ўнутраных органаў. Яна падступная — яе пах перастаеш адчуваць так хутка, быццам усё жыцьцё стаяў на гэтай д'ябальскай кухні.



Дзе цябе гатавалі на апошні абед ужо асуджаным імпэратарам. А прадаўцы газэт крычалі за вакном пра вайну да яго, пераможнага. Канца, якога не відаць.

У ноч з 12 на 13 ліпеня 1917 году нямецкае войска, якое каля Іпру ў Бэльгіі мусіла спыніць ангельска-францускі наступ, упершыню выкарыстала гэтую сваю злавесную «прыправу» — іпрыт. Ахвярамі зрабіліся 2490 чалавек, 87 зь іх загінулі. Ад кропляў і выпарэньняў іпрыту ні зімовая, ні летняя ўніформа абараніць не магла — да канца першай сусьветнай ад іпрыту пацярпелі амаль 400 тысяч жаўнераў. Разабрацца, што гэта за брыда такая, брытанцы змаглі толькі ў самым канцы вайны. Хаця кажуць, што ад яе загінула менш салдатаў, чым ад фасгену — у іпрыту былі свае козыры: ён калечыў з амаль стоадсоткавай імавернасьцю.

Наогул, імёны ў яго былі розныя: «жоўты крыж» (паводле знаку на адмысловых, начыненых атрутаю гранатах), гарчычны газ, а таксама «lost» — па першых літарах прозьвішчаў бравых нямецкіх хімікаў Лёмэля і Штайнкопфа (Lommel und Steinkopf), якім, уласна кажучы, і прыйшла ў галовы ў 1916 годзе геніяльная ідэя труціць людзей «па навуцы». У Брытаніі яго часам называлі проста «гарчыцай», mustard. Ну, ды і ў чалавеканазоваў ня менш: «жывая сіла», напрыклад, ці «варожая армія». «Патруціць, як прусакоў...» Мухі, катлеты, сарціры. Або вось так, паэтычна, рыхтык пра ноч над Іпрам: «мярцьвячына пад часночным соўсам».

Тыя хімікі, Лёмэль і Штайнкопф, пэўне, таксама марылі пра Нобэлеўскую прэмію. І — чаму не? — пра мір ва ўсім сьвеце. Пра славу... І сапраўды: чым яны былі горшыя за самога вынаходніка дынаміту? Цалкам магчыма, нямецкія навукоўцы таксама былі пацыфістамі і, адсылаючы ў штаб кайзэраўскага войска сваю прапанову наконт іпрыту, спадзяваліся, што вось тут ужо вайне прыйдзе канец — бо мусіць жа ў чалавецтва, нават калі яно ў пагонах, быць нейкі розум. Розум у чалавецтва сапраўды быў. З жоўтым крыжам на баку — каб з сумленьнем не пераблытаць.

# Канец хваробы

*13 ліпеня 1793 Марат вырашае прыняць ванну*

«Хто ж уклаў у вас столькі нянавісьці? —
Мне ня трэба было чужой нянавісьці, мне хапала сваёй».

...Ванна давала яму палёгку. Нядоўгую, але ўсё ж. Вось і 13 ліпеня 1793 Жан Поль Мара, хворы на экзэму, а яшчэ больш хворы на рэвалюцыю, маньяк, якому так хацелася забіваць, як іншым хочацца ў сьпякотны дзень марозіва або халоднага піва, ляжаў, а дакладней, сядзеў у балеі ў сябе на вуліцы Кардыльераў і пісаў артыкул. Пра тое, як гэта файна: забіваць, пра тое, што забіваць трэба як мага больш, пра тое, што забіваць — гэта, уласна кажучы, адзінае, дзеля чаго варта жыць у Францыі канца XVIII стагодзьдзя. Каго — гэтае пытаньне Мара ня надта турбавала: штодня ён атрымліваў сьпісы ворагаў, дзе стаялі тысячы незнаёмых прозьвішчаў, і кожнага разу цешыўся ім, як дзіця.



Але Аннушка, то бок Шарлёта, ужо праліла алей — некалькі гадзін таму мадэмуазэль Кардэ купіла ў крамцы ў Пале-Руаяль вялікі і востры кухонны нож.

Па абедзе ён апынецца проста ў сэрцы Мара, нібыта ў кавалку сьвініны, умомант вылечыўшы яго ад экзэмы, ад рэвалюцыі, ад усіх маніяў і фобіяў. Рэвалюцыянэр будзе ляжаць у яшчэ цёплай вадзе і ўсьміхацца, шчасьлівы і вольны. Ён пасьпее паклікаць сваю жонку — каб яна падзяліла зь ім радасьць. «Сюды, мая сяброўка!» — крыкне ён, але працягу ніхто не пачуе. — «Пазнаёмся з мадэмуазэль Кардэ! Толькі што яна знайшла рашэньне! Я ўратаваны!»

Менавіта такім Мара выглядае на карціне Давіда — чалавекам, для якога ўсё ўжо скончылася, і ён гэтаму невымоўна рады. Аркуш паперы ў яго ў руцэ ўжо ня мае значэньня, якая розьніца, што там: данос або просьба — і ён задаволена заплюшчыў вочы. Больш ня трэба чытаць усе гэтыя імёны, на якія ў яго заўжды адзін адказ, быццам ён ня мае ўлады над сваімі вуснамі: «На гільятыну! Усіх!» Шчасная ўсьмешка на іх наводзіць на думкі пра мужчыну, які толькі што меў добры сэкс і ведае, што будзе мець яго зноў. Інтымны момант на фоне сьцяны, цёмнай, як сам нябыт. Як канец усіх рэвалюцый.

Шарлёты не відаць — ёй акурат у гэты час круцяць рукі і б'юць нагамі ў жывот, і грамадзянская жонка Мара цягае яе за валасы, але мастака гэта ня надта цікавіць. Аднак Шарлёта на карціне ўсё ж прысутнічае. Магчыма, яна — белая касьцяная ручка нажа, лязо якога мае колер губной памады. Магчыма, гэта яе цень падае на Мара — цень той адзінай, якая наважылася зрабіцца лёсам і давесьці суд да канца.

# Ад сёньня тут танцуюць

*14 ліпеня 1789 была ўзятая Бастылія*

«Сёньня — нічога», — са смуткам піша 14 ліпеня 1789 году ў сваім дзёньніку Людовік XVI. У той дзень Яго вялікасьць не ўпалявалі ні зайца, ні казулі, ні хаця б на благі канец фазана — ёсьць ад чаго быць не ў гуморы. У тыя самыя хвіліны, калі кароль дзеліцца з «дарагім днеўнікам» гэтым рамантычным перажываньнем, парыжане шукаюць зброю. Яны ўжо ўзялі мэрыю, Арсэнал, Дом інвалідаў — і вось пайшлі чуткі, што ў сутарэньнях Бастыліі стрэльбаў і пораху хопіць на ўвесь горад.

«Сёньня — нічога», — піша кароль; ён зусім не зьбіраецца ўвязвацца ў гэтыя мярзотныя парыскія забурэньні. Прынамсі, сёньня... Нічога не чакае ад Вэрсалю і камэндант Бастыліі маркіз Дэлянэ. Пад ягонай камандай трохі болей за сотню салдат — а парыжанаў пад мурамі крэпасьці дзясяткі тысяч. Праўда, муры Бастыліі тоўстыя, а на іх — тузін гарматаў, але маркіз ведае, што яму доўга ня вытрымаць аблогу.

Ён выглядвае з вакна — адзін з паўстанцаў махае яму зьнізу пікай, сьпіянэранай, відаць, у нейкага гвардзейца. Дэлянэ не падазрае, што ўначы ягоная галава будзе насаджаная на гэтую піку і рэвалюцыйныя парыжане з жартамі і сьмехам будуць насіць яе па ўсім горадзе і паказваць дзецям. І калі нейкі падсьлепаваты прафэсар, выпаўшы з часу і начных пантофляў, баязьліва запытаецца абвешанага пісталетамі, п'янага ў зюзю мясьніка, зь якой нагоды гуляньні, той змрочна адкажа:



«Празьнік у нас! Ня знаеш, ці што? Чатырнаццатага іюля, дзень узяція Басьціліі!»

...Сьмерці камэндант Дэлянэ не баіцца — з паходняю ён спускаецца ў сутарэньні, каб узарваць давераны яму аб'ект, але па дарозе яго хапаюць за рукі і адводзяць назад. У вонкавым двары крэпасьці густы дым — людзі пралезьлі сюды, як пацукі, трашчыць падпаленая салома, страляніна не сьціхае.

З вокнаў крэпасьці, як білет, працягнуты кантралёру, зьяўляецца белы сьцяг.

«Сёньня — нічога», — піша кароль і загортвае дзёньнік. 15 ліпеня ён загадвае сваім наймітам пакінуць Парыж, і горад крыху супакойваецца, а 17-га вяртаецца туды сам. Бастылія яшчэ стаіць. «Ведаеце, Ваша Вялікасьць, — кажа, нахіліўшыся да караля, маркіз Ляфает. — Ёсьць прапанова павесіць на мур крэпасьці такую шыльдачку... Напісаць на ёй, напрыклад, так: гісторыка-музэйная каштоўнасьць. Ахоўваецца дзяржавай. Прычыненьне шкоды караецца па законе. У гэтым доме з 1370 году жылі і працавалі Чалавек у жалезнай масцы, Вальтэр, дэ Сад...»

«Не! — крычыць нехта за сьпінай караля. — Мы зьнясем яе нахер. А на яе месцы паставім крыж! Не, два крыжы! Па ўсіх нявінна замучаных самадзяржаўем!»

«У мяне таксама ёсьць ідэя, — ціха кажа Людовік. — Калі зруйнуеце, пастаўце там шыльду з такім надпісам...»

Усе чакаюць.

«„Ад сёньня тут танцуюць“... І лічыце гэта апошняй просьбай асуджанага на сьмерць. І вось што... Аўтарства можаце не пазначаць».

# «Жальгірыс» — чэмпіён

*15 ліпеня 1410: Грунвальд*

Харугвы, «лёгкая татарская коньніца», Ягайла, Вітаўт... Кажуць, у базавым лягеры тэўтонаў, куды яны ў паніцы адступалі, перасьледаваныя нашым абʼяднаным войскам, знайшлі шмат кайданоў і віна. У выніку кайданы надзелі на іх уладальнікаў, а ўсё нямецкае віно Вітаўт загадаў выліць на зямлю, і так чырвоную ад крыві.

Адным словам: Грунвальд. Якой дзівоснай музыкай гэта гучала ў канцы васьмідзясятых-пачатку дзевяностых!.. Гучыць і цяпер. Праўда, музыка гэтая больш для сябе — і мы чуем яе, толькі надзеўшы свае, беларускія, навушнікі. Імпартныя граюць трохі іншы матыў, і ўсе гісторыкі тут бясьсільныя. Тое, што большасьць удзельнікаў той перамогі паходзіла з этнічных беларускіх земляў, на суседзяў дзейнічае слаба: перамога была літоўска-польская, кажуць яны — і кропка. Якія яшчэ беларусы. Вас там не стаяла. Ці, дакладней, стаяла — але пад



чужымі сьцягамі, бо да ўласных не дарасьлі яшчэ. Як той казаў, дзякуй за супрацоўніцтва.

Томас Венцлава піша, як некалі яму давялося пабываць у Вене і на свае вочы пабачыць крыжацкі музэй — сьціплы, зусім невялікі храм у аўстрыйскай сталіцы. Усё, што засталося ў гісторыі ад некалі магутнага рыцарскага ордэну. «Хаця гэта й сьмешна, я пачуваўся пераможцам, — піша Венцлава. — Бо ад Ордэну засталіся толькі маленькі храм з музэйчыкам, а мой край, які крыжакі хацелі заваяваць, усё там жа, дзе й быў...»

Венцлава — адзін зь нешматлікіх замежных інтэлектуалаў, якія ніколі не адмаўлялі беларусам у іхных заслугах і, што яшчэ важней, у іхным існаваньні. Цяжка дзяліць перамогу, асабліва вялікую, асабліва калі іх, вялікіх перамог, у гісторыі твайго народу было ня так ужо й шмат. Значна цяжэй, чым сабраць пад свае сьцягі народы з фактычна ўсёй Усходняй Эўропы — і пераканаць іх, што яна — іх агульны дом. І рэлігія тут не працуе. Трэба нешта іншае. Можа, адчуваньне свайго жыцьця на мяжы. Якое ня зьнікла ў гэтым Краі дагэтуль — нягледзячы на ўсе зьвязы, шэнгены і вуніі.

Бо 15 ліпеня 1410 году паміж Танэнбэргам, Грунфэльдам і Людзьвігсдорфам (амаль што паміж Стайкамі, Соснамі і Сокалам) хрысьціяне выйшлі на сьмяротны бой супраць хрысьціянаў. І білі адны адных з адным і тым самым імем Хрыста на вуснах. Вітаўт і Ягайла, якія на карціне Матэйкі моляцца за посьпех апэрацыі, кажуць прыкладна тое самае, што Вялікі магістар тэўтонаў, тое самае, што Валенрод і фон Ліхтэнштайн. Гэта была бітва не за веру, а за Эўропу — за тое, дзе ёй канчацца. Захад прайграў — і парадаксальным чынам пасунуў свае межы далёка на ўсход. Пасьля Грунвальду нас прызналі сілай, якую немагчыма ігнараваць. І хто ведае, дзе і на чым завяршалася б сёньня ідэя Эўропы і колькі квадратных мэтраў займаў бы музэйчык Беларусі, калі б ня тая перамога — дзяліць якую ня мела сэнсу тады, ня мае і цяпер.

# Правілы гігіены

*16 ліпеня 1439 у Ангельшчыне забароненыя пацалункі*

Цалавацца, на жаль — не рэфлекс і не інстынкт, цалавацца трэба ўмець. Асвойваць тэхніку, трэніравацца перад люстэркам, паўтараць пройдзенае... А не выходзіць — наведваць майстар-клясы. Вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца. У спэцыялістаў. У каго? Ды хаця б у таго невядомага селяніна з Заходняй Беларусі, які так жарсна смокча маладога, цнатлівага савецкага салдата-вызваліцеля на знакамітым плякаце — наглядным кіраўніцтве «для старэйшых і спрактыкаваных». Ці ў Гонэкера і Брэжнева —

mein Gott
hilf mir
diese tödliche Liebe zu überleben.

Штопраўда, у XV стагодзьдзі ўсё выглядала трохі іначай — і селянін, і салдацік, і Гонэкер з Брэжневым, калі б ім заманулася вярнуцца ў мінулае і пасмактаць адно аднаго ў нейкім публічным месцы, жывымі б з гэткай пікантнай сытуацыі ня выйшлі. 16 ліпеня 1439 году ў Ангельшчыне пацалункі былі забароненыя законам: за парушэньне пагражаў штраф або — калі пацалунак быў надта ўжо ўдалы і ня першы — сьмяротнае пакараньне. Прычына, трэба адзначыць, палягала зусім не ў маральнасьці ангельскіх уладароў. Проста гэты быў час чумы, што, як вядома, толькі й чакае на абмен людзей сьлінаю — як замежны турыст на беларускі рэйсавы аўтобус. Таму закон і назвалі «Чумной забаронай» — і хаця без пацалункаў чалавек можа пражыць усяго некалькі дзён, сьмяротнасьць у Ангельшчыне пачала няўхільна зьніжацца. Нараджальнасьць, напэўна, таксама.

Кажуць, падчас аднаго добрага пацалунку бакі атрымліваюць каля пяці мільёнаў мікробаў і 250 розных відаў бактэрыяў і вірусаў. Затое: пульс павялічваецца да 150 удараў у хвіліну, бонус — цэлы літар дадаткова перакачанай сэрцам крыві, больш кіслароду клеткам, мінус дванаццаць калёрыяў і кілаграм вагі ў дзень. Магчыма, у гэтым і ёсьць сакрэт доўгажыхарства — плякатаў, Заходніх Беларусяў, простых сялянаў, а таксама Гонэкераў і Брэжневых — чума на абодва іх дамы.



## Размова з вэтэранам

*17 ліпеня 1918 у Расеі забітая імпэратарская сям’я*

А цяпер, дарагія дзеці, перад намі выступіць самы сапраўдны герой грамадзянскай вайны — Яўхім Мікалаевіч Юродзівы. Не шкадуючы свайго жыцьця, ён змагаўся супраць ворагаў, супраць памешчыкаў і капіталістаў і іншых крывасмокаў, і нават зьдзейсьніў аднойчы самы сапраўдны подзьвіг. Ці ведае нехта з вас, што гэта такое — подзьвіг? Памятаеце, мы вучылі на прыродазнаўстве... Вовачка?

Подзьвіг — гэта застрэліць ва ўпор дзяўчынку або сабачку.

Правільна, Вовачка, малайчынка. Ну, а цяпер папросім дарагога Яўхіма Мікалаевіча расказаць нам пра тое, што ён перажыў. Калі ласка, Яўхім Мікалаевіч.

Ну, гэта было ў васямнаццатым, у Екацярынбургу... Ноч з 16 на 17 ліпеня, як цяпер памятаю. А палове на другую мы прыехалі ў Іпацьеўскі дом, далі ім паўгадзіны на зборы... Але



нешта яны марудзілі, давялося падганяць. Недзе а палове на трэцюю павялі іх у падвал, сказалі стаць каля сьцяны. Сьцяна драўляная — я наўмысна ім сказаў туды ісьці, бо, думаю, рыкашэтаў ня будзе. Сталі... Немка гэтая, сучка, Аляксандра, кажа: а сесьці нельга? Я кажу: хрэн з табой, не насядзелася — але добра, два крэслы прыцягнулі, паставілі. Яна села, і Лёшка ейны побач. А гэтыя ўсе стаялі: Нікалашка, доктар ягоны, кухаронак, слугі... Зьлева ад Нікалашкі вырадкі царскія, усе мне ў твар глядзяць: Волька, Танька, Машка, Насьцёна. Ну, я ім і кажу, ветліва так:

Мікалай, маўляў, Аляксандравіч, грамадзянін Раманаў, сябручкі вашыя стараюцца вас адсюль выцягнуць, дык гэта — мы тут падумалі і вырашылі самі вас пастраляць. Такая сытуацыя...

Мікалашка мне: «Што?» Быццам ня чуў — хаця чуў ён усё, тыран крывавы. Але я спакойна так паўтараю: «Страляць вас зараз будзем, паводле прысуду Савета рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў». Ён ажно пабялеў, немка ў трансе, і толькі адродзьдзе іхнае, я скажу, мужна трымалася.

Ну, я падумаў — чаго тут цягнуць, і кажу: агонь, таварышы. Таварышы былі напагатове — выхапілі наганы ды маўзэры, і пачалося. У каго каму цэліць, мы не дамаўляліся, хіба што ўсім карцела ўсадзіць у Мікалашку сваю кулю, таму — хто каго паклаў, ня ведаю. Мікалашка адразу падох, немка памучылася трохі — і таксама сьціхла, слуга і кухар наогул напавал. А вось дочкі — гляджу і вачам сваім ня веру, не бярэ іх куля. Падышлі, памацалі — а ў іх пад сукнямі, пад грудзямі, золата-брыльянты, як бронекамізэлькі. Ну, мы яшчэ пастралялі, а потым, хто жывы застаўся — штыхамі дабілі. Давялося папацець. І сьцяна, памятаю, падвяла — кулі адскоквалі, кагосьці з таварышаў нават раніла бандыцкая куля: такія яны, іхныя штучкі белагвардзейскія. Паўгадзіны працавалі, ажно ў пот кінула. Потым я праверыў: усё чыста. Ну, мы іх у грузавік і...

Яўхім Мікалаевіч, а колькі ім было?

Каму? Таварышам?

Не, ворагам.

О, ворагам было сама тое, што трэба, самы контррэвалюцыйны ўзрост. О ты сам зірні — Вовачка, так? — Вольцы — дваццаць тры, Таньцы — дваццаць адзін, Машцы — дзевятнаццаць, Насьцёне — сямнаццаць... Дзеўкі — самы сок. Некранутыя яшчэ, цнатліўкі, такіх валіць — галава кружыцца. Лёху — таму яшчэ чатырнаццаты гадок не пайшоў. Ну дык вось... Адвезьлі трупы за горад, і ў кіслату... Ці не ў кіслату, ужо ня памятаю... Харошая кіслата была, нямецкая...

Змоўк герой, закурыў. Маўчалі і дзеці — і твар кожнага, хто сабраўся ў гэты вечар ля вогнішча, асьвятляў водбліск вялікага вычыну. І кожны хацеў зрабіцца героем, і кожнаму хацелася зьняць пыльны камунарскі шалом, выпіць ледзяной вады з калодзежа і ўпасьці з каня ў духмяную высокую траву на той адзінай грамадзянскай, і кожнага мучыла нешта дзіўнае, душнае, салодка-невымоўнае: ну як, як такія людзі, як Якаў Мікалаевіч, могуць сядзець зь ім тут, у лесе, проста так, весьці задушэўныя размовы, быццам яны знаёмыя сто гадоў. Быццам героем можа зрабіцца кожны. Быццам кожны можа вось так, у падвале, зьнішчаць лютых ворагаў — і не прасіць ніякай узнагароды. І тады Вовачка раптам уздыхнуў і сказаў, саромеючыся:

«Яўхім Мікалаевіч, а як яна пахне — варожая кроў?»

Стары бальшавік усьміхнуўся.

«Падрасьці яшчэ, сынок. Пасьпееш пакаштаваць. Галоўнае — вучыся добра і татку слухай. Абяцаеш?»

«Абяцаю», — выдыхнуў Вовачка і вочы яго заблішчэлі. Ён бачыў перад сабой вокны Іпацьеўскага дому — і далоні пацелі, а недзе ў жываце зьявілася адчуваньне, што жыць хараша, а дзяцінства ніколі ня скончыцца. Як сон. Як гэты лес. Як грукат сэрца.

# Прагноз надвор'я

*18 ліпеня 1936 «над усёй Гішпаніяй бязвоблачнае неба»*

En toda España cielo despejado — такім прагнозам надвор'я пацешыла гішпанцаў 18 ліпеня 1936 году радыёстанцыя гораду Сэўта. Прагноз быў доўгатэрміновы — ледзьве не на сорак гадоў наперад. Грамадзянская вайна ў Гішпаніі пачалася з вайсковага путчу, і хаця шмат хто сумняваецца, ці маглі тыя словы сапраўды быць да яго сыгналам — яны прагучалі і засталіся, у адрозьненьне ад асуджанай на паразу Рэспублікі. Па звычцы ўсіх гішпанцаў, яны гучаць амаль што паэзіяй: разам з «Но пасаран» і пасэраванай на патэльні рэвалюцыі Пасіянарыяй. А вось дыктатар Франка асаблівай паэзіі не пакінуў — і сымпатызаваць ягоным праціўнікам можна хаця б з гэтай простай нагоды. Калі іншых няма... Бо, як мы ўсе ведаем, «ня ўсё дрэннае было зьвязанае ў фашысцкай Гішпаніі зь вядомым Франсіска Франка» — і гэта, магчыма, сапраўды так.



Маленькая і крывавая рэпэтыцыя другой сусьветнай: на баку мяцежнікаў Нямеччына і Італія, на баку амаль няяснага ўраду — Савецкі Саюз; заходнія дэмакратыі вагаюцца і адварочваюцца, простыя грамадзяне запісваюцца добраахвотнікамі і едуць у Кастылію і Арагон, у Каталёнію і да баскаў: паміраць, пісаць, жыць — або проста па адрэналін... Такое адчуваньне, што ў ёй, гэтай вайне, удзельнічае ўвесь сьвет. У тым ліку — беларусы: варта згадаць менчука Міколу Сяліцкага, танкіста, які ў тым самым 1936-м загіне пад Сэсэньяй: за што загінуў і што такое інтэрнацыянальны доўг, можна спрачацца доўга... Але тая вайна сапраўды шмат каго зрабіла рамантыкам — у самы нерамантычны савецкі час.

Цікава, што гэтае супрацьстаяньне ў выніку стварыла і яшчэ адзін масток паміж Гішпаніяй і Беларусьсю, цяпер падзабыты, але ў свой час значны ў маштабе амаль што бруклінскім. Улетку 1937 году ў Савецкі Саюз завітала зборная Басконіі па футболе — каб сабраць сродкі для сем'яў загінулых у грамадзянскай вайне баскаў, якія падтрымалі Рэспубліку. Для баскаў-эмігрантаў гэта былі не найлепшыя дні... Прыкладам, ужо па прыезьдзе некаторыя зь іх даведаліся, што на радзіме франкістамі забітыя іхныя бацькі, сем'і. І тым ня менш яны гулялі — і перамагалі. Ведаючы, што гэта іх помста — і іх унёсак у тую вайну.

Зорная каманда правяла ў СССР дзевяць матчаў, у тым ліку ў Менску, на «Дынама», супраць зборнай гораду. Менчукі першымі адкрылі лік, але ў выніку прайгралі 1:6. Мусіць, гэта была першая ў беларускім футболе сустрэча з камандай такога высокага ўзроўню.

1 красавіка 1939 году каўдыльё Франка зьвярнуўся да гішпанскага народу з кароткім пасланьнем.

«Чырвонае войска разбброенае і ўзятае ў палон. Нацыянальныя сілы перамаглі. Вайна скончаная».

І тады пайшоў дождж.

# Песьня брандмайстра

*19 ліпеня 64 Нэрон даведваецца, што Рым гарыць*

«Я спаліў свой родны горад,
Мілы горад, сумны горад,
я пакінуў гэтак мала —
толькі бар аўтавакзалу», —

блюзьнерыў у дзевяностых адзін менскі рок-гурт. У 64 годзе ў Рыме не было аўтавакзалу, ні пагатоў бару пры ім — але людзі, якім хацелася спаліць Вечнае Места, ужо існавалі. Што цікава, яны таксама любілі музыку: напэўна, ёсьць нейкая сувязь паміж музыкай і пажарнай справай — нездарма некалі кожная пажарная частка мела ўласны аркестар...

Так ці інакш, у ноч з 18 на 19 ліпеня 64 году імпэратар Нэрон, апрануты, як зорка беларускай эстрады, стаяў на невысокім узгорку на ўскраіне гораду, нэрвова перабіраў струны ліры і, назіраючы за тым, як палае Рым, напяваў тагачасны грэцкі гіт, «Іліў пэрсіс»:




«...Места тваё стаяцьме штодня ўва ўсе часы...»

Агонь узьнік у гандлёвым квартале недалёка ад Circus Maximus, там, дзе раней кралі сабінянак, а цяпер рабуюць турыстаў. Ён хутка пашырыўся на суседнія кварталы — у выніку згарэла амаль трэць гарадзкіх будынкаў. Пажар доўжыўся амаль тыдзень — і толькі потым пачалося дазнаньне. Хто, чаму, як, за грошы якіх фондаў. Спачатку, як водзіцца спакон вякоў у прыстойных людзей, хацелі абвінаваціць яўрэяў, але такіх не знайшлі. Наступнымі ў сьпісе стаялі апазыцыя і сэксуальныя мяншыні, але першую імпэратар неабачліва вынішчыў, а сэксуальныя мяншыні пры ім былі хутчэй бальшынямі. Нічога ня скажаш, цяжкая задача стаяла перад рымскімі ўладамі. Аднак вораг знайшоўся пад самым бокам — хрысьціяне. Іх забівалі без суду і сьледзтва, падвешвалі на крыжах, кідалі зьвярам, а трупамі асьвятлялі вуліцы, бо агню, як высьветлілася, рымлянам за сем дзён не хапіла.

Яшчэ калі пажар еў поедам рымскія дамы, пайшлі чуткі, што падпаліць места загадаў сам імпэратар, які любіў прыгожае, а што, о багі, можа быць прыгажэйшым за агонь! Праўда, далейшыя дзеяньні Нэрона нібыта абвяргалі гэтыя плёткі — ён склаў ледзьве ня першыя ў гісторыі Рыму правілы пажарнай бясьпекі, даў дыхту архітэктарам, арганізаваў дружыны МЧС і не адмовіў у прытулку тым, хто застаўся бяз даху над галавой. Аднак тут, здаецца, няма ніякай асаблівай супярэчнасьці. У мастацтва свая лёгіка — можна падпаліць горад, а затым самааддана ратаваць яго, а потым шукаць вінаватых і караць іх па ўсёй строгасьці, і быць шчырым у кожным з гэтых памкненьняў, і верыць, і ўзрушвацца, і захапляцца.

# Бунт на караблі

*20 ліпеня 1944 адбыўся замах на Гітлера*

Насьценны гадзіньнік паказваў 12 гадзін 41 хвіліну. Генэрал Адольф Гойзынгер, кіраўнік апэрацыйнага аддзелу генэральнага штабу сухапутных сілаў вэрмахту, акурат дакладваў фюрэру ў яго стаўцы Вольфсшанцэ пра становішча на Поўначы Савецкага Саюзу. Абодва ледзьве не ляжалі жыватамі на вялікай мапе, раскладзенай на тоўстым дубовым стале — не раўнуючы пацыенты ў чаканьні масажыста.

І праз хвіліну масаж пачаўся: аднекуль зьлева з-пад стала, недзе ля масіўнай тумбы, што трымала яго на сабе, грымнуў выбух такой сілы, што яго хапіла б ня толькі на фюрэра германскай нацыі, а і на Гёбэльса, Гімлера і Гёрынга, калі б яны тут прысутнічалі. Сьмерць хавалася ў звычайным партфэліку, забытым тут нейкім афіцэрам — ён, гэты партфэлік, замінаў удзельнікам нарады, і яго нават падсунулі пад стол, каб ня блытаўся пад нагамі. У партфэлі знаходзіўся кілаграм пластычнае выбухоўкі брытанскай вытворчасьці, а прынёс яго ў стаўку будучы герой нямецкага Супраціву, а тады — палкоўнік Кляўс фон Штаўфэнбэрг, чалавек бяз вока, рукі і нацысцкага трызьненьня ў галаве. Ён меў пры сабе яшчэ адну бомбу — але часу на тое, каб актываваць яе, не хапіла, і палкоўнік забраў яе з сабой, калі пакідаў бункер — у якім гісторыя мусіла павярнуць у іншы бок і: не змагла.



Выбухам былі забітыя стэнаграфіст, два генэралы і палкоўнік. Што да фюрэра, то дуб, сьвяшчэннае дрэва германцаў і беларускай мэблевай прамысловасьці, ўратаваў яму жыцьцё. Лопнутыя барабанныя перапонкі Гітлера былі не зусім тым, пра што марылі змоўнікі. «Гітлер ранен і бежал» — гэтыя чуткі, якія з такім посьпехам хадзілі па СССР у першыя дні вайны, не пацьвердзіліся і гэтым разам. Далейшае вядома: Штаўфэнбэрг, які чуе выбух і, азірнуўшыся, бачыць, як над стаўкай уздымаецца слуп дыму і пылу; «Ён жывы», з роспаччу кінутае ў слухаўку, павешаньне бунтаўнікоў на раяльных струнах, твар фюрэра, які зноў і зноў праглядае зьняты падчас пакараньня фільм... Невядома іншае: як выглядаў бы дзень перамогі, чыя б гэта была перамога і была б яна наогул — калі б 20 ліпеня 1944 году Гітлер не паўляжаў на дубовай стальніцы, а партфэлік не замінаў генэралам падысьці да вялікай штабной мапы.

Штаўфэнбэрг і ўсе ўдзельнікі таго замаху — у нейкім сэнсе апраўданьне Нямеччыны: апазыцыя сярод вайскоўцаў за нацыстамі была заўжды... і зусім ня кожны немец быў так ужо ачмураны каламутнай сумесьсю з дэмагогіі, крыўды і містыцызму, якую ўяўляе зь сябе гэтае простае, як куча дзярма, карычневае «вучэньне».

Аднак, рамантызуючы іхны подзьвіг — а што яшчэ рабіць з подзьвігамі — варта, здаецца, увесь час нагадваць сабе: яны не былі ні дэмакратамі, ні рэвалюцыянэрамі, ні наогул гуманістамі, гэтыя афіцэры і генэралы. Ваймарскую рэспубліку кожны зь іх ненавідзеў усім сэрцам, і, бадай, кожны марыў пра адраджэньне прускае велічы. Яны любілі і ўмелі забіваць і ўважалі сябе народжанымі для такой пачэснай місіі. А ўжо чыю душу веяць ад цела: гэта залежала ад абставінаў. 20 ліпеня 1944 гэта была дзіўная, дробная, поўная дзірак, язваў і пустотаў душа Гітлера. А празь некалькі дзён магла б быць любая іншая. Не магло толькі ня быць ніякай. Бо ў патрыёта заўжды мусіць быць вораг. А інакш які сэнс у Радзіме?

# Дар ад народу

***21 ліпеня 1999 Алесь Пушкін зладзіў пэрформанс перад адміністрацыяй Лукашэнкі***

21 ліпеня 1999 году незадоўга да паўдня да менскага Купалаўскага тэатру пад'ехаў нічым не выразны мікрааўтобус. Зь яго выйшаў доўгавалосы чалавек у чорнай камізэльцы і такіх самых чорных нагавіцах, у белай вышыванцы з нацыянальным арнамэнтам і такіх самых белых красоўках. Ён выцягнуў зь мікрааўтобуса прыгожы, сьвежапафарбаваны вазок, у якім можна вазіць што заўгодна. Напрыклад, гной. Духмяны, сакавіты беларускі гной.

У вазку і быў гной — некалькі паўнаважкіх, шчырых, ад душы накладзеных кіляграмаў. А яшчэ там ляжалі плякат «Аляксандар Лукашэнка — з народам» з партрэтам таго самага Аляксандра Лукашэнкі, шыльдачка з надпісам «За пяцігадовую плённую працу», купюра вартасьцю адна тысяча дэнамінаваных рублёў, канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 году, кайданкі і, у дадатак, узоры афіцыйнай сымболікі той дзяржавы, якая дагэтуль чамусьці называе сябе беларускай.

А яшчэ чалавек меў пры сабе вілы. Набор, які зрабіў бы гонар любому джэнтэльмэну — што ўжо казаць пра таго адзінага і першага, каму быў прызначаны гэты раскошны дар.

Нахіліўшыся, чалавек пакаціў вазок з усім зьмесьцівам у бок рэзыдэнцыі таго, хто з народам. Папярэджаныя загадзя журналісты з задавальненьнем здымалі, як ён адольвае гэты непрацяглы, але ганаровы маршрут. Насустрач чалавеку з вазком выйшаў чалавек з дручком і пісталетам. Ваяка супраць мірнага хлебароба.

«Што вы робіце?» — разгублена спытаў чалавек з дручком і пісталетам.

Недзе ў службовай інструкцыі ён чытаў пра загадкавых данайцаў, якія часам, пры неспрыяльнай крымінагеннай абстаноўцы, прыносяць несанкцыянаваныя дары. І цяпер пакутліва спрабаваў вызначыць паходжаньне госьця — ці падобны ён да «ліца данайскай нацыянальнасьці» і ці носяць данайцы даўгія валасы. Напэўна, трэба было праверыць у чалавека з вазком пашпарт... Але было невядома, ці ёсьць у РБ з той Данаяй дыпляматычныя стасункі. Усё было туманна, цьмяна і хістка, як вазок з гноем. А асоба, якая стаяла перад ім, была на галаву вышэйшая за ўсіх супрацоўнікаў аховы.

«Што вы робіце?» — перапытаў ён жаласьліва.



«Так трэба», — сувора адказаў чалавек з вазком, упарта працягваючы каціць яго наперад.

Толькі калі да дзьвярэй рэзыдэнцыі заставалася мэтраў сем, чалавека ўдалося спыніць. Чалавек вываліў зьмесьціва вазка на вычышчаную да бляску плітку, паклаў зьверху плякат і праткнуў усё гэта віламі. І неўзабаве сядзеў у апорным пункце на Карла Маркса. Данайскага пашпарта ў яго кішэнях не аказалася — толькі тысяча беларускіх рублёў.

«Імя?» — строга запыталіся ў яго ахоўнікі правапарадку, беларуска-данайскай дружбы і тратуарнай пліткі.

«Імя маё невядомае, подзьвіг мой бесьсьмяротны», — урачыста адказаў чалавек у вышыванцы.

І тут у рыцараў дручка і кінжала цярпеньня ўжо не хапіла.

«Ды ведаем мы, — сказалі яны хорам. — Пушкін! Ты ж Пушкін».

І, спалохана азіраючыся адзін на аднаго, яны шэптам прадэклямавалі:

«Я выйшаў рана, да зьвязды;
Рукою чыстай і бязьвіннай
Ў парабашчонныя бразды
Брасаў жывіцельнае семя —
Но пацыраў я толька ўрэмя,
Благія мысьлі і труды...
Пасіцесь, мірныя народы!
Вас не разбудзіць чэсьці кліч.
К чаму стадам дары свабоды?
Іх доўжна рэзаць ілі стрыч.
Насьледства іх із рода ў роды
Ярмо з грымушкамі ды біч».

# Рыцар Дзіцячага ордэну

*22 ліпеня 1878 нарадзіўся Януш Корчак*

Чаму мы вырастаем рабамі, ныцікамі і садыстамі — або наадварот, вольнымі і таленавітымі дурнямі? Чаму рабоў шмат — а свабоды і годнасьці...

У самым цэнтры Менску адна мамаша гістэрычна крычыць на сваю дачку.

«Тупарылая, — паўтарае маці; ёй падабаецца гэтае слова. — Ты тупарылая, ты ні на што ня здольная, ты нічога ня можаш нармальна».

Калі чуеш і бачыш такое, чамусьці адразу прыгадваецца Януш Корчак. І ўяўляецца яго постаць, якая ідзе менскім сквэрам, спыняецца, гнеўна абарочваецца... Хочацца напісаць: дастае двуручны меч, размахваецца і... Ён і праўда быў рыцарам — рыцарам ніжняга сьвету, магістрам Дзіцячага ордэну. І пры гэтым — ніякіх сюсюсю. Толькі воля, творчасьць і годнасьць.

Безумоўна, гэты сьвет выглядаў бы крыху інакш, калі б людзі, якія жывуць у ім, трымаліся пэўных запаветаў. Няхай нават не рэлігійных, не хрысьціянскіх, а ўсяго толькі дзесяці «прыказаньняў выхаваньня» гэтага польска-яўрэйскага пэдагога і пісьменьніка, які нарадзіўся 22 ліпеня 1878 пад імем Генрык Гольдшміт і ў пачатку жніўня 1942 году выправіўся ў Трэблінку на сьмерць разам са сваімі выхаванцамі.



Пятае зь ягоных прыказаньняў гучала так: Не прыніжай.

І ня так ужо й цяжка ўявіць сабе якога-небудзь маладога бляндына — назавем яго ўмоўна Ота Мюлер — які тым сьпякотным жнівеньскім днём 1942 году падганяў прыкладам жудасную працэсію зь дзяцей і дарослых, што цягнулася па варшаўскіх вуліцах у бок вакзалу: вучні-сіроты пад сьцягам караля Мацюся і іх маўклівы, велічны настаўнік. Гэты Ота Мюлер, горда ўзвышаючыся над стрыжанымі, нахіленымі долу галовамі, рупліва сачыў, каб усе без вынятку яўрэі селі ў цягнік да Трэблінкі, ён падганяў іх і пры гэтым радасна крычаў — і крыкі гулка адбіваліся ў мурах гета; ён, Ота Мюлер, шчыра лічыў, што робіць сьвет лепшым. Яго таксама выхавалі тата з мамай. Якія вельмі хацелі зрабіць зь яго чалавека.

**Не чакай, што тваё дзіця будзе такое, як ты, або такое, як ты хочаш. Дапамажы яму стаць не табой, а сабой.**

**Не патрабуй ад дзіцяці платы за тое, што ты зрабіў для яго.**

**Не спаганяй на дзіцяці свае крыўды.**

**Ня стаўся да праблемаў дзіцяці звысоку.**

**Не прыніжай.**

**Самыя важныя сустрэчы — зь дзецьмі.**

**Не дратуй сябе, калі ня можаш нешта зрабіць для дзіцяці. Дратуй, калі можаш, але ня робіш.**

**Дзіця — не тыран. Ён — каштоўны Кубак, які жыцьцё дало табе на захаваньне.**

**Умей любіць чужое дзіця. Не рабі чужому тое, што не хацеў бы, каб рабілі твайму.**

**Любі сваё дзіця любым. Неталенавітым, няўдалым, дарослым.**

...Пэўне, толькі той, хто парушыў усе дзесяць божых прыказаньняў, можа сказаць, што нешта ведае пра гэты сьвет. Не забіўшы асла, не пераспаўшы з чужым богам і не забыўшыся хаця б раз на дзень суботні — як можна прэтэндаваць на нейкую веду? Але такіх дасьведчаных грамадзянаў мала — і ўсе або ў магіле, або ў турме, або на высокіх пасадах, такіх, што не дацягнуцца.

І ўсе яны былі дзецьмі, і ўсе гараць у пекле. Калі пасьля Трэблінкі ўсё яшчэ можна верыць у пекла і рай.

# Адным махам

***23 ліпеня 1802 памерла герцагіня Альба, зь якой, па чутках, Францыска Гоя пісаў сваіх «Махаў»***

22 ліпеня 1802 Марыя дэль Піляр Тэрэса Каэтана дэ Сільва і Альварэс дэ Таледа, трынаццатая герцагіня Альба, ладзіць у сваім мадрыдзкім палацы Буэна Віста прыём у гонар заручынаў пляменьніцы. Зрэшты, пляменьніца яе амаль не цікавіць — перш-наперш герцагіня заклапочаная сабой: Марыяй дэль Піляр Тэрэсай Каэтанай дэ... ну, і гэтак далей. Расчырванеўшыся, яна водзіць гасьцей па залях палаца; урэшце яны апынаюцца ў майстэрні мастака, які жыве пры Каэтане.

«Здаецца, нашая Маха выпіла з ранку лішняга», — кажа з гнюснай усьмешкай першы міністар Гадой на вуха камусьці зь сяброў. Бо герцагіня і праўда паводзіцца дзіўна: як нейкая малярка з карціны савецкага мастака Грыміцкіх, яна ходзіць вакол мальбэртаў і падрамнікаў і пры гэтым чытае гасьцям лекцыю пра фарбы. Госьці гідліва прынюхваюцца — яны ня звыклі бавіць час на кухні. Нават на такой.

«Гэта сьвінцовыя бялілы, а вось мая любімая — нэапалітанская жоўтая...» — з задавальненьнем кажа герцагіня, падносячы фарбы да самага носа — таго самага каштоўнага носа, за які ідальга гінулі дзясяткамі, а кабальера сотнямі — і ўдыхаючы іхны рэзкі пах. — «А гэта кінавар — сьмяротная рэч... Капнуў у віно і шэдэўр гатовы».



І герцагіня пачынае рагатаць — ды ніяк ня можа спыніцца. Гадой крадком жагнаецца. Д'ябал, якога прынёс у дом Альбы гэты мастак, дакладна пасяліўся ў душы герцагіні.

Скрыжаваўшы на грудзях рукі, да дзікага сьмеху Альбы прыслухоўваецца сам жывапісец — Францыска Гоя. Назаўтра раніцай ён даведаецца, што ягонай Каэтаны, а таксама Марыі, Тэрэсы, дэ Сільвы і Альварэс дэ Таледа, герцагіні Альбы, больш няма. Уначы яна памрэ ад атручэньня. Гоя зусім ня зьдзівіцца — яна ж столькі разоў казала яму, што хоча памерці маладой і прыгожай... Такой, як на яго карцінах.

Пісаў Гоя сваіх Махаў з герцагіні Альбы або зь нейкай іншай жанчыны, ці нават жанчын — так і застанецца нявысьветленым пытаньнем. Маха Дэснуда глядзіць на Маху Вэстыду зь нямым пытаньнем у вачах: я — гэта ты? Я была табой, адказвае Вэстыда. А цяпер мы абедзьве зробленыя з пустаты, зь нічога. Мы — сон Францыска Гоя, мы яго вечнасьць.

Для пачатку дзевятнаццатага стагодзьдзя гэта быў амаль што парнаграфічны твор: пасьля зьяўленьня «Апранутай Махі» карціны былі счэпленыя, атрымалася нібы кніга зь дзьвюма старонкамі: і той, хто наважваўся перагарнуць Апранутую — мог наталіцца ненатольным целам Аголенай. Кажуць, такую замову зрабіў Гоя сам Гадой — былы каханак Альбы. Кожнае адзеньне — саван, а дзьве старонкі — ужо сюжэт: пра схаваную ад сьмерці прыгажосьць, пра ўратаваную ад забыцьця спакусу.

Апрануць як сьлед Сатурна, які ласуецца сваім сынам, ды так, што ўва ўсіх канібалаў і іншых лектараў гэтага сьвету сьлінкі цякуць па аўдыторыі, Гоя ў канцы жыцьця так і не наважыўся. Таму нічога ў гэтым творы не адцягвае монстра ад справы. Ён, Сатурн, таксама хацеў памерці маладым і прыгожым. Але там, дзе сваволная maja трапляе ў цэль, сьмерць звычайна прамахваецца.

# Пячора ўнаймы

*24 ліпеня 1925 у беларускай мове было забаронена слова «жыд»*

Раніцай 24 ліпеня 1925 году на Беларусі зьніклі жыды. Замест іх на абшарах Радзімы зьявіўся народ, які дагэтуль тут мала хто бачыў — яўрэі. «...*Считать необходимым — изживать из употребления в белорусском языке слова „жыд“, заменив его словом „яўрэй“*, — гаварылася ў пастанове Бюро ЦК КП(б)Б. — *Для этого в дальнейшем дать соответствующие директивы коммунистам — иметь в виду настоящее постановление в своей работе, в частности по Инбелкульту и Госиздату*».

Пра беспартыйных, «сочувствующчіх», розных «попутчікоў» і «эклектыкаў» у пастанове нічога не гаварылася. І яны яшчэ доўга ўжывалі слова «жыд», чарнасоценцы паганыя. Бо для таго, каб цябе назвалі чарнасоценцам, часам хопіць трох літар тваёй роднай мовы. Што ў 1925-м, што ў 2013-м.

...Вусьцішна робіцца, калі адна мова пачынае гаспадарыць у доме другой. Гаспадарыць не раўнуючы як нахабны сусед, які, заседзеўшыся да паўночы ў гасьцях, спустошыўшы лядоўню, выпіўшы ўсю самагонку і пераставіўшы мэблю, раптам абвяшчае, што ён, «пажалуй», паселіцца тут навечна. Менавіта такая гісторыя, здаецца, і адбылася з гордым беларускім словам «жыд». Адбылася гісторыя, а Гісторыя скончылася: беларуская мова апынулася на адно слова далей ад Эўропы — і гэта толькі здаецца, што адлегласьць у адно слова дастатковая, каб пасьпець ускочыць у апошні вагон цягніка. Мова, зьбяднелая на адно слова, здольная выжыць. Але мова, у якой словы крадуць ледзьве ня кожны дзень, — ужо ня мова, а крымінальная справа.



Процьма народу пасьля гэтае пастановы ЦК аўтаматычна зрабілася пячорнымі антысэмітамі. У тым ліку самі жыды, прынамсі тыя, якім яшчэ ўчора і ў галаву не прыходзіла выракацца такога падазро-о-о-нага беларускага назову сваёй нацыі. У антысэміта ператварыўся, напрыклад, Зьмітрок Бядуля. Што да беларусаў, дык у пячору да жыданенавісьнікаў трапіў Янка Купала. Супраць «усебеларускіх жыдоў» ён нічога ня меў, пісаў пра іх вершы і ўважаў за паўнапраўную частку новай супольнасьці (хаця і неяк няўклюдна заклікаў іх «сплаціць свой доўг прад Беларусьсю» — бо «жыды ж ёсьць жыды», яны ўсім нешта вінныя, і «нармальнага» чалавека цяжка пераканаць у адваротным, а Купала быў «нармальны»).

Цяжка знайсьці больш бессэнсоўны занятак, чым помсьціць мове за шавінізм, жорсткасьць і тупасьць асобных яе носьбітаў. Цяжка ўявіць сабе, каб немцы, у мэтах пераадоленьня нацысцкай спадчыны, узялі б і адмовіліся пасьля вайны ад слова «Jude». Але ўявім: няма слова — і ўсё, нацызм скончыўся і ўсе радасныя бягуць адбудоўваць сынагогі і ставіць помнікі?

Так не бывае. Ірацыянальны страх перад мовай — гэта, відаць, беларуская асаблівасьць. Нам наогул лепш маўчаць. Тады і вершы пішуцца, і ежа з рота не вывальваецца, і ўвагі ніхто не зьвяртае, і верагоднасьць быць запісаным у чарнасоценцы і нацысты значна меншая. Бо, ужываючы слова «жыд», ты міжволі азіраешся — ці не пачуў хто. Крыўда будзе вялікая, а помсьціць будуць не табе, а мове. Дык не падстаўляйма беларускую. Яўрэі дык яўрэі. Атос, Партос, д'Артаньян, Кампраміс.

# Паводле хіміі

*25 ліпеня 1895 Кюры жэніцца з Складоўскай*

...Празь некалькі дзён ён здолеў нарэшце зблізку разгледзець яе пальцы — доўгія, з празрыстай скурай, на якой выразна былі відаць сьляды ад кіслаты. Гэтыя адмеціны ўсхвалявалі яго больш за ўсё — перад яго вачыма былі пальцы сапраўднага навукоўца, а значыць, выбар быў зроблены слушны. Яму не цярпелася застацца зь ёй сам-насам: ня ў спальні, не ў будане ля мора, і не пры сьвечках з пошлым шампанскім — а дзесьці ў прыстойнай лябараторыі з сучасным абсталяваньнем. І як найхутчэй заняцца тым, чым і мусяць займацца нармальныя закаханыя: радасным радыем, палкім палёніем, іянічнымі іёнамі, зьляканымі электронамі ды іншымі цяжка ўяўнымі рэчамі, ад якіх кроў пачынае бурліць у жылах, круціцца галава і займае дых...



25 ліпеня 1895 году ў мэрыі францускага мястэчка Со было нешматлюдна; чыноўнік, адказны за рэгістрацыю сьмерцяў і шлюбаў, выглядаў незадаволеным.

«Што за часы», — думаў ён скрушна,назіраючы за чарговай парай: жаніх яшчэ туды-сюды, але нявеста! Ніякай табе белай сукенкі — нейкі сіні ваўняны скафандар, надзеты на паласатую блюзку... Ніякае прычоскі, над якой чараваў усю ноч круглабокі парыскі майстар, валасы сьцягнутыя ў просты вузел — нейкая, прабачце за выраз, хвэміністка. Чыноўнік звыкся, што ў кожным воку нявесты звычайна сьвеціцца па калькулятары: што, па чым, колькі, за які кошт — а тут хутчэй нейкая суцэльная табліца Мендзялеева пад бялёсымі вейкамі. І гасьцей малавата: купка спадароў і спадарыняў з паўасьлеплымі ад начнога чытаньня зрэнкамі і нейкі стары паляк. І галоўнае — пры гэтым нявеста, здаецца, абсалютна шчасьлівая.

«П'ер Кюры і Мары... эээ... Скаладофскі... Імем Рэспублікі абвяшчаю вас мужам і жонкаю», — хрыпла сказаў чыноўнік, грукнуў пячаткай і пусьціў сьціплую дзяржаўную сьлязу.

Яны выйшлі з мэрыі і селі на ровары. Грошай у кішэнях акурат хапала на тое, каб купіць у суседняй вёсцы хлеба, сыру і віна. Так пачаўся іх мядова-радыеактыўны месяц, а далей было шчасьце, формулу якога можна перадаць хіба што цытатаю зь Віктара Жыбуля:

Літый, натрый, магній, калій  
Скандый, кальцый, стронцый, галій,  
Эрбій, тулій, сера, хлёр,  
Мендзялевій, цэзій, фтор.  
Кадмій, марганец, самарый,  
Каліфорній, фэрмій, барый,  
Вісмут, плаціна, аргон,  
Вадарод, азот, ксэнон.

# Шырыня і традыцыі

***26 ліпеня 1826 адбыўся апошні акт інквізыцыі ў Гішпаніі***

Гэта была звычайная бочка-кадушка, якую невядомы мастак размаляваў прыгожымі, хаця й трохі нехлямяжымі языкамі полымя. Малюнак быў зроблены на замову валенсійскай Хунты па справах веры, якую ўзначальваў мясцовы біскуп — на двары была першая палова XIX стагодзьдзя, і карыстацца сапраўдным агнём ды напаўняць горад смуродам смажанага чалавечага мяса было ўжо неяк не сучасна. Бо інквізыцыя таксама ідзе ў нагу з часам — хай сабе і кульгаючы. А сьляды крыві за ёй падатрэ гісторыя.

Тая агністая кадушка прызначалася для цалкам канкрэтнай асобы і пуставала нядоўга. Два гады перад тым пад Валенсіяй быў арыштаваны настаўнік Каэтана Рыполь, вэтэран вайны супраць францускіх акупантаў, вязень напалеонаўскіх турмаў і, як высьветлілася, ня надта добры каталік, які «адгаворваў вучняў хадзіць у царкву да малітвы, прычасьця і споведзі». Два гады яго пераконвалі кінуць дурное. «Я веру ў Бога, але не хачу быць каталіком», — цярпліва тлумачыў Рыполь. Праз два гады цярпеньне скончылася, але не ў настаўніка, а ў сьвятых айцоў.



26 ліпеня Каэтана Рыполь быў урачыста павешаны на галоўнай плошчы Валенсіі. Інквізыцыі, якая справядліва лічыла сябе канторай з традыцыямі, гэтага, вядома, было замала. Пасьля таго, як доктар канстатаваў сьмерць, труп настаўніка быў зьмешчаны ў тую размаляваную кадушку і ў такім выглядзе закапаны там, дзе хаваюць самагубцаў і адлучаных ад царквы. Рыполь быў сымбалічна спалены — але зусім не сымбалічна забіты: лібэралізацыя, мадэрнізацыя і дыялёг з Захадам у адной кадушцы. Яшчэ і дровы зэканомілі.

Спапялёнаму ў ачышчальным гуашавым агні Каэтана Рыполю было наканавана зрабіцца апошняй ахвярай гішпанскай інквізыцыі. Пасьля ягонай сьмерці пра тое, што інквізыцыя — гэта архаічна, негуманна і негігіенічна, загаварыў увесь сьвет. Кароль Фэрдынанд VII быў нават вымушаны адмяніць злавесныя хунты — але інквізыцыя як інстытут была скасаваная ў Гішпаніі толькі празь дзевяць гадоў, пасьля сьмерці караля. Незадоўга да таго, як з Барсэлёны выправіўся першы гішпанскі паравоз. Па чыгунцы, каляіна якой шырэйшая за эўрапейскую — зусім як у нас, нават яшчэ шырэйшая.

Карыда ў Гішпаніі не забароненая дагэтуль. Вось што значыць вернасьць традыцыям. Каляінам, кадушкам і каралю.

## Ленін у Цюмені

*27 ліпеня 1941 мумію Леніна вывозяць з Масквы*

Ёсьць у Азіі такія гарады: Масква і Цюмень. Адзін зь іх ня так ужо і далёка, а другі дык і на мапе ня знойдзеш. Часам у гэтых населеных пунктах слухаюць радыё, а бывае, што і тэлевізар глядзяць. Вось і тым крывавым летам бяз радыё не абышлося.

«Таварышы! Грамадзяне! Браты і сёстры! Байцы нашай арміі і флёту! Да вас зьвяртаюся я, сябры мае!»

3 ліпеня 1941 году Сталін апраўдваўся па радыё перад народам — а сам тым часам думаў-гадаў, што рабіць зь ёй, муміяй. Мумія ляжала ў маўзалеі і ўсім сваім выглядам паказвала, што так, правільна ты, Іосіф, надоечы лёкаям сваім ляпнуў: менавіта «прасралі» вы маю ленінскую спадчыну, лепшага слова й не падбярэш. Пакінуць бы цябе ў сталіцы, гнілушка, помсьліва падумаў правадыр. Скора тут будуць немцы — яны цябе ў Бэрлін завязуць, у кунсткамэру зоалягічнага музэю. Сталіну хацелася ўцячы з Масквы куды далей. А мумія хай сама сябе ратуе.



Аднак геніяльнасьць ёсьць геніяльнасьць, яна вымагала іншых, больш хітрых рашэньняў. Як кажуць у Масквах і Цюмянях, назваўся друзам, лезь у варанок. Чакаць немцаў застаўся Сталін, а надакучлівы труп 27 ліпеня выправіўся ў эвакуацыю, у горад Цюмень. На трох цягніках: у першым ахова, у другім мамкі-нянькі і сам фараон, у трэцім — зноў ахова. Недзе ў Сібіры ў акно другога цягніка кінуў сьнежку нейкі дзесяцігадовы тэрарыст. Яго расстралялі каля найбліжэйшае елкі.

У Цюмені муміі не спадабалася, яна адразу ж пачала чарнець. Ці то адной хлапечай душы ёй было мала, ці то цюменскі загар браўся занадта добра. Прафэсар, што быў прыстаўлены да муміі ў якасьці гіда па царстве мёртвых, ледзь не памёр ад страху. Ён спаў з муміяй у адным саркафагу, грэў яе ўласным целам, а калі гэта не дапамагло, адчайным лістом у Маскву выпрасіў сабе дадатковы ўзвод байцоў НКУС і батальён народных артыстак. Цяпер мумію грэлі ўсім вялікім дружным калектывам: зьверху прафэсар, збоку артысткі, з другога боку байцы. Пакрысе мумія пачала набываць нармальны колер. Прафэсара, праўда, усё адно пасадзілі, бо зашмат ведаў і не абы каго грэў — але вайна на той час ужо скончылася, Сталін лёг зь Леніным, Гітлер з Эвай Браўн, рабочы з калгасьніцай, мёртвыя да мёртвых, жывыя да жывых.

# Загадчык складу

*28 ліпеня 2348 да н. э. Ной адчыняе акно ў каўчэгу і выпускае галубоў*

«Ня ной», — сказала яму жонка і паклала слухаўку.

Дождж ішоў у Менску ўжо месяц. Спачатку, як водзіцца, затапіла Нямігу, потым станцыю мэтро каля парку Чалюскінцаў. Потым увесь Менск неяк пляснуў, хлюпнуў, булькнуў і папоўз у бакі, нібыта быў зроблены з паперы. Дождж. Зь ім можна было б звыкнуцца, калі б ён даваў хаця б трохі пярэдыху. Ці хаця б вясёлку па выходных — гэты эрзац салюту. А так — гэта нагадвала нейкае катаваньне музыкай: калі ўвесь час слухаеш той самы матыў, на сьценку палезеш ад тугі. Як людзі лезуць з вады падчас паводкі на ўсё, што яшчэ можа ўздымацца над паверхняй: на слупы, помнікі, дахі, на супрацоўнікаў МНС, на шыю бацькам і дзяржаве, на дрэвы, якія раптам зрабіліся такія малыя, як у дзяцінстве. Зь лілёвых хмараў ліло за каўняры дамоў, проста ў торбы з дакумэнтамі, сакрэтнымі і не зусім, Менск струменіў, цырчэў, булькатаў, адплёўваўся і пеніўся, Менск стаяў пад душам, а дождж стаяў над душой.

«Ня ной».

Яна была моцная жанчына і не баялася дажджу. Яна лічыла, што ён хутка скончыцца. Таму што прагноз быў суцяшальны. Ён і месяц таму быў суцяшальны. І калі яны жаніліся, ён быў вельмі спрыяльны, гэты прагноз. А цяпер яму хацелася павесіцца.



Ідучы па калена ў вадзе на працу, ён раптам адчуў, як нехта схапіў яго за нагу. Гэта быў вадалаз. Ён вылаяўся. Вадалаз, напэўна, таксама. Так яны доўга стаялі і лаяліся. Праз гэта ён спазьніўся на працу. Калі прыйшоў на склад, абодва ягоныя памочнікі-недарэкі ўжо сядзелі ля калярыфэра — сушылі пер’е. Справа Голубеў, а зьлева Воронін. Ці наадварот. Ён заўжды іх блытаў.

Чаго сядзім? — кінуў ён замест прывітаньня, і яны нехаця падняліся. Замычалі нешта, а што — хто іх разьбярэ.

Шэф зьявіўся хвілін празь пятнаццаць, і сёньня ён быў відавочна не ў гуморы. Кінуў парасон у кут, зьняў рыбацкія гумовыя боты да калена, пасьпешліва падышоў да стэляжоў, на якія абы-як быў напханы тавар, бясконцыя бляшанкі з тушонкай: сьвініна, ялавічына, цяляціна, каніна, кураціна, індычаціна, трусяціна, кансэрвы: ласось, стронга, скумбрыя, шпроты, а яшчэ разнастайныя слоікі: марынады, мідыі ва ўласным соку, лісічкі, гуркі, перцы, масьліны і іншыя дары прыроды — усё гэта цьмяна паблісквала ў сьвятле адзінай на складзе лямпачкі.

Так, — сказаў заклапочана шэф і паглядзеў яму проста ў вочы. — Справы такія. Пакідаем тут кожнага гатунку па дзьве штукі. Астатняе сьпісваем нафіг. Праз гадзіну машына прыедзе, забярэ. Часу мала. А ты...

Шэф задумаўся.

Ты сёньня нікуды не сыходзіш. Пасьля абеду забіраеш сына, жонку і сядзіш зь імі тут. Да ўпору. І, галоўнае, дзьверы замкнуць не забудзь.

А вы?

А мне трэба зьнікнуць. Тэрмінова.

Мікалаіч, дык а як жа...?

Ня ной, — пахітаў галавой шэф. — Паслухаеш мяне — можа, усё яшчэ і абыдзецца. Ну, мне пара, давай.

І, забыўшыся пра парасон, шэф выскачыў пад дождж. Як быў, у пінжаку. Нават рукі не паціснуў.

Чулі, што шэф сказаў? — гыркнуў ён на Голубева і Вароніна. — Кожнага па дзьве штукі, астатняе выносім у двор. Потым сядзім тут, нікуды не выходзім. Вы мне яшчэ спатрэбіцеся.

А сам узяў шэфаў парасон і, уцягнуўшы галаву ў плечы, паскакаў па кладцы ў бок праспэкту. Насустрач яму паволі плыў труп сабакі. Чорнага, пародзістага. Ён адштурхнуў яго канцом парасона, лёг у ваду і падставіў твар цяжкім, як аплявухі, кроплям.

# Атэіст Божай ласкай

*29 ліпеня 1983 памёр Люіс Бунюэль*

Калі Бунюэлю было ўжо семдзесят, у сьне да яго прыйшла найсьвяцейшая Панна. У сьне грала Шубэртава «Трэцяя песьня Элен», Марыя ласкава гаварыла зь ім, «лютым атэістам», а сам грэшнік «стаяў, укленчыўшы, з вачыма, поўнымі сьлёзаў, адчуўшы, як напаўняецца верай, трапяткой і непахіснай».

Я глядзела твае фільмы, — сказала Панна. — У іх шмат моцы.

Я здыму фільм пра цябе, — усклікнуў рэжысэр.

Лепш ня трэба, — зморшчылася Марыя. — Уяўляю, што пра мяне падумаюць. Табе ўсё адно, а ў мяне рэпутацыя.

Ён не паслухаўся — бязбожнік усё ж. Але з гэтага цудоўнага сну добрага фільма не атрымалася. Усё было блякла і невыразна. Божай ласкай атэісту было пра што задумацца. Рэпутацыя Марыі не пацярпела — а рэжысэр перажыў першае вялікае расчараваньне.



3 сьнежня 1930 у адным з парыскіх кінатэатраў паказвалі ягоны «Залаты век». Пасярод сэансу ў залю ўварваліся бравыя малойцы, пачалі перакульваць крэслы, зрываць са сьценаў карціны абстракцыяністаў, аблілі экран атрамантам, распылялі сьлезацечны газ. «Сьмерць яўрэям і бальшавікам!» — крычалі гэтыя маладыя французы. Нават сон не бывае апалітычным. Нават атэізм можа быць рэлігійным. Нават кіно можа не існаваць.

А калі двое бязбожнікаў спалучаюць свае сны ў адзін — зьяўляецца новая вера. А калі трое? Дзесяць? Так і адбылося з Бунюэлем: спачатку яго паплечнікам быў Далі, потым Брэтон, які заклікаў выходзіць увечары на вуліцы і страляць у натоўп, у каго-небудзь ды патрапіш — і які называў гэта мастацтвам. А за імі — цэлая хрэстаматыя іншых паэтаў і мастакоў. Цэнтар нездаровага сну ў сусьветным Палацы культуры.

Бунюэль вызваліў кіно ад гледача — а заадно і ад панаваньня сымбаляў. Усё, што адбываецца ў яго найлепшых фільмах, нічога ня значыць і нічога не ўвасабляе. Дасягненьне? Вядома. Толькі так можна застацца чалавекам у сьвеце, дзе нішто — лаянка. Дарэчы, Валянціна Акудовіча можна было назваць Бунюэлем беларускай філязофіі — цудоўнага жаху ў ім ня менш, а яго кнігі цалкам можна экранізаваць. Рэдкасьць для філязофскіх трактатаў.

Першыя фільмы Бунюэля выклікаюць адчуваньне, што ты паглядваеш. Вельмі падобны эфэкт маюць, дарэчы, і раманы Роб-Грые. Рэчы, пазбаўленыя абрыдлага сымбалізму, паўстаюць у сваёй першабытнай красе. Позьні Бунюэль — гэта ўжо запрашэньне да гульні. Да шпацыру ў чужым сьне. Пароль: калыханка. Словы кожны вольны прыдумаць сам. А ня можаш — калі ласка: ноч, вуліца, рэвальвэр.

Ён памёр праз трынаццаць гадоў пасьля сустрэчы з Паннай, 29 ліпеня 1983 у Мэхіка. А «Андалюскі сабака» дагэтуль гуляе па сьвеце. Ад мёртвага асла вочы глядзяць на нас, нічога ня значачы, нічога ня кажучы, абуджаючы ў нас нішто.

# Memento Medininkai

***30 ліпеня 1991 учынены напад на літоўскі памежны пункт каля Меднікаў***

Не люблю слова «нашы». Яно антыгістарычнае і бессэнсоўнае. І да таго ж запэцканае ў кроў. Часьцей за ўсё, ня ў нашую. А сорамна чамусьці ўсё адно нам.

«У Швэйцарыі высокія горы, у Італіі творы мастацтва, у Фінляндыі азёры, а Літва — гэта край, дзе вельмі небясьпечна жыць малому народу». Гэта з кнігі «Гісторыя Літвы», выдадзенай нядаўна ў Вільні на трох мовах — шкада толькі, беларускай сярод іх няма. «Небясьпечна...» Так некалі вызначылі адметнасьць сваёй зямлі самі літоўцы, і гісторыя ня раз даказвала, што выснова гэтая цалкам слушная. Бо калі той малы народ хоча быць вольны — а павучыцца вольналюбівасьці ў літоўцаў варта шмат каму, у тым ліку беларусам — у спакоі яго не пакінуць ужо ніколі.

У 1991 годзе на мяжы Літвы зь Беларусьсю і Расеяй ішла сапраўдная неабвешчаная вайна. З аднаго боку — незалежная Літоўская рэспубліка, якая пачала аднаўляць дзяржаўнасьць з усімі яе атрыбутамі, у тым ліку ўласнымі мытняй і памежнай службай. Вядома, ні мытня, ні памежная служба не належаць да найлепшых прыдумак чалавецтва, але калі там, з другога



боку, шалее атупелы ад бясьсільля, пражавелы савецкі кібарг, якому заставалася клэпаць па зямлі лічаныя месяцы і які звыкся прымаць розныя аблічча, каб адцягнуць сваю непазьбежную гібель — бязь іх не абысьціся.

Перастрэлкі, напады, рабункі... У той час і ў тым месцы кібарг абраў сабе выгляд амонаўца з аўтаматам Калашнікава і нашыўкай, на якой было слова «Наши». Атаясамліваць сябе з «нашымі» мог хіба што такі самы «наш», то бок — нармальны саўковы зомбі бяз роду-племені. «Нашы» займаліся звычайным бандытызмам — нападалі на літоўскія памежныя пункты, падпальвалі іх, зьбівалі мытнікаў і памежнікаў, зрывалі сьцягі — часам за імі бегаў жвавенькі расейскі журналюжка і здымаў рэпартажы пра «нашы» геройскія подзьвігі.

Калі гэта і праўда для кагосьці былі «нашы» — лепш усё жыцьцё жыць сярод чужых. Нашымі былі літоўцы. Нашымі былі ўкраінцы. Нашымі былі палякі. Знацца з кібаргамі і зомбі не хацелася нікому. Ня хочацца і цяпер. Хіба што ў навуковых мэтах. Пабачыць на свае вочы, як выглядае нянавісьць асуджанага на выміраньне агрэсіўнага расейска-савецкага ідыёта. Не адвярнуцца, дасьледаваць, не забыць. Памятаць ёсьць пра што. Прыкладам, пра Меднікі-Medininkai. І пра тых суайчыньнікаў, якія тады спрабавалі апраўдаць пачвару ў імя нейкіх там сваіх «ідэалаў». «Нашых ідэалаў» — скажуць яны.

У ноч з 30 на 31 ліпеня 1991 году вайна зрабілася самай сапраўднай. Паміж трыма і шасьцю гадзінамі раніцы у літоўскі памежны пункт каля Меднікаў уварваліся некалькі «нашых», верагодней за ўсё, з рыскага АМОНу, загадалі ўсім легчы на падлогу і стрэламі ў патыліцы забілі шэсьць літоўскіх службоўцаў. Яшчэ адзін памёр у пачатку жніўня ў шпіталі, яшчэ адзін цудам выжыў і зрабіўся пастарам. Аднаго з забойцаў нядаўна асудзілі, іншыя хаваюцца — хутчэй за ўсё, у Расеі. Ці — у Беларусі.

Звычайнае забойства — у якога мог быў толькі адзін матыў. За «нашых». За цара, веру і ацечаства. Тры рэчы, якія апраўдаюць усё. Калі ты «наш», вядома.

# Цяжкі спосаб кінуць курыць

***31 ліпеня 1965 у Вялікай Брытаніі забароненая рэкляма цыгарэт на ТВ***

Невядома, ці курыў бацька Джоан Роўлінг — але, так ці інакш, для яго 31 ліпеня 1965 было, пэўне ж, шчасьлівым днём, бо менавіта тады згаданая Джоан і зьявілася на сьвет. А вось для вытворцаў тытуню гэта абсалютна чорная дата — бо менавіта ў гэты дзень у Брытаніі ўвялі забарону на тэлевізійную рэкляму цыгарэт. Наступны раз тытунёвыя вырабы зьявяцца на экранах брытанскіх зомбаскрыняў ажно праз сорак зь лішкам гадоў — у выглядзе электронных самакрутак, гэтых партатыўных прасаў, пару якіх прапануецца ўдыхаць і ўяўляць пры гэтым смалісты цыгарэтны дым. Калі фантазіі хопіць.

І пры чым тут аўтарка Гары Потэра, напрошваецца пытаньне. Ды ні пры чым. Да тэмы яна мае роўна гэткае самае дачыненьне, што і рэкляма цыгарэт да барацьбы з курэньнем. Ці сталі брытанцы курыць меней, пасьля таго як цыгарэты зьніклі з тэлевізараў? Не. Яны пачалі курыць яшчэ больш. Відаць, тытунь — гэта такі від атруты, які ўжо даўно ня мае патрэбы ў рэкляме і не залежыць ад яе капрызаў. Курца тэлевізійным вобразам цыгарэты завабліваць ня трэба — а ў таго, хто яшчэ не пачаў, і без тэлевізара хапае прыкладаў. Што да тых, хто кінуў — калі тэлевізар спакушае ізноў узяцца за цыгарэту, значыць, ня так і моцна ты хацеў пазбавіцца ад гэтай заразы. Застаюцца не-курцы. Але якая ім карысьць ад забароны цыгарэт на тэлевізіі, ёсьць таямніцай за сямю акцызнымі маркамі. Напэўна, гэтая мера дае ім пачуцьцё ўласнае значнасьці. І спакойны сон.



Брытанская забарона 1965 году зрабілася першым сур'ёзным выклікам курэньню. Першы разьдзел Вялікай Кнігі Змаганьня. Але і самыя мудрыя з курцоў не здагадваліся, што будзе далей. Ужо праз год на пачках зьявілася антытытунёвая проза, якую так цікава чытаць, бываючы за мяжой — «Курэньне забівае і іншыя прыгоды маленькага Недакурка». У 1971 тэлевізійная рэкляма цыгарэт забароненая ў ЗША, у другой палове васьмідзясятых там пачынаецца барацьба з курэньнем у самалётах. А далей... Далей вядома што. Усё пачалося з тэлевізіі — а скончылася выгнаньнем курца на маргіналіі, у рэзэрвацыі, абвяшчэньнем яго пэрсонай нон-грата паўсюль, дзе толькі можна, разарэньнем, прыніжэньнем, зьнішчэньнем. Да нас ставяцца як да небясьпечных вар'ятаў...

І слушна робяць, дарэчы. Нас бы наагул забараніць. Сьцерці зь зямнога аблічча. А замест нас павесіць паўсюдна рэкляму харошых і карысных рэчаў. Марыхуаны, напрыклад. Або эўрапіва — у якога адзін смак, дзе б ты яго ні піў. І ніякай прозы.

# Крылцы на пятках Фэміды

*1 жніўня 1914 Кафка пачынае працу над раманам «Працэс»*

Макс Брод быў мала таго што пасрэдны літаратар, але і кепскі сябра. Маўклівы Кафка з кубкам кавы, кашляе, кардонныя корабы, казюрка караскаецца па кафлі — лета. «Калі я памру, спалі ўсе мае рукапісы», — просіць ён, намагаючыся ўсьміхнуцца. «Ага, — адказвае Брод. — Яволь».

Ён ведае, што толькі што прагучаў тэстамэнт, магчыма: адзін з найважнейшых у ягоным жыцьці — аднак ён ня толькі ня выканае волю Франца, ён яшчэ і зробіцца ў нейкім сэнсе суаўтарам: з шаснаццаці, ці колькі іх там было, фрагмэнтаў, напісаных бязладна, поўных цемры і горычы, зь бясконцага, як кола, працэсу, з сноў і відзяжоў Брод зробіць сапраўдны Раман — у меру лінейны, сюжэтны, з эфэктнай канцоўкай: адным словам, бэстсэлер, хай сабе і не для ўсіх. Тое самае адбудзецца і зь іншымі тэкстамі Кафкі, якія хаця б неяк маглі зьвязацца ў нешта большае за асобныя маналёгі і гісторыі. Брод разумеў, што перад ім, яго інтуіцыя падказвала, які касьмічны маштаб мае насамрэч зьмесьціва ўсіх гэтых неабачліва пакінутых яму сшыткаў — але ён ведаў таксама тэхналёгію літаратурнага посьпеху. Якой мае быць кніга — каб яе прачыталі.

Кафка прыдумаў дваццатае стагодзьдзе. Кафку прыдумаў Макс Брод. Дваццатае стагодзьдзе прыдумала нас. Мы дзякуем Максу Броду. Гэта — кола. Тое, спалучэньнем якіх і ёсьць «Працэс». Чарада колаў на вадзе: Ёзэф К. раз за разам спрабуе выйсьці за межы свайго «я», у кожным з «разьдзелаў» — і кожнага разу вяртаецца туды, дзе быў. У пекла сваёй Прагі — непазнавальнай у «Працэсе», нібы пасьля ста гадоў акупацыі.



Тое, што зробіцца «Працэсам», было пачатае прыкладна 1 жніўня 1914 году. Хаця імя Ёзэф К. мільгае ў тэкстах Кафкі ўжо ў апошніх дня ліпеня. Ён не называў і не лічыў раманам тое, што піша; кожнаму, хто знаёмы з Кафкавым пісьмом, яго стылем, яго стаўленьнем да літаратуры, цяжка ўявіць сабе гэтага пісьменьніка, які старанна выводзіць уверсе тытульнага ліста кароткае і прэтэнцыёзнае «Roman». Кафка проста пісаў, пісаў тэксты — адзін за адным, пакуль не адпускала. Ліпень 1914 году быў для яго, бадай, самым цяжкім: перад тым, як пачаць сэрыю тэкстаў, што пазьней зробяцца «Працэсам», была Фэліца Баўэр, зь якой ён плянаваў зрабіцца нарэшце такім, як усе — і ня змог. Была сустрэча ў кавярні з Фэліцай і Грэтай, дзе абедзьве жанчыны расклалі яго па палічках: падрабязна апісалі яму, што ў ім ня так і якія памылкі ён зрабіў. Магчыма, менавіта тады ён зразумеў, што такім, як усе — сем'янінам, мужам, бацькам, грамадзянінам — яму ўжо ніколі ня быць. Таксама прысуд. Амаль канчатковы. Амаль бяз тэрміну даўнасьці.

*«Гэта Правасудзьдзе», — патлумачыў нарэшце мастак.*

*«Так, цяпер пазнаю, — сказаў К. — Вось павязка на вачах, а вось і шалі. Але, здаецца, у яе крылцы на пятках, і яна быццам бы бяжыць!»*

*«Так, — сказаў мастак. — Я напісаў яе такой на замову. Уласна кажучы, гэта багіня правасудзьдзя і багіня перамогі ў адной асобе».*

*«Ня вельмі правільнае спалучэньне, — сказаў К. з усьмешкай. — Багіня правасудзьдзя мусіць стаяць на месцы, інакш шалі пачнуць вагацца, і тады справядлівы прысуд немагчымы».*

*«Ну, тут я мушу слухаць свайго замоўніка», — сказаў мастак.*

Самае просты спосаб прачытаць «Працэс» — гэта знайсьці ў ім антыбюракратычны патас і экзыстэнцыйны жах. Самы цяжкі, але й самы слушны — прасачыць за перамяшчэньнямі К. і пачуць у пэўны момант, як стракочуць лёгкія крылцы усёпераможнай Фэміды. Бо К. вяртаецца, увесь час вяртаецца, ня можа не вяртацца, яму няма куды бегчы — апрача як на Сямашкі, 33.

# Як усё было

***2 жніўня 1894 у брытанскім часопісе «Nature» упершыню паведамляецца пра ўспышкі на Марсе***

Сёньня, седзячы ў сваіх катакомбах пад Менскам — а дакладней, на станцыі мэтро Купалаўская, выхады зь якой сьцерагуць апошнія ацалелыя — самы час прыгадаць, як усё пачыналася. Клятыя шчупальцы могуць зьявіцца ў любы момант — і таму хлопцам трэба быць напагатове. Мы мяняемся кожныя тры гадзіны — але людзей не хапае. Ды пакуль што на станцыі ціха... І можна распавесьці маладым, раз-пораз несумысьля зьбіваючыся з шэпту на сьціснуты крык, што пачалося ўсё гэта улетку 1894-га. Зямля была бязьвідная й пустая, і Дух Божы насіўся над вадою. Ну, не зусім пустая: на ёй існавала, напрыклад, Брытанія, а ў Брытаніі —часопіс «Nature», у нумары якога за 2 жніўня было надрукаванае паведамленьне пра яркую ўспышку на Марсе.

*«...на асьветленай частцы плянэты было відаць моцнае сьвятло, якое заўважыла спачатку абсэрваторыя Ліка, потым Пэратэн у Ніцы і іншыя назіральнікі. ...Я схільны думаць, што гэтая зьява азначала адліўку ў глыбокай шахце гіганцкай гарматы, зь якой марсіяне потым абстрэльвалі Зямлю. Дзіўныя зьявішчы, дагэтуль не патлумачаныя, назіраліся паблізу ад месца ўспышкі і падчас двух наступных супрацьстаяньняў».*



12 жніўня прыкладна апоўначы астраном Лявэль на Яве зафіксаваў выбух на Марсе распаленага газу — невядомая маса пачала рухацца ў накірунку Зямлі з «жахлівай хуткасьцю». На другі дзень чалавек, якому мы абавязаныя ўсёй праўдай пра нашэсьце, сустрэўся ў Отэршоў з астраномам Огілві. Уначы яны глядзелі ў тэлескоп за Чырвонай плянэтай. Нябачныя марсіянскія снарады ляцелі на Зямлю, адольваючы некалькі міляў за сэкунду, а часопіс «Панч» друкаваў палітычныя карыкатуры на модную марсіянскую тэму. І вось надышла тая самая ноч...

Ноч, калі ўпала першая зорка.

*«Круглая, пустая адтуліна здавалася абсалютна чорнай. Сонца, якое заходзіла, біла мне проста ў вочы. Усе чакалі, што з адтуліны зьявіцца чалавек. Можа, не зусім падобны да нас, але ўсё ж чалавек. Але, зірнуўшы, я пабачыў нешта, што варушылася ў цемры — шэрае, хвалістае, рухавае, бліснулі два дыскі, накшталт вачэй. Потым нешта падобнае да шэрай зьмяі, таўшчынёй у кульбу, пачало выпаўзаць колцамі з адтуліны і рухацца, віючыся, у мой бок: адно, пасьля другое...»*

Так яны прыйшлі да нас. Галодныя да ежы. Заняпалыя да новага Lebensraum. Цывілізаваныя да дзікуноў. Крывасмокі да крывадушных. Нашыя мікробы забілі іх — але 30 кастрычніка 1938 году яны вярнуліся, узброеныя вакцынай. Пра гэта ўсё напісана ў кнігах. Старых, цудам захаваных кнігах, у якіх не хапае старонак — як у нашых хлопцаў не хапае ў каго рукі, у каго нагі, у каго носа, як у нашых жанчын почасту не хапае сілаў, каб нараджаць новых людзей. Беражыце гэтыя кнігі. У іх уся праўда пра наш род. Мы выжывем. Абавязкова выжывем. Сьмерць чужакам. Зямля для зямлянаў. Зямля ў ілюмінатары. Падуладная чужым волатам. Як вока. Як вада, як зара. Жыве. Амэн.

## Адна на ўсіх

***3 жніўня 1950 папа Пій XII абвясьціў абстрактнае мастацтва амаральным***

Ці можа мастацтва быць амаральным? Так і хочацца сказаць: не! Для мастакоў падрыхтаваны іншы суд, ня тут і не цяпер: «там разьбяруцца», як казалі, грукаючы ботамі, у 30-х гадах начныя госьці, што прыходзілі да мастакоў і ня толькі да іх. У чарзе на той суд усім хопіць месца — зь іхнымі малюнкамі, п’ескамі, зборамі твораў у дзесяці тамах і гераічнымі сымфоніямі. Божы суд, д’ябальскі, таварыскі — якая розьніца, як яго называць. Усе там будзем. Толькі вось абстракцыяністаў туды ня возьмуць. У іх будзе сваё паседжаньне, абстрактнае, і прысуд будзе адпаведны: іх раскладуць на кубікі і ромбікі. На плямкі і пляўкі. На хімэры і хімічныя элемэнты.

Аднак гэта будзе потым. Мяшаць мастацтва з маральлю да суду неяк непрыгожа. Мастацтва, якое задаецца пытаньнем, ці маральнае яно, ці якое марыць быць маральным, ёсьць марнай спробай забегчы наперад натхненьня. Таму апошняе, пра што варта думаць мастаку, гэта мараль і здаровы сэнс. Амаральным мастацтва можа быць толькі тады, калі яно — падробка. А здаровым — толькі калі прызнаць існаваньне мастацтва, якое entartet. А адтуль ужо і да біялягічна чыстага мастацтва рукой падаць. Сьлізкі шлях.

Па вялікім рахунку, Пятрусь Броўка выглядае амаральнейшым за Генры Мілера. Паводле маральнасьці зробленага. А вось паводле літаратурных крытэраў... Хто яго ведае, ці можна іх наагул ставіць перад адным судзьдзём.



Кажуць, гэта папа Пій XII 3 жніўня 1950 году не пабаяўся і абвясьціў абстракцыянізм як мастацкую плынь амаральным. Калі гэта сапраўды так, дык для папы той праклён быў добрай трэніроўкай перад энцыклікай ад 12 жніўня, дзе ён абрынаецца на ўсіх «абнаўленцаў», эвалюцыяністаў і атэістаў зь іхнымі малпамі. Рэч у тым, што Пій XII быў адным з самых актыўных і чулых да часу папаў і востра адчуваў пагрозу з боку мастакоў: відавочна, што для яго ўсе гэтыя абсурдысты, абстракцыяністы, авангардысты, сюррэалісты, «новыя раманы», тэатры жорсткасьці і гэтак далей зьліваліся ў адну жудасную антырэлігійную хвалю, што накрыла сабой хрысьціянскі сьвет пасьля вайны. Карацей, бальшавікі ад культуры. І калі ўлічыць, што Пій XII быў, напэўна, самым зацятым змагаром з чырвонай пошасьцю за ўсю гісторыю Ватыкану — дык нічога дзіўнага, што ў няшчасных нядарах-абстракцыяністах ён пабачыў ледзьве не самога Зьвера.

Напад на мастакоў — гэта, вядома, самае нявіннае, чым потым будуць папракаць папу. Калі абстракцыянізм даўно зробіцца кічам, прадуктам і закрасуе на сьцяне кожнай мяшчанскай кватэры, калі папа памрэ, а халодная вайна стане звычнай, як зімовы краявід, Пію XII яшчэ доўга будуць прыгадваць ягонае маўчаньне падчас вайны, яго бязьдзейнасьць, яго абыякавае сузіраньне Галакосту, яго заступніцтва за нацыстаў. У параўнаньні з гэтымі абвінавачваньнямі нейкія там абстракцыяністы і праўда ня вартыя ўвагі. Гісторыя апраўдае Пія: ён не маўчаў, ён рабіў што мог, лавіруючы, як сапраўдны палітык, паміж двух, а то і трох монстраў.

Цікава, што асуджэньне Піем XII абстракцыянізму адбылося ўсяго на пару гадоў пазьней, чым кампанія супраць фармалізму, касмапалітызму і эстэцтва, праведзеная ў СССР. У чымсьці яны былі ўсё ж падобныя: папа, зацяты вораг камунізму — і сам галоўны бальшавік-антыхрыст. Напэўна, рэч у маралі, адной на ўсіх, здольнай дэзынфікаваць, перамагчы і падпарадкаваць сабе ўсё — апрача мастацтва.

# Імя для краіны

*4 жніўня 1984 Верхняя Вольта робіцца Буркіна-Фасо*

4 жніўня 1983 году ў Верхняй Вольце ўладу ў свае рукі ўзяў малады ўсьмешлівы капітан Тама Санкара. Дзе мы жывем? — спытаў ён перш-наперш, выйшаўшы на балькон прэзыдэнцкага палаца, перад якім застыў звыклы да зьменаў дзяржаўнага курсу народ.

«У Ўагадугу», — шапнуў на вуха прэзыдэнту дарадца. Санкара паглядзеў на яго так пагрозьліва, што той пасьпяшаўся схавацца за калёнай.

«Дзе мы жывем?» — паўтарыў прэзыдэнт, ускінуўшы аўтамат, і рэха разьнесла ягонае пытаньне па ўсёй Верхняй, а таксама Ніжняй Вольце, закрануўшы суседнія Бераг Слановай Косткі, Бэнін, Малі, Нігер, Тога і Гану.

«У Афрыцы!» — сказаў нейкі прафэсар і быў адразу ж арыштаваны.



«Дзе мы жывем?» — сказаў Санкара, і голас яго памякчэў. — «Што гэта за назва? Праўду кажуць нашы савецкія сябры: як танкер назавеш, туды ён і паплыве. Верхняя Вольта... Знаем мы гэтых вольтаў. Герцаў, Ампэраў, Ньютанаў! Усе яны былі калянізатары і імпэрыялісты. Прапаную ад сёньня называць нашу краіну Айчынай дастойных людзей! Буркіна Фасо?»

«Буркіна», — пагадзіліся дастойныя людзі і нават рэфэрэндум праводзіць ня сталі. Бо назва ім спадабалася. І савецкім сябрам таксама.

Прэзыдэнта Санкару няцяжка зразумець. У тым ліку беларусам. Бо, чаго тут хаваць, часам і ў іх узьнікае такое жаданьне: перайменаваць гэтую краіну, ды так, каб танкер паплыў куды трэба. Варыянтаў за апошняе стагодзьдзе было прыдумана шмат, ёсьць з чаго выбіраць. А праблема застаецца. Беларутэніяй назваць не дадуць. Добрая ідэя была ў Лявона Вольскага: Мілярусь. Тут табе і «Мілавіца», тут і мілосьць, тут і міліцыя, якая з народам (праўда, расейцы ўсё адно будуць клікаць нас Мілоруссіей, а самыя несьвядомыя зь немцаў Liebrussland або Nettes Russland, што стварае нейкія зусім ужо непатрэбныя канатацыі). Літва занятая — і, здаецца, назаўжды. Крыўя — някепска, але латышы будуць блытацца. Назвацца ВКЛ непаліткарэктна. Бедарусь і Бананусь (і такое прыходзіла ў галаву айчынным літаратарам) — гучыць сьмешна. Дрыговія — не ахоплівае ўсяго абшару. Крэсамі — прыніжальна. Відаць, лепш за ўсё скарыстацца прыкладам буркінійцаў — як самага блізкага нам народу. Толькі Фасо ў нас будзе не Буркіна. А чыё?

# Місія V.R.

*5 жніўня 1882 каралева Вікторыя прымае ў сябе ўладара зулусаў*

«Калі б толькі каралева Вікторыя ведала, што вы тут з намі робіце...» — сказаў неяк уладар зулусаў Кечваё каМпанда аднаму ангельскаму чыноўніку.

Некалькі гадоў перад тым зулускае войска пад кіраўніцтвам Кечваё абсалютна нечакана разьбіла нахабных і самаўпэўненых ангельцаў ля Ізандлвана: дзедавы дзіды супраць колаў і куляў, стрэлы супраць стрэльбаў — аднак гэта была першая і апошняя перамога правадыра. Цяпер ён быў фактычна ў становішчы палоннага на сваёй уласнай зямлі і быў вымушаны бясьсільна назіраць, як эўрапейцы рабуюць ягоны народ. Дый ня толькі рабуюць, але і катуюць, прыніжаюць, няслявяць — і робяць з гэтага чыста эўрапейскае шоў. Чаго вартыя былі спэктаклі, што карысталіся сярод ангельцаў шалёным посьпехам: зулусаў прымушалі інсцэніраваць сьвецкія прыёмы на эўрапейскі манер — а «дарагія брытанскія друзья» качаліся ад рогату.



«Калі б толькі каралева ведала...»

«Дык чаму б Вашай вялікасьці не паехаць да яе і самому ўсё не расказаць?» — сьцепануў плячыма чыноўнік.

І вось улетку 1882 году інкосі Кечваё каМпанда, сын Мпанды, выправіўся ў Лёндан. Пасьмейваючыся, яму пашылі фрак — але магутны воін Кечваё, звыклы хадзіць паўголым, выглядаў у фраку настолькі імпазантна, што кпіны змоўклі, яшчэ не пачаўшыся. Ён не здымаў з галавы зулускай кароны-абруча, ён не зьбіраўся паводзіцца ў Лёндане, як пабіты васал, ён прыехаў да Вікторыі як роўны да роўнай. Лёнданскія газэты пісалі пра яго штодзень: дзе быў, што рабіў, што сказаў, у якой руцэ трымаў нож; ад яго чакалі нейкіх дзікунскіх выбрыкаў, чакалі, калі ён праявіць свае «жывёльныя інстынкты» — але пабачылі ў высокім афрыканцы столькі гордасьці і годнасьці, што пакрысе нават самыя шавіністы прасякнуліся да Кечваё павагай. Яго прынялі ўсе галоўныя лорды, яго разглядвалі ў лярнэты, а ён гаварыў: пра тое, што заўжды хацеў сябраваць з ангельцамі — і пра тое, чым абярнулася тое сяброўства. Пра яго склалі эпіграму:

> White young dandies, get away-o!
> Clear the field for Cetchwayo!

5 жніўня Кечваё прыняла сама каралева Вікторыя. І, кажуць, была зачараваная дзікуном. Але Брытанія была вышэй за сэнтымэнтальнасьць. Кечваё пакінулі траціну ягоных уладаньняў і пагадзіліся афіцыйна лічыць яго каралём зулусаў — вось і ўсё, што прывёз ён зь Лёндану.

І ўсё ж нешта у гэтых фанабэрыстых рудых брытанцах уладар зулусаў здолеў зьмяніць... Упершыню да Афрыкі зьявілася павага — яшчэ цьмяная, яшчэ напалову зь недаверам, але павага, першая расколіна ў праславутым «ярме белага чалавека». Не міне і сотні гадоў, і яго выкінуць — і жыць зробіцца лягчэй, і ноша стане неяк бліжэйшай да цела.

# Найлепшая кніга 1517 году

***6 жніўня 1517 Скарына выдае Псалтыр, першую беларускую друкаваную кнігу***

Калі піць асобна за кожную кніжку, выдадзеную Скарынам (за «Псалтыр» — сьлівавіцу, за «Бібліі» — грушкавіцу, за «Малую падарожную» і «Апостала» — мэрунькавіцу), дык з-за стала можна ўрэшце і не падняцца. Але напоі гэта будуць слушныя: менавіта ў Празе Чэскай 6 жніўня 1517 году Францішак Скарына, сын з Полацку, у лекарскіх навуках доктар, выдрукаваў першую беларускую кнігу — ці, як пішуць перакладчыкі ягонай прадмовы, «загадаў цісnuці „Псалтыр“ рускімі словамі славянскае мовы». І патлумачыў, чаму: «Найперш — для ўшанаваньня і хвалы Бога ў Тройцы адзінага і Прачыстай маці яго Марыі, і ўсіх нябесных чыноў, і сьвятых божых. А таксама — для карысьці паспалітага люду. І асабліва з тае прычыны, што мяне літасьцівы Бог з гэтае мовы на сьвет пусьціў».



Калі б кожны беларускі выдавец кіраваўся такімі матывамі — ён неўзабаве разарыўся б і павесіўся. А Скарына вось нічога — пасьля «Псалтыру» «загадаў цісnuці» яшчэ больш за два дзясяткі кніг і ўвайшоў у гісторыю.

Гісторыю, якая кожнага здольная зрабіць нелегалам. Дзе жыў Скарына ў Празе, невядома. І дзе была тая друкарня, таксама. Чэхі лічаць, што ён мог скарыстацца друкарнямі Сэвэрына або Конача; ёсьць меркаваньне, што Скарына мог замовіць друк у яўрэяў — бо яўрэйская друкарня знаходзілася ў Старым горадзе, а Скарына так пісаў: ціснута, маўляў, у Старым месьце Праскім. З кірылічнымі літарамі ў Празе былі часовыя перабоі, але абачлівы Скарына прывёз іх з сабой з Італіі.

Тое, што першай беларускай кнігай зрабіўся «Псалтыр», зусім ня дзіўна: яго цягаў з сабой кожны, хто ўважаў сябе за культурнага чалавека; заходзячы ў карчму, перш-наперш выкладвалі на стол «Псалтыр» і мераліся ўпотай, у каго круцейшы. Мераліся ня толькі асобныя грамадзяне — мераліся і цэлыя народы. Чэская біблія, вэнэцыянскім выданьнем якой карыстаўся Скарына пры перакладзе, зьявілася ў 1488 годзе, а беларуская ўсяго на нейкія трыццаць гадоў пазьней. Ёсьць чым ганарыцца.

Псалтыры ды Бібліі Скарыны — чыста аўтарскія праекты. Ніводзін біскуп і ніводзін мітрапаліт не ўхваліў дзейнасьці палачаніна, які абыходзіўся са сьвятымі кнігамі так вольна, быццам гэта бэлетрыстыка: разьмяшчаў у выданьнях свае партрэты і друкаваў побач прадмовы ўласнага сачыненьня. Нават цяпер перакладчык, ня кажучы ўжо пра выдаўца, так не рызыкуе. Ну, ды Скарына сам пісаў, што ягоныя кнігі «добрым людзям к навучэньню» — а іншыя самі знойдуць, чым ім заняцца.

Сталася так, што кожны беларускі выдавец — гэта такі сабе Скарына. Дык памятайма пра Псалтыр, ня псуйма паперу.

# На белым кані

*7 жніўня 1813 Балівар з войскам уваходзіць у Каракас*

Ягоным улюбёным словам было «адзінства», ягоным кумірам быў Напалеон. І сам ён яшчэ пры жыцьці зрабіўся кумірам для дзясяткаў і сотняў напалеонаў, напалеончыкаў і іншых напалову багоў, напалову нікчэмнасьцяў. Дыктатар — які гвалтам гнаў падданых да волі. Вызваліцель — гішпанамоўных ад Гішпаніі. Крэол, які так ганарыўся сваім паходжаньнем, нібы быў каралём. Чалавек, які ўзяў на сябе адказнасьць за ўсё і якога перад сьмерцю заканамерна абвінавацілі ва ўсім. Кіраўнік Вялікай лацінаамэрыканскай імпэрыі — якой так і не адбылося. А яшчэ футбольны клюб, конь і капялюш. Скажыце, як яго завуць? Ба...

7 жніўня 1813 году на белым кані Сімон Балівар уяжджае ў Каракас. За сьпінай — перамогі ля Араўрэ, Сан-Матэо, у Карабоба, каля Ля-Вікторыі. Кажуць, усяго за сваё ня надта доўгае жыцьцё ён выйграў больш за чатырыста бітваў. Некалі ў Рыме ён пакляўся, што не супакоіцца, пакуль ня вызваліць Лацінскую Амэрыку. І вызваліў жа! Зрабіў немагчымае. Праўда, наперадзе будзе яшчэ не адна параза, і войска генэрала Бовэса задасьць Балівару перцу — але хто цяпер памятае пра нейкага там Бовэса. Бовэс? Бовэс?.. Маўчаньне. А вось Балівар... Ці ўспомніць нехта праз дзьвесьце гадоў Уга Чавэса?



Тое ўзяцьце Каракасу было ягонай першай сур'ёзнай перамогай. Імя Балівара даведаўся ўвесь сьвет — а яму, сьвету, у 1813-м было чым заняцца і бязь нейкай там «маленькай Вэнэцыі». 7 жніўня 1813 лёс гішпанскіх калёній у Амэрыцы быў вырашаны: у гэтым двубоі — харызма Балівара супраць далёкай, стомленай мэтраполіі — можна было ставіць на паўстанцаў не прагадаўшы хоць увесь капітал. Захаваць калёніі гішпанскімі мог хіба што цуд. Або Балівар. Або яго сьмерць.

Яго ўвесь час хацелі забіць. Ён ратаваўся то дзякуючы сваім верным жанчынам, то ня надта надзейным целаахоўнікам: аднойчы Балівар спаў у гамаку, прачнуўся сярод ночы, пайшоў праверыць пасты — або справіць малую патрэбу... У гамак залез вартавы, які ахоўваў сон Вызваліцеля, і захроп. Балівар вярнуўся празь пятнаццаць хвілін: храпу чуваць ужо не было — у грудзях вартавога пагойдваўся ўсё яшчэ цёплы нож.

У шасьцідзясятых аўтар на імя Грыгулевіч, вэнэсуэлец у душы, напісаў пра Балівара кніжку для сэрыі «Жызьнь замячацельных людзей». Празьмерна патасную, патагонскую па сваіх маштабах, паранармальную па ўзроўні захапленьня апалёгію баліварыянства. Хаця, зрэшты, завяшчаў жа Хасэ Марці кожнаму, хто хаця б аднойчы марыў уехаць на белым кані ў Каракас:

«Нельга спакойна гаварыць пра Балівара — таго, хто ні хвіліны ня ведаў спакою. Пра Балівара можна казаць зь вяршыняў гор, калі гаварыць пра Балівара, няхай пры гэтым грыміць бура, чуюцца грымоты, бліскаюць маланкі!»

Таму нельга, нельга арыштоўваць у менскім сквэры Сімона Балівара крэолаў, якія расьпіваюць там сьпіртовыя напоі. Можа, яны таксама хочуць на белым кані, у Каракас, можа, гэта іх апошняя бітва... Можа, яны таксама чуюць іх: маланкі і грымоты блізкай рэвалюцыі.

# Адзіночная камэра

*8 жніўня 1899 была запатэнтаваная лядоўня*

Лядоўня — твая прыватная зіма.

Як і кожная зіма, яна жывая — і ты ад яе залежыш.

Лядоўня — новы біялягічны від, які прагне заняць сваё месца пад кухонным сонцам; сумнявацца ў тым, што яна дыхае і мысьліць, абсурдна, а часам і злачынна. Нармальная чалавечая лядоўня ня проста мае душу — яна яшчэ і на працяглы час захоўвае яе прыдатнай для ўжываньня. У адрозьненьне, напрыклад, ад чалавека, душа якога, паляжаўшы пэўны час бяз справы, абавязкова пачынае сьмярдзець. Лядоўня размаўляе з намі — асабліва ўначы, калі яна раптам пачынае наракаць на жыцьцё, на абмен рэчываў, гарачку ў нутры і холад у канцавінах. Лядоўня нагадвае чароўную шафу, куды складваюцца запасы часу: сёньня, заўтра, пасьлязаўтра, а ў некаторых — і на ўвесь год. Калі думаеш пра лядоўні, адразу прыгадваеш свайго сябра, які ахоўвае ладныя шэрагі гэтых істотаў на заводзе «Атлянт», быццам нейкіх важных пэрсонаў; пра футарал ад лядоўні, у якім пасяляецца герой апавяданьня Віктара Марціновіча «Дом». Ня згадваецца чамусьці толькі ежа.



Але вынаходнік Альбэрт Маршал зь Мінэсоты пра ежу думаў. І думаў моцна. У выніку гэтага «пляну Маршала» аўтару ідэі быў выдадзены патэнт на першую ў Амэрыцы лядоўню. Адбылася шчасьлівая падзея 8 жніўня 1899 году. Рэфрыжэратар Маршала быў памерам зь невялікі пакой — калі ў сучаснай лядоўні можа зьмясьціцца адзін мярцьвяк, то ў той пра-лядоўні можна было пахаваць цэлую сям'ю. Спробы прыдумаць лядоўню былі раней: для таго, каб падтрымліваць дух у халодным целе, згодна з усімі законамі адзінства супрацьлегласьцяў выкарыстоўваліся вугаль і дровы.

Пасьля Маршалавага цуду зьявілася лядоўня ад «Джэнэрал электрык» — агрэгат, у камплект да якога самыя ўвішныя гаспадыні шылі сабе прыгожыя супрацьгазы, бо смурод ад яго стаяў неймаверны. Да таго ж ён шумеў, грымеў, лаяўся, а часам і распускаў рукі. І толькі ў 1926 годзе адзін датчанін распрацаваў мадэль ціхага, ураўнаважанага, з чыстай душою і намерамі халадзільніка.

У Савецкім Саюзе першыя лядоўні пачаў выракляць Харкаўскі трактарны завод. Яны былі гусенічныя, маглі араць, маглі не араць, а на патрэбу іх лёгка можна было ператварыць у танк. Усе памятаюць знакамітую «трыццацьчацьвёрку»... Так што, заўважыўшы на вуліцы старую лядоўню, на белых парэпаных грудзёх якой зіхаціць ордэн, варта спыніцца, пакланіцца і перажагнацца. Хто як умее.

# У цёмным садзе асалоды

***9 жніўня 1516 памёр Еранім Босх***

Ці ня першым у беларускай літаратуры, хто згадаў у сваіх творах Ераніма Босха, быў Уладзімер Караткевіч. Верш, што праўда, у Караткевіча атрымаўся ня надта ўдалы:

*«...Таму ў грудзях такога*
*Ня сэрца, а галавешка,*
*Таму ў Героніма Босха*
*Памерла на вуснах усмешка.*
*Ён бачыў, што душы прыгнечаных*
*Ня сталь, а бязвольны воск,*
*І прарочыў дрэнным людзям*
*Геній Геронім Босх».*

Босх там, дарэчы, рыфмуецца ня толькі з воскам, але і з мозгам. А наагул, Босха-чараўніка, Босха, які ня толькі бэсьціць, але і шчыра любіць свой звар'яцелы бэстыярый, Караткевіч праігнараваў.



І слушна. Інакш заслужыў бы рэпутацыю містыка. А ўсе містыкі мусілі вымерці да гістарычнага матэрыялізму. Як сам Еранім Босх — які памёр 9 жніўня 1516 у Хертогенбосе, Брабант, і які нікому нічога не прарочыў. Ён ведаў.

Карціны нідэрляндзкага майстра ў гэтым Караткевічавым вершы зносяць, а потым зноў выносяць, як на сцэне — выцягваюць іх да людзей, на сонца, да гэпі-энду. Хаця цяжка знайсьці іншага мастака той эпохі, якому сонца было б настолькі супрацьпаказанае. Цуд Босха адбываецца ў паўзмроку, дзе абавязкова мусіць нешта гарэць — можа, таму ягоныя палотны часта паўстаюць перад вачыма, калі бачыш асьветлены начны праспэкт, мроіш або проста заплюшчваеш вочы, стомленыя ад фарбаў. Босх з «галавешкай» дагарае, перакуліўшы ўсё дагары нагамі. Сярэднявечны Далі — ад твораў якога, мусіць, у сучасьнікаў валасы ўставалі дыбарам. Бо яны прачытвалі там больш за нас: пякельнай сымболіцы ў часы Босха вучыліся, замаўляючы наўпрост у пастаўніка, без пасярэднікаў, як цяпер.

Але ён і цяпер — узрушвае. Сваім непадабенствам, сваім сьветам, які кожны раз знаходзіць у цёмных глыбінях падсьвядомасьці водгук: чалавек не зьмяніўся, кажа Босх, яго заўжды будзе мучыць яго віна, віна ў тым, што ён занадта шмат ведае — зусім як тая ахвяра мафіі. Толькі ў параўнаньні з кілерамі героі Босха значна больш вынаходлівыя. Што паробіш — пякельныя ўнівэрсытэты.

Што рабілася ў ягонай галаве, не дапяла б нават сьвятая інквізыцыя — але яе час тады яшчэ не прыйшоў. Ён любіў правесьці пэндзлем так, як сёньня перасоўваецца па выпадковай прасторы зручная і бязьлітасная камэра, ягоныя карціны заўжды поўныя самага рознага народу — і народзец гэты вечна будзе драпаць нам душы, бо ён даў ім кіпці. Яны на хаду сасковаюць з пэндзля — кроплямі, крывымі бакамі, сукравіцай, kratz, kratz. Спакушэньне сьвятога Антонія — якое ніколі ня скончыцца нічыёй перамогай.

# Нявеста зь Зямлі

*10 жніўня 2003 адбылося першае вясельле ў космасе*

Ніхто не крычаў ім у вушы «Горка!», і з горачкі ніхто не спускаўся, ніхто ня падаў носам у салат, і бацька жаніха не прамаўляў, расчуліўшыся: «Дарагія Галя і Валера», хаця жаніха і нявесту звалі Зіна і Маша.

Уся рэч у тым, што ніякіх салатаў у радыюсе некалькіх тысяч кілямэтраў не назіралася, вушы жаніха плавалі ў бязважкасьці, і наогул: маладых звалі Юра і Каця. Усё ў іх было ня як у людзей. 10 жніўня 2003 году расеец Юра быў на арбіце, разам з адным амэрыканцам, які адмыслова да гэтага дня асвоіў марш Мэндэльсона. А амэрыканка Каця стаяла ўнізе, у Тэхасе, у цэнтры кіраваньня палётамі НАСА, і махала яму рукой, як Гагарын. У прызначаную гадзіну яны надзелі пярсьцёнкі, кожны сам сабе, і прамовілі адпаведныя клятвы. Першае ў гісторыі касьмічнае вясельле адбылося.



Камандзіры расейца Юры, самі — тыя яшчэ маскалі, усяляк заміналі маладым увайсьці ў гісторыю. «Ты ж наш чалавек і касманаўт», — пераконваў Юрыя Маланчанку ягоны шэф. — «У цябе імя якое, услухайся — Юра! А паводзіш сябе як нейкі нярускі! Адставіць шоў! Кру-гом!» Каця ў расейскіх ВВС не служыла, таму ёй было прасьцей. Хаця таксама даводзілася нясоладка: той самы генэрал сказаў ейнаму нарачонаму, што, маўляў, гэтая твая Каця — іншаземка, і таму цалкам можа быць... так, так, шпіёнкай — а ты думаў?..

Аднак усё абышлося: маладыя пабраліся, а зорныя войны так і не распачаліся. Праўда, генэралы дамагліся таго, што цяпер астранаўтам і астранаўткам брацьшлюб падчас палёту забаронена. Што, здаецца, наўпрост парушае правы чалавека. Але і тут ёсьць шчылінка ў законе: ён тычыцца толькі зямлянаў. Таму, калі на бяскрайніх касьмічных прасторах расейскім касманаўтам сустрэнецца жгучая вэнэрыянская жэншчына, яе сьмела можна брацьшлюб, ніхто і слова ня скажа. Па-першае, у расейцаў багаты досьвед у такіх справах, а па-другое, ніхто ж яшчэ ня падаў пысай у салат у космасе. Трэба ж некалі пачынаць.

# Чэмпіён Бэрліну па тэнісе

*11 жніўня 1973 пачалі паказваць «Штырліца»*

Здаецца, у адным з раманаў Ежы Касінскага, амэрыканскага пісьменьніка польскага паходжаньня, ёсьць неблагое апісаньне таго, зь якім захапленьнем беспрытульны яўрэйскі хлопчык разглядвае эсэсаўскага афіцэра. Той выклікае ў хлопчыку пачуцьцё амаль што экстазу: чорная форма, бліскучыя боты, чарапы і маланкі, свастыка, нават гузікі... і ўсё гэта ў спалучэньні зь «ісьцінна арыйскай» зьнешнасьцю і высачэзным ростам. Хлопчык ведае, што гэта — сьмерць, і ўсё адно нешта трымціць у ім, нешта ў гэтым эсэсаўцы яго неадольна гіпнатызуе...

Ня раз даводзілася чуць — ад розных людзей: «Нацысты, вядомы, былі тыя яшчэ сволачы, але форма прыгожая...» І гэта страшныя словы: нават у тым індывідууме, які зусім не пераймаецца нейкім там мастацтвам, жыве пераборлівы і жорсткі эстэт, і абавязкова надыдзе момант, калі форма для яго пераможа зьмест, а эстэтыка пакладзе этыку на лапаткі. І тады — пішы прапала. Так мы зробленыя — на гора самім сабе.



Сапраўды, інфэрнальная, ваяўнічая, а разам з тым падкрэсьлена гульнёвая, кніжная і заўжды яркая эстэтыка нацызму здольная пэўны час дурыць галовы хлопчыкам і дзяўчаткам і даволі эфэктыўна ўзьдзейнічаць на неакрэплыя дзіцячыя душы. Гэта эстэтыка, якая сьлепіць, якая хвалюе, якая прапануе зрабіцца героем зараз жа, неадкладна, якая падаўляе — і разам з тым вызваляе цёмныя сілы, якія дрэмлюць у кожным, каго некалі недалюбілі.

У сямідзясятыя шмат каму здавалася, што той бліскучай чэрапна-мазгавой эстэтыцы прыйшоў канец. Высьветлілася, аднак, што яна больш жывучая, чым здавалася ў Нюрнбэргу, што яна нікуды не падзелася, затаіўшыся ў падсьвядомасьці мільёнаў людзей. У тым ліку так званых савецкіх. Адчыніць клетку гэтага монстра і пацешыць грамадзянаў дзіўным чынам было наканавана простай расейскай кабеце на імя Тацяна Ліёзнава. Савецкай кінарэжысэрцы, якая ачалавечыла нацызм і нацыстаў так, як не ўдавалася ні Розэнбэргу, ні Гёбэльсу, ні аддзелу прапаганды РСХА.

11 жніўня 1973 году яе сэрыял «Сямнаццаць імгненьняў вясны» выйшаў на экраны СССР. Ужо праз тры месяцы быў паўтор — нечуваны посьпех, дванаццаць мяхоў лістоў: ваенна-патрыятычная «Рабыня Ізаўра», у ролі Ізаўры сам Ціханаў. «У гэтай форме ён такі мусчіна...»

Ну яшчэ б. Чэмпіён Бэрліну па тэнісе — адны гэтыя словы натхнялі на тое, каб сёньня ж нелегальна перайсьці дзяржаўную мяжу. А яны ж там усе чэмпіёны. Абаяльны весялун Мюлер. Душка Борман. Сапраўдны мужык Кальтэнбрунэр. Прыгажун Вольф. Бедны Айсман. Коцік Шэленбэрг. Міляга Холтаф. «І другіе»: дзясяткі абсалютна праўдападобных пэрсанажаў, месца якіх на шыбеніцах — а яны закахалі ў сябе ўвесь савецкі народ. І форма, форма... Ну, і Штырліц на вышыні — сапраўдны арыец. Савецкая душа адчувала тут

нешта сваё, неад’емнае, тое, што радзімай завецца і рвецца на «волюшку-волю», рабскае, роднае… А фюрэр? Як жывы! Пад яго кінастудыя імя Горкага адмыслова выпісала прафэсійнага гітлера з ГДР Фрыца Дыца.

Дыцу гэтае яго амплюа даўно абрыдла — часам угаворваць яго паехаць на здымкі да савецкіх сяброў даводзілася самому таварышу Гонэкеру. «Ну што табе, цяжка, Фрыц? — казаў Гонэкер. — Чолкаю патрасеш, пакрычыш, па стале пагрукаеш — і дзялоў! Зрабі гэта апошні раз, дзеля фройндшафту!» Дыц сьціскаў зубы і ехаў. Вяртаўся ў Бэрлін — і тут зноў званіў тэлефон. «Паклічце, калі ласка, таварыша Гітлера», — чуўся голас супрацоўніка савецкай амбасады: часам расейскія сябры забываліся, як яго завуць. Дыцам карысталіся, пакуль ён не памёр — але і потым у ягонай кватэры чуліся тыя званкі і тыя самыя патрабавальныя галасы.

Сьвет, які стварыла Тацяна Ліёзнава, ня быў сьветам Трэцяга Райху. Гэта быў хутчэй Савецкі Саюз — дзеля гульні пафарбаваны ў нацысцкія колеры. Савецкі Саюз такі, якім яго адчувалі ягоныя грамадзяне — якія яшчэ памяталі Сталіна. Пра сэкунды звысака ня думалі ні ў гітлераўскай Нямеччыне, ні ў часы правадыра народаў. У кожнага імгненьня свой рэзон, у сэнсе — рацыя, і адзінае талковае, што Юстас мог перадаць па ёй Алексу, гэта пасланьне пра тое, што ён адчувае сябе тут як дома.

# Абвінавачаны ў маўчаньні

*12 жніўня 2006 Гюнтэр Грас пацьвярджае, што служыў у Вафэн-СС*

У нямецкай літаратуры даўно не было такіх скандалаў. І вось «той дзень надышоў»...

12 жніўня 2006 году чытачы газэты «Frankfurter Allgemeine Zeitung» з жахам даведаліся, што Гюнтэр Грас, галоўны ня толькі літаратурны, але і маральны аўтарытэт для ўсёй Нямеччыны, увасобленае апраўданьне паваеннай нямецкай літаратуры, бескампрамісны праціўнік нацызму, ён, які нястомна даказваў, што нямецкая віна існуе і немцы мусяць за яе заплаціць, ён, які быў супраць аб'яднаньня Нямеччыны — ён, апошні зь вялікіх немцаў XX стагодзьдзя, якія яшчэ жывуць на гэтай зямлі, ён, якому яны так верылі... Ды што ж ён такога зрабіў? А вось што.

Служыў некалі ў Вафэн-СС, куды пайшоў добраахвотнікам.



Журналісты, якія прыехалі да Граса ў ягоны дом у Бэлендорфе каля Любэку, хацелі, уласна кажучы, пагаварыць не пра гэта, А пра новую кнігу Граса «Абіраньне цыбулі». Але гаварыць пра яе, абмінаючы тэму СС, не выпадала: Грас сам пра ўсё расказаў у кнізе.

«...І вось цяпер вы ўпершыню і абсалютна гаворыце пра тое, што вы служылі ў Вафэн-СС. Чаму толькі цяпер?

Бо гэта ціснула на мяне. Маё маўчаньне ўсе гэтыя гады ёсьць адной з прычынаў, чаму я напісаў гэтую кнігу. Гэта мусіла быць выказаным, нарэшце...

...Вы ня мусілі абавязкова пісаць пра гэта. Ніхто ня мог вас да гэтага змусіць.

Тое, што мяне прывяло да гэтага, было маім уласным прымусам».

Вядома, ніхто не абвінавачваў Граса ў тым, што ён служыў у СС. Падумаеш... Каго ў сьвеце зьдзівіш такім паваротам лёсу? Абвінавацілі яго ў тым, што гэтую старонку свайго мінулага ён старанна заліў півам — і пры гэтым узяў на сябе права вінаваціць іншых.

І добра, калі толькі півам! — усклікне змагар за праўду. — Невядома, чым ён там насамрэч займаўся!

Пісьменьнік мог запярэчыць, што ён ні ад каго нічога не хаваў. Кожны, каму б заманулася пакорпацца ў яго біяграфіі, мог залезьці ў архівы і знайсьці ўсё неабходнае. Але тыя, каму заманулася — таксама маўчалі. А астатнім і ў галаву ніколі не прыходзіла, што Гюнтэр Грас — былы эсэсавец.

«Я ўспрымаў СС як элітныя войскі, якія пасылаюць у гарачыя кропкі. Я ні ў кога не страляў. Гэта была проста муштра», — патлумачыць жывы клясык. Але пляма, пасаджаная на рэпутацыю аўтара «Бляшанага барабана» і «Сабачых гадоў», застанецца. Грамадзтва — ня блытаць з чытачом! — запатрабуе ад яго вярнуць Нобэлеўскую прэмію, званьне ганаровага грамадзяніна Гданьску і шмат іншых рэчаў. Сярод якіх будуць тыя, што немагчыма вярнуць: павага, давер і той самы аўтарытэт. Для яго паспрабуюць зладзіць ледзьве ня новы Нюрнбэрг.

За мінулае, за маладосьць, за досьвед, які зрабіўся кнігай. Але найперш — за яго амаль сямідзесяцігадовае маўчаньне.

І гэта, відавочна, абсурд. Грас заўжды быў палітычна заангажаваны — часам нават больш, чым можа дазволіць сабе пісьменьнік. Аднак Грасу-пісьменьніку гэта ня надта нашкодзіла — яго раманаў, якія зьмянілі сьвет, ніхто ўжо не адменіць. Ды простыя ісьціны часам бываюць занадта простыя, а інфармацыйных нагодаў для гневу і розных скандалаў так не хапае... Натоўпу, які называе сябе грамадзтвам, яны патрэбныя, як кісларод. І так званае грамадзтва, задыхаючыся ад сьвятога кіслароднага голаду, азіраецца ў пошуках ахвяры. Самы час сказаць: рукі прэч.

Бо, па-першае, пра пісьменьніка трэба меркаваць па тым, што ён піша. А не пра тое, пра што ён маўчыць. Гэта справа больш кампэтэнтных асобаў, чым захавальнікі маралі і кантралёры мінуўшчыны. Бога там... Або д'ябла.

Па-другое, хто ведае: магчыма, калі б Грас абвясьціў пра тое, што быў у СС, адразу і ўсім, калі б прыгадваў пра гэта публічна пры кожнай нагодзе — напэўна, гэта быў бы нейкі іншы Грас. Які не напісаў бы таго, за што мы яго любім.

...Пасьля інтэрвію FAZ на адным з выступаў Граса нейкі старэнькі аматар літаратуры выкрыкне зь месца: «Рады вітаць сваіх таварышаў па СС!» і праглыне цыяністы калій. Выпадак, які мог бы зьнішчыць каго заўгодна. Але толькі ня Граса. Потым будзе скандал зь яго антыізраільскім вершам — пад назваю «Тое, што мусіла быць прамоўлена». Таму, хто пражыў амаль стагодзьдзе і ўсё ж сказаў самае важнае — можна дазволіць сабе і такія назвы.

Бо ўсё гэта ня важна, ня важна... Ужо ня важна.

# Адной левай

*13 жніўня 1992 у сьвеце пачалі адзначаць Міжнародны дзень леўшуноў*

Слова «праўда» у слоўніку ёсьць, а слова «леўда» — няма. Слова «праваабаронца» у ім можна знайсьці, а вось сымэтрычнае яму «леваабаронца» ўжо наводзіць на думкі хіба што пра п'янага футбольнага камэнтатара. Правы, праўдаруб, сапраўднасьць... Правільнасьць. Некарэктныя нейкія словы. Несучасныя.

Калі падумаць, усё гэта ня проста непарадак — навідавоку праявы самай сапраўднай дыскрымінацыі. І — улічваючы асаблівасьці часу, у які мы жывем — не абы-якой. Ня меншай за прыналежнасьць слова «чалавек» да мужчынскага роду — хай сабе і чыста граматычную. І калі ўжо гэткая праблема хвалюе самыя сьветлыя розумы, дык чаму б не пайсьці далей? Роўныя правы для ўсіх, ці ня так?

Хіба кепска гучала б: «Піянэрская леўда»? Або «Комсомольская левда в Белоруссии». «Мінская леўда», «Гавары леўду»... І гэтак далей. Акурат сёньня маем добрую нагоду сказаць усю леўду пра праўшуноў і выказаць усю сваю на іх крыўду. Бо менавіта 13 жніўня ўсё леварукае чалавецтва адзначае Міжнародны дзень леўшуна, а праварукае апраўдваецца — за ўласную неталерантнасьць і татальную і безнадзейную праварукасьць сваіх слоўнікаў і ўчынкаў.

Леўшуноў льга было б параўнаць з геямі — тых таксама стагодзьдзямі спрабавалі перайначыць, прывесьці да «нормы» і прымусіць Рабіць Гэта Правільна. Не, крымінальная адказнасьць леўшунам не пагражала — хаця з самых старажытных часоў ляўшун лічыўся істотаю падазронай. Гэта леўшуноў білі ўказкамі па пальцах і азадках. Ставілі каленямі на грэчку і соль. Гэта іх пазбаўлялі марозіва і паездак у Крым. Гэта пра іх казалі зьедліва, што ў іх рукі ня тым канцом устаўленыя. Марна. Сьпіс знакамітых леўшуноў ня меншы за сьпіс геніяльных гомасэксуалістаў. Чаго вартыя адны толькі Юлі Цэзар, Аляксандар Македонскі, Напалеон і Карл Вялікі! У «бітлоў» геямі... не, леўшунамі былі ажно двое: Рынга Стар і Пол Макартні. Вось і думай, якой лепш: правай ці левай. І якім канцом што куды ўстаўлена.



Леўшуны — адна з катэгорый тых Іншых, зь якімі, хочацца верыць, «высокамаральныя» прыхільнікі «традыцыйных» каштоўнасьцяў навучацца некалі жыць у згодзе ці хаця б у сымбіёзе. Хаця б біялягічным.

На шчасьце, усё да гэтага і ідзе. А пачалося ўсё ў васьмідзясятых гадах мінулага стагодзьдзя — знакавых для леваабаронцаў усяго сьвету. Менавіта тады леўшуны ўпершыню абвясьцілі сьвету, што яны хочуць людзьмі звацца і станавіцца каленямі на грэчку і соль больш не зьбіраюцца. Штуршком для арганізацыі леварукага руху зрабілася гісторыя амэрыканскага паліцыянта Фрэнка Ўінбарна. Ён насіў кабуру зьлева, а паводле статуту трэба было справа. Паліцыянта звольнілі — тут леўшуны й ня вытрымалі ды адстаялі ягоныя правы ў судзе. Потым была справа паштара Грына, які, вось жа мярзотнік, сартаваў лісты левай рукой. Ягонага шэфа сузіраньне леварукага падначаленага даводзіла да гістэрыкі. Грына таксама звольнілі — за профнепрыдатнасьць. І зноў голас леваправаабарончага руху дазволіў леўшуну застацца на працы.

Але гэта ў Амэрыцы. А вось сярод сьнягоў і таросаў на краі зямлі леўшуноў зазвычай проста адстрэльвалі, не марнуючы сродкі на судовыя разборы. Гаворка пра белых мядзьведзяў, якія ўсе без выключэньня ёсьць поўнымі і перакананымі леўшунамі — празрысты намёк прыроды на тое, што ня ўсё так проста, як мы прывыклі.

А ў 1992 годзе ўпершыню быў афіцыйна адзначаны той самы Міжнародны дзень леўшуна — сьвята, якое заўжды з табой. Маеш права. На лева. І наўскос. І нават навыварат.

# Саюз непарушны рэспублік свабодных

*14 жніўня 1385 падпісана Крэўская унія*

Яна была ва ўзросьце Лаліты, а яму было далёка да ўзросту Гумбэрта — хаця першая акалічнасьць ужо сама па сабе здольная згумбіць любога мужыка. А гісторыя іхная называлася «Крэўская унія». Ад 14 жніўня 1385 году, калі і быў падпісаны адпаведны дакумэнт, польская каралева Ядзьвіга і вялікі князь літоўскі Ягайла маглі нарэшце ажаніцца, і няважна, карцела ім гэта зрабіць ці ня надта каб: дзяржаўныя інтарэсы вышэйшыя за ўсё. Калі гэтая падзея і ня вартая раману, дык разьдзелу ў падручніку гісторыі яна заслужыла, і не ў адным, а адразу ў чатырох: беларускім, польскім, літоўскім ды ўкраінскім. У тоўстым і блытаным падручніку нашай агульнай гісторыі.

Як водзіцца ў дыпляматаў і супрацоўнікаў ЗАГСаў, унія падпісвалася «на ўсе часы». Таму маладыя не сьпяшаліся. 15 лютага 1386 Ягайла ахрысьціўся паводле каталіцкага абраду і стаўся Ўладзіславам (хаця на ўсіх выявах ён так і застаўся ягайла ягайлам). 18 лютага князь узяў зь Ядзьвігаю шлюб, а 4 сакавіка надзеў на галаву карону сваёй «Саюзнай дзяржавы». Справа гісторыкаў — падлічваць плюсы і мінусы той дынастычнай угоды і ацэньваць яе наступствы і вынікі, якія не прымусілі сябе чакаць. Ягайла зрабіўся польскім каралём, Вялікае Княства пачало схіляцца да каталіцтва, на нейкі час спыніліся ўзаемныя сваркі і канфлікты, абараняцца ад тэўтонскіх турыстаў стала лягчэй, а наагул ВКЛ сталася часткаю Польшчы — але выглядала ўсё гэта хутчэй як фэдэрацыя. І ўсё адно праваслаўныя, вядома, былі незадаволеныя — Ягайла атрымаў такую апазыцыю, якая і ня сьнілася сучасным беларускім князькам. Міру, згоды і залатых унітазаў унія не прынесла нікому. Карацей, вуаля, вельмі вумная вунія, і не шманае, і ў вус ня дзьме, вунь Гісторыя, зь яе вусьцішшу і зь яе вудамі, яна вязе вечнасьць, і мы яе вязьні, і стаім па візы.



Што да народаў, дык у тым Крэўскім замку іх хоцькі-няхоцькі злучылі паміж сабой на стагодзьдзі — і калі ўжо гаварыць пра нейкае братэрства, дык пра тое, якое ў нас ёсьць з палякамі, літоўцамі і ўкраінцамі. Пра дачнікаў з Усходу лепш памаўчаць. Бо 14 жніўня 1385 у Крэве быў зроблены цывілізацыйны выбар: Ягайла мог пабрацца і з дачкой нейкага ўсходняга сатрапа: былі і такія прэдлажэнія. Але абраў Ядзьвігу, абраў Захад, абраў Эўропу. Туды нам і дарога. А калі не туды, дык хаця б у Крэва — выпіць самагонкі і паздымаць руіны.

# Крокі на калідоры

*15 жніўня 1892 Густаў Майрынк спрабуе скончыць жыцьцё самагубствам*

15 жніўня 1892 году ў адным зь ня самых дарагіх праскіх гатэляў, у аднамесным нумары без асаблівых выгодаў, проста пасярод пакоя моўчкі стаяў чалавек зь пісталетам у руцэ.

Ён стаяў і ўяўляў сабе, як паднясе дула пісталета да сэрца... як націсьне спускавы кручок... а можа, да скроні... А можа, засуне яе, халодную, сабе ў рот... Да сэрца, да скроні... і там, і там спалохана і неяк безнадзейна тахкала... яшчэ хвіліна — і...

Чалавека звалі Густаў Майрынк, яму было дваццаць чатыры, а яшчэ яму было вельмі пагана. Ён нарадзіўся ў адзін дзень з Эдгарам По, а гэта штосьці ды значыла. Значна пазьней яго назавуць Эдгарам По нямецкамоўнай літаратуры, значна пазьней ён напіша свой самы знакаміты раман «Голэм», а пакуль што: у сэрца або ў скронь? Ён уяўляў сабе, як ягоны распалены мозг, які, здавалася, зараз і так папросту выкіпіць, выльецца з галавы, разьляціцца па пакоі, пырсьне на сьцены, на гэты ўбогі рукамыйнік, на шпалеры ў кветачкі, як падкосяцца ногі, як цела заваліцца набок — быццам у штучна ажыўленай істоты, якую толькі што выключылі, пазбавілі сілкаваньня...



На калідоры пачуліся крокі. Густаў сьціснуў пісталет яшчэ мацней і паволі падняў яго, зірнуў у дула. Крокі спыніліся каля самых ягоных дзьвярэй, але ніхто так і не пагрукаў. Майрынк заплюшчыў вочы і паклаў палец на кручок. Кароткі шоргат, які ішоў аднекуль зьнізу, ня даў яму сканцэнтравацца. Зноў пачуліся крокі, гэтым разам яны аддаляліся і ўрэшце загрукалі на сходах — незнаёмец сышоў. Самагубца адплюшчыў вочы. На падлозе ля самага парога ляжала, прасунутая праз шчыліну, нейкая кніжачка. Зусім тоненькая брашурка кшталту тых, якія апавядаюць пра карысьць вэгетарыянства, 100 правераных спосабаў павелічэньня бюста і сусьветную сіяністцкую змову. Густаў падышоў да дзьвярэй і падняў яе.

«Жыцьцё пасьля сьмерці» — такую назву мела гэтая шэрая кніжачка без указаньня аўтара, выдрукаваная на самай таннай паперы, яшчэ не разрэзаная. Агаломшаны, Майрынк доўга стаяў перад дзьвярыма, не выпускаючы з рук пісталета, і ўзіраўся ў гэтыя тры словы. Жыцьцё. Пасьля. Сьмерці. У яго нават ня ўзьнікла жаданьня зірнуць, пра што канкрэтна вядзецца ў гэтай кніжэнцыі. Урэшце ён схаваў пісталет у скрынку для цыгараў, апрануўся і выйшаў на вуліцу — каб пражыць яшчэ больш за сорак гадоў, пражыць такім апантаным містыкам і эзатэрыкам, роўных якому нямецкая літаратура ня ведае дагэтуль.

12 чэрвеня 1932 году сын Майрынка Фартунат, седзячы ў інвалідным вазку ў адным зь ня самых дарагіх нямецкіх гатэляў, таксама трымаў у руцэ пісталет. Яму таксама было дваццаць чатыры. Сэрца? Скронь? Ён абраў сэрца. Крокаў на калідоры так і не пачулася.

# Дружба-фройндшафт

***16 жніўня 1772 Лёта кажа Гётэ, што ён ня можа разьлічваць ні на што, апрача сяброўства***

Чалавек за дубовым канцылярскім сталом не хваляваўся. Бо гэта было б непрафэсійна — а яму вельмі хацелася зрабіцца прафэсіяналам. Хаця б тут, у Вэцляры. Зрабіцца надзейным, строгім і дакладным, як гэты цяжкі, на вякі зроблены дубовы стол. Як гэтая бронзавая чарніліца, у якую ён апускаў цяпер пяро. Ён пісаў ліст прыяцелю, цьвёрдай рукой інвэнтарызуючы сваё жыцьцё-быцьцё — і не адчуваў пры гэтым нічога, апрача пэўнасьці ў непахіснасьці сьветабудовы. Вось, скажам, ягоная нарачоная Шарлёта ўжо два месяцы як сустракалася з маладым адвакатам Ёганам Вольфгангам, але жаніх зусім не раўнаваў яе. Навошта? Усё адно ён ажэніцца з Шарлётаю, а адвакат зьедзе. Усё будзе як мае быць, бо так быць мае, і ніякія гётэ і шылеры тут ня ўлічваюцца. Бо не заплянаваныя ў бюджэце.

«...Майн Лётхэн павяла сябе зь ім такім чынам, што ніякай надзеі ў яго ўзьнікнуць не магло... Гэтаму Гётэ даволі хутка давялося зразумець, што зь яе боку ня варта чакаць нічога, апрача фройндшафт... Альзо кайнэ лібэ...»



Жаніх дабрадзейнай Лётхэн задумаўся і адклаў пяро. Ягоная нявеста тым часам бавілася з маладым адвакатам недзе ў парку. Ці ня ў парку. Дзе і як, ён ня ведаў. І ведаць не хацеў. Ён верыў людзям. Чалавек за дубовым сталом паглядзеў на каляндар. Было 16 жніўня 1772 году. Каляндар — гэта добрая прыдумка. У ім ня можа быць сумневаў. Як і ў шлюбе. Як і ў сабе самім. Заўтра надыдзе — хочаш ты ці не. Панядзелак зьменіцца аўторкам. Хораша і правільна. І ўсё ж...

«...Гэты юнгер ман, Гётэ, валодае тым, што называецца геніем, да таго ж мае досыць жывую фантазію. Схільны да рэзкіх афэктаў. Лад мысленьня шляхетны. Чалавек з характарам. У яго зьнешнасьці і паводзінах шмат такога, што можа адштурхнуць...»

Жаніх зноў спыніўся. Падумаў і дапісаў:

«Ну так, трэба прызнаць, што Ёган валодае такімі якасьцямі, якія могуць быць небясьпечныя для жанчыны, калі яна чулая і мае добры густ...»

Тым часам на іншым паверсе сьветабудова праходзіла праверку на трываласьць.

«У глыбокай роспачы ён кінуўся да ног Лёты, схапіў яе рукі, прыклаў да сваіх вачэй, да лба... У яе пацямнела ў вачах, яна сьціснула яго рукі, прыціснула да сваіх грудзей у прыступе спагады, іхныя шчокі, якія так палалі, дакрануліся. Усё навокал перастала існаваць... Ён сьціснуў яе ў абдымках і пакрываў апантанымі пацалункамі яе трапяткія вусны...»

І тут Лёта пачала супраціўляцца. “ Толькі фройндшафт!« — сказала яна, вырваўшыся — «і, кінуўшы на пакутніка позірк, поўны каханьня, кінулася ў суседні пакой».

Праз сорак чатыры гады яны пабачыліся зноў. Гэтым разам у Ваймары. «Я пазнаёмілася з адным непрыемным старым панам», — напісала пасьля Шарлёта Кестнэр. — «Калі б я ня ведала, што гэта Гётэ, ён наўрад ці б мне спадабаўся».

## Do nothing

*17 жніўня 1962 Пэтэр Фэхтэр гіне пры спробе перасячы Бэрлінскі мур*

Яны былі муляры. Яны вучыліся ўладкоўваць і падпарадкоўваць гарадзкую прастору. Яны ведалі, што такое будаваць муры — і што няма такога муру, які нельга было б адолець.

17 жніўня 1962 году, сярод белага дня, а пятнаццатай хвіліне на трэцюю, двое маладых усходнебэрлінскіх муляроў ішлі сабе па Цымэрштрасэ, зусім недалёка ад Чэкпойнт-Чарлі. Можа, на абед, можа, з абеду — а можа, да новых перамог сацыялістычнага будаўніцтва. Ніхто не пасьпеў зразумець, як усё адбылося, натоўп павярнуў галовы ў іх бок толькі тады, калі яны ўжо ўскарасваліся на яго, яшчэ не зусім звычны але ўжо рэальны да рабаціньня ў вачах, на яго — Berliner Mauer.

Абодвум мулярам было па васямнаццаць. Сілы і спрыту ў іх хапала. Менш чым праз хвіліну адзін зь іх, Гельмут Кульбайк, саскочыў на зямлю ў вольным сьвеце і кінуўся да людзей, якіх і на тым баку, і на гэтым зьбіралася ўсё болей і болей. Але перад гэтым прагучалі некалькі стрэлаў. Другі муляр, Пэтэр Фэхтэр, упаў з муру на зямлю — на тым самым усходнім баку, дзе жыў і, як водзіцца, весела пяяў на роднай нямецкай мове. Чаго яму не хапала?

Сьцякаючы крывёй, ён ляжаў на нічыйнай паласе і крычаў, што ня можа падняцца. Паліцыя тым часам пачала адганяць людзей ад муру. А памежнікі з абодвух бакоў і амэрыканскія жаўнеры з Чэкпойнт-Чарлі назіралі, як на паласе адчужэньня ляжыць цяжкапаранены чалавек і лямантуе, што яму патрэбная дапамога.



Кажуць, лейтэнанту, які нёс у той дзень дзяжурства на Чэкпойнт-Чарлі, у адказ на ягоны запыт, што рабіць, прыйшла радыёграма:

You have your orders. Stand fast. Do nothing.

Гэта быў загад. І лейтэнант не зьбіраўся парушаць яго і рызыкаваць сваёй службай. Урэшце, гэта быў усяго толькі нейкі там немец. Яшчэ адзін немец.

Пэтэр Фэхтэр ляжаў пад мурам пятнаццаць хвілін. Дваццаць. Трыццаць. Сорак. Толькі тады нехта з паліцыянтаў кінуў яму бінты, але ён ня здолеў сам спыніць крывацёк. Абодва бакі таксама чакалі загадаў ад сваіх камандзіраў, таму ніхто не зьбіраўся забіраць адсюль падстрэленага парушальніка. Магчыма, загадаў не было. А можа, наадварот — былі: чакаць, што будзе, і не паддавацца на правакацыі. Першым ступіць на паласу значыла парушыць статус-кво.

Мінула гадзіна. Пачала адлік другая. Фэхтэр ужо не крычаў — прынамсі, ніхто ні на Захадзе, ні на Ўсходзе ня чуў, што там кажуць ягоныя вусны, якімі ён варушыў усё слабей. Прыкладна а палове на чацьвертую гэдээраўскія памежнікі хуценька выцягнулі яго з паласы і пад крыкі натоўпу: «Забойцы! Забойцы!» засунулі ў машыну.

А пятай ён памёр у шпіталі.

Праз шмат гадоў, калі мур будуць прадаваць па кавалках, як торт, двое з тых трох памежнікаў, якія стралялі ў Фэхтэра — пасталелыя, пастарэлыя, непазнавальныя, дэмакраты ў душы і патрыёты адзінай Нямеччыны — будуць адданыя пад суд. Хаця ва ўсёй гэтай гісторыі з Фэхтэрам яны вінаватыя, мусіць, менш за ўсё. Яны, прынамсі, ведалі, што ім рабіць, цэлячыся ў парушальніка. А тыя, іншыя, — яны проста чакалі загаду. І чакалі б яго да бясконцасьці — пакуль ідзе кроў, пакуль стаіць мур, пакуль недзе ў таемных высокіх кабінэтах фармулююцца бязглуздыя словы і ўзважваюцца нікому не патрэбныя шанцы.

# Лябірынты безь мінатаўраў

*18 жніўня 1922 нарадзіўся Ален Роб-Грые*

Яго хваліў сам Набокаў. А гэта штосьці ды значыць, калі прыгадаць, што з сучасных пісьменьнікаў Набокаў вышэй за ўсё ставіў сябе, любімага. Праўда, ніякага «новага раману» Уладзімер Уладзімеравіч не прызнаваў: «ёсьць толькі талент Роб-Грые і жменька ўдачлівых камэрсантаў ад літаратуры», казаў ён, і «новараманістаў» гэта вельмі злавала. Усіх, акрамя самога Роб-Грые, які загадкава маўчаў сабе ў бараду і знакаміты чырвоны шалік.

Адкуль такая пахвала? Зразумела, Набокаў пабачыў у Роб-Грые свайго вучня. А можа, і змахнуў сьлязу, успомніўшы створанага ім некалі пісьменьніка Сэбастыяна Найта: аднаго з герояў найтавых кніг уводзяць у тэкст выключна праз падрабязнае апісаньне ягоных ботаў. Вышэй аўтарскае вока прынцыпова не падымаецца. Прыём, пазьней адпрацаваны і адшліфаваны Роб-Грые да поўнай і пераможнай бліскучасьці.

Так што «новы раман» быў не такі ўжо новы. Хутчэй, стары, як Эўропа пасьля другой сусьветнай. Але нарадзіцца пад пяром Набокава ён ня мог. Тут патрэбныя былі іншыя погляды на літаратуру. Іншае насеньне. Напрыклад, апэльсінавыя костачкі.

Нарадзіўся Роб-Грые 18 жніўня 1922 у Берасьці... Ну, не зусім у Берасьці, а ў Брэсьце, Брэсьце-Францускім. І ў дваццаць сем гадоў, працуючы спэцыялістам па цытрусавых, напісаў свой першы раман «Un régicide», які нікому не падаўся цікавым і быў вернуты аўтару зь ветлівай парадай перачытаць клясыкаў і не пераймаць Жан-Соля Партра. Затое ўжо дзьве наступныя кніжкі, «Гумкі» і «Вуаёр», узьнесьлі сьціплага агранома са зьнешнасьцю марскога ваўка да вяршыняў славы. А разам зь ім — і сам «новы раман», нешта сярэдняе паміж таварыствам мёртвых паэтаў і бюро па ўліку і стандартызацыі. «Новы раман», які бяз Роб-Грые наўрад ці меў хаця б нейкія шанцы на прызнаньне. Бо яму хапала ўсяго: навізны, сьвежасьці, экспэрымэнтальнасьці і эпатажу — бракавала толькі таленту, і Роб-Грые велікадушна пазычыў яму свой.



Кожны вуаёр, кожны візіянэр і візіяніст, які завітвае ў сьвет Роб-Грые, ведае, што няма нічога больш цікавага за рэчы. Што гэта рэчы рухаюцца, дзейнічаюць, гавораць — а мы стаім. Гэта ня значыць, што мы — нежывыя. Проста нам ня трэба перамяшчацца, каб апраўдаць сваё існаваньне. Дастаткова перамяшчаць рэчы. І здарыцца дзіва: паўстануць і сюжэты, і героі, і інтрыга.

Толькі вось рэчы ня створаныя для таго, каб завяршацца і завяршаць. Раманы Роб-Грые — гэта бясконцыя гісторыі, якіх магло і ня быць, і якія нястомна сьведчаць пра тое, што яны могуць быць зусім іншыя, і што наагул няважна: якой быць гісторыі. Выдатны падман, што зьдзяйсьняе літаратура. Падман, які вымагае падрыхтоўкі — хаця б пачатковай ваеннай. Бо інакш вытрымаць яго цяжка; старонцы так на трыццатай высьвятляецца, што вонкава такі займальны сюжэт разьвіваецца толькі дзеля таго, каб аўтар захінуў яго медным тазам свайго генія. Генія рэчавага сьвету.

Роб-Грые падобны да такога сабе Вэргілія, які вядзе чытача па слоўным пекле, не пераймаючыся тым, што гэта мусіць некалі скончыцца. Ну калі, калі ж яны адбудуцца: катарсіс, катастрофа або проста які-небудзь канец? — нецярпліва пытаецца чытач. Ня ведаю, адказвае аўтар. Магчыма, мінулым летам. Дзе сэнс? — не адстае чытач, роспачна хапаючы аўтара з рукаў.

Дзе-дзе... У Марыенбадзе.

# Самі і іхныя сані

*19 жніўня 1991 адбылася прэс-канфэрэнцыя ГКЧП*

«Скажыце, калі ласка, ці зразумела вам, што сёньня ўначы вы зьдзейснілі дзяржаўны пераварот?» — запыталася журналістка ў бела-зялёнай летняй сукенцы.

Нявінна так запыталася. Спакойна. Стрымліваючы сьмех і ніяк не выказваючы страху. А баяцца было чаго — і з чаго пасьмяяцца было таксама.

Перад ёй сядзелі Самі — рукавадзіцелі, гаспада начальнікі: шасьцёра шэрых, немаладых, хваравітых, змораных жыцьцём, як пальцам з каўбасы выпханых мужчын такога ўбогага выгляду, што іх хацелася накарміць, напаіць, засунуць у лазьню і зачыніць яе навечна на вялікі амбарны замок. Дзядзькі гэтыя ўсю ноч і ўвесь дзень займаліся тым, што не здымаючы сваіх парткамаўскіх портак і пакамечаных пінжакоў спрабавалі спыніць гадзіньнік гісторыі. Спыніць і прымусіць яго стрэлкі круціцца назад. Пацелі патыліцы, трэнькалі тэлефоны, выдаваліся пастановы — але, здаецца, ім і самім было ўжо ясна, што нічога з гэтага ня выйдзе. Нават калі паклікаць на дапамогу дзедку, бабку, унучку і сабаку Паўлава, які на прэс-канфэрэнцыю не прыйшоў, бо надарваўся надоечы — за тым самым пачэсным заняткам.

Быў вечар 19 жніўня 1991 году, і на патугі мужчын глядзела ўся імпэрыя. І ўся імпэрыя бачыла гэты кантраст: жывыя, вясёлыя, сучасныя журналісты, якія сядзелі ў залі і ўсім сваім выглядам дэманстравалі, што но пасаран і мінулага не вярнуць — а перад імі, як на судзе або ў цырку, яны, старыя нясьмешныя клоўны... Якія, між іншым, пасьпелі надоечы замовіць на Тульскім заводзе 250 тысяч пар кайданкоў. Каб ніхто не замінаў змагацца зь непакорнымі стрэлкамі.



...У той самы дзень у іншым горадзе іншыя шасьцёра мужчын, кожны зь якіх выглядаў поўнай супрацьлегласьцю апісаным вышэй спадарам, прыйшлі ў кабінэт да кіраўніка БССР з патрабаваньнем адпаведна адрэагаваць на гэткія гульні з часам і гісторыяй. Для гэтых людзей і іх паплечнікаў у Менск ужо былі прыгнаныя закратаваныя вагоны — а яны стаялі тут і заміналі лавіць сыгналы з Масквы і шукаць адказ на адвечнае беларускае пытаньне: «каго і куды лізаць». Таму гаспадара кабінэта візытанты вельмі злавалі. Тую размову рэканструяваў Сяргей Навумчык:

*Дземянцей: Усё робіцца па Канстытуцыі. У нашыя рэспубліканскія справы ніхто ня ўмешваецца. Нам няма патрэбы зьбіраць сэсію. Гарбачоў сам за сябе вырашыў. Ён сышоў, а жыцьцё будзе працягвацца. Нам, беларусам, нішто не пагражае. І ня трэба падбухторваць людзей.*

*Гермянчук: Выходзіць, што Вы прызнаеце законнасьць камітэту на чале зь Янаевым і будзеце выконваць яго распараджэньні?*

*Дземянцей: А што Вы хочаце, каб я выконваў?*

*Гермянчук: Канстытуцыю і законы, а ня ўказы незаконнага камітэту. У Маскве на вуліцах ужо бронетэхніка. Вашае бязьдзеяньне можа прывесьці да таго, што танкі зьявяцца на вуліцах Беларусі.*

*Дземянцей: Усё, я далей ня буду працягваць размову. Паўтараю: Гарбачоў падаў у адстаўку. Абавязкі прэзыдэнта выконвае віцэ-прэзыдэнт Янаеў.*

Ну, да гэтага мы звыкліся: ісьці насуперак гісторыі, хапацца за стрэлкі, азірацца на Расею і сьмяшыць сьвет. Але тады перамога была за часам — стрэлкі гісторыі вырваліся з кволых рук і адкінулі змораных людзей-пінжакоў туды, дзе ім было самае месца — адных — да праайцоў, іншых — у турмы, потым — у шпіталі, яшчэ пазьней — у клюбы настальгуючых маразматыкаў: наракаць на сіяніцкую змову і паўтараць, як заклён: мы ўсё рабілі правільна, «яшчэ б нямножка, яшчэ б чуць-чуць..», ды лаяць капіталізм, ды хваліць пуцінаў: правільнай дарогай ідзяце. Глядзіш на іх сёньня: ні нянавісьці, ні шкадаваньня, хіба што пазяхнуць хочацца. А каго сапраўды шкада, дык гэта Чайкоўскага і лебедзяў. Такі балет спаганілі.

# Таксі да Падгорнай

*20 жніўня 1906 у Менску здарылася першая аўтамабільная аварыя*

Сярод знакамітых асобаў беларускай гісторыі імя Іван Фёдараў мелі ажно двое — і абодвум ім ня надта пашчасьціла.

Першы... Першы ведама які Фёдараў — масковец (паводле некаторых зьвестак, фальшывы), што друкаваў у іхнай сталіцы кніжкі разам зь Пятром Мсьціслаўцам, выпусьціў першы расейскі бэстсэлер і за гэты сьмяротны грэх быў выгнаны з самай прагрэсіўнай краіны сьвету на гнілы Захад. То бок у ВКЛ, дзе за кнігадрукаваньне на кол не саджалі і жыўцом не палілі, а наадварот — усяляк такіх вар'ятаў падтрымлівалі і шанавалі.

А вось другі наш вялікі Іван Фёдараў жыў у пачатку XX стагодзьдзя ў Менску. Скончыўшы Пецярбурскую школу аўтамабілістаў, ён купіў сабе не абы-што, а шасьцімесны «Мэрсэдэс» і вырашыў зрабіцца першым беларускім таксістам. Ці сапраўды ён быў першапраходцам, гісторыя маўчыць, але важна іншае. 19 жніўня 1906 году Фёдараў атрымаў у менскай гарадзкой управе дазвол на перавоз пасажыраў і ўжо назаўтра выправіўся шукаць ахвотных «эх-пракаціцца». Такія асобы знайшліся хутка — і вось Фёдараў каціў па Губэрнатарскай, і ягоны задаволены твар казаў пра тое, што, маўляў, «обраті вніманіе — сдѣлано въ Германіі».



На Карла Маркса, то бок на Падгорнай, «Мэрсэдэсу» давялося спускацца па не такім ужо стромым, але ўсё ж такі схіле. Тармазы ня вытрымалі — і машына Фёдарава, якую ён марна намагаўся ўтаймаваць, з усяго разгону ўрэзалася ў прыдарожны слуп. Пішуць, удар быў такой моцы, што пасажыраў выкінула на брук, а адзін зь іх нават паплаціўся за паездку калецтвам.

Так у Менску здарылася першая ў гісторыі аўтамабільная аварыя.

Гэтае здарэньне настолькі падзейнічала на празьмерна ўражлівых чальцоў гарадзкой управы, што яны забаранілі працу таксі ажно на шэсьць гадоў. Хацелі на сто, але пасьля перадумалі — міласэрныя былі людзі, прыхільнікі прагрэсу.

Іван Фёдараў на нейкі час затаіўся. Ён цярпліва чакаў сваёй зорнай часіны — і ў 1913-м дабіўся ад уладаў новага дазволу на перавозку пасажыраў. За гады чаканьня аўтамабіліст сабраў сабе грошай на новы «Мэрсэдэс» — гэтым разам васьмімесны. Шанцы фёдараўскіх пасажыраў пазьбегнуць калецтва, такім чынам, прыкметна павысіліся. Ці праходзілі раз-пораз шляхі-дарогі таксіста праз вуліцу Падгорную або ён абмінаў яе за кілямэтар, мы ўжо ніколі не даведаемся. Калі зь ім і здарылася яшчэ якая-небудзь аварыя, назваць яе першай, на жаль, ніхто ўжо ня мог, а таму і заносіць у аналы не сьпяшаўся.

Здавалася б, вось яно, забыцьцё... Але справу, пачатую некалі Іванам Фёдаравым, працягваюць новыя і новыя пакаленьні менчукоў. Шырыцца геаграфія, зьмяняецца тапаніміка, удасканальваюцца мэрсэдэсы, цягнуцца ўвысь новыя слупы. Радуюць вочы сьветлыя сьцены новых бальнічных карпусоў. Расьце і прыгажэе родны Мінск.

# Паплечнік мядзьведзя

*21 жніўня 1920 нарадзіўся сябра Віні Пуха Крыстафэр Робін*

Крыстафэр Робін, напэўна, вельмі зьдзівіўся б, калі б даведаўся, што ў Беларусі яго зь нядаўніх часоў клічуць яшчэ і Крыштусем Родзькам. Такое мяно ён атрымаў у перакладзе Віталя Воранава. А можа, зусім і не зьдзівіўся б: яшчэ да нараджэньня яму ледзь не далі імя Розмары. Бацькі вельмі хацелі дзяўчынку — дык яшчэ невядома, як выглядала б казка пра Віні-Пуха (або Віню-Пыха) і хто стаўся б ягоным найлепшым сябрам. Сябраваць зь дзяўчынкай нялёгка — асабліва калі ты мядзьведзь або парася.

Ён нарадзіўся 21 жніўня 1920 году ў Чэлсі, Лёндан, і жыў там пакуль не пайшоў у школу... Лухта якая. Кожнаму ясна, што Крыстафэр Робін мог жыць толькі ў Лесе. У Вялікім Лесе. Як поўнай лухтой ёсьць і тое, што да свайго плюшавага мядзьведзіка ён, пасталеўшы, не адчуваў ніякай асаблівай цеплыні і наагул пражыў жыцьцё з крыўдаю на бацьку, які так неабачліва прадвызначыў ягоны лёс, зрабіўшы сына на вякі вечныя прататыпам, закладнікам «у гасьцях у казкі».

Усё гэта нас зусім ня мусіць цікавіць. Намагацца глядзець на «Віні-Пуха» выключна дарослымі, строгімі і прагнымі да сэнсацый вачыма падобна да акту пэдафіліі. І адказнасьць за такое стаўленьне да гісторыяў зь Лесу мусіць быць ня менш сур'ёзная. Самае брыдкае — калі дарослыя пачынаюць ублытваць дзяцей у свае нудныя гульні. Калі тэмпэратуру чараўніцтва бяруцца мераць паводле Фройда. Калі казку выварочваюць навыварат, каб знайсьці брудныя плямы і дакапацца да прычынаў. Якая каму справа, што было пасьля кропкі? Рукі прэч ад мядзьведзя і яго сяброў.



Крыстафэр Робін — адзін з самых сымпатычных пэрсанажаў ангельскай літаратуры. Ён — наш герой. Герой маленькіх людзей, якія маюць унікальны талент спазнаньня. І тым, хто яго згубіў, прадаў, прапіў на баляваньні ў гонар сталасьці, лепш памаўчаць.

Крыстафэр Робін жыве *ў іншым канцы лесу*. Ён наагул іншы — але гэта нікому не замінае. Лес Вялікі і розны.

Крыстафэр Робін жыве *ў самым высокім месцы лесу*, куды ня можа дайсьці вада. Але ён не адседжваецца там — ні падчас буры, ні падчас паводкі.

Калі Крыстафэр Робін кажа, *што гэта «а», гэта «а»*. Ён усё ведае. Як і кожны нармальны сямігадовы чалавек.

Крыстафэр Робін адзін у Лесе *ўмее чытаць*. І гэта выклікае павагу.

Крыстафэр Робін мае аўтарытэт, якога няма ў Папы Рымскага. Калі адбываецца нешта незаплянаванае (а ў Лесе яно адбываецца ўвесь час), то ўсе думаюць: *Што скажа пра ўсё гэта Крыстафэр Робін?*

КР кажа ўсім, *што ім рабіць*. Ні сон розуму, ні сплін яго не абыходзяць. Ён хоча жыць і жыве ўсім на радасьць. Ён зьмяняе сьвет.

КР расказвае *цікавыя рэчы*.

І заўжды лепш паслухаць яго, чым дзядзьку з навуковай ступеньню, які скажа, што ўсім у сьвеце кіруюць сэкс, грошы і інфармацыйныя тэхналёгіі. Шпэк, грушы і Мікрабацыльныя Тухлалёгіі — сказаў бы Віні-Пух, і меў бы рацыю.

# Бацька Цэпэш

*22 жніўня 1456*
*Дракула стаў прынцам Валахіі*

Цяжкім выдаўся 1456 год для жыхароў цемнавокай Валахіі. Хлеб па талёнах, карупцыя, анархія, разгул нацыяналізму... А тут яшчэ і даніна, якую даводзілася рэгулярна выплачваць асманскім імпэрыялістам. Вось чым абярнулася для маладой краіны так званая баярская дэмакратыя. Пэсымізм і фаталізм панавалі ў некалі квітнеючым краі. Кожны чакаў збаўцу, мэсію, які запусьціць заводы, спыніць безьмяжак разам з беспрыдзелам, зробіць асманскую мову другой дзяржаўнай і пасадзіць на кол вінаватых. І такі чалавек знайшоўся. 22 жніўня 1456 году валаскім прынцам робіцца Улад Дракула, ці то III, ці то IV. Чалавек, які ўвойдзе ў гісторыю як палымяны патрыёт Бацькаўшчыны і непрымірымы змагар за народнае шчасьце.

На валаскі пасад, у выніку ўсенародных і міжнародна прызнаных выбараў ён быў абраны не ўпершыню (менавіта абраны: сярод валаскіх баяраў кожны мог прэтэндаваць на прынца). Аднак раней кожнага разу прыходзілі асманска-фашысцкія акупанты і скідвалі вялікага правадыра. А вось у гэты вялікі дзень палітычная кар'ера Ўлада пачалася пасапраўднаму — нават апазыцыя вымушаная была прызнаць, што гэта ўсур'ёз і надоўга. Праўда, неўзабаве прызнаваць ужо не было каму...

«Слухай Улада — ён благому не навучыць», — сьпявалі зоркі валаскай эстрады, разьяжджаючы па сёлах і замках. Валахі ласкава называлі прынца Цэпэшам — ад слова, што азначае кол, той самы, на які Дракула любіў насаджваць сваіх апанэнтаў. Праўда, мянушка зьявілася ўжо пасьля сьмерці кіраўніка. Жорсткасьцю прынц не вызначаўся, хутчэй наадварот: сачыў, каб канец кала быў ня надта загостраны — адным словам, гуманіст. І зусім не злапамятны.



Яшчэ да свайго ўзыходжаньня на пасаду валаскага прынца ён прыехаў неяк у Тыргавіштэ на магілу брата. Раскапаў яе і пабачыў, што брата асьляпілі і пахавалі жыўцом. Жыхары гораду акурат сьвяткавалі Вялікдзень. Чысьценькія ўсе такія, у прыгожых нацыянальных касьцюмах, вясёлыя. Улад загадаў закаваць іх у ланцугі і адправіць на будаўнічыя работы па рэканструкцыі сваіх замкаў — каб працавалі там, пакуль адзеньне не пертворыцца ў лахманы. А мог бы і крывёю напіцца. Так што брэша ўсё Брэм, ачарніцель заходні.

А які веруючы быў чалавек!.. Кажуць, асманы тройчы прымушалі яго прыняць іслам — а ён як быў праваслаўны, так і застаўся. Толькі ў каталіцтва адзін раз перабег і назад, а так — ня выракся дзедавай веры. Храмы паўсюль ставіў — амаль столькі ж, колькі калоў. Умацаваў межы: да самай сьмерці ягонай ніхто ня мог сунуцца ў Валахію. Ня тое, што цяпер, калі па турыстах тут калы плачуць.

Кронікі ў адзін голас кажуць, што Дракула быў проста жах які справядлівы. Пасьля адной бітвы з туркамі распарадзіўся тых палонных, хто сьпераду паранены, узнагародзіць, а тых, хто ззаду — таго на кол, на кол... Калі нейкую кабету падазравалі ў здрадзе мужу, дык загадваў выразаць ёй геніталіі. І на кол. Куды ж яшчэ? А амбасадараў, адкуль бы яны ні былі, калі ня ўмелі яны з адпаведнай павагай зь ім гаварыць, ён папрыяцельску так па сьпіне паляпваў і казаў, каб іх, небаракаў... Туды ж, на кол! «У нас тут свае традыцыі».

Аднаго разу прынц абедаў на прыродзе: рэчка, лес, вакол калы стаяць з насаджанымі на іх ворагамі — каб апэтыт не прапаў. Слуга нёс Уладу місу зь мясам і неўпрыкмет нос рукой прыкрыў. Але ад збаўцы народнага нічога не схаваеш. «Ты чаго нос прыкрываеш, пёс?» — спытаў Дракула. «Бо мерцьвякі сьмярдзяць, пане народны збаўца», — адказаў слуга, чырванеючы. «Бедны хлопчык, як я цябе разумею!, — сказаў Дракула, падымаючы накрыўку. — Пасадзім цябе на кол. На самы высокі, там табе сьмярдзець ня будзе». І пасадзіў. У мэтах гігіены і патрыятычнага выхаваньня.

# Чорны перадзел

*23 жніўня 1939 быў падпісаны пакт Молатава-Рыбэнтропа*

Мы дзялілі апэльсін,
Многа нас, а ён адзін,
Гэта долька — для яжа,
Гэта долька для чыжа...

Добры быў дзіцячы вершык. Праўда, дзецям рэдка прызнаюцца, што іх таксама дзеляць. У тым ліку яшчэ не народжаных. А дзеляць іх, разам з дарослымі, спэцыяльныя дзядзькі на спэцыяльных трыбунах, а вочы ў дзядзек такія добрыя-добрыя... Як у Ганібала Лектара.

Дзядзькі называюцца Вялікія Палітыкі. Усялякія міністры па справах акупаваных тэрыторый... то бок замежных справаў. Кожнаму зь іх пры ўступленьні на пасаду варта было выдаваць сымбалічны нож. Таму што справа ў іх ад Нэронавых часоў адна — дзяльба здабычы. Перавыхоўваць іх бессэнсоўна. Бо іх многа. А ты адзін.

Гэта долька — для Гітлера.

А гэтая — для Сталіна.

А гэтая — якому-небудзь міністру Лаўрову.

А гэтая — аматарам канструктыўных дыялёгаў і адмены санкцый.

А ты там, пад коркай, сядзі і маўчы.



Наш адрас ня дом і ня вуліца. Наш адрас — Сфэра Нечых Інтарэсаў, мікрараён імя 23 жніўня, завулак 17 верасьня, чацьвёртая магілка зьлева. Так было і так ёсьць. Ты думаў, ты жывеш у Беларусі? Наіўны. Гэтая назва ўжываецца толькі дзеля маскіроўкі. Трэба ж дазволіць тубыльцам пагуляцца ў псэўданімы; даць ім пазабаўляцца сувэрэнітэтам і незалежнасьцю. Сапраўднае найменьне ўсіх гэтых тэрыторый, гэтых «крывавых земляў» — Сфэра Інтарэсаў. Вялікіх, прагных і нязьменна чужых.

Праўда, чыіх менавіта, на мапе не напісана. Бо мапа сакрэтная, і тыя, хто яе складалі, добра ведалі, што мапы маюць уласьцівасьць рэгулярна мяняць свае колеры і пагранічныя лініі. Гэта — тая Эўропа, дзяліць якую ніколі не было ні сорамна, ні ганебна. Мір тут заўжды залежаў ад таго, ці дамовяцца паміж сабой картографы. Антанта і бальшавікі, Молатаў і Рыбэнтроп, якія-небудзь сяргеі івановы зь якімі-небудзь брусэльскімі таварышамі. Акіянія на дадзены момант ня хоча ваяваць з Эўразіяй — і вось ты жывеш у расейскай Сфэры Інтарэсаў, і дзеці твае будуць жыць, і ўнукі; а захоча — дык усё, можа, і памяняецца. А ты жыві: Сфэра Інтарэсаў — гэта ж так інцярэсна. Лепш ужо жыць у Сфэры нечых інтарэсаў, чым сярод тых, хто інцерасуецца. Бо інакш могуць паслаць Адстойваць Інтарэсы — а гэта зусім ня так цікава.

Адзначаць дзень памяці ахвяраў нацызму і камунізму 23 жніўня, калі быў падпісаны той самы гнюсны і цынічны пратакол — гэта, безумоўна, правільна. Толькі вось з кім адзначаць — і ці ёсьць у тых, хто адзначае, на гэта права? Хіба гульні ў Сфэры інтарэсаў і ў сакрэтныя пратаколы адышлі ў мінулае? Хіба не адчуваецца ў вялікім і малым сьвеце маўклівай згоды «аддаць Расеі расейскае» — і хай робіць там, што хоча: хоць да люстраной гладкасьці танкамі адпрасуе ўсе тыя чачэніі і іншыя землі ня з нашай пясочніцы. Хіба, ківаючы на «ўнутраныя справы дзяржавы» і заплюшчваючы вочы на акупацыі і генацыд, заходні палітык не падпісвае свайго «сакрэтнага пратаколу», свайго Пакту Молатава-Рыбэнтропа?

Але гэта ўсё такія дробязі. Значна прыемней з усьмешкай, паціскаючы рукі дарагім усходнім партнэрам, уздыхнуць па ахвярах 39-га. Эўропа цяпер іншая. Перадзеленая. Для каго навечна, а ў каго проста ножык затупіўся.

# Гара як гара

*24 жніўня 79 гінуць Пампэі і Гэркулянум*

Пра Пампэі чулі ўсе. Значна менш — пра райцэнтар Гэркулянум. Пра г/п Стабіі, трэцюю ахвяру Вэзувія ў той дзень, 24 жніўня 79 году, амаль ня згадваюць. Зашмат інфармацыі, зашмат лаціны, разьбірацца і запамінаць — тое самае, што плакаць пэрсанальна па кожнаму з больш чым шаснаццаці тысяч чалавек, на якіх абрынулася тады атамная бомба Вэзувія. Хай гэта ўсё будзе звацца Пампэі — так прасьцей; часу мінула досыць, ён дазваляе.

У сьвеце ня так ужо шмат гарадоў, якія робяцца знакамітымі ў самы апошні дзень свайго існаваньня. Гэтую асаблівасьць Пампэяў заўважыў яшчэ Аляксандар Геніс у сваім цудоўным эсэ пра шэдэўр Брулова. У ім наагул шмат цікавага; Геніс прыгадвае, якое ўражаньне рабіла вялікая карціна на падлеткаў:

«Ня буду хаваць, што больш за ўсё мне, як і іншым пяцікласьнікам, падабаліся аголеныя грудзі жанчыны, якая ляжала на пярэднім пляне. Тады я яшчэ ня ведаў, што алегорыі заўсёды пазіруюць топлес...»

Вульканы таксама любяць пазіраваць. Здаецца, яны выбухаюць заўсёды ў момант, калі чалавечая самазаспакоенасьць і засяроджанасьць на сабе там, унізе, дасягаюць сваёй крайняй мяжы, калі адзінае, чым іх адорваюць — гэта стомлены позірк, які ўжо не ўяўляе ляндшафту бяз гэтай гары як гары



і таму амаль што перастае яе заўважаць. Напэўна, гэта пампэйцы прыдумалі прымаўку: «жывем, як на вулькане» — яе дагэтуль любяць паўтараць жыхары голых і пляскатых, як выкінуты пісьмовы стол, мясцовасьцяў, якім, ведама, шмат што пагражае: ад інфляцыі да інфлюэнцы — але толькі не 700 градусаў паводле Цэльсія ды гарачыя, толькі што зь печкі, лава і попел.

Пякарня сьмерці.

Вулькан зрабіў з Пампэямі тое, што магла хіба што толькі гісторыя, калі б ёй захацелася. Ён захаваў іх ад забыцьця. А Брулоў дапамог пагрузіць іх у вечны воз Вэзувія — мастак жа таксама вучыўся ў школе і быў некалі пяцікляснікам.

Калі гэтая краіна дасягне піку спакою і стабільнасьці — што яе зьнішчыць? Зрэшты, Вэзувій можна зрабіць сабе і з падручных матэрыялаў. Калі вельмі хочацца жыць на вулькане, а бог ня даў.

Калі б не турысты з краін не настолькі аддаленых ад Беларусі, каб чуць ад іх толькі «бар-бар-бар»... Калі б ня гэтыя людзі, якія крычаць у Вэнэцыі — а іх чуваць на Сыцыліі... Калі б не яны, руіны Пампэяў варта было б наведаць і падыхаць паветрам першай дадуманай, але пры гэтым ня выдуманай катастрофы. Пампэі наогул прымушаюць думаць. Напрыклад, вось пра што.

Пераход падзеяў у даўняе мінулае пазбаўляе гэтыя падзеі трагічнасьці — час зацягвае раны настолькі, што анэстэзія зь мясцовай робіцца поўнай і незваротнай. Застаюцца толькі моманты, перакошаныя твары на пярэднім пляне — пажыва для мастацтва. А так: ну хто будзе аплакваць людзей, памерлых два тысячагодзьдзі таму? І колькі мусіць прайсьці стагодзьдзяў, каб зь нечай бяды можна было пачаць іранізаваць? Ці праўда тое, што ў якім-небудзь 3079 годзе, гаворачы пра Хірасіму і Нагасакі, чытаючы пра Аўшвіц, чалавеку можна будзе ўсьміхнуцца і ўспомніць, што там за пікантныя падрабязнасьці згадваў падчас экскурсіі ваш абаяльны гід?

# Бяссоньніца па-амэрыканску

*25 жніўня 1819 нарадзіўся Алан Пінкертан*

Яго абміналі кулі (кітайцы тут ні пры чым), яго ня браў ні нож, ні відэлец, яго немагчыма было падкупіць (хіба што ўзяць у арэнду). Але аднойчы ў ліпені 1884 году ён спатыкнуўся і прыкусіў сабе язык. Мэдыцына была бясьсільная. Так скончылася жыцьцё знакамітага сышчыка, першага амэрыканскага прыватнага дэтэктыва Алана Пінкертана.

Таго самага, які зрабіўся прататыпам папулярных гісторый пра Ната Пінкертона, якімі ў Расейскай імпэрыі зачытваліся да 1917-га (у адным Пецярбургу за месяц прадавалася да 600 тысяч асобнікаў такіх кніжак). Ната Пінкертона, пра якога Карней Чукоўскі сказаў, што ў гэтага пэрсанажа замест душы — кулак, замест сэрца — кулак, замест галавы — кулак, і дзейнічаць сваім кулаком — адзінае, што ад яго патрабуецца.

Сур'ёзныя крытыкі ненавідзелі тыя кніжкі ня менш, чым амэрыканскія бандыты — рэальнага сышчыка Алана. А Алану было шкада марнаваць час на нейкую там нянавісьць. Для яго лавіць, страляць, ладзіць засады і замыкаць кайданкі было працай. Our sluzhba is opasna and trudna, напяваў ён, караскаючыся па дахах чыгуначных вагонаў і дамоў у чыкагскіх трушчобах, раскрываючы змовы супраць прэзыдэнта Лінкальна і... І самааддана, за добрую плату, змагаючыся з прафсаюзным рухам. Меў Алан і такія замовы. Малойцы зь ягонай «Агенцыі Пінкертана» былі гатовыя ўзяцца за любую работу: бізнэс ёсьць бізнэс, і іхны быў нічым ня горшы за астатнія.



Мала хто зь іх, паплечнікаў вялікага Пінкертана, ведаў, што сам Алан быў палітычны ўцякач. Нарадзіўшыся 25 жніўня 1819 у шатляндзкім Глазга, у маладосьці ён зрабіўся перакананым чартыстам, прыхільнікам рэформаў. Неяк знаёмыя шапнулі яму, што бачылі загад аб ягоным арышце. Доўга ня думаючы, Алан з жонкай сабралі чамаданы і селі на карабель, які плыў у Злучаныя Штаты.

Магчыма, гэтыя ўцёкі і паўплывалі на прафэсійны выбар Алана Пінкертана. Ён прыехаў у Амэрыку, ведаючы цану волі і асалоду небясьпекі, і зрабіўся паліцыянтам. Ужо неўзабаве па прыезьдзе яму ўдалося выкрыць банду фальшываманэтнікаў. Ды толькі служыць дзяржаве Алану хутка надакучыла — ён хацеў большага. І дасягнуў усяго, пра што марыў. На фота 60-х гадоў ён стаіць каля вайсковага намёта разам зь ня самымі апошнімі асобамі дзяржавы: Лінкальнам і генэралам Маклеланам. «Мы ніколі ня сьпім» — было дэвізам ягонай агенцыі, якая нібыта існуе дагэтуль. Добрая калыханка для кліентаў. Амэрыканская бяссоньніца.

# Пра што ракатаў Кракатаў

*26 жніўня 1883 адбылося вывяржэньне вулькана Кракатаў*

«Нешта не падабаецца мне гэтая выспа», — працадзіў скрозь зубы галяндзкі капітан, які высадзіўся тут, на камяністым кавалку сушы паміж Явай і Суматрай, разам са сваёй камандай улетку 1883 году. Вымерлая расьліннасьць, з шчылін у зямлі то там, то сям вырываецца пара, пахне серай, і зямля вібруе пад нагамі — пекла, пастаўленае на разагрэў. Тым ня менш яшчэ ў траўні на выспу ладзіліся экскурсіі: месца для пікнікоў было, можа, і не найлепшае, затое для філязофскіх роздумаў пра хісткасьць усяго існага — тое, што трэба.

Ён спаў дзьвесьце гадоў — і вось нарэшце выспаўся. Ёсьць меркаваньне, што гэта быў самы гучны шум, які чалавецтва чула ў сваёй гісторыі: яго было чуваць за 3400 кілямэтраў. 26 жніўня 1883 году а 13.00 інданэзійскі вулькан Кракатаў крэкнуў раз, крэкнуў другі — і закракатаў па-сапраўднаму. Праз гадзіну ў паветра ўзьнялася хмара вышынёй дваццаць сем кілямэтраў. Па акіяне прайшлі трыццацісямімэтровыя хвалі. Дваццаць кубічных кілямэтраў газу і попелу, дзьвесьце тысяч загінулых — і неверагодная прыгажосьць дзеі. «Ён быў жудасна прыгожы, агромністы мур, які праціналі маланкі і ўспышкі — праявы разгневанага агню...» — так выглядаў Кракатаў з адлегласьці сямідзесяці кілямэтраў.



Шум быў такі моцны, што праз дзесяцігодзьдзі дакаціўся і да беларускай літаратуры. Янка Маўр зрабіў Кракатаў адным з пэрсанажаў свайго раману «Амок». Пра вывяржэньне 1883-га там, пыхкаючы піпкай, распавядае боцман Гуз: «Марскія хвалі зрабіліся густыя, ліпучыя ад попелу... Дождж падаў на зямлю гарачай гразьзю... Зьверху сыпаўся попел, падалі распаленыя камяні... Людзі думалі, што надышоў канец сьвету. Кажуць, што цемра трывала васямнаццаць гадзін. Нарэшце бура сьціхла, скрозь жоўты туман засьвяціла сонца. Мы закрычалі ад радасьці: уратаваліся! І раптам зноў так загрукатала, так здрыганулася зямля, што мы пападалі з ног. А яшчэ праз хвіліну я пабачыў такое, што мне ніколі ўжо не забыць: на нас ішла цёмная, бурая гара з караблём на самай вяршыні!..»

Дзякуючы Кракатаў зямляне некалькі месяцаў жылі пад зеленаватым сонцам і блакітным месяцам. Дзіўны эфэкт праявіўся толькі ўвосень — так доўга апускаўся на зямлю вульканічны пыл. Кракатаў зайздросьцілі сэрыйныя забойцы ўсяго сьвету: столькі народу — і адным махам... Стаханаўская праца. Пяцігодку за два дні.

«Зь левага борта ціха наплываў Кракатаў, і выгляд ён меў такі, быццам уся гэтая гісторыя яго зусім ня тычыцца...»

# Ня духам адзіным

*27 жніўня 1770 нарадзіўся Гегель*

Калегі яго паважалі. Асабліва малодшыя.

«Калі б вы мелі намер атупіць розум якога-небудзь маладога чалавека і зрабіць ягоныя мазгі наагул няздольнымі да думак, вы не змаглі б зрабіць гэта лепей, чым даўшы яму пачытаць Гегеля, — пісаў Шапэнгаўэр. — Гэтыя пачварныя нагрувашчаньні словаў, якія анулююць адно аднаго і супярэчаць адно аднаму, даводзяць розум да пакутаў, выкліканых марнымі намаганьнямі думаць пра штосьці ў сувязі зь імі, і так да таго часу, пакуль яны не разбурацца ад сваёй абсалютнай пустаты».

Геніяльная пачвара, якая выкрыла Абсалют, вылавіла ў рацэ спазнаньня Сусьветны Дух і прыдумала дыялектычную трыяду — як іншыя прыдумляюць вадародную бомбу або гільятыну — нарадзілася 27 жніўня 1770 году ў Штутгарце, сталіцы Вюртэмбэргу. Зрэшты, знакамітым Георг Вільгельм



Фрыдрых Гегель зрабіўся не на радзіме, а ў Гайдэльбэргу і Бэрліне. Гэта там ён сфармуляваў свае знакамітыя выслоўі — адзінае ўцямнае, што цёмнаму чалавеку можна вычапіць зь ягонай спадчыны. Хаця цалкам магчыма, што Гегелю проста прыпісалі гэтыя зьедлівыя, самаіранічныя фразы — мусяць жа хадзіць вакол вялікага філёзафа нейкія анэкдоты:

*«Калі факты супярэчаць маёй тэорыі, тым горай для фактаў».*

*«Толькі адзін з маіх вучняў зразумеў мяне — дый той няправільна».*

Добра сказана — ці ўдала прыпісана. Асабліва ў параўнаньні з гэтым:

«...*Указаны спакойны непасрэдны давер да субстанцыі зноў пераходзіць у давер да сябе і ў сапраўднасьць сябе самога, а множнасьць правоў і абавязкаў, як і абмежаванае дзеяньне, ёсьць тым самым дыялектычным рухам маральнага, як множнасьць рэчаў і іх вызначэньняў, — рух, які знаходзіць сабе спакой і ўстойлівасьць толькі ў простасьці сапраўдна спазнанага сабой духу. Завяршэньне маральнасьці ў свабоднай самасьвядомасьці і лёс маральнага сьвету ёсьць таму індывідуальнасьць, якая сышла ў сябе, абсалютная легкадумнасьць маральнага духу, які распусьціў у сабе ўсе трывалыя адрозьненьні свайго ўстойлівага існаваньня ў масы свайго арганічнага расчляненьня і, цалкам упэўнены ў сабе, дасягнуў бязьмежнае радасьці і асалоды сам сабою...*»

Сорам тым вучоным, хто дасьледуе зьявішчы, рэчы і розныя там праблемы. Гегель пераканаўча даказаў, што прадметам дасьледаваньня філязофіі ёсьць сама філязофія і нішто іншае. І няма чаго тут галаву ламаць. У сьвеце наагул няма нічога цікавага, акрамя філязофіі, а калі ёсьць, дык гэта або яе незаконнае спараджэньне, або непажаданае наступства. Гегель нарадзіў Маркса. Маркс нарадзіў Леніна, Сартра і Габэрмаса, якога мы ўсе так любім. Ікота, ікота, перайдзі на Фядота, зь Фядота на Якава, зь Якава — на ўсякага. Чым ня тры законы дыялектыкі?

# Мара змораных

*28 жніўня 1963*
*М.Л. Кінг кажа:*
*«Я маю мару»*

Мара каштуе дорага. Амаль як мама і рама, разам узятыя.

«Калі б, скажам, да мяне прыйшоў чалавек і сказаў: „Дарагі пане дырэктар, я хачу памарыць. Колькі вы заплаціце за тое, што я буду марыць?“ — я б адразу ўступіў зь ім у перамовы, — кажа пэрсанаж аднаго набокаўскага раману. — А вы мне прапануеце адразу нешта практычнае... Фабрычную вытворчасьць, увасабленьне... Знайшлі што прапаноўваць — увасабленьне... Верыць у мару я абавязаны, але верыць ва ўвасабленьне мары...»

I have a dream — абвясьціў 28 жніўня 1963 году з прыступак Мэмарыялу Лінкальна Марцін Лютэр Кінг. Ці верылі тыя трыста тысяч чалавек перад ім у яе хуткае ўвасабленьне? Так. Ці абавязаныя былі верыць? Напэўна, не. Прамова Кінга была ўсяго толькі прыгожым словам, зьвернутым да ўсіх адразу і ні да кога канкрэтна; мара Кінга была абстракцыяй — у гэтай прамове столькі рэлігійнага ідэалізму, што поўнае ўвасабленьне яе ідэй можна ўявіць хіба што ў цяжкім сьне пасьля доўгай малітвы.



Гэта была мара пра рай на зямлі. Прыгожая мара. Марыць трэба толькі пра недасяжнае. Толькі так можна пазбыцца пекла ў рэальнасьці.

Словы атрымаліся пякучыя, як судовае абвінавачаньне, і суцяшальныя, як дотык. І сакрэт іх посьпеху быў у гэтым пранізьлівым «І». «Я». Прыём ня новы, але трапны. Прыгадваецца знакаміты артыкул Заля больш чым стогадовай даўнасьці, пад назваю «J'accuse»: «Я абвінавачваю», напісаў Заля, менавіта я сам — і гэта маё права. Ня «мы», не наагул, не невядома хто, — «я маю мару», абвясьціў Кінг у поўнай адпаведнасьці са сьвятым правам на прыватную ўласнасьць — і па-хрысьціянску падзяліўся ёй з тымі, хто ішоў за ім, хто яму верыў. Толькі такія асабістыя мары і могуць гнаць час наперад. Будучыня — гэта брукаванка, выкладзеная з прыватных募раў. Па якой крочаць людзі, даведзеныя да роспачы.

Кінг спрабуе адвярнуць іх ад нянавісьці і сьлепаты, захаваўшы ў іх цьвёрдасьць і пэўнасьць у сабе. Стоячы на браневіку, такога ня скажаш. Як і лежачы пад яго коламі.

А яшчэ, перачытваючы тую прамову, кожны раз дзівішся, колькі ў ёй блізкага для нас, тых, «хто крочыць у імжы між застаў». Калі падставіць, дзе трэба, словы «беларусы» і «беларускі» — выйдзе неблагое казаньне. Або казка нанач. Безь якой таксама немагчыма рухацца наперад — бяз казак нават самыя добрыя дзеці робяцца няздарнымі і тупымі дарослымі. Цяжка ўявіць сабе такую прамову, сказаную дзесьці ў Менску. Цяжка, але можна. Трыста тысяч, кожны зь якіх таксама мае свой dream, тут набярэцца.

«Сто гадоў мінула, і мы вымушаныя прызнаць, што беларус усё яшчэ не свабодны».

«Давайце ня будзем імкнуцца наталіць нашую прагу свабоды з чашы горычы і нянавісьці. Мы, беларусы, ня мусім дазволіць, каб наш стваральны пратэст выраджаўся ў фізічны

гвалт. Мы мусім імкнуцца дасягнуць велічных вышыняў, адказваючы на фізычную сілу сілаю духу».

«Пачаўшы рух, мы мусім паклясьціся, што будземісьці наперад. Мы ня можам павярнуць назад. Ёсьць такія, хто пытаецца: „Калі вы супакоіцеся?“ Мы ніколі не супакоімся... Пакуль справядлівасьць на Беларусі не пачне струменіць, як вада, а праведнасьць ня зробіцца моцным патокам».

«...І калі Беларусі наканавана зрабіцца вялікай краінай, гэта мусіць адбыцца.

Хай свабода зьвініць з палеткаў Меншчыны!

Хай свабода зьвініць з палескіх лясоў!

Хай свабода зьвініць з азёраў Віцебшчыны!

Хай свабода зьвініць на Гарадзеншчыне!

Хай свабода зьвініць зь Берасьцейшчыны!

Хай свабода зьвініць з Магілёўшчыны і Гомельшчыны!

Хай свабода зьвініць з кожнага ўзгорка і з кожнай нёманскай хвалі!

З кожнага ўзьлеску хай зьвініць свабода!

Калі мы дазволім свабодзе зьвінець, калі мы дазволім ёй зьвінець з кожнага сяла і кожнай вёскі, з кожнага раёну і кожнага гораду, мы зможам наблізіць надыход таго дня, калі ўсе беларусы, чорныя і белыя, яўрэі і паганцы, каталікі, уніяты і праваслаўныя, правыя і левыя, нацыкі і нацыяналісты, мадзярністы і традыцыяналісты, змогуць узяцца за рукі і прасьпяваць словы старога афрабеларускага гімну: «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...»

# Беларускі завулак

*29 жніўня 1936 году арыштаваны паэт Сяргей Дарожны*

У нашым мастацтве таксама быў свой Ларс фон Трыер.

Ну, можа, не зусім Ларс і зусім ня «фон» — але менавіта псэўданімам Л. Трыер часам падпісваў свае вершы паэт Сяргей Серада, больш вядомы як Сяргей Дарожны. Маладняковец, узвышэнец, «аматар выпіць і закусіць» (была і такая літаратурная суполка). Чалавек, якога хваліў сам Чорны.

І якога выклікаў на дуэль сам Паўлюк Шукайла. За пародыі на Шукайлаву творчасьць і заадно за «пярынную», як казаў Шукайла, лірыку. У адным з артыкулаў Людмілы Рублеўскай, прысьвечаным Дарожнаму, можна нават пазнаёміцца з узорам той «пярыннасьці». І аддаць належнае — мякка...

«Зіма цяпер — і сьнегу па калені.
Ні сьцежак, ні дарог няма, —
Цярусяцца і падаюць сьняжынкі памаленьку —
Зіма, зіма...»

Непераборліва, затое музычна. Дарожны пісаў на інтэрнацкім ложку, адзіноты ня прагнуў, мог тварыць, нават калі вакол у кампаніі музаў «выпівалі і закусвалі» калегі па пяры і «пярыне». Такія, як і сам, наіўныя без наяўных... Ён любіў



Ясеніна, падпісваў лісты з патрабаваньнем жорсткай кары агентам міжнароднай буржуазіі, беларускім нацдэмам, і сам быў не адзін раз абвінавачаны ў нацдэмаўшчыне. Адным словам, нармальны, звычайны такі беларускі паэт, зь якога невядома яшчэ хто мог бы атрымацца: мог яшчэ адзін Броўка, а мог і наш уласны Бродзкі... І толькі застаўшыся сам-насам з сабой, ён сапраўды аказваўся «адзін, як месяц». Пра гэта і напісаў сваё найлепшае. Ці ўсё ж не дапісаў...

Як не дапісаў і тое, што мусіла абараніць яго ад праблем з уладай, якая ўсё больш пільна прыглядалася да розных узбочынных і прыдарожных паэтаў. Выгнаны з Саюзу пісьменьнікаў, у 1935-м Дарожны ўзяўся за кніжку пра Гікалу. Таго самага адэсіта, прафэсійнага азэрбайджанца і ганаровага ўзбэка, які жыве ў народнай памяці за цумам. 29 жніўня 1936 году ў пакой Дарожнага ў Першым беларускім завулку, 3А (паводле мапы 1934-га году, гэта быў адзін з атожылкаў вуліцы Беларускай, недалёка ад цяперашняй КЗ «Мінск») прыйшлі суворыя людзі з ордэрам на арышт. Нічога асаблівага не знайшлі: кніжачкі, часопісы, рукапісы...

І тут пільныя госьці пабачылі звычайны кухонны нож, які ляжаў акурат каля рукапісу кніжкі пра таварыша Гікалу. «Орудіе страшного преступленія» злавесна паблісквала, на лязо па-здрадніцку наліплі хлебныя крошкі і ледзь прыкметная пазелянелая палоска таннай каўбасы.

Іншыя доказы чэкістам былі ўжо непатрэбныя. Дваццацівасьмігадовага тэрарыста асудзілі на восем гадоў лягероў за падрыхтоўку замаху на першага сакратара ЦК КПБ. Дарожнага адаслалі будаваць Камсамольск-на Амуры. Змрочны горад пад крывадушным псэўданімам: назва «Зэкаўск-на-Касьцях» пасавала б гэтаму паселішчу значна лепш. Там і памёр тэрарыст Дарожны. На Амуры, узімку...

Тое, што забойца і агент імпэрыялізму не давяршыў у Менску, давялося канчаць чэкістам. Праз год пасьля суду над паэтам Дарожным у сталіцы быў расстраляны герой ягонай недапісанай кнігі Гікала, чалавек-вешчдок.

## Справа для зьмяі

*30 жніўня 30 да н.э. памерла Клеапатра*

Ён падараваў ёй, эгіпэцкай царыцы, пэргамскія кнігасховішчы, дзьвесьце тысяч сувояў.

На адным балі ён, выконваючы ўмову нейкага прайгранага ім закладу, на вачах у шматлікіх гасьцей падняўся і пачаў расьціраць ёй ногі.

Мала таго. Ён зусім не пярэчыў, калі людзі з Эфэсу называлі яе ў ягонай прысутнасьці гаспадыняй і ўладаркай. Не аднойчы, высьвятляючы ў судзе справы тэтрархаў і цароў, ён, седзячы проста на судовым узвышэньні, чытаў оніксавыя і крышталёвыя таблічкі зь яе любоўнымі пасланьнямі. І калі Фурній, паважаны чалавек і цудоўны аратар, меў прамову, а праз плошчу акурат неслі ў насілках Клеапатру, ён, Антоні, ускочыў і пабег правесьці царыцу, так таго Фурнія і не даслухаўшы...

Бедны Фурній — які застаўся ў гісторыі дзякуючы гэтым вось Плютархавым плёткам. І насамрэч жудасныя абвінавачаньні. Менавіта за такія недастойныя паводзіны Марка Антонія ненавідзелі ў родным Рыме. А ён нічога ня мог зрабіць. Бо быў апантаны ёй — Клеапатрай. Не за тое, што яна ведала восем моваў — рымлянін Антоні быў у той час як сёньняшні амэрыканец, «паўсюль дома». І не за тое, што яна была царыца эгіпэцкая — гэтага дабра, царыцаў і іншых прынцэсаў, Антоні меў дастаткова. Не за тое, што спала некалі з самім Юліем Цэзарам — Антонія гэта хутчэй натхняла, чым мучыла. Не за розум і не за дыпляматычныя здольнасьці. І не за «белыя грудзі пад найтанчэйшым усходнім ядвабам». Апантанасьць прыходзіць без прычыны. Адымае зрок і дае новы — каб бачыць толькі тое, што сапраўды важна. Шыю, рукі, плечы, вочы... Каб рухаць войскамі і народамі і праліваць кроў па адным Ейным капрызе. Апантанасьць працінае. Як там было ў Булгакава? Як фінскі нож пад рабро ў падваротні.



Бабскі паслугач! — сказалі на гэта ў Рыме. Элінскія гульні, несумяшчальныя з абліччам ісьціннага суворага і мужнага лаціняніна! — вырашылі там і пастанавілі зьнішчыць каханка Клеапатры, які паводзіў сябе так, нібы ён імпэратар эгіпэцкі і наагул бог. Нібыта мала яму, сабаку, было трыюмфаў на радзіме! І пакуль легіёны біліся за тое, каб працьверазіць заблукалую і п’яную авечку, у эгіпэцкай сталіцы Клеапатра і Антоні гулялі ў

Клюб самагубцаў, прымушаючы ўступаць у яго ўсіх, хто быў побач. Клеапатра, рыхтык як нацысцкі доктар, дасьледавала розныя віды атруты, выпрабоўваючы іх на вязьнях мясцовай турмы, а Антоні то крычаў, што памрэ, то зьбіраўся скончыць жыцьцё ў добраахвотным выгнаньні, абвяшчаючы сябе новым Тымонам Мізантропам.

Ды ўсё атрымалася інакш. Западозрыўшы здраду Клеапатры і пабачыўшы, што ягоныя салдаты перайшлі на бок Актавіяна, Антоні зрабіў сабе харакіры.

Што было далей, апісвае ўсё той самы Плютарх.

«Яна вымылася, легла да стала. Падалі багатае сьняданьне. Гэтым часам ля дзьвярэй зьявіўся нейкі селянін з кашом. Вартавыя спыталі, што ён нясе. Адчыніўшы кош і рассунуўшы лісьце, селянін паказаў гаршчок, поўны сьпелых смокваў. Салдаты зьдзівіліся, якія яны буйныя і прыгожыя...»

Клеапатра дасылае Актавіяну ліст, а сама зачыняецца ў пакоі зь дзвюма служкамі. Актавіян у гэты час чытае пасланьне: Клеапатра просіць яго, каб яе пахавалі побач з Антоніем. Да яго даходзіць, што адбылося, ён загадвае выламаць дзьверы. Клеапатра ляжыць на залатым ложку, а на руцэ ў яе відаць сьляды ад двух укусаў.

«Кажуць, што зьмяю прынесьлі са смоквамі, каб яна джаліла царыцу нечакана для яе самой — так загадала сама Клеапатра. Іншыя сьцьвярджаюць, што зьмяя сядзела ў збане для вады і Клеапатры давялося доўга дражніць яе залатым верацяном, каб раззлаваць. Ёсьць і тыя, хто кажа, што Клеапатра захоўвала атруту ў шпільцы для валасоў. Зьмяі ў пакоі не было, але зьмяіны сьлед быў знойдзены на беразе, куды выходзілі вокны пакоя...»

# Шлях Мэры

***31 жніўня 1888 знойдзеная першая ахвяра Джэка-Патрашыцеля***

31 жніўня 1888 году каля 3 гадзін 40 хвілін раніцы ў лёнданскім раёне Ўайтчэпэл, прыкладна за дзьве сотні мэтраў ад гарадзкога шпіталя, на вузкай і заўжды цёмнай вуліцы Бакс Роў быў знойдзены труп жанчыны, якую звалі Мэры Эн Нікалс.

У яе было перарэзанае горла, а пахвіна разрэзаная так, што вантробы вываліліся вонкі. На жанчыне была вопратка рабочага дому Ламбэрта. Паліцэйскія патрулі ў гэты раён не зазіралі; ніхто з жыхароў вуліцы ня чуў і ня бачыў нічога падазронага. Калі труп знайшлі, было ясна толькі, што сьмерць настала зусім нядаўна. Яшчэ за дзесяць хвілін да таго Мэры Эн Нікалс была жывая і вельмі п'яная — яна ішла па начным Ўайтчэпэле, каб зарабіць дзесьці чатыры пэнсы: менавіта столькі каштаваў ложак у прытулку, дзе яна, звычайная лёнданская прастытутка па мянушцы Полі, жыла апошні год. Позьнім вечарам яе, калі яна прабіралася па цёмных завулках, бачыў адзін прыяцель, якому яна і паскардзілася на жыцьцё.

За пяць дзён да таго Мэры Эн Нікалс споўнілася сорак тры. Ёй было наканавана зрабіцца першай ахвярай забойцы, асобу якога ня высьветлілі дагэтуль і ня высьветляць ужо, відаць, ніколі. Jack´a The Ripper´a. Джэка-Патрашыцеля. Першай зь пяці дакладна вядомых — іх, магчыма, было і больш.



Злачынцу не знайшлі. Але, прынамсі, кожнаму беларусу вядома, што той Джэк быў нашым суайчыньнікам, такім сабе Якавам Прапоркам — бо калі ўжо этрускі нашыя прамыя продкі, а іхная мілагучная белаэтруская мова легла ў аснову сучаснага беларусішу, дык што ўжо казаць пра нейкага там патрашыцеля. Сумненьняў быць ня можа. Беларус, шчыры і сьвядомы, зь дзьвюма пядзямі валасоў і калтуном. З навыкамі хірурга і дыплёмам МДМУ. Бо як гэта гісторыя можа абысьціся безь беларусаў?..

Ва ўсім гэтым сапраўды можа быць доля праўды. Газэты таго часу пісалі пра мэдыка from Russia, які сьпешна пакінуў Лёндан пасьля таго, як было зьдзейсьненае апошняе забойства з тых, што прыпісваюць Джэку. Пакінуў і бясьсьледна зьнік.

Пра забавы юнага мэдыка, які пажадаў застацца невядомым, напісаныя цэлыя таміны. Пра Мэры Эн Нікалс вядома ня шмат. Аднак яе жыцьцё, і ўсё тое, што прывяло саракатрохгадовую Мэры ўначы 31 жніўня на Бакс Роў, заслугоўвае куды большай увагі, чым хворыя мазгі яе забойцы.

Яна нарадзілася ў сям'і сьлесара. Ёй не было дзевятнаццаці, калі яна выйшла замуж за друкара Нікалса. Мэры нарадзіла пяцярых дзяцей. Апошняга ўжо тады, калі была хранічнай алькагалічкай. Пасьля шаснаццаці гадоў шлюбу яна сышла ад мужа, жыла з адным кавалём, потым ён яе кінуў. Спачатку Нікалс даваў ёй грошы, потым перастаў. Мэры зрабілася прастытуткай, не пакідаючы спробаў уладкавацца ў жыцьці лепшым чынам — але адусюль, куды яна прыходзіла наймацца на працу, яе неўзабаве гналі. Яна крала — па дробязі, то там, то сям, жыла па чарзе ў розных рабочых дамах, на нейкі час вярнулася да бацькі — але жыць зь ім не змагла.

І вось яна ідзе па начным Лёндане. Грошы скончыліся. Лета канчаецца. Здароўя няма. Але жыцьцё працягваецца. У гэта так хочацца верыць, калі вып'еш. О, яна выглядае значна маладзейшай за свае гады. Яна абавязкова знойдзе таго, хто зможа заплаціць. Мэры Эн Нікалс ідзе па Бакс Роў. Ёй трэба ўсяго чатыры пэнсы. Усё, што яна мае, гэта яе цела. Яе цёплае цела. Мэры Эн ідзе па начной вуліцы. Мэры Эн ідзе ў вечнасьць. І яе ўжо ніхто ня спыніць.

# Сэрца пасажыра

***1 верасьня 1869 пушчаны ў эксплюатацыю першы пулманаўскі вагон***

З усіх жывых істотаў толькі пасажыр думае азадкам. Прынамсі, падчас трэцяй гадзіны свайго падарожжа. Аднак можна толькі здагадвацца, чым абярнуўся б для чалавецтва такі капрыз прыроды, калі б не пакуты аднаго амэрыканца, які паўтары сотні гадоў таму вырашыў, што ягонаму азадку досыць і трэба нешта мяняць.

У сярэдзіне дзевятнаццатага стагодзьдзя чыгуначныя падарожжы мала хто мог назваць прыемным баўленьнем часу: раматусу ў іх было ня менш, чым рамантыкі. Вось і амэрыканскі інжынэр і прадпрымальнік Джордж Мортымэр Пулман, якому даводзілася па некалькі разоў на месяц езьдзіць з Чыкага ў Альбіён і назад, шторазу мучыўся, скурчыўшыся на драўлянай лаве ў трасучым і нязручным вагоне. Яму балела ня толькі ў ніжняй частцы цела, але і ў верхняй, дзе, як вядома, трасецца і падскоквае ў такт цягніку-эпілептыку такі важны орган пасажыра, як сэрца.

А сэрца ў Джорджа Мортымэра Пулмана было вялікае і чулае. І балела яму за ўсё чалавецтва. Ён заплюшчваў вочы і прыгадваў, як некалі плыў праз возера Эры ў камфартабэльнай яхце: мяккія падушкі, абабітыя скурай канапы, плаўнасьць руху, плынь вады, афіцыянты, столікі, сьвежыя газэты... Ява паступова зьлівалася з мрояй, вагон пачынаў пагойдвацца на азёрных хвалях, інжынэр уяўляў, што сядзіць на зручнай канапе, дзе можна выцягнуць ногі, закурыць цыгару, адкінуцца на сьпінку, замовіць каву... Паравоз тармазіў, містэр Пулман, ліхаманкава хапаючыся за суседа, спаўзаў на падлогу і з крэканьнем вяртаўся на ненавісную мулкую лаву...



Так працягвалася ажно да таго дня, калі Джорджу Мортымэру Пулману раптам прыйшла ў галаву простая і геніяльная ідэя: чаму б не зрабіць чыгуначны вагон такім самым утульным, як кают-кампанія той цудоўнай яхты? Увасабленьне задумы выглядала не такой ужо і складанай задачай. І ён узяўся за справу — з імпэтам сапраўднага амэрыканца і ўсім гневам і болем бывалага пасажыра.

1 верасьня 1869 году першы вагон Пулмана, які атрымаў назву «Піянэр», стаў на рэйкі і быў прычэплены да чарады непрыветных старых вагонаў-«акцябратаў». Ягонае стварэньне абышлося Пулману і ягонаму партнэру ў дваццаць тысяч даляраў, то бок разоў у пяць даражэй, чым каштавала звычайная чыгуначная труна на колах. Затое ў ім было ўсё: скураныя канапы, падушкі, фіранкі, званкі, слугі, умывальнікі, прыбіральня... Дый дызайн пацешыў бы вока нават самага пераборлівага эстэта. Так у гісторыі чыгункі пачалася эпоха спальных вагонаў, якая ня скончылася дагэтуль. Чыгуначнае падарожжа зрабілася прыемным, як паход у госьці да хай сабе ня самых багатых, але ж гасьцінных гаспадароў. Славы доўга чакаць не давялося — чыгуначныя кампаніі хутка ацанілі перавагі пулманаўскіх вагонаў, дый пасажыр — не цяля; замовы пасыпаліся адна за другой.

Так Джордж Мортымэр Пулман зрабіўся мільянэрам. Зрэшты, сваіх рабочых ён любіў ня менш за даляры. І пабудаваў ім ля Чыкага цэлы гарадок Пулмана: такі сабе мікрараён, дзе ўсё было для чалавека, усё ў імя чалавека, толькі б ён працаваў сабе і даваў зарабіць Пулману. Сацыялісты кусалі сябе за локці, бачачы шчасьлівых пулманаўскіх пралетараў, якія чамусьці не хацелі кляйміцца пракляцьцем, ісьці ў сьмяротны бой і ставіць на агонь свой абураны розум. Але эканамічны крызіс не абмінуў кампанію Пулмана. Рабочыя пачалі страйк, 1 траўня 1894 году дайшло да страляніны. Джордж Мортымэр Пулман увайшоў у гісторыю як вынаходнік ня толькі камфартабэльных вагонаў, але ў пэўным сэнсе і сьвята 1 траўня. Дня, калі працоўныя ўсяго сьвету адзначаюць сваю салідарнасьць — амаль пасажырскую, бо камфорт — паняцьце ўмоўнае, а канцавая станцыя на ўсіх адна.

## Бяжы, хлопец

*2 верасьня 490 да н. э. атэнскі скараход Фідыпід выпраўляецца ў дарогу*

На ім не было ні красовак, ні кедаў, ні кірзавых ботаў, ні супрацьгаза — хутчэй за ўсё, ён быў голы, як Адам у дзень свайго стварэньня. 2 верасьня... А можа, і не другога — каляндар тады таксама быў голы; дакладна вядома адно: у адзін зь першых верасьнёўскіх дзён 490 году да нашай эры атэнскі воін і скараход Фідыпід выбег зь цяністага гаю пад Маратонам, каб папрасіць у спартанцаў дапамогі для свайго войска, якое мелася біцца з пэрсамі.

н выбег на самым досьвітку і мусіў адолець адлегласьць амаль 240 кілямэтраў. Гэта пры тым, што ніякіх указальнікаў на дарозе не было — як і самой дарогі. Фідыпід бег па траве і па калгасных палетках, бег па пасьбішчах і па камянях, пераскокваў праз ручаіны і пераходзіў уброд рэчкі. Недзе па абедзе ён пабачыў на ўзьлеску голага барадатага мужыка з рагамі і хвастом, які ганяўся за нейкай німфай.



«Пане! — крыкнуў яму Фідыпід. — Да Спарты далёка?»

«Адкуль ты ведаеш маё імя, лягапэд? — сказаў мужык. — Але малайчына, хвалю! Багоў трэба пазнаваць у твар. Гэта тое, чаго не хапае тваім суайчыньнікам... Гэтым капрафагам... Якіх я заўсёды так любіў. А яны, пэдагогі няўдзячныя...

«Пане, дык далёка? — нецярпліва крыкнуў Фідыпід, не збаўляючы хуткасьці. — Там нашы супраць пэрсаў стаяць!»

«Бяз панікі, грамафон, — прабурчаў Пан. — Ну, кілямэтраў дзьвесьце... А Мільтыяду свайму, пэдолягу, так і перадай: нічога ён ад мяне не дачакаецца! Хай хоць мільён пэрсаў вас, тэтрабрахіяў, дручыць будзе — пальцам не варухну! Не за тое мяне з Алімпу выгналі...»

Фідыпід махнуў рукой і пабег далей.

Увечары наступнага дня ён прыбег у Спарту. Спыніўся перад стратэгамі і замахаў рукамі ў накірунку поўначы.

«Ты што, нямы? — сказалі спартанцы. — На каго вецер гоніш, ілот?»

«Там нашы супраць пэрсаў стаяць!» — выкрыкнуў Фідыпід, калі трохі аддыхаўся.

«Ну і хай стаяць. А ты пасядзі. Віна вып'еш?»

«Дык жа ж просім вашай дапамогі!»

«Ён не нямы, ён сьляпы, — сказалі спартанцы. — Паглядзі на неба, дурань! Сёньня поўні няма, а хто ж выходзіць у паход, калі на небе няма поўні? Адразу відаць атэнца, толькі бегаць і ўмее. Вось зьявіцца поўня, тады чаму б не дапамагчы? Гэй, ты куды, хлопча?»

Але Фідыпід быў ужо далёка.

Па абедзе наступнага дня ён зноў пабачыў Пана. Той хацеў нешта сказаць, але Фідыпід, не зьвяртаючы на дзеда ўвагі, прыпусьціў яшчэ шпарчэй у накірунку Маратону. Дзед прыстроіўся сьледам.

«Ну так і быць! — пачуў Фідыпід за сьпінай адчайны крык. — Дапамагу! Але каб сьвяцілішча мне паставілі, архілохі! У межах гарадзкой рысы! І пірог з казьляціны!»

Фідыпід пасьпеў акурат у час. Зьнёсшы пару варожых галоваў, ён пабачыў, што пэрсы ўцякаюць, а яго самога кліча Мільтыяд:

«Ты дзе бегаеш, Эўкле?»

«Я ня Эўкле, я Фідыпід».

«Якая розьніца! Цябе што, у Індыю паслалі? Два дні чакаем, а ён недзе швэндаецца!»

«Дык гэта... У Спарце быў... І яшчэ Пан прасіў перадаць...»

«К чорту паноў! Бяжы ў Атэны, скажы, што мы перамаглі! Хай не хвалююцца!»

І Фідыпід разьвярнуўся і пабег. Перад ім была адлегласьць 42 кілямэтры. Праз некалькі гадзін ён быў у Атэнах.

«Мы перамаглі!» — крыкнуў ён і ўпаў бязь сілаў проста пасярод агоры.

«Хто б сумняваўся», — сказаў нейкі грамадзянін, які цягнуў за сабой асла.

«Ну яшчэ б», — прамовіла атэнка ў ружовым хітоне і пачала фарбаваць пазногці на левай руцэ.

«Знайшоў чым зьдзівіць, — засьмяяўся яе муж, які з асалодай паядаў вінаград. — Мы, атэнцы, заўсёды перамагаем. Запомні гэта, хлопча».

«А можа быць, ты ня верыў у нашую перамогу?» — падазрона запытаўся барадаты чалавек з палкоўніцкім падбародзьдзем.

«І наагул, ты чаго тут разьлёгся? — навіс на Фідыпідам натоўп. — Твае таварышы там кроў праліваюць! А ты тут на сонейку бавішся!»

«Ганьба! — абурыўся нейкі дзед. — Такі малады, а баязьлівец!»

«Можа, ён пэрсыдзкі шпіён? — тонкім голасам запытаўся нейкі школяр. — Нам у гімназіі расказвалі...»

«Глядзіце, якія ногі, — віскнула кабета, якая прадавала рыбу. — Адразу відаць: бягун. Ведаем мы такіх... Ледзь што — ногі ў рукі!»

«Прыбег з поля бою — і ні драпінкі! — прабурчаў нейкі чужаземец. — Хіба так бывае? Вось у нас на Крыце...»

«Дэзэртыр!» — падтрымаў яго высокі атлет з татуіроўкай Зэўса на грудзях.

І ў Фідыпіда паляцеў камень, потым другі... Неўзабаве камянёў было ўжо так шмат, што яны накрылі яго з галавою. Апошняе, пра што ён пасьпеў падумаць — гэта пра тое, што іх хапіла б на дарогу ад Маратону да Спарты.

## Санкт-Паўлік

*3 верасьня 1932 забіты Паўлік Марозаў*

Больш за ўсё гэта нагадвае казку. У якой, як гэта водзіцца ў Азіі, паўнютка хлусьні і намёкаў, а мараль прыносяць добрыя малойцы ў форме ГПУ. 3 верасьня 1932 году чатырнаццацігадовы хлопчык Павел Марозаў і ягоны малодшы брат Фёдар пайшлі ў лес па журавіны і не вярнуліся.

*«1932 года 6 сентября час дня я уч. инспектор Титов в присутствии Ермакова Кирилла Потупчика Дениса Ермакова Петра Прокоповича Осипа Пуляшкина Егора Книги Максима островского Андрея Шатракова Дмитрия 1932 года 6 сентября было заявлено Морозовой Татьяной что у нее потерявшись 2 мальчика Морозовых Павел 14 лет и Федор 9 лет которых при облаве обнаружили от деревни Герасимовки на расстояние 1 километра у рожице под сергиной от дороги Морозова Павла 10 метров каковой лежал головой в восточную сторону на голову был одет мешок в правой в левой руке между указательного и большого пальца разрезана мякоть и нанесен смертельный удар ножом в брюхо в правую половицу куда вышли кишки в торой удар нанесен ножом в грудь около сердце Под каковым находились рассыпаны ягоды клюквы ... Второй труп Морозова Федора от Павла на расстояние на 15 метров головой в восточную сторону нанесен удар в левый висок палкой и правая щека истекши кровью раны не заметно и ножом нанесен смертельный удар в брюхо выше пупа куда вышли кишки, и так же разрезана правая рука ножом до кости около обнаруженного трупа находилась болотина у таковой он лежал у края в редком осиннике. Нанесены смертельные удары ножом».*



Так пачалася гэтая гісторыя пра расейскага піянэра № 1 — Паўліка Марозава, які нібыта здаў органам уласнага бацьку, быў забіты за гэта кулакамі, савецкай прапагандай ператвораны ў ікону, і антысавецкай — у такога сабе Юду. Трылер з журавінавай мараллю, дэтэктыў на хрысьціянскія тэмы. А казка ўсё адно прасьвечвае скрозь зарасьнікі, віецца лясной ненадзейнай сьцежкай, па якой зусім зьбіты з тропу слухач рана ці позна прыйдзе ў прасторную дзяржаўную кватэру, застаўленую бронзавымі хлапечымі бюстамі, сярод якіх сядзіць баярыняй маці пэрсанажа — сына яна ўжо ня памятае, а вось брашуркі пра яго завучыла на памяць... Таксама праца.

Даўно ўжо вядома, што праўда ў гэтай казцы — толькі імя галоўнага героя. Паўлік Марозаў ня быў расейцам — ён паходзіў зь беларускай сям'і, пераселенай за Ўрал у сталыпінскія часы. У іх у Герасімаўцы ўсе па крыві былі беларусы, дзекалі, цекалі і «чаго» казалі густое, як дзёгаць. Малапісьменны мясцовы ўчастковы, запісваючы сьведчаньні Паўлікавага дзеда, так і піша па-расейску: *«а унук мой на поли астался баранит не знаю куда ходил и пришол дамой было вже томна».*

І піянэрам Паўлік ня быў — не было ў Герасімаўцы тады яшчэ піянэрскай арганізацыі. Як і кулакоў. Проста Паўлік, як у Чапкавым апавяданьні, усіх моцна дастаў. І даносу ніякага не было — былі паказаньні, дадзеныя ім супраць бацькі ў часе папярэдняга сьледзтва: тата, які сышоў жыць да маладухі, гандляваў фальшывымі даведкамі зь сельсавету і дапамагаў хаваць майно, якім трэба было дзяліцца зь дзяржавай рабочых і сялян... Але ж ня кожныя паказаньні ёсьць даносам — Паўлік ні ад каго не хаваўся, хаця сваякі і пагражалі «прырэзаць саплівага камуніста». Камуністам у Герасімаўцы называлі кожнага, хто быў не такі, як усе.

А што значыць быць такім, як усе? Гэта значыць жыць так, як прадпісвае казка. Слухаць толькі сваю земляную душу, сваё лясное, зьвярынае сэрца, гаварыць моваю камянёў і праліваць кроў любога, хто паспрабуе парушыць спакон вякоў заведзены Парадачак. Быць тупаватым носьбітам народнага духу. А такіх у Герасімаўцы было 100 адсоткаў.

Даніла, стрыечны брат Паўліка, які год за годам лупіць «камуніста» аглобляй, а потым крадзецца па лесе за кузэнам, дапамагае ўсадзіць яму ў жывот нож, даганяе Фёдара і б'е яго кіем у скронь.

Дзед Паўліка Сяргей, вурдалак, які, заўважыўшы, што Паўлік з братам ідуць у лес, моўчкі, з хітрай вясковай усьмешкай, захапіўшы сякеру, прастуе за імі.

Бабка Аксіньня, якая бяззуба сьмяецца ў твар Паўлікавай маці, сустрэўшы яе 6-га верасьня на вуліцы: «Вот ужо нагатовілі мы табе мясца!» — і перад сьледзтвам падбухторвае Данілу валіць усё на дзеда: дзедушка стары, яму ўсё адно.

Бацька Паўліка Трафім, хцівы, юрлівы дзялок, які ідзе на ўгоду з д'яблам і ня супраць пасядзець на двух крэслах — народная мудрасьць дазваляе.

Дый сам Паўлік, гэты малы вясковы блазан, фрык і бажаволак, які вырашыў, што навучыўшыся чытаць па складах, ён ужо ня нейкая там тварына, а права мае і можа меркаваць пра праблемы сусьветнага маштабу.

І гэтыя мясцовыя кар'ерысты, нядаўнія вяскоўцы, якія адразу ж дапялі, як можна скарыстаць журавінавае забойства і выціснуць зь яго як мага болей соку на свае дробныя патрэбы.

Тут нікога не шкада і ніхто не ахвяра. Здаецца, што ў гэтай казцы ўсе — ліхадзеі, нячысьцікі, ведзьмакі, злыя духі ці, прынамсі, чарнакніжнікі. Выклятае месца Герасімаўка. Кажуць, цяпер там Паўліку пакланяюцца, як сьвятому. Вось што бывае, калі забыць прыдумаць казцы канец.

# Мой мілы таварыш нямецкі лётчык

*4 верасьня 1987 скончыўся суд над Матыясам Рустам*

Размова, якая адбывалася 23 лістапада 1989 году ў пераадзявальні аднаго з гамбурскіх шпіталёў, была ня менш сур'ёзная, чым сустрэча ў вярхах паміж Гарбачовым і Рэйганам. І, трэба сказаць, значна больш драматычная.

«Ну пацалуй жа мяне, Штэфані...» — зноўку заныў маладзён у акулярах, які праходзіў тут цывільную службу.

«Ты юрлівы, ганарысты казёл, — сказала мэдсястра, надзяваючы халат. — У цябе нічога ня выйдзе! А тое, што ты зрабіў у Маскве, было ўсяго толькі трукам, каб прыцягнуць да сябе ўвагу!»

І тады вакол яго ўсё пацямнела...

Так Матыяс Руст прыгадваў на судзе, што зь ім адбылося ў той вечар. У адказ на «казла» і на «трук» ён проста ўзяў і ўдарыў мэдсястру нажом. Сьцякаючы крывёй, яна здолела дайсьці да іншага аддзяленьня шпіталя. Дзякуючы шчасьліваму зьбегу абставінаў там акурат сядзела брыгада хірургаў у поўнай баявой гатовасьці. Так знакаміты Kreml-Flieger Матыяс Руст, які толькі год зь нечым таму выйшаў па амністыі з савецкай турмы, зноў трапіў пад лаву падсудных і на першыя старонкі газэтаў. Як высьветлілася, не апошні раз.



Псыхіятар, пэўне, сказаў бы, што рэч тут у выхаваньні. Матыяс Руст зь дзяцінства звыкся атрымліваць усё, што пажадае. А жадалася яму розная.

Напрыклад, міру ва ўсім міры і ўзаемапаразуменьня паміж народамі. Менавіта так ён патлумачыў свой неверагодны пералёт з Гамбургу ў Маскву на савецкім судзе, «самым гуманным судзе ў сьвеце», які 4 верасьня 1987 пакараў немца 20 гадамі ГУЛАГу... не, усяго толькі 14 месяцамі зьняволеньня за парушэньне мяжы і правілаў авіяпералётаў. Праўда, Руст заадно прызнаўся, што ягоны палёт па маршруце Гамбург-Чырвоная Плошча быў зьдзейсьнены «цум шпас», жартам — у сваім стылі абвяргаючы сябе самога там, дзе трэба было б падавацца чалавекам зь перакананьнямі. Але перакананьняў у Матыяса не было. Адны жаданьні.

Сёньня мір ва ўсім сьвеце, заўтра швэдар... Ну, захацелася яму швэдрык кашміравы, ён і сьцягнуў яго з крамы. З кім не бывае. Не аплаціў замоўленую мэблю — зноў суд, зноў штрафы. Працаваў афіцыянтам у Маскве, адкрыў школу ёгі, заснаваў эзатэрычную арганізацыю, арганізоўваў аўтагонкі ў Эстоніі, выйграў на Трынідадзе некалькі сотняў тысяч у покер, навярнуўся ў індуізм... А ўсё пачыналася так нявінна: самалёцік «Сэсна», разгубленыя зьнішчальнікі з чырвонымі зоркамі, разбурэньне вярхоўнага камандаваньня савецкіх ПВА і пасадка на Чырвонай плошчы з раздачай аўтографаў і усьмешлівымі міліцыянерамі на заднім пляне. А некаторыя вось жывуць усё жыцьцё на адным месцы: радзільня-дзіцячы садок-школа-ды-інстытут, я нарадзіўся тут... Ён бы так ня здолеў.

Матыяс Руст — сымпатычны чалавек, зь якога боку ні зірні; нават паводле Чэхава: і твар у яго адкрыты, і думкі — тыя яшчэ скакуны... І душа харошая, за чалавецтва баліць. Ну, і швэдар нічога такі.

# О спорт, ты мір

***5 верасьня 1972 палестынскія тэрарысты захапілі ізраільскіх спартоўцаў на алімпіядзе ў Мюнхене***

Сто дваццаць адна краіна выправіла сваіх спартоўцаў на алімпійскія гульні 1972 году ў Мюнхене. На той час — рэкорд: удзельнічалі нават Лесота, Альбанія і КНДР. Атлеты апошняй пад кіраўніцтвам свайго супэртрэнэра Кім Ір Сэна здолелі ўхапіць цэлых пяць мэдалёў. Хаця галоўнае — не перамога, галоўнае — удзел, так нас вучылі ў дзяцінстве...

Пра тое, што ў баварскую сталіцу прыбыла і яшчэ адна алімпійская зборная, сто дваццаць другая, ніхто не падазраваў. А калі і падазраваў, дык маўчаў сабе, як плесьня ў сыры бэргадэр. Каманда Палестыны складалася з васьмі чалавек — праўда, спэцыялізаваліся яны толькі ў адным відзе спорту, тым, які пасьля 1972 году зробіцца сапраўды алімпійскім: захопе і забойстве закладнікаў. Палестынскія спартсмэны прыехалі з усім неабходным рыштункам — аўтаматы Калашнікава, пісталеты ТТ, ручныя гранаты...



Канкурэнтаў у іх не было. А ад пачатку не было і супернікаў. Ну, хіба што заходненямецкая паліцыя, кіраўніцтва якой лічыла, што чым менш яно будзе ўмешвацца ў гульні, тым лепш, а таму пастанавіла не рабіць зусім нічога. Бо ці мала што яшчэ падумаюць пра заходненямецкую паліцыю.

Раніцай 5 верасьня палестынскія алімпійцы з усім рыштункам пералезьлі праз агароджу алімпійскай вёскі. Так рабілі амаль усе спартоўцы, якія ленаваліся карыстацца брамай. Таму на палестынцаў ніхто не зьвярнуў увагі. Кажуць, нейкія дабрадушныя цяжкаатлеты, якія загулялі пасьля выступу, нават дапамаглі калегам з Блізкага Ўсходу: падсадзілі іх і перакінулі на той бок цяжкія заплечнікі. Палестынцы падзякавалі добрым людзям і рушылі да дому, у якім жыла ізраільская дэлегацыя.

Вынік вядомы. Адзінаццаць ізраільцянаў было забіта, двое — ужо ў першыя гадзіны захопу. Ды яшчэ нямецкі паліцыянт, які ўдзельнічаў у вызваленьні закладнікаў. Вызваленьні, якога, фактычна, так і не адбылося. Адбылася бойня — бойня і гандаль. Палестынцы адчувалі сябе героямі. Хіба ж гэта не гераізм, хіба ж не змаганьне за свабоду, за радзіму: застрэліць некалькі бяззбройных яўрэяў? Гэта ж ва ўсе часы ўважалася за доблесьць. Амаль спартовую. Да таго ж блаславеньне забойцам даў сам тата Арафат: беражы вас бог, сыночкі, сказаў ён ім, пасылаючы на Алімпіяду. Таксама трэнэр — у нейкім сэнсе.

Вінаватых з боку арганізатараў і сілаў бясьпекі даўно ўжо не шукаюць. Хаця, здаецца, ясна і так: ва ўсім вінаваты Гітлер. Гэта ж за ягоным часам у Нямеччыне ўжо праводзілася адна вельмі дзіўная Алімпіяда... І вось, каб ніхто нічога не падумаў, каб ні ў кога ня ўзьнікла нават найменшых паралеляў і алюзій з тымі нацысцкімі гульнямі, каб пазьбегнуць нават наймізэрнейшай двухсэнсоўнасьці — варта было пакінуць алімпійскую вёску ў 1972-м без аховы і не прадугледзець небясьпекі. Каб ніхто нічагусенькі... А палестынскія змагары і ня думалі. Яны дзейнічалі. І «нямецкая віна», ва ўгоду якой быў прыдуманы ўяўны «о-спорт-ты-мір», меншай у вачах сьвету усё адно не зрабілася. Хіба што набыла новыя, алімпійскія адценьні, зусім ня сьветлыя...

...Вось Гюнтэр Грас напісаў у сваім «антыізраільскім» вершы «Што мусіць быць прамоўлена» пра тое, што толькі так, гаворачы праўду пра ізраільскі мілітарызм,

*«можна дапамагчы ўсім,*
*Ізраільцянам і палестынцам,*
*Усім людзям, якія жывуць, варагуючы ў цеснаце*
*Гэтага акупаванага вар'яцтвам рэгіёну,*
*І нам, урэшце, таксама».*

Толькі так — прамаўляючы тое, «што мусіць быць прамоўлена»: пра тое, што Ізраіль — пагроза міру на зямлі і ўсё такое. Але сёньня, 5 верасьня, хай стары Грас лепш прамовіў бы іншыя словы, імёны, што таксама маюць права быць названымі хаця б раз на год і заставацца ў памяці. І тады, можа, упэўненасьці ў тым, хто тут вораг, у нас усіх было б меней. Вось яны, тыя імёны:

Давід Бэргер, Мошэ Вайнбэрг, Ёзэф Гутфройнд, Ёзэф Рамана, Марк Славін, Аміцур Шапіра, Кехат Шор, Андрэ Шпіцэр, Якаў Шпрынгер, Эліэзэр Халфін, Гадзі Цабары.

Барцы ды штангісты, ды судзьдзі міжнародных катэгорый. Толькі такіх і трэба браць у ворагі палестыншчыны. Стрэліў — і гатова.

# Або сьмерць

*6 верасьня 1991*
*Чачэнія абвяшчае незалежнасьць*

Чачэнскі герб — сапраўдны ўзор мастацтва: гэты чорны воўк запамінаецца назаўсёды. Чачэнскі герб — адзін зь нешматлікіх у сьвеце, што кажуць пра свой народ праўду: яны і праўда як ваўкі, вольныя, моцныя, няскораныя, такіх не прыручыш... Іожалла я маршо, свабода або сьмерць. Прыгадваюцца знаёмыя гамбурскія чачэнцы-выгнанцы: нязломкі, упэўненыя, іранічныя, з горнай тугой у вачах, стомленыя ад вечнай вайны, якая даганяе іх і тут — і здольныя адным рухам стрэсьці зь сябе ўсе наліплыя стэрэатыпы. Чачэнцы зь іхнымі аповедамі пра расейскія «зачысткі» і «замірэньні», пасьля якіх — напэўна, як сымбаль міру і спакою — заставаліся горы трупаў. Чачэнцы, пра якіх нехта сказаў, што яны — апошнія вольныя людзі ў сьвеце. Прыгадваюцца і іхныя «апанэнты» з расейскамоўнага лягеру — для якіх сьвет без вайны ня мае сэнсу, падазроныя да кожнага, хто хаця б барадою, хаця б позіркам, хаця б словам...

6 верасьня — ня самы кепскі дзень для таго, каб павіншаваць чачэнцаў з Днём незалежнасьці. Можна сказаць нават, што лепшага дня і не знайсьці: 6 верасьня 1991 адзначалася ў Чачэнскай Рэспубліцы Ічкерыя як дзяржаўнае сьвята. Пачынаючы з 1992-га, калі ў Джахар (тады яшчэ — Грозны) прыехалі на сьвяткаваньне Гамсахурдзія і, хто б мог падумаць: Жырыноўскі.



Натуральна, можна запярэчыць, што такой дзяржавы, як Ічкерыя, больш не існуе, а хто-ніхто нават прыгадае яе непрызнанасьць і поўную маргінальнасьць. Што ж, і БНР таксама не існуе... Вось скажаш такое — і сам сябе ловіш на нейкай супярэчнасьці. Што, хіба праўда — не існуе? Не існуе настолькі, наколькі не існуе нас саміх. На шчасьце, гэткія ідэі жывуць ня толькі і ня столькі сёньняшнім днём і выключна палітычнай рэальнасьцю не вымяраюцца, інакш наўрад ці можна было б давесьці існаваньне і такіх на першы погляд ахраненна рэальных утварэньняў, як РБ, ЗША і КНДР. У тым, што Ічкерыя — гэта ідэя, большая за сваё імя, пераканаліся нават яе ворагі, а хто можа лепш пацьвердзіць жыцьцяздольнасьць ідэі?..

6 верасьня 1991 году так званы Вярхоўны Савет Чачэна-Інгушскай Аўтаномнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі быў разагнаны дудаеўскімі паўстанцамі. Выправіліся дамоў маскоўскія «дачнікі»: «дарадцы», «памочнікі», «кансультанты» і «намесьнікі»; а «прадсядацель» гарсавету Куцэнка, прысланы для нагляду за непакорнымі «дзікунамі», быў... таго, дэфэнэстраваны. Страшна гучыць, праўда? Але слова гэтае азначае зусім не зьняцьце скальпу і публічнае паяданьне парэштак ахвяры на галоўнай плошчы Грознага — яго проста выкінулі з акна. Што, калі ўспомніць гусіцкія войны і трыццацігадовую эўрапейскую сечу, падчас якіх прагрэсіўныя чэхі выкідвалі бургамістраў у вокны, як недапалкі, зусім не выглядае нейкай асаблівай азіятчынай.

Азіятчына на чачэнскай зямлі пачалася трохі пазьней... Зь вяртаньнем сюды, у Чачню, тых, хто лічыў сябе «законнымі гаспадарамі» (усе сучасныя акупанты чамусьці ня любяць, калі іх называюць акупантамі: сорамна, ці што? нацысты былі больш шчырыя). Вялікая, не па тазіку, Расея чарговы раз схапіла сябе за валасы і паспрабавала ўтапіцца ў неглыбокай, сьмярдзючай вайне. Што паробіш: некаторыя здольныя дыхаць толькі гэткім чынам — а жыць і камандаваць хочацца. І яшчэ мачыць. Мачыць. Мачыць. Харошае слова. Галоўнае слова. Русское. У ім уся праўда. І яшчэ ў ваўку.

# Камяні і туфлікі

*7 верасьня 1581 Мантэнь даведваецца, што яго абралі мэрам Бардо*

Кагосьці ў ваньне насьцігае кінжал, кагосьці — вяхотка, а кагосьці — гонар і слава. 7 верасьня 1581 году філёзаф і пісьменьнік Мішэль Мантэнь ляжаў сабе, нікога не чапаючы, у адной з купальняў італійскага горада Люка, знакамітага сваімі лекавымі падземнымі крыніцамі. І тут — ліст з Францыі, які ледзь не намок да непазнавальнасьці, бо Мантэнь упусьціў яго ў ваду. Ліст, які прымусіў камяні ў нырках Мантэня на нейкі час адступіць і скласьціся ў нейкае падабенства трыюмфальнай аркі. Ён абраны мэрам Бардо, паведамлялася ў пасланьні. І мусіць не марудзячы прыступіць да выкананьня сваіх абавязкаў.

Зрэшты, філёзафы — ня той народ, які можна пацешыць такой забаўкай, як дзяржаўная пасада. Нельга сказаць, што навіна ўзрадавала Мантэня. Лежачы ў яшчэ цеплаватай вадзе, ён успомніў, як бачыў нядаўна ў Рыме маскоўскага пасла на прыёме ў Папы. Апрануты, як нейкая помесь сарацына з сыраварам, той ўпарта адмаўляўся пацалаваць Папу ў пантофлік. Пры гэтым пасол не гаварыў ні на воднай мове, апрача маскоўскай. Давялося ўгаворваць яго ўсёй грамадою... Мантэнь лена перавярнуўся на другі бок і падумаў, што калі ён прыме гэтае прызначэньне, дык і яму ад цалаваньня туфлікаў не адкруціцца. Хай сабе і ад мэтафарычнага. Што карысьней для францускай дзяржавы: філёзафы, што цалуюць туфлікі, або туфлікі, што топчуць філёзафаў?



Некалькі дзён ён абдумваў гэтую няпростую дылему, узважваў усе за і супраць. 10 верасьня ён, паводле ягоных словаў, «ляжыць у жаночай купальні», вада халодная, як лёд, і камяні ў нырках Мантэня зноў варушацца. Пасьля купаньня, так нічога і ня вырашыўшы, ён садзіцца на каня, каб пакатацца па ваколіцах Люкі і сагрэцца. Каля адной вёскі яму трапляецца нейкі селянін. «А што, міо аміко, — пытаецца Мантэнь, — ці часта вы самі карыстаецеся сваімі цудоўнымі водамі, якімі так шчодра ўзнагародзіла вас прырода?»

«Сіньёр, — адказвае тасканец. — Гэтыя воды лечаць толькі іншаземцаў».

Узрушаны Мантэнь запісвае гэта ў свой дзёньнік, а неўзабаве даведваецца, што сам кароль ужо даслаў яму ліст зь віншаваньнем, і вяртаецца ў Францыю. У нырках Мантэня застаюцца камяні, а ў Бардо зьяўляецца галава — самая сьветлая за апошнія некалькі стагодзьдзяў. Нам бы такую.

# Перац з імберцам

*8 верасьня 1514 адбылася бітва пад Воршай*

Слава Воршы ўжо ня горша, ці як там кажуць сапраўдныя, экалягічна чыстыя беларусы без харчовых дабавак. Усе Славы абарочваюцца; толькі адзін робіць выгляд, што гэта не пра яго, і ўцякае з-пад сафітаў — той самы, наш.

Гадавіна аршанскай бітвы — адно з самых каштоўных і, відаць, самае нязручнае сьвята ў беларускай калекцыі. Бо брацік пакрыўдзіцца. Бо стратэгічных запасаў перцу і імберцу больш няма. Ну і наагул нешта не сыходзіцца: што ж гэта, нам жа некалі ясна сказалі чалавечаскім языком, каб мы ў цішыні запыталіся, хацят лі рускія вайны — а мы іх так груба ў 1514-м. Як фашысты нейкія проста. І дзе, пад Воршай... Сорамна робіцца за продкаў. Маглі б, перад тым, як біць усходніх турыстаў, падумаць пра Чэхава, пра Пушкіна, пра розныя там газы і іншыя, як іх там — нэграрэсурсы, пра дзень яднаньня, пра агульную мову, пра славянскае братэрства, нарэшце. А яны, продкі, так жорстка, нібы гэта ня брат-расеец завітаў, а немец прыйшоў па яйка-млека.



Нельга ж так. Гэта ж і нацыяй зрабіцца можна, калі памятаць такія перамогі. А нам такое не па плячы. Нас і на Крапіўне было ў некалькі разоў менш. І чаго палезьлі?...

Аднак продкам такія пытаньні чамусьці ў галовы не прыходзілі. Пушкіна на іх не было. Дзікія былі людзі. Ні ядацкія праблемы на іх ня ціснулі, ні яды яднаньня. Пагналі ворага — і ніякіх згрызотаў сумленьня.

...Зрэшты, можна толькі ўявіць сабе, як бы цяпер адзначалася гэтае сьвята, калі б гісторыя выйшла на прыпынак раней.

Ясная рэч, з помпай адзначалася б, па-багатаму. Так, на жаль, хутчэй за ўсё і гэта быў бы «празьнік»... Бо урэшце, рэч у людзях, а не ў гадавінах. Адзначалася б з танцамі і танкамі, з франтавымі ста грамамі крамбамбулі ў парку Горкага, прысягай якіх-небудзь скаўтаў ля вечнага агню і партрэтам ваяводы Астроскага на вітрыне кожнага кафэтэрыя. Суворага такога нашага ўласнага суворава, у абрамленьні правільных стужачак. З сувораўцамі, перайменаванымі ў астрожцаў. З заслужанымі бардамі і іхным брэньканьнем па кожным канале (бо ўжо ж будзе можна!). З усім невыносным кічам, які беларус так любіць... Любіць выдаваць за сваё. Магчыма, адбывалася б рытуальнае спаленьне брыдкай маскоўскай харугвы. А то і паяданьне расейскага пасла. Не жыўцом, зразумела. У выглядзе бісквітнага торта, раскладзенага проста на плошчы Незалежнасьці — той самай, якую продкі адстаялі, а нам сорамна. Бо раптам яшчэ нехта што падумае, дык каб чаго ня выйшла, а то дзесьці там ужо казалі, што нехта штосьці ўспомніў, дык гэта ўсё няпраўда.

# Шматзначнасьць камэры

*9 верасьня 2003 памерла Лені Рыфэншталь*

Я нямецкую б вывучыў толькі за тое, што ёй гаварыла Лені... А дакладней, Гэленэ Бэрта Амалія Рыфэншталь, бадай, самая спрэчная зь нямецкіх, дый ня толькі нямецкіх дзеячоў культуры. Якім усё жыцьцё наканавана чуць пераважна адно пытаньне: з кім вы?...

Або на старажытны, прыгонна-панскі лад: чыіх вы будзеце, майстры культуры? Лені Рыфэншталь застанецца ў гісторыі ясна чыіх: улюбёнай рэжысэркай Гітлера. Няхай і ня надта працяглы час — саюз двух сэрцаў скончыўся ўзаемным расчараваньнем, але фюрэр, на жаль, ня з тых асобаў, ад поціску рукі якіх — нават мімалётнага — можна адцерціся мылам або газай. Або — о сынэма! — уратавацца правільным мантажом. Мімалётнасьці ў іхным знаёмстве якраз-такі не было — былі ўзаемныя сымпатыя і зацікаўленасьць... што там казаць, палёт Лені над грэшнай зямлёю быў эфэктны, як парад «Люфтвафэ». Дый у яго быў канец. У ноч з 8 на 9 верасьня 2003 году ў баварскім Пёкінгу, тым самым, дзе некалі павесілі мяцежнага генэрала Фэльгібэля, скончылася паўнамэтражная, каляровая драма пад назваю «Трыюмф няволі, або жыцьцё Лені Рыфэншталь, прыдуманае ёй самой».

Бязь Лені зь яе наватарскімі прыёмамі, зь яе камэрамі на вазочках, панарамамі, запаволенымі і паралельнымі здымкамі кіно было б іншым. Безь сяброў і працадаўцаў Лені зь іхнымі камэрамі... газавымі і астатнімі... — іншым быў бы сам сьвет.



Ну так, «Алімпію» ўсе глядзелі, «Трыюмф волі» таксама — а вось «Майн кампф» чытаў далёка ня кожны. У сучаснай Нямеччыне той «Маёй барбы», дарэчы, няма ў вольным доступе: трэба браць спэцыяльны дазвол... Які, зрэшты, атрымаць няцяжка. Сувязі паміж гэтымі мастацкімі творамі няма ніякай — але ва ўяўнай прыватнай бібліятэцы д'ябла, у якую лёгка ўвайсьці, але якую так складана пакінуць, яны стаяць ледзьве не на адной паліцы. Фільмы Рыфэншталь — яшчэ адзін, ці ня самы моцны доказ перавагі эстэтыкі над этыкай, якую нацызм так удала выкарыстаў у сваіх мэтах. У параўнаньні зь імі Гітлераў «бэстсэлер» — панурае мармытаньне ідыёта. Вось толькі замаўляюць музыку звычайна акурат панурыя ідыёты — танчыць даводзіцца іншым.

Гітлеру пашанцавала: рэдка калі ў сеткі таталітарных рэжымаў трапляе такая рыбка. А ў ягонай сетцы талентаў назьбіралася нямала: Гамсун, Паўнд, Лені — ужо хопіць на падтрымку штаноў. Млявай беларускай аўтакратыі таксама пазарэз патрэбная такая Лені. Але ні эстэтыкі, ні этыкі ў гэтай бяздарнай дзяржаве не разумеюць: пошласьць пасьпяхова пажырае ўсё яшчэ на эмбрыянальнай стадыі. Цяжка ўявіць сабе, каб хаця б адзін вялікі талент у краіне ўзяўся за сапраўдную працу на дзяржаўную замову. На тэму будучага хакейнага чэмпіянату можна было б зьняць такую «Алімпію» — Лені ў труне перавярнулася б. Але ўсё, што выціснулі зь сябе дзеячы культуры на дзяржаўнай службе да нашага «трыюмфу волі», гэта пакуль што песенька, напісаная адным паэтам у пошуках «нобэлю»:

«Сусветных зорак
У Мінску парад.
Чэмпіянат, чэмпіянат.
Забудзь пра вячэру,
Забудзь пра абед,
Спяшайся купіць
Апошні білет.
На лёд выходзіць твая дружына,
Вітай хакей, мая краіна.
Кружыць планету хакей.
Атакі дзявяты вал.
Хто на арэне нашай мацней,
Сягоння пакажа фінал».

# Праўда ў нагах

*10 верасьня 1960 этыёпскі маратонец Абэбэ Бікіла басанож перамагае на алімпіядзе ў Рыме*

Нюх не падвёў адстаўнога швэдзкага маёра Нісканэна: з усіх тых этыёпскіх пастухоў і аратых, якім пашэнціла трапіць у асабістую гвардыю імпэратара Хайле Сэласіе І, ён зрабіў стаўку на не такога ўжо й дужага на выгляд, але гнуткага і трывучага, як дрэва, маладзёна на імя Абэбэ Бікіла. Кожную раніцу іх можна пабачыць на выгане за казармамі: швэд з гадзіньнікам бяжыць за маўклівым этыёпам і неўзабаве адстае, задыхаецца... Зь цябе будзе толк, хлопец, ухвальна кажа швэд, калі Абэбэ вяртаецца. Этыёп не разумее. Швэд падымае ўгару вялікі палец. Этыёп не рэагуе. Засмучаны швэд закурвае цыгару. Што паробіш: Афрыка.

Менавіта такія, як Абэбэ, стаялі насьмерць супраць італьянцаў у трыццатых: узброеныя толькі лукам, дзідай ды роднай зямлёй паміж пальцаў ног — этыёпскія жаўнеры ваявалі тады пераважна басанож. Праўда, у 1935, калі прыйшлі італійцы, Абэбэ было ўсяго тры гады. А цяпер вось ён сам выпраўляецца ў Рым — абараняць гонар незалежнай Этыёпіі ў маратонскім забегу.



Рэч у тым, што імпэратар запрасіў швэда Нісканэна падабраць каманду да Алімпіяды 1960 году ў Рыме. Часу на падрыхтоўку было ня так ужо шмат, а куплю новага абутку для сваіх спартоўцаў этыёпскі бюджэт ня вытрымаў бы. І вось 10 верасьня 1960 году Абэбэ Бікіла і яшчэ адзін этыёпскі Абэбэ, Вакгіра, выходзяць на дарожку алімпійскага стадыёну. Зь іх сьмяюцца — хто цішком, за сьпінамі, а хто ўголас. Ні на тым, ні на другім этыёпу няма абутку. Адно слова: Афрыка.

Разам з басаногімі, як дзяцінства, этыёпамі стартуюць 69 маратонцаў з 35 краін сьвету. Вынік агаломшвае ня толькі скептыкаў, расістаў і «ў лыжы абутых» букмэкераў. Вакгіра прыходзіць сёмым, а Бікіла выйграе маратон з вынікам 2:15:16, на дзьвесьце мэтраў адарваўшыся ад найбліжэйшых перасьледнікаў. Гэта — падзея. Першы залаты алімпійскі мэдаль для «нябелай» Афрыкі. Босыя ногі Абэбэ Бікіла робяцца сымбалем свабоды, а Народна-Дэмакратычная Рэспубліка Лімпапо ўказам прэзыдэнта Леа Барма разьмяшчае іх на сваім дзяржаўным гербе.

Вэрсіяў, чаму ён бег басанож, існуе нямала. Сам Абэбэ выказаўся ў тым духу, што, маўляў, ён хацеў прадэманстраваць мужнасьць і гераізм этыёпскага народу ў змаганьні за ідэалы. Але пераможцаў ня толькі ня судзяць — ім яшчэ і мала хто верыць.

Ён бег басанож, каб паказаць усяму сьвету, у якіх гаротных умовах існуе афрыканскі спорт, кажуць публіцысты.

Ён бег басанож, бо нёс паміж пальцаў афрыканскую зямлю, кажуць паэты.

Ён бег басанож, бо пісаў сваімі нагамі гісторыю, а ў красоўках добрай гісторыі не напішаш, кажуць раманісты.

Але праўда выглядае зусім інакш. Як Hungerkünstler Кафкі, Абэбэ Бікіла бег басанож, бо не знайшоў сярод прапанаваных адыдасаў такога абутку, які прыйшоўся б яму якраз.

# Пастка для арла

*11 верасьня 9 Арміній разграміў легіёны Вара*

«Вар, а Вар, вярні мае легіёны!» — паўтараў, грукаючы галавой аб сьцяну, у верасьні 9 году рымскі імпэратар Актавіян Аўгуст. Пагрукае, пакрычыць, адыдзе на гадзінку паабедаць, а потым вяртаецца — і зноў: вар ды вар, вярні ды вярні.

Гузак сабе набіў — але што такое гузак на лбе ў параўнаньні зь незагойнай ранаю, нанесенай у тыя дні Аўгуставай імпэрыі ў Тэўтабурскай даліне. Тры легіёны пяхоты, уся разьмешчаная ў Германіі кавалерыя, шэсьць дапаможных атрадаў, больш за 20 тысяч салдатаў, карацей, «тры партсігара ацечэственных», «усё, нажытае непасільнай працай» было страчанае адным махам нядарным Варам. Апошні раз рымляне цярпелі такую паразу шэсьцьдзесят гадоў перад тым, ад парфянаў — і горыч яе была ўжо забытая. Нарадзілася і вырасла пакаленьне, якое ўявіць сабе не магло такой жудасьці, як разгром барбарамі гордых рымскіх кагортаў. А тут — гэткая ганьба... І ад каго — ад нейкіх хер... хер ведае ад каго, адным словам: ад херускаў. Такіх паслухмяных і верных.

Таму: Вар, вярні, а?



Галава, да якой быў зьвернуты гэты поўны роспачы і цалкам рытарычны заклік, у гэты час мірна пагойдвалася ў мяху. Звычайным мяху, які вястун гэтых самых херускаў нёс праз германскія лясы ў стан іншага племя, свэваў. У падарунак ад галоўнага херуска Армінія тамтэйшаму правадыру — глядзі, маўляў, вось табе рымская галава, сьсекчы можна і такую, таму давайце, таварышы свэвы, да нас, рубаць старажытнарымскіх акупантаў.

Галава Квінтылія Вара маўчала. А расказаць ёй было што. Напрыклад, пра здраду: колькі дзічыны было зьедзена з тым Арменіем, колькі разам выпіта нямецкага піва. Ці пра той самы дзень, 11 верасьня (меркаваная, але не пацьверджаная да канца дата Тэўтабурскай бітвы). Калёна рымлянаў расьцягнулася на некалькі кілямэтраў, праход каля ўзгорку Калькрызэ на Аснабруччыне вузкі і цесны, як і належыць пастцы. Насоўваецца бура, дождж хвошча рымлянаў па антычных профілях, вецер усчынаецца такі, што ломіць вершаліны дрэваў. За некалькі хвілін дарога ператвараецца ў сапраўдную багну. І тут з гушчару, з абодвух бакоў, вылятае іншая бяда: тысячы германскіх стрэл.

Рымляне падаюць тварамі ў топкую гразь. З-за дрэваў выскокваюць валасатыя чэрці зь сякерамі і мячамі, баявы кліч чуваць ва ўсёй даліне. Херускі атакуюць па ўсёй даўжыні калёны і адразу ж зьнішчаюць значную частку рымскага войска. Але нават пры такіх умовах рымляне здолелі арганізаваць абарону і нават стаць лягерам. Бітва працягваецца тры дні. Праз тры дні легіёнаў больш няма. Няма таго, што раньш было, таго, што Рым прынёс у гэтыя лясы: avaritia, crudelitas і superbia. Сквапнасьці, жаху і фанабэрыі.

Засталася галава Вара. Яна ляжыць сабе ціха-мірна ў даматканым мяху на плячы германца і думае пра сваё. Германец ідзе праз гушчар аднаму яму вядомымі сьцежкамі. Але нават ён не падазрае, куды яна прывядзе. Да якой велічы і якой бяды. Чым зробіцца для сьвету Германія, вызваленая ад Рыму — і чым Нямеччына.

# Рэспубліка вар’ятаў

***12 верасьня 1919 Габрыэле д’Анунцыё на чале групы нацыяналістаў захоплівае Фіюмэ (Рыеку)***

Як там пісаў маскоўскі блогер alexander_blok?.. «В белом венчике из роз впереди Иисус Христос...» Здаецца, цытата дакладная. У італійскім пісьменьніку Габрыэле д’Анунцыё, які 12 верасьня 1919 году на чале свайго войска з трыюмфам увайшоў у горад Фіюмэ, ён жа — харвацкая Рыека, таксама было нешта ад Хрыста. Дарма што пісьменьнік быў лысы, як гарбуз — грамадзтва, якое ён надумаў запачаткаваць у Рыецы, мелася быць гэткім жа ідэальным і недасяжным, як Хрыстова царства.

У незалежнай Італійскай Рэспубліцы Карнара — а менавіта такую назву атрымала Рыека падчас кіраваньня камэндантэ д’Анунцыё — закон абавязваў кожнага грамадзяніна вывучаць музыку. І быць адначасова анархістам, фашыстам, паэтам і піратам. Такая вось дзіўная дзяржава паўстала на аскепках Аўстра-Вугорскай імпэрыі пасьля першай сусьветнай...

І ружы ў трыюмфатара д’Анунцыё былі таксама. Наагул, дзень захопу Фіюмэ атрадамі звар’яцелага літаратара ўвайшоў у гісторыю як самы неверагодны палітычны спэктакль XX стагодзьдзя. Пісьменьнік, якога ўжо даўно запрашалі ўзначаліць паход на Фіюмэ, каб места не дасталася Каралеўству Сэрбаў, Харватаў і Славенцаў, прыехаў у горад у адкрытым аўтамабілі маркі ФІАТ, засыпаным ружовымі пялёсткамі. За ім рухаліся трыццаць пяць грузавікоў з ардыцы — італійскімі салдатамі-штурмавікамі, вэтэранамі нядаўняй вайны. Побач з грузавікамі ішлі калёны далматынскіх уцекачоў, дэзэрціраў і адстаўных карабінэраў. Перад самай мяжою гэтае казачнае воінства з эпатажным літаратарам на чале паспрабаваў спыніць італійскі экспэдыцыйны корпус. Д’Анунцыё дэманстратыўна скідвае на зямлю шынель — на ягоных грудзях зіхацяць мэдалі і ордэны. «Калі вы здольныя стрэліць сюды — давайце, не марудзьце!» — пагардліва кажа ён. Экспэдыцыйны корпус, які меў заданьне арыштаваць д’Анунцыё і разагнаць яго людзей, узрушаны ўключна да апошняга сяржанта — і пераходзіць на бок камэндантэ. У 11.45 легіён д’Анунцыё ўваходзіць у горад — не зрабіўшы ніводнага стрэлу.



Рэспубліцы д’Анунцыё было наканавана праіснаваць паўтара года — і гэта былі самыя незвычайныя паўтара года ў гісторыі Фіюмэ. На той час восемдзесят адсоткаў насельніцтва гораду складалі італійцы — але ня гэта вызначала аблічча нікім не прызнанай ідэальнай дзяржавы. У Фіюмэ кінуліся авантурысты і паэты з усяго сьвету. І пакуль камэндантэ пісаў пяцістопным ямбам канстытуцыю і спрабаваў дамовіцца з харватамі «скінуць разам ненавіснае сэрбскае ярмо», караблі Рэспублікі займаліся рабункамі ў Міжземнамор’і, ратуючы ад правалу яе эканоміку, а міністар прыгажосьці дырыжор Тасканіні махаў сваёй палачкай, выклікаючы ў Фіюмэ музаў... Вось гэта была дзяржава!

Незадоўга да канца свайго існаваньня ад імя Рэспублікі быў адасланы ліст у Петраград, Савету Народных Камісараў — з прапановай усталяваць дыпляматычныя стасункі. Рэспубліка бачыла ў новай Расеі сваіх аднадумцаў — прыяцеляў па вар’яцтве, арганізатараў ня бачанага датуль экспэрымэнту. Але камісары не адказалі. Нічога дзіўнага: у Рэспубліцы д’Анунцыё яны пабачылі такую контррэвалюцыю, за якую ў Расеі спакойна ставілі да сьценкі. Маякоўскі адгукнуўся на перамогу італійскага калегі зьдзеклівым вершам пра «розуму ні ўнцыі, Фіюмэ ўзяў д’Анунцыё». Тут, у Петраградзе, зьбіраліся будаваць новую, чырвоную імпэрыю — і Рэспубліка паэтаў і карсараў падавалася камісарам дробнабуржуазнай гульнёй...

# Пустая рука

*13 верасьня 1993 парукаліся Рабін з Арафатам*

Руканьне, як вядома, традыцыя старажытная, і паходзіць яна ад жэсту, вядомага яшчэ да нашай эры: у мяне няма зброі, кажа той, хто працягвае руку, і на гігіену мне пляваць, таму і ты ня бойся, не псыхуй і пакажы, што ты там заціснуў у потнай далоні...

Кажуць, перад сустрэчай Ясіра Арафата і Іцхака Рабіна ў 1993-м палітыкі і журналісты рабілі стаўкі: у форме Арафат прыйдзе ці апране ўсё ж з такой нагоды цывільны гарнітурчык. Арафат не падвёў прыхільнікаў — ён ня толькі выйшаў на траўку перад Белым домам у сваім нязьменным злавесным фрэнчы, ён яшчэ, як упарта сьцьвярджае легенда, прыхапіў з сабой пісталет. Дзеля задуманага ім надоечы пэрформансу ў імя міру: каб проста пад аб'ектывамі дастаць яго, жартам накіраваць на Рабіна і потым з усьмешкай перадаць амэрыканскаму прэзыдэнту: вось, маўляў, як выглядае сапраўды сымбалічны жэст добрай волі... Ахова не дазволіла Арафату зьдзейсьніць гэты сьмелы мастацкі акт. А шкада — цікава было б зірнуць на рэакцыю «афіцыйных асобаў»...

Гэты здымак абышоў увесь сьвет: агромністы, замучаны джогінгам Біл Клінтан, які зьзяе ад шчасьця, а недзе пад ім, як шкодныя дзеткі, вельмі эўрапейскі Рабін з тварам альбанскага раманіста — і Арафат у арафатцы, якая, такое адчуваньне, разьвязалася, і прэзыдэнт ЗША прытрымлівае яе рукой. На тварах Арафата і Клінтана ўсьмешкі; Рабін пазірае хутчэй скептычна, але з прыхаванай надзеяй, выраз яго твару можна перадаць адным словам: няўжо? Так, падпісаньнем доўгачаканага пагадненьня і руканьнем заклятых ворагаў 13 верасьня 1993 скончыліся непрыемныя, як курс лячэньня ад гемарою, перамовы паміж Ізраілем і палестынцамі. Усім дзякуй, усе вольныя.



Дзяржсакратар ЗША сказаў, што «немагчымае апынулася ў межах дасягальнага». Арафат сказаў, што адкрываецца новая эпоха. Шымон Пэрэс сказаў, што ён ужо бачыць «абрысы міру на Блізкім Усходзе». Часопіс «Тайм» склеіў з Арафата і Рабіна чалавека году. Нобэлеўскі камітэт даклеіў Шымона Пэрэса і даў гэтаму трохгаловаму стварэньню (паўтара чалавека, калі кіравацца прынцыпамі «Тайм») сваю прэмію міру. Нічога ня скажаш, мір быў абстаўлены як мае быць. Па-багатаму.

Няўжо?... Прыгадваецца брытанскі прэм'ер Чэмбэрлен, які, вярнуўшыся ў Лёндан пасьля Мюнхенскіх пагадненьняў і выціраючы на вачах усяго сьвету ножык, заявіў з той самай усьмешкай, што ён «прывёз мір». «Брытанія хацела мір коштам ганьбы — а атрымае ў выніку і ганьбу, і вайну» — прыкладна ў такім духу змрочна пракамэнтаваў наіўнасьць і недальнабачнасьць Чэмбэрлена Чэрчыль. Не, перамовы — рэч, вядома, патрэбная... паралелі тут толькі ў тым, хто з кім рукаўся...

Руканьне Арафата і Рабіна не прынесла міру ні Ізраілю, ні Палестыне. Заходнік Рабін купіўся на нічым не падмацаваныя абяцаньні, Арафат, здаецца, і ня думаў выконваць ніякіх там пагадненьняў зь яўрэямі — яму партыя не даравала б. Партыя, якая палічыла кранальнае руканьне ў Вашынгтоне праявай слабасьці Ізраілю і ціха парадавалася ў прадчуваньні новай крыві. У выніку за пяць гадоў пасьля такога цудоўнага дотыку пад вачыма загарэлага і вясёлага Клінтана палестынскімі тэрарыстамі было забіта больш ізраільцянаў, чым за пятнаццаць гадоў да яго. Нобэлеўскія прэміі міру гэтаксама здольныя спыняць войны, як курыца, выпушчаная на міннае поле, а руканьне — працэс узаемны, кшталту сэксу: бяз згоды абодвух ён называецца згвалтаваньнем. Нават каля Белага дому, нават пад аб'ектывамі, нават калі працягнутая рука — пустая...

# Тысяча другая ноч

*14 верасьня 786 Гарун ар-Рашыд робіцца каліфам*

Іхны Гарун, ар-Рашыд, любіў літаратуру ня менш за нашага, Алеся. І літаратараў любіў таксама.

Ад першага дня свайго ўладараньня, якое пачалося 14 верасьня 786 году, ён зьбіраў вакол сябе пісьменьнікаў усіх жанраў і стыляў, з усіх саюзаў і ўсіх суполак — каб навучыць іх нарэшце, як добра пісаць і застацца пры гэтым жывымі. Навука, дагэтуль не асвоеная некаторымі ня надта разумнымі літаратарамі. Пісучага люду вакол Гаруна тусавалася так шмат, што часам даводзілася праладжваць шчыльныя рады. Менавіта таму часы Гаруна ар-Рашыда ўвайшлі ў гісторыю як эпоха росквіту арабскамоўнай літаратуры: нішто так не спрыяе разьвіцьцю прыгожага пісьменства, як пазбаўленьне ад балясту і канструктыўная крытыка з вуснаў Уладара. Прынамсі, ведаеш, дзе ставіць кропку... І выбіраеш паміж кухняй і казкай.



А яшчэ каліф любіў лічбу сямнаццаць. Напрыклад, у яго было сямнаццаць любімых жонак (і разоў у дзесяць больш нялюбых). А калі ягоны візыр задумаў напісаць вялікі раман пра тое, як супраць Гаруна ўсчынаецца змова, каліф загадаў парэзаць яго на сямнаццаць разьдзелаў... Не раман, вядома, а аўтара. І кожную з частак пакласьці на адным з мастоў сваёй сталіцы — каб даць усім раманістам і візырам урок кампазыцыі.

І ўласны майн кампф ён таксама вёў, прычым досыць пасьпяхова. За ягонымі часамі хрысьціянам і юдэям было загадана насіць сьмешныя шапкі, падпяразвацца вяроўкамі і езьдзіць выключна на аслах (ніякіх коней!). Нехта скажа: сэгрэгацыя, дыскрымінацыя... Нічога падобнага. Літаратурны твор, увасоблены ў жыцьцё. Чысты ідэалізм. І прага справядлівасьці.

Калі Гарун даслаў Карлу Вялікаму статуэтку белага слана, кароль франкаў зарагатаў і прасіў перадаць каліфу, што такіх недарэчных жывёлаў на сьвеце не бывае. Каліф абурыўся і даслаў Карлу жывога элефанта. Адзінага белага, якога меў пры двары. Каб ведалі, у чым сіла імпэрыі.

Што ён не любіў, дык гэта Багдад. Той самы, па вуліцах якога, пераапрануўшы каліфа ў дэрвіша, яго паслала на начныя шпацыры народная творчасьць. І Багдад адказваў Гаруну ўзаемнасьцю. Яго тут ненавідзелі: за жорсткасьць, самадурства і пыху — як толькі можа горад ненавідзець гарадавога.

Такім ён быў у сапраўднасьці. Але...

Нехта зь філёзафаў напісаў пра міт, што ён агрэсіўны ў дачыненьні да рэальнасьці: калектыўнае несьвядомае заўжды перамагае і падмяняе мітам нават дакладна вядомыя факты — бо патрэба ў міце значна вышэйшая. Бяз «Тысячы і адной ночы» пражыць цяжка, а вось бяз тысячы і адной праўды — можна. Не яны вызначаюць быцьцё — а для літаратуры дык і наагул шкодныя. Асабліва ў заходнім перакaзе: тут, на Захадзе, заўжды цанілі арнамэнт, а хто там шыў раскошны дыван: дзеці з Бангладэш або вязьні кітайскіх турмаў — якая розьніца...

# З плесьняй па жыцьці

*15 верасьня 1928 Флэмінг дасьледуе грыбы і адкрывае пэніцылін*

Якія фарбы, якія на халеру палотны? Выкінуць і забыць... Як той казаў, усе гэтыя архаізмы даўно з ваччу сышлі і з памяці народнай зваліліся. Мінулае стагодзьдзе прадэманстравала, што маляваць можна чым заўгодна на чым заўгодна: зернем на клеі, кроўю на пяску, тушшу на скуры, сенам на асфальце. Усё мастацтва, усё купляецца. Ці вось яшчэ можна мачой на сьвежым сьнезе — атрымліваецца ня горш, чым «Жалезам па сьцяклу».

Брытанскі (а дакладней, шатляндзкі) мастак-авангардыст Аляксандар Флэмінг пісаў свае творы рознакаляровымі штамамі мікробаў, якія ён высейваў на агар-агары, разьлітым на кардоне. Сябрам падабалася. Праўда, мікробы часта псавалі задумы аўтара і перапаўзалі туды, дзе быў прадугледжаны зусім іншы колер. Карціны ў выніку выходзілі стракатыя, непрадказальныя і надта ўжо жывыя — на радасьць мастаку і маці-прыродзе.

Зрэшты, як мастака Аляксандра Флэмінга мала хто ведаў. Хіба такія самыя вар'яты, як ён. І ўсё ж у гісторыю ён трапіў менавіта дзякуючы мікробам. Бо містэр Флэмінг быў яшчэ і геніяльны бактэрыёляг. І, як нармальны геній і сапраўдны бактэрыёляг, ён не любіў мыць за сабой посуд — бо хто ж будзе сваімі рукамі нішчыць такую прыгажосьць? Бактэрыёлягам сам бог запавёў любіць жыцьцё — у ягоных самых простых і самых шкодных формах, што кішаць і тут, і там. І вось формы кішэлі, кішэлі — і дакішэліся...



15 жніўня 1928 году Флэмінг, на той час ужо даволі знакаміты дзякуючы сваім соплям, з дапамогай якіх быў адкрыты лізацым — пайшоў у адпачынак, не памыўшы пасьля сябе шматлікія прабіркі. Роўна празь месяц, 15 верасьня, мастак-навуковец вярнуўся на працоўнае месца і пачаў разглядваць кожную са сваіх каламутных шклянак — раптам за час яго адсутнасьці там нешта вырасла? Які-небудзь хлопчык-з-пальчык, якога можна будзе ахвяраваць навуцы? У адной з прабірак Флэмінг пабачыў плесьню, прыгожую, як самое каханьне, і выкшталцоную, як Вэнэра Мілоская.

«Нічога сабе, — падумаў Флэмінг. — Значыць, калі ня мыць посуд, у ім заводзіцца плесьня... Трэба сказаць пра гэта служанцы і напісаць у «Nature».

Адкрыцьцё так яго зьдзівіла, што ён узяў мікраскоп і пачаў любавацца цудам мікраарганікі. Калі б вучоны быў звычайным добрапрыстойным лёнданскім буржуа, дык, мусіць, ажаніўся б са сваёй знаходкай. Але ён быў мастак-абстракцыяніст і пагарджаў умоўнасьцямі. Прыгледзеўшыся, Флэмінг заўважыў, што жаніцца з прыгажуняй-плесьняй рана — бо яна паела ўсе суседнія бактэрыі, зь якімі Флэмінг працаваў месяц таму, а булёнам, на якім яна зьявілася, можна было зьнішчыць усё жывое ў асобна ўзятай шклянцы.

Так чалавецтва атрымала пэніцылін. Можна сказаць, што Аляксандар Флэмінг ўратаваў нас усіх — і навучыў з павагай ставіцца да мікраарганізмаў і іншых грыбкоў нашага неспакойнага лесу. Часам варта не закрываць нос рукой рукой, калі чхаеш, і ня мыць пасьля сябе посуд — гісторыя даруе, навука ацэніць, мэдыцына падзякуе, а зь містэрам Пропэрам усё адно ня так ужо й весела.

## Школа сьпеваў

***16 верасьня 1973 знойдзена мёртвае цела Віктара Хары***

«Разам з гітарай шчасьце забілі,
Над расстралянаю песьняй ня плач…»

Прыкладна так гучалі б тыя самыя радкі колішняга савецкага гіта, калі б «Песьнярам» заманулася прасьпяваць іх па-беларуску. Да тэкстаў тады ставіліся сур'ёзна: нота, якая кропляй крыві пунсавее на мёртвай струне — цяпер гэта выглядае амаль сюррэалізмам; цяпер такое не зразумелі б. Ну, Чылі, ну, гітарыст нейкі, віктарцой сямідзясятых — а нам што з таго? Нават паржаць няма з чаго. А Піначэт наагул быў рэфарматар і «крэпкі хазяйсьцьвеньнік». І пажраць, і пажраць пры ім было — і нават зь лішкам.

...16 верасьня 1973 году на ўскраіне Сант'яга быў знойдзены, сярод іншых, труп паэта, сьпевака і рэжысэра Віктара Хары. Для народу новай уладай штодня рыхтавалася зводка навінаў — і назаўтра ў ёй зьявіліся гэтыя два радкі:



«Вядомы фальклярыст Віктар Хара загінуў у перастрэлцы з вайсковым патрулём».

Як бачым, у вядомасьці Хары не адмаўляў нават новы рэжым. А «перастрэлка» выглядала такім чынам. 12 верасьня Хару з натоўпам іншых арыштаваных прывезьлі на крыты валейбольны стадыён у цэнтры сталіцы. Увечары тут было сабрана каля пяці тысяч чалавек. Афіцэр у цёмных акулярах задаволена назіраў за тым, як запаўняецца прасторная заля. І раптам ён выцягнуў руку і паказаў кудысьці паўзьверх схіленых галоваў.

«А цябе я знаю… — прамаўляе ён радасна. — Ты Хара! Сам Хара ўганараваў нас сваім візытам!»

Усе з зайздрасьцю азіраюцца. Няўжо гэты фашыст — прыхільнік «нашага барда»? Але Хару выцягваюць з шэрагаў зьняволеных — і пачынаюць біць. Аўтаматнымі прыкладамі. Пісталетам па галаве. Валяць на зямлю і б'юць ботамі. Ломяць рэбры. Выбіваюць вока. Камандуе той самы высокі элегантны бляндын у акулярах. Урэшце ён здымае іх — каб лепш бачыць.

«Мы цябе навучым, сука, сьпяваць чылійскія песьні».

Паводле сьведчаньняў тых, хто ацалеў у гэтым пекле на валейбольнай пляцоўцы, навокал панавала нармальная такая атмасфэра здаровага антыкамунізму. Аднаму студэнту адрэзалі вушы. Расстралялі ва ўпор падлетка, які пачаў крычаць ад страху. Праламалі прыкладам чэрап старому. Хару загадана не даваць ні ежы, ні вады. 15 верасьня ён піша цыдулку жонцы, у той дзень яго апошні раз бачаць жывым — бачаць, як Хару зьбіваюць прыкладамі вінтовак.

Віктара Хару мог чакаць той самы лёс, як і дзясяткі тысяч ягоных суайчыньнікаў, якім удалося пасьля перавароту пакінуць краіну і пасяліцца ў Мэксыцы, у Гішпаніі, у Італіі, Ангельшчыне, Нямеччыне… ды іх можна знайсьці цяпер па ўсім сьвеце. Адным зь іх быў Рабэрта Баланьё, аўтар «2666» і «Чылійскага нактурна». Дваццацігадовага Баланьё таксама арыштавалі — але афіцэрам у ягоным выпадку аказаўся хай са-

бе не прыхільнік, але былы аднаклясьнік. Баланьё выпусьцілі — і ён эміграваў. Кропля ніадкуль ня падала. Яна ўзьляцела — насуперак законам фізыкі, літаратуры і савецкай эстрады.

Ня верыцца ў тое, што Баланьё прыязна ставіўся да творчасьці Хары. Ён нават Нэруду не любіў, гэты дзіўны чалавек зь вечна трывожным позіркам... Але бываюць часы, калі творчыя погляды больш ня важныя, а важныя акурат трывожныя позіркі. Ці ў Беларусі часы цяпер менавіта такія? Ня ведаю.

«Новую песню, выстрадай, Чили...» Выпакутаваць для краіны новую песьню давялося тым, хто застаўся. Напрыклад, Эдвіну Дымтэру Біянчы, у наш час — пажылому чылійскаму службоўцу, сьціпламу працаўніку пэнсійнай сфэры. Як высьветлілася, біяграфія ў Эдвіна была вельмі цікавая, проста краіна ня ведала сваіх герояў. Менавіта ён, Эдвін, у 1973 годзе «забіў шчасьце» разам з гітарай. І ні пра якія мёртвыя струны думаць ня думаў. У тыя далёкія верасьнёўскія дні ён адчуваў сябе каралём. Няхай ня Чылі, а ўсяго толькі стадыёну ў цэнтры Сант'яга — затое ўлада была сапраўды неабмежаваная. Абса-лют-на-я. Як слых. Эдвін любіў музыку. Яны чамусьці ўсе любяць музыку. І вучаць іншых граць і сьпяваць. Прыкладам свайго патрыятызму — і націск тут мае значэньне.

# Пацалунак ля слупа

*17 верасьня 1939 пачалося «вызваленьне» Заходняй Беларусі*

Штогод напярэдадні 17 верасьня прыгадваецца гэтая вычытаная ў кагосьці простая, але цікавая алегорыя.

У кватэру вашага суседа ўварваліся бандыты, зьвязалі гаспадароў, уключылі, як гэта было модна ў дзевяностых, прас і пачалі рабунак. Вы асьцярожненька праходзіце паўз выламаныя дзьверы і кажаце шэптам: тут і маё майно ёсьць, можна, я забяру? Давай, вялікадушна пагаджаюцца бандыты, толькі хуценька. Вы хапаеце тое, што лічыце сваім, выпіваеце з бандытамі, закусваеце — о, чыста сымбалічна, чарачку ды каўбаскі на адзін зубок! А потым пасьпешліва вяртаецеся дахаты, шчоўкаеце замком і кладзяцеся спаць з пачуцьцём адноўленай справядлівасьці.

А пасьля... А пасьля кожны год у верасьні прыгадваеце той дзень з радаснай усьмешкай. Толькі бандытаў ня згадваеце — яны ж тут ні пры чым, праўда? Галоўнае, што сваё пры сваім. Вы аматар аб'ектыўнасьці, які забыўся зьняць накрыўку з аб'ектыва — і фоткае, фоткае, фоткае...

Так вось выглядае тая алегорыя — як нейкі сэрыял пра мянтоў і Дастаеўскага. Не зусім дакладна, не на сто адсоткаў трапна — але збольшага правільна. На жаль, менавіта такое апісаньне верасьнёўскіх падзей трыццаць дзявятага году адпавядае гістарычнай праўдзе, а не трыюмфальныя воклічы пра вызваленьне і ўзьяднаньне. Усё проста, як той сьлінявы пацалунак з плякату. Вызваленьне прадугледжвае свабоду — якой не было.



А што да ўзьяднаньня — яно, вядома, адбылося... аднак ня кожнае ўзьяднаньне ёсьць пазытыўным працэсам. Прынамсі, для тых, каго ўзьядноўваюць. Калі вязьняў адной камэры ўзьяднаць зь вязьнямі другой, або калі паставіць іх да сьценкі не паасобку, а разам — гэта таксама ўзьяднаньне. Калі бацькі — рабы, і іхны ўладальнік дакупляе сабе яшчэ і дзяцей тых бацькоў — і гэта ўзьяднаньне. Хаця міг ягоны, што й казаць, салодкі... Як цукрам рот набіць і ні пра што ня думаць. Цукар растае... Час стаіць.

Бывае, што аб'ектыўнасьць — вораг этычнасьці і кат маралі; яна, аб'ектыўнасьць, як той завіслы над галавой бандыт з распаленым прасам — гатовая забіваць і мучыць, упэўненая ў сваёй беспакаранасьці. З дапамогай аб'ектыўнасьці можна апраўдаць што заўгодна — аб'ектыўна добра ўсё, што добра скончылася. Аб'ектыўна без другой сусьветнай Эўропа засталася б пры ўсіх сваіх забабонах, аб'ектыўна бяз Гітлера, магчыма, дагэтуль не існавала б Ізраілю, аб'ектыўна Сталін быў маладзец, бо пры ім нікога ня спальвалі ў печках і ня труцілі ў газэнвагенах, аб'ектыўна кожнае самагубства скарачае колькасьць самагубстваў, аб'ектыўна і сучасны беларускі рэжым — прагрэсіўны, бо лепш такі, чым Расея. Аб'ектыўнасьці напляваць на асобна ўзятыя лёсы — яна істота бяз прынцыпаў, кілер на замову бесстароньніх гісторыкаў будучага. Тое, што чалавек мае адну непапраўную загану — жыве цяпер, аб'ектыўна зусім ня важна.

І што там адбывалася ў самім працэсе — нікому не цікава. Як не цікава было ўсім «вызваленым»: кінутым у турмы, дэпартаваным, пастраляным і забраным у савецкае рабства, што праз паўстагодзьдзя беларусы, бач ты, будуць жыць у адной дзяржаве. Той плякат з абдымкамі і пацалункам ля памежнага слупа можа выклікаць толькі жах — жах і спачуваньне: яны абдымаюцца, як апошні раз — так сьціскаюць адзін аднаго ў абдымках асуджаныя на сьмерць. Аднаму толькі што «зь неба на голаў упала ўся гэтая БССР», як пісала Геніюш, а ў другога чэрап пад каскай ужо праламаны...

# Каму кувае ківач

*18 верасьня 1819 нарадзіўся фізык Фуко*

У верасьні 2004 году альмавава мацер аўтара гэтых радкоў займела ў сваіх будуарах незвычайны прадмет інтэр'еру — ківач сямімэтровай вышыні ў шкляной пірамідзе. Каму цікава — мацер завецца БДПУ імя Танка, а ківач носіць гордае мяно Фуко. На адкрыцьці цікавосткі прысутнічаў сам тутэйшы мітрапаліт — хаця некалі менавіта такія ківачы бальшавікі абвяшчалі сымбалем перамогі навукі над рэлігіяй. На што рэлігія сьціпла адказвала, што сам па сабе ківач яшчэ ня значыць, што Бога няма і ў яго не было пляну. Ці Пляну — калі згадаць Умбэрта Эка...

Вучоны, які вынайшаў той шматзначны ківач, нарадзіўся таксама ў верасьні — 18 дня 1819 году ад Раства Хрыстова ў Парыжы зьявіўся на сьвет Жан Бэрнар Леон Фуко, чалавек і кратэр. І хто ведае, ці ашчасьлівіў бы ён сьвет сваім ківачом, калі б пайшоў, як і зьбіраўся, у мэдыцыну. Але беднага студэнта Фуко шторазу ванітавала, калі справа даходзіла да ўскрыцьця трупаў. Ён прыходзіў на заняткі галодны і злосны, а сыходзіў брудны, расчараваны... і зноў жа такі галодны. У фізыкі праблемаў з фізіялёгіяй значна менш, і Фуко абраў іншы шлях, на якім трупаў не валялася — хіба што шкілеты пагруквалі ў шафах.

Ён быў афазікам і фізыкам без дыплёму — што яшчэ раз даказвае, што на кручку геніяльнасьці можна павесіцца і бяз корачкі, а дробныя недахопы не замінаюць мець вялікія вартасьці. Ён займаўся гіраскопамі, тэлескопамі і іншымі скіпэтрамі навукі, безь якіх цяжка ўявіць сабе сёньняшні сьвет. Аднойчы ён нават вынайшаў пішучую машынку... Але машынка адышла ў нябыт, з ходу патлумачыць прызначэньне гіраскопа і іншых прыдумак Фуко здольны далёка ня кожны, а ківач вось усё ківае на свой выкшталцоны лад — быццам кувае, быццам пацьвярджае, што ўсё правільна, усё як мае быць, усё паводле пляну і ўсе мы неўзабаве памрэм, кружачыся ў гэтым бясконцым танцы.



# Вышынь чароўнае бляяньне

*19 верасьня 1783 авечка, певень і качка ў Вэрсалі зьдзяйсьняюць васьміхвілінны палёт на паветраным шары*

Чалавек звыкся хавацца за шырокімі сьпінамі жывёлаў; калі ўся надзея баязьлівага гома сапіенса на несьмяротнасьць жыве ў сэрцы лябараторнага пацука — пра якіх гаспадароў прыроды можа ісьці гаворка? Белка унд Стрэлка — вось імёны чалавечага страху. Напэўна, нешта падобнае да перажываньняў сабак-касманаўтаў давялося ў 1783-м адчуць і ім, першым пасажырам лятальнага апарату ў гісторыі авіяцыі, сьціплым героям яшчэ цнатлівых нябесных высяў — авечцы, качцы і пеўню. Так і хочацца дадаць: гальскаму пеўню, але выбар жывёлаў наўрад ці быў абумоўлены нацыянальнай гордасьцю: што блыталася пад нагамі, тое і запусьцілі. Гэта толькі касманаўтаў бяруць выключна ў спэцстайнях і супэрінкубатарах…

Імёнаў адважных першапраходцаў гісторыя не захавала. Можа, авечка і мела нейкае мяно, але качак і пеўняў ні папы, ні пэйзане дакладна ня хрысьцяць. Што захавалася, дык гэта расфарбаваная гравюра васямнаццатага стагодзьдзя, якая ня горш за фотаздымак передае атмасфэру тых падзей. 19 верасьня таго слаўнага году ў неба над Вэрсалем узьняўся напоўнены дымам паветраны шар з падвешанай да яго клеткай, дзе жаласьліва крычалі, кожны на свой лад, трое няшчасных жывёлін.



А можа, і ня жаласьліва. Можа, яны горда абвяшчалі сьвету пра тое, што жывёла можа ўсё, а чалавек — баіцца. Можа, яны проста крычалі: «Паехалі!», як трое гагарынаў, а ніхто не зразумеў намёку. Больш за астатніх ганарыцца певень. Ясна чаму.

На пляцы амаль не відаць вольнага месца — як перад рэвалюцыяй або пасьля футболу. Але Кісьляк яшчэ не забіў, і ніводзін боінг яшчэ не забіўся. Калі ўслухацца, з гравюры чуваць, як шуміць народ: Яно ляціць! Пакрыўджана адварочваюцца халодныя вэрсальскія статуі — маўляў, о людзі, недасканалыя стварэньні, дзіцячы садок: знайшлі чым любавацца. Сіне-залаты шар засланяе хмары, доўгі дымны хвост нагадвае пра ўжо блізкую брудную будучыню. Яно — ляціць.

«Яно» праляцела чатыры кілямэтры за восем хвілін і плаўна, як парашут анёла, апусьцілася на зямлю. Гэта быў ня першы палёт паветранага шара, зладжаны братамі Мангальф'е — яшчэ 5 чэрвеня яны пасьпяхова запусьцілі ў неба над Парыжам сваю самакрутку. Аднак верасьнёўскі палёт зрабіўся вяхою: жыць можна і на вышыні. Галоўнае — правільна абраць авіякампанію.

# Залатыя бананы

***20 верасьня 1946 адкрыўся І Канскі кінафэстываль***

Для стомленага календаром чалавека са схільнасьцю да дэпрэсіі і авітамінозам найважнейшым з мастацтваў, безумоўна, зьяўляецца кіно.

А калі ён, чалавек, апошнія сем гадоў яшчэ і толькі тым і займаўся, што забіваў, паміраў сам або глядзеў, як паміраюць іншыя, дык тут і пытаньняў быць ня можа. 20 верасьня 1946 году ў Канах адкрыўся першы з тых кінафэстываляў, вакол якіх шуму больш, чым яны таго заслугоўваюць. Карацей, тады яно ўсё і пачалося: залатая галёнка, крытыкі ў галёшах, голыя сьпіны і дыванок, які так і хочацца выцягнуць з-пад ног у зорак сусьветнага сынэматографу — і вярнуць кіно туды, дзе яно так весела пачыналася, да чаплінаўскай эксцэнтрыкі.

Зрэшты, першыя Каны былі яшчэ нічога. Рабэрта Расэліні замест сучасных расьлінаў і робатаў, што ўдаюць зь сябе геніяў, Бэргман-сцэнарыст і прыгожыя скулы Мішэль Морган... І нават савецкі рэжысэр, якога разумнае журы (што адчувала, адкуль у Напульскую затоку дзьме такі калючы вецер) чымсьці там уганаравала, быў ня хтосьці, а Фрыдрых Эрмлер, які зьняў жудасных «Сялянаў», гімн сьвініне ў чалавеку. Праўда, прыз Эрмлер атрымаў не за сьвініну, а за эпапэю пра Сталінград. І Сталінскую прэмію таксама. Вялікі пералом. Гіпсавыя мазгі.

Гэткі фэст плянавалі зладзіць яшчэ ў канцы трыццатых — але Гітлеру і Сталіну, якія абодва вельмі любілі кіно, занадта позна далажылі пра тое, што 1 верасьня 1939 у календары ўжо занятыя. Давялося пацярпець да канца вайны. Зрэшты, кіно тады зрабілася ўжо зусім іншым. І «Рым. Адкрыты горад» у 1939 адкрываўся б зусім інакш...



# Рукі прэч ад рукакрылых

***21 верасьня — міжнародная ноч кажаноў***

*Ой, кажане, кажане, чаму ж ня сеў ты на мяне...*

А чаго ім, уласна кажучы, на нас садзіцца?

«Калі нехта хварэе на жаўтуху, дык няхай насадзіць кажана на вострык кій, ды так асьцярожна, каб той кажан застаўся жывы, — раіла ў XI стагодзьдзі міласэрная лекарка Гільдэгарда Бінгенская. — Потым трэба прывязаць кажана да сваёй сьпіны, потым да жывата, і так да таго часу, пакуль кажан не падохне». Варта параўнаць гэтую параду з благаньнямі сучасных, ня менш міласэрных дачніц: «Памажыце пазбавіцца ад кажаноў! Пасяліліся на другім паверсе, ноччу немагчыма па хаце прайсьці, жудасьць! Чым іх патруціць?» Дымам іх, дымам, раяць абазнаныя ў справе забойцы. Або хімікатамі. Вынішчыць нячысьцікаў, ня даць ім ніводнага шанца.

Стагодзьдзямі ў Эўропе кажан працаваў в. а. д'ябла на зямлі — або, прынамсі, істотай зь ягонай, прабацькі зла, каманды. Кажаноў блыталі з рознымі «чорнымі птушкамі», зь якімі ніводзін нармальны кажан побач ня сядзе, яны абылганыя і зганеныя, і нават у Баршчэўскага — тое самае: як толькі дзесьці штосьці благое або падазронае — вінаваты кажан. Ён такі... то яго бачылі на месцы здарэньня, то адбіткі кіпцюроў супадаюць, суседзі паказваюць пальцам і жагнаюцца.



У кажана ніколі няма алібі. Дзе-нідзе жанчыны былі абавязаныя накапаць сабе пад падушкі кажановай крыві, калі яны зычаць шчасьця сваім дзецям. А яшчэ ў некаторых надта ўжо культурных народаў быў такі звычай: прыбіваць кажаноў на дзьверы дома. На шчасьце і каб духаў адганяць — бо які ж дух палезе да сваіх. Прыбіваць, як падкоўку або кітайскі ліхтарык.

Кітайцы, дарэчы, кажаноў якраз-такі любілі. А ўсё праз чароўнае слова «фу», якое значыць і «кажан», і «шчасьце». У Эўропе такое стаўленьне да кажаноў сустракалася рэдка. «Душа, якая вяртаецца дадому» — бывала, што і так паэтычна адгукаліся пра гэтых цудоўных істотаў, але і гэткія прызнаньні канчаліся тым самым выракам: расстраляць!

Кажан заўжды вабіў літаратараў — асабліва тых, хто, як і Баршчэўскі, меў справу з ірацыянальным і містычным. «Маска, зь якою танцаваў Мэлянхтон, — гэта быў кажан, дагары нагамі, галавою ўніз, — так пачынае адно з сваіх апавяданьняў Майрынк, сам — кажан з кажаноў у літаратуры. — Крылы шчыльна абліпалі цела, а ў кіпцях кажан моцна трымаў вялікую залатую апону, падняўшы яе ўгору, як бы тым самым паказваючы, што ён зь нечага зьвісае...»

Што ж, на карусёў каганцоў і іншых аліндарак кажаны больш сапраўды не садзяцца і ў валасах ні ў кога больш ня блытаюцца (апошняе чамусьці палохала добрапрыстойных сялянаў больш за ўсё; ну, што паробіш — хочаш хадзіць блыхасты, хадзі). І сам кажан ужо зразумеў, што яго хочуць сьцерці зь зямнога аблічча, толькі за тое, што ён іншы. «Калі ты мыш, мусіш хадзіць, а ня лётаць», вучыць народна-камунальная мараль. Усё, што засталося ў кажана, — гэта яго ноч. Амаль музэйная. Штогоду з 20-га на 21-га верасьня ў сьвеце адзначаецца міжнародная ноч кажаноў — добрая нагода выбіць з чалавечых галоваў усе тыя забабоны што да рукакрылых, якія закладваліся туды вякамі. Кажуць, кажаны пераносяць інфэкцыі... Але, паводле дадзеных ААН, колькасьць людзей, якія даядаюць за кажанамі і ходзяць зь імі ў агульныя туалеты, у сьвеце няўхільна зьніжаецца. Пекла — гэта іншыя людзі, нагадвае нам кажан. А я не чалавек, дык пакіньце мяне нарэшце ў спакоі. Павішу ды палячу. Як толькі сьцямнее.

## Разам з братамі

***22 верасьня 1939 супольны парад вэрмахту і чырвонай арміі ў Берасьці***

Згадваючы славутую «сустрэчу на Эльбе», варта не забывацца на іншыя гістарычныя «стрэлкі» з удзелам слаўнай Чырвонай арміі — ранейшыя і ня менш важныя. Інакш Эльба пачынае ўпадаць у Буг, а Тэрэспаль робіцца сталіцай Нямеччыны.

22 верасьня 1939 году ў Берасьці, на вуліцы Вуніі Любельскай, будучай Леніна, перад будынкам, дзе цяпер месьціцца аблвыканкам, была ўсталяваная шыбеніца... Не, якая яшчэ шыбеніца, хіба могуць ставіць шыбеніцы гэтыя суворыя вoі зь іх сьветлымі бровамі і памкненьнямі? Ну і што, што форма ў іх розная: мэта апраўдвае сродкі, як судзьдзя хабарніка, а серп і молат ператвараецца ў свастыку адным элегантным рухам рукі. Шыбеніцы будуць заўтра, а пакуль што тут — усяго толькі невялікая драўляная трыбуна. Менавіта на яе ў той дзень, пахрустваючы ботамі, узьняліся савецкі камбрыг Крывашэін і нямецкі генэрал Гудэрыян. Каб прыняць супольны парад сваіх войскаў, якія нядаўна супольнымі намаганьнямі зьнішчылі польскую дзяржаўнасьць. Вось яно, вайсковае братэрства — ня горшае, чым праз шэсьць гадоў на Эльбе.



Які сымбаль!.. Якая сіла!... Можна толькі ўявіць сабе, як бы яны зьмянілі сьвет, калі б разам, адным жалезным кулаком, аб’яднаўшыся, зьліўшыся ў параксізьме ідэйнай блізкасьці... Якое было б «Саюзнае гасударства»!...

Але неяк ня склалася. Недачалавек і расейская сьвіньня Крывашэін і ваенны злачынца і недабіты фрыц Гудэрыян парукаліся і пайшлі кожны сваёй дарогай. Няшчаснае каханьне — іначай не назавеш.

Гудэрыян у сваіх успамінах потым так і напіша: прымаў парад з чырвоным генэралам. А Крывашэін будзе ўсяляк выкручвацца: маўляў, не парад гэта быў, а так, перадача Берасьця нашым часьцям, і нічога ўрачыстага не адбывалася, ну, прайшлі радамі міма, ну, сьцягі, ну, тэхніка праехала, ну, пастаяў побач — але ж не цалаваліся, не абдымаліся, не...

Карацей, ніякага сэксу. Таму саромецца няма чаго, гонар захаваны і наагул забудзьце вы пра той парад. Не было — і ўсё тут. Лепш пра Сталінград і ўзяцьце Бэрліну — там дэкарацыі прыгажэйшыя і героікі болей. І наш вэрмахт перамагае іхны. Ура? Ура.

# Начная непрыемнасьць

*23 верасьня 1943 быў забіты Вільгельм Кубэ*

У тую ноч Вільгельм Кубэ спаў кепска: яму ўшчэнт разьнесла левы бок грудзей і адарвала руку. У выніку ён прачнуўся зусім разьбіты. Настолькі, што яго паклалі ў скрыню і самалётам адаслалі ў Бэрлін — закапаць у зямлю. Добры сродак ад бяссоньніцы.

Душа генэрал-камісара Вайсрутэніі, якая паволі адлятала ў цёмнае неба над Менскам, разьвіталася зь целам грузным гітлергрусам, а цела... Цела ў свае апошнія хвіліны яшчэ пасьпела пазайздросьціць служанцы Кубэ Алене Мазанік, якой надоечы таксама ня спалася. У дзень, які папярэднічаў прыкрай начной нечаканасьці, Мазанік паскардзілася Кубэ, што ёй да раніцы балеў зуб і яна зусім не заплюшчыла вачэй... Дык ці не адпусьціць яе гер гаўляйтэр да лекара? Вядома, спагадліва сказаў Кубэ, якому заставалася жыць менш за суткі. Ідзі, махнуў ён рукой, і ідзі да нямецкага дантыста, ён дапаможа... Яна і пайшла, не абарочваючыся. А ён прыехаў з працы і лёг спаць з пачуцьцём выкананага абавязку. У ложак з ангельскай мінай пад матрасам.

Так 23-га (або 22-га) верасьня 1943 году на Тэатэрштрасэ, 27 у Менску Вільгельм Кубэ скончыў сваё зямное існаваньне і пачаў іншае. Міталягічнае. Мала ёсьць згнілых у зямлі нацыстаў, якіх бы так імкнуліся апраўдаць пасьля сьмерці. «Слаўны сын беларускага народу, які ахвяраваў жыцьцём дзеля шчасьця Бацькаўшчыны» — здаецца, так яго пакуль што не называлі. Але маглі б: часам здаецца, у пантэоне беларускіх нацы Кубэ стаіць калі ня побач з Альгердам, дык за яго сьпінай дакладна. Альгерду гідка, узяў бы, разьвярнуўся дый пасек мячом шырокую тэўтонскую пысу — але што ты зробіш з удзячнымі нашчадкамі, якія цягнуць у свае пантэоны і жука, і жабу, і гаўляйтэраў.



А Вільгельм Кубэ быў сапраўдны нацыст. Перакананы — без падробак і сумневаў. Ад гэтага ні яго, ні ягоны прывід не ўратуюць ні нацыянальны сьцяг, ні «Пагоня», ні мова, ні беларускія школы, ні «заступніцтва за мірнае насельніцтва». Бо гісторыя Вільгельма Кубэ пачалася не ў Беларусі. Яна тут проста скончылася. Добры твар школьнага настаўніка з Сылезіі разьядае, як гнюсная хвароба, адказнасьць за ўсе забойствы і катаваньні. Яму ўжо нікуды не ўцячы ад ўсіх тых пачварных багоў, якім ён так верна і самаадданна служыў. Ён выконваў заданьне, так... Апраўдваць яго, захутваючы ў хустачку нацыянальных колераў — значыць сказаць: не было Асьвенціму, Трэблінкі, Трасьцянца, не было печак і газавых камэраў, не было зьнішчэньня беларусаў і беларускіх яўрэяў, не было генацыду.

А Алена Мазанік была сапраўдны савецкі чалавек. І яна таксама выконвала заданьне. Гэта і лучыць іх навек — Кубэ і яго служанку. Як і тое, што ад іх абаіх зьбіраліся пазбавіцца «свае»: ад Кубэ за неспакойны характар, а Мазанік проста не магла адмовіцца: «прыйдзе час, і кожны адкажа перад усім савецкім народам, што ён зрабіў для перамогі, жывучы і працуючы на акупаванай тэрыторыі». Калі толькі жыў і толькі працаваў — гэта ўжо здрада. Ад кожнага трэба подзьвіг.

Падаецца, адзінае, чаго не аспрэчыш у выпадку з Кубэ — гэта тое, што ў нейкім сэнсе мы яго сапраўды зацікавілі, і ня толькі як аб'ект рабунку. Беларусь зрабілася для яго адкрыцьцём. Ён і падумаць ня мог, што тут, на гэтых абшарах, зусім не Расея. І, як гэта часам бывае, ён дзесьці ў глыбіні сваёй нацыстоўскай душы, якая так маляўніча ляціць над Менскам ў верасьні 1943-га проста ў пекла, міжволі пранікнуўся гэтай дзіўнай краінай — і сам сябе ненавідзеў за такую слабасьць. Пачвара, якая ня ў змозе супрацьстаяць магіі гэтых таямнічых, размытых асеньнімі дажджамі земляў — якіх нібыта й няма і якія, тым ня менш, трэба неяк скарыць.

# Зялёны дзень календара

*24 верасьня 622*
*Мухамад перасяляецца з Мэкі ў Мэдыну*

Ад Мэкі Мэдыну аддзяляюць больш за трыста кілямэтраў. Перасяліцца з адной у другую — гэта, вядома, не з Варанянскага на Гінтаўта пераехаць, хаця, па вялікім рахунку, адлегласьць ня надта каб жудасная. Ды гэта цяпер паломнікі карыстаюцца ўсімі перавагамі чыгуначнага транспарту — у 622 годзе, калі адбылася тая гіджра, дарога з Мэкі ў Мэдыну ўяўляла сабой цяжкі і поўны небясьпекі шлях, якому можна было прысьвяціць усё жыцьцё. Або на вякі зьмяніць гэтым шляхам жыцьці іншых.

12 дня месяца рабі-уль-аваль году гіджры, а інакш кажучы 24 верасьня 622 году былы жыхар Мэкі Мухамад, ён жа

Абуль-Касым Мухамад ібн ʻАбдуллаг ібн Абд аль-Муталіб (Шэйба) ібн Хашым (Амр) ібн Абд Манаф (аль-Мугіра) ібн Кусай ібн Кілаб ібн Мура ібн Кааб ібн Луай ібн Галіб ібн Фахр ібн Малік ібн ан-Надр ібн Кінана ібн Хузайма ібн Мудрыка (Амір) ібн Ільяс ібн Мудар ібн Нізар ібн Мад ібн Аднан ібн Удад ібн Мукавім ібн Нахур ібн Тайрах ібн Яруб ібн Яшджуб ібн Набіт ібн Ісмаіл ібн Ібрагім ібн Азар (Тарых) ібн Тахур ібн Саруг ібн Шаліх ібн Арфхашад ібн Сам ібн Нух ібн Ламік ібн Муту Шалх ібн Ахнух (Ідрыс) ібн Ярад ібн Махлаіл ібн Кайнан ібн Ануш ібн Шыс ібн Адам



дасягнуў Мэдыны і пасяліўся ў доме Абу Аюба Аль-Ансары. Зь некаторымі мэдынцамі Прарок быў ужо знаёмы: два гады перад тым ён сустрэў іх у мястэчку Акаба і яны, пагаварыўшы з Мухамадам, прынялі іслам. Так што Мухамаду было куды перасяляцца з сваёй Мэкі. З гораду, дзе ўлада была ў руках паганцаў. Якія апошнім часам, сустракаючы Мухамада на вуліцах, усё часьцей падымалі пытаньне пра тое, што «а ці не забіць нам гэтага ісламіста».

Таму ён і вырашыў сысьці — разам зь не такімі ўжо шматлікімі прыхільнікамі. Таксама ў нейкім сэнсе эмігрант. Усе вялікія рэлігіі пачынаюцца з перасяленьня.

Не пасьпеў Мухамад пасяліцца ў Мэдыне, як там адразу ж пачаліся розныя пераўтварэньні: ужо ў тым самым месяцы пачалі будаваць Мячэць Прарока, а таксама ўсталявалі азан. У наступным годзе Прарок паказвае прыхільнікам, як трымаць пост, яшчэ праз год жэніцца з Аішай (хай будзе задаволены ёй Алаг) і выдае замуж дачку... І гэта — толькі некаторыя з цэлай чарады розных важных падзеяў, якія адбыліся ў той час.

Адсюль, з Мэдыны, па сьвеце пашырыўся іслам. Сюды, у Мэдыну, да Мухамада, як да Леніна, прыходзілі асобныя хадакі, групы таварышаў і цэлыя дэлегацыі ад суседніх плямёнаў і кланаў — а сыходзілі дамоў мусульманамі. Сюды прыходзілі яўрэі і нават хрысьціяне (праўда, тутэйшыя, дзіўныя, з такімі б маскоўскі патрыярх у адзін бэнтлі ня сеў) — каб дамовіцца пра падзел сфэраў уплыву і паглядзець, што па чым. Адсюль, з Мэдыны, Прарок разаслаў паслоў добрай волі па ўсіх найбліжэйшых краях, адсюль ён прызначаў кіраўнікоў у розныя, ужо навернутыя ў ісьцінную веру мясьціны.

Што да Мэкі, дык у 630 годзе, усяго праз восем гадоў пасьля гіджры, дзесяцітысячнае мусульманскае войска ўзяла яе штурмам. Праўда, там амаль не супраціўляліся — большасьць у душы даўно перайшла на бок Мухамада. Сам Прарок прыехаў сюды на вярблюдзе і ўвесь вечар займаўся тым, што ламаў паганскія статуэткі, памятныя яму, напэўна, яшчэ з 622-га.

Цяпер модна пісаць пра «ісламізацыю» Эўропы. Як быццам уся Эўропа заўжды была выключна хрысьціянскай. Як быццам сярэдні эўрапеец нешта ведае пра іслам. Як быццам дарога з Мэкі ў Мэдыну мусіць абавязкова весьці на Галготу. Між тым, магчыма, менавіта тая «ісламізацыя» прымусіць нарэшце Эўропу пацікавіцца іншымі рэлігіямі — або ўжо прымусіла: цяжка не пацікавіцца, калі, напрыклад, у правінцыйным нямецкім Дзюрэне заклік мусульманаў да малітвы чуваць ва ўсім горадзе. Напэўна, толькі няведаньне і нежаданьне ведаць пра іншых спараджаюць нянавісьць. «Але што, калі мы ня хочам ведаць?» — кажуць яны; што ж, сьвет цяпер такі, што жыцьцё ў ім трохі зьмянілася ў параўнаньні з 1917 годам, ведаць трэба, варта і можна шмат, было б жаданьне, а няма, дык не наракай на яйцы.

А, ну так, ёсьць жа яшчэ палітыка і палітыкі... Але і яны, відаць, усяго толькі плён нечага няведаньня і яго прыкрае наступства.

# Пастой, паравоз

*25 верасьня 1924 адбыўся напад на цягнік каля Лунінца*

Кожная статыстыка мае шанец зрабіцца раманам, а асабліва састарэлая, неактуальная: у сухафруктах яе лічбаў заўжды варушыцца чарвяк нейкай інтрыгі. Здавалася б, што асаблівага ў тым факце, што ў 1921 годзе Польшча мела ў сваім распараджэньні 15947 кілямэтраў чыгункі? Больш за сем тысяч кілямэтраў зь якіх складалі рэйкі ды шпалы былой Расейскай імпэрыі — праклятыя ўчасткі, якія адразу ж стварылі польскай дзяржаве безьліч праблем. Вось тут Міколка-паравоз і дастае з шырокіх хлапечых штаноў маўзэр, вось тут і пачынаецца ён — дэтэктыў...

25 верасьня 1924 году недалёка ад Лунінца цягнік Берасьце-Сарны, які толькі-толькі набраў хаду, раптам спыніўся. Пасажыры, сярод якіх былі палескі ваявода пан Даўняровіч і іншыя афіцыйныя асобы (шэф тамтэйшай паліцыі, біскуп, дэпутат Сэйму), не адразу зразумелі, што адбылося. Пасьля пан Даўняровіч сьцьвярджаў, што састаў акружыла паўсотні чалавек. Біскуп казаў пра больш за семдзесят бандытаў, дэпутат — пра тое, што іх было ня меней за сто, і толькі шэф паліцыі налічыў усяго толькі трыццаць пяць зладзеяў.

Зрэшты, колькі б іх ні было, супраціўляцца ўжо ня мела сэнсу, банда мела пры сабе вінтоўкі і ручныя гранаты: зь дзесяці ахоўнікаў дзевяць далі сябе абяззброіць, і толькі мужны паліцыянт Дмоўскі наважыўся скарыстаць браўнінг, распачаўшы працяглую перастрэлку — якая, зрэшты, мала паўплывала на вынік апэрацыі. Афіцыйныя асобы былі разьдзетыя да сподняга, пасажыры абрабаваныя да ніткі. Нападнікі адчапілі паравоз і накіравалі яго — без машыністаў — у бок Лунінца, а апрача таго спалілі чыгуначны мост. Вясёлыя мужычкі, якія спынілі цягнік, з усяе моцы імкнуліся прадэманстраваць, што яны звычайныя ліхія крымінальнікі: скончыўшы рабунак, бандыты ладнымі шэрагамі зьніклі ў лесе пад рамантычныя гукі «Муркі», якая, праўда, месцамі падазрона нагадвала «Інтэрнацыянал»...



Магчыма, так яно і было і пад Лунінцам сапраўды арудавала звычайная банда з тых, што як вошы распладзіліся на польска-савецкім памежжы... Аднак жа ў Варшаве добра ведалі, што Крэмль ахвотна карыстаецца гэткімі бандамі ў сваіх мэтах. Сыходзячы выключна з клясавай нянавісьці і рэвалюцыйных патрэбаў. Напэўна, менавіта гэтыя матывы змусілі бандытаў застрэліць аднаго з пасажыраў, ня ў меру гаваркога камэрсанта, і параніць яшчэ некалькі — сусьветная рэвалюцыя, у адрозьненьне ад статыстыкі, ахвяраў ня лічыць.

Хаця напады на цягнікі адбываліся і на савецкай тэрыторыі — і з палякамі там абыходзіліся значна больш прыязна.

У тым самым 1924-м «Зьвязда» пісала: «...І на шостым годзе Савецкай уласьці ёсьць яшчэ такія мядзьвежыя куты, дзе слова „Саветы“ — пусты гук. Адным з такіх кутоў зьяўляецца Барысаўскі павет... дзе хто дастане з кішэні рэвальвэр, таго і ўласьць». Амаль за год да лунінецкага здарэньня набіты дыпляматамі цягнік «Менск-Масква» паміж Крупкамі і Бабром быў вымушаны затармазіць праз пашкоджаньне чыгуначнага палатна — вядома ж, невыпадковае.

Банда Жоржа Моніча абабрала тады ўсіх пасажыраў незалежна ад ступені іх дыпляматычнай недатыкальнасьці і грамадзянства, і толькі польскі вайсковы аташэ пазьбегнуў рабунку, бо атаман лічыў Польшчу хаўрусьнікам у сваёй барацьбе — якую вёў, зноў жа такі, не без палітычнага падтэксту. Пра крымінальную гісторыю Беларусі дваццатых гадоў, шчыльна пераплеценую з гісторыяй палітычнай, яшчэ пяяць і пяяць... Ня кажучы ўжо пра памежжа, дзе, зь лімонкамі у торбах, паклаўшы на плячо свае манліхеры, крочаць у імжы між застаў самыя талерантныя і мірныя людзі ў сьвеце.

# Коратка і ясна

*26 верасьня 1960 Кастра 4 з паловай гадзіны выступае ў ААН*

«Калі зьнікне філязофія рабунку, зьнікне і філязофія вайны». Каб давесьці 26 верасьня 1960 году гэтую няхітрую тэзу да сваіх слухачоў, Фідэлю Кастра спатрэбілася ажно чатыры з паловай гадзіны. Абсалютны рэкорд па балбатні сярод прамоўцаў ААН, не пабіты дагэтуль. Калі быць дакладным, ягоная прамова трывала чатыры гадзіны дваццаць дзевяць хвілін — усяго хвіліны не хапіла да роўнага ліку: глядзіш, і давёў бы... А так ні адна, ні другая філязофіі, калі такія сапраўды існавалі, нікуды не падзеліся: ня думай пра хвіліны звысака, як казаў Марцін Борман. Усё гэтак жа рабуюць, усё гэтак жа ваююць, і ўсё гэтак жа балбочуць.

Падзея адбылася на сэсіі Генэральнай асамблеі ААН у Нью Ёрку. Вядома, Кастра можна зразумець. Ён выступаў перад самымі неадукаванымі, самымі цёмнымі слаямі насельніцтва плянэты, якім усё трэба так разжаваць, каб дайшло і ў працэсе спажываньня ня вывалілася з правага вуха. Людзі, якія сядзелі перад ім, на яхтах не танулі, за бараду сябе з балотаў не выцягвалі і ў гарах да апошняга не адстрэльваліся. Што й казаць, адукацыі ім відавочна не хапала. Так, кеймбрыджы розныя, оксфарды і іншыя ПТВ... Пралетары. Просты люд. Філямата ад Філярэта не адрозьняць, ня тое што вайну ад рабунку.



Кастра уразіў публіку, павесяліў журналістаў і давёў да гістэрыкі перакладчыкаў. У шоку былі ўсе — але толькі не яго таварышы па дэлегацыі. Тыя яшчэ і падзякавалі Фідэлю за лякамічнасьць. Суайчыньнікі добра памяталі прамову Кастра за год да таго ў Гаване з нагоды перамогі кубінскай рэвалюцыі. Тады кубінскага лідэра сапраўды панесла: ён гаварыў без паперкі і без супынку сем гадзін запар і, кажуць, пераплюнуў турэцкага правадыра Кемаля Атацюрка, які ў свой час напісаў урачыстую прамову на сямсот старонак — праўда, чытаў ён яе па пяць гадзін на дзень зь ліста. Цяжка сабе ўявіць, што давялося б вынесьці Кубе, калі б Кастра быў амбітным чалавекам і вырашыў бы напісаць сямсот старонак тэксту: рабіць паўзы было не ў традыцыях кубінскага лідэра, ён абавязкова прачытаў бы яе за раз, на адным дыханьні, не зазіраючы ў тэкст... Геній.

Хаця, відаць, за сваё жыцьцё Кастра нагаварыў значна больш за нейкія ўбогія сямсот старонак. Тоны словаў, цэнтнэры абяцаньняў, кубічныя гектары пагрозаў і вагоны праклёнаў. І ўсё без паперкі. І пры гэтым ні імпэрыялісты, ні Саветы, ні Чэ Гевара, ні Батыста, ні брат Раўль — ніхто так і не даведаўся, дзе ў Яго тая самая запаветная Кнопка.

# Сын за папу

***27 верасьня 1540 зацьверджаны статут ордэну езуітаў***

*«...І паказаў рукою на езуітаў:*
*— Бяры іх, Лаўр. Ваўка не заўсёды забіваюць, але зьмяі раструшчваюць галаву заўсёды.*
*Цвёрда і сурова кінуў:*
*— На зубцы».*

У самім слове «езуіт» сучаснаму, разбэшчанаму Караткевічам беларускаму вуху чуецца нешта паўзучае, падступнае, фальшыва-прыязнае...

Зашмат галосных плюс зьмяінае «з» — горш не прыдумаеш. І наагул назву нейкай нехарошай хваробы нагадвае. Дарма што з-за галосных выглядвае, падміргваючы, сам Ісус — езуітаў за стагодзьдзі іхнага існаваньня здолелі дэманізаваць ня менш за кажаноў, і збольшага на абшарах, дзе пануе яно, залатазубае бізантыйскае праваслаўе. Ясная рэч — у магутным Ордэне апошняе заўжды бачыла заклятага ворага, і, вядома ж, зайздросьціла ўвішным рымскім папам: такое гестапа маюць, нам бы нешта падобнае... Увесь сьвет бы навучылі, як правільна хрысьціцца.

Між тым, згадваючы езуітаў, масавая праваслаўная сьвядомасьць неяк забываецца пра школы і калегіюмы, пра сіроцкія прытулкі і ахвяраваньні для бедных, пра манаскія вычыны, місіянэрства і іншы які-ніякі, а пазытыў. Так што лічыць Ордэн такім сабе сярэднявечным кадэбэ, які мясам не кармі, дай яму каго-небудзь замучыць, атруціць, пашантажаваць або на вогнішчы падсмажыць, будзе несправядліва... Як і прыпісваць чужыя лёзунгі: мэта пачала апраўдваць сродкі задоўга да таго, як тата з мамай зачалі ў сонечнай Басконіі маленькага Ігнасіё. Да таго ж езуіты шаснаццатага стагодзьдзя адрозьніваліся ад езуітаў дзевятнаццатага і дваццатага, як Фэлікс Эдмундавіч Дзяржынскі ад Авар'яна Дзеружынскага, аўтара кніг «Конікі-будаўнікі» і «Цягнік-працаўнік». Што-што, а павевы часу езуіты адчувалі добра. Усімі антэнамі і «жучкамі» сваіх неабыякавых сэрцаў. Неабыякавых да каталіцкай веры, вядома — але ж, як казаў чалавек з прапэлерам, «ня ўсім жа звацца Карлсанамі».



А пачалася гісторыя Ордэну 27 верасьня 1540 году, калі папа Павал III зацьвердзіў дасланы яму праект манаскай арганізацыі, якая б вярнула каталіцтву былую магутнасьць. Праект быў складзены пад кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле таго самага баска, 49-гадовага гішпанскага афіцэра Ігнасіё Лопэса дэ Рэкальда Лаёлы. Лаёла ваяваў, быў цяжка паранены, вывучаў багаслоўе, езьдзіў у Ерусалім, дзе паляваў на непакорныя мусульманскія душы — здабыча была ня надта, і ён вырашыў сканцэнтравацца на Эўропе, дзе набірала моц клятая Рэфармацыя. Ягоныя пасьлядоўнікі і наступнікі дабяруцца да месцаў значна больш аддаленых: зь імі пазнаёмяцца ў Кітаі і Японіі, у абедзьвюх Амэрыках і на Філіпінах. Ім цяжка будзе супрацьстаяць. У іх будзе толькі адзін сур'ёзны супернік — літаратура... Якая што б ні пісала — цяжка потым адмыцца. Як, напрыклад, беларуская. Як там далей было ў Караткевіча?

*«Зрэшты, я ўсё адно лепей сядзеў бы зь дзесяцьцю сьмярдзючымі капуцынамі, чым з адным езуітам. Душэўны смурод горшы».*

# Таварыш Цзы

*28 верасьня 551 да н. э. нарадзіўся Канфуцый*

Забіць яго, як пацука, што перабягае вуліцу! Так заклікалі абысьціся зь ім кітайскія хунвэйбіны. Сам «пацук» адно толькі хітра пасьміхаўся з гравюраў і малюнкаў у старых кнігах. Ён нарадзіўся так даўно, як ня сьнілася ні Мао, ні ягоным чырвонагвардзейцам, і быў кандыдатам у Палітбюро самой вечнасьці — і скінуць яго адтуль аказалася не пад сілу ні камуністам, ні імпэрыялістам. Прыкладна 28 верасьня 551 году да нашай і іхнай эры каля Цюйфу ў Кітаі нарадзіўся Кун-цзы, ён жа Кун-Фу, Каратэ, У Шу і Тхэквандо усходняй філязофіі — карацей, Канфуцый.

Калі гэта і рэлігія — дык хай бы ўсе рэлігіі былі такія рацыянальныя. Калі гэта філязофія — дык кожнай філязофіі б такі сьпіс усёмагутных нябожчыкаў. Канфуцый — гэта рытуалы і музыка. Прыгожа: эстэтыка і тут задае тон для этыкі. І ніхто не пачуваецца прыніжаным — ну ня можа ж жаба імкнуцца зрабіцца такой самай, як ружа. І жаба, і ружа аднолькава важныя: і абедзьве гэта разумеюць. У Канфуцыя ўсё расьпісана: каму дзе сьвяціць вабнотамі. На дзікунскі эўрапейскі погляд, гэта наагул — філязофія герархіяў, кожны ведае сваё месца: калі ў кепскім кажусе, не садзіся на куце. Толькі так дасягаецца яна, мара кожнага мудраца, кожнага музыкі і кожнага прыдворнага цырымоніймайстра — гармонія. За палкі ў колы якой і па руках атрымаць можна.



Цікава, што Канфуцый не на апошняе месца ставіў гармонію мовы: словы мусяць дакладна адлюстроўваць сэнс рэчаў, вучыў ён, дык калі ты Ўладар, паклапаціся найперш пра шыльды і слоўнікі. А то што атрымліваецца: на пуні напісана адно, а ўсярэдзіне ўсё роўна сена ды салома... Што й казаць, добры кіраўнік-канфуцыянец ніколі не дапусьціў бы, каб у ягоным гаспадарстве галоўны пляц быў Незалежнасьці, а станцыя мэтро пад ім называлася «Плошча Леніна».

Хунвэйбіны маглі казаць, што заўгодна — відаць, вучэньне Канфуцыя ня з тых, ад якіх кітаец можа пазбавіцца шляхам простай хірургічнай апэрацыі. Прынамсі, што да падпарадкаваньня, дык самі гвардзейцы кардынала Мао былі адносна яго поўныя канфуцыянцы і ўладара шанавалі ў адпаведнасьці з запаветамі: самааддана і без сумневаў. Трохі складаней было з шанаваньнем бацькоў і старэйшых — але тут Мао і сам спалохаўся, разабраўся і з часам навучыў сваіх разьюшаных камсамольцаў розуму. За ягонымі часамі нікуды ня зьніклі ні абавязковая канфуцыянская цырыманіяльнасьць, ні пакланеньне Доўгу, ні Вялікае Яднаньне грамадзтва, ні ўяўленьне пра народ як пра тупую масу, якая ніколі не дасягне вяршыняў Духу і Веды. З такімі можна толькі скакаць — праз стагодзьдзі...

З чым сапраўды ўзьніклі праблемы, дык гэта з гуманнасьцю. Канфуцый наказваў кожнаму ўладару абыходзіцца з масамі як зь дзецьмі дурнымі — настаўляць, лашчыць і клапаціцца пра іх. Мао стараўся як мог — а трупаў менш не рабілася... Дрэнны быў вучань. Зусім ня Фу і ўжо дакладна ня Цзы.

# Вечна малады

*29 верасьня 1897 у Буэнас-Айрэсе ўпершыню танчаць танга*

«Што за парнуха!» — абураліся ў верасьні 1897 году добрапрыстойныя буэнас-айрэсцы, пабачыўшы сьвежапаклееныя афішы тэатру «Алімпа».

Сумнеўная паперчына, якую можна было пабачыць ледзьве не на кожным рагу, запрашала на спэктакль «Крэольскі суд», а карцінка... Карцінка была харошая: мужчына на ёй абдымаў жанчыну, што ў 1897 годзе ўжо само па сабе цягнула на пятнаццаць сутак. А па тым, як жарсна і бессаромна ён гэта рабіў, рабілася ясна, што яго намеры ў дачыненьні да дамы ня самыя чыстыя. Ды публіку дабівала нават ня гэта, а тое, што самой даме гэткі падыход відавочна падабаўся. Карацей, скандало грандыёсо.

29 верасьня заля «Алімпа» была запоўненая, як на судовым працэсе. Спэктакль аказаўся нуднаваты, але тыя, хто не сышоў і даседзеў да сярэдзіны, былі ўзнагароджаныя як мае быць: дзея раптам перарасла ў танец, пачуцьцёвы і яркі, той, пра які ўсе ведалі, але пра які не прынята было гаварыць уголас. Танго крыёльё, доўгі разрэз на спадніцы, рэзкія рухі, зьвярыная грацыя, непрыхаваная сэксуальнасьць, ад якой цяжка было адвесьці вочы...



Пасьля спэктаклю танга ў Аргентыне танцавалі ўжо не саромеючыся. Танга выбухнула — і тынк пасыпаўся са столяў бальных заляў, танга кінула выклік, як Максім Танк рыфме, як панкі пенкам грамадзтва ў сямідзясятых. Танчылі грузчыкі ў порце, танчылі пажарныя, танчыла паліцыя... Танчылі мужчыны з мужчынамі, жанчыны з жанчынамі, мужчыны з жывёламі, жывёлы з жывёламі... І пры гэтым танга — заўжды для дваіх: адвечная песьня. У Эўропу танга трапіла кантрабандай, як непрыстойны, забаронены культурны прадукт — празь некалькі дзесяцігодзьдзяў Стары сьвет адплаціць Новаму «Ўлісам» і «Лалітай».

Танга — гімн інтэрнацыяналізму, вось якая музыка як найлепш пасавала б фэстывалям моладзі і студэнтаў, а то «маладзёж, маладзёж»... Вось танга так, сапраўды: не задушыш, не заб'еш, як асноўны інстынкт. Трошкі крэольскіх рытмаў, трошкі афрыканскага бубна, хабанэра ды флямэнка, ды жменька вальсу, ды жаданьне раскрыцца, прызнацца, забіцца галавой ад падлогу тут і цяпер... Косткі храбусьцяць, тры хвіліны, даўжэй ня трэба, працягласьць ня танцу — акту. Хто танцуе танга — вечна малады і вечна п'яны, той вечна закаханы камандор і, адпаведна — заўжды загадвае парадам.

# Засечкі на лбе Пятніцы

*30 верасьня 1659 Рабінзон Круза ступіў на сваю выспу*

Спачатку яму было дадзена трохі досьведу, і толькі потым — выспа. Свая — пра якую можна толькі марыць, бо на ёй, бязьлюднай, як на нейкім закрытым найвышэйшым судзе, ёсьць шанец спазнаць, хто ты ёсьць насамрэч.

«...Я паставіў вялікі драўляны слуп на тым месцы, куды мяне выкінула мора, і нажом выразаў буйнымі літарамі надпіс: „Тут я ступіў на гэты бераг 30 верасьня 1659 году...“ На гэтым слупе я кожны дзень рабіў нажом засечку; а праз кожныя шэсьць засечак рабіў адну даўжэйшую: гэта азначала нядзелю; тыя засечкі, што абазначалі першы дзень кожнага месяца, я рабіў яшчэ даўжэйшымі. Такім чынам я вёў свой каляндар...»

Рабінзон Круза паставіў на належнае месца ня толькі свой слуп — ён і Бога разьмясьціў там, дзе ад яго найбольш карысьці.

З аднаго боку, ён, Рабінзон, чалавек рэлігійны — і толькі дзякуючы гэтаму не вар'яцее ад тых невясёлых пэрспэктываў, якія, быццам акіян навокал, не прапануюць выйсьця, а толькі распасьціраюцца сабе, так далёка, як хочуць, плюючы на самотніка з вышыні сваёй безуважнасьці. Хто верыць — той ужо не самотны. Выспа для яго — пасланае Богам выпрабаваньне, якое варта прыняць з пакорай і згодай. З другога боку, ён ня просіць у Бога асаблівай спагады, не замаўляе больш, чым патрабуецца; ён ня дурань, каб спадзявацца на цуд, на гелікоптэр з анёламі, які зьявіцца зь зіхоткіх вышыняў і скіне вяровачную лесьвіцу. І таму Чалавек бярэцца за справу.



Бог жыве ў Рабінзонавым духу, галава і рукі занятыя іншым: у гэтым сакрэт выратаваньня. Няма каму сказаць Рабінзону, які шчыруе над домам і полем: «Памагай Божа» — але прысутнасьць Бога ён адчувае ўвесь час.

Дарэчы, пра час. У мора няма часу — таму ці ня першае, што ладзіць Рабінзон, гэта каляндар. З календаром сьвет адразу вяртаецца на месца. Ведаючы, калі ты ёсьць, лягчэй вырашыць, кім ты ёсьць. Ахвяраю або героем, аскепкам або востравам. І гора таму, у каго каляндар іншы.

Рабінзон — ваяўнічая мараль, якая паўстае супраць культуры. Увасабленьне Эўропы, зь яе вартасьцямі і яе забабонамі. Зь яе слабасьцямі: прышчэпленая Рабінзону культура не дае яму зьліцца з прыродай, зьнікнуць у ёй; але гэтая слабасьць абарочваецца сілай. Выспа выхоўвае яго і загартоўвае — але не зьмяняе.

Ён і ў такім становішчы — белы чалавек, што прагне падпарадкаваньня, гаспадар, які ўсталёўвае законы. Культура тубыльцаў, якая лічыць канібалізм цалкам нармальным рытуалам, уступае ў канфлікт з культурай, дзе есьці людзей — ня надта прыстойны занятак для джэнтэльмэна.

Рабінзон перамагае ня зброяй і не сваім гуманізмам; ён са сваім календаром наперавес, як вандроўнік у мінулае; няўклюдны, як усе эўрапейцы, слон у аддзеле парцалянавага хронасу — бо парушае натуральную хаду падзей. Ён як сучасны ваяка ў хакі, які трапіў на Каталаўнскія палі і пастраляў усіх «ворагаў» з кулямёта. Пятніца ўратаваны і «акультураны» — але пятніца, вырваная з тыдня, робіцца абсурднай сама і пазбаўляе сэнсу час.

Але часу хапае. І выспа вытрымае дваіх.

# Вар'ят без вар'яцтва

*1 кастрычніка 1888 нарадзіўся Язэп Драздовіч*

Той, хто вандруе па Глыбоччыне, абавязкова мусіць наведаць... Так, у духу Гаўфа, можна было б пачаць любую казку пра гэты цудоўны, трохі прыўзьняты над астатняй Беларусьсю край, дзе роўная лінія далягляду пачынае неўпрыкмет ператварацца ў выпісаную жоўтым на сінім хвалю... дзе жыве няшчасная чупакабра, дзе лясы загавораныя на сто гадоў, дзе азёры без акуляраў пазіраюць проста на аблокі, дзе такі смачны тварог у аўтакрамах, дзе замест платоў перад хатамі з годнасцю вісяць вяровачкі, дзе ў пушчах блукаюць недабітыя пэрсанажы Баршчэўскага і расейскія турысты, а на плошчах не відаць ленінаў.

А замест шматкроп'я ў тым Гаўфавым зачыне можна паставіць назвы багата якіх мясьцінаў і мястэчак. Напрыклад, Падсьвільле.

«Памёр у страшнай галечы. Паваліўся на дарозе наўпроць бальніцы ў Падсьвільлі. Ужо дабіўся, мусіць, да апошняга. Падабралі яго, але памагчы ўжо няможна было. Пакуль мая цётка Ядзя зьезьдзіла на веласіпедзе ў Падсьвільле, а гэта ж 25 кіламетраў адсюль, дык Язэпа і пахавалі».

Такім, паводле пляменьніцы, быў апошні дзень жыцьця Язэпа Драздовіча, мастака (а яшчэ пісьменьніка, археоляга, пэдагога, этнографа, лінгвіста-аматара), вандроўніка і вар'ята — у самым добрым і трагічным сэнсе гэтага слова.



Бо які ж сапраўдны мастак без вар'яцтва? І як безь яго можна спасьцігнуць «нябесныя бегі», якімі Драздовіч быў так апантаны — не дагоніш жа, пасьлізьнешся на сваёй нуднай «нармальнасьці». Не, тут трэба выйсьці па-за, знайсьці іншыя спосабы быцьця. Хаця, здаецца, менавіта так, «Вар'ят без вар'яцтва», мелася называцца ягоная аповесьць, якую яшчэ ў 20-х пачалі былі друкаваць у Вільні.

А нарадзіўся ён 1 (13) кастрычніка 1888 году на Дзісеншчыне, між іншым, у адзін год з Махно, Гудэрыянам і Эліётам. Драздовіч мяняць гісторыю не хацеў. Ён прагнуў яе спазнаць, яна здавалася яму блізкай — руку працягні, ног не пашкадуй, усё тут. У той час, калі іншыя мастакі імкнуліся быць адпаведнымі часу і актуальнымі, чалавек у белым ільняным адзеньні і шапцы зь бяросты хадзіў па Глыбоччыне, далёкі ад школаў, плыняў, майстэрняў і дыскусій — і часам забрыдаў на Марс. Адсюль жа да яго простая дарога. Панская Польшча, вайна, санацыя, бальшавікі, сусьветная рэвалюцыя, НКВД, «вызваленьне», трактары, танкі, шпіёны, «ура», «на сухой асіне» — а ён пісаў сабе, як падазрона падобныя да яго самога барадачы на Сатурне вясну сустракаюць. Гукаюць, паганцы, апантаныя, зьмерзлыя... І там ёсьць вясна.

Ягонае імя мусіла б насіць Нацыянальнае таварыства дружбы з іншаплянэтнікамі або Асацыяцыя ўфолягаў. Ён маляваў гарады на Месяцы і штучныя моры. А вось Марс: трое з малатком ідуць па сваіх справах — касманаўты, марсіяне, міліцэйскі патруль? Ён быў з тых, хто ў словах і лічбах бачыць космас, і, прыкладам, «3» было для Драздовіча знакам зусім невыпадковым: ён сам трохаблічны, як добры д'ябал, на аўтапартрэце 1943-га... А гэтыя вось падлікі? «Тры гады быў пастухом у падурослыя леты, тры гады патраціў на мастацкую школу і агульнае разьвіцьцё, тры гады служыў у салдатах, тры гады аддаваўся грамадзкай працы ды пісаў як пісьменьнік. І вось ужо трэці год як вандроўны народны мастак». Гэта зь дзёньніка — ён увесь час нешта запісваў...

Беларусь у Драздовіча ня менш загадкавая за сатурны і марсы. Прынамсі, яна — таксама плянэта. Зразумець сонцы, вакол якіх яна круціцца, можна толькі выйшаўшы за межы нармальнасьці. Берасьцяная самаробная шапка, якую ён насіў падчас сваіх вандровак — скафандар, наладжаны так, каб лавіць Сыгналы.

# Самы нетаропкі чалавек у сьвеце

*2 кастрычніка 1872 Філеас Фог ідзе ў заклад, што абляціць Зямлю за 80 дзён*

2 кастрычніка 1872 году ў 20.45 чалавек, якога звалі Філеас Фог, у суправаджэньні свайго слугі Паспарту выехаў зь Лёндану і ўзяў курс на ўсход. А 21 сьнежня 1872 году ў 20.50 чалавек, якога звалі Філеас Фог, у суправаджэньні свайго слугі Паспарту ў Лёндан вярнуўся. Між гэтымі падзеямі зьмясьціўся цэлы раман — і, па сутнасьці, сьвет зрабіўся круглы толькі пасьля ягонай апошняй кропкі. Бо калі звычайны брытанец можа давесьці гэты факт, абсалютна ім не пераймаючыся, значыць, круглясьць не аспрэчыць ужо нікому.

Бо Філеас — архетып брытанца. «Гэта быў самы нетаропкі і адначасова самы акуратны чалавек на сьвеце. Само сабою зразумела, што такі чалавек жыў самотна і, так бы мовіць, па-за ўсялякімі грамадзкімі сувязямі. Ён ведаў, што ў жыцьці міжволі даводзіцца, як той казаў, церціся між людзей — а трэньне замаруджвае рух: ну дык ён і трымаўся асобна ад усіх». Паспрабуй загані такога ў рай: у карычневым яму не спадабаецца дызайн і фіранкі, у чырвоным — кухар і ранішнія газэты. І ніякай ідэалёгіі, прашу вас: размова выключна пра джэнтэльмэнства або ягоную адсутнасьць. «Як дэндзі лёнданскі...» — гэта ж не пра адзеньне насамрэч сказана. Або толькі пра яго — не кранаючы больш важных фігураў.



Падарожжа Фога — прыгожая прыгода, аднак ён вандруе легальна, і там, дзе не хапае пашпарта, ён мае слугу з такім вось характэрным авіраўска-раўскім імем — і ўсё неяк улагоджваецца. Сам слуга ставіцца да Фога, як недалёкія розумам суседзі да эстонцаў: «Такіх жывых малойцаў, як мой гаспадар, я бачыў хіба што ў музэі мадам Цюсо!» — з захапленьнем кажа Паспарту, гэты Джыўс самага першага Вустэра, гэтыя Пляншэ, Мушкетон, Грымо і Базэн у адной не пазбаўленай гумару і мужнасьці асобе.

Шчасьлівая памылка Фога — думаючы, што прайграў заклад, ён яго выйграў, і ўсё дзякуючы недасканаласьці сьвету, які дазваляе эканоміць час, але толькі вандроўнікам! — сутыкаецца з паліцэйскай памылкай: і гэта галоўная іронія Вэрнавага твору. Спрабуючы спаборнічаць са сьветабудовай, лестрэйды заўжды церпяць паразу — а голмсы зьяжджаюць у свае райхенбахі. Васковая фігура атрымлівае кулю ў скронь, але на дзень раней, чым трэба — мадам Цюсо ганарылася б такім экспанатам. І ангельская каралева таксама.

## Дэдээр у бээрдэ

*3 кастрычніка 1990 — Дзень аб’яднаньня Нямеччыны*

Што й казаць, наступствы таго падзелу ў Нямеччыне адчуваюцца дагэтуль: нібы час тут усё рамантуюць, рамантуюць — а ўсё адно то там, то сям вылазяць вонкі старыя газэціны, выскокваюць спружыны, пра прызначэньне якіх усе забыліся, і там, дзе мусіў быць маналіт, чарнее нечаканымі дзіркамі мэнталітэт... Праз адну зь іх відаць, напрыклад, усходні горад Гёрліц. Ён сустракае падарожнага чалавека гасьціннымі плякатамі з аршынным надпісам «Ausländer raus!», якімі абклеена ўсё, ад лавачак да лупанарыяў. Тут хочуць толькі турыстаў. Маленькімі літарамі.

Раўс дык раўс. Паедзеш у суседні горад — і паўсюль тое самае: зелянеюць ад холаду статуі піянэраў-тэльманаўцаў перад нікому больш не патрэбнымі палацамі, вокны пустых камяніц з выбітымі шыбамі пнуцца прасьпяваць нешта падобнае да «Паўсталая з руінаў...» Ёсьць тут і славутая нямецкая Заможнасьць — але нейкая наўмысная, дэманстратыўная, якая сама сябе трохі баіцца. Кожны горад — горад кантрастаў, як у савецкім фільме... Гэта яна, колішняя Дойчэ Дэмакрацішэ Рэпублік.

Дзе канчаецца гэтая зьніклая з мапаў тэрыторыя нечага дзяцінства? Цяпер адказаць на гэтае пытаньне ўжо ня так проста. Але нябачная мяжа існуе, варта праехаць цягніком менш за дзьве гадзіны ў «правільным» накірунку — і ўважлівы падарожны чалавек апынаецца ў трохі іншай краіне. Тут, дарэчы, за «Ausländer raus!» можна і па галаве атрымаць — чаго варты той адпор, які нядаўна далі гамбуржцы кволай спробе нацы правесьці ў іх горадзе свой нешматлюдны, убогі марш. Тут ганарацца традыцыямі — бясьпечна і сапраўды ёсьць чым. Тут хочуць усіх і любым шрыфтам — былі б грошы. Капіталізмус. І нічым ня менш нямецкая Нямеччына, чым у Гёрліцы. Хіба што дзёнэраў тут ядуць больш, чым на Ўсходзе.



І хаця ніхто ўжо ў Нямеччыне ня скажа пра суайчыніньніка, што ён «осі» або «вэсі», пэўны падзел застаецца; то тут, то там хапаюцца за галовы: мур быў мудры, нашто мы ім, нашто яны нам?.. На Ўсходзе шукаюць простых адказаў на складаныя пытаньні. А на Захадзе наадварот — усё ўскладняюць так, што потым ня могуць выкараскацца. А ў выніку — адна з самых вольных, дэмакратычных і заможных краін у сьвеце. Einigkeit und Recht und Freiheit для немца не пустыя словы; іншая рэч — ці аднолькавая ў іх вага?

І ўсё ж яны, немцы, усе чымсьці вельмі падобныя. Часам уяўляецца такі сабе «нямецкі» квадрат, у кутах якога знаходзяцца, нязьменныя і незаменныя: нямецкая сэнтымэнтальнасьць, нямецкая культура, нямецкі парадак і... о так, праславутая нямецкая віна, якую так хочацца нарэшце адмяніць празь яе састарэласьць. А пасярэдзіне можна паставіць што заўгодна: усьмешку Мэркель, чарапушку «Санкт-Паўлі», чакалядку «Рытэр-шпорт» або люльку Гюнтэра Граса. Перατвары квадрат у трохкутнік — і невядома яшчэ, што за катаклізмы чакаюць закаханага ў цябе чалавека. Але Нямеччына больш ня хоча катаклізмаў. Яна адзіная — і таму можа сабе дазволіць такую раскошу, як пакінуць усё як ёсьць.

Сёньня добрая нагода павіншаваць усіх немцаў, і ў іх ліку — Томаса, Андрэ, Тобіяса, Інго, Ціну... І мноства іншых «нашых немцаў» — перакладчыкаў, журналістаў, сяброў Беларусі, якія, бывае, гавораць па-беларуску лепш за саміх беларусаў. І чытаюць нашай літаратуры болей, чым мы самі. Але беларускі сорам — кут іншага квадрату. Сёньня — нямецкі дзень. 3 кастрычніка тут няма ні параду з танкамі, ні сьвяточнага канцэрту для вэтэранаў, ні ўрачыстых лінеек. Непрацоўны дзень, вуліцы вымiраюць, ідзе дождж, і недзе ў тумане пазвоньваюць асьцярожныя раварысты.

# Аднойчы ў Эўропе

*4 кастрычніка 1498 Полацак атрымаў Магдэбургскае права*

Адны пішуць гісторыю, іншыя ў яе трапляюць; астатніх сьпісваюць у архіў. У 1638 годзе ў полацкай Ратушы слухалася справа месьціча Яна Каськевіча: вялося пра тое, каб прызнаць онага пана Каськевіча няздольным да сямейнага сужыцельства. Суд адклаў разгляд справы на чатыры тыдні — пакуль няшчасны пан Каськевіч ня знойдзе сабе адваката.

Без абаронцы судзіць васпана няможна, кажа пану Каськевічу войт, ці ня войт, а як там у іх называліся юрысты, якіх, паводле Дуніна-Марцінкевіча, сякуць трыста д'яблаў, а яны нічога, жывыя.

Чым скончылася тая справа, што здарылася з Каськевічам і што сказала на ўсё гэта ягоная жонка — невядома, дый ня так ужо й важна. Суд, ратуша, адвакат... Усе гэтыя «ізьлішаствы» былі часткаю Магдэбурскага права — якое на той час дзейнічала ў Полацку ўжо амаль паўтара стагодзьдзя. 4-га (паводле некаторых зьвестак 7-га) кастрычніка 1498 году горад атрымаў прывілей на sachsischas Weichbild, або magdeburger Weibildrecht і займеў магчымасьць самому вырашаць свае гарадзкія справы. Зусім як у Яўропе, сказалі б сёньня — і правільна сказалі б, калі забыць, што Полацак на той час і быў — Яўропа. У беларускім сэнсе слова.



А пакуль што пан Каськевіч, горды сын места Полацку, роўны сярод роўных і абаронены гарадзкім законам, ідзе дамоў, заклапочаны пытаньнем, у якую адвакацкую кантору зьвярнуцца і колькі зь яго там зьдзяруць. І — зусім як казак на сувэнірнай львоўскай футболцы — цешыцца ў глыбіні душы ды дзякуе богу, што ён не «маскаль». Бо там, у Маскоўшчыне, дзе Полацак чамусьці адвеку лічылі «ісконно русскім», першыя адвакаты зьявяцца толькі больш чым праз дзьвесьце гадоў, у 1864-м. І ні пра якое магдэбурскае права там ведаць ня ведалі... Амаль ніколі і амаль ніхто. І гэтыя людзі будуць забараняць нам калупацца ў аналах?

Дзіўныя твае гімнастычныя практыкаваньні, гісторыя. Маючы ў Сярэднявеччы тое «нямецкае», эўрапейскае права, уступаць у новае тысячагодзьдзе, аддаючыся ў рабства: начальніку, суседу, заводу, калгасу, нейкім тыпам, што лічаць сябе ўрадам... Аддаючыся добраахвотна, з усьмешкай і песьняй. Пан Каськевіч, можа, і быў няздольны да сямейнага сужыцельства (адвакат разьбярэцца) — але да такога ганебнага фінту сваіх нашчадкаў нават ён наўрад ці быў гатовы. Што ж, хай яны і далей радасна паказваюць на сваіх мапах: вось Беларусь, а вось Эўропа. У рабоў свая геаграфія. І, варта спадзявацца, гісторыя Полацку пісалася не для іх.

# Ці ПЭН, ці калода

***5 кастрычніка 1921 заснаваны міжнародны ПЭН-клюб***

Пісьменьнік заўжды — самотны воўк. Або шакал, або скунс. Або там, ня ведаю: зайчык вушасты. Але ён заўсёды сам па сабе і дзень і ноч «сам сабе робіць агледзіны» — бо ўласная прафэсія вымагае цурацца, стараніцца ды бараніцца: ад сходаў, ад прапанаваных на іх хадункоў ды ад калектыўных катлетаў.

Так было, так ёсьць, так будзе. Інакш губляецца самая сутнасьць гэтага занятку — з удзелам калектыву пішуцца толькі скаргі і даносы. Таксама жанры, хто ж спрачаецца — і ня горшыя за іншыя, але, на шчасьце, яны знаходзяцца на такой адлегласьці ад літаратуры, што яе можна вызначыць і голым вокам.

Зразумела, як і ў выпадку з джэнтэльмэнамі, тут вядзецца выключна пра сапраўдных пісьменьнікаў. А хто не сапраўдны? Ня ведаю. Калі ў існаваньні пісьменьніцкіх арганізацый і можа быць нейкі сэнс, дык толькі адзін — абараняць адно аднаго ад аматараў цэнзуры, ад наклейшчыкаў літаратурных акцызаў і ад усялякіх цэзараў. Асабліва ад апошніх, хай часам і ўзьнікае адчуваньне, што ад іх далёка, як ад завірухі.

І калі гэтая злавесная тройца заблукае раптам у трох соснах, шукаючы ворага, дык ніякі саюз ужо не ўратуе — гэтаксама як ніякі пісьменьніцкі Apollo-Soyuz аўтаматычна ня выведзе «члена СП» на арбіту літаратуры. Катлеты замінаюць, ногі блытаюцца ў хадунках, дый лішняя вага... Нібы прадбачачы гэта, 5 кастрычніка 1921 году ў Лёндане з ініцыятывы ангельскай пісьменьніцы Кэтрын Эмі Доўсан Скот, якую цяпер у сьвеце толькі і памятаюць дзякуючы гэтаму вычыну, была створаная міжнародная пісьменьніцкая арганізацыя пад назваю «асадка», то бок P.E.N. — такі сабе прафсаюз паэтаў, эсэістаў і навэлістаў, яны ж празаікі-раманісты.



Падзея, якую можна было б параўнаць са стварэньнем прафсаюзу будысцкіх манахаў або першым зьездам сымонаўстоўпнікаў.

...Амаль праз трынаццаць гадоў увесь прагрэсіўны сьвет даведаўся пра стварэньне іншай літаратурнай арганізацыі — Саюзу беларускіх пісьменьнікаў. Што ні кажы, харошы быў год для стварэньня пісьменьніцкіх саюзаў: 1934-ы. Год канчатковага адмаўленьня бальшавікоў ад вэгетарыянства. У тым ліку ад вэгетарыянства ў дачыненьні да літаратараў. Як ляціць час: неўзабаве давядзецца зьесьці юбілейную катлету... А яшчэ праз восемдзесят гадоў прагрэсіўная грамадзкасьць Беларусі вітала стварэньне новага саюзу — Саюзу пісьменьнікаў Беларусі. Таксама добры быў год: 2005-ы. Паводле палітычнага календара — амаль што 1934-ы, толькі форма іншая... І таксама юбілей на носе.

Аднак час вярнуцца да нашай замежнай асадкі, то бок ПЭНу. Першым прэзыдэнтам новай арганізацыі быў абраны Джон Голсўарты. Калі б паважаны аўтар «Сагі пра Афсайды» мог толькі ўявіць сабе, колькі нацыянальных «пэнаў» расплодзіцца ў сьвеце да канца ягонага зорнага XX стагодзьдзя, ён бы памёр з усьмешкай на сваіх асьвечаных Нобэлем вуснах. Што яму дакладна ня мроілася ў самых сьмелых відзяжах — дык гэта зьяўленьне ў шэрагах арганізацыі нейкага там беларускага ПЭНу. Хоць і альбанскага, мусіць, таксама.

Калі пісьменьнікі аб'ядноўваюцца, ім чамусьці адразу робіцца цяжка без календара, насаджваньня на кол і юбілейных катлет. Бяз цэнзараў і заляцаньняў да цэзара. Што ж, галоўнае не паказваць гэта на публіцы і падтрымліваць адно аднаго. Традыцыі, панімаеш. З чым і віншуем. А членскія білеты — яны таксама ўсе ў адзін канец.

# Герой і яго страты

*6 кастрычніка*
*356 да н. э.*
*Герастрат спальвае храм Артэміды*

Калі чалавек ня мае асаблівых талентаў — ён ідзе ў кантралёры.

Або ў герастраты.

Або ў Тэапомпы.

Добрага Геру, які хацеў як лепш, а атрымалася як заўжды, з кожным стагодзьдзем робіцца ўсё больш шкада. Вось і сусьветная літаратура, гэты бясплатны адвакат нягоднікаў і прайдзісьветаў, з усяе моцы спрабуе знайсьці яму апраўданьне. Маўляў, такой бяды з тым храмам: прагнуў чалавек трошкі ўорхалавай славы і ў выніку прычыніў нам усім маральныя страты: але ж страхоўка экзыстэнцыі ўсё верне, на тое мы і людзі.

Злосныя старажытныя грэкі катавалі Геру некалькі дзён, каб ён прызнаўся, навошта спаліў злашчасны храм Артэміды Эфэскай. Адказ іх агаломшыў — і яны пастанавілі выкрасьліць таго Геру з усіх лонг- і шорт-лістоў ды заадно забаранілі згадваць ягонае імя. А вось гісторыка Тэапомпа неабачлівыя грэкі закатаваць не падумалі, яго зацягнула ў свае гестапаўскія засьценкі муза гісторыі Кліё — і ён здаўся. Выдаў імя Геры нашчадкам — цяпер кожны ведае, як паліць храмы і што з гэтага будзе.



Што-што... Несьмяротнасьць.

Пры слове «герастрат» перш-наперш прыходзяць у галаву зусім не нацысты. Іх наагул называць герастратамі некарэктна, хаця такі падыход і досыць папулярны. Наўрад ці ў іхным выпадку ўсё гэта рабілася дзеля славы — ды і экзыстэнцыя тут ні пры чым (калі гэтае слова нешта яшчэ здольнае нешта значыць). Не, герастрат — гэта іншае. Тонкае, беднае і бяздарнае.

Успамінаюцца іншыя чалавечкі. Прыкладам, расеец Брэнэр, які, кажуць, намаляваў на арыгінальнай карціне Малевіча знак даляра і назваў гэта на судзе сваім «дыялёгам з мастаком». Прыгадваецца кніжка Брэнэра, дзе ён апісвае прыступы гемарою, якія адбываліся зь ім у заходняй турме непасрэдна пасьля «дыялёгу». І агульны патас: вось жа, мучаць мастака, як нейкія грэкі, а яшчэ Эўропай называюцца!.. Так, напэўна, думаў і Герастрат, так і крычаў на плошчы: я ня барбар, я акцыяніст! Вы нічога не разумееце ў сучасным мастацтве! Рукі прэч! Арс лонга віта брэвіс!

А яшчэ на памяць прыходзіць афарызм, які прыпісваюць Карлу Краўсу: «Перад тым, як абвясьціць прысуд Герастрату, хацеў бы я паглядзець на той храм». Можа, небарака ўсяго толькі наважыўся зьдзейсьніць тое, пра што шэптам марылі на кожнай эфэскай кухні?

# Нязручная Ганна

*7 кастрычніка 2006 забітая Ганна Паліткоўская*

Аднойчы адзін пуцін паехаў у Дрэздэн... дый не адзін зусім, а з афіцыйным сяброўскім візытам. Як водзіцца, у Дрэздэне яго сустракалі як дарагога госьця. Праўда, ні хлеба, ні солі, ні маладзіцаў ва ўласным соку не было — затое народ павітаў пуціна як мае быць. «Mörder! Mörder!» — усё крычаў нейкі немец, і калі б на месцы пуціна быў нейкі іншы дарагі госьць, дык падумаў бы, што так на мясцовым дыялекце гучыць «Добро пожаловать!» Але пуцін на сваю бяду нямецкую ведаў — і зрабіць выгляд, што ўсё ОК, ніяк ня мог.

«Забойца» — калі чалавека называюць гэтым прыгожым словам, чалавек патрабуе доказаў, падставаў і наагул пачынае псыхаваць. Доказаў у немца з прозьвішчам Кюнэ не было. Затое яны былі ў журналісткі Ганны Паліткоўскай. Каму-каму, а ёй — верылі нават ворагі. Яна пісала пра рэчы, згадваньне якіх прымушае нават самага далёкага ад «палітыкі» расейца раскрыцца і выказаць сваё стаўленьне да сваёй дзіўнай, няўцямнай, з «асобеннай стацьцю» дзяржавы, што ўжо даўно ляціць у нейкую чорную бездань, руйнуючы ўсё, што трапіла ёй пад бруха — хаця дзевяць зь дзесяці пасажыраў удаюць, што палёт нармальны, надвор’е цудоўнае і можна ўзяць сабе яшчэ піва. І дзевяць зь дзесяці скажуць, што Паліткоўская была вораг Расеі, за даляры займалася паклёпамі на бедных разанскіх і тамбоўскіх хлопчыкаў, якія трошкі пагарэзьнічалі на Каўказе, і, карацей, так ёй і трэба, с-сучцы.



Ці хочуць рускія вайны? Хочуць. Яна сказала тое, што ў 99,99 адсоткаў расейцаў ніколі ня стане духу прызнаць: пра тое, што ў Чачэніі адбываецца генацыд. Яна замінала ўсім, акрамя ўласнага сумленьня. Напэўна, такім і мае быць журналіст, які піша пра кроў і сьмерць.

7 кастрычніка 2006 году ў пуціных было сьвята. Паліткоўская была знойдзеная ў Маскве, у ліфце свайго дома, забітай. Прывітаньне ад пуцінаў — пісталет і гільзы — ляжалі побач зь целам, нібы намякаючы на тое, што былі ўжытыя выключна ў выхаваўчых мэтах. Не хавае ж настаўнік у стол сваю ўказку кожны раз, калі пройдзецца ёй па вучнёўскіх пальцах? У ліфце дома на Лясной вуліцы была праведзеная апэрацыя па захаваньні той адзінай прапорцыі, пры якой могуць існаваць пуціны: дзевяць за, аднаго ў магілу.

Калі б хаця двое зь дзесяці былі такія, як Паліткоўская, Расея была б іншая. Калі б усе журналісты ставіліся да працы так, як яна, за журналістаў было б ня так сорамна.

А магла б пра культурку пісаць. Пра празьнікі і дасьціжэнія. На расейскі кшталт — то бок заплюшчыўшы вочы, заткнуўшы рот валёнкам і надзеўшы вялікую зімовую фафудзьдзю.

# Вечная вайна

***8 кастрычніка 1508 ВКЛ і Маскоўшчына абвяшчаюць вечны мір на два гады***

Якую працягласьць мае вечнасьць? Для шараговага, не абцяжаранага дурнымі пытаньнямі чалавека яна не перавышае адпушчанага на ягоную долю жыцьця; вернік падумае пра бога і канец сьвету. Для лінгвіста «вечнасьць» бярэ карані ў слове «век»; Вечны Жыд толькі ўсьміхнецца. І толькі палітыкі абыходзяцца зь вечнасьцю адвольна. Вечнасьць — гэта стольні, колькі трэба для таго, каб назапасіць сілы і прымерацць на сябе новы лебэнсраўм.

8 кастрычніка 1508 году паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Маскоўскай дзяржавай быў падпісаны «вечны мір». За апошнія шаснаццаць гадоў перад тым яны ваявалі паміж сабой ажно двойчы, і вось, нарэшце:

«*Па Божай волі і па нашай любові мы, Васіль, Божай міласьцю гаспадар усёй Русі і вялікі князь, Валадзімерскі і Маскоўскі, і Наўгародзкі, і Пскоўскі, і Цьвярскі, і Югорскі, і Пермскі, і Баўгарскі, і іншых, узялі есмо любоў і вечнае даканчэньне са сваім братам і сватам, з Жыгімонтам каралём Польскім і вялікім князем Літоўскім і Рускім, і князем Прускім, і Вялікаглокгоўскім, і Апаўскім, і Сілезкім, і Лужыцкім, і Жамойцкім, і іншых: жыць мне ў любові зь ім, паводле гэтай граматы, і быць зь ім паўсюдна заадно, і добра мне яму зычыць і яго землям, паўсюдна, дзе б ні было; а яму мне дабра зычыць і нашым землям, паўсюдна, дзе б ні было. А хто будзе мне друг, той і яму друг. А хто будзе мне недруг, той і яму недруг. А хто будзе яму друг, той і мне друг; а хто яму недруг, той і мне недруг. А быць табе, браце, на ўсялякага майго недруга са мной заадно, апрача Мэндлі-гірэя, цара Перакопскага; а мне на ўсялякага твайго недруга быць з табой заадно, і на татараў, апрача Мэндлі-гірэя, цара Перакопскага...*»



Такі вось прыкладны пераклад — і гэта быў толькі пачатак той добрай, сьветлай, душэўнай граматы... Карацей, пашанцавала цару Перакопскаму Мэндлі-гірэю. І братам-манархам заставалася адно расцалавацца — хаця б з дапамогай сваіх дыпляматаў. Былі пацьверджаныя межы, і хаця нахапанае Масквой заставалася Маскве, затое бунтаўнікі князі Глінскія, якіх падтрымалі маскоўцы, згубілі свае ўладаньні ў ВКЛ і эміґравалі да «ўсходніх братоў».

У выпадку Жыгімонта І і Васіля ІІІ вечнасьць склала каля двух гадоў. Бо ўжо ў 1510 маскоўскі ўладар пачаў распрацоўваць свой «плян Барбароса». Дамовіўся «зь недругамі» — апрача цара Перакопскага, вядома — і рушыў на Смаленск... Так што лепш не задумвацца пра тое, якую працягласьць мае вечнасьць. І не чытаць граматы — і ранішнія газэты.

## 2:44:45

*9 кастрычніка 1977 Кавалёнак ляціць у космас*

Сёньня самы час для таго, каб пагаварыць пра адноснасьць часу. Пагаварыць без табло і табліцаў, бяз мыла, мыліцаў і іншай непатрэбнай мітусьні — пагаманіць так, як спакон веку гаварыў народ, які калі і глядзіць часам на зоркі, дык заўжды з разьлікам: сеяць, ня сеяць, а калі сеяць, дык што — разумнае і вечнае ці проста бульбу? І калі зь нябёсаў у гэты момант хтосьці спусьціцца — тут біць ці ня тут? Вось у чым пытаньне... Вось у чым ён — беларускі космас.

Два дні, сорак чатыры хвіліны і сорак пяць сэкундаў — гэта шмат ці мала? Каб усё пачаць спачатку. Бо звон гадзіньніка, Людміла Гурчанка і ўсё такое...

Камусьці два дні, сорак чатыры хвіліны і сорак пяць сэкундаў якраз хопіць, каб вясельле згуляць — па-багатаму, зь песьняй, скокамі і пысамі ў салатах. А камусьці і на памінкі будзе мала — бо нябожчыкі ж таксама маюць хранометар. Аднак насамрэч дзьве гадзіны, сорак чатыры хвіліны і сорак пяць сэкундаў — лічбы для Беларусі без сумневу знакавыя. І кожны, хто, стоячы дзесьці на Глыбоччыне, падымае восеньскай ноччу галаву да неба, можа гэта пацьвердзіць.

Бо менавіта столькі часу прабавіў у космасе першы беларус, якога туды пусьцілі. Ці за-пусьцілі... Трэба сказаць, што ў космас нас пускаюць досыць рэдка. Тарас, які на Парнасе, наагул трапіў да зорак без скафандра — і ацалеў. Багдановіч намякаў, што пульт кіраваньня нашымі палётамі знаходзіцца ў агульным карыстаньні. Драздовіч там быў — але маўчаў: канспірацыя. І таму сапраўдным першапраходцам у гэтай справе зрабіўся просты беларускі хлопец з-пад Крупак — Уладзімер Кавалёнак. (Пятра Клімука пакінем палешукам, навырост.) Як простаму хлопцу, яму ня трэба было нічога хаваць за мэтафарамі, гіпэрбаламі і літотамі. 9 кастрычніка 1977 году ён на караблі «Саюз-25» разам з расейцам Руміным першым зь беларусаў, ліцьвіноў і крывічоў патрапіў у бязьмежжа — і прабавіў там, як ужо згадвалася, ажно некалькі дзён. Так, магчыма, расейскія іншаплянэтнікі з далёкага Байкануру такому факту не зьдзівіліся б; і амэрыканскія астранаўты не заўважылі б ніякага подзьвігу. Але для Беларусі гэта была падзея. У тыя дні мы зрабіліся касьмічнай краінай — як бы сьмешна гэта сёньня ні гучала.



Дзьве гадзіны, сорак чатыры хвіліны і сорак пяць сэкундаў... Досыць для таго, каб зрабіцца героем. Для таго, каб унесьці нацыянальны сьцяг у поўную дэпутатаў (кожны другі зь якіх таксама быў у нейкім сэнсе іншаплянэтнік) залю, столькі часу не патрабуецца.

Праўда, беларускі космас касманаўту спадабаўся ня надта. Не прайшло і дваццаці трох гадоў, як касманаўт Кавалёнак падзяліўся ўражаньнямі ад наведваньня гэтай поўнай паліцаяў і бээнэфаўцаў чорнай дзіркі:

«...*Што тычыцца гэтага сьцяга, дык калі ў нас былі так бы мовіць „смутныя часы“, зьвязаныя і з выбарамі старшыні Вярхоўнага Савету, і калі адбыўся развал, я, да свайго вялікага сораму, ня ведаў, што пад гэтым чырвона-белым сьцягам у Менску сустракалі фашызм. Я думаў, што гэта сапраўды нацыянальны сьцяг і я яго ўнёс. Калі ж я потым паглядзеў гістарычныя здымкі, я неаднаразова ў прэсе і гэтак далей прабачаўся перад сваім народам за гэтую памылку. Я лічу, што цяперашні наш сьцяг сапраўды прыгожы, нацыянальны, чырвона-зялёны, з арнамэнтам...*»

Напэўна, менавіта такой выглядае Беларусь з космасу. Прыгожай, чырвона-зялёнай і з арнамэнтам. Праўда, кажуць, калі падляцець бліжэй, карцінка крыху зьмяняецца. А калі яшчэ кніжкі розныя пачытаць... Ды толькі часу няма, мэтэарытныя дажджы замінаюць. І на кожным мэтэарыце сядзяць Францішак Кушаль з Натальляй Арсеньневай і точаць свае крывыя нажы. Ня дай божа сапсуюць арнамэнт.

# Тайна двух акіянаў

*10 кастрычніка 1913*
*Панамскі канал злучае два акіяны*

«Што разлучыў Бог, чалавек злучыць ня здольны». Такую рэзалюцыю, карыстаючыся службовым становішчам, наклаў некалі гішпанскі кароль Філіп II на першы ў гісторыі праект Панамскага каналу.

«Лухта і лузэрства!» — сказаў на гэта амэрыканскі прэзыдэнт Вудра Ўілсан 10 кастрычніка 1913 году і націснуў пімпачку. Празь некалькі сэкундаў больш чым за чатыры тысячы кілямэтраў ад ягонага вашынгтонскага кабінэту, у якім знаходзілася тая цудоўная пімпачака, адбыўся выбух — чалавек адным махам злучыў тое, што саманадзейна разлучыў інжынэр Госпад.

«Прагучала горда», — пракамэнтаваў падзею Алёша Пяшкоў, але ён тады ня быў членам СП і яго ніхто не пачуў, давялося прыберагчы фразачку да будучых часоў.



Хаця нагода для гонару сапраўды была не абы-якая... Кароль Філіп думаў, што глядзеў на ваду — а вадзе было не да манархіі. Кактэйль быў зьмяшаны, Атлянтычны акіян абрынуўся ў Ціхі — або Ціхі грымнуўся ў Атлянтычны: розьніца ўжо нікога не хвалявала. Хіба што простых грамадзянаў Старога і Новага сьвету, якія некалькі дзесяцігодзьдзяў перад тым уклалі свае кроўныя рублі, даляры, франкі і маркі ў будаўніцтва праклятага каналу — і засталіся ні з чым. Бо злучаць тое, што разлучыў бог, чамусьці найперш выпадае розным прайдзісьветам і афэрыстам. Абачлівы чалавек усё параўновае з 1913-м — як у Савецкім Саюзе...

Панаме пашанцавала — і канал мае, і імя на слыху. Яна ўжо даўно ў гісторыі — і на галовах. Можна вайну ЗША абвясьціць — і здацца, і ўсе скажуць: дык гэта ж Панама! — і выправяць націск. І ніхто ня зьдзівіцца. Паспрабуй зьдзівіся, калі маеш справу з жыхарамі вузкай палоскі паміж двума акіянамі, якія з 1913 году ня ведаюць, куды іх заўтра змые: у Атлянтыку або — ціхенька, ціхенька — у іншы бок.

А яшчэ прыгадваецца звышпапулярная кніжка нямецкага пісьменьніка Янаша «О, як цудоўна ў Панаме!», на якой выхоўваліся пакаленьні тамтэйшых дзяцей. Панама ўяўляецца яе пэрсанажам недасяжным раем, які, як высьвятляецца, дасягаць зусім не абавязкова. Бо, “стара казка вучыць”, добра ня там, куды дастае пімпачка... дый бікіні не заўжды пісалася з малой літары.

# Суд у цемры

*11 кастрычніка 1913 у Кіеве пачаўся суд над Бэйлісам*

Кіяўлянін Мэнахем Мэндэль Бэйліс ня меў цьвёрдага алібі, затое меў тое, што на судовым жаргоне завецца «Вялікай Абцяжарваючай Акалічнасьцю» — ён быў яўрэй.

«А такі чалавек харошы, — цмокалі языкамі суседзі. — Вось жа не пашанцавала...» І што з таго, што прыказчык Бэйліс працаваў у суботы, не пераймаўся асабліва рэлігіяй і аддаў сына ў расейскую гімназію. Яўрэй — значыць яўрэй, значыць, раніцай намазвае тосты сьвежай крывёю хрысьціянскіх немаўлятаў і запівае малаком з расейскіх валасатых грудзей. А тосты са скарыначкай, а кровушка капае... Кап-кап-кап. Ну, ня могуць яны інакш, пераконвалі адзін аднаго кіеўскія жыхары, прырода ў іх такая. А паколькі спэцыялізаванай крамы, дзе б прадавалася кроў хрысьціянскіх немаўлятаў, у Кіеве на той час не было, дзе Бэйліс і ягоныя суродзічы маглі яшчэ яе ўзяць?..

Ясная рэч, выцадзіўшы зь якога-небудзь маладога праваслаўнага цела.

У сакавіку 1911 году ў адной зь пячораў у прадмесьці Кіева мальцы, якія гулялі там у Ната Пінкертона, адшукалі труп дванаццацігадовага сэмінарыста Андрэя Юшчынскага. На целе было сорак сем колатых ранаў. Сьледзтвам, пасьля нядоўгіх сумневаў, быў абраны самы дэдуктыўны з мэтадаў: Бэйліс ведаў Юшчынскага, Бэйліс яўрэй, яўрэі п'юць хрысьціянскую кроў — значыць, забойцам быў Бэйліс. Элемэнтарна, Ўотсан.



Бэйліса ўратаваў цуд. Справа нечакана набыла міжнародны рэзананс — то там, то сям загучалі галасы, ня самыя апошнія сярод галасоў, якія маглі на нешта паўплываць, з патрабаваньнем аб'ектыўнасьці. Працэс над Бэйлісам пакрысе рассыпаўся — «як картачны дамок», так кажуць у гэткіх выпадках, але на карце стаяў прэстыж царскай юстыцыі. Якая рэдка прызнае сваю паразу — значна радзей, чым тыя паразы здараюцца. Справу Бэйліса маглі б проста замоўчаць — і ніякія сумленныя юрысты, адвакаты, журналісты і проста людзі, якія не чытаюць «ісьцінна духоўнай» літаратуры, ніколі б не даведаліся ні пра якага кіеўскага яўрэя і не падняліся б у яго абарону. Згніў бы дзе-небудзь — і з канцамі.

А яшчэ Бэйліса ўратаваў час. Адбылася б гісторыя ўсяго гадоў на трыццаць раней — і мала каму прыйшло б у галаву, што на гэтым кіеўскім судзілішчы нешта ня так. А яшчэ выдае на тое, што абвінавачаньне ў працэсе над Бэйлісам пагубілі акурат тыя, хто ўсёй душой быў на баку абвінаваўцы і жадаў толькі аднаго — расправы над ненавісным «жыдом». Яны былі занадта ўпэўненыя ў сваёй перамозе і відавочна пераацанілі праслаўтую «цемнату народную»... Занадта верылі ў дурату і расізм прысяжных. Недаацанілі значэньне мэдыяў — а іх эпоха ўжо надышла.

Гэты працэс называлі сьмеху вартым нават некаторыя чарнасоценцы ды антысэміты. Не таму, што невінаваты. А таму, што трэба ня так. Трэба спрытней, хутчэй і так, каб сьлядоў не засталося.

Як — зробіцца ясна гадоў праз дваццаць-трыццаць. А Мэнахэм Мэндэль Бэйліс неўзабаве пасьля апраўданьня зьехаў зь сям'ёй у Палестыну, а потым у ЗША, дзе напісаў «Гісторыю маіх пакутаў». Адзін з разьдзелаў гісторыі яўрэяў — на якіх так зручна павесіць усё на сьвеце. Любую правіну — у тым ліку сваю. Напэўна, антысэмітаў, як і наагул расістаў, трэба ліквідаваць адразу, не чакаючы наступнага прыпынку і не марнуючы час на тлумачэньні. Кампостэр вытрымае. Бо інакш можа быць позна — і тады плата ўзрасьце ў сотні разоў.

# Новая зямля

***12 кастрычніка 1492 матрос Калюмбавай экспэдыцыі Радрыга дэ Трыяна пабачыў зямлю***

*«Пасьля заходу сонца я зноў павярнуў на Захад. З хуткасьцю дванаццаць вузлоў мы рушылі наперад і да 2 гадзін раніцы прайшлі дзевяноста міляў. Каравэла „Пінта“ ішла хутчэй за два астатнія караблі і абагнала нас, дык на ёй першыя пабачылі зямлю і падалі ўмоўны сыгнал. Першы заўважыў сушу матрос, якога звалі Радрыга дэ Трыяна...»*

Такі запіс пакінуў Хрыстафор Калюмб у бартавым журнале — а менавіта ў тым яго разьдзеле, які апісваў падзеі 12 кастрычніка 1492 году.

Першымі словамі першага эўрапейца, які ўпершыню пабачыў новы кантынэнт, былі «Зямля, зямля!» У іх была палёгка, у іх была надзея, у іх крычала рашучасьць, дрыжэла воля, пульсаваў страх. «Зямля!» Прысуд для адных, а для другіх... Магчыма, гэта можна параўнаць з пазыўнымі — або абвесткай пра тое, што наступная станцыя канцавая. З просьбай пакінуць вагоны. «Зямля, зямля!» — гэта прагучала ў цемнаце як верш, і ні Стары, ні Новы сьвет даўно ня чулі такой радаснай і трывожнай паэзіі.



Кажуць, Радрыга дэ Трыяна, ён жа Хуан Радрыгес Бэрмэха, паходзіў зь сям'і марыскаў і наняўся на Калюмбавы караблі, гнаны страхам перад інквізыцыяй. У такім разе ў слове «зямля», якое раптам хрыпата выгукнуў ягоны непаслухмяны голас, для яго было значна больш, чым для ягоных таварышаў. Гэта было нейкае такое коласаўскае прадчуваньне зямлі — якая зможа зрабіцца тваёй, толькі калі ты будзеш адчуваць яе ня толькі нагамі, але пачуеш біцьцё яе сэрца. Матросы, бадзягі і калюмбы для гэтага ня створаныя.

Дарэчы, тое, што Трыяна-Бэрмэха сапраўды пабачыў у тую ноч зямлю, аспрэчваецца. «Пінта» на той момант заставалася кілямэтраў за дзьвесьце ад выспаў, на якіх неўзабаве ўкленчыць Калюмб. Але «Зямля, зямля» пракрычаў менавіта ён. Карабельны журнал не дзяржаўны часопіс, ён ня хлусіць...

Калі б новыя кантынэнты называлі ў гонар тых, хто першы зараве з мачты: «Зямля!», дык Амэрыка была б, адпаведна, Бэрмэхіяй або Трыяніяй — так што тут Новаму сьвету пашанцавала. Трыяна наагул не атрымаў за вастрыню вачэй сваіх анічога. Напярэдадні Калюмб, ці то бачачы настрой каманды, якая ўжо тачыла на яго зубы, ці то згодна з традыцыяй, прызначыў узнагароду таму, хто першы пабачыць зямлю. Аднак Трыяна, які быў пайшоў да адмірала, пакінуў яго каюту з пустымі рукамі. «Я першы яе пабачыў, — патлумачыў будучы адкрывальнік Новага сьвету агаломшанай камандзе. — Яшчэ ўчора ўвечары. Але не крычаў як дурны...»

Каманда пабурчала і разышлася па сваіх месцах. Наперадзе была зямля — і зьвядзеньне рахункаў варта было пакінуць на потым.

# Яна яшчэ вернецца

*13 кастрычніка 1917 здарыўся «Фатымскі цуд» у Партугаліі*

Ад дэпрэсіі прыдумана шмат сродкаў — і, напэўна, самым дзейсным зь іх ёсьць згон самалёта. Дапамагае таксама ад паніжанага ціску і праблемаў са стулам. Прынамсі, такія злачынствы зрабіліся настолькі папулярныя, што пра іх ужо і слухаць нецікава. А яшчэ самалёт можна сагнаць, каб даведацца ўсю праўду пра будучыню.

Менавіта так зрабіў адзін тэрарыст, які ў 1981-м прымусіў адхіліцца ад маршруту і сесьці ў Францыі цэлы брытанскі авіялайнэр. Згоншчык не патрабаваў ні наркотыкаў, ні грошай, ні свабоды зьняволеным паплечнікам, ні перамогі ўлюбёнага клюбу ў Кубку чэмпіёнаў. Ён нават піва не папрасіў. Ён проста паабяцаў разьнесьці ні ў чым не вінаватую машыну ўшчэнт, разам з пасажырамі, калі Папа Рымскі не прызнаецца яму, у чым было трэцяе прароцтва Фатымы.



Папа не прызнаўся, ён умеў захоўваць ваенную тайну. Тэрарыст расплакаўся і здаўся паліцыі.

Зноў гэтая Фатыма... Калі Агджа страляў у Папу на плошчы сьвятога Пётры, Ян Павел якраз нахіліўся, каб разглядзець мэдальён на шыі адной дзяўчынкі — гэта ўратавала яму жыцьцё. З таго мэдальёна на яго глядзелі тры пастушкі — тыя самыя, перад якімі ў Фатыме ў 1917 зьявілася Маці Божая і расказала на чыстай партугальскай мове, што хутка яны будуць пакутаваць па-даросламу, так што хай паболей моляцца. А яна, маўляў, будзе прыходзіць на гэтае месца кожны дзень трынаццатага — нават калі гэта будзе пятніца. Але баяцца яе ня трэба.

Правільна, чаго тут баяцца: падумаеш, Маці Божая зь нябёсаў спусьцілася. «Куды ж вы, дзеткі?» — крыкнула ім усьлед нябесная госьця. Давялося вяртаць малых сілаю сьвятога духу. Дзяўчаты, Жасінта і Лусія, гаварылі з Багародзіцай, а хлопчык Францішку гэтым часам нічога ня чуў і нікога ня бачыў, стаяў і галаву сабе чухаў. Адно слова — мужык.

Празь месяц Багародзіцу пад Фатымай сустракала ўжо больш за паўсотні чалавек. А яшчэ праз два — ужо васямнаццаць тысяч. У верасьні каля трыццаці тысяч гледачоў сабраліся пад Фатымай, каб паназіраць за цудам. Праўда, перад дарослымі Багародзіца не паказвалася, гаворачы зь дзецьмі па мэнтальным мабільніку і абмяжоўваючыся візуальнымі эфэктамі. Найлепшы зь іх, з 3D і іншымі наваротамі, яна прыберагла на 13 кастрычніка 1917-га. У гэты дзень над Фатымай сонца вытварала такое, што магло атрымаць званьне народнага артыста Партугальскай ССР. Копэрфілд бы пазайздросьціў. Але ён тады яшчэ не нарадзіўся.

Што да Папы, то на тое-сёе ён усё ж пасьпеў намякнуць. Але лепей нам гэтага ня ведаць. І наагул меней думаць і болей маліцца. І пажадана па-партугальску.

# З хуткасьцю веры

***14 кастрычніка 1978 у кардынала Вайтылы, які сьпяшаецца ў Рым на канкляў, не заводзіцца машына***

Ян Павел II быў чалавек харошы і сьветлы — і, як і кожнаму сьветламу і харошаму чалавеку, з аўтамабілямі яму ня надта шанцавала. Яшчэ ў маладосьці на радзіме яго зьбіў грузавік — і хто ведае, якой дарогай пайшла б каталіцкая царква, калі б на вуліцы жыцьця будучага Папы ў той дзень спыніўся рух.

Але Папа не здаваўся і працягваў мужна суіснаваць з транспартнымі сродкамі розных канструкцый і марак. Дзень 14 кастрычніка 1978 году падрыхтаваў яму новае, ня менш сур'ёзнае выпрабаваньне. Магчыма, гэта ўсяго толькі легенда — але ў кожнай казцы ёсьць доля праўды, а ў кожнай машыны свая душа. Часам даволі капрызьлівая.

Той раніцай у саборы італійскага гораду Палестрына кардынал Караль Вайтыла праводзіў імшу. Пасьля яе заканчэньня ён выйшаў з сабору і сеў у аўтамабіль. Кардынал сьпяшаўся на канкляў, дзе мусіў быць абраны новы Папа. Але машына не завялася нават зь некалькіх спробаў.



«Хай будзе пракляты той дзень, калі я сеў за баранку гэтага пыласоса!» — мог бы сказаць кардынал Вайтыла. Але замест гэтага тэатральнага, але маларацыянальнага дзеяньня ён проста ўзяў і злавіў спадарожную машыну. Якая рванула зь месца і паляцела ўніз па горных дарогах. Міма стромых схілаў і д'ябальскіх расколін, па самым краі жудаснай прорвы. Спазьняцца было нельга. Лік ішоў на сэкунды.

Кіроўца аказаўся добрым каталікам і адчайным авантурыстам. Паводле зьвестак з сакрэтных архіваў Ватыкану, ён праехаў 12 міляў за 17 хвілін і ўвесь гэты час забаўляў Папу переказамі з Бакача.

Час праляцеў непрыкметна, кардынал трапіў на высокі сход своечасова, ніхто і слова не сказаў. А праз два дні канкляў абраў кардынала Вайтылу Папам.

Але і зрабіўшыся Янам Паўлам II, Караль Вайтыла працягваў езьдзіць у аўтамабілях. 13 траўня 1981 ён стоячы размаўляў зь вернікамі ў сваім папамабілі, ня надта прэзэнтабэльным на выгляд белым «Фіяце Кампаньёла», на плошчы Сьвятога Пётры — калі Мэхмэд Алі Агджа пачаў сваю страляніну... Але Папа аказаўся мацнейшы за машыны і кулі. Хай бы так было з усімі сьветлымі людзьмі.

## Гэты яўрэй

*15 кастрычніка 1894 арыштаваны Альфрэд Дрэйфус*

«К чорту здраднікаў!» — прабурчаў вайсковы міністар. — «У сэнсе, на Чортаву выспу іх...» Туды, у Францускую Гвіяну, на кавалак зямлі з такім гіблым кліматам, што вязьні адразу ж падхоплівалі там ліхаманку і ў выніку сотнямі гінулі ў непраходных джунглях, і адправілі Альфрэда Дрэйфуса, былога капітана, а цяпер — асуджанага злачынцу.

І ўсё было нібыта правільна, усё законна, усё паводле пастановы суду... Але нешта ў скончаным нядаўна працэсе не давала спакою добрай палове французаў. І пакуль другая добрая палова мірна спала, першая крычала пра несправядлівасьць і судовую памылку. «Ды ну вас, — адмахвалася першая. — А што яшчэ мусіць чакаць шпіёна і здрадніка Радзімы? Круасаны з фандзю?»



Даходзіла да бойкі, да вырваных валасоў і нават дуэляў. Справа Дрэйфуса падзяліла Францыю, нібы яна прайграла вайну.

Ён быў арыштаваны 15 кастрычніка 1894 году. Яго выклікалі ў генэральны штаб па надуманай прычыне і абвінавацілі ў перадачы немцам сакрэтных дакумэнтаў. Потым высьветліцца, што дакумэнты перадаў іншы чалавек, адзін з тых, хто асабліва гучна пераконваў усіх у вінаватасьці Дрэйфуса. А яшчэ высьветліцца, што шмат якія паперы, якія быццам бы даводзілі вінаватасьць «гэтага яўрэя», падробленыя. А яшчэ — што антысэмітаў у Францыі больш, чым салдатаў. Але на лаве падсудных апынецца ня толькі «гэты яўрэй». Туды, зь лёгкай рукі Эміля Заля, будзе выпраўленае францускае правасудзьдзе і вайсковае міністэрства. «Я абвінавачваю» — так будзе называцца яго артыкул, пададзены ў друку як ліст прэзыдэнту Рэспублікі. Капітан Дрэйфус мусіць быць апраўданы. І кропка.

Ды была і трэцяя партыя. Самая страшная. «Надакучылі вы ўжо са сваім Дрэйфусам... — казалі яны, пазяхаючы. — Якая розьніца, вінаваты гэты яўрэй або не. Дайце нам жыць і працаваць спакойна. Як падурнелі ўсе! Мы ня верым нікому і нам усё роўна, хто там каму пісаў і да якога чорта паехаў».

Цікава, што да экспэртызы па спраўджваньні почырку Дрэйфуса на ганебных цыдулках немцам быў прыцягнуты ў ліку іншых спэцыялістаў сам Альфонс Бэртыльён, заснавальнік і культавая фігура францускай крыміналістыкі і вынаходнік бэртыльянажу. Варта ведаць крыху пра ганарлівасьць і самаўпэўненасьць Бэртыльёна, каб зразумець, што ў гэтым выпадку ён быў не найлепшай кандыдатурай. Скажам больш, ён нават ня быў графолягам. «Вядома, гэта почырк Дрэйфуса!» — сказаў Бэртыльён у сваёй заўсёднай раздражнёнай манеры і пайшоў абедаць. Меркаваньні астатніх экспэртаў падзяліліся. У выніку «гэты яўрэй» быў прызнаны аўтарам лістоў...

# Нацы на шыбеніцы

*16 кастрычніка 1946 павешаны асуджаныя Нюрнбэрскім працэсам*

Гэта не паказвалі па тэлевізары. Цяпер бы, напэўна, паказалі. І такое рашэньне было б не найлепшым. Апошнія словы перад пеклам усё адно застаюцца словамі — і здольныя ўвесьці некага ў зман.

«Божа, беражы Нямеччыну! Божа, будзь літасьцівы да маёй душы! Маё апошняе жаданьне — каб Нямеччына зноў была адзіная, каб узаемаразуменьне паміж Усходам і Захадам вяло да міру на Зямлі», — сказаў на эшафоце Рыбэнтроп, які і там уяўляў сябе вялікім дзяржаўным дзеячом.

«Гайль Гітлер!» — крыкнуў Юліюс Штрайхэр, калі на ягоную галаву ўжо быў накінуты мяшок. То бок: я не раскайваюся — і ідзіце вы ўсе ў газавую камэру.

«Вітаю цябе, Нямеччына!» — прамовіў з шыбеніцы Альфрэд Ёдль, якому вельмі хацелася выглядаць патрыётам, і нікім больш.



«Я прашу Госпада ўсёмагутнага быць міласэрным да нямецкага народу. Больш за два мільёны нямецкіх салдат загінула перада мной за айчыну. У імя Нямеччыны я іду за маімі сынамі», — патэтычна выказаўся з таго самага месца Кайтэль, удаючы зь сябе «толькі салдата».

Альфрэд Розэнбэрг не сказаў ані слова. Магчыма, яму і праўда не было чаго сказаць. Нарэшце не было чаго.

«Удачы, Нямеччына!» — прыкладна ў такім духу сфармуляваў сваё зычэньне роднай зямлі аўстрыец Кальтэнбрунэр. Амаль што пажартаваў.

«Дзякуй за добрае абыходжаньне са мной і хай Бог прыме мяне з ласкай», — усьміхнуўся Ганс Франк. Ён наагул увесь час усьміхаўся. Адзіны сярод асуджаных.

«Няхай жыве Нямеччына!» — выгукнуў Вільгельм Фрык. Доўга рыхтаваўся, напэўна.

«Я паважаю амэрыканскіх жаўнераў і афіцэраў, але не амэрыканскую юстыцыю», — зазначыў зь пятлёй на шыі Заўкэль.

«Спадзяюся, гэтае пакараньне будзе апошнім актам у трагедыі другой сусьветнай вайны і што навукай гэтай вайны будзе тое, што паміж народамі будзе мір і паразуменьне. Я веру ў Нямеччыну», — такімі былі апошнія словы Зайса-Інкварта.

Герман Гёрынг маўчаў ужо другія суткі. Эшафота ён баяўся. Маўчалі і іншыя «героі эпохі». А вось цікава, што сказаў бы на шыбеніцы Гітлер? Якія словы знайшоў бы? І ці прасіў бы літасьці?

# Чорны кастрычнік

*17 кастрычніка 1964 каля Рэчыцы знайшлі нафту*

Сапраўдны геоляг — заўжды экстрасэнс, ён носам чуе. Варта такому шаману горнай выведкі, ведуну радовішчаў і падземных скарбаў апынуцца ў запаветным месцы, як павекі яго пачынаюць дрыжэць... запэцканая тушонкай гітара падае долу... вогнішча гасьне; у сэрцы ягоным робіцца цесна, вочы закочваюцца, а вусны міжволі шэпчуць таямнічыя словы на нейкай пра-мове, загадкавай мове зямлі, пнёў і карысных выкапняў: ое-сое-кайназое, буры-бэра-эр-сямнаццаць...

І ўсё: прыбраўшы геоляга, на месцы, дзе ён толькі што стаяў, можна сьмела капаць — штосьці ды знойдзеш.

На пачатку трыццатых гадоў мінулага стагодзьдзя ўраджэнец Магілёва, выпускнік Фрайбэргскай горнай акадэміі, аўтар бэстсэлера «Карысныя выкапні БССР і пэрспэктывы іх скарыстаньня» Аляксандар Розін раптам адчуў, што ў Беларусі на Палесьсі ёсьць нафта. Але яму ніхто не паверыў — барацьба з шаманамі і ведунамі ў імпэрыі рабочых і сялянаў была ў поўным разгары. Давялося Аляксандру Розіну займацца праблемай газаноснасьці чацьвярцічных адкладаў Чашніцкага раёну.

Уласную, хай сабе невялічкую, але цалкам Савудаўскую Арабію Беларусь адкапала толькі праз трыццаць гадоў. Тысячагодзьдзямі хадзілі беларусы па сваёй роднай зямлі, таптралі яе нагамі і закопвалі туды адзін аднаго, і ніхто ня думаў ні пра якую нафту — а тут на табе. Раней бурылі нас, цяпер мы самі пачалі бурыць. У жніўні 1964 году паблізу ад Капараўкі пад Рэчыцай зь беларускай зямлі ўпершыню палілося золата, чорнае, як панна Нясьвіжа, а 17 кастрычніка панны тыя палезьлі зь зямлі ў маштабе, які без агаворак можна было назваць прамысловым.



Вось яно, здавалася б, шчасьце і старшынства ў арганізацыі краін-экспарцёраў ойлу... Але ўсю здабытую нафту выпілі маскоўскія прыгнятальнікі — і запатрабавалі яшчэ. Для таго, каб кожную раніцу ў Крамлі на стале стаяла шклянка сьвежае нафты, беларускі шахцёр вымушаны быў працаваць ад ночы да зары.

Валянцін Зайцаў і Уладзімер Галка — так звалі першапраходцаў, чые брыгады прабілі ў целе маці-краіны дзьве першыя незагойныя сьвідравіны. Сто дваццаць шэсьць тон, шэсьцьсот тон... У канцы дзевяностых было выкачана ўжо больш за сто мільёнаў — а яна ўсё ліецца. Быццам бы Беларусь цішком падключылася да нейкай суседзкай трубы. І што з таго, што труба ніякая не суседзкая, а свая, і што з таго, што няма ўжо ніякіх маскоўскіх прыгнятальнікаў? Усё роўна так і хочацца яе суседзям аддаць. Не шкада. Беларусам наагул нічога ніколі не шкада.

У газэце беларускіх нафтавікоў «Нефтяник» па-беларуску тры словы: «Дажынкі» ды «Слонімскі карагод». Наагул, такое адчуваньне, што нашу нафту нам пазычылі расейцы, па дабраце сваёй душэўнай. Затое там расказваецца пра Эквадор, пра тое, як спэцыялісты «Беларуснафты» займаюцца выведкай у джунглях. «Дікіе места заселены індейскімі племенамі, некоторые із ніх прінціпіально не пользуются телевізорамі, компьютерамі, другімі благамі современной цівілізаціі, свято соблюдая традіціонный уклад жізні предков». А можа, і праўда, ну іх, тыя блага і тую нафту? Адны праблемы ад іх. Запісацца б вось у геолягі і паехаць у Эквадор. А яны тут няхай самі разьбіраюцца ў сваіх тэлевізарах, каму хлеб з калійнай сольлю падносіць і каго нафтай паіць.

# Слуга цару, айцец салдатам

*18 кастрычніка 1905 у Менску адбыўся Курлоўскі расстрэл*

«Чулі? Учора імпэратар даў нам свабоду!»

Што канкрэтна значаць гэтыя словы і як цяпер з той свабодай жыць, 18 (паводле новага стылю 30-га) кастрычніка 1905 году ў Менску яшчэ як сьлед не ўяўлялі. То бок уяўлялі адны бальшавікі, якія ніколі не тлумілі сабе галовы лішнімі сумневамі. У горадзе панавала нейкая радасная разгубленасьць. Не ўяўляў пакуль што сэнсу «свабоды» і губэрнатар Павел Курлоў. Гэта што ж выходзіць: я больш не начальнік? — пытаўся ён сам сябе, стоячы перад люстэркам, і не знаходзіў адказу. «Начальнік, начальнік!» — супакойвала яго люстэрка. «Ты на свете всех мілее, всех румяней і светлее». На ўсялякі выпадак Курлоў загадаў вызваліць зь Пішчалаўскага замку некалькі самых спакойных палітычных: можа, гэта і ёсьць свабода? — ну, там разьбярэмся, а будзе трэба, дык назад пасадзім. Адначасова ён правёў паседжаньне з удзелам найвышэйшых паліцэйскіх чыноў, камэнданта вакзалу і начальніка Лібава-Роменскай чыгункі. Было вырашана, што

«...въ случае улічных безпорядковъ в г. Мінске іхъ следуетъ немедленно прекратіть, хотя бы даже вооруженной сілою...»



Праўда, пра вызваленьне вязьняў было абвешчана ўжо тады, калі на Віленскім вакзале мітынгавала некалькі дзясяткаў тысяч чалавек. Пачалося ўсё ў станцыйнай залі трэцяй клясы, дзе сабраліся чыгуначнікі, аднак неўзабаве народу ў памяшканьні было ўжо столькі, што давялося перамясьціцца на прывакзальную плошчу. Мітынгоўцы захапілі з сабой стол — але не для таго, каб праламаць ім чэрап губэрнатару, а ў якасьці імправізаванай трыбуны. Запраўлялі мітынгам сьціплы чыгуначны службовец Павел Жаба і чалавек з падазроным прозьвішчам Гамсахурдзі. Жабу давялося пагаварыць асабіста з Курловым — і несанкцыянаваны сход зрабіўся санкцыянаваным. Тут жа разьнеслася вестка пра тое, што Курлоў вызваляе палітзьняволеных. Пачулася ўзьнёслае «ура!», нехта выкрыкнуў «Міліцыя з народам!»...

І тады салдатам быў аддадзены загад страляць. У той дзень менскія моргі і шпіталі ўспомнілі, што значыць ненармаваны працоўны дзень. Каля ста трупаў і трыста параненых — здаецца, менавіта гэта называецца бойняй. Сынонімы: абарона канстытуцыйнага ладу, прадухіленьне масавых беспарадкаў, зачыстка, на стражэ, жэлезам па сьцяклу, навядзеньне парадку на зямлі. Або орднунгу.

Потым Курлоў будзе апраўдвацца, што, па-першае, гэта быў «возмутітельно» палітычны сход, а па-другое, яны, мітынгоўцы, першыя пачалі — маўляў, сталі вырываць ружжы ў салдатаў, якія ахоўвалі вакзал. Патлумачыць, чаму ў такім разе большасьць забітых атрымала кулі ў патыліцы і сьпіны, ён ня змог. Сьледзтва зафіксавала сьведчаньні відавочцаў: загад страляць быў аддадзены ўжо тады, калі народ з плошчы пачаў разыходзіцца. Вось тады, відаць, душа манархіста ня вытрымала, вось тады сэрца гарадавога закіпела крыўдай. Начальнік, начальнік... Люстэрка ня схлусіла.

# Лірыка фронту

***19 кастрычніка 1988 створаны аргкамітэт БНФ***

Бэнээфавец. Гэта слова, як са сталі... Ці як з агню. Ды, на жаль, яго, радзімага, у беларускіх слоўніках пакуль што не відаць — а знайсьці яму там нейкі прытулак даўно пара. Заслужыла. Напэўна, паводле ўжываньсці яно ўсё яшчэ апераджае такія ўсімі прызнаныя слоўцы, як «канвэкцыя», «пуансон» і «прышліфоўваньне» — хаця апошнім часам прыкметна здало свае некалі моцныя пазыцыі.

Беларусь — адна з тых краін, якія некалі, не здагадваючыся пра будучы небывалы росквіт РБ, крытыкаваў неабачлівы Канфуцый: тут імёны часта значаць зусім ня тое, што мусяць. У Беларусі можна быць далёкім ад усіх палітычных партый, наагул не цікавіцца палітыкай і ня мець аніякіх сымпатый ні да аднаго БНФ, ні да другога — і тым ня менш лічыцца самым сапраўдным бэнэафаўцам. Ніякія апраўданьні і тлумачэньні не прымаюцца, пратэсты адхіляюцца, спробы дыстанцыявацца ад любых народных і антынародных франтоў натыкаюцца на яшчэ больш моцныя падазрэньні: мала таго, што бэнэафавец, дык яшчэ і саромеецца. Ці баіцца?.. Ня бойся, хлопча, мы ўжо звыкліся. У кожнага свая праца. Каму ля станка гарбаціцца, каму ў кабінэце сядзець, каму на беларускам разгаварываць і ўласьць ругаць... Каму садзіць: і першых, і другіх, і трэціх. Кожных за сваё.



Аўтару гэтых радкоў за апошнія дваццаць гадоў так часта даводзілася бываць у шкуры бэнэафаўца, што ён ужо неяк звыкся. Ну добра, бэнэафавец. Абы вы здаровенькія былі. Праўда, са здароўем у тых, хто дзеліць людзей на бэнэафаўцаў і не, раней заўжды былі праблемы. Колькі інфарктаў, інсультаў, прыступаў стэнакардыі і запораў выклікала ў дзевяностых сузіраньне ў якім-небудзь грамадзкім месцы жывога бэнэафаўца!.. Цяпер, здаецца, стала паспакайней. Хаця «бэнэафаўцаў» навокал у параўнаньні зь дзевяностымі значна паболела. Мо таму і суцішыліся жарсьці... Ці здарылася неверагоднае, і народ пачаў нарэшце разьбірацца — як разьбірацца ў грыбах: хто бэнэафавец, хто «сведаміт», хто багема, а хто гранты адпрацоўвае?

А пачыналася ўсё так прыгожа. 19 кастрычніка 1988 году ў менскім кінакасьцёле... то бок у Доме кіно, які да таго быў касьцёлам і потым зноў ім зрабіўся, адбываўся ўстаноўчы сход Таварыства памяці ахвяраў сталінізму «Мартыралёг Беларусі». Якіператварыўся ў арганізацыйны сход па стварэньні яго самага — Беларускага народнага фронту. Быкаў. Пазьняк. Танк. Дзясяткі іншых людзей-легендаў. Ажно страшна — страшна прыемна! — робіцца, што некаторых зь іх усё яшчэ можна пабачыць жыўцом і нават — пры жаданьні — атрымаць ад іх віртуальную аплявуху.

Тады за словам «бэнэафавец» стаяла сіла. Не тупая сіла ўлады, а сіла духу. Вось жа патасна, а? Цьху. Але гэта цяпер са словаў «сіла духу» можна пасьмяяцца: як жа ж, іранічнаму і радаснаму пакаленьню дух падаецца занадта ірацыянальным, і сіла цяпер у слабасьці; а тады безь яго было ня выжыць. Гэта адчувалася ў самім паветры, якое «сьвядомыя» беларусы неабачліва дзялілі з «камуністамі і акупантамі». Тады ня ведаць, што гэта такое: Фронт (фронт-фронт-фронт!), было немагчыма, бо за некалькі гадоў ён ператварыўся ў, бадай, самы ўплывовы рух у краіне. І гэта прызнавалі нават ворагі.

Што такое цяперашнія БНФы, не зусім ясна. Можа, і надалей сіла. Толькі ведаць пра іх ужо не абавязкова. Паветра поўніцца іншым. Музыкай, напрыклад. Маркотнай музыкай паўраспаду. Рабі, што мусіш, і будзь, што будзе — не бэнэафаўскі лёзунг. А значок вось застаўся.

# Грэшнік без галавы

*20 кастрычніка 1401 Кляўсу Штортэбэкеру адсякаюць галаву*

Некаторыя вераць, што адсечаная галава перад тым, як вясёлы кат падыме яе за валасы на пацеху нецярпліваму натоўпу і прыб'е цьвіком да брамы ў якасьці дыдактычнага матэрыялу — яшчэ колькі імгненьняў жыве і мае сувязь з разгубленым ад нечаканай страты целам.

Мабыць, верыў у гэта і магістар карсарскіх навук Кляўс Штортэбэкер. 20 кастрычніка 1401 году ён стаіць у цэнтры Гамбургу, горда выпрастаўшы сьпіну, у шэрагу іншых асуджаных і з усьмешкай пазірае на сякеру, якая з усяе моцы ўдае, што яна тут выпадкова — так, цясьлярскі інструмэнт, забыты безгаловым лайдаком-падмайстрам.

Бургамістар не сьпяшаецца — усё мусіць быць зроблена бездакорна. Ён правярае, ці ў кожнага ліхадзея на бухматых грудзёх вісіць шыльда з надпісам: «Я помогаль партызанам», і строга пазірае на ката: без маёй каманды не пачынаць!



І вось ён падыходзіць усутыч да Штортэбэкера. Зазірае яму ў вочы. І раптам пірат гучна прамаўляе сваімі разьбітымі вуснамі:

«Пане бургамістру, іду ў заклад, што пасьля таго, як я пазбаўлюся сваёй дурной галавы, я здолею прайсьці міма сваёй каманды, як нічога ніякага!»

Бургамістар чырванее. Але ён любіць шоў. Зусім ня менш, чым сучасны добрапрыстойны і законапаслухмяны грамадзянін.

«Што ж ты хочаш атрымаць, калі зробіш нам на пацеху гэткі... куншцюк? — паволі, зь цяжкасьцю хаваючы задавальненьне, пытаецца бургамістар. — Абліць цябе напасьледак півам? Напіхаць у дзірку ад галавы нюрнбэрскіх сардэлек? Ці, можа, ты бабу хочаш — думаеш, галава ў гэтай справе ня мае значэньня, га? Не спадзявайся толькі, што з табою расплацяцца на тым сьвеце! Пакеты ў пекла мы не дасылаем, дый тарыф табе не па зубах. Вось цябе з пацанамі туды выправіць — гэта можна!»

І ён рагоча, задаволены сабой.

Тым часам вестка пра прапанову Штортэбэкера імгненна аблятае ўвесь натоўп. Народ вітае яе дзікім енкам. «А ты не хацела ісьці!» — дакарае жонку нейкі бондар, які ажно дрыжыць ад прадчуваньня Відовішча.

«Дамовімся так, — кажа Штортэбэкер. — Усе тыя мае хлопцы, паўз каго я здолею прайсьці, пакуль не паваліся, будуць адпушчаныя».

Бургамістру займае мову. Ён ліхаманкава спрабуе прыгадаць, што гаворыць на гэты конт навука — і што ведзьмы ды чарнакніжнікі. Урэшце навука перамагае. Бургамістар няўпэўнена сьмяецца і адступае на крок:

«Што ж — згода!»

І дзея пачынаецца. Штортэбэкер кладзе галаву на плаху. Кат з павагай, з адцяжкай, з кароткім дрывасецкім гэкам апускае сякеру. У першае імгненьне здаецца, што ўсё скончана, галава Штортэбэкера закочваецца пад лаўку — але яшчэ праз

сэкунду пірат падымаецца, цяжка, як баксёр з рынгу пасьля накдаўну. Безгаловая постаць рушыць проста на бургамістра, той бляднее. І тады цела Штортэбэкера, нібыта яно мае вочы, разварочваецца, быццам карабель, і шырокім п’яным поступам крочыць уздоўж шэрагу асуджаных.

Адзін.

Другі.

Трэці.

Чацьверты...

Калі Штортэбэкер прамінае адзінаццатага з сваіх таварышаў, бургамістар падыходзіць да яго і ставіць падножку. Пірат падае і больш не ўстае. Натоўп вохае — і потым маўчыць. Доўга-доўга. Быццам гэта ён ня мае галоваў, ня мае ратоў, праз якія можна было выпусьціць увесь свой жах і ўсю роспач.

«Дык... А... Гэтых — таго?» — кажа, запінаючыся і паказваючы на сваіх ахвяраў, кат, і голас яго чуваць ва ўсіх кутках плошчы; усе глядзяць на яго зь нянавісьцю, як на чалавека, які сапсаваў людзям сьвята. А потым горад пачынае крычаць.

«Show must go on!» — лямантуе бондар на нейкай барбарскай мове. «Show must go on!» — крычыць ягоная жонка. А яна і праўда не хацела ісьці...

«Адсячы галовы! Усім! Да адзінага! — крычыць бургамістар. — Закон ёсьць закон!»

І галовы коцяцца, нібы яблыкі.

# Жураўліны крык

*21 кастрычніка 1950*
*Кітай цалкам акупуе Тыбэт*

«Я васьмярых кітайцаў пасек мячом у капусту, пасьля трапіў у палон — а яны мяне адпусьцілі ды яшчэ юаняў далі на дарогу». Гэтыя ўспаміны аднаго тыбэцкага жаўнера (тут ня лішне будзе зьвярнуць увагу на ягоную зброю) любіць прыгадваць кожны, хто лічыць анэксію Тыбэту Кітаем унутранай кітайскай справай — і наагул падзеяй, празь якую ня трэба так ужо пераймацца. Тыбэт спакон веку быў залежны — дык што жахлівага ў тым, што Кітай чарговы раз «вярнуў сабе сваё»?

Гэткая рыторыка — «сабе сваё», «вяртаньне», «узьяднаньне», «спрадвечныя землі» — беларусам знаёмая вельмі добра. А рэпрэсіі... Ну якія там ужо рэпрэсіі? Вядомы загад, дадзены больш чым саракатысячнаму кітайскаму корпусу: мірных жыхароў не чапаць, тыбэцкіх шарагоўцаў адпускаць дахаты. Загад, які не прадугледжваў іншых сцэнароў, апроч перамогі. Бо 7 кастрычніка 1950 году народнае войска Кітаю атакавала Тыбэт адразу з васьмі бакоў. Тыбэтцы наскрэблі каля васьмі тысяч салдатаў, узброеных мячамі, лукамі... ці ў найлепшым выпадку стрэльбамі мінулага стагодзьдзя. Тыбэт прадчуваў пагрозу, цягам дзесяцігодзьдзяў то адзін, то другі лама спрабаваў стварыць сапраўднае войска... Але краіна была асуджаная: 21 кастрычніка Кітай узяў у свае рукі ўладу на ўсёй яе тэрыторыі. Тыбэцкая манархія была скасаваная, а сам таямнічы край, куды паўтара дзясятка гадоў да таго так імкнуліся нямецкія навукоўцы — як цяпер нямецкія турысты на Маёрку — канчаткова «вернуты» ва ўлоньне новай імпэрыі.



Кітай даў тыбэтцам волю, цывілізацыю і дэмакратыю.

За першыя трыццаць гадоў кітаізацыі тут было зруйнавана больш за шэсьць тысяч манастыроў. Больш за мільён тыбэтцаў было забіта за сэпаратызм, контррэвалюцыйныя настроі або проста за неахвоту рабіцца кітайцам.

Жанчынам як грамадзянкам Кітаю было забаронена мець больш за адно дзіця. Кажуць, нязгодныя выпраўляліся на стэрылізацыю.

Усе тыбэтцы былі абавязаныя вучыць кітайскую. Лічыць сябе кітайцамі і забыцца пра ўсіх ламаў ды іншае ламачча старой эпохі.

Дзясяткі тысяч эміградавалі. З унучкай аднаго з гэтых эмігрантаў хадзіла ў садок у Гамбургу дачка аўтара гэтага сьціплага тэксту.

«Дзе б ні жыў, я ўжо ніколі не змагу не тужыць па маім Тыбэце, — пісаў у сваёй знакамітай кнізе аўстрыец Гарэр, які пражыў тут сем гадоў перад нашэсьцем. — Часта мне мрояцца крыкі гусей і жураўлёў, якія лопаюць крыламі, пралятаючы над Лхасай пры сьвятле месяца. Дай Бог, каб напісаная мной кніга дазволіла вам зразумець і палюбіць людзей, што жывуць тут, і чыё адзінае памкненьне — жыць па-свойму, нясьпешна і радасна, у згодзе з усімі — так і не падтрымала абыякавае чалавецтва».

# Маўзалейнай фарбай

*22 кастрычніка 1944 у Менску адкрыўся музэй Вялікай айчыннай вайны*

Музэі не ўзьнікаюць на пустым месцы. То бок тэарэтычна могуць — і цікава было б пахадзіць па такім сабе музэі пустаты, дзе на кожным кроку таблічкі: «Рукамі не дакранацца», дзе нічога настолькі няма, што яго забаронена фатаграфаваць з маланкай, і дзе ў экскурсаводы бяруць толькі сапраўдных пустабрэхаў.

Але ў нашым выпадку ўсё пачалося не з пустаты, а зь некалькіх даволі займальных выставаў.

22 кастрычніка 1942 году ў былым Доме прафсаюзаў на плошчы Свабоды ў Менску адчынілася экспазыцыя пад назвай «Новая Нямеччына». Сэнс яе быў у тым, што подзьвіг нямецкага народу будзе жыць у вяках і наагул: прыяжджай да нас у Рай(х), будзе мір, і труд, і май. І фюрэр, такі малады, абдыме цябе і скажа: дзе ж ты быў, мой вайсрутэне?



Другая адчынілася літаральна праз некалькі тыдняў на Чырвонай плошчы ў Маскве і назву мела амаль што нацыяналістычную, можна нават сказаць — паліцайскую: «Жыве Беларусь». Ну, не зусім так, вядома: «Беларусь жыве, Беларусь змагаецца. Беларусь была і будзе савецкай» — гэткі трохі саманадзейны слоган быў абраны арганізатарамі экспазыцыі, на якой упершыню былі прадэманстраваныя сьвежыя беларускія артэфакты другой сусьветнай. Пры тым, што сама другая сусьветная была далёкая ад заканчэньня і ніхто з наведнікаў неяк не задумваўся, што бачыць перад сабой экспанаты будучага музэю. Зрэшты, пра што ім задумвацца, а пра што не, арганізатары вызначылі дакладна: «Над нашымі гарадамі і вёскамі сьвяціла сонца Сталінскай Канстытуцыі» — так зваўся першы разьдзел маскоўскай выставы.

У 1944-м гэтыя дзьве на першы погляд нічым не зьвязаныя падзеі цудоўным чынам выпхнулі на сцэну трэцюю. 22 кастрычніка таго году ў тым самым менскім Доме прафсаюзаў на тыя самыя паказаныя ня так даўно ў Маскве артэфакты змаглі зірнуць простыя менчукі і госьці амаль ушчэнт разбуранай сталіцы — у гэты дзень у вернутым пад сталінскае сонца горадзе адчыніўся Дзяржаўны музэй Вялікай і вельмі-вельмі Айчыннай вайны.

Кажуць, найбольшы фурор выклікаў разьдзел партызанскай зброі. І ня дзіва: паглядзець на самаробны шмайсэр партызана Цемякова, зроблены з роварнай рамы, каровіных рагоў, бочкі і аскепкаў зьбітага самалёта, хацеў кожны. Як і на танк, змайстраваны народнымі мсьціўцамі-ўмельцамі са звычайнай швейнай машынкі Зынгера і калгаснай снопавязалкі. У іншым аддзеле экспанаваліся ўлёткі, напісаныя чарніцамі, газэты, напісаныя суніцамі, часопісы, выкананыя трускаўкай на сале, і іншыя берасьцяныя граматы. А трэцяга разьдзелу ў музэі не было.

Недзе да 1947 году Менск і сам па сабе быў неблагім ваенным музеем, якую вуліцу ні вазьмі. Падабраныя проста на менскіх вуліцах трафэі можна было разглядзець на выставах,

што ладзіліся проста пад адкрытым небам. Ды ён і цяпер горад-музэй, у якім ня ўсё яшчэ падлічана і ня ўсё схавана пад шкло: то тут бомбу знойдуць, то там снарад... То тут партызана зловяць, то там...

У сучасны будынак музэй пераехаў у 1966-м і, як выглядае, гэта не апошняя для яго зьмена жыхарства. Праўда, ягонага перайменаваньня — у музэй II сусьветнай або Музэй беларускіх партызанаў, здаецца, і далей давядзецца чакаць са сьлязамі на вачах і сівізной на скронях. Вялікая Айчынная — і ўсё тут. Хоць са шмайсэра забіся. Хацелася б памыляцца. Але ў Беларусі музэй — больш чым музэй. Ён муза ідэалёгіі і яе грамадзянскі муж...

Кожны ваенны музэй асуджаны даглядаць у сваіх нетрах маленькую вайну — як мумію ў маўзалеі. Сачыць, каб выглядала прыстойна і не падгнівала дзе ня трэба. Музэй Беларусі патрэбны, словаў няма. А вось маўзалей — наўрад ці.

## Няўдзячныя мадзяры

*23 кастрычніка 1956 пачалося антыкамуністычнае паўстаньне ў Вугоршчыне*

Калі вязьні канцлягеру ўцякаюць, ахова абавязаная страляць.

Прыкладна такое апраўданьне савецкаму ўмяшаньню дагэтуль почасту знаходзяць у Расеі, калі гавораць пра «падзеі 1956 году» ў Вугоршчыне — слова «рэвалюцыя» расейскія гісторыкі баяцца, як акупант ночы ў захопленым горадзе. Ну і наагул: мы іх ад фашызму вызвалілі, а яны...

Няўдзячныя мадзяры! Роля канцлягернай аховы расейскіх змагароў за гістарычную праўду ня надта бянтэжыць. Бо роля гэта звычная і ўжо амаль ганаровая. Урэшце, заўсёды можна давесьці, што вязьні сапраўды былі крымінальнікамі, і таму страляць па іх было можна і трэба, і танкамі давіць таксама. А яшчэ можна зрабіць эфэктную карцінку і паказаць мадзярскую брутальнасьць: яны, гэтыя вашыя рэвалюцыянэры, у тую восень 1956-га партыйцаў цьвікамі прыбівалі да партрэтаў Леніна, а ў рукі ахвярам укладвалі «Капітал», яны агентаў дзяржбясьпекі вызначалі па жоўтых чаравіках і, расстраляўшы, падвешвалі іх за ногі ў гарадзкіх парках, яны адразалі праціўнікам насы, вушы і геніталіі, аблівалі твары кіслатой, яны... Ды якая ж гэта, маўляў, рэвалюцыя?..



Расея апраўдваецца. Расея адраджае веліч і абвяргае міты. Ніхто гэтае вашае так званае паўстаньне ў крыві не тапіў. Падумаеш, дзьве з паловай тысячы забітых, большасьць у выніку ўнутраных вугорскіх разборак. Расея мільёнамі раскідваецца — і нічога, ня скардзіцца. Пра дзьвесьце тысяч вугорцаў, якія ўцяклі з радзімы, можна і ня згадваць. Лепш пашкадаваць бедненькіх савецкіх жаўнераў, якія прышлі зь мірам, а злыя мадзяры падстрэльвалі іх на цёмных вуліцах, як зайцоў.

А Імрэ Надзь наагул быў энкавэдыст і савецкі грамадзянін. А Пал Малетэр фашыст. Так што ніякія яны не героі. Героі — гэта тыя, хто прыяжджае на танку ў чужую краіну і ўсталёўвае там свае парадкі.

І бойню 25 кастрычніка каля будынку парлямэнту ў Будапэшце арганізавалі самі мадзяры. Пастралялі некалькі сотняў сваіх, каб саветы баяліся. А харошыя савецкія салдаты глядзелі на гэта і галовамі хіталі: ай-я-яй, які дзікі народ, трэба яго абараніць і навучыць любові і дысцыпліне.

Так што ніякае гэта не народнае паўстаньне было, кажуць савецкія... не, сучасныя расейскія гісторыкі. Добра арганізаваны з дапамогай заходніх спэцслужбаў пры падтрымцы Радыё Свабодная Эўропа (!) узброены мяцеж.

Прызнаць сябе жандарам і акупантам духу не стае. Нават калі гаворка ідзе пра тое, што ўсе мусілі пра гэта забыць.

Жандар у Вільні. Жандар у Рызе. Жандар у Таліне. Жандар у Будапэшце. Жандар у Бэрліне. Жандар у Празе. Жандар у Варшаве. Жандар у Менску. Усё гэта гучыць, як назвы францускіх фільмаў зь Люі дэ Фюнэсам. Ягоны герой трапляў у недарэчныя сытуацыі — але неяк выблытваўся. А вось расейскі гісторык, які апраўдвае танкі на вуліцах Будапэшту, апынаецца ў тупіку. Як у незнаёмым горадзе, куды яго паслалі аднаўляць сацыялістычную законнасьць. Танк не разварочваецца, іржа праела, шлем на галаве гарыць, як шапка на расейскім злодзеі. Самы час пакінуць машыну і вярнуцца дахаты. Але ж не, гордасьць не дазваляе. Узровень велічы ўпаў да нуля. А яна — як бэнзін, як кроў, як гарэлка, безь яе нікуды.

# Адзін лёд на ўсіх

***24 кастрычніка 1911 экспэдыцыя Скота выпраўляецца да Паўднёвага полюсу***

*«Звонку ніяк ня сьціхне завея. Сумняваюся, каб мы цяпер маглі спадзявацца на шчасьлівы канец. Будзем трываць, але мы ўсё больш слабеем, і сьмерць блізкая. Шкада, але наўрад ці я здолею пісаць далей. Богам прашу, не пакідайце нашыя сем'і».*

Такі запіс пакінуў Робэрт Скот у сваім дзёньніку 29 сакавіка 1912 году. За тонкімі сьценамі намёта ляжала «самае страшнае месца на Зямлі». Самае белае, бялейшае за старонкі, на якіх Скот пісаў гэтыя радкі. Таксама зямля пад белымі крыламі, і крылы гэтыя абяцалі цеплыню і спакой. Навечна.

Новая зямля, Тэра Нова.

Так, па-коласаўску, называліся выправа Скота і драўлянае судна, на якім ён з камандай адплылі ў свой апошні шлях. Ня раз, утомлены дарогай... Толькі вось вясну, якая бялела навокал, убогай ніхто б не назваў. Гэта была раскоша — чыстая раскоша самагубства і ледзяны крышталь вычыну. У імя чаго? Скот і сам ня ведаў. У імя прынцыпу, паводле якога трэба ставіць перад сабой толькі невыканальныя задачы. Толькі так можна давесьці сабе, што жывеш.



Больш за два месяцы перад тым экспэдыцыя Скота, якая ўпарта пасоўвалася ў кірунку Паўднёвага полюсу (да яго было ўжо рукой падаць, або сабачай лапай, усяго нейкая пара дзясяткаў міляў), заўважыла сьляды на сьнезе. Празь некалькі дзён яна нарэшце дасягнула сваёй мэты. Толькі вось не галоўнай: высьветлілася, што на гэтым пупе плянэты сапраўды ўжо пабывалі. Замерзлы нарвэскі сьцяг, таблічка з датай, цыдулка, якая прасіла высакародных канкурэнтаў паведаміць нарвэскаму каралю, што полюс узяты. Пра пачэснае першынство Брытаніі можна было забыць, Амундсэн са сваёй камандай дабраліся да запаветнага месца яшчэ месяц да таго.

Расчараваньне было балючае. Але двубой не спыніўся. Цяпер вялося пра тое, хто першы даставіць сьвету вестку, што непакорлівы полюс прыручаны і просіць пра ашыйнік. На жаль, і тут Скот прайграў.

Гэтая канкурэнцыя сёньня падаецца пазбаўленай сэнсу: ну якая розьніца, хто першы паглядзеў на полюс і чые крокі ўпершыню прарыпелі па ягоным сьнезе? Але некалі стаўленьне да такіх рэчаў было іншым: быць першапраходцам значыла быць паэтам, а манархі ўсё яшчэ раўніва сачылі за тым, дзе ўторкнуты іхны сьцяг.

Неўзабаве гэтая рэўнасьць давядзе сьвет да вялікай вайны, і капітан Скот абавязкова зрабіўся б на ёй героем — ён любіў свайго караля. Ды там, на полюсе, вялася іншая вайна. З самімі сабой — створанымі для паслушэнства, утульнасьці, гарачай ежы і цёплых дамоў, ранішняй «Таймс» і духмянай цыгары. Той, хто рабіў нас, не ўлічваў лёду. І толькі лёд улічыў усё.

# Рэвалюцыя зьнізу

***25 кастрычніка 1919 нарадзілася Бэатэ Узэ, заснавальніца сэкс-шопінгу***

Кіндэр, кюхе, кірхе. Яна расла ў часы, калі ад жанчыны патрабавалася не пакідаць гэты зачараваны трохкутнік і пачувацца пры гэтым шчасьлівай. А ёй, звар'яцелай Еве, заўжды хацелася зрабіць штосьці гэтакае. Сунуць галаву ў мёртвую пятлю, каб адчуць, што яна, Бэатэ Узэ, насамрэч жыве.

Напрыклад, яшчэ падлеткам скочыць з даху бацькоўскага дома, прывязаўшы да рук крылы — Ікар у спадніцы замест парашута. Таго, што там, пад спадніцай, яна не саромелася, яна ўжо дзіцём любіла і ведала сваё цела: бацькі Бэатэ лічылі, што гэта важна — і час паказаў, што не памыляліся. Учынак за ўчынкам яна сьцьвярджала сваё права на адрэналін. Атрымала ліцэнзію пілёта, скончыўшы перад гэтым курсы хатніх гаспадыняў. Лётала пад варожымі кулямі, лавіруючы між анёлаў. Вывезла на перагружаным самалёце сына і параненых салдатаў з абложанага Чырвоным войскам Бэрліну. Перамагла рак...



Ну, і адчыніла першы ў сьвеце сэкс-шоп. Удзячнае чалавецтва магло забыць усе подзьвігі, але толькі ня гэты.

Праўда, называлася тая пікантная ўстанова, якая зьявілася ў цэнтры Фленсбургу ў 1962 годзе, цалкам прыстойна, нават з мэдычным ухілам: «Спэцыялізаваная крама гігіены шлюбу». Гэта потым сэкс-шопы пачнуць называць пошла, нейкія клубніцы з гнільцой і цукрам, а ня крамы — а тады трэба было быць асьцярожным і пасьлядоўным. Яна адчынілася перад самымі Калядамі — так было прасьцей перажыць першую хвалю абурэньня, якая не прымусіла сябе чакаць.

«Дапаможнікі для распусьнікаў», «па-сьвінячаму брудны зьмест» — такімі эпітэтамі ўзнагароджвалася яе друкаваная прадукцыя, дзе вялося пра сэкс, добры сэкс, яшчэ лепшы сэкс, цудоўны сэкс і нічога апрача сэксу. Дзе наўпрост гаварылася, што сэкс мае значэньне. «Супрацьнатуральныя, брыдкія рэчы для падагрэву і задаволеньня сэксуальнага ўзбуджэньня, накіраваныя супраць традыцый добрапрыстойнасьці» — так мудрагеліста называлася ў паліцэйскіх тое, што цяпер можна набыць у любым горадзе. Нават у Менску. А савецкі чалавек спаў і думаў, што ў іх там свабода...

# Казкі з памылкамі

*26 кастрычніка 1822 Ганс Хрыстыян Андэрсэн ва ўзросьце 17 гадоў пайшоў у школу*

«Ку-ку, ку-ку, ку-ку!»

Ганс Хрыстыян Андэрсэн, вялікі дацкі паэт,

— зьдзекуецца з «калгасьнікаў»-датчанаў пэрсанаж сэрыялу «Каралеўства» фон Трыера, з нацыянальнасьці швэд, якому агіднае ўсё дацкае.

Зь яго, Андэрсэна, досыць насьмяяліся яшчэ пры жыцьці. З доўгага носа і рук да каленяў. Са звычкі гаварыць самому з сабой. Калі Ганс Хрыстыян і расказваў нешта аднагодкам, дык пра тое, што ён гуляе ў ножыкі з самім прынцам Дацкім (ня Гамлетам, а будучым каралём Фрэдэрыкам). «Бедны Ёрык», — рагаталі з фальшывай спагадай дарослыя. Ён прыдумляў гісторыі, калі іншыя былі занятыя пошукам кавалка хлеба. Баяўся хадзіць у школу, бо там лупяць па пальцах і мяккіх месцах — ануча, сьмяяліся суседзі: ну якая школа без аплявухаў, бізуноў і каршнёў. Гэта ж азы пэдагогікі! Думаеш, Андэрсэн, праз сто гадоў у школах біць ня будуць?

«Думаю, не», — адказваў хлопец, апусьціўшы галаву.

І зноў: га-га-га.



Маці запісала яго ў яўрэйскую школу — там ня білі, рэлігія не дазваляла. Але і вучылі не зусім таму, што патрабавалася для сьвецкага выхаваньня сапраўднага датчаніна. Кажуць, у сапраўдную школу Андэрсэн наважыўся пайсьці толькі ў сямнаццаць гадоў: позьняй восеньню, калі ў Даніі гуляе па выспах такі фанабэрысты вецер, а ў гарадах, як у ступах, кожны дзень пачынаючы ад надвячорка блізкае мора таўчэ густы туман, 26 кастрычніка 1822 году ён запісаўся ў самую сапраўдную школу. Біць яго ўжо ніхто ня мог — аднаклясьнікам было па адзінаццаць-дванаццаць гадоў, і Андэрсэн быў на некалькі галоваў вышэйшы за самага высокага зь іх.

Пісаць ён ужо ўмеў — з памылкамі, як і трэба сапраўднаму пісьменьніку зь нізоў. Калі ён зробіцца пісьменным, зь яго нешта можа і атрымацца, верыў Андэрсэн. Верыў толькі ён сам — пайсьці ў школу ў сямнаццаць і цяпер лічыцца прыкметай хутчэй разумовай адсталасьці, чым вялікага таленту. І зноў зь яго сьмяяліся — адкрыта і з асалодай. Можа, таму ён так ніколі ня жэніцца і ня будзе мець дзяцей. Будзе баяцца сьмеху. Любы, хто пабач, умее гэта: расьцягнуць вусны ў брыдкай грымасе, агаліць зубы, напусьціць на твар злавеснае павуціньне зморшчын. Ён ня ўмеў сьмяяцца так шчыра, як яны. З слабасьці, мяккасьці, фантазіі, любові. Занадта позна пайшоў у школу.

Граматна пісаць ён так і не навучыўся. Ку-ку, ку-ку, ку-ку... А што, калі сямнаццаць — і праўда найлепшы ўзрост для таго, каб пачынаць вучыцца? Што, калі ўсе чалавечыя праблемы — праз тое, што яго, чалавека, дзяцінства канчаецца занадта рана?.. Праз тое, што яго вучаць сьмяяцца не з таго, з чаго варта — і адвучваюць плакаць. Дзесяцігадовыя матэматыкі, адзінаццацігадовыя філёзафы, дванаццацігадовыя чытачы літаратуры — што яны могуць зразумець у рэчах, зь якіх так хітра і складана пабудаваны сьвет? Калі б казка заставалася з чалавекам даўжэй — мо рэальнасьць не падавалася б яму такой мярзотнай і вартай зьнішчэньня: не цяпер, дык пасьля школы, не сваім імем, дык імем дзяржавы, якой няма справы да страхаў велічынёю ў цалю.

# Белая нядзеля

*27 кастрычніка 1962 «Чорная субота», сьвет стаяў на парозе ядзернай вайны*

27 кастрычніка 1962 году над Кубаю разгуляўся шторм. З стратасфэры ён выглядаў, як вялізнае вока, якое вырачылася ў космас і, здавалася, злавесна падміргвала бязьмежнай пустаце і холаду: маўляў, усе там будзем. І вельмі хутка.

Штарміла ня толькі над Кубай. Трэсла ўсю сусьветную палітычную сыстэму. Сьвет адчуў сябе раптам папяровым карабельчыкам, які трапіў у пральную машыну. Карыбскі крызіс, Хрушчоў і Кенэдзі з боегалоўкамі замест галоваў, ракеты, Кастра, падводныя лодкі, і зноў Хрушчоў, і зноў Кенэдзі... Такой была мова таго кастрычніка, зразумелая ўсім незалежна ад нацыянальнасьці. Але і ў гэтым хрушчоўска-кенэдзевым сьвеце былі куточкі, дзе жыцьцё ішло сваім чарадом і не зьбіралася спыняцца праз нейкія там Карыбы. Напрыклад, менавіта ў гэты дзень Савет міністраў БССР выдаў пастанову № 606 «Пра далейшае павелічэньне вырабу галянтарэйных тавараў і забесьпячэньні лёгкай прамысловасьці фурнітурай і аздабленчымі матэрыяламі». Насельніцтва хацела міру і фурнітуры, насельніцтва хацела жыць далей і зусім не зьбіралася гінуць праз нейкую там Кубу-любоў маю.



І фурнітура і мір перамаглі.

А ўсё магло выйсьці інакш. Увечары таго дня, які пазьней назавуць чорнай суботай, у штармавым небе над Кубай засеклі амэрыканскі самалёт U-2. Пасьля працяглай варажбы на штабных рамонках нехта зь ня самых высокіх савецкіх чыноў ня вытрымаў і аддаў загад зьбіць парушальніка. Пілёт маёр Андэрсан стаўся адзіным забітым на гэтай так і не абвешчанай вайне, а яго машына — галоўным экспанатам гаванскага Музэю рэвалюцыі. Пасьля такога разьвіцьця падзей ні ў кога не засталося сумненьняў, што ядзерная вайна пачнецца ўжо сёньня. Жывыя падрыхтаваліся зайздросьціць мёртвым, выконваючы волю партыі і ўраду. У ЗША падлічылі, што савецкія ракеты могуць адным махам зьнішчыць восемдзесят мільёнаў амэрыканцаў. У СССР падлічвалі, колькі застанецца рабоў і ці змогуць яны пракарміць тых, для каго было падрыхтаванае бамбасховішча. Але саступаць не хацеў ніхто. Ёсьць рэчы важнейшыя за чалавека. Міжнародны прэстыж, напрыклад. Парытэт, зь якога ўпасьці лёгка, як з парапэта.

Пра тое, што ў іх ёсьць розум, палітыкі чамусьці прыгадваюць у апошні момант. Эліта нацыі, што паробіш. Загнаная ў кут, гісторыя сьведчыць, што ім трэба часьцей пра гэта нагадваць: тыкаць пальцам, тварам, носам... Біць па руках. І, калі ня слухаюцца, пазбаўляць салодкага і цацак.

А то ж ніяк не нагуляюцца. І пальцы вечна ў чымсьці ліпучым. Добра, калі не ў крыві.

# Людзі з паветра

*28 кастрычніка 1929 у Амэрыцы ўпершыню ў гісторыі дзіця нарадзілася ў самалёце*

У 1929 годзе людзей нарадзілася нямала, а харошых людзей яшчэ болей. А знакамітасьцяў колькі!.. Одры Хэпбэрн ды Людміла Зыкіна, Яўген Глебаў ды Арыяна Фалачы, Імэльда Маркас ды Мілан Кундэра, Арлен Кашкурэвіч ды Норбэрт Рандаў...

Зь імі ня тое што ў адной чарзе — пад адной вокладкай было б ня сорамна.

Дзяўчынка з прозьвішчам Эванс у кіно не здымалася і невыноснай лёгкасьці быцьця не адчувала. Мала таго, яна не зрабілася аўтарам балету «Альпійская баляда» і так і не прасьпявала пра аранбурскія пуховыя хусткі. У гісторыю яна ўвайшла праз іншыя дзьверы. Дакладней, уляцела.

Рэч у тым, што ёй было наканавана зрабіцца першым чалавечым дзіцём, якое нарадзілася ў самалёце. Адбылося гэта 28 кастрычніка 1929 году ў небе над Маямі. Існуе, вядома, верагоднасьць, што гэта ўсё амэрыканцы прыдумалі, каб лішні раз падкрэсьліць сваё першынство скрозь дзе толькі можна — нават у дзетанараджэньні на бартах лятаючых сродкаў; цалкам магчыма, што і да бацькоў міс Эванс людзі почасту займаліся тым, што рабілі дзяцей і давалі ім жыцьцё на мулкіх сядзеньнях аэрапляна ў, у гондалах дырыжабляў і кошыках паветраных шароў — але, на жаль, выключна амэрыканцы дадумаліся фіксаваць свае дасягненьні дакумэнтальна.



Міс Эванс зрабілася свайго кшталту родапачынальніцай цэлай чарады авіядзетак: з таго часу сотні малых ва ўсім сьвеце спрабавалі сваім першым крыкам заглушыць шум матораў і зрыгнуць на стуардэсу. Людзі ставяцца да гэтага па-рознаму. Нядаўні выпадак, калі дзяўчынка нарадзілася ў самалёце, які пралятаў на Харкавам, засьведчыў, што бараны-пасажыры ніяк ня могуць звыкнуцца з такімі родамі. «Нармальныя людзі ў самалётах не нараджаюць! Я б наагул цяжарных у самалёты не пускаў!» — пішуць абураныя камэнтатары. Якіх, відаць, нарадзілі на роварнай раме. Вось яны цяпер і зайздросьцяць...

# Храмы і турмы Гуляйполіса

*29 кастрычніка 1888 нарадзіўся Нестар Махно*

Нестар Махно — гіпнатычная ікона анархізму (вядома, у ягоным практычным варыянце, далёкім ад кабінэтных тэорый, якія ні на адну тачанку ня зьмесьцяцца, коні не павязуць). І ён жа — найлепшае яго абвяржэньне. Бо — бяз бацькі нікуды, хай сам бацька з гэтым і ня згодны. Уладу ён меў — ды яшчэ якую... Калі не імпэратар — дык гетман з Троцкім яму дакладна зайздросьцілі.

Але найперш Махно — пэрсанаж. Які, згодна з пасьмяротнай воляй аўтара, памёр у 1921 недзе на румынскай мяжы — і які, падобна ўсім пасьпяхова створаным пэрсанажам, жыве дагэтуль. Сьмерць расейскага эмігранта пад імем Nestor Makhno і яго пахаваньне на Пэр-Ляшэз у Парыжы падзеяй не зрабілася. Мяняць міты на праўду не хацеў ніхто.

Вялікая Савецкая энцыкляпэдыя сьцьвярджае, што нарадзіўся Нестар Іванавіч 29 кастрычніка (паводле новага стылю) 1888 году ў Гуляйполі. І хай Махно і ягонае войска заклікалі ні ў чым ня верыць бальшавікам, здраднікам сялянскага вызваленьня — тут, напэўна, паверыць можна. Як і наагул у праўдзівасьць фактаў яго жыцьця да 1918-га — калі Махно пачаў узброеную барацьбу. Не за Леніна і не за Троцкага, не за пралетарыят і не за камунізм, не за нацыю і не за клясы. Проста — за волю. Ён ведаў, што гэта такое. Паплечнікі — толькі здагадваліся. Але ўсе, улучна з ворагамі, разумелі: волі без крыві не бывае.



Вось кніжка, выдадзеная ў Парыжы некалькі дзесяцігодзьдзяў таму. У ёй успаміны, артыкулы, ліставаньне Махно ў 20-х—пачатку 30-х — адчайная спроба іх аўтара расказаць праўду пра сваё безнадзейнае змаганьне. Быццам ён прадчуваў, што і амаль праз сто гадоў ягонае імя будуць акружаць сумневы, домыслы і зусім не патрэбныя яму арэолы і аўры, у якія апрануў тысячы добрых людзей стрэл недарэчнай «Аўроры».

Ён ня быў бандытам. Бандыт не ваюе за ідэю. Махно пакінуў Украіну, ня маючы аніякіх ашчаджэньняў і рахункаў у швэйцарскіх банках, ён не нажываўся — ён нажываў: ворагаў і прыхільнікаў, у залежнасьці ад пасьлядоўнасьці сваіх дзеяньняў.

Ён ня быў ні цёмным мужыком, ні «пенай на хвалі перабудовы». Інтэлектуалам яго, вядома, назваць цяжка — але адукацыі ён меў дастаткова, каб убіраць у сябе ідэі, а не прымазвацца да іхных ільсьністых целаў. У турме ён атрымаў тэарэтычную загартоўку, якой ня меў ніводзін зь сялянскіх камандзіраў. А апрача таго, прачытаў столькі расейскай клясыкі, што яго баяліся нават школьныя настаўнікі.

Іншая рэч — чаму вучыла расейская клясыка. А вучыла яна разумнаму, добраму, вечнаму. Так і не давёўшы, што гэта такое: розум, дабро і вечнасьць. Расейская літаратура ўсё заблытала. Талстой з кулямётам — такі самы небясьпечны, як і Анка.

Ён ня быў антысэмітам. У сваіх успамінах ён прыгадвае, як вучыў людзей, што анархія — для ўсіх, незалежна ад нацыянальнасьці, ён з гордасьцю расказвае пра сваю яўрэйскую батарэю, пра бязьлітаснае пакараньне кожнага пагромніка і юдафоба. І, з асаблівым задавальненьнем — пра свой суд над часовым стратэгічным хаўрусьнікам, атаманам Грыгор'евым.

*«...20 ліпеня мы прыехалі ў сяло Сентава. Тут мы засьпелі разгромленымі сялянскую патрэбілаўку і малую яўрэйскую крамку. Гаспадыня, яўрэйка, была забітая, і труп яе валяўся побач... На той час намі ўжо было высьветлена, што... Грыгор'еў за дзень да свайго ўступленьня ў нейкае сяло пасылае туды атрад з загадам абрабаваць і перабіць яўрэяў... 27 ліпеня Грыгор'еў быў абвешчаны мной на плошчы гэтага сяла дзянікінскім агентам і пагромнікам, а праз некалькі хвілін расстраляны...»*

Стылю тут асаблівага няма. Махно ня быў пісьменьнікам. Ён быў фанатыкам ідэі, і ідэя зьнішчыла яго. Зьела, як сухоты. Гуляйполісу ў яго ня выйшла, як і Ленінграду ў бальшавікоў. А Парыж вось стаіць дагэтуль — і з уздыхам глядзіць на сваіх бесталковых анархістаў. Нашчадкаў няўрымсьлівага Нестара.

## Хто сьмяецца з апошніх

***30 кастрычніка 1937 у Менску расстраляна больш за 100 прадстаўнікоў беларускай інтэлектуальнай эліты***

Гэтай далёкай ночы беларусам не абмінуць — нават калі панаставіць паўсюль лямпадак вечнага адраджэньня, запаліць у кожным з пакояў памяці па лямпачцы «Белсьвятло» і ўключыць над галавой самыя моцныя пражэктары, здольныя ўвадначасьсе стварыць ілюзію раніцы і росквіту. У пэўным сэнсе яна, тая ноч, працягваецца дагэтуль, і цяперашнія цёмныя часы — яе рэха, яе даляцелы да нас згустак змроку. Гэтая ноч прыгадваецца кожнага разу, калі цябе точыць чарвяк паразы, калі навакольнае паскудзтва падступае да самых дзьвярэй.

Ня здарылася б гэтай кастрычніцкай ночы — цяпер усё магло б быць інакш. З мовай, зь літаратурай, са сьвядомасьцю і падсьвядомасьцю, з памяцьцю — нават з клятым кніжным рынкам, у адсутнасьць якога даўно ўпіраюцца ўсе размовы пра беларускае кнігавыданьне. Магчыма, нават твары ў беларусаў былі б іншыя. І пагляды. І выразы вуснаў. І ўзровень пакоры ў патыліцах.



Мы ўсе былі б цяпер іншыя, пісалі б інакш, інакш чыталі б і гаварылі — і крыху іншай была б краіна.

Са ста трох чалавек, прадстаўнікоў беларускай інтэлектуальнай эліты, асуджаных да сьмерці, у тую ноч была расстраляная большасьць. На другі дзень расстралялі яшчэ больш за трыццаць чалавек. Усяго тая восень зрабілася апошняй для шасьцісот дзеячоў. Паводле Леаніда Маракова, было рэпрэсавана 90 адсоткаў літаратараў, кожны трэці настаўнік, амаль кожны сьвятар і кіраўнік буйнога прадпрыемства.

Міхась Чарот, Тодар Кляшторны, Алесь Дудар, Ізі Харык, Юрка Лявонны, Міхась Зарэцкі, Платон Галавач, Юлі Таўбін, Янка Нёманскі, Валеры Маракоў, Масей Кульбак — і дзясяткі іншых. Людзям, якія сьмяюцца з убоства беларускай літаратуры, варта было б пазнаёміцца з гэтымі імёнамі і з гэтымі біяграфіямі — а там, можа, і ржаць расхочацца. Глебка ды Броўка — гэта вынік, а не прычына.

Сёньня ў Беларусі зноў адзначаць Дзень камсамолу. Мо і бяз помпы, але зноў будзе «празьнік». Акурат у той дзень адзначаць, калі мы, колішнія камсамольцы, прыгадаем самую страшную ноч у гісторыі беларускай культуры. Наўрад ці гэта простае супадзеньне. А яны і ня ўспомняць, яны нічога ня ведаюць і ведаць ня хочуць ні пра якія ночы. І ня бачаць ніякай сувязі. Пры чым тут камсамол, скажуць самыя дасьведчаныя — даносы рабілі самі дзеячы. Стучалі адзін на аднаго як апантаныя.

Рытарычныя пытаньні тут сапраўды недарэчы. Некаторыя любяць патэтычна ўсклікнуць: за што іх, нашую эліту, безь ніякае правіны? Таксама любяць згадаць пра сфабрыкаванасьць справаў. А яны, расстраляныя ў тую ноч, і праўда былі вінаватыя. У тым, што думалі. У тым, што былі беларусамі. Сумяшчаць гэта з даўніх часоў ня модна і рызыкоўна для жыцьця.

Эліты былі зьнішчаныя. Ім на зьмену прыйшлі прыстасаванцы і канфармісты. Тыя, у каго страх быў ужо ў клетках. Хто душыў здольнасьць думаць адным элегантным рухам задніцы. Ім і давялося ствараць новую культуру. Наступствы адчуваюцца ва ўсім. Слугі і лёкаі не ствараюць мастацтва.

Калі ў дзевяностых наракалі на тое, што беларуская культура нецікавая, калгасная, што адстаем, што не ўрубаемся, што неактуальныя; калі акадэмікамі дагэтуль завуцца людзі, якія два словы зьвязаць ня могуць; калі начальнікі розных узроўняў сінеюць і лопаюцца ад любога, нават найменшага інтэлектуальнага намаганьня; калі крытыкі ў незалежных выданьнях брэшуць і пырскаюць сьлінай, падпісваючы прысуды аўтарам і патрабуючы цэнзураваць, забараняць, затыкаць, а лепш вешаць на асіне тых, хто ім не даспадобы — гэта ўсё тая ноч рагоча нам у сьпіну.

І гэта выклік. Хто маладзейшы, той яго прымае. Здаецца, лепш за ўсіх пра тую ноч напісаў паэт Антон Рудак.

*«...колькі было нас? сотні, ці, можа, тысячы,*
*зьнішчылі голас, з памяці сьцерлі аблічча,*
*творы імёны — а засталіся лічаныя:*
*купала, колас і паўтара ананімшчыка.*

*згадвайце часам нас на дзяды і на радаўніцу —*
*усіх, хто замоўк назаўжды маладым літаратарам,*
*празаікаў і паэтаў, крытыкаў, перакладчыкаў —*
*прывет вам у вашае гета з нашае вязьніцы.*

*працягвайце нас раманамі, п'есамі, вершамі,*
*пішыце замест, усім дакажыце — вы лепшыя,*
*усё, што на допытах з нас ня вырвалі сьледчыя —*
*аднойчы мы станем даваць праўдзівыя сьведчаньні.*

*аднойчы мы станем даваць праўдзівыя сьведчаньні».*

# Як цьвік у дрэва

*31 кастрычніка 1517 каля 12.00 Лютэр вывешвае свае 95 тэзаў*

Магчыма, сьвет ніколі не даведаўся б пра Марціна Лютэра, калі б не чалавек, якога звалі Тэцэль.

Увішны дамініканец Тэцэль зьявіўся на Ляйпцыгшчыне ўвесну 1517 году і адразу ж разгарнуў тут свой маленькі бізнэс, які вельмі хутка зрабіўся для яго залатой жылай: тым, што яшчэ нікому не замінала ў квашаніне, зваранай з залатога цяляці. Ён прадаваў індульгенцыі — як андулясьён на даму рабіў: дзесяць талераў за забойства таты і мамы, сем — за забойства кагосьці іншага, не такога горача любімага, дзевяць — за сьвятататцтва, пяцёрка — за крадзеж. Плаціш — і турпаездка ў пекла адмяняецца. Чарга да Тэцэля была, як да Леніна ў маўзалеі.

Багаслоў і выкладчык унівэрсытэту ў Вітэнбэргу, які часта выступаў з казаньнямі ў мясцовай царкве, Марцін Лютэр, пачуўшы пра посьпехі Тэцэля, быў разьюшаны не на жарт. Кожны дзень ён даведваўся пра новыя перамяшчэньні дамініканца і пра новыя статкі кліентаў, якіх даіў спрытнюга Тэцэль — і толькі бясьсільна сьціскаў тоўстыя кулакі. Што ён мог зрабіць? Лютэр паскардзіўся арцыбіскупу — той параіў ня лезьці не ў сваю справу. «Цалейшы будзеш, браце Марцін!» Арцыбіскуп сам быў у долі.

Улетку Тэцэля пабачылі за чатыры мілі ад Вітэнбэргу, у Югербоку. «Такі мілы манашак, — сарамліва апускалі вочы жанчыны, расказваючы Лютэру пра сваё знаёмства з Тэцэлем. — І ў яго так танна! Мы купілі індульгенцыю для нас з Гансам, а таксама для Кляры, Ляўры, Лёры, Лярэнцы, Леапольда і Грэтхен з Гэнзэлем! Цяпер можна спакойна адправіць Гансаву матулю на той сьвет — так ужо яна нам абрыдла!»



Ісьці на канфрантацыю Лютэр, зрэшты, да пары баяўся. «Я быў адзін, — прыгадваў ён пасьля. — Толькі мая неасьцярожнасьць зацягнула мяне ў гэты вір. Я багоміў Папу ад чыстага сэрца, хто я быў тады? Нікчэмны манах, хутчэй труп, чым жывое цела!»

Але вось падчас нейкага казаньня ягоная, Лютэрава паства, заяўляе яму, багаслову, што індульгенцыя — гэта добра, гэта для народу, гэта Папа так пра просты люд клапоціцца, вось бы яшчэ і пэнсіі павялічыў! — і што ніхто зь Лютэравых парафіянаў не раскайваецца ў сваёй пакупцы. А пакупкі ў Тэцэля, як высьветлілася, зрабілі амаль усе. Толькі адзін мясьнік не пасьпеў — сказаў, што якраз едзе ў Бэрлін і спадзяецца набыць тым індульгенцыі на перадкалядным распродажы.

31 кастрычніка 1517 году Лютэр ідзе да брамы Вітэнбэрскай царквы і прыбівае да яе свае 95 тэзісаў. Гэта не было нейкім пэрформансам і само па сабе выкліку нікому ня кідала: звычайны спосаб запрасіць апанэнтаў на багаслоўскі дыспут. «Калі б Папа ведаў, чым абярнулася яго ідэя з індульгенцыямі, ён бы лепш дазволіў Сабору сьвятога Пятра згарэць... » Назаўтра ў гэтую царкву мелася прыехаць куча высокапастаўленых асобаў у спадзеве на зьніжкі пры адпушчэньні грахоў — Лютэр ведаў, як зрабіць так, каб яго прачытала ўся Саксонія.

Тук-тук-тук. Цьвік уваходзіць у дрэва не адразу, але надзейна — як слова. Так і пачалася гэтая рэвалюцыя, якая зрабіла Эўропу іншай, падзяліла князёў і каралёў, конюхаў і салдатаў, сялянаў і сьвятароў, перакроіла межы і розумы і абудзіла падзаснулую веру, якая зрабіла Лютэра літаратарам, а яшчэ — першым у сьвеце пісьменьнікам па праграме Writer in Exile: хаваючыся ў вартбурскім замку саксонскага курфюрста, Лютэр уначы размаўляе з д'яблам, а ўдзень перакладае Біблію. «Я зусім не хацеў сварыцца з Папам, — кажа ён курфюрсту. — Але гэты прадавец індульгенцый... Ненавіджу такіх дзялкоў! Ахвотна прыбіў бы да брамы ў Вітэнбэргу дзевяноста пяць тэцэляў замест дзевяноста пяці тэзісаў. Толькі позна. Яны мяне ўжо не паслухаюць...»

# Крышталь ведаў, алмаз маўчаў

*1 лістапада 2002 пачата будаўніцтва Нацыянальнай Бібліятэкі ў Менску*

А ў гэтым горадзе шмат што зьмянілася...

Вось, напрыклад, стаўленьне да беларускага помніка брацкаму марсіянскаму народу, якім, без сумневу, ёсьць будынак Нацыянальнай бібліятэкі. Здаецца, менчукі зь ёй зьмірыліся і нечалавечым намаганьнем волі прымусілі сябе яе палюбіць. Рэдка ад каго цяпер пачуеш пра чупа-чупс і пра дай бог памяці якое там месца ў сьпісе самых выродлівых пабудоваў сьвету; неяк лёгка і нязмушана забылася бессаромнае дзяржаўнае вымаганьне грошай у насельніцтва, калі ніхто не пытаўся, ці няма ў цябе алергіі на ромбакубактаэдры — вынь ды пакладзі на народную справу.

Аўтар гэтых радкоў, зрэшты, у той час ні шэлега ня здаў на бібліятэку, не таму, што не спачувае дзецям Германіі, а проста так, з пратэсту — і яму нічога за гэта не было. Іншыя здавалі — і цяпер могуць з поўным правам пазіраць на такіх, як аўтар, зь нетраў свайго дыямэнта, з вышыні сямідзесяці трох мэтраў і з пачуцьцём унутранай перавагі. Усё адно чалавеку, якому закарціць раптам прачытаць усе кнігі галоўнай беларускай бібліятэкі, нават калі ён здолее чытаць па кнізе ў гадзіну, спатрэбіцца, кажуць, 1255 гадоў. Людзі столькі не жывуць. Будынкі часам могуць.



Забыліся, сьцішыліся размовы пра тое, што яна ня сёньня, дык заўтра «патоне, патоне, патоне ў балоце» — і таму яе падмарожваюць зьнізу. Пра тое, што яна парушае гармонію гарадзкога аблічча — на фоне абсалютна вар'яцкай эклектыкі, якая цяпер пануе ў Менску, Нацыянальная бібліятэка ўжо нічога ня можа парушыць, бо не засталося што парушаць.

Яна магла выглядаць зусім па-іншаму — і дражнілі б яе зусім інакш. Магла мець форму разгорнутай кнігі, падковы на шчасьце, злавеснага бабілёнскага зікурата, чаркі аглаблёвай... Былі ў канцы васьмідзясятых гадоў мінулага стагодзьдзя — калі зрабілася ясна, што ня толькі Леніну, але і «ленінцы» прыходзіць канец — і такія праекты.

Толькі былі б яны рэалізаваныя, ніхто б да іх замежных гасьцей не вазіў... Не зьявілася б цудоўных футболак з профілем гордага алмаза і надпісам «How to get to the library?», па якіх ва ўсім сьвеце можна пазнаць чалавека, які быў тут, мёд-піва піў і бачыў тую library на ўласныя вочы. Калі яна ўсё-ткі паваліцца і пакаціцца па праспэкце, падмінаючы пад сябе картачныя дамкі менскага баў-буму і багатыя картэжы, яе будзе шкада. Хаця і ня так, як суседні Маскоўскі аўтавакзал.

# Сны іншых

*2 лістапада 1975 загінуў П’ер Паола Пазаліні*

Уначы 2 лістапада 1975 году на пляжы ў Остыі недалёка ад Рыму быў знойдзены труп кінарэжысэра, паэта і сцэнарыста П’ера Паола Пазаліні. Месца было добра знаёмае забітаму — менавіта тут некалькі гадоў перад тым ён здымаў свае «Кентэрбэрыйскія аповеды». А ў тым, што Пазаліні быў забіты, ніхто не сумняваўся: цяжка паверыць, што чалавек, які ляжыць у лужыне крыві з вырванымі вушамі, зламанай рукой, дзесяцьцю перабітымі рэбрамі, праломленай сківіцай і расьціснутым сэрцам, чалавек, па якім некалькі разоў праехалі на ягонай уласнай машыне, «Альфа Рамэа 2000», зладзіў сам сабе гэтую оргію суіцыду.

Сьледзтва высьветліла, што напярэдадні ўвечары Пазаліні дамовіўся павячэраць зь сябрам, а потым нечакана сарваўся зь месца і зьнік у невядомым накірунку. Пазьней іншы прыяцель рэжысэра распавядзе, што прычына была ў скрадзеным матэрыяле для фільму «Сало, або 120 дзён Садому» — Пазаліні намякнулі, што гатовыя яго вярнуць, і такім чынам зазабілі ўначы ў Остыю. Далей паліцыя не прасунулася — дый, здаецца, не асабліва хацела. Забіты, на яе думку, быў птушкай невысокага палёту — і ляцела гэтая птушка кудысьці не туды.



Яго ненавідзелі і правыя, і левыя... Разам з ультраправымі і ультралевымі. Яго ненавідзела дзяржава. Яго ненавідзела крытыка. Яго ненавідзелі буржуа. Яго ненавідзела мафія. Добры прыклад для мастака — што шчаняці, што мацёрага ваўка. Правыя лічылі яго брыдкім камунякам, левыя — здраднікам і геданістам, дзяржава — небясьпечным марксістам і вар’ятам... Яшчэ з часоў яго маладосьці ён ня мог трапіць ні ў водзін з тых шэрагаў, у якія мусяць шыхтавацца людзі, каб пачувацца шчасьлівымі і абароненымі. Аднойчы вучні школы, дзе выкладаў малады Пазаліні, знайшлі свайго настаўніка ў лесе: мастурбуючы, ён пісаў на фрыўлянскай мове дзіўныя вершы — хіба мог такі чалавек здымаць кіно для нечай забавы, хіба мог нехта чакаць ад яго, што ён зробіць кар’еру?

Пасьля таго, як грамадзтва даведалася пра яго сьмерць, у Італіі надышла нейкая ўхвальная цішыня. Пазаліні ўсіх дастаў. Ён перайшоў мяжу, на якой канчаецца мастацтва. Яго трэба было спыніць. Сябры літаральна прымусілі суворых левакоў успомніць, што некалі «гэты гомік» Пазаліні быў зь імі — і прыйсьці правесьці яго ў апошні шлях.

Пазаліні — гэта выказаныя на экране забароненыя сны, што сьняцца іншым, правільным рэжысэрам, сны, пра якія іншыя не гавораць уголас. А ён вось сказаў. Каб даглядзець «Сало...» да канца, патрэбныя моцныя нэрвы. Каб здымацца ў такім, лепш быць не акторам, а расьлінай. Каб зьняць такое, трэба мець у сваім сэрцы мэтастазы мастацтва, мэтастазы замест мэтафар.

Хто забіў Пазаліні — у Італіі дагэтуль ня могуць разабрацца. Адзін «нібыта забойца» адседзеў, называюць то другога, то трэцяга — і правасудзьдзю з кожным разам усё менш веры. Сярод тых, хто быў блізка знаёмы з Пазаліні, ёсьць людзі, перакананыя, што гэта было самагубства. Забойства, арганізаванае ахвярай. Яго апошні фільм — мастацтва, даведзенае да лягічнага канца, крывавы трыюмф чортавай гармоніі.

# Знак бяды

***3 лістапада 1906 сыгнал SOS прызнаецца міжнародным сыгналам просьбы аб дапамозе***

«Dididit dahdahdah dididit». Вось яна, мёртвая мова катастрофы. Такіпона бяды, на якую цягам амаль стагодзьдзя пасьпешліва перакладаліся хвалі велічынёй у астрог, зламаныя мачты, перакуленыя шлюпкі, непапраўныя цечы, змытыя ў акіян целы, зоркі віхуры ў небе, гнятлівае прадчуваньне гібелі.

Невядома, хто з маракоў упершыню даслаў у яшчэ гулкі ад пустаты этэр гэты сыгнал: SOS. Магчыма, брытанскі карабель «Славонія», які ў 1909 годзе наляцеў на рыфы каля Азораў і пайшоў на дно. На ягонае «дыдыдыт-дадада», якое прагучала новым акордам у радыётэлеграфнай музыцы, адгукнуліся ажно некалькі нямецкіх суднаў, што праплывалі паблізу — удалося ўратаваць большую частку пасажыраў і каманды. SOS падзейнічаў — і з таго часу дапамог немалой колькасьці марскога люду адкласьці знаёмства з прыдоньнем сьвету да лепшых часоў.



Радыст «Славоніі» папросту зрабіў усё ў адпаведнасьці з міжнароднай радыётэлеграфнай канвэнцыяй. Адпаведная дамова — прыняць SOS як адзіны «знак бяды» на моры і абавязаць усе караблі прымаць яго па-за чаргой — была падпісаная 3 лістапада 1906 году ў Бэрліне адразу некалькімі дзясяткамі дзяржаваў.

Знак задумваўся як унівэрсальны і не залежны ад баявых дзеяньняў — знак чалавечнасьці, сыгнал салідарнасьці, зьвернуты да сэрца, а не да пагонаў. Не міне і дзесяці гадоў пасьля падпісаньня канвэнцыі і катастрофы «Славоніі», як на моры пачнецца вайна — пра SOS дазволена будзе забыцца.

Прыбраць усе словы. Пакінуць толькі кропкі і працяжнікі. Часам здаецца, што ўсе нашыя кнігі, нашыя вершы, нашыя размовы, нашыя пераклады — толькі сыгналы пра бедзтва, якія мы дасылаем у звонкую пустату. Ці пачуе нас хто? Якая розьніца. Сутнасьць сыгналу — у яго паўтарэньні.

# Патомны ліхадзей

*4 лістапада 1964 у Францыі прэм'ера «Фантамаса»*

«Эта была, была, была — но прашло!» — як сьпявалася ў савецкай песьні... У Савецкім Саюзе, дарэчы, кіно цаніць умелі: напрыклад, сорак пяць з паловай мільёнаў чалавек паглядзелі першы фільм «Фантамасіяды», і з гэтымі сарака пяцьцю з паловай мільёнамі заўжды будзе пра што пагаварыць: на бязьлюднай высьпе ці ў адзіночнай камэры.

Але вернемся да францускіх «была» і «прашло» — бо зь іх усё і пачалося.

Калі 4 лістапада 1964 у Францыі адбылася прэм'ера «Фантамаса», амаль ніхто з гледачоў ужо ня памятаў, што за паўстагодзьдзя да таго нешта такое ўжо выклікала фурор і памарачэньне сынэмазалежных розумаў. Гаворка не пра бульварныя раманы Алена і Сувэстра — іх якраз-такі памяталі... Гаворка пра кіно — якое выветрываецца з памяці значна хутчэй за літаратуру, нават такой сумнеўнай якасьці.



9 траўня 1913 году, у дзень будучай перамогі народаў Савецкага Саюзу над нямецка-фашысцкімі захопнікамі і іншымі бошамі і вошамі, на экраны Францыі выйшла нямая карціна «Фантамас для гільятыны». Посьпех быў неверагодны — і за паўтара года пра таго, першага Фантамаса, зьявіліся яшчэ чатыры фільмы: «Жуў супраць Фантамаса», «Мярцьвяк-забойца», «Фальшывы судзьдзя» і нават — вось ужо дзе д'ябальская вынаходлівасьць у творчым тупіку — «Фантамас супраць Фантамаса».

Ролю галоўнага нягодніка ва ўсіх сэрыях выканаў Рэнэ Навара — вушасты чалавек зьверскага выгляду. Цікава, што ў ім, актору пачатку стагодзьдзя, ужо ёсьць нешта ад Жана Марэ... Затое інспэктар Жуў там зусім не падобны да мітусьлівага гістэрыка — і не саступае Фантамасу ў розуме. Праўда, карыстацца заражанымі чумой пацукамі і кобрамі, як гэта рабіў намесьнік д'ябла ў Францыі, інспэктару забараняў закон. Зусім як праз паўстагодзьдзя.

Той даваенны Фантамас быў любімы францускім народам так, як савецкі любіў Сталіна. І як у СССР імем правадыра называлі заводы, фабрыкі і гарады, так у Францыі перад першай сусьветнай вайной імя ліхадзея насілі коні, рэстарацыі і караблі.

Але пачалася вайна — і пра Фантамаса ўсе забылі. Ніхто не здагадваўся, што ў паскудніка і садыста быў сын (відаць, ад лэдзі Бэльтам). Той самы, якога падабраў у 60-х на задворках няўдзячнай чалавечай памяці Андрэ Юнэбэль: памыў, абагрэў, накарміў, пашыў касьцюмчык — і выправіў у сьвет цэлы зь ягонай фантамасавай крыўдай. Выправіў па славу і любоў народную — жарсную, як нямое кіно, і зьменлівую, як дзяўчо.

# Галоўная бяда

***5 лістапада 1930 Сынклер Льюіс зьдзекуецца з швэдзкага журналіста, які паведамляе пісьменьніку пра ўзнагароджаньне Нобэлеўскай прэміяй***

«Нашая галоўная бяда ў тым, што ледзьве ня кожны з нас пачынае размову словамі «Наша галоўная бяда ў тым, што...»

Так напісаў некалі амэрыканскі пісьменьнік Сынклер Льюіс. Той самы, які стварыў раман «У нас гэта немагчыма», першую амэрыканскую антыўтопію, і які «любіў Амэрыку, але яна яму не падабалася».

Праўда, чалавек, які патэлефанаваў Сынклеру Льюісу 5 лістапада 1930 году, сваю размову зь пісьменьнікам пачаў інакш. Прынамсі, пра бяду ён не казаў. Ён казаў пра радасьць — зь нейкім невыносным акцэнтам:

«Доббэры дэн, містэр-р Луіс», — праракатаў чалавек. — «Прымітэ мае сарадэчны віншаваніен з прысуджэніен вам Ноббэлефска прэміе!»

«Соры, на якой мове вы гаворыце? — запытаўся пісьменьнік. — Як на мяне, было б добра перайсьці на ангельскую, яна мне дарагая як памяць».

«Выбачайт, містэр Луіс», — зьбянтэжылася слухаўка. — «Я свэнска журналістыка са Стакхолма, мая толькі хатэл сказаць, што віншуй вас з Ноббэлефска прэміе! І задат пара пытаніен з гэта нагода».



«Я вас не разумею. Відаць, нешта з апаратам», — сказаў сын зямлі амэрыканскай Льюіс і паклаў слухаўку.

Але тэлефон зазваніў зноў.

«Містэр Луіс, мая віншуе вас з Ноббэлефска прэміе», — цярпліва працягвала змагацца з ангельскай мовай слухаўка.

«Вось толькі ня трэба дурыць мне галавы! — здагадаўся пісьменьнік. — Джордж, канчай свае тупыя жарты, я цябе пазнаў!»

«О, містэр Луіс! — замармытала слухаўка. — Рэч у таму, што ві сапраўдна атрымайт Ноббэлефска... Малю вам, толькі адын пытань!»

«Ну, досыць зь мяне! — закрычаў Сынклер Льюіс. — Гэта ты, Джэк? У цябе заўжды былі праблемы з акторскім талентам. Знайшоў бы каго з насмаркам, мо і выйшла б мяне падмануць, а так... Дурылка ты картонная!»

«Містэр Луіс!» — пакрыўджана працягваў бубнець голас. — «Віслухайт мяне, плеазэ! Праблема ў таму...»

«Ваша галоўная праблема ў тым, што вы няздарны асёл! Ну до-о-бра, — прамяўкаў Сынклер Льюіс. — Слюхайт вам унімацельна. Будзем гаварыт на інасраннам языку! Які пагод у Стакхолм? Які градус? Какі сявоньня стул у свэнскі кароль? І як там пажывае Кемска воласт?»

У слухаўцы абурана замаўчалі. Толькі праз пяць хвілін Сынклер Льюіс канчаткова зразумеў, што ён сапраўды атрымаў Нобэлеўскую прэмію па літаратуры за 1930 год і што чалавек, які першым прынёс яму гэтую вестку, быў насамрэч швэдзкі журналіст. Неўзабаве «містэр Луіс» паедзе ў Стакгольм, дзе прачытае сваю знакамітую прамову пра страх амэрыканцаў перад літаратурай, у якой абзаве амэрыканскіх клясыкаў ледзьве не халтуршчыкамі, «сэнтымэнтальнымі пераймальнікамі эўрапейскіх традыцый», далёкімі ад таго, каб рабіць нешта сваё. Швэдзкі журналіст, які так ганарыўся сваёй бездакорнай ангельскай, усё ж возьме ў Льюіса інтэрвію — абодва зробяць выгляд, што гавораць упершыню ў жыцьці.

# Два Ёганы

***6 лістапада 1455 суд адабраў у Гутэнбэрга друкарню***

Жылі-былі сабе ў слаўным горадзе Майнц два Ёганы. Адзін меў прозьвішча Гутэнбэрг, другі адгукаўся на «хвамілію» Фуст. Першы быў бедны і разумны, а другі багаты і...

Насамрэч невядома, як там было ў шаноўнага гера Фуста з розумам, але з асьцярожнасьцю дакладна ня вельмі. У 1448 годзе адзін Ёган, той які Гутэнбэрг, знайшоў другога і папрасіў пазычыць яму пару тысяч гульдэнаў на выдавецкую дзейнасьць. Фуст узяў і пазычыў цёзку пад працэнт ажно 1600 паўнаважкіх манэтаў са свайго гаманца. Хаця той Гутэнбэрг быў чалавек з сумнеўнай рэпутацыяй і амаль што крымінальным мінулым: дзесяць гадоў перад тым яго прыцягвалі да суду за нейкія «загадкавыя» люстры, вырабам якіх ён займаўся разам з прыяцелямі, за друкаваньне непрыстойных карцінак і падазроныя досьледы з тым, што ў судовых матэрыялах фігуравала як «рухомыя літары».

Тым ня менш спачатку ўсё пайшло як мае быць. На грошы Фуста Гутэнбэрг выдае на сваім варштаце лацінскую граматыку, Біблії і папскія індульгенцыі. І ўсё гэта неверагодным накладам — два асобнікі!

Неўзабаве абодва Ёганы робяцца кампаньёнамі. Добрыя жыхары Майнцу ласкава называлі друкара і яго партнэра «чарнакніжнікамі» і зьбіраліся выправіць абодвух на вогнішча. За што? Натуральна, за экстрэмісцкую дзейнасьць. Кнігавыданьне, як і кнігараспаўсюд, ужо ў тыя часы ўважаліся за злачынства, калі ня мелі дачыненьня да выдавецтва «Мастацкая літаратура» або выдавецкага дому «Зьвязда». Даносы ў магістрат ішлі адзін за адным. Навошта друкаваць Біблію, калі можна перапісваць яе рукою? — абураліся вэтэраны і іншая прагрэсіўная грамадзкасьць, круцячы ў руках Гутэнбэргавы «прэс-фота-1455»... І што гэта за лацінская граматыка і на грошы якіх выведак яна выдадзеная? Адабраць ліцэнзію! — такі прысуд вынесла майнцкая рада па маральнасьці і цэнзуры. Праўда, магістрат не сьпяшаўся, сочачы за разьвіцьцём падзей — прайшлі чуткі, што за друкаванай кнігай будучыня, і ніхто з радцаў не хацеў увайсьці ў гісторыю душыцелем прагрэсу.



Але адабраць у Гутэнбэрга друкарню разам з усім варштатамі ўсё ж давялося. Гутэнбэрг даўно перастаў выплачваць Фусту працэнты ад пазыкі, і той зьвярнуўся ў адпаведныя інстанцыі. 6 лістапада 1455 году судовай пастановай Ёган Фрылевіч Гэнсфляйш цур Ладэн цум Гутэнбэрг, былы ювэлір, прапісаны ў Майнцы, пазбаўляўся сваіх друкарскіх варштатаў і ўсяго абсталяваньня, а онае было цалкам перададзенае Фусту. Гутэнбэрг паспрабаваў заснаваць новую друкарню — фактычна з нуля...

Так бы і скончылася гэтая гісторыя, калі б не адна маленькая пераможная вайна двух мясцовых графаў. Яго сьветласьць Адольф фон Насаў пасварыўся зь Яго сьветласьцю фон Ізэнбургам. Кожны друкаваў улёткі з паклёпамі на ворага і прапагандысцкімі заклікамі да насельніцтва станавіцца пад свае сьцягі. Граф Адольф замаўляў улёткі ў Гутэнбэрга, а фон Ізэнбург — у Фуста. Калі дайшло да баявых дзеяньняў, Адольф перамог — і ўспомніў пра «свайго» выдаўца. Друкарню ў Фуста адабралі і вярнулі Гутэнбэргу. Марна Фуст махаў перад салдатамі паперкай з судовай пастановай... «Будзеш ведаць, як першадрукароў крыўдзіць», сказалі яму павучальна і ледзь не ўвалілі бізуноў. Дый праўда: Гутэнбэргу цяпер помнікі стаяць, а Фусту ўвесь ягоны капітал так і не дапамог набыць хаця б ілюзію бесьсьмяротнасьці.

# Горад А

***7 лістапада 1990***
***памёр Лорэнс Дарэл***

У 1983-м, за сем гадоў да сьмерці Лорэнса Дарэла, Ігар Памяранцаў узяў у яго інтэрвію для расейскай «Свабоды». Ці ёсьць для Дарэла галоўнай тэмай пошук і ўсьведамленьне «духу месца», як можна меркаваць па ягоных кнігах? — запытаўся Ігар.

У адказ Дарэл няўпэўнена сказаў «так»... — і потым назваў сябе «прафэсійным уцекачом». «Я прайшоў школу беспрытульнасьці. Нават цяпер я магу цягам дваццаці хвілін сабраць усё неабходнае. Падарожжы траўмавалі мяне. Вунь там стаіць мой старэнькі фольксваген з прычэпам. Дваццаць хвілін — і мяне тут няма, і больш пра гэтае месца я ня ўспомню...»

Пра Александрыю дзякуючы Дарэлу ўспамінаюць нават тыя, хто там ніколі ня быў. Успамінаюць — і жывуць там.

«Александрыйскі квартэт» — страшная і прыгожая кніга. Адчуваньні таго, хто яе чытае, можна было б параўнаць хіба са знакамітай сцэнай з чацьвёртага тому — той самай, дзе герой, назіраючы на свае вочы бамбардаваньне александрыйскай гавані, засяроджаны толькі на тым, як прыгожа гэта выглядае: вада, агонь, сьмерць, стыхія, вайна — і Горад. «Усялякі па-сапраўднаму мастацкі твор па сваёй сутнасьці амаральны» — напісаў некалі Оскар Ўайлд, сам той яшчэ мараліст; «Квартэт» — кніга па-за маральлю, бо горад ня можа быць маральным, нават Садом, нават Ерусалім; гэта кніга, якая сама па сабе ёсьць горадам — старажытным, велічным горадам напярэдадні свайго канца. Бо трыццатыя і саракавыя, той час, у які адбываецца дзеяньне раману, былі апошнімі ў александрыйскай гісторыі. Далей пачалася гісторыя Эгіпту — але Александрыю язык не павернецца назваць прыналежнай да нейкай аднoй дзяржавы.



Як у кожным гарадзкім сусьвеце, як і ў кожным прыватным жыцьці, не прывязаным да слупа радзімы, не пастаўленым на ручны тормаз укараненьня і патрыятызму, вуліцы тут перасякаюцца на першы погляд бязладна і вядуць заўжды не туды, насельніцтва пераважна варожае, каханьне выпадковае і хуткае, а мова чужая... Разгадаць таямніцу мапы, адчуць сябе ў яе няўлоўным цэнтры, зразумець бясконцасьць сьвету і сваё месца ў гэтай бясконцасьці — напэўна, толькі для гэтага і варта пісаць. Тэма вечная — пакуль існуюць гарады і мы цісьнемся да іх муроў, думаючы, што ўцяклі.

У гэтай кнізе прыгожае ўсё: ад болю фізычнага да пакутаў пісьма. І ўсё ўмоўна: як назва, як тапонім, якому наканавана зьмяніцца. Александрыя Дарэла знаходзіцца на мяжы дзьвюх гісторый: той, якая канчаецца, і яшчэ не пачатай. Таму гісторыя заўжды будзе не заўважаць яе, але і абысьціся безь яе — ня здолее.

«Квартэт» — кніга-бібліятэка, адкуль няма выхаду. І пры гэтым Дарэл не карыстаецца нейкімі фармальнымі прыёмамі — клясычнае мадэрнісцкае пісьмо, просты цуд літаратуры.

Для чалавека, які чытаў «Квартэт», сам плян прапанаванага яму сьвету выглядае інакш. Дзе б ён — чалавек, чытач, вечны

месьціч, вечны ўцякач — ні знаходзіўся, у любы момант, прыплюшчыўшы вочы, ён правядзе па цемнаце пад павекамі свае законныя, сакральныя лініі… І атрымаецца досыць складаная фігура, форма якой можа быць мудрагеліста заломленай, але асноўныя кропкі, якія злучаюць канструкцыю, заўжды на сваіх месцах. Напрыклад, гэтыя: Дублін, Рым, Трыест, Атэны, Ерусалім, Вільня, Бэрлін, Прага. Александрыя. Менск.

Юстына. Бальтазар. Маўнталіў. Клеа. Гісторыя, геаграфія, мова і літаратура — як жыцьцё, сьмерць, музыка і сьмех.

«Александрыйскі квартэт» — вялікі раман. Нават калі б Дарэл не напісаў больш нічога, гэтага хапіла б, каб зрабіцца часткай Бібліятэкі, хапіла б, каб доўг Аўтара быў сплачаны. Неяк нават сорамна прыгадваць тут такую неалександрыйскую рэч, як Нобэлеўская прэмія… Узнагароду, якая ніколі ня будзе паўнавартасна літаратурнай — бо калі чалавек, які стварыў «Квартэт», ня мае такой прэміі, дык і гаварыць няма пра што. Хіба пра сэканд-гэнды, пра гуманізм і гумовыя каштоўнасьці, якія цягаюць за сабой ляўрэаты розных гадоў, абачліва абмінаючы александрыйскую гавань.

У мяне індыйскае мысьленьне і ангельская скура, сказаў народжаны ў Індыі Дарэл, які ўсё жыцьцё пражыў то ў Грэцыі, то ў Эгіпце, то ў Італіі, то ў Правансе. Чалавек без радзімы. Радзімаю для яго была мова — няправільны адказ у нямое стагодзьдзе:

*«Цябе выхоўваюць за мяжой, усё ўяўляецца простым і зразумелым, і калі ты прыяжджаеш дамоў, ты ніяк ня можаш ачуняць ад вузкасьці і ледзяной абыякавасьці таго жыцьця, якім жыве твая так званая „бацькаўшчына“… Але ж па сутнасьці нацыянальнасьць — гэта твая мова…»*

# Проста ў промні

*8 лістапада 1895*
*Рontген адкрывае свае промні*

Сыходзячы, не забудзьце выключыць электрапрылады. Як часта гэты адзінаццаты запавет, дадзены Богам Масею на гарналыжным курорце Сінай, ратаваў Масеевым нашчадкам цела, душу і кашалёк. Аднак у гісторыі здаралася й так, што невыкананьне мудрай адзінаццатай запаведзі абарочвалася для чалавецтва несумненнымі выгодамі.

Прафэсар Вюрцбурскага ўнівэрсытэту Вільгэльм Рэнтген парушыў той запавет абсалютна несьвядома: ён быў чалавек апантаны і 8 лістапада 1895 году застаўся ў лябараторыі, калі працоўны дзень ужо скончыўся і ўсе ягоныя калегі пайшлі на баварскае піва, каб дастойна сустрэць заслужаныя выхадныя. У лістападзе зьмяркаецца рана; калі Рэнтген нарэшце выключыў у памяшканьні сьвятло і мара пра добрую вячэру канчаткова перамагла мару пра ўсясьветную славу, нешта ў лябараторным змроку яго зьбянтэжыла. Ён азірнуўся. Катодная трубка! Гер Рэнтген забыўся яе выключыць. Прафэсар націснуў кнопку — але ўсё роўна нешта было ня так. Рэнтген зноў уключыў прыбор — і толькі тады заўважыў падсьлепаватымі вачыма, што аркуш паперы, пакрыты цыянаплястынітам барыю, які ляжаў побач з трубкаю, сьвеціцца злавесным зеленаватым сьвятлом.



Варум? — падумаў Рэнтген у роспачы. Варум сьвеціцца гэтая чортава папера, калі футарал трубкі не прапускае катодных промняў?

Ён сабраў усе кнігі, якія былі ў лябараторыі, і пачаў па чарзе засланяць імі паперу ад трубкі. Бульварны раманчык Аляксандры фон Марынінай быў бясьсільны — папера сьвяцілася, томік вершаў Гайнэ на дзьвесьце старонак таксама прапускаў нябачныя промні, і нават Гофман на тры сотні старонак нічога ня здолеў зрабіць супраць загадкавага выпраменьваньня. І толькі таўшчэзны том «Практычны дапаможнік па выхаваньні жанчын, сабакаў і іншай хатняй прыслугі» доктара О. фон Хімікера, галоўнага сэксоляга Вюрцбургу, ніякіх промняў катэгарычна не прапусьціў, бо быў занадта цьвёрды: што вокладкай, што меркаваньнямі.

І нават болей: Рэнтген бачыў, што па аркушы блукае цень ягонай рукі — кашчавы і тонкі цень канцавіны шкілета. Усяго пяць хвілін спатрэбілася навукоўцу, каб усьвядоміць важнасьць свайго адкрыцьця. Мусіць, найважнейшага адкрыцьця канца дзевятнаццатага стагодзьдзя.

Так чалавецтва атрымала ў сваё распараджэньне рэнтгенаўскія промні. Праз некалькі дзён ён прывёз у лябараторыю сваю жонку Бэрту і, нягледзячы на супраціў, сфатаграфаваў яе руку — фатаграфія зрабілася першым рэнтгенаўскім здымкам у гісторыі. Прафэсар так захапіўся сваімі промнямі і вынайдзеным ім неўзабаве апаратам, што цэлымі днямі не выходзіў зь лябараторыі. Пра небясьпеку промняў ён неяк ня думаў... Дый што там думаць — навука патрабуе ахвяраў. Зусім як Бог — і бульварны раман.

# Японка зь меху

*9 лістапада 1966*
*Ёка Она ўпершыню бачыць Джона Ленана*

У 1965 годзе ў горадзе-герої Лёндане, на праспэкце Незалежнасьці 37а, проста за домам «Подзьвіг народа», адчынілася дзіўная галерэя, што мела амаль птушыную, як для беларускага вуха, назву «Індыка». І калі ў яе ўладальнікаў пыталіся, якога індыка яны так назваліся, тыя глыбакадумна моршчылі лбы і вярзьлі нешта пра indications, хаця чалавеку дасьведчанаму было ясна, што маецца на ўвазе: Cannabis indica, расьліна, якою шасьцідзясятыя пахнуць так, што хоць сьвятых вынось — няважна, маршыруюць гэтыя сьвятыя або не.

Менавіта перад уваходам у гэтае падазронае месца 9 лістапада 1966 году спыніўся невялічкі аўтамабіль Cooper Mini, зь якога выйшаў двухмэтровы кіроўца і паслужліва адчыніў дзьверы пасажыру — мільянэру Джону Ленану.

Ён прыехаў, каб паглядзець на гэпэнінг: абяцалі нейкую японку ў мяху. «Мне зрабілася цікава, японка, мех, сэкс і ўсё такое», — успамінаў потым Ленан. У галерэі не было ніводнага наведніка, высьветлілася, што адкрыцьцё толькі заўтра. «А мне ўсё роўна!» — строга сказала вахторка, спрабуючы выставіць наведніка за дзьверы. — «Не было Галілея і Боба Марлея... Ні Ленана, ні Леніна, ні Карла Лінэя». Але потым зьлітавалася.




Паўсюль валяліся экспанаты: яблык за дзьвесьце фунтаў, людзі па сотні штука, нейкія цьвікі з цыдулкамі... А далей лепш раскажа сам Ленан.

«Я думаў, тут будзе оргія ці, прынамсі, нешта такое псыхадэлічнае... А тут усё ціха і спакойна. І тады мяне пазнаёмілі зь дзіўнай такой японкай, місіс Она — і нідзе ніякіх мяхоў. Я ёй кажу: а мяхі дзе? А яна падае мне такую сабе маленькую картку...»

На картцы было толькі адно слова «Дыхай».

Так яны ўпершыню ўдыхнулі адно аднаго. Так пачалася іхная гісторыя — каханьне на вачах ва ўсяго сьвету, каханьне, якое не саромелася нічога — і зьмяняла сьвет.

Праз год галерэя «Індыка» зачыніцца, праз два жонка Ленана, вярнуўшыся дахаты з паездкі за мяжу, пабачыць там місіс Она ў сваім хатнім халаце, праз тры місіс Она пакіне свайго мужа джазмэна Энтані Кокса. А потым у Гібралтары адбудзецца тое, дзеля чаго лёсам і быў задуманы той першы ўдых сярод няісных мяхоў. «Я веру ў сябе. У Ёка і ў сябе». Няма ніякіх рэлігій, апрача любові. Уяві сабе.

# Будзьма туркамі

*10 лістапада 1938 памёр Мустафа Кемаль Атацюрк*

Ягонага тату Атацюркам ня звалі. І маму ня звалі спадарыняй Атацюрк. Атацюркам, бацькам туркаў і самым вялікім туркам у гісторыі яго ахрысьціў прыдуманы ім самім парлямэнт прыдуманай ім Турцыі. А праз чатыры гады, 10 лістапада 1938 году а 9.05 раніцы ў стамбульскім палацы Далмабахчэ Найвялікшы правадыр, Стырнавы, Машыніст, Спартсмэн, сябра ўсіх дзяцей і галоўны мовазнаўца Турэцкай рэспублікі аддаў жыцьцё Алагу. На той час рэлігія была тут ледзьве не адзіным, што прыдумалі яшчэ да Атацюрка і безь яго ўдзелу.

Гэта і праўда культ асобы з усімі ягонымі ідэалягічнымі кульбамі і кулакамі на скулах — але нейкі вельмі ўжо сямейны. Да яе, гэтай асобы, туркі ставяцца як да горача любімага памерлага таты: «Запісаўся надоечы ў басэйн, бо сам Кемаль казаў, што гэта карысна для здароўя», — цяжка паверыць, але і ў дваццаць першым стагодзьдзі такое можна пачуць, напрыклад, ад маладога турэцкага студэнта. Дыктатар-бацька — у гісторыі ня рэдкасьць, але, відаць, толькі туркі прыгадваюць свайго «тату» безь нянавісьці: бацькаў рэмень — справа сямейная, затое якая навука — на цэлае жыцьцё.

Мустафу Кемаля Атацюрка льга было б параўнаць з чалавекам, якому дастаецца ў спадчыну старая кватэра — і ён мяняе ў ёй усё: ад сьценаў, сантэхнікі, дзьвярэй і шпалераў да пляніроўкі і выгляду з акна. Бо — «нам тут жыць, а не камусьці іншаму». З тым, хто гэта — мы, таксама трэба было як мага хутчэй разабрацца. І Кемаль прыдумаў — асманы зрабіліся туркамі за адну ноч. І за адзін дзень навучыліся гэтым ганарыцца. «Будзьма туркамі»!



На кожнае «за» Кемаля знойдзецца сваё «супраць». Культ быў — але і асоба была: дзе-нідзе так, здаецца, дагэтуль кажуць пра «айца народаў». У выпадку са Сталіным гучыць сумнеўна: цяжка назваць асобай скалечанага паранояй маньяка, які без чалавечынкі на сьняданак дня пражыць ня мог. Кемаль быў не крыважэрны — ён быў палітык, і, напэўна, цынізму ды разьліку ў яго было ня менш і ня больш, чым у палітыкаў сучаснасьці.

Ён адстаяў незалежнасьць — і даў дабро на вынішчэньне і асыміляцыю нацыянальных меншыняў.

Ён скасаваў султана, як муху ў пакоі — і ўвёў рэспубліку, якая не магла не ператварыцца ў дыктатуру, ня горшую за тую, што была пры манархіі.

Ён даў правы жанчынам — і забраў іх у нязгодных зь яго палітыкай мужчын.

Ён забараніў рэлігійныя ордэны — і стварыў уласную партыю кшталту КПСС.

Ён прыняў эўрапейскі каляндар — і прымусіў жыць паводле яго Азію.

Ён адмяніў тытулы і ўвёў прозьвішчы — і сам атрымаў прозьвішча-тытул.

Ён даў туркам лацінскі альфабэт, арганізаваў сьвецкую дзяржаву, правёў эканамічныя рэформы... Ён здолеў зьмяніць краіну, як хірург-трансплянтоляг зьмяняе чалавечае цела. Дагэтуль спрачаюцца, ці прычыніўся Кемаль да генацыду армянаў — але тое, што ён стварыў дзяржаву ў тым ліку рукамі забойцаў, на жаль, таксама цалкам імаверна. «Усе лічаць, колькі армянаў забілі туркі, і ніхто — колькі туркаў зьнішчылі армяне,» — зразумела, што гэтая выкшталцона-дыпляматычная фраза, кінутая ім у дваццатых, мусіла быць прамоўленая кіраўніком дзяржавы — але генацыд ад гэтай вымушанасьці генацыдам быць не перастаў. Па вялікім рахунку, яго можна абвінаваціць у чым заўгодна. Але толькі не ў нянавісьці да свайго. Раскоша, якую і цяпер можа дазволіць сабе ня кожны дыктатар.

# Настаяшчы капітан

*11 лістапада 1880 году ўпершыню ўжытае слова «байкот»*

Чалавек, які прыйшоў увесну 1880 году наймацца ў аканомы да лорда Эрна, гаспадару адразу ж спадабаўся. «Чарльз Канінгэм Байкот!» — назваўся госьць, аддаў чэсьць і так грукнуў ботамі, што па ўсім доме зазьвінеў фамільны крышталь і задрыжэлі срэбраныя лыжачкі. Карацей, «настаяшчы» палкоўнік. Ці не палкоўнік, а капітан — якая розьніца. Сапраўдны служака. Такі дакладна здолее прывучыць да працы гэтых лянівых ірляндцаў, падумаў лорд Эрн, які валодаў на высьпе ладным кавалкам зямлі і на якога гнула сьпіну некалькі тысяч чалавек. Адна вялікая няўдзячная сьпіна, якая толькі і чакала, да каго б павярнуцца сваім красамоўным нізам...

Пра лордаў мяркуюць па генэалягічным дрэве, а пра аканомаў і журналістаў дзяржаўнай прэсы — па Дажынках. Новы аканом і праўда быў суворы і абыходзіўся зь лянівымі ірляндцамі так, як яны таго заслугоўвалі, тут лорд Эрн не прагадаў — аднак надышоў час зьбіраць ураджай і ўсё абярнулася нейкім суцэльным кашмарам. Лянівыя ірляндцы ніяк не хацелі слухацца новага аканома і, здаецца, ня надта ўпадабалі ўведзенае ім у маёнтку лорда Эрна з нагоды чаканага аканамічнага цуду надзвычайнае становішча. І нават цялесныя пакараньні — гэты самы надзейны мэтад падвышэньня вытворчасьці працы, які дайшоў да нас зь лягендаў і казак былых пакаленьняў — на ірляндзкага мужыка ня дзейнічалі. А тут яшчэ гэты Парнэл... Лянівы ірляндзец, зь якога добрыя ангельцы паспрабавалі зрабіць джэнтэльмэна — а цяпер ён падбіваў іншых лянівых ірляндцаў кідаць работу: у Бога дзён многа — паробім! — а ў пабах гінэс стыне.



І «настаяшчы капітан» пачаў змаганьне. Маёнтак лорда ператварыўся ў нейкае падабенства афрыканскіх плянтацый, па якіх бегаў наглядчык Байкот і ўласнаручна прымушаў няўдзячных белых рабоў зямлю жэрці, абы толькі выканаць плян. І тады лянівыя ірляндцы плюнулі і зусім перасталі працаваць. У адказ Байкот звольніў усіх незадаволеных і выклікаў паліцыю. На другі дзень не працаваў ужо ніхто, а сам Байкот раптам апынуўся ў нейкім іншым сьвеце: зь ім ніхто не вітаўся, не гаварыў, паштальёны не насілі яму лістоў, яго ігнаравалі прадаўцы, цырульнікі, краўцы, шаўцы, лекары і нават адна жанчына-зубны тэхнік. Нават лорд Эрн пачаў паглядваць коса на свайго аканома і хаваўся ад яго ў бібліятэцы.

Байкоту зрабілася вусьцішна. А тут яшчэ панаехалі нячэсныя журналісты зь Лёндану і давай пра яго пісаць. Нават ангельская мова паўстала супраць капітана: тое, зь якой радасьцю яна прыняла слова «байкот» у свае скарбніцы, прымусіла Байкота сур'ёзна задумацца пра самагубства. Байкота ў Ірляндыі не заўважалі больш за пяць гадоў — нібыта яго не існавала. У 1886-м ён зьехаў на гістарычную радзіму, ня вытрымаўшы ціску. Уся Ірляндыя адзначыла гэтае разьвітаньне шумнай разгульнай бяседай.

У тым, што цябе ігнаруюць, вялікай бяды няма. Няма чаго пускаць іншых у душу без патрэбы. Быць аднаму — шчасьце. Але толькі не для аканомаў і дзяржаўных службоўцаў — мы ім патрэбныя, як паветра. Як раса, як сьляза, як zara.

# Дзевяць на дванаццаць

*12 лістапада 1933 першы здымак лох-нэскага монстра*

Дзень 12 лістапада 1933 году мог бы зрабіцца самым трагічным у жыцці лох-нэскай пачвары. Лёндански доктар Ўілсан (вось жа гэтыя Ўілсаны, амаль усе яны дактары і заўжды лезуць не ў свае справы), які адпачываў на беразе возера Лох-Нэс у Шатляндыі, раптам заўважыў сымпатычную галаву, якая высунулася з вады — і замест таго, каб уцячы ў панічным жаху, самым падступным чынам схапіўся за фотаапарат і націснуў кнопку. У сьнежні здымак выйшаў у адной з самых папулярных сталічных газэтаў, а потым абляцеў увесь сьвет.

Так легендарная пачварына ўмомант сталася публічнай пэрсонай — што не магло не адбіцца на стаўленьні да яе з боку грамадзтва. З пачвары пачалі жартаваць, маляваць на яе карыкатуры, здымаць фільмы і выдумляць дурныя тэорыі: маўляў, ніякая гэта не пачвара, а плезіязаўр, які праспаў эвалюцыю, або слон, які выпадкова навучыўся плаваць пад вадой — як беларускія зайцы навучыліся варыць піва, а савецкія — курыць тытунь.



І тут самы час пагаварыць пра трагедыю публічнасьці. Стагодзьдзямі ты жывеш пад вадой, надзейна схаваны ад староньніх вачэй, і проста робіш сваю работу: напрыклад, даеш пажыву для фантазіі, інсьпіруючы наскальны жывапіс і літаратурныя творы, прымушаеш дзяцей мачыцца ад страху, рыбакоў — маліцца, а плыўцоў і ватэрпалістаў — страхавацца на выпадак нападу падводнага монстра. Цябе ўспрымаюць па тваёй творчасьці, па загадкавым руху цемры ля самай паверхні хваляў — ніхто ня ведае, як ты выглядаеш, і таму твой няўлоўны вобраз хвалюе розумы і запальвае сэрцы. Але варта нейкаму доктару схапіцца за сваю чортаву камэру — і ўсё, казка скончылася. Ты частка грамадзтва і мусіш даваць справаздачу: дзе, як, хто была муза, хто мама, на якія бабкі, і колькі ў месяц, і наколькі ты фота-, кіна- і тэлегенічны, і яшчэ шмат рознай лухты. Фатаграфія дзевяць на дванаццаць, з наіўным подпісам «На памяць»... Як здымак для пашпарта: ты каталягізаваны, кананізаваны, зарэгістраваны і падлеглы далейшаму вывучэньню — ажно пакуль ад цябе нічога не застанецца і новы доктар Ўілсан не паедзе ў свой чарговы адпачынак да новых пачвараў. Чортаў сьвет, дзе навіну замяніла сэнсацыя, а шукаць сэнс дарогі даверана навігатару...

Адно цешыць. Здымак доктара Ўілсана быў падробкаю. Праз шэсьць дзесяцігодзьдзяў унукі фатографа прызналіся, як іхны дзядуля абвёў вакол сярэдняга пальца прагрэсіўную грамадзкасьць. Ён прымацаваў пад вадой спэцыяльны апарат, на версе якога ўсталяваў драўляную шыю зь цікаўнай галавой. І спакойна зьняў яе, стоячы на беразе. Значыць, публічнасьць — яшчэ ня вырак. Сумнеў застаецца, а глыбіня ратуе — і магчымасьць уцёкаў усё яшчэ трымае цябе на сьвеце, о монстар.

# Здань парашутыста

*13 лістапада 2007 памёр Цімох Вострыкаў, удзельнік беларускага антысавецкага супраціву*

Беларускай ночы шмат што пасуе: сьвятло фараў, якое выхоплівае зь цемры прыдарожныя вёскі, зорнае неба ўлетку, да якога хочацца дацягнуцца рукой і абтрэсьці сабе на голаў усю гэтую раскошу, як сьнег зь яліны... Ці вось яшчэ: вогнішча. Гаваркое беларускае вогнішча, якім заслухацца можна — калі табе ня сумна сам-насам з сабою. Не сапсуе гэтую ноч і бутэлька чагосьці саракаградуснага. Беларускай ночы пасуе каханьне — зрэшты, як і афрыканскай, як і любой ночы ў гэтай вялікай-вялікай цемры, сярод якой рухацца лепш навобмацак, бо толькі так можна кудысьці прыйсьці...

Але ня менш за ўсе пералічаныя цуды беларускай ночы пасуе хмарны небакрай, рокат нябачнага самалёта і белая здань парашутыста. Дэкарацыі з жыцьця Цімоха Вострыкава — чалавека, выпіць зь якім у беларускай ночы было б гонарам для кожнага, хто ў ёй жыве.



Ён памёр 13 лістапада 2007 году ў Гомлі — і, у адрозьненьне ад абсалютнай большасьці зямлянаў, яму было што ўспомніць. Сялянскі сын, народжаны на Гомельшчыне, ён пасьпеў пабыць калгасьнікам, зваршчыкам, настаўнікам, салдатам, дэзэрцірам, шпіёнам, зэкам, пэнсіянэрам — і нават героем: напрыканцы жыцьця, калі суайчыньнікі, самыя сьвядомыя, разабраліся нарэшце, што да чаго. Яму было амаль дваццаць тры, калі скончылася другая сусьветная вайна — і столькі ж, дваццаць тры гады лягероў, ён атрымаў ад савецкага суду за здраду радзіме, калі на тую радзіму вярнуўся.

Вяртаньне было не зусім звычайнае: скачок з парашутам у складзе «шпіёнскай» групы, з амэрыканскага самалёта, над той самай беларускай ноччу — праз тыдзень Вострыкава арыштавалі. Наступнае вяртаньне адбылося толькі ў 1975-м. Нарэшце — назаўжды.

Вярнуцца зрабілася для яго сэнсам жыцьця. Падчас вайны ён уцякаў і з савецкага, і зь нямецкага войска, выкруціўся ад удзелу ў паліцыі і карных атрадах, і ў партызаны здолеў не патрапіць. Пастараўся ў нечалавечы час застацца чалавекам. Ня кожны на гэта здольны, а, галоўнае, канфармізм і страх тут ні пры чым. Здаецца, прасьцей і зручней у нечалавечы час запісацца ў нечалавекі — і мачыць іншых, каб застацца ў жывых. Дэзэрцір — слова, абразьлівае толькі для апантанага прагай крыві чалавека. Яно, дарэчы, паходзіць ад францускага слова, якое значыць «пакідаць» — у тым, што ты пакідаеш кагосьці або нешта, няма злачынства, ёсьць адно толькі выбар. Нават калі гэта поле бою — і асабліва калі гэты бой чужы. Пакінуць або застацца. Дэзэрцір або герой. Жывы або мёртвы. Але мёртвыя людзі патрэбныя толькі жывым генэралам і жывейшым за ўсіх жывых палітыкам.

У яго ўспамінах, якія можна было пачуць на Свабодзе ў перадачы «Вострая брама», ёсьць такі цікавы момант. Вострыкаў расказвае, як яго вучылі паводзіцца пасьля таго, як закінуць на тэрыторыю БССР: «Мы там не абучаліся, не вучыліся, а мучыліся. Напрыклад, абучаў нас такі Нік, лейтэнант. «Калі,

— кажа, — вы будзеце ісьці ў лесе, то пастойце каля дрэва. Прыгледзьцеся. А тады скок да другога дрэва. Ізноў пастойце. Зноў скок». Дык я яму паказаў вось так, кажу: «Ты чалавек чокнуты. Ды нас дзіця ўбачыць, як я пераскакваю, адразу скажа, што гэта шпіёны».

Якой радзіме здрадзіў Цімох Вострыкаў, так і засталося невядомым. Прынамсі, гэта была краіна, у якой дзеці, пабачыўшы чалавека, які скача між дрэваў, адразу ж вызначаюць у ім шпіёна і бягуць даносіць пра гэта куды трэба. Добрая такая краіна — шпіянаж супраць такой і шпіянажам не назавеш, а толькі спробай вярнуць ёй чалавечае аблічча. Дык каму ён здрадзіў — ды так, што не заслужыў нават рэабілітацыі? Савецкаму Саюзу? — але ён не радзіма, ён родзіна і дружбы народов надзёжны камплот. Беларусі? — лухта. Расеі? — яна ўжо дакладна ні пры чым, колькі ні вешай у аўтобусах «Гомель-Менск» каляровых анучак з арламі. Можа, Нямеччыне? Або Амэрыцы. Бо ня выканаў заданьня — якога не было. Дык за што Вострыкаў адседзеў чвэрць жыцьця? За беларускую ноч, напэўна. Прынамсі, яна адна ведае, у чым сэнс вяртаньня.

# Яшчэ жывая

*14 лістапада 1926 у Менску пачалася канфэрэнцыя па рэформе правапісу*

Сёньня ў нашай хаце сьвята... 14 лістапада 1926 кожны жыхар Менску, гораду, які — увага, новая языкаломка! — беларусіфікаваўся, беларусіфікаваўся, ды так і не выбеларусіфікаваўся, мог з поўным правам прасьпяваць гэтыя словы і закусіць мачоным гуркам у форме лёсікавай «J». У гэты дзень у сталіцы распачалася міжнародная акадэмічная канфэрэнцыя па рэформе беларускага правапісу і альфабэту, скліканая Інбелкультам. Першая ў гісторыі навуковая канфэрэнцыя такога маштабу, прысьвечаная нашай і больш нічыей мове.

Тады мову ўдалося адстаяць — ды на яе ніхто асабліва не і замахваўся. Усе ўдзельнікі шчыра зычылі ёй посьпехаў, рыхтык як маладому чалавеку, які пачынае свой жыцьцёвы шлях. У 1933 годзе гэтага чалавека спаймаюць, скалечаць, загрымíруюць пад іншага і шляхам нескладанай апэрацыі прымусяць увесь час баязьліва ўсьміхацца: так яна і дажыве да васьмідзясятых, сьмеючыся сама зь сябе і забаўляючы сваіх і чужынцаў. І толькі потым пачнецца вяртаньне. Нешта вяртаць будзе позна, нешта ўсё ж вернецца: і ўсе моўныя спрэчкі найноўшага часу будуць свайго кшталту рэхам тых лістападаўскіх дзён 1926-га і таго дзіўнага навуковага сходу.

Магчыма, прычынай таго, што канфэрэнцыя сапраўды адбылася, быў аўтарытэт запрошаных гасьцей. Каго-каго, а іх, сапраўдных вучоных, цяжка было зьбіць з тропу. Прыехаў не абы-хто: фактычна, спэцыялісты першага шэрагу. Ну, па-першае, Макс Фасмэр, знаны нямецка-расейскі славіст. Па-другое, Ян Райніс, які ў 1926 зрабіўся міністрам адукацыі Латвіі. Потым яшчэ Мікалас Біржышка, рэктар Літоўскага ўнівэрсытэту, чалавек, чый подпіс стаіць трэцім у Дэклярацыі аб незалежнасьці Літвы. Біржышка падараваў менчукам факсыміле адной зь першых кніг па-літоўску 1599 году выданьня. Прыехалі Пётр Растаргуеў з Маскоўскага ўнівэрсытэту, які выкладаў беларускую ў Маскве ў 1918-м, Юзэф Галомбэк з Варшавы, аўтар манаграфіі пра Дуніна-Марцінкевіча, і іншыя не апошнія ў мовазнаўстве людзі. Тарашкевіча Польшча ня выпусьціла, але былі Сьцяпан Некрашэвіч, што выступаў за аканьне ў чужаземных словах і цьвёрда стаяў за мяккі знак, Язэп Лёсік, які прапанаваў скасаваць перадачу на пісьме асыміляцыі па мяккасьці, затое ўвесьці тое самае «j»... Удзельнічалі Ластоўскі, Жылка, Езавітаў, Бузук. Апошні, дарэчы, быў прыхільнік лацінкі: «Безумоўна, да гэтага дойдзе справа, мы эўрапеізуемся, мы прынялі новы стыль, мы прынялі дзясятковую сыстэму мер, нам застаецца зрабіць апошні крок: перайсьці да лацінкі...»



Амаль восемдзесят гадоў мінула. Апошні крок так і ня зроблены. Што ўжо казаць пра астатнія...

Купала і Колас не выступалі, але за канфэрэнцыяй сачылі. Вядома, што Колас быў за тое, каб пісаць «німа» і «ніхай». Таму яго так і называлі: Якуб Ніхай. А агульны настрой беларускіх удзельнікаў, калі такі насамрэч быў, можна было б перадаць словамі з прамовы Некрашэвіча: «Наша мова вырасла ўжо ў сталы арганізм, які не патрабуе над сабой грунтоўных апэрацый». Вось такая была пэўнасьць у сваіх сілах. У 1926-м гаварылі пра тое, якой быць мове. Праз паўстагодзьдзя — ці быць ёй наагул.

У вольны час госьці шпацыравалі, выпівалі і ўвесь час нешта запісвалі. І гэта былі ня толькі навуковыя нататкі. Рыскі прафэсар Блесэ, напрыклад, зафіксаваў свае ўражаньні ад Беларусі: «Звонку Беларусь робіць даволі сумнае ўражаньне. Людзі апранутыя і абутыя бедна. У паўсядзённым жыцьці — адвечная руская неахайнасьць і бруд. Беларусь перажывае бурлівае нацыянальнае адраджэньне — пад уплывам камуністаў і ў камуністычным духу, але нацыяналістычныя элемэнты мацнейшыя за камуністычныя; ня выключана, што нацыяналізм перарасьце ў камунізм і неяк падладзіць яго пад сябе». Амаль на ваду глядзеў.

# Блаславеньне ад Максімыча

***15 лістапада 1930 у «Праўдзе» выходзіць артыкул «Калі вораг не здаецца — яго зьнішчаюць»***

Ня ведаю, як там з мастацкай прозай, але артыкулы Горкага перакладаць цяжка — як баржу за павадок цягнуць. Што зробіш — вялікі пісьменьнік, такога за талію не абхопіш. Яго і ў арыгінале чытаць — тая яшчэ пакута. Вось як гэта — гэта! — можна перакласьці... хіба што такім самым нагрувашчаньнем родных склонаў і няўклюдным маханьнем пустымі назоўнікамі:

*«...неабходна зьнішчыць усё, што, абцяжарваючы ў працоўным народзе рост усьведамленьня адзінства яго жыцьцёвых інтарэсаў, дазваляе капіталістам...»*

І гэтак далей. Знакаміты тэкст, адкуль узяты прыведзены вышэй урывачак, выйшаў 15 лістапада 1930 году адразу ў дзьвюх газэтах, «Ізьвесьціях» і «Праўдзе», і назву меў пагрозьлівую: «Калі вораг не здаецца — яго зьнішчаюць». У арыгінале Горкі напісаў у назьве «істребляют», а ў самім тэксьце «унічтожают»; ён наагул любіў бескарысныя сынонімы, як іншыя любяць апэльсіны. Што там дакладна пісаў клясык і з кім зводзіў рахункі, ягоныя ўдзячныя чытачы хутка забыліся, а вось назва ў памяці засталася — бо кідкая і зручная. Назва-заклік, назва-апраўданьне, назва-спроба змыць зь сябе кроў, стоячы ў перапоўненай лазьні. Да таго ж яна ўнівэрсальная, гэтая фраза, можна прысабачыць да любой нагоды — ворагі ёсьць ва ўсіх, часу бяз ворагаў не бывае, як і рэвалюцыі без крыві. Напэўна, на гэта Горкі і намякаў. Ці яму намякалі — а ён, дарма што прыкідваўся дурнем (кажуць, плакаў на плячы ў кожнага маладога аўтара — ад замілаваньня), умеў разумець намёкі.



Між тым, зьмест артыкулу ня менш цікавы за загаловак. Горкі піша пра тое, што каб зьберагчы перамогі і будаваць далей новае жыцьцё, трэба быць гатовым да новых ахвяраў — трэба забіваць, бяз гэтага ніяк. Гэта тэкст-мандат. Ёсьць у тэксьце і самі ворагі. Адна зь іх — «Расейская кабета» («Русская женшчіна»), якая піша Горкаму лісты і лічыць сябе прыналежнай да «тонкага слою адукаваных людзей з эўрапейскім мысьленьнем». Гэтая мадама наважылася на трынаццаты год сацыялізму думаць, што «розум — набытак нямногіх, нельга шукаць розум у масах». Што «культура — стварэньне нешматлікіх высокаадораных людзей». Вось дура. Паставіла свой будуар на шляху працоўных мас і зьдзіўляецца, адкуль так дзьме магільным халадком...

Гэта тэкст для ахвяраў — ім папулярна тлумачыцца, чаму іх зараз будуць «крышачку забіваць». Паводле Горкага, гэта разумеюць нават дзеці-піянэры, а да некаторых дарослых усё ніяк не даходзіць. Калі вораг не здаецца, яго зьнішчаюць. Тэкст-санкцыя пракурора, каманда ка́там. Такая сабе індульгенцыя ад інтэлігенцыі...

Імем Горкага было забіта столькі беларусаў, што яго варта лічыць беларускім пісьменьнікам. Ніхто ня ведае, чым адгукнецца яго слова — а выбар невялікі: каму ордэнам, каму куляй у патыліцу, каму забыцьцём.

# Геній без біяграфіі

***16 лістапада 1913 выйшаў першы том «У пошуках страчанага часу» Марсэля Пруста***

На ўроку альхіміі сядзіць хімэра і вучыць нас, што літаратура — гэта перадусім біяграфія. Што немагчыма пісаць кніжкі, ня маючы яго — прызнанага ўсімі Жыцьцёвага Досьведу. У савецкі час пісьменьнікі ехалі па яго ў калгасы і ішлі на заводы, дый несавецкім абавязкова трэба было кудысьці выпраўляцца: на вайну, хай сабе маленечкую, у эміграцыю, паліцыю, апазыцыю. На благі канец хаця б у найбліжэйшую піцэрыю... Карацей, да людзей, з галавой у іх канфлікты і каханьні. Каб слухаць іншых і запамінаць, каб пабачыць, якое яно — «сапраўднае жыцьцё». І вось тады ўжо — можна пісаць шэдэўры.

Між тым Пруст давёў сьвету, што вялікім пісьменьнікам можна быць і безь біяграфіі. Ну чым, урэшце, ён займаўся палову адпушчанага яму «страчанага часу»? Збольшага тусаваўся ў салёнах і на загарадных вілах. У перапынках хварэў. Часам спрабаваў зажыць нармальным жыцьцём, пайсьці ў вайскоўцы, напрыклад, і ўсё ж зьляпіць сабе курыкулюм вітэ — і адступаў, паранены такім грубым самападманам. Потым больш за дзесяць гадоў праседзеў у закаркаваным, як бутэлька яго любімага шампанскага «Мадам Кліко», пакоі і пісаў пра ўсё гэта. Пра пражытае маленькім капрызьлівым чалавекам з багатым кругаглядам і бедным жыцьцём. Пра найвялікшае ўзрушэньне, побач зь якім бляднеюць усе рэвалюцыі і вялікія пераломы зь іхным урачыстым гіпсам:



*«Неўзабаве я, засмучаны гэтым цьмяным днём і прадчуваньнем маркотнага заўтрашняга, машынальна паднёс да вуснаў лыжку з гарбатай, у якой размачыў кавалачак мадленкі. Але ў тое імгненьне, калі гарбата, у якой плавалі крышкі піронжага, дакранулася майго нёба, я здрыгануўся — маю ўвагу прыцягнула нешта незвычайнае, што адбылося ўва мне. Мяне апанавала і адгарадзіла ад сьвету цудоўная радасьць, хаця прычыны яе былі мне невядомыя. Зь яе волі жыцьцёвыя нягоды адразу ж зрабіліся мне абыякавымі, бедзтвы жыцьця — бясшкоднымі, яго кароткая працягласьць — ілюзорнай, быццам бы любоў перапоўніла мяне сваёй каштоўнай сутнасьцю; дакладней, гэтая любоў была не ўва мне, яна была мной самім. Я забыўся пра сваю пасрэднасьць, выпадковасьць, сьмяротнасьць. Адкуль прыйшла да мяне гэтая радасьць, што мае такую ўладу? Я падазраваў, што яна неяк зьвязаная са смакам гарбаты і піронжага, але бясконца большая за яго, яна нейкай іншай прыроды. Адкуль прыйшла яна? Што значыла? Як яе спасьцігнуць?..»*

Пячэнька... Пячэнька «Мадленка». І гэта ў час, калі сонца цэлай Эўропы заходзіла, калі яе мэлянхолія перарасла ў шызафрэнію, калі ўсё вакол руйнавалася і трашчала.

А ў выніку ўсё адно атрымаўся шэдэўр. Безь ніякай асаблівай біяграфіі. Бо галоўныя жарсьці сьвету адбываюцца ў нас саміх. Самае цікавае на сьвеце — гэта нашы прыватныя, нутраныя, нікому не цікавыя жарсьці, кажа Пруст. Вось дзе цуд. Вось дзе пакута. Вось дзе галоўны сэнс. І ня трэба ісьці на якую вайну, кажа гэта салённы хлышч, вечны няшчасны хлопчык з сур'ёзнымі вачыма, сумнымі, як у наркамана або генія.

І як кажа. Яго проза ліецца бесьперапынна і плаўна, як фізраствор. Калі ты ўмееш чытаць Пруста (а ты ўмееш, проста баішся) — табе не пазьбегнуць адчуваньня, што ў цябе ў грудзях, там, дзе звычайна сьціскаецца сьветлы плач па ўсім страчаным, тырчыць канец матавай шкляной трубкі. А другі — у вар'яцкай кнізе, напісанай ні для кога. Застаецца пазайздросьціць тым, хто можа прачытаць усё гэта гэта пафранцуску.

## Вернуты час

*17 лістапада 1989 пачалася аксамітная рэвалюцыя ў Чэхаславаччыне*

У кожнай рэвалюцыі — свой каляндар, шмат якія рэвалюцыі прапаноўваюць сваё летазьлічэньне. Вядома, на памяць адразу ж прыходзіць Францыя зь яе памідорамі... не, тэрмідорамі. Але бывае й так, што рэвалюцыя проста вяртае народу скрадзеныя ў яго дробнымі дэспатамі і іх служкамі гады і дзесяцігодзьдзі. Прага пераменаў — гэта яшчэ і жаданьне вярнуцца да агульнага календара, вярнуцца ў натуральны час, даць яму існьці сваёй адвечнай хадою.

У Савецкім Саюзе часоў перабудовы любілі згадваць праслаўтыя «семдзесят гадоў» («семсят лет как жызьні нет»); летась беларусы, год за годам марачы пра рэвалюцыю, гаварылі пра «васямнаццаць мне ўжэ», намякаючы на паўналецьце сваёй дыктатуры. А вось Чэхія са Славаччынай сёньня ўступаюць ў дваццаць чацьвёрты год ад Раства Дэмакратыі. Зайздросна? Яшчэ як.

Хаця ў той краіне, тады яшчэ Чэхаславаччыне, усё пачалося не зусім з нараджэньня, а хутчэй са сьмерці. У 1939 годзе праскі студэнт-мэдык Ян Оплэтал разам з тысячамі месьцічаў выйшаў на вуліцу, каб пратэставаць супраць нямецкай акупацыі, і быў падстрэлены паліцыяй. У лістападзе 1939-га ён памёр ад ранаў у шпіталі.

Менавіта на пяцідзясятую гадавіну пахаваньня Яна Оплэтала, 17 лістапада 1989 году, на праскія вуліцы зноў выйшлі студэнты. Нібыта каб аддаць даніну памяці герою. Калі студэнцкія калёны дабраліся да цэнтру гораду, у іх было ўжо да паўсотні тысяч чалавек — і ўжо ня толькі памяць кіравала гэтымі людзьмі, а самая што ні ёсьць сучасная сучаснасьць. Вольных выбараў, адстаўкі генсека, адмены манаполіі камуністаў на ўладу — вось чаго яны патрабавалі. І кожны прыстойны чалавек, жыў ён у прыстойнай краіне або не, быў у той дзень зь імі. І нават непрыстойным было ясна: камунізму канец.



А восьмай вечара таго дня чэхаславацкая паліцыя заблякавала некалькі тысяч дэманстрантаў каля Вацлаўскай плошчы — і пачала «зачыстку». Паўсотні чалавек атрымала па галаве, пайшлі чуткі пра застрэленых і памерлых ад ранаў. Такіх паводзін улады ў гэткі дзень даравацьь камуністам ніхто ня мог. Нават тыя, хто памятаў 68-мы і ведаў, чым усё можа скончыцца. Ды толькі ў 1989-м і сталіністу было ясна: савецкія танкі сюды, у Прагу, ніхто пасылаць ужо ня будзе. Чэхам і славакам давядзецца вырашаць усё самім: што з аднаго, што з другога боку палітычных барыкадаў. На шчасьце, гэтая простая ісьціна дайшла да абодвух бакоў.

А далей усё было так імкліва: хітрае маўчаньне спэцслужбаў, разгублены твар генсека Якеша, сямсот тысяч на Лэтэнскім полі ў Празе, сьвечкі, «Грамадзянскі форум» — і яшчэ да надыходу Новага году Вацлаў Гавэл, сам, напэўна, ачмурэлы ад хуткасьці гэтага аксамітнага паветранага зьмея, за якім усе раптам пабеглі, робіцца прэзыдэнтам Чэхаславаччыны. Ён не пабаяўся: ні ўлады, ні часу, ні адказнасьці.

Некалі так будзе і тут. Імкліва і ачмуральна. Тут, дзе час таксама быў скрадзены — і калі ён вернецца, мы зноў трапім у каляндар.

# Па страле на сына

***18 лістапада 1307 Вільгельм Тэль страляе ў яблык на галаве свайго сына***

«Горда ўзвышаецца на галоўнай плошчы Альторфу бронзавая статуя Вільгельма Тэля — ёй няма чаго баяцца ні гістарычнай крытыкі, ні суду маралістаў,» — напісаў швэйцарскі гісторык Антуан Гэсьлер. А што ён яшчэ мог напісаць — з такім прозьвішчам? Бо, кажуць, той самы нягоднік-ляндфогт, немец, які ў чатырнаццатым стагодзьдзі прымусіў Тэля рызыкаваць жыцьцём свайго сына, таксама меў хвамілію Гэсьлер або Гіслер (тут як з Гітлерам, прозьвішча продкаў якога таксама мела некалькі варыянтаў). Вось і давялося гісторыку выбачацца за магчымага продка. Які мала таго, што быў начальнік, дык яшчэ і фэтышыст — што не асабліва вітаецца народам яшчэ з часоў Калігулы і Нэрона.

Бо той сярэднявечны Гэсьлер, як вядома, любіў капелюшы. Як іншыя любяць радзіму, маму і мамбу. Цудоўным восеньскім днём 1307 году ляндфогт павесіў на альторфскай плошчы свой прыгожы капялюш і шчыра не разумеў, чаму тутэйшыя жыхары як адзін адмаўляюцца кланяцца такой выкшталцонай рэчы. «Я ж шмат не прашу! — надрываўся ён, раздаючы направа і налева высьпяткі і аплявухі. — Проста пакланіся і ідзі далей! Ну харошая ж рэч!» Давялося павесіць у прыдачу да капелюша некалькі чалавек, каб астатнія пранікліся хараством гэсьлеравага ўбору.



І вось 18 лістапада Гэсьлер сядзіць ля акна, хутаючыся ў футра, і задаволена ківае: гэты пакланіўся, гэты пакланіўся, і гэтая, і той, праўда неяк непачціва, але нахіліў галаву... А гэты — дык ажно ў пояс, хаця ніхто і не прасіў. Так і хочацца сказаць: ты што, ня бачыш, каму паклоны б'еш? Гэта ж капялюш! Зусім ужо годнасьці няма ў гэтых швайцарцаў. Яшчэ адзін пакланіўся, і яшчэ, і яш...

«Гэй, ты што, ня месны?» — крыкнуў Гэсьлер з акна нейкаму селяніну, відаць, паляўнічаму, бо за сьпінай у таго быў лук і калчан са стрэламі. — «Чыіх будзеш? Зь якога раёну? Чаму раней ня бачыў?»

Селянін спыніўся і задраў галаву.

«Ты, ты! — крыкнуў Гэсьлер. — Ідзі суда! Ты што, тэлевізар не глядзіш? Усе, хто тут клэпае, мусяць пакланіцца гэтаму капялюшыку! Чуеш? Усе!»

Селянін апусьціў галаву і засьмяяўся. Сьмех ягоны быў такі шчыры і гучны, што на яго, здавалася, азірнуўся ўвесь Альторф.

«Ты чо, не дапёр? — Гэсьлер зрабіў зьверскі твар. — Зараз я спушчуся, і ты зразумееш, як трэба родзіну любіць!»

Праз гадзіну страла, пушчаная Вільгельмам Тэлем, прабівае яблык гатунку «50 гадоў кантону Уры», які ляжыць на галаве ў ягонага роднага сына, пазычанага ім у аднаго шматдзетнага альторфца. Страла забівае дванаццаць чарвякоў і надзеі Гэсьлера на сатысфакцыю. Празь некалькі месяцаў іншая страла Тэля трапляе проста ў шчырае, падобнае да зімовага капелюша сэрца дзяржаўнага службоўца Гэсьлера, якому заманулася пайсьці аднаму ў горы, як Баскервілю на балоты. Празь некалькі гадоў жыхары кантону Уры падымаюць паўстаньне і скідваюць новага імпэратарскага намесьніка. Больш іх тут ня зьявіцца. Бо, як той казаў, што гэта такая за незразумелая краіна, у якой нават яблыкі гатовыя загінуць сьмерцю храбрых, але ня даць зямлі, дзе яны вырасьлі, уступіць у Эўразьвяз? І якая страла ляціць даўжэй за ўсё? — тая, якая трапіла ў цэль.

# Чэмпіёны імпэрыі

*19 лістапада 1982 менскае «Дынама» становіцца чэмпіёнам СССР*

Тое першынство любяць успамінаць ня толькі ў Беларусі: напал атрымаўся што трэба, дый гульні былі відовішчныя ды багатыя на галы. А ў самой Беларусі трыюмф галоўнай футбольнай каманды па сваёй значнасьці нечым нагадваў старажытнарымскія... Вось толькі легіянэраў у нашым «Дынама» было няшмат: амаль уся каманда — свае, беларускія хлапцы. Вось жа, 1982 год, чэмпіянат СССР па футболе, вышэйшая ліга: шмат для каго пераможнае шэсьце менскіх дынамаўцаў па турнірнай табліцы зрабілася тады ня толькі нагодай выпіць за беларускі спорт — у соцень і тысяч людзей яно прымусіла заварушыцца заснулае нацыянальнае пачуцьцё. Так, прынамсі, кажуць легенды і казкі былых пакаленьняў...

Менскае «Дынама» ў тым турніры не адзін раз паказала маскалю, што ён дарэмна ўважае сябе за цэнтар футбольнага сусьвету. Ужо ў першым коле менчукі выйгралі ў маскоўскіх «Дынама» і «Спартака», а ў другім дык наагул разграмілі тое маскоўскае «Дынама» зь лікам 7:0.

Перад апошнім турам інтрыга была такая, што пазайздросьціў бы любы аўтар дэтэктываў. Як кажуць, у патыліцу лідэрам са сталіцы БССР дыхалі кіяўляне. Усё мусілі вырашыць матчы «Спартак»-«Дынама» (Менск) і «Арарат»-«Дынама» (Кіеў). Калі б менчукі прайгралі, а кіяўляне перамаглі, залатыя мэдалі паехалі б ва Ўкраіну. Такім чынам, менскаму «Дынама» патрэбная была толькі перамога. «Нам ня трэба спадзявацца, што кіяўляне спатыкнуцца ў Ерэване, — сказаў Малафееў. — Трэба самім вырашыць свой лёс». Рыхтык як нацыянальны дзяяч дваццатых гадоў. Маўляў, у крывавых муках, але народзім.



19 лістапада ў ЛФК ЦСКА менчукі выйшлі супраць «Спартака», перад якім асаблівых турнірных задач ужо не стаяла, але купінай пад нагамі тырчала пытаньне прэстыжу: ну як гэта, нейкім выскачкам-бульбашам у Маскве задуць? Зрэшты, газон у ЛФК ЦСКА быў штучны. І «Спартаку» ён не дапамог.

Ужо на першых хвілінах Гурыновіч выйшаў сам-насам з Дасаевым, але прабіў вышэй. Наагул, першыя пятнаццаць хвілін менчукі атакавалі так актыўна і ўпусьцілі столькі магчымасьцяў — а Дасаеў гуляў так самаадданна, што здавалася, «Спартак» доўга ня вытрымае. А лік першымі адкрылі гаспадары: Калашнікаў, дарма што купец і аўтамат, здолеў адправіць мяч у браму Вергяенкі. Гульня крыху супакоілася. А пасьля пачалася песьня...

28-я хвіліна. Пудышаў-Пракапенка-Гурыновіч: 1:1.

34-я хвіліна. Пудышаў аддае пас на Гурыновіча: 2:1 на карысьць менчукоў.

Пачаўся другі тайм — і зь перадачы Гоцманава магутным ударам забівае Васілеўскі.

57-я хвіліна. Алейнікаў пасьля перадачы з флянгу чацьверты раз засмучае Дасаева. 4:1!

«Спартак» здолеў аднавіць розьніцу ў ліку да мінімуму. Аднак было позна. Салаўём-разбойнікам прасьвістаў калускі судзьдзя, у якога, як у кожнага расейскага правінцыяла, Масква ніколі не выклікала цёплых пачуцьцяў. Яму хацелася дамоў, у Калугу, да жонкі. А золата імпэрыі паехала ў Менск. Сталіцу нашай сацыялістычнай Бацькаўшчыны, дзе бацькі абдымаліся, цалаваліся з суседзямі і даставалі зь лядоўняў назапашаную гарэлку і прывезеную зь вёсак паляндвіцу, каб потым зацягнуць на ўвесь двор «Песьняроў». А мы глядзелі на іх зьнізу ўверх і крычалі разам з усімі: «Ура!». Быццам скончылася нейкая вайна і ўначы мусіў быць салют.

# Што каму далі

***20 лістапада 1929 адкрылася першая выстава Сальвадора Далі***

«Упершыню вокны розуму разнасьцежаныя».

Вось яны, словы, якія будзе так любіць Джым Морысан і якімі ў другой палове дваццатага стагодзьдзя скарыстаюцца дзясяткі паэтаў і мастакоў, каб патлумачыць уласныя геніяльнасьць або — і так бывае — няздарнасьць. А пачалося ўсё з Андрэ Брэтона, які абраў менавіта такое хітрае тлумачэньне, калі пісаў анатацыю да адной з арганізаваных ім выставаў, што чакаліся ў Парыжы ў лістападзе 1929 году. На той час — менавіта «адной з»: Сальвадора Далі, чые карціны меліся быць прэзэнтаваныя з 20 лістапада да 5 сьнежня ў галерэі Каміля Гоэманса, ведалі на той час хіба такія, як ён сам, вар'яты і кракадзілы-геніі. Вялікія закаханыя мастурбатары...

Сарока-варона кашку варыла... Гэтаму далі, гэтаму далі... На той выставе Далі прэзэнтаваў найлепшае, што прыйшлося да душы ягоным новым сябрам-сюррэалістам. «Партрэт Поля Элюара» (зь якім Далі пазнаёміўся зусім нядаўна ў Кадакесе і ў якога Далі «зьвёў» жонку — або, дакладней, яна сама сябе «зьвяла»). Напярэдадні выставы Элюар піша Галі пра тое, што купіў «цудоўную мэблю і ложак з амэрыканскім матрасам» — а ў гэты час Далі займаецца тым, што цалуе чужой жонцы ногі. Потым было яшчэ палатно «Сьвятое сэрца» — са словамі «Часам дзеля задавальненьня я плюю на партрэт сваёй маці», якое чамусьці ўзьненавідзеў мастакоў бацька (вось жа цікава, чаму?). «Акамадацыя жаданьняў», «Змрочная гульня»... Ну, і знакаміты «Вялікі мастурбатар». Гэта была першая пэрсанальная выстава Далі ў Парыжы — падзея, зь якой мог атрымацца пшык, а мог і напышлівы трыюмф: у выпадку з Далі выйшла нешта сярэдняе. Ён наагул не паддаецца ніякім бінарным апазыцыям, як містэру Біну — розныя апараты, як містэр Бін, ён — унікум, яго немагчыма параўнаць ні з кім — а таму можна з усімі.



Самога мастака на выставе не было. Галя — тая самая «зьведзеная зьвязда» Галя! — павезла Далі ў Гішпанію блукаць па пляжах. Праўда, у Парыжы Далі ўсё ж пабываў. Ён прыехаў за некалькі дзён да пачатку выставы і першай ідэяй, якая прыйшла ў галаву Далі ў сталіцы мастацтваў, была арыгінальная ідэя купіць Галі кветак. «Пачым цьвяточкі?» — запытаўся ён у гандляркі, растапырыўшы вусы і ўказваючы на агромністы букет, які Далі раптам закарцела намаляваць у выглядзе вялікай задніцы. «Па тры франкі», — адказала сьціплая парыжанка. «Я бяру ўсе», — сказаў Далі і ледзь не паваліўся пад цяжарам уручаных яму расьлінаў.

Высьветлілася, што кветкі былі па тры франкі штука. Гонар не дазволіў генію адмовіцца ад куплі. Аддаўшы ўсе грошы, якія былі пры ім, ён горда рушыў да дому, дзе жыла Галя. Трамвай ехаў па вуліцы Глузду, паўз бульвар Славы, праз плошчу Таемных Жаданьняў, праз завулак Пукаў. Наперадзе была Галя, наперадзе была Будучыня, наперадзе была чорная дзірка, у якую, як у пыласос, неўпрыкмет уцягвалася ўсё, што табе некалі недадалі — але дададуць, да-да, дададуць.

# Рэвалюцыя ў чорным

***21 лістапада 1831 паўсталыя ліёнскія ткачы пішуць на сваім чорным сьцягу «Жыць працуючы і памерці ў змаганьні»***

«Vivre en travaillant, ou mourir en combattant ...» Гэта гучыць, можа, і ня так прыгожа, як «Патрыя о муэртэ» або «Жыве Беларусь», і ня так выразна, як «Для ўлыбкі так важны трыццаць дзьве жамчужыны», але таксама цалкам рэвалюцыйна. Жыць, працуючы, або памерці, змагаючыся, — калі выбар такі, дык ленавацца не выпадае, і тлумачальныя запіскі пісаць няма каму... А галоўнае — заяву на звальненьне ніхто не падпіша.

165 тысяч чалавек жыло ў горадзе Ліёне ў 1831 годзе. І трыццаць тысяч зь іх было занята ў ткацкай вытворчасьці. Яшчэ з трынаццатага стагодзьдзя тут пачалі выраблять ліёнскі шоўк — як танную альтэрнатыву ўсходняму. Зрэшты, ніхто з самых знакамітых сыноў гораду — ні Каракала, ні Кляўдый, ні Сэнт-Экзюпэры, ні браты Люм'ер — да шоўку ня меў дачыненьня. Ткач ніколі не ўспрымаўся тут як герой і гарант дабрабыту.



Быццам той шоўк на дрэвах расьце — трасі ды еж, ды на зіму ў слоікі закручвай.

Але 21 лістапада 1831 году на вяровачцы зь ліёнскага шоўку ледзь не павесілася мясцовая ўлада.

З шоўку — зь яго, крывавага — была пашытая самая важная ў ягонай гісторыі тканіна: Чорны сьцяг. З вышытымі на ім золатам тымі самымі словамі: «Vivre en travaillant, ou mourir en combatant».

Сьцяг анархіі — адзіны, які можна лічыць рабочым, ажно да сёньня. Усе астатнія сябе скампрамэтавалі — і тканіна тут ні пры чым.

Час для чорнага сьцяга быў не абы-які. У Эўропе паравала і пыхкала індустрыйная рэвалюцыя. Нізы тут ужо не маглі, вярхі яшчэ не хацелі. Першыя не маглі больш трываць сваю галечу, робячы такую важную для Францыю працу. Вярхі не хацелі павялічваць расцэнкі, купляючы дарагую тканіну, якую прадавалі па ўсёй Эўропе, нажываючы на сваю галаву «Капітал» Карла Маркса. І Ліён выбухнуў.

За тры дні ўзьнятае ткачамі чорнае палотнішча прайшло па цэнтральных ліёнскіх вуліцах зь іх трабулямі, пакуль не апынулася над мэрыяй. 24 лістапада горад быў у руках ткачоў. Адміністрацыю скінулі, у месьце запанавала ўлада лёгенькай прамысловасьці. Трыкатаж як перадумова гільятынажу. Ведама, кароль Люі-Філіп быў у гневе. Яму і праўда хацелася думаць, што тканіна расьце на дрэвах. А тут такі канец казкі...

Каб выправіць недарэчнасьць, ён пасылае ў Ліён войскі, якія бяруць горад ткачоў штурмам. Ткацкая рэспубліка праіснавала нядоўга. Але расцэнкі ўсё ж былі паднятыя. І гэта была першая перамога чорнага сьцяга — калі не лічыць карыбскіх карсараў.

«Vivre en travaillant, ou mourir en combatant». Калі кантрактная сыстэма давядзе кагосьці да масавага самагубства — гэтыя словы, вышытыя золатам на чорным, прыдадуцца ня толькі ў якасьці эпітафіі па памерлай у зародку рэвалюцыі. Тут не Ліён — але часам і лён можа ўзяць на сябе абавязкі шоўку.

# Мама — анархія, тата — Вальтэр Скот

*22 лістапада 1247 памёр Робін Гуд*

22 лістапада 1247 году ў абацтве Кірклейскага кляштара ў Заходнім Ёркшыры ціха і з усьмешкай на вуснах аддаў богу душу стары, адно імя якога некалі наводзіла жах ня толькі на раённае, але і на абласное начальства. Дый у сталіцы яго пабойваліся... Звонку стары выглядаў на рокера-пэнсіянэра: доўгія сівыя валасы, сабраныя ў хвост, скураныя апранахі, завушніца, рукі сінія ад наколак. Так разьвітаўся з гэтым сьветам самы знакаміты ў гісторыі партызан, бацька Робін — ці, як яго называлі па-тутэйшаму, Робін Гуд.

Роб ін худ: часам этымалёгію ягонага імя тлумачаць менавіта так. Разбойнік, маўляў, у капелюшы. Больш прасунутыя дасьледчыкі намякаюць, што словам «гуд» у ваколіцах Шэрвудзкага лесу спрадвеку называлі прафэсійных ведуноў. Ёсьць і іншыя вэрсіі, чаму ангельскага партызана звалі менавіта Робінам Гудам, а ня, скажам, Крыстафэрам Робінам, Рабінзонам ці, чаго ўжо там, Рабіновічам.

Кажуць, ён быў ня тое што выдумкай, але так... Зборным вобразам. Пэрсанажам народных паданьняў, якія так любяць выкарыстоўваць у службовых мэтах пісьменьнікі і паэты, змарнелыя ў пошуках арыгінальных сюжэтаў. Праўда, у адным дакумэнце тых часоў ёсьць нават згадка пра чалавека, які мог



бы быць рэальным Робінам Гудам: Rob Hod, Fug. То бок уцеклы ў невядомым накірунку. Ну, а мы накірунак ведаем...

Дык як жа ён дайшоў да жыцьця такога — партызанска-рокерскага?..

...Чаму ён так зьмяніўся з часам,
Што да разбойства давяло,
І да крыві людзкой стаў ласым,
Сваё пакінуўшы сяло?

Ці дома хлеба меў замала,
Ці крыўду вызнаў ад каго,
Ці мо прастору не ставала,
І ў пушчы стаў шукаць яго?

Гэтымі пытаньнямі, як вядома, задаўся ў свой час Янка Купала, распачаўшы сьледчую дзейнасьць па справе слаўнага разбойніка. Ня іхнага, а нашага — Машэкі, раней не судзімага ўраджэнца Магілёўскай вобласьці.

Не любіць уладу, дзяліцца зь бяздольнымі, ставіць на месца алігархаў, паводзіцца як сапраўдны мужык. Што яшчэ трэба, каб зрабіцца народным героем? Напэўна, толькі лес, ды вінтоўка, ды балотны гушчар. Ну, ці лук замест вінтоўкі. І каханьне — якім Робін таксама ня быў абдзелены.

У кожнай эпохі і кожнага народа свае Робіны і свае Гуды. Дарэчы, імя гэта выглядае як нейкі намёк на беларуса. Мала таго, што «Робін» гучыць вельмі па-славянску: рабіў чалавек на сваёй зямлі, з ранку да ранку, работы хапала, а яго пакрыўдзілі ні за што, вось і падаўся ў лясы. Дык яшчэ і «гудай» — гэта ж традыцыйны літоўскі назоў беларусаў, хаця і ня толькі іх... Робінгуды растуць там, дзе душна, цесна, прыніжальна і хочацца закапацца ў зямлю, у цяплічнай стабільнасьці, дзе няма як паварушыцца ад сваволься розных начальнікаў. Куды ты ўлез, Робін? У лес, Уліс.

# Маё і нашае

***23 лістапада 1906 выйшаў першы нумар Нашай Нівы***

Тры — магічная лічба. Сьвятая, сакральная.

Тройчы адракаюцца, тройчы цалуюцца, тройчы кропку ставяць, калі словаў няма... ці каб наморшчыць фразу, як скуру на лбе.

Тройчы. А маглі б семдзесят чатыры ці сто пятнаццаць і шэсьць дзясятых — дык не, магія з рэлігіяй не дазваляюць: тры і ўсё тут, не памнажай сутнасьці без патрэбы. Тры сямёркі на партвэйне, і парашок пральны — тры ў адным, і той, чыё імя нельга называць, таксама адзін у трох асобах: адзін спакушае, другі па фінансах, трэці ў кацельнай завіхаецца. На траіх «саабражалі», калі гарэлка была амаль па тры рублі. «Тры топалі» на нейкай там Плюшчысе, а на дыванку, які раней можна было пабачыць у любой беларускай вясковай хаце, тупалі трое расейскіх асілкаў — як іх там звалі? Дабрыня, Шырыня і Даўжыня? Тры ў любога народу — больш за проста тры. Ідзе, як тры дні ня еўшы, тры чвэрці да сьмерці, кажуць на Лагойшчыне. Як пойдзеш нацянькі, дык праходзіш тры дзянькі. Што можа, і някепска, калі сэнс — у самой дарозе.

«Нашых Ніваў», як вядома, таксама было тры. «Наша Ніва» першая, Вольскага, Уласава і Купалы, стартавы нумар якой выйшаў 23 лістапада 1906 году, і дзень гэты варта было б лічыць пачаткам беларускай журналістыкі (да першай НН далучым і тыя дзевяць нумароў, што выйшлі ў 1920-м). Была «Наша Ніва», адноўленая ў 1991-м. Ужо другі дзясятак гадоў маем трэцюю. Улічваючы пройдзеную ёй дарогу, яна наагул сьвятая: што ў шырыню, што ў даўжыню, што ў дабрыню. Ёсьць і іншыя вымярэньні — прыватныя. Але прыватнае — гэта, як у школе кажуць, «яно маё».



Магчымасьць знайсьці «маё» ў «нашым» — тое, што робіць натоўп народам. Немэдыйная па сваёй складанасьці місія, якую «Наша ніва» бярэ на сябе ўжо больш за стагодзьдзе.

Якая з трох НН самая мая? Пэўне, усе тры ўплывалі і ўплываюць на кожнага, хто можа зьвязаць два словы па-беларуску. Уявіць сабе беларускае жыцьцё без НН — немагчыма. Як немагчыма жыць у доме бязь люстраў — бо так і не даведаешся, чаму суседзі зь цябе сьмяюцца. Першая НН — гісторыя, другая — літаратура, трэцяя — проста песьня. Падшыўку першай вывучаюць, як дакумэнты, падшыўку другой захоўваюць дома, як скарб, падшыўку трэцяй...

Сёньняшняя «НН» выглядае шыкоўна і дэманічна, зразумець яе — задача ледзьве не з галіны эзатэрыкі. Яна — тэтраграматон беларускай мэдыйнай прасторы, яна як кубак Грааля. Аўтар «Нашай нівы» — гэта гучыць горда. Вораг «Нашай нівы» — ганебна. Чытач «Нашай нівы» — гэта дыягназ. Герой «Нашай нівы» — гэта вырак. Кожны другі загаловак «Нашай нівы» — загадка. У гэтым усім цяжка разабрацца, калі ты не беларус, калі ня звыкся, што наша — яно ўсё такое. Трошачкі нерэальнае, калі думаць пра яго ўсур'ёз. Трошкі занадта сур'ёзнае для нармальнай рэальнасьці.

Не, у тым, што яна «Наша», сумневу няма. Часам яна настолькі наша, што страшна робіцца. Але «наша» — гэта яшчэ і нічыя. У сэнсе, непартыйная, непадуладная, незалежная. Што, напэўна, лепш, чым калі б для кагосьці яна зрабілася сваёй. Усё ж самае папулярнае выданьне на беларускай мове — а ў папулярнасьці, як вядома, два бакі. Як і ў люстра.

# Малпа, якая хацела быць Богам

*24 лістапада 1859 выходзіць кніга Дарвіна «Аб паходжаньні відаў»*

Шум у залі сьціх. Ён выйшаў на падмосткі, прысланясь... і гэтак далей. Скруціў хвост і схаваў на сьпіне, каб ніхто не пабачыў. Час хвастоў яшчэ не надышоў.

«Скажыце, містэр Гакслі, вось гэтыя вашыя погляды... Ці не атрымалі вы іх у спадчыну ад малпы — якая, як вы нам тут расказваеце, была вашай, даруйце, пра-пра-пра-бабуляй?..» — спытаў, пераможна ўсьміхаючыся, біскуп Ўілбэрфорс, і зірнуў на аўдыторыю: як я яго, га?...

Размова адбывалася ў музэі гісторыі прыроды Оксфардзкага ўнівэрсытэту. Народу набілася — яблыку не было дзе ўпасьці. Або банану. Лэдзі Брустэр страціла прытомнасьць, калі пачула, што за тэма тут абмяркоўваецца. Гакслі абвёў позіркам публіку — і зь нейкай дзіўнай расчуленасьцю ўявіў сабе ўсіх гэтых чырванатварых студэнтаў, тоўстых прафэсараў і завітых спадарынь як хвастатых істотаў зь сяржанцкімі скіўіцамі, істотаў, якія корпаюцца адзін у аднаго ў бухматай поўсьці, адшукваючы блох. І зноў яго наведала пачуцьцё цудоўнай гармоніі.



«Я з большай радасьцю пагадзіўся б весьці свой радавод ад малпы, чым ад невука», — прамовіў ён спакойна, гледзячы біскупу проста ў вочы.

Воплескаў у той вечар Гакслі дасталася ня менш.

Чалавек, які выклікаў такія жарсьці, — Чарлз Дарвін, у залі адсутнічаў. Між тым, гэта ягоная кніга пад ляканічнай назвай «On the Origin of Species by Means of Natural Selection, or the Preservation of Favoured Races in the Struggle for Life», якая выйшла 24 лістапада 1859 году ў выдавецтве Джона Марэя, паклала пачатак «малпавым войнам» — судовым працэсам, дэбатам, забаронам і нават забойствам, якія не спыняюцца да сёньняшняга дня. Хаця ў самой кнізе Дарвіна пра малпаў нідзе наўпрост ня сказана, што яны продкі чалавека (Дарвін асьцярожна і досыць аргумэнтавана сфармулюе гэта ў пазьнейшых працах), малпіна тэма на той час была, як кажуць, актуальнай: і кожнага вучонага правяралі на чысьціню, то бок ягоную магчымую схільнасьць да блюзьнерства... Адно лішняе слова — і...

Апошні з сучасных скандалаў, якія адбываліся параўнальна недалёка ад Беларусі, праходзіў у сумныя часы, калі тэорыя Дарвіна лічылася састарэлай, і скончыўся перамогай дарвінізму над 15-гадовай Машай Шрайбэр. Дзяўчынкай, якая не хацела мець бабулю-малпу, бо тата навучыў Машу, што малпа — гэта д'ябальская істота, а жанчын робяць з рэбраў, як рагу. Дарвіна забаранялі так часта, быццам ён быў адначасова парнографам, экстрэмістам, нацыстам, яўрэем, камуністам, какаіністам, постмадэрністам і вэйсманістам-марганістам. А да яго насамрэч немагчыма было прыклеіць ніводнае з вызначэньняў, апрача аднаго — навуковец. Усё астатняе — ад нячыстага. Чалавек ён або малпа — якая розьніца.

У юнацтве Чарлз Дарвін хацеў зрабіцца сьвятаром. Больш за ўсё на сьвеце яго цікавілі Сьвятое пісьмо і жукі. «Я ня меў

ніякага жаданьня аспрэчваць ніякія догмы, але пры гэтым я ня быў такім ужо дурнем, каб сказаць сабе пра нешта: веру, бо гэта неверагодна», — успамінаў аўтар «Паходжаньня відаў». Цяжка сказаць, жукі тут перамаглі або генэтыка: Дарвінаў дзядуля быў такі самы скандаліст, ды яшчэ і паэт. Прынамсі, свае погляды на тое, якую ролю ў эвалюцыі адыграла барацьба за існаваньне, ён выклаў у рыфмаванай форме амаль за стагодзьдзе да таго, як унук прымусіў сьвет здрыгануцца, а чалавецтва адчуць, што на копчыку ў яго нечага не хапае.

Выдавец Джон Марэй не прагадаў. Усе 1250 асобнікаў кніжкі Дарвіна былі раскупленыя за некалькі дзён, праз два месяцы выйшла другое выданьне. Людзям заўжды было цікава, адкуль усё ўзялося і куды яно падзенецца, калі надыдзе час. Цяпер і малпе ясна, што ня мелі рацыі ні дарвіністы, ні іх праціўнікі, ні крэацыяністы, ні лямаркісты, ні нацысты, ні камуністы, ні какаіністы, ні парнографы. Ні нават тыя, хто пайшоў трэцім шляхам і ўдакладніў усіх на сьвеце. Абсалютна зразумела, што ўсе мы паходзім з аднаго пакеціка з чыпсамі, які некалі даўно забыў некалі на гэтай плянэце заблукалы ў міжземных прасторах астранаўт. Чыпсы былі рознай формы, адсюль і разнастайнасьць. Усе хрусьцелі, усе крышыліся, усе былі з сырам. І з часнычком, спадары біскупы, і з часнычком.

# Хочаш?

*25 лістапада 1867 Нобэль патэнтуе дынаміт*

Усё проста. Хочаш усеагульнай крывавай вайны? Няма нічога лепшага, як сабраць разам тысячу пацыфістаў і нацкаваць іх адно на аднаго. Хочаш міру на Зямлі — тады прыдумай рэчыва з хуткасьцю дэтанацыі каля 8000 м/с, фугаснасьцю 600 мл, цеплынёй выбуху 6 з паловай МДж/кг і прыстойнай брызантнасьцю.

Менавіта так зрабіў Альфрэд Нобэль, які 25 лістапада 1867 году атрымаў у ЗША патэнт на свой дынаміт. За чатыры гады да гэтага ў Швэцыі выбухнуў завод па вытворчасьці нітрагліцэрыну, фамільнае прадпрыемства Нобэляў — пры аварыі загінуў 20-гадовы малодшы брат Альфрэда. Іншы б плюнуў на клятую выбухоўку, якая настолькі апанавала іхныя розумы, што пачала нішчыць сям'ю — але ня Нобэль. У няўдачах дух расьце, сказаў Альфрэд і працягваў экспэрымэнтаваць далей, каб прыручыць нарэшце той нітрагліцэрын. І вось рашэньне было знойдзенае — і называлася яно кізельгур, ён жа — дыятаміт, у крымінальным мінулым — водарасьці трацічнага пэрыяду. Зь ім выбухоўка стала паддавацца дрэсіроўцы.



Засталося знайсьці прыгожую назву — і тут Нобэль выявіў сябе чалавекам з густам. Слова загучала, як музыка... і гучыць дагэтуль, хоць сам дынаміт даўно ўжо не кароль: ні руйнаваньня, ні пацыфізму. Поўнагалосьсе, відаць, спрацавала. «Дынаміт» на любой мове гучыць хораша. Нават калі так называюць фанаў якога-небудзь «Дынама».

У сямідзясятыя гады дзевятнаццатага стагодзьдзя заводы Нобэля выраблялі ўжо тры тысячы тонаў дынаміту за год. Пасьля дынаміту сьвет пачаў узмоцнена рыхтавацца да міру — безь яго, радзімага, не абыходзілася ніводная нармальная вайна. Нават вызваленчая, абарончая, прэвэнтыўная, ці якія там яшчэ ёсьць псэўданімы ў забойства.

Хочаш маральна зьнішчаць людзей, труціць іх прагай лёгкай нажывы і духам нездаровай канкурэнцыі? Хочаш забіваць літаратуру, ператвараючы яе ў шоў, у спорт, у мадэльны бізнэс? Хочаш, каб подых подлай каньюнктуры адчуваўся ў кожным руху культуры, у найменшай праяве мастацтва? Хочаш, каб слова букмэйкераў значыла тое самае, што слова літаратара — калі ня больш? Хочаш, каб міратворчасьць зрабілася бізнэсам, а заслугі — таварам? Тады самы час заснаваць Вялікую Прэмію. І раз на год гнаць яе рабоў у накірунку Стакгольму. Пакланяцца, кусаць локці і марыць, што ўжо ў наступным годзе дык дакладна — мы ўсё ўгадаем. Прыручым сьмерць — бо чым ёсьць усе залі славы, прэміі, ганаровыя званьні і тытулы прарокаў і апосталаў, як ня спробай зрабіць яе бясьпечнай?

## На тым беразе

*26 лістапада 1812 Напалеон пераправуляецца цераз Бярэзіну*

Кажуць, у тую ноч, з 25 на 26 лістапада, Напалеон зусім ня спаў, ледзьве ня кожныя пяць хвілін выходзячы «na peracure». Ён спыніўся ў доме барона Корсака, у маёнтку Радзівілаў каля Старабарысава. Напярэдадні ён пабываў у самім Барысаве, паглядзеў на крыгі, што плылі па Бярэзіне, як нейкая варожая флятылія, на зруйнаваны мост, на дымок, што віўся над расейскай батарэяй, і яшчэ раз падзякаваў у думках аднаму са сваіх генэралаў, які надоечы выпадкова адшукаў брод каля Студзёнкі, кілямэтраў за пятнаццаць вышэй па рацэ. Цяпер усё залежала ад таго, ці павядуцца расейцы на ягоны падман...

І яны павяліся. Ніхто і падумаць ня мог, што францускія атрады, якія пасьвіліся каля моста, яго пасьпешлівы і нейкі бесталковы рамонт, які нічым ня скончыўся — усяго толькі хітрасьць. У гэты час, а восьмай раніцы 26 лістапада, войска



Напалеона ў зусім іншым месцы пачало пераправу. Зрэшты, вада была аднолькава сьцюдзёная і там, і тут — тыя з жаўнераў, якія ладзілі пантоны, амаль усе памерлі ад пераахаладжэньня. Аднавокі расейскі фэльдмаршал з галоўнымі войскамі быў у гэты час за сто кілямэтраў ад месца падзей — і калі расейскія атрады знайшлі пераправу, іхных сілаў было замала, каб ёй перашкодзіць.

Пантонных мастоў было пабудавана два: адзін для людзей, другі для транспарту, нагружанага так, што ён амаль плыў па рацэ. Існаваў загад пераправуляць толькі тых, хто меў пры сабе зброю — імпэратару патрэбнае было толькі баяздольнае войска, галодныя, абарваныя няўдахі яго не цікавілі... А такіх было некалькі тысяч. Нягледзячы на цісканіну і хаос, 29 лістапада тое, што можна было ўратаваць, было ўратаванае. Імпэратар апошні раз зірнуў на той бераг і загадаў падпаліць пантоны і рушыць на захад.

На тым беразе гэтаму ня надта ўзрадаваліся. Тысячы салдатаў, якія не пасьпелі пераправіцца, кінуліся ў ваду, спрабуючы прарвацца да сваіх. Тым часам пачалася атака расейскага войска, якое з задавальненьнем дабівала пакінутых жаўнераў імпэратара. Тыя ўскарасквалiся на ахопленыя агнём пантоны, падалі, караскаліся зноў...

«А праўда, што гэты маскаль Кутузаў — аднавокі?» — запытаўся француз Ражэ ў свайго тутэйшага таварыша зь дзіўным імем Завальня... Усе яго называлі Бывалы. Яны крочылі поруч па дарозе, раз-пораз азіраючыся на ўсход, дзе ў вечаровым небе можна было разгледзець водбліскі вялікага зарыва.

«Чыстая праўда, — адказаў той. — Турэцкая куля трапіла яму ў левую скронь, праляцела праз нос, як пчала, і выбіла правае вока, быццам корак з бутэлькі шампанскага».

«Ды ну, адкуль ты можаш ведаць, што так усё і было... — засьмяяўся Ражэ. — Пісьменьнік, маць тваю...»

«Мы тут усё ведаем, усё і пра ўсіх, — сказаў Бывалы. — Краіна такая... Ты ідзі, Ражэ, ідзі, я даганю...»

# Па Гроб

*27 лістапада 1095 папа Рымскі Урбан II упершыню заклікае да крыжовага паходу на Ерусалім*

«А зямля там поўная малака і мёду...» — сказаў папа Рымскі Урбан II і краем вока зірнуў на натоўп, які сабраўся на галоўнай плошчы Клермона. Натоўп маўчаў, чакаючы, што папа скажа далей. Твары пакуль што былі даволі змрочныя.

«Малака, мёду... — працягваў папа. — Тварагу, кефіру, ацыдафіліну, кумысу, вяршкоў, сьмятаны, масла сялянскага, ражанкі, згушчонкі...»

«Маянэзу,» — пачціва падказаў нехта з рыцараў.

«Маянэзу, — пагадзіўся папа. — І няхай тыя, хто не знайшоў шчасьця тут, знойдзе яго там, і тыя, хто тут быў рабаўнікамі і бандытамі, там зробяцца... »

«Падатковымі інспэктарамі», — нецярпліва прамовіў адзін нізкарослы чалавек, які глядзеў Папу проста ў рот.

«...Адважнымі воінамі, — узьняў Папа указальны перст. — Вызвалім жа Гроб Гасподні ад няверных, ачысьцім Сьвятую Зямлю ад сарацынаў!»

«Так хоча Бог!» — адгукнуўся з палёгкай сход.

Год быў самы спрыяльны для арганізацыі паходу — «той парою была вялікая галеча, нават у заможных людзей, бо не хапала хлеба», — піша храніст. «Бедны люд карміўся карэньнем расьлінаў, багатыя асобы выракалі сябе на скрайнюю ашчаднасьць...» Папа ведаў, што і каму казаць, словы западалі ў душы, як кавалкі «Нарачанскага». Ведаў, што можа абудзіць народ, і Пётра Пустэльнік, манах, вакол якога імгненна згуртаваліся добраахвотнікі, будучыя вызваліцелі таго самага Гроба.



Той Пётра хадзіў басанож, у ваўнянай кашулі з капюшонам на голае цела, хлеба ня еў, малака ня піў, ужываў толькі рыбу і віно — таму ніколі не хварэў, не апускаў носа, меў аўтарытэт і быў, гэткім чынам, як найлепш прыдатны на ролю народнага правадыра. Увесну наступнага году вялікае хрысьціянскае войска зь сялянаў, дробнай шляхты, рамесьнікаў без дыплёму і мэнэджэраў ніжэйшага зьвяна рушыла ў свой першы ўсходні паход. Ніхто зь іх не ўяўляў, дзе тая Сьвятая Зямля, хто там жыве, што за людзі гэтыя няверныя і што рабіць, калі войску пашчасьціць дабрацца хаця б да Канстантынопалю.

Першыя некалькі дзён праляцелі хутка — за сьпевамі рэлігійных гітоў, пікнікамі на ўзбочынах і няспыннай дзяльбой пакуль што не ўвасобленых мараў. Потым ежа скончылася. Вызваліцелі пачалі рабаваць гарады і вёскі, а тых, хто не хацеў карміць адважных ваяроў, забівалі на месцы. Што зробіш, так ва ўсе часы дзейнічаюць усе вызваліцелі — трэба ж на некім трэніравацца перад галоўнай бітвай.

Улетку дваццаціпяцітысячнае войска дабралася да ваколіц бізантыйскай сталіцы. Спалохаўшыся такой канцэнтрацыі рознага зброду ў горадзе, канстантынопальцы пераправілі вызваліцеляў праз Басфор, дзе гэты стракаты натоўп са зьдзіўленьнем знайшлі галаварэзы султана Кылыджы-Арслана. Сэльджукі перабілі амаль усіх гасьцей цягам аднаго дня. Ацалела толькі некалькі тысяч, у тым ліку Пётра Пустэльнік — магчыма, таму, што ён не любіў ні малака, ні мёду, а толькі рыбу і віно, ды часам крывяную каўбаску.

Тым часам у жніўні пачаўся першы сапраўдны, цяжкаатлетычны крыжовы паход, удзельнікам якога пашанцавала больш. Папа Урбан II, зрэшты, так і не даведаўся, што Ерусалім празь некалькі гадоў быў узяты — нібыта ім авалодалі за некалькі дзён да сьмерці Папы, але пакуль вестка дайшла да канцылярыі, Урбан ужо сам быў у мясьцінах, ня надта аддаленых ад сьвятых.

# Вечна другі

*28 лістапада 1820 нарадзіўся Фрыдрых Энгельс*

Каму камунізм, а каму Някрасаў для нэкралёгу: «Які сьвяцільнік розуму пагас, якое сэрца біцца перастала!» — ужыў прыгожую цытатку Ленін, калі даведаўся пра сьмерць Энгельса. Сэрца ў Энгельса і праўда было добрае: вялікае, чатырохтактнае, даўгавечнае... Давезла амаль да канца стагодзьдзя. І сьвяцільнік ён меў неблагі — ня кожны немец здолее чытаць Пушкіна ў арыгінале; прынамсі, асьляпіць Энгельс з Марксам здолелі шмат каго... А некаторым пралілі сьвятло на ісьціну — пляма засталася, не адцерці.

Энгельс з Марксам: тут наўмысна парушаны адвечны парадак словаў, каб паглядзець, што будзе. Бо Энгельс заўжды выклікаў больш спагады за свайго сябрука менавіта праз тое, што пісаўся другім, пасьля коскі або сьціплага «і». Зьмякчальная акалічнасьць. І наўрад ці рэч тут у альфабэце. Скажы «Энгельс з Марксам» — бачыш, нічога ня здарылася, а значыць, сіла была не ў субардынацыі.

Калі Фрыдрых Энгельс паміраў у Лёндане ў 1895-м, дык мог сказаць, не саромеючыся, што ў іх з Марксам атрымалася зьмяніць сьвет. Калі б Сталін быў такім інтэлектуалам, ад сьвету наагул нічога не засталося б.



А нарадзіўся Энгельс 28 лістапада 1820-га ў Бармэне каля Вупэрталю. Тыя, хто прыдумляе біяграфіі знакамітым людзям, расказваюць, што калі Энгельсу было шэсьць, ён шмат думаў пра бога. І не баяўся палохаць сямейных такімі маналёгамі:

«Я ведаю, хто такі бог! Гэта злосны, несправядлівы дзед! Ён любіць, каб яго заўжды хвалілі, і карае тых, хто мала яму кланяецца! За што ён загубіў таго хлопчыка на фабрыцы? Мы ўсе здаровыя, хата ў нас вялікая, а рабочыя на татавай фабрыцы хворыя, жывуць бедна! Чаму бог ім не дапамагае?»

Калі Энгельс вырас, ён працягваў палохаць дарослых.

«Грамадзтва, якое па-новаму арганізуе вытворчасьць на аснове вольнай і раўнапраўнай асацыяцыі вытворцаў, выправіць дзяржаўную машыну туды, дзе ёй найлепшае месца — у музэй старажытнасьці, побач з калаўротам і бронзавай сякерай».

Як водзіцца ў інтэлектуалаў, ён аддаў даніну таму, што называецца «паліваць радзіму брудам»:

«Якая прыгожая расейская мова! Усе перавагі нямецкай безь яе жахлівай грубасьці!»

Адзін з заснавальнікаў марксізму... Чаму не энгельсізму? Нават гэта робіць Энгельса чалавечнейшым. Знайсьці ў Энгельсе чалавечае няпроста, але з кожным дзесяцігодзьдзем усё лягчэй. Ён любіў ірляндзкае рагу. Мог каструлю зьесьці і з Марксам не падзяліцца: капітал капіталам, а бараніны на ўсіх ня хопіць. Хіба мог кепскі чалавек так любіць ірляндзкае рагу? Нядаўна ў Нямеччыне выйшла кніжка пра такіх Маркса і Энгельса, пра якіх гаварыць было не прынята. У іх яны паўстаюць нармальнымі такімі людзьмі: ксэнафобамі, расістамі і эгаістамі. «У Індыі наагул не было гісторыі», — казаў Энгельс. Які лічыў, што Бэльгію і Нідэрлянды трэба германізаваць. Які ненавідзеў гомасэксуалістаў і абзываў Лібкнэхта нецэнзурнымі словамі, якія хаця і маюць усе «перавагі нямецкай мовы безь яе жахлівай грубасьці», але наўрад ці вартыя цытаваньня. Стары, несправядлівы дзед, які, як і кожны з нас, любіў, каб яго хвалілі, і караў тых, хто мала кланяецца.

# Дзяўчына зь Ленінграду

***29 лістапада 1961 узарваны Фарны касьцёл у Горадні***

Больш за поўтысячагодзьдзя прастаяў на зямлі гарадзенскі касьцёл Найсьвяцейшай Панны Марыі, і людзей бачыў самых розных: салдатаў і сялянаў, паноў і папоў, дурняў і геніяў, вялікіх людзей зь люлькамі і малых зь лялькамі, лютых люпусаў і гаманлівых гуманусаў — магчыма, адзіныя, каго яму так і не давялося разгледзець сваімі вачніцамі, былі іншаплянэтныя гуманоіды, што, зрэшты, таксама факт недаказаны. Ведама ж, храм шмат разоў рэканструявалі, палілі, смажылі, тушылі і перабудоўвалі, лячылі і зноў нявечылі, але лёс кожнага храму — займаць прастору незалежна ад сваёй фізычнай прысутнасьці ў ёй.

Так жыў ён, тужыў, суцяшаў і сьцішваўся — пакуль не прыехала ў Горадню простая ленінградзкая дзяўчынка, пра якую ўсе казалі «вундэркінд», не махнула хвосьцікам і ня выправіла храм божы і помнік архітэктуры на той сьвет, у той забаронены рай, дзе сустракаюцца ўсе зьнішчаныя будынкі, хрушчоўкі яны, гандлёвыя цэнтры або храмы госпадня.

Яна і праўда была вундэркіндам: калі можна назваць цудам прыроды генія руйнаваньня, калі можна захапляцца непасрэднасьцю дзіцяці, калі яно падпальвае чужы дом. Хадзіла тая дзяўчына з маленькім нататнічкам. І вось так хадзіла яна вакол той Фары Вітаўта, хадзіла, а потым прысядзе на кукішкі — і нешта ўсё ў нататнічку сваім, такім самым мініятурненькім, як сама, запісвае. Дробнымі такімі лічбачкамі. У маленечкім такім нататнічку.



А запісвала яна ў ім вуглы сьвідраваньня і глыбіню шурфу. Знаёмая гарадзенская журналістка, якая гаварыла са сьведкамі тых падзей, расказала, што перад самым выбухам дзяўчына заходзіла ў пусты, асуджаны касьцёл зусім адна, праверыць, ці ўсё ў парадку.

Праўда, і сам касьцёл, здагадваючыся пра тое, якая доля яму падрыхтаваная людзьмі, не стаяў сабе зусім ужо склаўшы рукі паміж Садомам і Гаморай: Домам Саюзаў і Домам тэкстыльнікаў. Нехта магутны той восеньню 1961 году ўсё ж прызямліўся ў Горадні з місіяй уратаваць дом божы. Сьведкі прыгадваюць, што па прыезьдзе ў горад дзяўчына-падрыўніца адразу ж захварэла, ды так, што некалькі дзён падняцца не магла. Быццам у казцы з кніжкі Баршчэўскага. Быццам цягам тыдня трываў жорсткі двубой нябачных для простага савецкага грамадзяніна сілаў.

29 лістапада здавалася, што ўсё ў гэтай барацьбе вырашана.

«...Касьцёл нібыта нейкай страшнай рукой быў падняты ўверх, а потым пачаў таяць на вачах. Ён апускаўся ўніз. А калі напалову зьнік, зьнізу падняліся клубы густога пылу. А зьверху апускаўся дах, які схаваўся ў пылавым воблаку...»

Гэта была Горадня. А тут Менск. Міжволі думаеш і пра яго: дом, турму, лёс, выгляд з акна... Малую радзіму ў вялікіх радзімых плямах. Калі ты, госьцю, ня вырас тут і прыехаў сюды зь якога-небудзь Санкт-Сталінабаду, у той млявы і сонечны час, калі бацькі твае шукалі спакою і сытасьці — ці хопіць у цябе цяпер павагі да нечай памяці, спагады да нечых фантомных боляў, чуласьці да нечых ранаў? Каб выкінуць свой нататнічак, падумаць пра нечыя прыватныя цуды — і калі ня ўкленчыць перад імі, дык хаця б выкінуць неабачліва ўручаны табе гісторыяй ключ?

# Слаўныя справы

*30 лістапад 1595 Налівайка з казакамі захоплівае Магілёў*

Злоўленага казака Налівайку катавалі амаль год. Партызан ёсьць партызан, а немцы ёсьць немцы, нават калі яны палякі. Але і самы прыемны занятак калі-небудзь надакучвае. У красавіку 1597 году Пан Бог пачуў Налівайкавы малітвы: казацкаму атаману пасьля непрацяглага роздуму адсеклі галаву, а цела чварталі і разьвесілі часткі на розных гарадзкіх брамах. Праўда, ня ўсе вераць у такую лютасьць. Маўляў, варшаўскія судзьдзі былі значна чалавечнейшыя — насамрэч Налівайку спалілі ў медным быку, такім самым, у якім тыран Фаларыс запякаў жыўцом антычных журналістаў.

Хто ж ён быў, казак Налівайка, праклятый госьць места Магілёва, бацька Машэка, заблукалы ў часе махновец?

Сайт «Русское едінство», здаецца, ведае адказ.

«...По суті, подвігъ Наливайко и его сподвіжниковъ, мужественно сложившихъ головы за русское дѣло и православную церковь, попросту забылі...» Але чорт зь імі, зь яцямі і ерамі. «Да, наверное, прошли какие-то незначимые мероприятия на его родине (хотя и в этом я не уверен), однако на государственном или хотя бы общественном уровне этой дате не было уделено должного внимания. Почему так произошло? ...Всё дело в нашей разобщённости, разделённости Русского мира и русского народа. На Украине, в Белоруссии, да и в России часто пытаются делить исторических персонажей и героев на своих и чужих. Тем же, кто является общерусскими героями, хуже всего, потому что они не вписываются в такое деление. И Наливайко относится именно к таким историческим персонажам. Он, рождённый на Украине, основные и самые славные свои дела совершил во время похода по Белоруссии и совершил их в защиту православной церкви и русского дела...»



Слаўныя справы казака Налівайкі і праўда заслугоўваюць таго, каб пра іх памяталі. 30 лістапада (паводле іншых крыніц, падзея адбылася ў сьнежні) 1595 году госьць Беларусі вольналюбівы казак Севярын Налівайка бярэ горад Магілёў і змагаецца там за народнае шчасьце. "«...домы, крамы, острог выжгли, домов всех яко 500, а крамов з великими скарбами 400. Мещан, бояр, людей учтивых так мужей, яко и жён, детей малых побили, порубили, попоганили, скарбов теж незличеных побрали з крамов и домов», — перадае ў тэрміновым выпуску праграмы «Падзеі дня» спэцыяльны карэспандэнт «Баркулабаўскай кронікі».

Была ў казака Налівайкі свая праўда, была. Вісела на кончыку нажа, як скура з варожай галавы, як кішкі з варожага жывата. Можна зь якога заўгодна пункту погляду глядзець на любую вайну — партызанскую ці праведзеную ў поўнай адпаведнасьці з Гаагскай і іншымі канвэнцыямі. Усё будзе слушна — пакуль хтосьці слухае. А адзіным сапраўды аб'ектыўным поглядам на яе, вайну, быў і застаецца адзін. Погляд дзіцяці з захопленага гораду, якое хаваецца ад гульняў дарослых: пад ложкам, у куфры, у склепе, у шафе... Хахаха. Быццам ложак, куфар, склеп і шафа былі вынайдзены дарослымі для чагосьці іншага. Быццам сама гэтая істота з пашыранымі ад жаху вачыма была народжаная для чагосьці іншага.

# Бой, ды ня той

***1 сьнежня 1953 выйшаў першы нумар часопіса «Плэйбой»***

Пачаць, напэўна, трэба неяк так. Калі вы пагарджаеце «Плэйбоем» і любіце Набокава (які тонкі густ, ах ты госпадзе), значыць, вы не чыталі ні першага, ні другога.

У 1963-м Набокаў, на той час ужо клясык сусьветнай літаратуры і аўтар «Лаліты», даў вялікае інтэрвію Олвіну Тофлеру, якое было надрукаванае ў студзеньскім нумары часопіса за 1964 год. Размова атрымалася харошая і заняла сваё месца ў набокаўскай спадчыне — і ня самае, дарэчы, апошняе. Журналіст пытаўся пісьменьніка пра сур'ёзныя рэчы, мэтр быў у гуморы, але забываць пра тое, дзе выйдзе гутарка, таксама было нельга. «Шмат хто лічыць, што вас натхняюць сэксуальныя звычаі амэрыканцаў?» — закінуў вуду Тофлер. Але беспасьпяхова. Набокаў адразу зрабіўся непранікальны:

«Сэкс як інстытут, сэкс як агульны панятак, сэкс як праблема, сэкс як агульнае месца — усё гэта падаецца мне занадта нудным, каб марнаваць на яго час. Давайце прапусьцім сэкс».

І яны спакойна яго прапусьцілі. Што, улічваючы тое, якога накірунку часопіс меўся надрукаваць інтэрвію, падаецца амаль неверагодным. Але гэта на погляд савецкага чалавека, які Набокава ня ведаў, не чытаў і нават не асуджаў пры гэтым. А вось «Плэйбой» быў савецкаму чалавеку крышачку знаёмы... Ён прыяжджаў у СССР на караблях, ледзьве ня ў скрынях з апэльсінамі, як чабурашка. Які, дарма што нелегальны імігрант, таксама быў той яшчэ плэйбой.



1 сьнежня 1953 году ў чыкагскіх кіёсках зьявіўся першы нумар скандальнага выданьня. Яшчэ ў лістападзе заснавальнік быў упэўнены, што выданьне другога нумару давядзецца адкласьці гадоў так на пяцьдзясят — бо каму ён патрэбны, сумнеўны часопіс без рэпутацыі. Сапраўды, каму ў пяцідзясятых быў патрэбны часопіс з аголенай Мэрылін Манро? Аднак семдзесят тысяч асобнікаў з адпаведным фота разышліся за два тыдні, прычым пяцьдзясят зь лішкам тысяч — ужо за першыя сем дзён.

«...Нам падабаецца нашае жытло. Нам падабаецца зьмешваць ў ім кактэйлі. Нам падабаецца гатаваць выкшталцоную ежу. Нам падабаецца элегантна апранацца. Нам падабаецца запрашаць да сябе жанчын. Нам падабаецца музыка пад настрой. Нам падабаецца гаварыць з жанчынамі пра Пікасо, Ніцшэ, джаз, сэкс...» — паўтараў, як мантру, Х'ю Гэфнэр. Пагодзімся, гучыць проста мярзотна. І ў той самы час стратэгічна правільна. Стыль, асоба, свабода... ну, і «сіські-масіські», якія так любіў Брэжнеў. Калі Набокаў даваў сваё інтэрвію «Плэйбою», засьвяціцца ў ім было ня менш прэстыжна, чым у «Нью-Ёрк Таймс» — прычым для любога, уключна зь левымі інтэлектуаламі і бунтаўнікамі. А наклад выданьня сягнуў за мільён.

«У восьмай клясе я ўпершыню пабачыў заходні часопіс, — піша Вінцэсь Мудроў, які нарадзіўся за некалькі месяцаў да выхаду часопісу ў сьвет. — І не абы-які, а „Плэйбой“! Хлопец з паралельнай клясы даў яго пагартаць проста на вуліцы. Утрапеньне, якое я тады зазнаў, ня выпетрылася з душы й дасёньня». І беларускі пісьменьнік не адзін такі. Проста ў тым, што ты не самотны, а кнігу маеш (ці часопіс, неістотна), на вокладцы якой стаіць назва «Плэйбой», прызнавацца ў тыя часы было не прынята. Калі ты не амэрыканец і ня аўтар «Лаліты», ясная рэч.

# Патрыя ці прапаў

***2 сьнежня 1956 адбылася высадка зь яхты «Гранма»***

Здавалася, сама маці-прырода вырашыла ня даць ім тады ўвайсьці ў гісторыю — як пісалі да гістарычнага матэрыялізму. Пасьля так пісаць перасталі: пераможцаў ня судзяць, асабліва калі іх літаўры ня ведаюць літасьці, а іхны дэвіз не пакідае выбару: ці патрыя, ці прапаў.

У ноч зь першага на другога сьнежня 1956 году яхта «Гранма», на борце якой ванітавала 77 кубінцаў, аднаго аргентынца, аднаго мэксыканца, аднаго дамініканца, аднаго італійца, а яшчэ адзін кубінец задыхаўся ад астмы, падышла да берагоў будучай Выспы Свабоды. Зрэшты, ніхто на яхце ня ведаў дакладна, дзе яны апынуліся. Кастра прыгадваў потым, што самая жудасная думка, якая прыходзіла яму ў галаву ў тую ноч, была думкай пра тое, што высадка адбудзецца каля аднаго з прыбярэжных астравоў. І Куба так і не даведаецца, каму яна больш за ўсіх патрыя.

Вось іх карабель запаволіў ход. Штурман «Гранмы» Рабэрта Роке спадзяваўся адшукаць у цемры агні маяка. Залез на дах рубкі, яхта сьцепанула плячом — і штурман паляцеў проста ў хвалі, якія не марудзячы абнялі яго да душы ягонай.

Атрад зьбіраўся не заўважыць страты байца — у тую ноч было не да сантымэнтаў. Пагатоў нельга было ўключаць ліхтары, каб ня выдаваць сябе. Аднак па непрацяглым роздуме Кастра загадвае ўсё ж шукаць небараку. Празь некалькі гадзін Роке вылавілі, жывога і вясёлага.




Потым «Гранма» трапіла на неглыбокае месца, днішча тыцнулася ў пясок — і матор заціх.

Пачалі грузіць у шлюпку вінтоўкі, патроны, гранаты. Фізычныя законы спрацавалі лепей за памежныя службы Батысты: як толькі шлюпка была загружаная, яна паслухмяна перакулілася разам з усім начыньнем. Чэ Гевара з усьмешкай назаве гэта «караблекрушэньнем». Праўда, зброі заставалася яшчэ дастаткова, каб выбраць самім і даць выбраць іншым: патрыя ці прапаў.

Па горла ў вадзе 77 кубінцаў, аргентынец, мэксыканец, дамініканец і італіец, і яшчэ адзін кубінец, які задыхаўся ад астмы, рушаць да берага, які сустракае рэвалюцыянэраў шчыльным мангравым лесам, што расьце проста на балоце. Мангр, як вядома, ня мае нічога агульнага з манга — гэтая контррэвалюцыйная расьліна ўтварае нізкія непралазныя зарасьнікі, нешта сярэдняе паміж павуціньнем і газавай камэрай. Яе адмыслова прыдумаў крывавы рэжым Батысты, каб зэканоміць на абароне. А яшчэ служкі дыктатара разьлілі тут тоны ліпучай гразі, у якую ногі правальваюцца да шостага калена.

Туман такі, што не відаць, што робіцца пад рукой. Падманлівыя мангры хапаюць байцоў за плечы. Патрыя ці прапаў, рытарычна шэпчуць яны. Паўтара кілямэтра экіпаж «Гранмы» адольвае за пяць гадзін. Вось яна — першая хуткасьць рэвалюцыі. Калі іхныя ногі ступаюць на цьвёрдую зямлю, ім здаецца, яны здольныя лётаць.

Яны прыдумалі сябе — і прыдумалі сабе краіну. Напэўна, гэта самае важнае — умець прыдумаць сябе. Далейшае ўжо ня так цікава — тэхнічныя дэталі, кшталту цечы ў днішчы шматпакутнай «Гранмы». Яны мелі мару. Мара — страшнае слова. Самыя вялікія злачынствы адбываюцца тады, калі нехта марыць, а добрыя людзі нічога ня робяць. Калі выбар толькі адзін: ці патрыя, ці прапаў. Што да пана, дык ён тут не прадугледжаны — бо буржуй, эксплюататар і наагул амэрыканскі шпіён.

## Дарагому Арчы

*3 сьнежня 1926 зьнікла Агата Крысьці*

3 сьнежня 1926 году жыхарка гораду Санінгдэйл у Бэркшыры, жонка палкоўніка Арчыбальда Крысьці Агата прыняла ванну, пацалавала сваю дачку, пагладзіла па сьпіне сабаку, села ў машыну і роўна а 21.45 зьехала ў невядомым напрамку.

Магчыма, калі б на разьвітаньне яна зрабіла ўсё наадварот: пагладзіла дачку, пацалавала сабаку і паспрабавала зьехаць, седзячы ў ваньне, дык ніхто асабліва не перайма́ўся б яе раптоўным зьнікненьнем — ці мала чаго можна было чакаць у дваццатыя гады ад кабеты, якая ўявіла сябе пісьменьніцай. Чорт яе ня возьме, як любіў казаць пра сваю жонку палкоўнік. Аднак місіс Крысьці паводзілася ў той вечар, як цалкам прытомны чалавек. «У мяне разломваецца галава і я больш не магу заставацца ў гэтым доме» — такую цыдулку пабачыла пакаёўка гаспадыні на стале ў гасьцёўні, калі вярнулася дахаты.



Назаўтра, 4 сьнежня, машына Агаты Крысьці была знойдзеная на краі вапнавага кар'еру за некалькі дзясяткаў кілямэтраў ад Санінгдэйлу. Месца было змрочнае і пустэльнае... «нармальная жанчына ніколі б ня выправілася туды адна» — пракамэнтавала знаходку адна зь мясцовых газэт. Фары былі ўключаныя, а сам аўтамабіль — пусты, як дом зь вядомага апавяданьня Конана Дойла. За стырном сядзела толькі футэрка пісьменьніцы, зь якога, нягледзячы на шматгадзінныя допыты, праведзеныя ў той дзень у гілфардзкім пастарунку, паліцыя так і ня здолела выбіць ані слова.

Затое сьледзтву сталі вядомыя новыя факты адносна зьнікненьня: місіс Крысьці пакінула яшчэ адну цыдулку, для свайго мужа, а палкоўнік спаліў тое пасланьне адразу пасьля прачытаньня. Паліцыя капнула крыху глыбей — і палкоўнік адразу ж трапіў пад падазрэньне. Высьветлілася, што ягоны раман з партнэркай па гольфе ў самым разгары і ён даўно марыць пра развод з Агатай.

5 сьнежня пра таямнічае зьнікненьне Агаты Крысьці напісалі ўсе брытанскія газэты, а 6-га — «Нью-Ёрк Таймс». Малавядомая аўтарка дэтэктываў умомант зрабілася знакамітасьцю.

Бачачы такую справу, згаданы намі сэр Артур Конан Дойл таксама вырашыў узяць удзел у пошуках Агаты. Як водзіцца ў сышчыкаў, ён скарыстаў дэдуктыўны мэтад — магчыма, занадта дэдуктыўны для аўтара «Шэрлака Голмса». І пакуль грамадзяне прачэсвалі навакольныя лясы і бралі штурмам моргі, сэр Артур, даўні прыхільнік сьпірытызму, зьвярнуўся да знаёмага экстрасэнса, з парога паказаўшы яму пальчатку зьніклай пісьменьніцы.

Экстрасэнс прыняў Конана Дойла за вялікім сталом, заваленым газэтамі. «Гэтая рэч належыць Агаце Крысьці», — сказаў экстрасэнс, мімаходзь зірнуўшы на пальчатку. «Божа мой, як вы здагадаліся?» — ускрыкнуў уражаны Конан Дойл. «Я адчуваю флюіды, — суха адказаў экстрасэнс. — Уладальніца гэтай рэчы яшчэ жывая, стан у яе падаўлены, а на душы

прыцемкі». Гэтай важнай інфармацыяй Конан Дойл адразу ж падзяліўся са Скотлэнд-Ярдам. А там ужо чакалі ордэру на арышт Арчыбальда Крысьці. Цягам апошніх дзён палкоўніку не давалі праходу журналісты, якія адчулі пах крыві, а калі містэр Крысьці выходзіў на вуліцу, дык чуў за сьпінай: «Дзе ты схаваў труп, Арчы? Прызнайся, мы нікому ня скажам!»

У сераду, 8 сьнежня, у доме Крысьці невядомыя пабілі ўсе шыбы, а ў горадзе Хэроўгэйт двое музыкаў прыйшлі ў паліцыю і заявілі, што надоечы бачылі ў адным з гатэляў жанчыну, падобную да Агаты. Паліцэйскія, прыхапіўшы з сабой беднага палкоўніка, пасьпяшаліся на месца. Арчыбальда пасадзілі ў рэстарацыі, замаскаваўшы нядзельнай газэтай, і загадалі разглядваць кожную даму, якая зьявіцца на парозе. Не мінула й гадзіны, як у залю ўвайшла Агата.

«Ня памятаю, — адмахнулася яна, калі апынулася перад паліцэйскімі і сваім перапалоханым мужам. — Няўжо я абавязаная ўсё памятаць? Мы жывем у свабоднай краіне!»

У гатэлі расказалі, што ўсе гэтыя дні іхная госьця гуляла ў більярд, танцавала, ела ад пуза, плавала ў басэйне і ні ў чым сабе не адмаўляла.

«Амнэзія», — пахітаў галавой тоўсты доктар.

«Амнэзія», — напісалі задаволеныя журналісты.

«Амнэзія», — з палёгкай уздыхнулі ў Скотлэнд-Ярдзе і здалі справу ў архіў.

«Амнэзія, — усьміхнулася Агата Крысьці, калі яны з мужам засталіся сам-насам. — Мой падарунак табе на Каляды, дарагі Арчы. А вось цяпер...»

Яна пяшчотна зірнула на яго.

«...цяпер можна пагаварыць і пра развод».

# Дыета для імпэратара

*4 сьнежня 1977 каранаваны імпэратар Бакаса I*

Вось дык гулі — і пана разулі, як кажуць у Цэнтральнай Афрыцы. Праўда, пану было ўсё роўна, ён звыкся хадзіць басанож, а грошы — грошы для яго не былі праблемай. За гулі плацілі былыя ненавісныя калянізатары, а цяпер — дарагія эўрапейскія сябры і партнэры. Якія былі зусім ня супраць, каб пан Бакаса, былы сяржант, а цяпер галава незалежнай краіны, пагуляўся ў імпэратара: абы не было вайны.

4 сьнежня 1977 году гулі пачаліся і нарабілі шуму на ўвесь сьвет. Парыскі ювэлір Бэртран на замову зрабіў адмыслова да гэтага дня карону з брыльянтам на 58 карат. Дзесяць тысяч срэбраных лыжачак, сем тонаў кветак, дваццаць пяць тысяч бутэлек бургундзкага, сорак тысяч бутэлек шампанскага, пяць тысяч ліўрэяў і шэсьцьсот смокінгаў ад Кардэна, сямнаццаць жонак і парыскі аркестар са ста дваццаці чалавек і сам Жан П'ер Дзюпон у якасьці загадчыка цырымоніі — у такой сьвяточнай атмасфэры Цэнтральная Афрыка атрымала сабе манарха. Пры гэтым на ўсю імпэрыю быў толькі адзін стаматоляг. Але пры чым тут зубы? Хіба на шыю павесіць ці на паліцу пакласьці.

Сам манарх быў, аднак, задаволены не да канца: Папа не прыехаў. Якая каранацыя бяз Папы?.. Вось Напалеон — ці прыняў бы ён карону з чыіхсьці іншых рук?..



О, Напалеон Банапарт быў яго кумірам. Такі самы непрыкметны, нічым на першы погляд не выбітны, нізенькі, лядашчы... А які дух, якая душа, які розум, якая сіла! Праўда, біёграфам францускага імпэратара Жан Бэдэль Бакаса ня надта верыў. Ня можа быць, каб такі вялікі чалавек ніколі ў жыцьці не пакаштаваў чалавечынкі, разважаў Бакаса, робячы ранішні мацыён вакол свайго палаца ў Бангі.

...Вось, напрыклад, што зрабілася з герцагам Энгіенскім? Ня мог жа правадыр французаў дазволіць проста так закапаць ворага і здрадніка ў зямлю. Зьеў, напэўна, Банапарт таго герцага на абед, і Жазэфіну пачаставаў, і запіў варожае мясцо сатэрнам або шаблі. А Кадудаль з гэтым, як яго, Пішэгру? Загадаў, хутчэй за ўсё, запячы нягоднікаў у цесьце і паліць перад падачай на стол журавінавым соўсам. Інакш адкуль у Напалеона ўзялася б такая сіла?..

Цяпер белыя толькі робяць выгляд, што яны моцныя. Будучыня — за Афрыкай.

Савецкі доктар Яўген Чазаў прыгадвае, як імпэратар Бакаса прыяжджаў у Маскву лячыцца ад халецыстыту. «Гэты быў нічым не запамінальны чалавечак, які ўвесь час усьміхаўся і выбачаўся. Рэкамэндаваўшы звычайнае ў такіх выпадках лячэньне і дыету, мы разьехаліся па дамах, бо была нядзеля... Пазванілі са шпіталя, дзяжурны доктар папрасіў тэрмінова вярнуцца. Высьветлілася, што з Бакасам прыехалі ягоны кухар і слуга, якія прывезьлі звыклую для яго ежу... Маленькія зьмейкі кшталту яшчарак і бруднае мяса незразумелага паходжаньня. Я папрасіў Бакасу выкінуць усё гэта на сьметнік».

Бакаса пагадзіўся, але ўзамен папрасіў выпісаць яму ў Бангі савецкага кухара. Якога-небудзь тоўстага, здаровага, ружовенькага... Кухар прыехаў, але праз тры месяцы ўцёк назад у СССР. Кажуць, пасьля таго, як пабачыў у лядоўні імпэратарскай кухні замарожаную чалавечыну. У Бакасы была на гэты конт свая вэрсія: савецкі кухар паспрабаваў спакусіць целаахоўніка Бакасы. Бакаса быў кансэрватар і прыхільнік народных традыцый. Якія б яны ні былі. Вось, напрыклад, давіць дзяцей на грузавіку — чым ня добры народны звычай? Чым не пэдагагічны прыём?

«Мой народ — народ злодзеяў!» — казаў імпэратар. — «Іх трэба выхоўваць і караць. Так, часам я забіваю. Але на Вялікдзень на дарогах Францыі гіне ў дзесяць разоў больш людзей, чым зьнішчана за ўвесь час майго кіраваньня. На вашым месцы я б пра гэта падумаў!»

# Була на ноч

***5 сьнежня 1484 папа Інакенці VIII выдае булу супраць ведзьмаў***

Папу Інакенція VIII нехарошыя людзі называлі сапраўдным папам Рыму — то бок татам. Хадзілі чуткі, што ён з усяе моцы стараецца, каб добрых каталікаў на сьвеце было як мага больш: і робіць іх сам пры кожнай нагодзе. У папы-таты было дванаццаць афіцыйна прызнаных нашчадкаў: восем хлопчыкаў і чатыры дзяўчынкі; колькі дзяцей ён меў насамрэч, ніхто ня ведаў, а калі й мог сказаць, дык звычайна зьбіваўся зь ліку на трэцім дзясятку...

Зрэшты, чалавецтву Інакенці запомніўся ня толькі павелічэньнем колькасьці вернікаў, а і амаль стаханаўскай барацьбой за скарачэньне колькасьці ерэтыкоў. Барацьбой, якая не спынялася цягам стагодзьдзяў. А пачалося ўсё з таго, што германскія інквізытары паскардзіліся папу, што ім усё часьцей то там, то сям «мяшаюць работаць». І 5 сьнежня 1484 году Інакенці выдаў булу «Summis desiderantes», свайго кшталту прадмову да «Молата ведзьмаў» і яго працягаў: «Сякеры экстрасэнсаў», «Зубіла доктара Сайкова» і «Фрэзэрнага варштата русалачкі». Була зрабілася дакумэнтам, які ўпершыню сказаў усю праўду пра ворагаў народу і заклікаў сьвядомых грамадзянаў запякаць іх у печках і на вогнішчах без прыправаў і спэцый.

«З найвялікшай руплівасьцю, усімі сіламі душы імкнемся мы да таго, каб вера расла, а зладзействы ерэтыкоў выкараняліся.... Зь вялікім смуткам даведаліся мы, што ў некаторых мясьцінах шматлікія асобы як мужчынскага, так і жаночага полу былі заўважаныя ў грахоўных палавых сувязях з дэманамі, і сваім чараўніцтвам, сваімі песьнямі, заклёнамі... псуюць тое, што нараджаюць жанчыны, зямля, прыплод жывёлаў, вінаграднікі, сады, мужчын, свойскую і іншую жывёлу... лугі і ўраджаі, катуюць і мужчын, і жанчын, з дапамогай хваробаў перашкаджаюць мужчынам апладняць, а жанчынам нараджаць, адымаюць у мужчын сілу выконваць шлюбныя абавязкі, а жанчынам замінаюць выконваць шлюбны доўг...»



Апошняе, відавочна, хвалявала Інакенція больш за ўсё, бо што-што, а апладняць ён любіў — хобі ў яго было такое. Да таго ж народ быў на баку папы: зусім гэтыя ерэтыкі абнаглелі, казалі на вуліцах, гэта ўсё праз іх: інфляцыя, дэвальвацыя, рэвалюцыя, радыяцыя і іншыя лізінгі, рэбрэндынгі і мэрчандайзінгі.

Карацей, папу пачулі. А непакорныя ерэтыкі як псавалі, так і працягвалі псаваць родную ральлю «Парыж-Дакар». Папская була спрасьціла задачу змагарам супраць сатанізму. Цяпер можна было не цырымоніцца. Ніхто ўжо ня памятае, як звалі таго сямідзесяцігадовага айхштэтца, які, вось паскуднік стары, лётаў безь ліцэнзіі на аблоках, выклікаў магнітныя буры і прызнаўся пры выглядзе распаленых шчыпцоў, што ён — супрацоўнік д'ябла з саракагадовым стажам і мае ад рагатага жалезны крыж «За заслугі». Ніхто ня памятае, як звалі чатырохгадовую ведзьму, якая жыла з д'яблам у грамадзянскім шлюбе і крала дажджы ў жыхароў гораду Люцэрн — увесь горад прыйшоў паслухаць, як яна крычыць на вогнішчы. Ніхто не парупіўся перапісаць пайменна тысячу жанчын, якіх гуртам спалілі ў печцы ў княстве Найсэ за ўдзел у вядзьмарскіх ўоркшопах і майстар-клясах. Сотні тысяч засталіся для гісторыі ўсяго толькі безыменнымі ўдзельнікамі вайны за веру. А імя нявіннага папы Інакенція жыве ў вяках, як подзьвіг народу. Які ніхто не асудзіць, бо ён цёмны, сьляпы, быццам крот, і булаў на ноч не чытае — думае пра ўраджай.

# Адзіны смутак сьвету

***6 сьнежня 1954 Набокаў дапісвае «Лаліту»***

«Аўтара „Лаліты“ трэба судзіць па адным артыкуле з гвалтаўнікамі непаўналетніх...» А між тым, нават такім вось судзьдзям зь непрызнанай Набокавым Беларусі былі дадзеныя падрабязныя і дакладныя інструкцыі, як Гэта трэба чытаць. Шкада, што яны не паслухаліся:

*«Крытыкам-маралістам, дабрадзейным, ранімым людзям, поўным спагады да саміх сябе і шкадаваньня да чалавецтва, наагул ня варта дакранацца да маіх кніг. У тых, каго я запрашаю, страўнікі мусяць быць гэткімі ж моцнымі, як скура ў вінных бурдзюкоў, і яны не павінны прасіць келіх бажале, калі ім выстаўляюць бочку Шато Лятур д'Івуар».*

Ён закончыў яе 6 сьнежня 1954 году ў Амэрыцы — амэрыканскі пісьменьнік, які нарадзіўся ў Расеі і траціну жыцьця пражыў у Заходняй Эўропе. Яе, кнігу пра няўлоўную прыгажосьць, самы магічны твор дваццатага — дый ня толькі дваццатага стагодзьдзя. Гэтае амаль што фізычнае задавальненьне ад набокаўскай прозы, якое знаёмства з «Лалітай» дазваляе перажыць напоўніцу, застаецца на ўсё жыцьцё. Набокава або адчуваеш, або не — але калі хаця б на імгненьне адчуў, гэта застаецца з табой на ўсё жыцьцё. Такая вось бясьсільнасьць перад магіяй.

Зрэшты, першы ўкол Лаліты — укол Лалітай — здарыўся з Набокавым задоўга да таго, як ён зрабіўся амэрыканскім пісьменьнікам. Тут варта згадаць, вядома ж, вялікую навэлу «Чараўнік» — зь першым дыханьнем Лаліты, але безь яе нэрвовай, хваравітай, пяшчотнай чароўнасьці. Аўтар напісаў яе яшчэ да пераезду за акіян, сунуў у скрыню, палічыўшы няўдачай — але не забыўся на «бедную дзяўчынку», не: і надышоў дзень, калі рукапіс зноў быў выцягнуты на сьвятло і ўважліва перачытаны.



А можа, усё адбылося і яшчэ раней: у «Дары», найлепшай набокаўскай кнізе, напісанай па-расейску, ёсьць пэрсанаж Шчоголеў, пашляк і антысэміт, які прызнаецца Гадунову-Чардынцаву, што мае неблагі сюжэцік: вось бы хто зь літаратараў заняўся... Няблага б выйшла, га? «Уявіце сабе гісторыю: стары пёс, але яшчэ ў саку, з агнём, з прагай шчасьця, знаёміцца з удавіцаю, а ў яе дачка, зусім яшчэ дзяўчо, ведаеце, калі нічога яшчэ не аформілася, а ходзіць так, што з глузду зьехаць... Што рабіць? І вось тут можна без канца апісваць: сьверб, вечную пакуту...»

Так гадавалася Лаліта. Так вырастала — зь нічога, з пустаты, з балбатні староньніх глухіх да прыгажосьці людзей, зь юру, так, з прагі — але і з апёку каханьнем. Бо хто будзе спрачацца, што «Лаліта» — раман пра каханьне. Злачыннае, нелегальнае, вычварнае, забойча-збачэнскае, немагчымае — але сапраўднае. Непрыстойнае... Але ці можа сапраўднае каханьне быць непрыстойным?

Часам здаецца, што «Лаліта» была з Набокавым з самага пачатку жыцьця. Што яму трэба было пражыць большую яго частку (раман пісаў чалавек, якому было за пяцьдзясят) — каб зразумець гэта і падабраць словы. Для яе, адзінай. Бо ўжо ў рамане «Кароль, дама, валет», напісаным у 1928, ёсьць гэта — без чаго «Лаліту» спасьцігнуць нельга, як ні круціся ў сваіх дабрадзейнасьці і ранімасьці:

*«Прыгажосьць сыходзіць, прыгажосьці не пасьпяваеш патлумачыць, як яе любіш, прыгажосьць нельга ўтрымаць, і ў гэтым — адзіны смутак сьвету».*

# Таямніца сям’і Додаў

*7 сьнежня 1968 Рычард Дод вяртае ў бібліятэку кнігу, якую ягоны дзед узяў у 1823 годзе*

Амэрыканец Рычард Дод меў сумленьне. А яшчэ ён меў кнігу. Старую кнігу, якую можна было б прадаць букіністу. Або выкінуць на сьметнік. Або пусьціць на самакруткі. Ну не чытаць жа яе... І калі сябры думалі, што падарыць Рычарду на народзіны, нехта абавязкова казаў: давайце падорым яму кнігу. А другі пярэчыў: кніга ў яго ўжо ёсьць. І ўсе іржалі нехарошым сьмехам. Такая вось традыцыя. Такая вось амэрыканская трагедыя.

Кніга была выдадзеная ажно ў 1800-м, а вялося ў ёй пра ліхаманку. Сымптомы, лячэньне і ўсё такое. Чытанка для вузкага кола — аніяк не бэстсэлер. Пра гэтую кнігу наагул можна было б забыць, калі б не адна маленькая акалічнасьць. Амэрыканец Рычард Дод меў ня толькі сумленьне і кнігу. У сям’і Додаў была таямніца. Круглая і сіняя, як бібліятэчны штамп. Хай сабе і трохі зацёрты няўмольным часам.



Прадзед... Хаця, можа, і ня прадзед — а прапрадзед, тут трэба палічыць Додаў, а неахвота — карацей, продак Рычарда ўзяў гэтую кнігу з тым самым штампам у бібліятэцы ўнівэрсытэту Цынцынаці ў 1823 годзе. То бок на той час гэта ўжо была ня новая кніга. У кожным пакаленьні Додаў знаходзіліся адважныя і прагрэсіўныя асобы, якія прапаноўвалі здаць прадзядулеву кнігу назад у бібліятэку і тым самым сьцерці нарэшце ганебную пляму з аблічча сям’і. І кожны раз сямейная рада адхіляла гэтую ідэю. «Што пра нас людзі прадумаюць?» — гаварыў які-небудзь старэйшы Дод і апускаў вочы. — «Усе забыліся — і няма чаго варушыць мінулае».

1823: Балівара абвяшчаюць Вызваліцелем, дактрына Манро, рэвалюцыйная ліхаманка ў Гішпаніі...

Рычард Дод знайшоў кнігу ў 1968. Апалён на арбіце Месяца, ідзе вайна ва Віетнаме, гіпі-гіпі-гіпі, махнатыя пратэсты (як пісаў Панчанка).... Калі задумацца, колькі разьдзяляе гэтыя даты, можна захварэць — на тую самую ліхаманку, якой цікавіўся студэнт-мэдык Дод у 1823-м.

Рычард Дод зрабіўся першым з Додаў, хто парушыў змову маўчаньня. 7 сьнежня 1968-га году ён чыста вымыўся, надзеў найлепшы гарнітур, павесіў на шыю іконку з Багародзіцай, сунуў пад паху фаліянт і рушыў у накірунку ўнівэрсытэту. Ён здаў кнігу. Ён раскрыў таямніцу. Ён меў сумленьне. А якую ганьбу хаваеш ты?

# Сярпом па яйцах, малатком па галаве

*8 сьнежня 1991 адбылося падпісаньне Белавескіх пагадненьняў*

Ён памёр. Ён памёр, бо ня быў створаны для жыцьця. Ён памёр так, як паміраюць наглядчыкі за рабамі — сканаў, выконваючы свае ганебныя абавязкі, вылупіўшы чырвоныя вочы, паваліўся пысай у гразь, усёй сваёй пыхай у дзярмо, упыр з партбілетам, у адной руцэ — бізун, у другой — зашмальцаваная кніжачка, убогі, жорсткі, з асалавелымі вачыма наркамана, даўно прагнілы знутры, паедзены невылечнымі хваробамі, пра якія іншыя саромеюцца гаварыць уголас. Памёр — і калі бывае на сьвеце сьмерць, якая можа выклікаць радасьць, дык гэта была менавіта яна. Ён проста ня меў шанцаў, бо чужая кроў — ня тая субстанцыя, на падмурку зь якой можна танцаваць бясконца.

Вялікі, магутны, савецкі. Сьмешны, пошлы і няўклюдны ў сваім бясьсільлі. Ён быў мёртвы ад самага пачатку, асуджаны з дня свайго заснаваньня. Тое, што адбылося 8 сьнежня 1991-га, усяго толькі задаволіла прагу паперы да знакаў.

Непарушны саюз. Плявок на тваю магілу мусіць быць кароткі, як стрэл, і трапны, як паштовы штэмпэль.



Ён памёр. А што яшчэ магло здарыцца з шытай лялькай вуду, у якой скончылася яе злая, штучная, надзьмутая ў яе сьлінявымі вуснамі бяздарных шаманаў сіла? Тыя некалькі мужчын, якіх гісторыя выпадкова ўзяла ў якасьці судмэдэкспэртаў-паталягаанатамаў, і закінула ў Белавескую пушчу, каб дакумэнтальна зафіксаваць доўгачаканую сьмерць, усяго толькі канстатавалі факт. «З прывідам, які перасьледаваў ваш род, нарэшце назаўжды пакончана», — як патэтычна прамаўляе інспэктар Лестрэйд у «Сабаку Баскервіляў». І словы пра род тут будуць абсалютна дарэчы: гэты ўзброены мярцьвяк у канаве, які так хутка расклаўся на атамы, быццам яго й не было, існаваў як для мільёнаў менавіта як фамільны праклён. Няма сям'і, якой ён не прычыніў бы гора. Ён забіваў, гнаў, зьдзекаваўся, душыў, прыніжаў, запалохваў — ён пазбаўляў гордасьці, прадукаваў лёкаяў і падхалімаў, ён жывіўся нашымі інстынктамі, найперш — інстынктам самавыжываньня. Ён ператравіў у сваіх нутрох столькі чалавечай годнасьці, што спадзяваўся ў апошнія дні прынамсі на дастойныя праводзіны. Наіўнасьць ідыёта. Так што судмэдэкспэртамі ёсьць мы ўсе. Тыя, хто born in the USSR і тыя, хто ня born: ўнукі і праўнукі слуг зьнішчылі такую тэрыторыю і засялілі яе сваімі кашмарамі, ад якіх яшчэ доўга будзе скаланацца пакінутая імі цемень.

Ён памёр. Паласнуў сябе па яйцах у параксізьме самалюбаваньня, стукнуў сябе молатам па цемечку і — «паваліўся нехта». Сьмешная, фарсавая сьмерць. Гэта было самагубства, пасьля якога ўсе адчулі палёгку. Усё стала на свае месцы. Далей — безь яго. А яго больш няма: і ў часе сэканд-гэнд пуста. Апісваць яго — значыць апісваць пустату.

Ён памёр — але абяцаў вярнуцца. Толькі дарогу назад яму ўжо не знайсьці. Хай блукае ў сваім пекле, і забірае з сабой усіх прафэсійных плакальнікаў і плакальніц, хто — а на каго ж ты нас пакінуў, радной!!! — залівае гарučымі сьлязьмі яго сьмярдзючае галіфэ.

# Чырвоны запарожац

*9 сьнежня 1985 арыштаваны маньяк Міхасевіч*

Патрыётаў у Віцебску заўжды хапала — недахопу ў іх няма й цяпер. А вось, прыкладам, у васьмідзясятых гадах мінулага стагодзьдзя іх у горадзе было нават зашмат. У жніўні 1985 году ў рэдакцыю газэты «Віцебскі рабочы» прыйшоў ліст ад імя незарэгістраванага грамадзка-культурнага аб'яднаньня, мэтай якога, паводле аўтараў гэтага пасланьня, было змаганьне з камуністамі, міліцыяй і — нявернымі жонкамі. «Патрыёты Віцебску» — так быў падпісаны ліст, і нікому ў галаву не прыйшло паставіцца да яго як да нявіннага жарту. У кастрычніку, а потым і ў лістападзе ля віцебскай кальцавой былі знойдзены чарговыя жаночыя трупы, і ў роце ў кожнай ахвяры ляжала цыдулка: «За здраду — сьмерць. Барацьба зь лягавымі і камуністамі». Як ні стараўся патрыёт Віцебску зьмяніць почырк, і «лягавым», і камуністам, і нават беспартыйным графолягам было ясна: пісаў той самы чалавек.

9 сьнежня 1985-га ў адну зь вёсак пад Віцебскам, у госьці да сьціплага беларускага саўгасьніка Генадзя Міхасевіча завітаў на некалькіх машынах цэлы натоўп гасьцей. Але гаспадара дома не было. Давялося ехаць у суседняе сяло, куды, як высьветлілася, Міхасевіч выправіўся з афіцыйным сяброўскім візытам. Там яго і знайшлі: патрыёт Віцебску меў пры сабе ўпакаваныя чамаданы і авіябілет на рэйс у Адэсу. «Гэта памылка, я хутка вярнуся», — супакоіў жонку Міхасевіч, тварам увесь чырвоны, як ягоны «Запарожац». Сымбаль аднаго маленькага «патрыятызму» і адной маленькай «мужчынскай годнасьці», якую — вось сволачы — ніхто не хацеў прызнаваць вялікай.



«Усе бабы — дуры і прастытуткі» — так часам, калі вып'е ці калі не стаіць, вучыць народна-мужчынская савецкая мудрасьць, а Генадзь Міхасевіч быў мужчына відны, культурны, пры гэтым — чалавек з народу і дастаткова савецкі, каб вісець на дошцы гонару. «Усе бабы...» — і маленькае сэрца Міхасевіча радасна ўздрыгвала, калі чула гэтыя поўныя глыбокага сэнсу словы. На якія з часам знайшоўся адказ: «Зачэм я буду давіцца з-за бабы? Лучшэ сам какую-нібуць удаўлю».

Міхасевіч — наш, беларускі маньяк. А нашае на пустым месцы не вырастае. Магчыма, у забойцаў і няма нацыянальнасьці. Затое ў ахвяраў яна ёсьць заўжды.

Пазьней жонка ўспомніць: як аднойчы ўначы прачнулася ад таго, што на яе шыі сплялíся нечыя мокрыя пальцы і пачалі цiснуць, ды так, што яна ўскочыла і закрычала. Муж ляжаў побач увесь успацелы, гарачы, разгублены... Адразу пачаў апраўдвацца: абы-што прысьнілася, бывае... Яна скажа яму падставіць галаву пад кран з халоднай вадой і класьціся спаць. Дапамагло, падумае яна, супакоена прыслухоўваючыся да яго храпу.

Успамінаць пачнуць і іншыя. Напрыклад, каляжанкі Міхасевіча: «Эх, дзяўчонкі, пакатаў бы я вас!» — любіў паўтараць ён, зьбіраючыся пасьля працы дахаты. Ня піў, не курыў, матам ня лаяўся, анэкдоты непрыстойныя цярпець ня мог, чырванеў увесь ад сораму... Зусім як тады, зьбіраючыся ў Адэсу. Маму, падказаў бы тут псыхааналітык.

Трыццаць восем ахвяраў, паводле іншых вэрсіяў: да пяцідзесяці дзьвюх. Чатырнаццаць асуджаных за забойствы, якіх яны не зьдзяйсьнялі. «Калі душыў, дык чэрпаў праз свае рукі ад жанчын сілу. Сам сабе быў лекар. Пасьля забойства рабілася лягчэй. Асабліва падабалася, калі ахвяра дрыжыць у руках...» Чырвоны запарожац рабіўся чорнай волгай, белым мэрсэдэсам, танкам, БелАзам, касьмічным караблём, пікам Камунізму, комінам ЦЭЦ, нябесным возам... На якім ён сядзеў і пачуваўся ўсеўладным саўгасным богам, якому дадзена права караць і мілаваць іншых. Лекарам, які вылечыў сябе сам. Для гэтага дастаткова ведаць толькі адну важную ісьціну. Усе ба... І тады ў пальцах задрыжыць яно — шчасьце.

# У сваёй талерцы

*10 сьнежня 2007 пачаў працу тэлеканал Белсат*

«Аднойчы я бачыў чалавека, які глядзіць тэлевізар...» Так, перафразуючы Міхася Стральцова, мог бы апісаць ролю TV у сваім жыцьці наіўны аўтар — бо сапраўды, сярод ягоных сяброў і знаёмцаў гледачоў тэлевізіі можна пералічыць на пальцах адной рукі. Рукі, зь якой тэлевізійны пульт некалі выпадкова выпаў — ды так і застаўся ляжаць пад канапай.

Так, у нашай сыстэме каштоўнасьцяў няма ні скрыні, ні талеркі, ні міскі з локшынай, гатаваць якую тэлебачаньне ўмее так прафэсійна, а вешаць умее яшчэ лепш. Недавер да тэлебачаньня ў нас у крыві, і пазбыцца яго гэтаксама цяжка, як памяняць пол. «Аднойчы я бачыў чалавека, які глядзіць тэлевізар...» — так можна было б напісаць, але ісьціна будзе ўсяго толькі дзесьці побач. Бо калі ёсьць нацыя, а ў нацыі ёсьць мова, дык у іх мусіць быць і сваё тэлебачаньне — хаця б для таго, каб ня сорамна было перад астатнім сьветам. Традыцыя, што паробіш. Сьцяг, герб, гімн, футбольная зборная, нацыянальная страва, дамэннае імя — і свая тэлевізія як яшчэ адна прыкмета паўнавартасьці.

У незалежнай Беларусі свайго тэлебачаньня, як вядома, няма. Тэлеканалы ёсьць, а беларускага тэлебачаньня няма — і няма, фактычна, зь сярэдзіны дзевяностых: усё нейкія аскепкі, фрагмэнцікі, кавалкі рэха, нясьмелыя аўтарскія гульні. Калі на іх не зважаць, усе гэтыя бэтэ, аэнтэ і іншыя бла-бла-бла-тэвэ выглядаюць Паўночна-Заходнім філіялам якога-небудзь РТР. У тым, што ў Беларусі па звычцы завецца беларускім тэлебачаньнем, беларускага так мала, што яго нават шукаць ня хочацца.



І ўсё ж пачынаючы ад 10 сьнежня 2007 году беларусы зноў маюць сваю, беларускую тэлевізію. Ясная рэч, «бязглуздую, нетаварыскую і дурную» — хочацца спадзявацца, што супрацоўнікі Белсату ганарацца такой ацэнкай з вуснаў чалавека, які прафэсійна займаецца бязглузьдзіцай, дуратой і беспасьпяховай вайной з усім сьветам. Я б ганарыўся... У тым, што адзінае ў сьвеце беларускае тэлебачаньне трапляе да саміх беларусаў з тэрыторыі суседняй дзяржавы, столькі сымбалічнага, што хапіла б на цэлую паэму. Дый, зрэшты, працуюць жа яны тут — людзі, якія робяць Белсат: быццам ратуючы ўсё, што яшчэ можна тут ўратаваць, ад засьвечваньня ў мясцовых «тэленавінах», якія пакрываюць сваёй плесьняй усё: жывое і нежывое.

Ёсьць падставы падазраваць, што больш за палову тых, хто цяпер прапагундосіць на дзяржаўных бла-бла-бла-тэлеканалах, хацеў бы рабіць нешта для Белсату. Хай сабе ўпотай, хай зрэдзьчас. Проста таму, што Белсат — гэта сапраўды тэлевізія, дзе спрабуюць займацца тым, чаго ад яе, тэлевізіі, чакаюць: інфармаваць — безь перагрузу, нівэляваць усё і ўсіх — каб дагадзіць фармату, забаўляць — утрымліваючы адсотак пошласьці там, дзе ён адносна бясьпечны, і даваць яркую карцінку, цешачы вока неперабарлівага чалавека. Бла-бла-бла-каналам гэта забаронена. Вось і мучацца людзі ў пошуках самарэалізацыі. Вось і курчацца на экранах, з усяе моцы імітуючы працу тэлевізійнікаў. «Вядуць» «перадачы», ладзяць «ток-шоў», прыдумляюць «праекты», «здымаюць» «аналітычныя праграмы»... Від шызафрэніі пад назвай макаёнка-дзевяць.

Калі беларускае тэлебачаньне нарэшце зьявіцца ў Беларусі, хай бы яно захавала назву Белсат. Бо назва «бэтэ» скампрамэтавала сябе на вякі — як імя Юда, прозьвішча Гёбэльс і абрэвіятура КДБ.

Тэлевізія наагул — зло. Але калі яно мусіць існаваць — хай прынамсі будзе беларускім паводле формы і зьместу. Ад рэжысэраў самага вясёлага ў сьвеце парнаграфічна-спартовага сельскагаспадарчага тэлеканалу РБ-2013 нават гэтага не дачакаешся.

# Зьмерзлыя хвіліны

*11 сьнежня 1981 ад холаду спыняецца Біг Бэн*

«Горад Лёндан цудоўны, у ім гадзіньнікі скрозь, толькі сэрца можа адстаць ад Вялікага Бэна», — так ці прыкладна так напісаў некалі Бродзкі, і хто яго ведае, што меў на ўвазе. Зрэшты, гэта й ня важна, паэзіі дастаткова проста быць — як і гадзіньніку. І далей у вершы было пра палец, які круціць дыск зімовага месяца, а ў выніку гудкі — і «гэты гук непазьбежнейшы за голас Бога».

Месяц і праўда быў зімовы — у сэнсе, ня май. 11 сьнежня 1981 году Вялікі Бэн сам адстаў ад сэрцаў, якія хваляваў больш за стагодзьдзе — сэрцаў паэтычных і ня вельмі. У 12.27 стрэлкі самага знакамітага гадзіньніка ў сьвеце (калі ня браць у разьлік зоркі над начным акіянам, вядома) здрыгануліся і спыніліся. Стрэлкам зрабілася холадна. Яны амаль прайшлі свае 190 кілямэтраў — а роўна столькі складае іхны шлях за год, калі скласьці накручаную імі адлегласьць. І вось — такая дарожная няўдача.

Біг Бэн замёр.

Ужо другі раз у гісторыі.

І зноў нічога не зьмянілася.

Савет Міністраў БССР ня стаў панікаваць і ўсё ж выдаў сваю пастанову № 398 «Аб мерах па павышэньні тэхнічнага ўзроўню вытворчасьці будаўнічай цэглы».

У Буэнас-Айрэсе нарадзіўся хлопчык зь беларускім імем Хавіер і амаль беларускім прозьвішчам Савіёла.

У Маскве на Кутузаўскім праспэкце у кватэру знакамітай артысткі Зоі Фёдаравай увайшоў невядомы і стрэліў гаспадыні ў патыліцу.

Гельмут Шміт упершыню ступіў на зямлю ГДР, auferstanden aus Ruinen.



Яны нічога ня значаць — ні гадзіньнік, ні каляндар. Выкшталцоныя, але бескарысныя мадэлі чалавечага сэрца. Першы ў любы момант можа спыніцца: ад холаду, сьпёкі, сьпячкі тых, хто зьвярае па ім жыцьці, другі — прыняць новую веру, зьбіцца зь ліку, зрабіцца занадта чалавечным, каб яму верылі й надалей. Сучаснасьць і актуальнасьць — самападман, яны дзейнічаюць толькі да першых замаразкаў. Не спазьняюцца толькі ў адным выпадку — і калі ты чытаеш гэта, значыць, твой вялікі Веня яшчэ ідзе.

# Жыцьцё зь Лізай

*12 сьнежня 1913 у Флярэнцыі знаходзяць скрадзеную зь Люўру «Мону Лізу»*

«З кім ты сёньня спаў, Вінчэнца?» — пыталіся ў яго раніцай прыяцелі, намякаючы на цёмныя кругі, што апошнім часам ня сходзілі ў яго з-пад дурнаватых вачэй. Пыталіся і рагаталі — такія самыя дрэнна паголеныя, хітрыя, неахайна апранутыя і заўжды бяз шэлега ў кішэні. Італійцы, што таўкліся па ўсёй Эўропе ў пошуках хаця б якой працы, бо дома — дома іх лічылі занадта нядобранадзейнымі, кожны калі ня ўнук карбанарыя, дык усё роўна небясьпечны і ў любы момант гатовы выбухнуць, як кавалак карбіду. «З Монай Лізай», — сур'ёзна адказваў ім Вінчэнца Пэруджа, і ім рабілася яшчэ весялей. «Ну і як яна ў ложку?» — і тут Вінчэнца замаўкаў, сарамліва апусьціўшы вочы.

Нікому і ў галаву не прыходзіла, што гэта чыстая праўда. Вінчэнца Пэруджа насамрэч спаў з Монай Лізай — а дакладней, на ёй. Яна ляжала пад матрасам у ягоным цесным, як




музэйная ніша, пакоі, а зьверху кожную ноч варочаўся бедны Вінчэнца. Карціна пякла яго зьнізу, быццам у катоўні. Ён сьніў, як яна, усьміхаючыся, кліча яго да сябе, на палатно, і ён ня можа нічога зрабіць, падымае матрас, дае нырца проста ў фарбы... І ўрэшце Вінчэнца ня вытрымаў.

На пачатку сьнежня 1913 году ён напісаў з Парыжу аднаму флярэнтыйскаму антыквару. «Сіньёр, купіце ў мяне „Мону Лізу“, тым самым мы вернем Італіі тое, што належыць ёй па праве. Па тым самым праве, якога ня меў Напалеон, які скраў у нас гэты шэдэўр». Вінчэнца ня ведаў, што французы купілі тую Лізу задоўга да таго, як Напалеон нарадзіўся на сьвет. Антыквар папрасіў дазволу зірнуць на карціну — вядома ж, ён быў у курсе, што яе ўжо некалькі гадоў шукае паліцыя ажно некалькіх дзяржаваў. Вінчэнца сабраў апошнія грошы і купіў білет на цягнік. У купэ Мона Ліза паводзілася так, што ён хацеў выкінуць яе ў акно, проста ў сьнег, калі яны праяжджалі Альпы.

12 сьнежня антыквар пастукаў у дзьверы аднаго з пакояў у ня самым дарагім флярэнтыйскім гатэлі. Прадавец «Моны Лізы» пасьпешліва зачыніў дзьверы і падвёў госьця да свайго парэпанага, бруднага чамадана. Ён дастаў адтуль некалькі параў нясьвежых кальсонаў. Ён выграб цэлы вывадак брудных шкарпэтак. За імі надышла чарга тузіну скарыстаных смаркатак, зашытых на задзе нагавіцаў, пакамечанага пінжака, зашмальцаванай парыскай газэты, куды яшчэ нядаўна, мяркуючы па сьлядах, хуталася вараная курыца. Пад усім гэтым багацьцем ляжаў скрутак, які Вінчэнца ўрачыста разгарнуў перад агаломшаным антыкварам.

«Так, гэта яна, — прамармытаў антыквар, — Я падумаю, колькі магу вам за яе заплаціць... Зайду па абедзе...» Рукі Пэруджы дрыжэлі. «Так, гэта яна», — паўтарыў антыквар, выйшаўшы на вуліцу, тром мужчынам у плашчах. Тыя моўчкі падняліся на трэці паверх. На падваконьне сеў зьмерзлы верабей. З астылай печкі пахла пеклам. Мона Ліза ўсьміхнулася. Вінчэнца пачуў грукат і пайшоў адчыняць дзьверы.

# Бедненькі

*13 сьнежня 2003 арыштаваны Садам Хусэйн*

Часам і сапраўдным расістам росіць вочы смутак па нярускіх ахвярах. «Это ужасно! Бедненький! Я вабсче не понімаю, за что его казнілі», — напісала сваю інтэрнэт-эпітафію на сьмерць Садама Хусэйна маладая расейская кабета, якая з радасьцю аддала б апошнія леапардавыя туфлікі на высокім абцасіку, толькі б выгнаць з Расеі ўсіх мусульманаў, а ўсялякія чачэніі зраўняць зь зямлёй. А вось Садама ёй было шкада да сьлёз. Бедненькі...

«Перамога яўрэйскага фашызму» — так назваў вынік працэсу над «главой сувэрэннай дзяржавы» іншы сэнтымэнтальны расеец. Для кабеткі ў леапардавых туфліках гэта, зрэшты, занадта складана. Ды ёй і не абавязкова разьбірацца ў «яўрэйскіх фашызмах». У яе свой гонар. Той частцы расейскага народу, голасам якога зрабілася гэтая чульлівая жэншчына, як ні дзіўна, падтакнуў сам Эўразьвяз. «Барбарства», — пракамэнтавалі публічнае пакараньне сьмерцю іракскага дыктатара афіцыйныя прадстаўнікі эўрапейскай супольнасьці. Што значыць прыкладна тое самае, што і «бедненькі», толькі іншаю мовай.



Вядома, барбарства. Як і кожнае забойства. Проста мы думаем, што жывем у Беларусях, Расеях, Эўразьвязах, Іраках і розных Штатах. А насамрэч жывем у Вялікай Барбарыі, дзе закон адзін, старажытны і страшны, і ніхто ня здолеў яго адмяніць нягледзячы на ўсе мараторыі і маралі. Не, размова не пра зуб за зубам і вока за вокам. Усё жахлівей, закон у тым, што правадыроў тут судзяць ня людзі зь іхным гуманізмам і іхнымі мірнымі тэорыямі, а гісторыя, вялікая, вусьцішная і бязьлітасная, як Бармалей. Напэўна, сэнс шчасьлівай будучыні будзе ў тым, што ўсё пачне адбывацца наадварот. Але пакуль што так.

У гэтым сэнсе амэрыканскія вайскоўцы, якія 13 сьнежня недалёка ад Тыкрыту ў Іраку знайшлі ў склепе глыбінёю два мэтры аброслага, прыбітага жыцьцём старыкана, не былі нейкімі абраньнікамі божымі. Калі б не яны, яго дастаў бы зь яміны, выкапанай нейкім прававерным для збожжа і гароднiны, нехта іншы — і ўсё роўна ўсё скончылася б прыкладна гэтаксама. Цалкам верагодна, значна хутчэй, брутальней і чаўшэскавей. Цікава, а ў такім выпадку прагучала б гэтае поўнае спагады слоўца: бедненькі?

А можа, яны зусім не яго знайшлі? Мо двайніка? А можа, ён і праўда напярэдадні адстрэльваўся да апошняга патрона? Паміж бедненькім і героем мяжа амаль няўлоўная — два мэтры іракскай зямлі. Іншыя іпастасі народ хвалююць мала. Тэрміны даўнасьці — як тэрміны прыдатнасьці: ніхто не глядзіць, калі прадукт ужо скарыстаны і з табой нічога ня здарылася. Ну, падумаеш, генацыд, хімічная зброя, рэпрэсіі, дэпартацыі, ваенная агрэсія, дзясяткі тысяч забітых, прыніжаных, скалечаных. Сувэрэнітэт апраўдвае ўсё, а «яўрэйскі фашызм» — яшчэ болей. Ня нада была яго ўбіваць. Ня нада. Убіваць можа толькі рускі. У скрайнім выпадку — савецкі. Астатнім забаронена. Бар-бар-бар.

# Загадкі дзядзькі Міхася

*14 сьнежня*
*1503 нарадзіўся*
*Настрадамус*

Ва ўсім вінаваты Настрадамус. І яшчэ сыноптыкі: не маглі ўжо сёньня паболей сонейка арганізаваць. Але Настрадамус вінаваты больш. Ня Ленін, ня Гітлер, ня Сталін — толькі Настрадамус. Бо ён ведаў.

Ужо самое ягонае ймя — прадказаньне, перасьцярога, папярэджаньне нашчадкам. Маўляў, вох і настрадамус мы яшчэ на гэтым сьвеце, намучаемус, напакутуемус, нацерпімус.

Мішэль Настрадамус — апостал беларушчыны, наш прарок, празорца і прадзед. Цяжка знайсьці чалавека, які так шмат зрабіў бы для нашай бацькаўшчыны — калі б мы яго слухалі, дык, можа, жылі б цяпер зусім інакш. Вольна і шчасьліва, як казаў праўнук Настрадамуса Каліноўскі. Ну, затое, прынамсі, у Саюз пісьменьнікаў спадара Мішэля ўзялі б без рэкамэндацыі. Ягоныя катрэны са знакамітай дзясятай цэнтурыі недвухсэнсоўна намякаюць на тое, што ён думаў пра Беларусь — ня менш за Леніна, Сталіна і Гітлера. Толькі яны ня ведалі, чым усё скончыцца, а ён здагадваўся.



І рэч тут ня толькі ў тым, што ў адным з катрэнаў Настрадамус згадвае бацьку Нёман і Якуба Коласа:

«У Сардоне і Нёмане так высока падымецца вада,
Што падумаюць, быццам адрадзіўся Дэўкаліён.
Большасьць пабяжыць ратавацца да Коласа,
Вэста распаліць згаслы агонь».

У гэтым катрэне, прынамсі, усё празрыста, дадатковых тлумачэньняў не патрабуецца. А вось гэты, здаецца, намякае на рэвалюцыю ва Ўкраіне і яе наступствы для Беларусі:

«Кульгавы Ляртэн саступіць месца Вандому,
З вышыні будзе зрынуты, а зьнізу ўзьнясецца ўвысь,
Сын Амона будзе абраны ў Рыме,
І два правадыры трапяць у безвыходнае становішча».

Знайшлося ў Міхася Настрадамскага і некалькі словаў пра блізкі хакейны чэмпіянат у Менску:

«О агромністы горад, набліжаецца тваё разбурэньне!
Не тваіх муроў, але тваёй крыві і сутнасьці.
Рэзкасьць у словах выкліча жахлівае сутыкненьне,
Вострая клюшка ўвойдзе ў цела па самую ручку».

Не абмінуў прарок сваёй увагай і сумнавядомы Ксавіер:

«На зямлі і ў паветры будзе столькі замерзлай вады,
Калі прыйдуць у чацьвер аддаць даніну,
Ён ніколі ня быў такім прыгожым,
З чатырох бакоў прыйдуць, каб пакланіцца яму».

Карацей, усё ён ведаў. Але, як і ўсе літаратары, ня мог сказаць нам нармальна, каб МНС пасьпела падрыхтавацца і МУС прымусіла каго трэба сядзець дома і носу не высоўваць. Вечна яны ўсё цямняць, гэтыя пісакі. А потым памруць раптам у якім-небудзь Правансе, седзячы на грантах — а чалавеку разьбірайся.

# Народны лекар

***15 сьнежня 1973 Амэрыканская асацыяцыя псыхіятраў абвяшчае, што гомасэксуалізм ня ёсьць псыхічным захворваньнем***

Вялікай краіне Андоры (468 квадратных кілямэтраў, 90 тысяч насельніцтва — і ўсе пагалоўна андорцы: уяўляеш?) ёсьць чым ганарыцца. І гаворка ня толькі пра перамогу андорскай нацыянальнай зборнай над беларусамі зь лікам 2:0 гадоў дванаццаць таму. У самым канцы васямнаццатага стагодзьдзя Андора зрабілася першай краінай у Эўропе, якая адмяніла заканадаўчы перасьлед гомасэксуалістаў, чым паказала прыклад шмат каму са значна больш уплывовых дзяржаваў.

І праўда, падумалі ўплывовыя дзяржавы, нашто садзіць у турмы хворых? Іх лячыць трэба. Нават такі знаны прафэсар, як Крафт-Эбінг, кніга якога «Псыхапатыя сэксуаліс» можа чытацца як навуковы трактат, а можа як парнаграфічны раман або кроніка паўсядзённасьці, каму як больш падабаецца, уважаў аднаполае каханьне за паталёгію псыхікі. Дас іст лечыцца, казаў ён, супакойваючы грамадзтва, дас іст ня лечыцца, казаў Фройд; гэта лечыцца рэгулярнымі абліваньнямі халоднай вадой і штодзённымі малітвамі, казала і кажа царква; гэта лечыцца за пятнаццаць хвілін, адным добрым групавым згвалтаваньнем, кажуць псыхолягі-аматары з групы «Чорная сотня за здаровы лад жыцьця», ужо ж што-што, а такая мэтодыка дазволіць пацыенту адчуць усе радасьці правільнага сэксу!; гэта лечыцца, кажуць кансэрватыўныя палітыкі, але толькі на раньняй стадыі, і мы не дапусьцім хранічных формаў...



Гэта лечыцца, кажа чалавек з народу, форумны мудрэц, ананімны камэнтатар, вялікі мастурбатар ісьціны, які ўнівэрсытэтаў не канчаў, таму разумее ў жыцьці ўсё: ад «Альфа-Рамэа» да «Опэлю Амэгі», і ведае, як зрабіць так, каб Рамэа кахаў Джульету, а не якога-небудзь Мэркуцыё: трэба прымусіць гэтых пі*арасаў працаваць, тады і балячка пройдзе сама сабой.

О, ён ведае ўсё, гэты чалавек з народу. Ён ведае шмат важных рэчаў: што ад ананізму валасы на руках растуць, што ў чалавека адна маці і што — чулі? — адзін чорны ў Амэрыцы забіў белага, а ў Швэцыі адмянілі хлопчыкаў. Ён упіваецца ўласнай сілаю. Гэта на ягоных голых валасатых плячах стаіць грамадзтва: поза, якая чамусьці не ўважаецца за сэксуальнае вычварэньне, бо адбываецца выключна з мэтай працягу роду і памнажэньнем сабе падобных: гэткіх самых разумных, працавітых істотаў зь лябёдкай, на якой пагойдваецца іхнае прызнанае дзяржаваю, адзіна правільнае лібіда.

Ён ведае, каму што пісаць, і як пісаць, і пра што, ён ведае, каму што думаць і каму што гаварыць, каго расстраляць, а каго кастрыраваць, ён хоча ведаць, хто колькі зарабляе і чым займаецца, калі застаецца сам-насам з сабой. Ён ведае, каму з кім спаць і хто з кім мусіць быць шчасьлівы, і чаму мусіць. Аналітык з крыжом, добры анальгетык для хворых збачэнцаў. Ён усім паставіць дыягназ, ён — народны лекар без дыплёма але з дрынам веры, якую не зламаць нават д'яблу.

І ён ніколі не зразумее: як гэта яго не спыталі?..

Не спыталі, напрыклад, у той дзень, калі Амэрыканская псыхалягічная асацыяцыя нарэшце ўздыхнула і пастанавіла, што любіць таго, каго хочаш, ня ёсьць псыхічным захворваньнем. Трынаццаць чалавек з прэзыдыюму супраць двух. Асацыяцыя пастанавіла і тут жа засумнявалася, ці правільнай была такая пасьпешлівасьць. А вось народны лекар — ён ніколі ні ў чым не сумняваецца. Яно лечыцца. Паўтарай: лечыцца. Яно ўкленчвае і слухаецца. Яно ня вякае тут пра свае правы. Яно зробіцца чалавекам, калі будзе паслухмянае. Яно зразумее сваю памылку. Яно просіць прабачэньня і абяцае ніколі так больш не рабіць. Яно выправіцца, калі будзе пакорлівым. Рукі за галаву, тварам да сьцяны.

# Бомба з Парыжу

***16 сьнежня 1946 Крыстыян Дыёр адкрывае свой Дом моды ў Парыжы***

Біёграфы Гофмана пішуць, што калі ён хварэў, дык бачыў вакол замест людзей музычныя інструмэнты. Надакучлівыя фаготы, тлустыя трубы, злыя трамбоны і расьпісныя балалайкі. А вось нармандзец Крыстыян Дыёр і будучы здаровым як душой, так і целам, жыў у сьвеце дзіўных мэтамарфозаў:

«Усё, што я ведаю, бачу і чую, у маёй сьвядомасьці ператвараецца ў сукенкі. Сукенкі — гэта мае хімэры, але хімэры прыручаныя, свойскія, хімэры, што прыйшлі са сьвету відзяжоў у нармальны сьвет...»

Гэта ж трэба — так залежаць ад апранахаў.

Але прамоўлена паэтычна. Ён і быў паэтам — чалавек, які 16 сьнежня 1946 году роўна а 9-й гадзіне раніцы адчыніў у Парыжы на авэню Мантэнь, дом 30 свой уласны Дом моды. Ён паспрабаваў знайсьці рыфмы, рытмы і ганарары ў вопратцы — вопратка пакапрызіла і здалася. Шэксьпір спадніцаў, сукняў, гарсэтаў і рознай іншай мілавіцы, ён заснаваў для кабеты новую турму — якая адразу пасьля вайны падалася стомленаму ад уніформы Парыжу выспай свабоды. Фактычна, адна ўніформа прыйшла на зьмену другой: але і такая зьмена часам цешыць чалавечыя сэрцы.



Парыж у 1946 усё яшчэ больш цікавіла жаночае цырульніцтва: хаця звычай стрыгчы налыса калябарантак і пэцкаць іх смалой пакрысе адыходзіў у нябыт, ахвотных пазабаўляцца ўсё яшчэ знаходзілася дастаткова. Пасьля адкрыцьця Дыёравай хаты народ пераключыўся на больш вытанчаныя рэчы. Здаецца, зусім нядаўна тут былі вайна, акупацыя, Супраціў і пакутлівыя думы пра тое, як выкінуць усялякіх бошаў і іншых зімэнсаў. Дыёр у гэтыя неспакойныя часіны займаўся любімай справай. У 1942-м ён працуе ў Парыжы ў парфумэрнай лябараторыі. Напэўна, ён майстраваў там употай бомбу для акупантаў. Але вайна скончылася — і бомба атрымалася зусім не такая, якую можна было чакаць. Бомбаю сталася калекцыя ад Дыёравай хаты «Вясна-лета 1947», прэзэнтаваная праз два месяцы пасьля адкрыцьця ўстановы на авэню Мантэнь. Дыёр вырашыў вярнуць модзе жаноцкасьць — і не прагадаў. Паэтычная інтуіцыя і халодны разьлік гандляра рабамі. Бо што такое мода, а асабліва жаночая мода, як не ўзаконенае рабства — у якім ніхто ня бачыць нічога заганнага. Ды і што тут наагул убачыш — калі ўсё на сьвеце зводзіцца да адзеньня, дык і сам сьвет можна зьняць праз галаву, каб не замінаў.

# На першы-другі

*17 сьнежня 1926 у БССР прайшоў першы перапіс насельніцтва*

Прызнавайся, сволач. Што ў цябе паміж ног, ступень зношанасьці, чыіх ты, на якой нярускай мове балакаеш, адкуль такі ўзяўся, ці даўно тут швэндаешся, з кім жывеш, каго напладзіць пасьпеў, ці ўмееш падпісваць пратаколы допытаў, якому рамяству навучаны... Так магла б сказаць дзяржава — але яна прыдумала слова «перапіс»: быццам кожны акт гэтай драмы ёсьць стварэньнем нейкіх новых істотаў, абнаўленьнем пагалоўя. Адных выкрасьлілі, другіх падкрэсьлілі, іншых перапісалі — так адбываецца пралетарская дыктоўка.

Усесаюзны перапіс насельніцтва — так называлася пошасьць, якая прыйшла ў БССР 17 сьнежня 1926 году. Папярэднія, не такія ўжо й даўнія пошасьці пачатку 20-х не лічыліся — з насельніцтва адноўленай бальшавікамі імпэрыі, якая ўсё яшчэ месцамі заставалася ў стане вайны, цяжка было выбіць праўдзівыя зьвесткі, а ў 1923-м апытвалі толькі гарадзкое насельніцтва. А вось узімку 1926-га народ нехаця прызнаўся, як і з кім жыве і каго любіць. Апрача згаданых вышэй пытаньняў, перапісчыкам быў дадзены загад цікавіцца і іншымі: дзяржаву хвалявалі, напрыклад, такія інтымныя рэчы, як псыхічнае здароўе рэспандэнтаў і іхныя калецтвы. Санітарам трэба было ведаць, колькі ў палаце «буйных» і каму варта падкараціць пратэзы.



Перапіс 1926-га быў, вядома, не такі займальны, як забаронены перапіс 1937-га — калі раптам высьветлілася, што народу ў імпэрыі стала неяк малавата і ў масе сваёй, сьвяткуючы Дзень нараджэньня Леніна і сёмага лістапада, ён дагэтуль верыць у бога — ангельскага шпіёна з падмандатнай Палестыны. Але менавіта параўнаньне з вынікамі 1926-га і паказала ў 1937-м, каго і да якой сьценкі вядуць і колькі яшчэ трэба куляў для канчатковага рашэньня праблемы.

Згодна зь перапісам 1926-га, у Беларусі жыло чатыры мільёны дзевяцьсот дваццаць пяць тысяч чалавек (ёсьць зьвесткі, што крыху меней, ёсьць, што крыху болей). Усяго ў імпэрыі налічвалася амаль 4739000 беларусаў. Толькі васемсот пяцьдзясят тысяч чалавек у БССР жыло ў гарадах. Насельніцтва Менску перавышала 130 тысяч чалавек. Наколькі вядома, у масе сваёй беларусы назвалі мовай зносінаў беларускую. Можа, ім так падказалі? Хто ведае. Але падказка была правільная.

Перапіс зафіксаваў у сельскай мясцовасьці БССР аднаго асманскага турка, аднаго якута, аднаго карэйца, а таксама пэрса і зь ім 55 кітайцаў. Апрача таго, на тэрыторыі БССР спакойна пражываў сабе адзін самаед — і да таго ж у горадзе. Застаецца спадзявацца, што ніхто яго там ня крыўдзіў. Бо колькасная перавага часам абуджае такіх дэманаў, якіх не ўлічыць ніводная статыстыка.

## У цёмныя высі

*18 сьнежня 1973 Пятро Клімук ляціць у космас*

«Белы аіст летіт, над белёсым Полесьем летіт...» Стратэгічны бусел сярэдняй дальнасьці. А яшчэ вышэй за таго бусла ўзьняўся над бялёсым Палесьсем ён — першы паляшук у космасе. У тым, што Пятро Клімук паляшук — няма сумневу. Узяць хаця б гэтае прызнаньне ў адным з інтэрвію: «Я тады па-расейску размаўляў дрэнна, для мяне гэта была як замежная мова — у нас на Берасьцейшчыне свой асобны дыялект...»

Калі б Палесьсе аддзялілася ад Беларусі, яму было б кім ганарыцца як нацыянальным героем. І касмадром у іх называўся б Камароўкаю — паводле назвы роднай вёскі астранаўта. Але галасаваць за Пятра Клімука-прэзыдэнта я б на месцы палешукоў ня стаў. Бо тады як аддзяліліся б, так і назад вярнуліся б. І, падазраю, нават не ў РБ, а ў самае што ні ёсьць «улоньне». Чорную дзірку на ўсход ад Беларусі — «якой мы ўсе так абавязаныя сваім статусам касьмічнай дзяржавы».



Ну, ды гэта палітыка. Якой з космасу не відаць. Пятро Клімук пацьвердзіць.

18 сьнежня 1973 году разам з расейцам Лебедзевым Пятро Клімук выправіўся ў космас больш чым на цэлы тыдзень — а калі дакладней, яны прабавілі там сем дзён, дваццаць гадзін, пяцьдзясят пяць хвілін і трыццаць пяць сэкундаў. Карабель меў назву «Саюз-13» — і добра, што ў космасе марскія законы ня дзейнічаюць, і правіла «Як карабель назавеш, так ён і паплыве» не працуе, бо інакш не абмінуць ім было бяды... Але, на шчасьце, усё прайшло паводле пляну. Жыць Савецкаму Саюзу, які чамусьці так любяць беларускія касманаўты, сапраўды заставалася зусім мала. Па мерках вечнасьці імгненьне. А ён запускаў сабе касьмічныя караблікі і ні пра што такое не здагадваўся. Рыхтаваўся да зорных войнаў, ня ведаючы, што даўно пераможаны.

Ад пачатку мусілі ляцець іншыя, а Клімука зь Лебедзевым рыхтавалі на ролю дублёраў. Але кепскі той дублёр, які ня марыць увайсьці ў асноўны экіпаж. І кепскі той паляшук, які задаволены тым, што мае. Усе яны нейкія амбітныя. Яны наагул як іншаплянэтнікі — якіх, дарэчы, Клімук у космасе не сустракаў. А калі і сустракаў, дык ня скажа. Бо ваенная тайна.

Кажуць, незадоўга да дня старту савецка-паляшуцкай каманды вучоны, які кіраваў навуковай праграмай палёту, пажартаваў:

«Колькі зорак вы мне заспэктраграфуеце, столькі будзе мець каньяк, які я вам прастаўлю пасьля вяртаньня».

Тысячазоркавага каньяку вучоны так і не знайшоў.

# 19.12

*19 сьнежня 2010 адбыўся разгон Плошчы ў Менску*

Бываюць такія дні, якія гісторыя вызначае, каб аб'яднаць у іх усе астатнія — ня проста пражытыя, але адчутыя на сабе, як удар токам. Такія дні доўгія — як першая хвіліна ацалелага пасьля катастрофы. І кароткія, як паўза паміж удыхам і выдыхам. І ня так істотна, што там мусіла адбывацца канкрэтна ў гэты дзень: выбары — хто тут яшчэ верыць у выбары? — нейкія іншыя прыдуманыя ўладай выбрыкі або смаленьне якога-небудзь чарговага палітычнага вепрука. Рэч тут не ў палітыцы. Рэч у календары — які, як вядома, пішуць час, бог і чалавек.

Тры гады таму час перамог — і добра. Час — гэта тое, што застаецца, калі здаецца, што ўсё страчана. Чалавек у той дзень прайграў — але прайграў і чалавек, які палічыў сябе богам. Што да самога бога, дык калі ён існуе, гэта было адно з самых цяжкіх выпрабаваньняў, дадзеных ім беларусам.

Бо гэта быў дзень сораму. Прынамсі, для аўтара гэтага тэксту. Аўтар сядзеў у адным партовым нямецкім горадзе і... Ну, ясная рэч, вышываў золатам па каўбасе. Чым яшчэ можна тут займацца? Ніхто не паверыць, што камусьці за мяжой можа быць сорамна, што 19 сьнежня 2010-га ён быў ня ў Менску на плошчы. Як і за мяжой, дзе ўсе вышываюць золатам па каўбасе, ніхто не паверыць, што ў Менску ў той дзень нікому не было сорамна за свой страх і адвагу іншых.



Бо гэта быў яшчэ і дзень бязьвер'я. Напярэдадні цяжка было паверыць, што выйдуць дзясяткі тысяч. Дзясяткі тысяч свабодных у несвабоднай краіне так і ня зьбеглых рабоў. Немагчыма было паверыць у тое, што гэтым разам атрымаецца пазбавіцца монстра. Паверыць у розум і прагу да волі ў тых, хто прафэсійна займаецца іх выкараненьнем.

Гэта быў дзень паразы. Чарговай і звыклай, і напэўна, не апошняй. Але гэта быў і Дзень гордасьці. За тое, што і тут яшчэ ёсьць вольныя людзі і цябе зь імі нешта зьвязвае. Хто яго ведае, што. Ну, часьцяком мова, яшчэ часьцей каштоўнасьці, яшчэ часьцей — проста непрыняцьце ў сабе рабства, агульныя ворагі. Але больш за ўсё: нейкая драбяза, фігня, якая ў гэты дзень раптам зрабілася важнай. Кшталту агульных вуліц, дзяцінства, неба, паветра, успамінаў, кніжак... Гульняў, выпітых напояў... Карацей, памяці. За гэта варта ісьці — і супрацьстаяць.

Гэта быў дзень моцы. Столькі ўжо дзяржава шчыруе, столькі сродкаў выкарыстала на здушэньне унд зьнішчэньне ўсяго, што ёй не падабаецца, ужо, здаецца, на генны ўзровень выбралася — а яны, адмарозкі, усё роўна ёсьць і нікуды зьнікаць не зьбіраюцца. Больш за тое, іх шмат. І робіцца ўсё болей. І яны не баяцца. І ніхто ня можа даць ім рады — як ні замбуй, плямбуй, ігнаруй, арыштоўвай, падкупляй, як ні кіруй, чым ні пагражай, што ні ўводзь і якія пернікі ні абяцай.

Гэта быў дзень тэлефанаваньняў. Часьцей за ўсё няўдалых. Гэта быў дзень жаху за знаёмых і родных, ноч невядомасьці. Так было пасьля тэракту ў мэтро. Але і гэта быў тэракт: тэракт дзяржавы супраць сваіх так званых падданых. Гэта быў дзень крыві.

Таму гэта яшчэ і дзень недараваньня. Тыя, хто пацiскае ім рукі, працуе на іх, вядзе зь імі дыялёгі, шукае зь імі кампрамісаў, слухае іх і сядае побач дзеля яшчэ адной балбатні — відаць, яны забыліся пра 19-га сьнежня? Людзі без календара.

І было б памылкай не згадаць яшчэ штосьці. Магчыма, найважнейшае. Гэта быў дзень чаканьня Калядаў. Тых самых.

## Пані Трудэ

***20 сьнежня 1812 выходзяць «Казкі» братоў Грымаў***

Жыла неяк адна дзяўчынка, якая была свавольная ды залішне цікаўная, і калі бацькі ёй штосьці казалі, яна іх ніколі ня слухала. Вядома ж, нічога добрага зь ёй здарыцца не магло.

Аднойчы яна сказала бацькам: «Я так шмат чула пра пані Трудэ, мне вельмі хочацца яе наведаць: людзі кажуць, што ў яе ўсё такое дзівоснае, распавядаюць, што ў яе ў доме шмат незвычайных рэчаў. Мне дужа цікава на іх паглядзець». Бацькі строга забаранілі ёй ісьці туды і сказалі: «Гэтая пані Трудэ злая жанчына, яна займаецца бязбожнымі справамі, і калі ты да яе пойдзеш — ты болей ня нашае дзіця!»

Але дзяўчынка не паслухала забароны і ўсё ж пайшла. Калі яна прыйшла, пані Трудэ спыталася ў яе: «Чаму ты такая бледная, маё дзіцятка?»

«Ах, — адказала дзяўчынка і задрыжэла ўсім целам. — Проста я баюся таго, што тут пабачыла».




«А што ты пабачыла?»

«Я пабачыла на ганку чорнага чалавека».

«Гэта быў усяго толькі вугляр».

«А потым... Потым я бачыла яшчэ зялёнага чалавека».

«Гэта быў усяго толькі паляўнічы, дурнічка».

«А пасьля гэтага я бачыла яшчэ крывава-чырвонага чалавека!»

«Гэта быў мясьнік, маё дзіця».

«Ах, пані Трудэ, я так баюся, я паглядзела ў вакно, калі йшла сюды, і ня ўбачыла вас, але затое бачыла д’ябла з вогненнай галавой!»

«О, — сказала пані Трудэ, — ты бачыла ведзьму ў яе сапраўдным убраньні. Я ўжо даўно цябе чакала і клікала; ты мусіш мне пасьвяціць».

І тады пані Трудэ ператварыла дзяўчынку ў драўляную калоду і кінула яе ў агонь. І калі калода разгарэлася, пані Трудэ прысела ля агню і стала грэцца, прыгаворваючы: «Хай трошкі пасьвеціць!»

# Людзі, якія ўпалі зь неба

***21 сьнежня 1988 лібійскія спэцслужбы ўзарвалі самалёт над Локербі, у выніку чаго загінула 270 чалавек***

У годзе тысяча дзевяцьсот восемдзесят восьмым ад Раства Хрыстова купіць білет на самалёт азначала амаль тое самае, што падпісаць сабе сьмяротны прысуд. Перабольшаньне, вядома — але не настолькі вялікае, як можа падацца. У ліпені амэрыканскі крэйсэр зьбівае над Пэрсыдзкай затокай іранскі аэробус — пераблытаўшы яго з бамбавікам. Гіне амаль трыста чалавек. У ліпені пакістанскі дыктатар Зія уль-Хак садзіцца ў вайсковы самалёт і ні стуль ні сьсюль разьбіваецца разам з трыма дзясяткамі пасажыраў і экіпажам. У жніўні на авіяшоў у Рамштайне ў Заходняй Нямеччыне падаюць тры італійскія самалёты, адзін зь іх проста на гледачоў: гінуць семдзесят чалавек, паранена амаль чатырыста.

Надыходзіць 21 сьнежня. Шостая гадзіна вечара. У бары лёнданскага лётнішча Гітроў сядзіць бізнэсовец Ясвант Сінгх Басута і п’е сваё трэцяе віскі. Раптам ён чуе зь нябёсаў голас, які нібыта называе яго імя. Ясвант Сінгх Басута ўздрыгвае і абводзіць вачыма апусьцелы бар. «Падалося», — думае ён і замаўляе яшчэ шклянку. Празь нейкі час таямнічы голас зноў кліча яго па імі. «Лухта якая, — думае містэр Сінгх. — Нешта я шмат нэрвуюся апошнім часам». Слыхавыя галюцынацыі паўтараюцца яшчэ раз. «Я зашмат працую апошнім часам, — уздыхае містэр Сінгх. — Усё, вырашана, вярнуся зь Нью-Ёрку — і ў Кіславодзк...» Праз паўгадзіны бізнэсмэн выходзіць з бару і даведваецца, што самалёт, на які ён купіў білет — «Боінг-747», рэйс 103, Лёндан-Нью-Ёрк, авіякампанія «Пан Амэрыкэн» — узьняўся ў неба безь яго. Разам з усім багажом небаракі-бізнэсоўца.



А сёмай нуль тры ў багажным аддзяленьні гэтага самалёта, які пралятае над шатляндзкім Локербі, адбываецца выбух. Трыста грамаў выбухоўкі «Сэмтэкс», закладзеныя ў радыёмагнітолу, упакаваную ў чамадан маркі «Самсанайт», робяць дзірку ў абшыўцы. Упоперак фюзэляжа перад левым крылом распаўзаецца расколіна. Пярэдняя частка фюзэляжа развальваецца на кавалкі. Хвост самалёта падае на квартал Роўзбанк-Крэсчэнт, дзе зьнішчае некалькі катэджаў. Другая, большая частка ляціць на квартал Шэрвуд-Крэсчэнт — яна руйнуе два дамы, на аўтазапраўцы выбухаюць цыстэрны з бэнзінам. На Локербі падае дождж з чалавечых целаў. Гінуць усе дзьвесьце пяцьдзясят дзевяць чалавек з «Боінга» і адзінаццаць жыхароў гораду.

Жалоба скончылася хутка — гісторыя рушыла далей. Як злапомны, геніяльны верш. Да гэтага масавага забойства, зладжанага людзьмі, Якія Так Любілі Сваю Родзіну, у пустэльні і часе знайшлася рыфма. У канцы ліпеня 2011 году каля лібійскага Сырту выправіўся на той сьвет чалавек, які, можа, і не аддаваў сам загаду зьнішчыць «Боінг» над Локербі, але ня мог ня ведаць пра плян яго зьбіць — і як «правадыр» нёс адказнасьць за кожную з тых двухсот сямідзесяці ахвяраў. Паўстанцы калолі яго штыхамі, сыпалі ў раны пясок, валаклі па вуліцах за ногі. Ім было пляваць на Локербі — ім патрэбны быў Кадафі. Яшчэ адзін пакутнік, яшчэ адзін «бедненькі» — герой, якога забілі нізавошта злыя людзішкі. Якія, як вядома ад аўтарытэтных кадаўра- і кадафізнаўцаў, «хужэ чэм фашысты». З чаго натуральна вынікае, што сам загадчык Джамагірыяй, адпаведна, «лучшэ».

Зрэшты, «лучшэ» ён або «хужэ» — пытаньне не палітычнае і ўжо ж ва ўсялякім разе не дыпляматычнае. Хочацца спадзявацца, што ўсім тым, хто яшчэ нядаўна ласкава ўсьміхаўся «бедненькаму» герою ў белакаменных рэзыдэнцыях і сардэчна паціскаў ягоную вялікую, як кавалак фюзэляжа, далонь, яны хаця б раз прыйшлі ўначы нагадаць пра сябе — людзі, якія ўпалі зь неба над Локербі.

Зрэшты, асаблівых ілюзій наконт палітыкаў нешта няма (здані не прыходзяць у госьці да зданяў).

# Не страляйце ў ідыёта

*22 сьнежня 1849 адбыўся «расстрэл» Дастаеўскага*

Ліст быў амаль што з таго сьвету. Але той, хто адпраўляў яго, да тамтэйшай пошты з анёламі ў акенцах так і не дайшоў. Павярнуў назад — каб пазьней напісаць сэнтымэнтальны дэтэктыў, над якім будзе мучыцца палова чалавецтва.

«Браце, ласкавы мой дружа! Усё вырашана! Мне прысудзілі чатыры гады крэпасьці (здаецца, Арэнбурскай) і потым у шарагоўцы. Сёньня 22 сьнежня нас завезьлі на Сямёнаўскі пляц. Там усім нам прачыталі сьмяротны прысуд, далі прыкласьціся да крыжа, пераламалі над галавой шпагі і зладзілі перадсьмяротны туалет (белыя кашулі). Затым трох паставілі да слупа для пакараньня. Я стаяў шостым, выклікалі па трое, я стаяў у другой чарзе, значыць, мне заставалася жыць ня больш за хвіліну. Я ўспомніў цябе, браце мой, усіх тваіх; у апошнюю хвіліну толькі ты быў у думках маіх, толькі тут я даведаўся, як люблю цябе, браце мой мілы! Я пасьпеў таксама абняць



Пляшчэева, Дурава, што былі побач, і разьвітацца зь імі. Урэшце ўдарылі адбой, прывязаных да слупа прывялі назад і нам прачыталі, што яго імпэратарская вялікасьць даравяў нам жыцьцё. Затым абвясьцілі сапраўдныя прысуды...»

Так 22 сьнежня (паводле старога стылю) 1849 году адстаўны інжынэр-паручнік і малады, але ўжо даволі вядомы літаратар Фёдар Дастаеўскі памёр і нарадзіўся зноў. Як там расказваў адзін ідыёт? Дзьве хвіліны на тое, каб разьвітацца зь сябрамі, дзьве — на тое, каб падумаць пра сябе, і адна, апошняя хвіліна, каб агледзецца. А потым — зьліцца з промнямі на бізантыйскім залачоным даху сабора.

Невядома, як там насамрэч усё выглядала ў той дзень. Цалкам магчыма, што не было ніякай карэты экспрэс-маршруту і афіцэра, які імчаў у ёй, каб, задыхаючыся, за некалькі сэкундаў да таго, як добрыя мужыкі-салдаты націснуць на куркі ружжаў, пракрычаць на марозе, што дыскатэка адмяняецца і яго імпэратарская вялікасьць перадумалі. Ёсьць сьведчаньні, што расстрэльная каманда ўсё ведала, а адзін з выканаўцаў прысуду нават пасьпеў шапнуць некаторым «дзяржаўным злачынцам», што ніхто іх расстрэльваць не зьбіраецца. Калі й так, дык шапнуць пасьпелі далёка ня ўсім. Змоўнік Грыгор'еў, напрыклад, звар'яцеў у гэтыя пяць хвілінаў, а змоўнік Дастаеўскі зрабіўся геніем. Для дзяржавы, якая любіць браць тое, што ёй не належыць, гэта была дастатковая сатысфакцыя.

Зрэшты, ня так гэта й важна: каму пасьпелі шапнуць, а каму не. Важна іншае:

«...Самы моцны боль, можа быць, ня ў ранах, а што вось ведаеш напэўна, што вось праз гадзіну, потым празь дзесяць хвілін, потым праз паўхвіліны, потым зараз, вось зараз — душа зь цела вылеціць, і што чалавекам ужо болей ня будзеш, і што гэта напэўна: галоўнае, што напэўна».

# Ня вам Гог

***23 сьнежня 1888 ван Гог адразае сабе вуха***

Асобаў, якія лічаць, што мочка вуха (яна ж блінок) — гэта бязглузды атавізм, напэўна, ніколі ў яе не цалавалі. Зрэшты, некаторыя і самую вушную ракавіну ўважаюць бескарыснай і кажуць пра тое, што з пункту гледзішча эвалюцыі яе сьціплай мускулатуры даўно ўжо месца ў макулатуры. На слыху гэта, маўляў, ніяк не адаб'ецца, вучоныя даказалі. Га? Вучоныя, гру, даказалі!

Але ж сапраўды, нашто чалавеку той блінок на вуху? Цікава, што ў Сярэднявеччы ў Эўропе па ягонай неразьвітасьці вызначалі прыналежнасьць чалавека да ведзьмаў, варажбітоў, шаптуноў і іншых прадстаўнікоў вольных прафэсій.

І толькі напрыканцы дзевятнаццатага стагодзьдзя па адсутнасьці мочкі вуха стала магчымым вызначыць сапраўднага мастака. Прынамсі, аднаго.

Вінсэнт ван Гог, як водзіцца ў прыстойным таварыстве, зрабіўся знакаміты толькі пасьля сьмерці. Гэтае шляхетнае «ван» не заўжды пісалася зь вялікай літары, дый цяпер ня ўсімі пішацца; па вялікім рахунку, пісаць яго зь вялікай літары — прыкладна тое самае, што пісаць вялікае В у слове «Іпалітавіч». Але Ван Бог зь ім. Вуха ён сапраўды пазбавіўся — і дзень, калі гэта адбылося, добра вядомы ласаму да чужых вушэй чалавецтву. 23 сьнежня 1888 году ў францускім Арлі Вінсэнт ван Гог, сланечнікі, ірысы і зорная ноч якога дагэтуль захінаюць ня надта схільны да прыгажосьці і сапсаваны рознымі абстракцыяністамі сьвет, адрэзаў сабе орган слыху і аднёс яго, загорнуты ў смаркатку, прастытутцы Рашэль.



Прыкра, што гэты факт зрабіўся прадметам такой сэнсацыі. Калі задумацца, нічога асаблівага ў ім няма — а пагатоў незвычайнага. Калі ўжо казаць пра характэство Вангогава вар'яцтва, дык лепш прыгадаць, што ён еў уласныя фарбы. Здаецца, гэта значна важней для разуменьня яго жыцьця — калі ўжо некаму так заманулася зразумець чужое жыцьцё. Дый праўду тут шукаць бессэнсоўна.

Па-першае, кажуць, ён сапраўды ня ўсё вуха сабе адрэзаў, а толькі той самы блінок. Адрэзаць сабе вуха — справа нялёгкая. Хто спрабаваў, ведае. Хаця, безумоўна, напісаць свой аўтапартрэт з адрэзаным вухам значна цяжэй. Бо вуха сабе адрэзаць кожны можа, нават рабочы на заводзе. А стварыць такія ірысы, такое поле з крумкачамі і такія валуны здольны толькі мастак ад бога, якім Вінсэнт ван Гог, безумоўна, быў. Няпросты тытунь курыўся ў ягонай люльцы... Адам Глобус, пішучы пра Гаўрылу Вашчанку, адзначае, што сланечнікі Вашчанкі — «даніна богаабранаму ван Гогу». І эпітэт «богаабраны» тут не выглядае перабольшваньнем.

Па-другое, здаецца, ён усё ж ня сам яго адрэзаў. Гэта зрабіў Поль Гаген, прозьвішча якога чамусьці ніхто ня піша з маленькай літары. Гаген прыехаў у Арль на запрашэньне гэтага дзіўнага нідэрляндца, каб спакойна папрацаваць. Скончылася ўсё двубоем: ці то праз мастацтва, ці то праз тую самую Рашэль, і Гаген, які някепска валодаў шпагай, выйшаў зь яго пераможцам.

Гэта толькі адна з вэрсій — бо загарнутае ў смаркатку вуха Вінсэнта дагэтуль не дае спакою ні журналістам, ні псыхіятрам, ні самім мастакам. Паводле іншай вэрсіі, ван Гог накінуўся на Гагена зь лязом. А калі той ня даў зьняць зь сябе скальп, Вінсэнт проста вярнуўся дахаты, у роспачы адрэзаў сабе вуха і панёс яго сваёй белашвейцы. Сама Рашэль успамінала, што Гаген адхапіў вуха ван Гога нажом для рэзаньня шкла.

Ніхто ніколі не даведаецца, як усё было насамрэч. Што да матываў учынку ван Гога, дык тут адказ відавочны. На жаль, у словах яго ня выкажаш. Хіба ў ірысах — такія тут адзінкі вымярэньня. Паглядзіш на іх як трэба — і робіцца ясна, што вуха было асуджанае з самага пачатку. Як і яго ўладальнік.

# Выбраць ці прыдумаць

***24 сьнежня 1938 Борхес ударыўся галавой аб аконную раму і трапіў у шпіталь з сэпсысам***

«Лёс, абыякавы да чалавечых грахоў, не даруе хібаў...» У 1938 годзе, акурат на Раство, дробны службовец муніцыпальнай бібліятэкі на ўскраіне Буэнас-Айрэсу Хорхе Луіс Борхес, у якога нядаўна памёр бацька і які штодня чытае ў трамваі па дарозе на працу Дантэ, каб вывучыць італійскую, моцна ўдараецца галавой аб аконную раму і трапляе ў шпіталь.

Бо здарылася так, што... Зрэшты, тут лепш будзе зьвярнуцца да невялікай навэлы пад назваю «Поўдзень», пэрсанаж якой, нехта Дальман, перажывае вельмі падобную прыгоду.

«Лёс, абыякавы да чалавечых грахоў, не даруе хібаў. У той вечар Дальману ўдалося знайсьці растрапаны асобнік „Тысячы і адной ночы“ Вайля. Сьпяшаючыся разгледзець свой набытак, ён ня стаў чакаць ліфт і пабег па сходах; у цемры нешта кранула ягоны лоб — птушка, кажан? На твары жанчыны, якая адчыніла дзьверы, ён пабачыў жах; рука, якой ён правёў па лобе, была ўся ў крыві. Ён парэзаўся аб край толькі што пафарбаваных дзьвярэй, якія пакінулі адчыненымі. Дальман здолеў заснуць, але на досьвітку прачнуўся, і з гэтай хвіліны ўсё навокал зрабілася невыносным. Яго мучыла гарачка, а ілюстрацыі да „Тысячы і адной ночы“ перапляталіся з кашмарам. Сябры і сваякі, якія наведвалі яго, са змушанымі ўсьмешкамі паўтаралі, што ён цудоўна выглядае. Дальман разгублена слухаў іх, не разумеючы, як яны не заўважаюць, што ён у пекле...»



У ягонай палаце кожны дзень сядзіць маці і чытае Борхесу раман К.С. Льюіса «З маўклівай плянэты». Ён уважліва слухае — і задумвае тэкст пад назвай «П’ер Мэнар, аўтар Дон Кіхота». Чаму? Успомнім Мэнара: «Дон Кіхот» — кніга выпадковая, «Дон Кіхот» зусім ня так ужо неабходны...”

Гэта быў сэпсыс. Выпадковы, як Дон Кіхот — і гэткі самы абраны лёсам. Часьцінкі фарбы ўвайшлі ў аўтараву кроў, і сьветлыя агні Раства ператварыліся ў ліхтары ў бальнічным акне. Са шпіталя выйдзе іншы Борхес.

«У гэтыя дні Дальман пранікнуўся нянавісьцю да сваёй асобы, ён узьненавідзеў свае цялесныя патрэбы, сваё прыніжэньне, шчэць, якая прабівалася са шчок і калола яму твар. Дальман стаічна пераносіў усе працэдуры, вельмі балючыя, але, даведаўшыся ад хірурга, што ён ледзь не памёр ад заражэньня крыві, расплакаўся ад пачуцьця шкадаваньня да сябе...»

Дальмана пераводзяць далечваццa ў нейкую сядзібу за горадам, на поўдні. Ці то ў сьне, ці на яве ён трапляе ў карчму, альмасэн — дзе на яго нечакана нападаюць мясцовыя. І тады адзін стары гаўча кідае Дальману пад ногі кінжал.

«Нагнуўшыся па яго, Дальман зразумеў дзьве рэчы... Што гэты міжвольны рух абавязвае яго біцца... Што зброя ў ягонай руцэ паслужыць не абаронай яму, а апраўданьнем яго забойцу... Ён падумаў, што памерці ў нажавым двубоі пад адкрытым небам, імгненна, было б для яго вызваленьнем, шчасьцем і сьвятам у тую першую ноч у шпіталі, калі ў яго ўвагналі іголку. Адчуў, што калі б тады ён мог выбраць ці прыдумаць сабе такую сьмерць, ён выбраў бы ці прыдумаў менавіта такую».

Борхес сядае ў трамвай. Дальман моцна сьціскае нож, якім наўрад ці здолее скарыстацца, і выходзіць у даліну.

# Ішла каляда

*25 сьнежня 1980 у савецкім Менску адбылося першае публічнае калядаваньне*

Год быў зусім не трыццаты — і дзякуй богу. Якога, як вядома, няма і не было, як не было Марыі, Язэпа, восьліка і іншых пэрсанажаў, што не прайшлі чыстку зь пясочкам і наждачком. Але і ў 1980-м за знаёмства з гэтай падазронай кампаніяй можна было нарвацца на непрыемнасьці. Бо тое, што гучала ў трыццатым як афіцыйны камэнтар да падзей на Блізкім Усходзе, і ў васьмідзясятым, годзе ўнебаўшэсьця алімпійскага мішкі, ніхто адмяняць не зьбіраўся.

Гэта толькі здаецца наборам анахранізмаў:

«Раство — клясавае, буржуазнае сьвята. Хто сьвяткуе раство, той несьвядома паддаецца папоўска-сэктанцкаму, буржуазнаму падману, той дапамагае нашым клясавым ворагам.

Зачынім ачагі рэлігійнага дурману: цэрквы, сынагогі, касьцёлы, перададзім іх пад клюбы і школы. Пераплавім царкоўныя званы ў электрычныя драты. Адмовімся ад рэлігійных сьвятаў, пяройдзем паўсюдна на „непрэрыўку“. Ніводнага прагулу на „калядныя сьвяты“! Супраць п’янага раства, за пяцігодку, за сацыялізм!»



Аспрэчваць такое і ў васьмідзясятым было нельга. Праўда, міне ўсяго дзесяцігодзьдзе, і ўсе былыя бязбожнікі кінуцца ў цэрквы. Будзе можна, будзе мода, будзе нада.

Але ў той халодны вечар ні моды, ні нада яшчэ не было.

25 сьнежня 1980 году ў Менску, у краіне бяз п’янага, а таксама і безь цьвярозага раства, пасярэдзіне пяцігодкі і сацыялізму некалькі дзясяткаў маладых беларусаў зладзілі першае ў гісторыі БССР публічнае калядаваньне. Ня дома і ня ў лесе, а проста пасярод вялікага савецкага горада-героя яны прайшлі па Ленінскім праспэкце, павярнулі на Карла Маркса, дзе да іх выйшаў Караткевіч... Што, ясная рэч, не выпадкова, бо цягам дзесяцігодзьдзяў кожная ягоная кніга набліжала гэтую падзею, як магла, дый наагул ён — самы калядны з савецкіх бязбожных пісьменьнікаў: па атмасфэры, па значэньні, па асьвятленьні, якое ўключалася ў ягоных тэкстах нават у самыя прыцемкі... Далей была Цэнтральная плошча, а канцавым пунктам калядоўнікаў зрабіўся мастакоўскі дом на Сурганава.

Калядоўнікаў пад зоркаю, ды ня той, некалькі разоў спрабавала затрымаць міліцыя. Але савецкія міліцыянты не былі спэцыяльна навучаныя супрацьстаяць такому віду тэрарызму, як калядаваньне. Не хапала спэцсродкаў: промняў цара Ірада, ільвоў, клетак, драўляных крыжоў і нэронавых тогаў. Таму нікога не затрымалі.

Пра тое калядаваньне, добра, па-журналісцку напісаў Вячаслаў Ракіцкі. А на памяць прыходзіць яшчэ адна кніжка — «Белы мурашнік» Пятра Васючэнкі. Ёсьць у ёй апавяданьне «Ўпрочкі»...

«Ходзіць каляда ад места да места, ад вёскі да вёскі. Памятаю, знаёмай падалася мне казіная пыса, калі глядзеў на скокі калядоўнікаў у Траецкім. Хаця тут лёгка і абмыліцца. А тыя — яны сядзяць дзе-небудзь вакол цяпельца, бо трэба ж і ім пагрэцца, пахадзіўшы па людзях, назьбіраўшы чужога холаду...»

# У лясных масівах

***26 сьнежня 1926 адбылася прэм’ера першага беларускага фільму «Лясная быль»***

Ксяндза, ясна рэч, звалі Жабінскі. А як яшчэ могуць зваць сьвятара з панскай Польшчы, які акапаўся на тэрыторыі часова несавецкай Беларусі? Пся крэф, матка боска і ўсе дзялы. У польскага палкоўніка, праклятага акупанта, хвамілія ня горшая — Ястржэмбскі. Ястраб вашынгтонскі... то бок варшаўскі. Героя-сьвінапаса клічуць, адпаведна, Грышка. А сам фільм зваўся — «Лясная быль».

Менавіта гэтай карціне было наканавана зрабіцца першым беларускім мастацкім фільмам. Белдзяржкіно прадстаўляе: 26 сьнежня 1926 году ў кінатэатры «Культура» на вуліцы Серпухаўскай, цяпер Валадарскага, адбылася прэм’ера «Лясной былі» — і на ўсе наступныя паказы, дзе б яны ні былі, народ, кажуць, валам валіў. Рэжысэр Юры Тарыч і паэт Міхась Чарот, паводле сцэнарыю якога і была зьнятая гісторыя адважнага сьвінапаса, ведалі, як дагадзіць публіцы. Стужка атрымалася прыгодніцкая, ідэалягічна правільная, поўная запатрабаваных штампаў і незапатрабаваных беларускіх краявідаў. Ну, каму-каму, а менчукам цікава было зірнуць на свой горад на экране — ды пры гэтым яшчэ і наноў перажыць падзеі шасьцігадовай даўніны, пра якія вялося ў фільме. Толькі гэтым разам можна было спакойна назіраць за імі ва ўчадзелай ад махоркі глядзельнай залі, а не хаваючыся ад шалёнай кулі за ненадзейнымі сьценамі менскіх дамоў, большасьці зь якіх ужо даўно няма на сьвеце. А «Лясная быль» вось захавалася.



Палачанін паводле нараджэньня і расеец паводле культуры Тарыч дажыве да старасьці, будзе падымаць мангольскае кіно і «Беларусьфільм». Міхася Чарота «Лясная быль» не ўратуе: усяго праз дванаццаць гадоў пасьля прэм’еры яго расстраляюць не якія-небудзь пілсудчыкі, а свае родныя грышкі-сьвінапасы. Бо пісаў і думаў не паводле сцэнару.

Лес шуміт. Жалабно плачут бірозы (паказваюць бярозы). Стонут сосны (паказваюць, як стогнуць). Недобрае делаецца на Беларусіі... В чашчэ леса прачуцца людзі. Хто ані? Прыкладна так пачынаўся гэты блокбастэр. Дзевяноста гадоў мінула, але іншым беларускае дзяржаўнае кіно не зрабілася. Уласна кажучы, «Лясная быль», нямая, чорна-белая і наіўная, значна больш таленавіты твор мастацтва, чым які-небудзь сучасны «Талаш». У якім таксама: лес шуміт, жалобно, па-расейску плачуць бярозы, стонут сосны. І сьвет дзеліцца на белапалякаў і чырвоных партызанаў. І «Талаша» ж нехта здымаў, масоўку ганяў, грошы марнаваў. В чашчэ леса ў 2012 годзе праталіс нейкія людзі, якія думалі, што маюць дачыненьне да кіно... Хто яны?

# Нічыя мова

*27 сьнежня 1859 нарадзіўся Лэйзэр Замэнгоф*

«Вось жа, адзін народ, і адна ва ўсіх мова. Добра ж, праўда? Зручна — чаго тут бунтаваць? Але: „вось што яны пачалі рабіць, вось што яны задумалі, няўдзячныя, і ня кінуць ужо таго, што пачалі...“ Ня кінуць жа, так? Па вачах бачу, што ня кінуць. Таму самы час зьмяшаць карты і пакласьці іголку ў сена. Ведаю: толькі адзін зь іхных нашчадкаў здолее супрацьстаяць мне — беластоцкі лекар, які чатыры гады будзе жыць і працаваць у Горадні на Паліцэйскай вуліцы, з жонкай і двума дзецьмі, лячыць хваробы вачэй і пісаць увечары дзіўныя словы ў таемных нататніках...»

Напрыклад, вось такія:

Malamikece de las nacjes
Kadó, kadó, jam temp está!
La tot' homoze in familje
Konunigare so debá.



То бок хопіць нацыям варагаваць, прысьпеў час аб'яднацца ў адну сям'ю. Гэта было яшчэ не зусім тое эспэранта, што існуе цяпер, але ўжо амаль. Наіўны верш — які зрабіўся гімнам, што Людвік Лэйзэр Замэнгоф сьпяваў са сваімі сябрамі на зладжаным імі дні нараджэньня новай мовы ў 1878-м. Празь некалькі гадоў гэты варыянт новай мовы будзе ўдасканалены і будзе няспынна ўдасканальвацца далей. Замэнгоф не зьбіраўся абвяшчаць манаполіі на сваё дзецішча. Наадварот, ён разумеў, што шанцы ацалець эспэранта будзе мець толькі тады, калі правы на яго будуць належаць усім.

А як жа пастар Шляйхер зь ягоным валяпюкам? Пастар перастараўся.

Вядома, у нейкім сэнсе тое, што зрабіў Замэнгоф — гэта спроба вярнуць чалавецтва ў часы, якія папярэднічалі бабілёнскаму жарту. Вартасьць эспэранта ня толькі ў тым, што яно лёгкае для вывучэньня — гэта яшчэ і нічыя мова. Безь непазьбежных рэвэрансаў у бок нейкай пэўнай нацыянальнай культуры — гэта паклон самой культуры. І цуд, цуд узьнікненьня, паўстаньня жывога моўнага арганізму, які можна параўнаць хіба толькі з цудам зараджэньня новага жыцьця. Увогуле, якімі б матывамі ні кіраваўся гэты найвялікшы, напэўна, ідэаліст пазамінулага стагодзьдзя — мова зрабіла за яго тое, на што ня здольны чалавек. Дадумала сама сябе.

Эспэранта не старэе — як і кожная мова, як і кожная надзея. Як не састарэла Замэнгофава «малітва пад зялёным сьцягам», дзе ён кажа, што «хрысьціяне, юдэі і мусульмане — усе мы Божыя дзеці». Можа, гэтыя дзеці і не загавораць адной мовай — і ня вельмі, ведаеце, гэтага б хацелася — але калі яны змогуць і без эспэранта неяк дамовіцца паміж сабой, значыць, беластоцкі лекар узяў на сябе ролю бога не дарэмна.

# Вартаньне жывых мерцьвякоў

*28 сьнежня 1972 у Бэрліне ідэнтыфікуюць парэшткі Марціна Бормана*

Іх знайшлі яшчэ на пачатку сьнежня 1972-га году каля Інвалідэнштрасэ. Два шкілеты, што, быццам у фільме жахаў, нечакана ўхапіліся сваімі канцавінамі за коўш экскаватара, якім кіраваў заходнебэрлінскі будаўнік Вілі Штайн. Што праўда, Вілі зусім не спужаўся і паклікаў свайго памочніка Енса, каб той папрасіў шкілеты не замінаць працы і закапацца ў зямлю на больш прыстойную глыбіню. Маўляў, тут будзе праходзіць труба водаправоду, дык ці не маглі б вы крыху пасунуцца?.. Шкілетамі ў Бэрліне, што ў Заходнім, што ва Ўсходнім, нават у сямідзясятыя людзей усё яшчэ цяжка было зьдзівіць. Бо рэха вайны — ня кот на ганку, яго так проста не адгоніш і «акыш» яно не разумее. Дый шмат каму хацелася, каб мінулае, якім бы яно ні было, ляжала сабе пад зямлёй і не варушылася.

І толькі потым, калі шкілеты паслухмяна зьніклі, рабочым прыйшло ў галаву, што, напэўна, пра гэтае здарэньне варта распавесьці паліцыі. Так парэшткам асабістага лекара Гітлера, а зь ім і намесьніка фюрэра Марціна Бормана давялося ўсё ж пазнаёміцца з сусьветнай грамадзкасьцю, журналістамі і, вядома ж — судмэдэкспэртамі.

Ідэнтыфікаваць лекара аказалася няцяжка. З Франкфурту-на-Майне прыйшлі здымкі ягоных сківіцаў, якія цалкам адпавядалі сківіцам аднаго з чарапоў, знойдзеных рабочымі. А вось з Борманам давялося папацець. Здымкаў ягоных зубоў у архівах не было. Быў толькі малюнак прафэсара Блашке, дантыста, які лячыў Гітлера і Бормана. Другі з чарапоў меў зубны мост, дакладна такі, як на малюнку, але на іншай сківіцы. Сам Блашке памёр яшчэ ў пяцідзясятых і забраў з сабой у магілу сваю таямніцу разам з усімі гнілымі зубамі і іншымі таямніцамі самых важных ротавых поласьцяў райху. Затое зубны тэхнік Гітлера, Бормана і Эвы Браўн у магілу пакуль не зьбіраўся. 28 сьнежня ён прыбыў у Бэрлін і, толькі зірнуўшы на раскладзеныя перад ім косткі, радасна і горда сказаў: «Мая работа!»



Знайшлі і яшчэ аднаго сьведку, аднаго бэрлінскага паштара. Той, аднак, мог расказаць толькі, што ў траўні 1945 году п'яныя савецкія салдаты загадалі яму прыбраць з Інвалідэнштрасэ і закапаць два трупы, каб не сьмярдзелі. Пры адным быў аўсвайс на імя лекара Гітлера, а вось другі дакумэнтаў пры сабе ня меў.

Дык Борман гэта быў ці ня Борман? Такое вечнае пытаньне задавалі сабе нямецкія экспэрты, пазіруючы журналістам зь безыменным чэрапам у руках. Паміж зубоў абодвух шкілетаў адшукалі шкло. Пакрысе, аднак, тое-сёе пачало высьвятляцца.

8 траўня лекар Гітлера і Борман спрабавалі ўпотай пакінуць Бэрлін. Каля Інвалідэнштрасэ іх затрымаў патруль. Ні лекара, ні Бормана ніхто не пазнаў, іх нават пачаставалі цыгарэтамі. Але абодва ўсё адно вырашылі ўцякаць. Пры ўцёках яны раскусілі ампулы з атрутай. Магчыма, што менавіта так і скончыў жыцьцё Марцін Борман — ваенны злачынца, правая рука зямнога бога-няўдахі, сын паштара, закапаны ў зямлю паштаром.

А можа, і ня так. Дзесяцігодзьдзямі Бормана бачылі то там, то сям. Яго бачылі нават у Беларусі, дзе ён служыў прапаршчыкам СА у адным з палескіх гарнізонаў, цкаваў навабранцаў-яўрэяў і праводзіў заняткі па палітпадрыхтоўцы. Толькі ў канцы дзевяностых было канчаткова ўстаноўлена: так, Борман. Той самы. Нарэшце мёртвы. Зямля змагла ўздыхнуць спакойна.

# Багіня ў пакоі бяз вокнаў

*29 сьнежня 1610 арыштаваная графіня Батары*

Ну праўда: можа ж чалавек мець нейкае захапленьне?.. Маленькае, інтымнае хобі, якое нікому не замінае, але цешыць душу цёмнымі і халоднымі зімовымі вечарамі, калі на душы так сьцюдзёна, калі памерлы муж скрабецца ў дзьверы спальні, а па сьценах поўзаюць зьмеі, якіх ніхто, апрача цябе, ня бачыць?

Пагатоў калі чалавек гэты — кабета яшчэ не старая, яшчэ не звар'яцелая, яшчэ здольная некаму падабацца; калі ў яе, гэтай кабеты, некалькі замкаў, гаспадарка якіх вымагае штодзённага клопату, калі вакол адно лянівыя, брудныя сяляне, якія нічога ня могуць зрабіць бяз вокрыку, бяз поўхі, ды суседзі, сквапныя, зайздросьлівыя і жорсткія?

Графіня Эржэбэт Батары такое захапленьне мела.

Дзяўчат яна рэзала ножычкам, а потым садзіла голымі на мурашнік. Ёй падабалася глядзець, як зьдзіўленыя мурашы хутка асвойваюць новыя тэрыторыі. Гэта ўлетку, а ўзімку яна праводзіла практычныя заняткі па загартоўцы цела: загадвала разьдзяваць асобінаў жаночага полу і абліваць іх халоднай вадой, пакуль тыя не ператвараліся ў статуі — прыгожыя статуі, нерухомая пекната, якая так слаўна блішчыць на сонцы, славацка-вугорскі батары-арт. Яна адразала сялянкам вушы, насы, рукі, грудзі, вусны, геніталіі і прымушала іх зьядаць уласныя органы. З дапамогай слуг яна зьдзірала з жывых скуру, расчляняла целы, ламала косткі, заганяла іголкі пад пазногці, палівала кіпучым алеем, а адной дзяўчыне, кажуць, затаўкла ў рот распалены прас. Яна прымала ванны, напоўненыя чалавечай крывёй, і не баялася ні СНІДу, ні дрэнных сноў. Нават калі яна бывала ў Вене, дзе жыла на вуліцы Блютэнштрасэ, дык заваблівала ў дом жабрачак, каб было ў чым памыцца.



У графіні Батары было маленькае хобі, пра якое ведалі ўсе, але ніхто не ўспрымаў яго сур'ёзна: толькі сваякі часам вялі зь ёй нудныя выхаваўчыя размовы, хвілінак на пяць: ну нельга ж так, Ліза, ну, мы разумеем, ну дзесяць сялянак прыбіць, ну дваццаць замучыць, гэта ладна, але семдзесят за год — гэта ўжо перабор. І не закопвай ты іх так блізка ад калодзежаў, вада сапсуецца, мілая Ліза, захварэеш яшчэ!.. І не кідай, дзеля ўсяго сьвятога, трупы ў раку! Падумай пра славацкую экалёгію!

У багіні Батары быў свой сьвет, у якім яна магла рабіць усё, што захоча. Вось толькі па-за гэтым сьветам існавалі іншыя, дзе забойства людзей неяк не прынята было выстаўляць напаказ. Дый сваякі ўрэшце ня вытрымалі.

29 сьнежня 1610 году, адзначыўшы Раство, у замак графіні наведаўся граф Турза зь перагарам і атрадам жаўнераў. І маленькаму хобі прыйшоў канец. Паляцелі галовы слугаў, паляцелі па ўсім каралеўстве чуткі пра крывавую графіню, паляцелі ў неба вызваленыя душы. Засталіся доўгія зімовыя вечары, засталіся зьмеі, засталіся халодныя сьцены ў пакоі бяз вокнаў і дзьвярэй, з адной толькі шчылінай, празь якую ёй перадавалі ежу. Ну не паміраць жа было такой знакамітай жанчыне?

## Сам сабе пан

***30 сьнежня, дзень, які дзе-нідзе можа і не надысьці***

Як высьветлілася, без дня 30-га сьнежня чалавек часам можа і абысьціся. Без усялякіх стратаў для здароўя і кашалька. Хутчэй нават наадварот. Прынамсі, не залежная ні ад кога, у тым ліку ад календара, а пагатоў ад календара Бахарэвіча дзяржава Самоа ў 2011 годзе ад 30 сьнежня адмовілася — і нічога, квітнее ня горш за родную Беларусь. І турыстам кветачкі на шыю вешае. Паглядзеўшы на суседзяў самаанцаў, дзень 30 сьнежня ў той неспакойны год барацьбы з каляндарнымі забабонамі забаранілі і атолы Такелаў. Чым паказалі добры і патрэбны прыклад іншым краінам. Менш дзён у годзе — менш крыві, менш забойстваў, хлусьні, падману і на палітычныя гульні часу роўна на дзень меней. Неяк нават шкада, што ў 2012-м гэты дзень усё ж вярнуўся ў самаанскі каляндар. Рэакцыянэры нагадзілі, няйнакш.

І ўжо неяк няважна, якія прычыны прымусілі самаанцаў абысьціся з 30-м днём сьнежня так сувора, як, бывала, іхныя продкі абыходзіліся зь першымі эўрапейскімі турыстамі, што везьлі на сваіх беласьнежных парусьніках культуру, мікробаў і алькаголь. Ну, так, самаанцы проста памянялі ў 2011-м часавую зону, бо іх партнэрам па той бок даводзілася працаваць, калі на Самоа і Такелаў усё яшчэ была нядзеля, і партнэры крыўдавалі, бо каму мець на двары панядзелак, калі ў калегаў і каляжанак усё яшчэ выхадны і канапа пад азадкам.



Няясна толькі, як быць таму, у каго на 30 сьнежня прыпадае дзень нараджэньня. Нібыта ты й не нараджаўся. Цябе няма. Ні ў сьпісах няма, ні ў рэестрах, ні ў пашпартных сталах, ні ў мэтрыках... Што, калі правільна паглядзець, ня так ужо й блага. Часам лепш ня быць, чым быць, ды ня там і ня ў той час. Што да бога, то яму ўсё роўна, надышло тое 30-га або не. У яго свой каляндар на сьценцы вісіць. З голымі літаратарамі. А можа, і каляндар Саюза пісьменьнікаў, дзе русалкі, чэрці, празаікі, паэты і іншая нечысьць. І ён яго гартае. Лісьцікі адрывае, вяночкі ўе і белы ручкі коле.

Вось жа, 30 сьнежня 1922 году заснавалі эсэсэсэр. А не было б такога дня ў 1922-м — дык, можа, усё пайшло б па-іншаму. Бо заснаваць эсэсэсэр у 1923-м было б ужо зусім ня так лёгка.

А на Беларусі... На Беларусі некаторыя крыніцы, што не заслугоўваюць даверу, бо даверу не заслугоўвае ніводная крыніца, апрача нафтавай, сьцьвярджаюць, што ў апошнія дні перад новым годам народ раней сьвяткаваў Сьцяпана — «як прыйшоў Сьцяпан — кажан сам сабе пан». Хто яго ведае, таго Сьцяпана, сьвятога Стафана, якога даўным-даўно, калі Самоа ўжо было на сьвеце, і ўсе літаратары хадзілі голыя, пабілі камянямі добрыя людзі, што не падазравалі пра шырокія пэрспэктывы хрысьціянства і электрычныя крэслы. Здаецца, яго ўсё ж адзначаюць на трэці дзень пасьля Раства, калі б яно ні здарылася. Але важна ня гэта. «Кажан сам сабе пан» — вось што істотна памятаць у гэты дзень. 30 сьнежня — ня догма, і каляндар — ня догма. Калі кажан сам сабе пан, і ў кожнага пана ў душы дзірка памерам з бога — дык каляндар можна й перайначыць, і скараціць. У кожнага знойдзецца дзень, які яму хацелася б выкрасьліць, бы й не было. Такой бяды — будучыня здарыцца з усімі.

# Гульня ў бога

***31 сьнежня 192 рымскі імпэратар Камад, які патрабаваў ставіцца да яго як да бога, задушаны сваім рабом Нарцысам***

Вось жа, 31 сьнежня 192 году... Вось тут ён, відаць, пакрыўдзіўся б — Люцый Камад, рымскі імпэратар, сын Юпітэра, сам бог і другім ня дам. І загадаў бы кінуць аўтара на арэну, на пажыву дзікім вожыкам. Бо правільней будзе сказаць так: 31 дня амазонскага месяца 192 году. Імпэратар Камад так любіў глядзець на партрэт прыўкраснай Марцыі, апранутай як амазонка, што перайменаваў месяц сьнежань, які ў Беларусі, лацінскай краіне, называюць «дзякабар», у амазонскі месяц. Ён і іншыя месяцы таксама перайменаваў — бо лічыў сябе богам, а багі любяць гуляць у словы.

Менавіта прыўкрасная Марцыя, імпэратарава каханка, 31 дня амазонскага месяца прынесла і дала яму выпіць тое віно. Віно, пасьля якога ў імпэратара забалеў жывот. «Што ж ты ўсё ніяк не падохнеш, скаціна?» — думала прыўкрасная Марцыя, пяшчотна гледзячы ў вочы Камада і нясьпешнымі, поўнымі любові і ласкі рухамі паціраючы яму пухліну ў пахвіне, якой Камад вельмі саромеўся. Пра гэта пішуць рымскія гісторыкі, якія толькі й чакалі ў той дзень, што яшчэ трохі, і ім дазволена будзе пісаць праўду. «Мне ўжо лепш, — усьміхнуўся Камад. — Я бог, мая прыўкрасная Марцыя, і магу ператварыць твае чарадзейныя рукі ў... у...»



Імпэратар задумаўся. У двух хлопчыкаў, якіх ён зґвалціў бы тут жа, на месцы? У двух глядыятараў, якіх прыбіў бы, не ўстаючы з ложа — ён някепска валодаў мячом? У золата. Ён любіў золата. У што? А, Марцыя?

Раптам яму захацелася яе задушыць.

«...Абвясьціўшы, што выпраўляецца ў Афрыку, ён атрымаў скарбовыя грошы на дарогу і змарнаваў іх усе на гульні і баляваньні, — напішуць гісторыкі. — Ён патрабаваў прыносіць сабе ахвяры, як богу, і дазваляў ставіць сабе статуі ў выглядзе Геркулеса. Ён пагубіў прэфэкта, пачаставаўшы таго атручанымі фігамі. Ён выколваў людзям вочы і ламаў ногі, а потым дражніў іх аднавокімі і аднаногімі. Ён біўся на арэне, як глядыятар, 735 разоў. Ён перайменаваў Рым у Горад Камада. У каштоўныя стравы ён падмешваў чалавечыя экскрэмэнты і сам іх еў, лічачы, што ўдала пажартаваў. Ён падаваў на вялікім сподзе двух гарбуноў, змазаных гарчыцай. Ён гуляў у лекара, лянцэтамі выпускаючы зь людзей кроў і пазбаўляючы іх жыцьця. Ён забіваў сваіх спальнікаў. У яго былі ўлюбёнцы, якіх ён называў словамі, што азначаюць мужчынскія і жаночыя полавыя органы, і гэтым улюбёнцам ён раздаваў чыны і ўзнагароды. Шмат каго ён забіў проста за тое, што яны былі прыгожыя і ладныя.... Ён выдаў кожнаму грамадзяніну па сямсот дваццаць пяць дэнарыяў і загадаў праводзіць цыркавыя гульні часьцей, чым калі-кольвечы бывала...»

Пародыя на свабоду. Мара дыктатара-эксцэнтрыка. Расплата за ўсеўладзьдзе — усё ў тваіх руках, і ўсё, да чаго ты ні дакранешся, ператвараецца або ў экскрэмэнты, або ў кроў.

Атрута ня дзейнічала. Ён толькі ап'янеў мацней, чым звычайна, зажурыўся, прымружыў вочы, адкінуўся на падушках. Сумны імпэратар з валасамі ў залатых блёстках. І тады ў пакой увайшоў Нарцыс, агромністы, як калёна ў храме Юпітэра, і вельмі сур'ёзны. Імпэратар часта барукаўся зь ім, выпытваючы пра розныя прыёмчыкі.

«Задушы мяне, Нарцысе», — сказаў Камад і заплакаў.

# ПАКАЗАЛЬНІК

**ЛЮДЗІ**

**НАЧАЛЬНІКІ**

**ГЕРОІ**



**ДУШАГУБЫ**

**МАРСІЯНЕ**



Альгерд Бахарэвіч нарадзіўся ў 1975 годзе ў Менску. Аўтар раманаў «Праклятыя госьці сталіцы», «Сарока на шыбеніцы» і «Шабаны. Гісторыя аднаго зьнікненьня», а таксама некалькіх зборнікаў апавяданьняў і эсэ.

«Каляндар Бахарэвіча» — ягоная трэцяя кніга з сэрыі «Бібліятэка Свабоды». Першай была «Малая мэдычная энцыклапэдыя Бахарэвіча» (2011); затым выйшаў «Гамбурскі рахунак Бахарэвіча» (2012). Абодва зборнікі эсэ былі ўганараваны літпрэміяй імя Ежы Гедройца.

Перакладаўся на нямецкую, польскую, чэскую, украінскую, расейскую і іншыя мовы, вёў калёнку ў чэскім часопісе «HOST». У 2008 годзе ў Польшчы выйшаў дзьвюхмоўны зборнік апавяданьняў «Talent do jąkania się». У 2010 годзе раман «Сарока на шыбеніцы» выйшаў па-нямецку.

Перакладае зь нямецкай вершы і прозу, у ягоным перакладзе выйшлі раман «Ты не памрэш» Катрын Шміт, «Халоднае сэрца» Вільгельма Гаўфа з аўтарскім раманам-пасьлямовай і «Казкі братоў Грымаў».

Не аднойчы прадстаўляў Беларусь на міжнародных фэстывалях і на кніжных кірмашах. За настаўнікаў уважае Кафку, Набокава і Джойса.

У 2014 годзе стартаваў новы праект Бахарэвіча на Радыё Свабода — «Цуды і дзівосы Беларусі».

З 2007 году жыў у Гамбургу, у 2013 вярнуўся ў Менск.

## Summary

"Bacharevič's Calendar" — is a collection of 366 essays about the people, places and events in history that are good to know if one wants to feel a part of humanity. This book is  recommended for readers of all ages, especially if they are serving life sentences in prison or travelling on long-term flights to Mars. Bacharevič adopts — then smashes to smithereens - the traditions of the Julian, Gregorian and Chinese calendars, only to rearrange them in so exquisite a manner that even Belarusian literary critics and other angels of their ilk will weep.

"Bacharevič's Calendar" first appeared in 2013 on the website and airwaves of Radio Svaboda.

In 2011, "Bacharevič's Concise Medical Encyclopedia" was published as part of Svaboda's "Liberty Library" series, followed in 2012 by "Bacharevič's Hamburg Account".

Other works by the author include the novels "No Mercy for Valancina H." (2006), "Damned Visitors in the Capital" (2008), "The Magpie on the Gallows" (2009), "The Cold Heart" (2009) — a manual for cardiologists co-authored by W. Hauff, "Shabany — A History of a Disappearance" (2012); and books of short stories published in Belarus and abroad.

Bacharevič lives in Minsk.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




*Аляксандар Лукашук.* **Прыгоды АРА ў Беларусі.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** 2-е выд., дапоўненае. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.* **Вострая Брама.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Беларуская Атлянтыда.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.* **Альбом сямейны.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.

